## Іншадумства ў літаратуры

Гэтую кнігу Алесь Бяляцкі планаваў выдаць да свайго 50-годзьдзя. У 2011 годзе ён пачаў зьбіраць тэксты, якія пісаў, пачынаючы з 80-х гадоў XX стагодзьдзя, — тэксты па гісторыі беларускай літаратуры, крытыка, успаміны пра беларускіх пісьменьнікаў, эсэ (да гэтага ў Алеся Бяляцкага ўжо выходзілі кнігі — манаграфія «Літаратура і нацыя» (1991) і кніга нарысаў і эсэ «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера» (2006).

Праца па ўкладаньні кнігі была распачатая, але не завершаная, бо 4 жніўня 2011 года Алесь Бяляцкі быў арыштаваны, яго абвінавацілі ў зьдзяйсьненьні крымінальнага злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса.

На жаль, у Беларусі няма ні незалежнага сьледства, ні незалежнай пракуратуры, ні, тым больш, незалежнага суда — суд ператварыўся ў палітычную расправу над беларускім праваабаронцам і літаратуразнаўцам. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць. Алесь Бяляцкі асуджаны на чатыры з паловай гады зьняволеньня.

У апошнім слове на судзе 23 лістапада 2011 года Алесь сказаў: «Праваабарончай дзейнасьцю, і ўвогуле грамадскай дзейнасьцю, я займаюся практычна ўсё маё жыцьцё, у гэтым годзе — ужо 30 гадоў. І перыяд, калі я адчуваў сябе больш-менш спакойна і свабодна — гэта з 1991 па 1995 год. Я не шкадую ні пра адзін свой крок, зроблены за гэтыя 30 гадоў у плане абароны дэмакратыі, правоў чалавека ў Беларусі. Я гэта рабіў сьвядома» (паводле дыктафоннага запісу з судовага паседжаньня 23 лістапада 2011 года).



Алесь Бяляцкі, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча

У жніўні 2011 года Алесь Бяляцкі апынуўся за кратамі ў сумназнакамітым Пішчалаўскім замку. У гэтым турэмным комплексе яшчэ ў XIX — пачатку XX стагодзьдзя і ў 30-я гады XX стагодзьдзя ўтрымліваліся беларускія літаратары, сярод якіх — Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Карусь Каганец, Алесь Гарун, Якуб Колас. Алесь Бяляцкі стаў адным зь іх — літаратараў-вязьняў.

Менавіта ў Пішчалаўскім замку Алесь працягнуў працу над незавершанай кнігай, а пасьля і ў іншых турмах — у СІЗА ў Жодзіне і ў калоніі ў Бабруйску.

Ва ўкладаньні кнігі аўтару дапамагалі сябры і калегі, якія засталіся на волі.

Яшчэ ў маладыя гады Алесь Бяляцкі шмат пісаў пра творчасьць пісьменьнікаў, якія былі рэпрэсаваныя і зьняволеныя, дасьледаваў творчасьць Францішка Аляхновіча, пісьменьніка, які першым распавёў усяму сьвету праўду пра савецкія канцлагеры ў дакументальнай аповесьці «У капцюрох ГПУ» (1934). У прадмове да перавыданьня кнігі Аляхновіча «У капцюрох ГПУ» Бяляцкі напісаў: «Цяжка назваць каго-небудзь зь бе-

ларускай інтэлігенцыі першай паловы XX стагодзьдзя, хто не паспытаў бы турэмнай баланды. Частка беларускай літаратуры створаная ў турмах» (Францішак Аляхновіч. У капцюрох ГПУ. Мн., 1994. С. 6).

Алесь і сам ведаў, што можа трапіць за краты, — за абарону грамадскіх інтарэсаў. Зрэшты, ён усьведамляў гэта яшчэ з 1983 года, калі пачаў прымаць удзел у дзейнасьці моладзевых суполак, якія ставілі сабе за мэту Незалежнасьць Беларусі.

Літаратуразнаўства і грамадская дзейнасьць у Алеся Бяляцкага былі непарыўна зьвязаныя і разам складалі сэнс яго жыцьця. Пачалося ўсё яшчэ ў Гомельскім універсітэце, дзе Алесь вучыўся. Мая мама, Ірына Бязручка, у той час выкладчыца Гомельскага ўніверсітэта, згадвае: «Я добра памятаю Алеся ў 80-я гады ў калідорах гісторыка-філалагічнага факультэта — юнацкая рамантычная постаць. Ён уразіў мяне сваёй прыгожай беларускай мовай, надзвычайнымі ведамі беларускай гісторыі і літаратуры. Памятаю яго і зь вершамі Алеся Разанава, якія ён любіў і папулярызаваў».

Падчас вучобы ва ўніверсітэце Алесь не толькі захапляецца паэзіяй «чыстае красы», але і далучаецца да антыкамуністычнага руху, да дзейнасьці нелегальных і паўлегальных нефармальных моладзевых арганізацый 80-х гадоў, якія, па сутнасці, заклалі падмурак для фармаваньня структур грамадзянскай супольнасьці ў сучаснай Беларусі. Цалкам лагічна, што тэрмін «civil Society» перакладаецца на беларускую мову як «грамадзянская супольнасьць», а слова «супольнасьць» зьяўляецца аднакарэнным са словам «суполка» — так называліся нефармальныя арганізацыі 80-х гадоў, якія зьявіліся папярэднікамі сучасных няўрадавых арганізацый.

«Сітуацыя ў Беларусі, калі ўзяць шырэй, была цікавая, — узгадваў Алесь Бяляцкі пра сваё далучэньне да тагачаснага грамадскага руху, — бо гэта быў 1983 год, год тэрору, калі разграмілі ўвесь дысідэнцкі рух у Расеі. Улады дазвалялі ім дзейнічаць у 1981 годзе, 1982 годзе, а ў 1983-м усё фактычна было спынена. Частка людзей была выслана з Савецкага Саюза, частка зьняволена. Быў разгромлены Украінскі нацыянальны рух. А ў нас тым часам пайшла нейкая хваля. Улады не прасачылі, што гэта ўсё аднаго разьліву — «з адной бочкі віно», што разьлівалася і на Украіне і ў Літве. Бо калі б у 1983-м правялі шэраг рэпрэсій… Тады нават не трэба было саджаць шмат людзей. Досыць было проста нейтралізаваць. Набор метадаў быў шырокі — да прыкладу, выгнаць з ВНУ. А на той час пасьля гэтага ты не мог бы знайсьці нідзе нармальную працу. Вымушаны быў пераходзіць на становішча качагара — нефармала поўнага. Але ў Беларусі рэпрэсій да пэўнага часу не было, і гэта сьведчыць пра тое, што мы будавалі працу досыць разумна. Бо схапіць студэнтаў за тое, што

яны сьпяваюць песьні, — гэта не ўваходзіла ні ў якія рамкі. Мы правільна пабудавалі сваю працу, зыходзячы з той сітуацыі, якая была. Не пайшлі на адзіночныя акты — альбо вывешваньне сьцягоў, альбо вывешваньне плакатаў, правядзеньне дэманстрацый у дзень правоў чалавека. Асноўную актыўнасьць мы скіравалі на працу ў гэтых паўлегальных арганізацыях. І гэта было вельмі важна, асабліва ў тыя часы, калі было бачна, што Савецкі Саюз хутка лясьне. Нацыянальныя свабоды мы ўспрымалі ў зьвязку з дэмакратычнымі свабодамі. Мы бачылі незалежную Беларусь, але таксама і дэмакратычныя свабоды — свабоду слова і сходаў, сацыяльную абароненасьць беларускіх грамадзянаў».

Алесь зь сябрамі адпраўляліся ў вандроўкі, каб пагутарыць са сваімі папярэднікамі — грамадскімі дзеячамі і літаратарамі, якія ў савецкі час пакутавалі за перакананьні, былі рэпрэсаваныя, вярнуўшыся з лагераў, актыўнай дзейнасьцю не займаліся, але тым не менш ахвотна сустракаліся з моладзьдзю. Маладыя беларускія літаратары напрыканцы ХХ стагодзьдзя адчувалі сувязь са сваімі папярэднікамі — загінулымі ў савецкіх лагерах, расстралянымі, рэпрэсаванымі — паэтамі, пісьменьнікамі, грамадскімі дзеячамі. І як вынік адчуваньня такой еднасьці — першы масавы мітынг у Беларусі (і адзін з самых масавых мітынгаў на прасторы тагачаснага СССР) адбыўся менавіта ў Дзень памінаньня продкаў «Дзяды» — 30 кастрычніка 1988 года.

На той час Алесь Бяляцкі зьяўляўся старшынёй Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» — моладзевай «нефармальнай» арганізацыі маладых пісьменьнікаў, якая дзейнічала ў 1986–1989 гадах. Менавіта ад Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» была пададзеная заяўка на правядзеньне «Дзядоў-88». Гэта быў адзін зь першых масавых мітынгаў мірнага пратэсту на савецкай прасторы. На гэтым мітынгу Алесь зьяўляўся адным з арганізатараў і ўпершыню быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. У той жа дзень Алесь зрабіў падрабязнае апісаньне гэтага дня — 30 кастрычніка 1988 года — і свайго затрыманьня (гэта можна лічыць правобразам будучых «Аглядаў-хронік парушэньня правоў чалавека ў Беларусі»: «Я рвануўся, але яны ўтрымлівалі мяне, ды і не ўцячэш, бо вялі пасярэдзіне Каліноўскага, увесь народ стаяў па баках і глядзеў. З вачэй цяклі сьлёзы, і з носа таксама. Нейкі новы міліцыянт заламаў мне руку. Я ўбачыў разгублены твар Клімковіча з кветкамі ў руках. Мяне папёрлі да «газіка» празь Ленінскі прашпект. Там ля яго стаялі Някляеў са Станютам. (…) Я паспрабаваў пасьміхнуцца. Вось была, мусіць, карціна — мокры твар і скрыўленая пахмылка. Потым мы разьвярнуліся і прыехалі на старое мейсца — яшчэ ж адное мейсца заставалася вольным. Тут мяне ўбачылі філфакоўкі, пазналі і непрыкметна паляпалі па шкле да-

лонямі. Мяне гэта вельмі падтрымлівала. (…) У міліцыі Першамайскага раёна ён, злы на мяне, напісаў пратакол, у якім сьцьвярджаў, што я выкрыкваў антысавецкія лёзунгі. Калі старлей (старшы лейтэнант) даведаўся, каго я прадстаўляю (Таварыства маладых літаратараў, асьпірант), пратакол быў перапісаны, і зноў за подпісам сьведкаў. Вось так рэчы! Скончылася тым, што мой інтэлігентны выгляд і спакойная размова з судзьдзёю абышлася толькі ў 200 р. Хаця маглі як арганізатару ўляпіць і 15 сутак».

У апошні год існаваньня СССР Алесь Бяляцкі разважае пра іншадумства ў літаратуры: «Ідэалагічная вайна на Беларусі палымнее ўжо не першы год. Рука, якая чэпка ляжала на глотцы іншадумства, аслабла, і рэдкія раней “дыверсійныя акты” ў нашай паэзіі, накшталт замаскіраванага У. Караткевічам бел-чырвона-белага сьцяга ў радках: “У крыві краіны нашай бель”, ці то коньніка-Пагоні, якая ў Алега Мінкіна ляціць па вулках сучаснага Полацка, зьмяніліся на шырокую, незацугляную і, аднак, моцна спалітызаваную плынь. Зноўку ўзьляцеў увышкі прыхаваны на паўстагодзьдзя бел-чырвона-белы сьцяг, зноўку загрукатаў пошчак крыўскай Пагоні…» (з артыкула «Зьнітаванасьць» // Беларусь. 1991. № 5).

З 1989 па 1998 год Алесь Бяляцкі працуе дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Менску. Тут ён мае магчымасьць выявіць сваю незвычайную стваральную энергію. Калі мы працавалі ў музеі Максіма Багдановіча, ён імкнуўся не толькі захоўваць мінулае, спадчыну, але і ствараць новае. Пад кіраўніцтвам Алеся музейныя супрацоўнікі саджалі ў вёсцы Ракуцёўшчына лес, які быў высечаны немцамі падчас Другой сусьветнай вайны. Паўставалі новыя філіі музея — у Яраслаўлі, у Менску («Беларуская хатка»), у Ракуцёўшчыне (сядзіба Лычкоўскіх). Калі Алесь Бяляцкі быў дэпутатам гарсавета, ён займаўся перайменаваньнем вуліц. І вуліца Максіма Багдановіча ў Менску ёсьць дзякуючы намаганьням Алеся Бяляцкага.

«Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі» — такую канферэнцыю мы правялі ў музеі Багдановіча ў сьнежні 1993 года, назва аказалася прарочай, бо ў наступным годзе краіну чакаў круты «паварот гісторыі», пры якім «лёс нацыянальнай гісторыі» аказаўся трагічным. У Беларусі ўсталяваўся аўтарытарны рэжым, адбылася рэстаўрацыя рэшткаў савецкай ідэалогіі (якія старанна кансервуюцца і хаваюцца да гэтага часу), у краіне пачаліся масавыя рэпрэсіі… У Беларусі зьявіліся палітзьняволеныя, правы якіх Алесь Бяляцкі абараняў зь вясны 1996 года, а ў жніўні 2011 года сам стаў палітзьняволеным. «Адносіны ўладаў да праваабаронцаў — гэта лакмусавая паперка, па якой можна даволі дакладна вызначыць узровень дэмакратычнасьці грамадства», — сказаў Алесь падчас суда.

«Як напісана ў Бібліі, запаліўшы сьвечку, не хаваюць яе ў шуфляду, — гаворыць пісьменьнік і праваабаронца Віктар Сазонаў. — Запаленую сьвечку ставяць на высокае месца, каб агонь ад гэтай сьвечкі быў бачны. Дзейнасьць Алеся Бяляцкага зьяўляецца такой сьвечкай. Ён ставіць яе на самае высокае месца, каб агонь гэтай сьвечкі, агонь гэтай праўды, справядлівасьці, абароны, салідарнасьці быў бачны ўсім людзям, хто гэта хоча бачыць і дзейнічаць разам, хто хоча быць ягоным паплечнікам. Алесь Бяляцкі вось такі чалавек — мужны, нацыянальна сьвядомы беларус, які змагаецца за Беларусь — незалежную прававую краіну, у якой будзе справядлівасьць і будзе дзейнічаць права».

Кніга, падрыхтаваная за кратамі, знаёміць чытача з Алесем Бяляцкім — удумлівым гісторыкам літаратуры, схільным да псіхалагічных рэканструкцый, тонкім літаратурным крытыкам і эсэістам, які здолеў працягнуць сваю літаратуразнаўчую дзейнасьць нават у нечалавечых умовах, што створаныя ў беларускіх турмах.

*Паліна Сьцепаненка,*
*верасень 2012 года*

Алесь Бяляцкі — беларускі літаратуразнаўца, грамадскі і культурны дзеяч, віцэ-прэзідэнт FIDH, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна».

Алесь Бяляцкі нарадзіўся 25 верасьня 1962 года ў мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна Карэліі, куды ягоныя бацькі выехалі зь Беларусі на заробкі. У 1964 годзе бацька Віктар Усьцінавіч і маці Ніна Аляксандраўна вярнуліся ў Беларусь. Месцам жыхарства сям'я абрала малады горад Сьветлагорск.

У 1979 годзе Алесь Бяляцкі паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе распачаў літаратуразнаўчую і грамадскую дзейнасьць. У 1984 годзе атрымаў дыплом выкладчыка філалогіі. Перад паступленьнем у асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласьці.

У 1984 годзе Аляксандра Бяляцкага прызвалі ў Савецкую Армію. Служыў пад Сьвярдлоўскам механікам-вадзіцелем браніраванага цягача ў артылерыйскім зьнішчальным супрацьтанкавым батальёне.

Пасьля вяртаньня з войска працягваў вучобу ў асьпірантуры, займаўся навуковай, літаратурнай і грамадскай дзейнасьцю. У 1986 годзе А. Бяляцкі быў адным са стваральнікаў Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», потым быў абраны старшынёй гэтай арганізацыі (1986–1989).

У 1988 годзе выступіў адным з заснавальнікаў таварыства «Мартыралог Беларусі», быў сябрам Арганізацыйнага

камітэта Беларускага народнага фронту «Адраджэньне», сакратар Управы (1996–1999), намесьнік старшыні (1999–2001) БНФ «Адраджэньне», зьяўляўся заяўляльнікам адной зь першых масавых акцый «Дзяды». У 1990 годзе выступіў адным з арганізатараў Беларускай каталіцкай грамады.

Асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР скончыў вясной 1989 года, ад абароны кандыдацкай дысертацыі адмовіўся. На яе аснове ў 1991 годзе выдаў кнігу-манаграфію «Літаратура і нацыя».

Непрацяглы час працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Музея гісторыі беларускай літаратуры. У выніку конкурсу ў 1989 годзе быў абраны дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. На гэтай пасадзе працаваў да 1998 года. Пад яго кіраўніцтвам была завершана падрыхтоўка экспазіцыі «Беларускай хаткі» і цэнтральнага Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Менску. Прымаў актыўны ўдзел у мерапрыемствах, прысьвечаных 100-годзьдзю з дня нараджэньня Багдановіча, якія праводзіліся ў Беларусі, а таксама ва Украіне і ў Расеі. Пад яго кіраўніцтвам у першай палове 1990-х гадоў праводзілася будаўніцтва і адбылося адкрыцьцё філіяла музея ў вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна Менскай вобласьці і музея М. Багдановіча ў Яраслаўлі. Ініцыятар выданьня архіўных зборнікаў, прысьвечаных публікацыі матэрыялаў пра жыцьцё Багдановіча, яго родных і знаёмых, выданьня ўспамінаў бацькі паэта А. Я. Багдановіча. У 1991–1995 гадах Бяляцкі зьяўляўся дэпутатам Менскага гарадскога Савета дэпутатаў.

Алесь Бяляцкі зьяўляецца дзейным сябрам творчых саюзаў: Саюз беларускіх пісьменьнікаў (1995), Беларускі ПЭН-цэнтр, Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Мужная і пасьлядоўная пазіцыя Алеся Бяляцкага па адстойваньні правоў чалавека ў Беларусі і ва ўсім сьвеце адзначалася многімі міжнароднымі ўзнагародамі. Алесь Бяляцкі тройчы вылучаўся на Нобелеўскую прэмію міру: у 2006, 2007, 2012 гадах.

# ПРА БЕЛАРУСКУЮ «ТУРЭМНУЮ» ЛІТАРАТУРУ

## Ліст першы

З надзвычай вялікай цікавасьцю прачытаў зграбна аздоблены і дыхтоўна выдадзены зборнічак Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі». Ён даслаў яго мне ў Жодзінскую турму. Гэтая кніжачка выклікала ў мяне шэраг роздумаў, успамінаў і асацыяцыяў, якімі хачу падзяліцца. А эпіграфам можна паставіць сьцьвярджэньне Уладзіміра Някляева з прадмовы-эсэ да зборніка: «Не ведаю, ці можа зразумець гэта той, хто не мае турэмнага досьведу». Сапраўды так. Ніхто не можа зразумець вязьня лепш за іншага вязьня. Здавалася б, неістотныя і часам незразумелыя для шараговага чытача дэталі маюць вялікае значэньне і сэнс для аўтара, і чалавек яго можа зразумець толькі той, хто сам на сваёй скуры і ва ўласнай галаве адчуваў гэта. Што значаць для чытача такія вобразы і гукі, як ляскат «кармушкі», скрыгат ключа ў замку «тармазоў» камерных дзьвярэй, віск-скрып кратаў, якія перагароджваюць калідор-«прадол»? Мастацкі вобраз? Застрашлівыя дэталі невядомага турэмнага сьвету? Гэта, мабыць, можна ўявіць сабе, ды нельга адчуць. Усе вязьні, незалежна




Уладзімір Някляеў

ад іх узаемных стасункаў і прыхільнасьцяў, да канца жыцьця аб'ядналыя гэтымі ведамі і вопытам існаваньня і назапашаных пачуцьцяў, якія ім дала турма.

Кажуць, там, на волі, былыя зьняволеныя адразу пазнаюць ранейшых сядзельцаў: па паходцы, па манеры трымацца і рэагаваць на розныя рухі і гукі, па манеры размаўляць, не дагаворваючы, скупа цэдзячы словы, па тоне і інтанацыі ў голасе. Не ведаю яшчэ, мабыць, так яно і ёсьць.

Я ўжо пару гадоў таму пісаў пра тое, што беларускія тэксты, і найперш вершы, напісаныя ў турме, на зоне, у лагерах, на высылцы, пасьля іх, паводле перажытага, маюць даўнюю і багатую гісторыю. Я нават бяру пад увагу вымушаную эміграцыю, якая шмат кім з творцаў успрымалася не менш трагічна за зьняволеньне. Адзіны верш Кастуся Каліноўскага, які дайшоў да нас, напісаны ў турэмных кляшторных мурах Вільні. Эсэ Ядвігіна Ш., адзін зь першых празаічных тэкстаў новай беларускай літаратуры, напісаны ім паводле

затрыманьня ў выніку студэнцкіх хваляваньняў у Маскве. Затым, як адлітыя зь сібірскага золата, зьявіліся вершы Алеся Гаруна, створаныя ім на капальнях у Бадайбо. Урэшце, магутны падмурак нашай літаратуры — паэма, напоўненая тугой па свабодзе і любоўю да Радзімы, «Новая зямля» Якуба Коласа — была задуманая, вымарылася і пачала стварацца ў Пішчалаўскім замку, дзе месьціцца сёньня СІЗА на Валадарскага ў Менску. Затым былі сенсацыйныя на той час салавецкія ўспаміны Францішка Аляхновіча «У капцюрох ГПУ». І цэлы пласт беларускай моладзевай паэзіі 20–30-х гадоў на чале з найбуйнейшым прадстаўніком Максімам Танкам, вершы якога ствараліся за кратамі віленскіх Лукішак. І тужлівыя вершы Сяргея Новіка-Пеюна, ягоныя знакамітыя «Зорачкі», і лаканічная геніяльная проза Максіма Гарэцкага, створаная ў безнадзейнай высылцы, удалечыні ад Беларусі. І зборнічак вершаў Тодара Лебяды, які рыхтаваўся да выпуску ў акупаваным Менску, пра сібірскія лагеры, дзе «пад кожнаю шпалаю ляжыць беларус». А затым, пасьля вайны, гулагаўскія лірычныя вершы Лявона Случаніна і лагерная вершаваная перапіска паміж Ларысай Геніюш і Васілём Супруном, якую з захапленьнем чыталі беларускі і беларусы з мужчынскіх і жаночых зонаў. Так, у ГУЛАГу, на абгортачнай паперы быў створаны пераклад «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча — ён належыць Пятру Бітэлю, праваслаўнаму сьвятару і настаўніку, які сядзеў быў пасьля вайны за Сталіным. А за 20 гадоў перад гэтым таксама «Пана Тадэвуша», гэтую паэтычную энцыклапедыю беларускага старасьвецкага шляхецкага жыцьця, на беларускую мову ў Лукішках у Вільні пераклаў зьняволены Браніслаў Тарашкевіч. А яшчэ пасьля былі лагерныя ўспаміны пісьменьнікаў-вязьняў Яўгена Калубовіча, Барыса Мікуліча, Вінцука Адважнага, Ларысы Геніюш, Сяргея Грахоўскага ды іншых. І гэта сапраўды мастацкая літаратура высокага маральнага і літаратурнага кшталту. У ёй сапраўдныя трагічныя шляхі беларускага народа і лепшых яго прадстаўнікоў — пісьменнікаў.

І вось прыйшла новая эпоха незалежнай беларускай дзяржавы, дзе парадаксальным чынам адрадзілася трагічная традыцыя турэмнага твораскладаньня. Першай тут варта назваць кніжку Славаміра Адамовіча «Турэмны дзёньнік», якая зьявілася ў выніку турэмнага зьняволеньня за напісаньне вершыка ў 1996 годзе. Затым было некалькі зборнікаў успамінаў вязьняў і зусім нядаўняе апавяданьне ў «Дзеяслове» Алеся Кіркевіча. Таму кніжка Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі» бачыцца мне лагічным працягам гэтай магутнай «турэмнай» плыні беларускай літаратуры, створанай дзясяткамі зэкаўлітаратараў, якая амаль не перапынялася ў апошнія 150 гадоў.

*13 чэрвеня 2012 года, Бабруйск.*

**Ліст другі**

У папярэднім лісьце пералічваюцца беларускія пісьменьнікі-зэкі і творы «турэмнай» тэматыкі ў мінулым. Вядома ж, я мусіў згадаць і кніжку мініяцюраў-эсэ Паўла Севярынца, напісаную ім падчас адбываньня «хіміі». У гэтай кніжцы Павал выступае ўжо як цалкам сфармаваны літаратар са сваім адметным стылем і арыгінальным бачаньнем сьвету.

Але вяртаюся да дасланай мне кнігі паэзіі Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі». Кніжка аказалася для мяне вельмі цікавай зь некалькіх прычынаў. Першая зь іх, і самая істотная, — гэта тое, што я вельмі высока цаню паэзію Уладзіміра Някляева, як, урэшце, і прозу. Паэт пачаў пісаць і прафесійна выкшталтоўвацца яшчэ за Саюзам. І тады пісалася ім шмат чаго, былі і прахадныя «надзённыя» вершы, ён быў нават напісаў паэму пра БАМ. Думаю, што моладзі сёньня гэтая абрэвіятура мала пра што гаворыць. А гэта была такая ўсесаюзная камсамольская будоўля чыгункі — Байкала-Амурскай магістралі, на якую пасылалі энтузіястаў-камсамольцаў і зэкаў. Пра першых пісалі паэмы, пра другіх — маўчалі.

Але пераважная большасьць вершаў Уладзіміра Някляева былі яркімі і таленавітымі. Ён умеў іх чытаць-прамаўляць у розных аўдыторыях. Слухалі яго і шматтысячныя залы камсамольскіх зьездаў, слухалі і мы, студэнты філфака ў Гомельскім унівэрсітэце. Мяне ўразіла моцная энергетыка, якая струменілася ад яго, уменьне апанаваць залаю, захапіць слухачоў і рытмікаю вершаў, і логікаю паэтычнага мысьленьня. Уладзімір Някляеў валодаў чарамі паэтычнага слова. Штосьці падобнае я назіраў і адчуваў толькі падчас выступаў, якія нагадвалі вершаванае вяшчунства, Анатоля Сыса. Той мог прымусіць сваімі вершамі плакаць усю залу.

Вось жа зь ім, маім сябрам і геніяльным паэтам, Анатолем Сысом, увесну 1984-га мы езьдзілі на сустрэчу з Уладзімірам Някляевым у адзін з гомельскіх гатэляў падчас аднаго зь яго прыездаў-выступаў. Дамаўляўся на сустрэчу Анатоль. Уладзімір Някляеў быў для яго адным з паэтычных настаўнікаў. Вечарамі Сыс цягаў па студэнцкім інтэрнаце зборнічак вершаў Някляева. Здавалася, ён расшрубоўваў ягоныя вершы па радках і словах, цікавіўся-дапытваўся, як гэта ўсё складзена, а потым зьбіраў наноў. У Анатоля Сыса быў ідэальны слых на ману і фальш. Творчасьць вершаплётаў ён бязьлітасна крытыкаваў і адкідаў. Уладзімір Някляеў быў не такім. Ён з Анатолем у той вечар шмат размаўляў пра паэзію. Мы пілі чырвонае сухое віно. Я ж спрабаваў «разьвярнуць» Уладзіміра Някляева да праблемаў беларушчыны: выхаваньне нацыянальнай беларускай сьвядомасьці, стан беларускай школы, культуры. Было відавочна, што тагачасная нацыянальная палітыка камуністаў вяла да прадуманага зьнішчэньня і паміраньня ўсяго беларускага. Я быў апанаваны пашырэньнем нацыянальнай ідэі, стварэньнем руху супраціву палітыцы дэбеларусізацыі, якую праводзілі ўлады. Наколькі я памятаю, я тады спрабаваў даказаць Уладзіміру Някляеву згубнасьць такой палітыкі да беларусаў як асобнага народа. Яшчэ 20 гадоў — і ў яго як у беларускага паэта проста не будзе чытача. Народ будзе чытаць Пушкіна і Вазьнясенскага, а не Купалу і Някляева. Размова была доўгаю і

шчыраю. Уладзімір Някляеў не пярэчыў мне, але і не падтрымліваў. Ён шмат распавядаў пра сябе, пра службу ў войску і апраменьваньне, якое там атрымаў, пра вучобу ў Літаратурным інстытуце ў Маскве. На мае ж эскапады ён адказваў, што бачыць сваю місію ў пісаньні якасных вершаў пабеларуску. І ўсё. Мне гэтага было мала. Я жадаў ад яго актыўнай беларуска скіраванай грамадзянскай пазіцыі. І я зноў чапляў-нападаў на яго. Але безвынікова.

Мы вярталіся з гэтай сустрэчы з Анатолем Сысом позна ўначы ў студэнцкі інтэрнат, грамадскі транспарт ужо не хадзіў. Мы ішлі пешкі па асьветленай доўгай Савецкай вуліцы. Было цёпла-цёпла. У мяне былі супярэчлівыя пачуцьці ад гэтай сустрэчы. З аднаго боку, я быў рады і задаволены, бо гэта была сустрэча з сапраўдным мэтрам у паэзіі, зь якім мы вось так проста сядзелі, размаўлялі, спрачаліся, слухалі яго, пілі віно. Зь іншага боку, я быў незадаволены сваёй «агітацыйнай» працай і, адпаведна, аб’ектам маёй агітацыі Уладзімірам Някляевым. Ён не паддаўся. Пераканаць яго больш актыўна дзейнічаць на карысьць беларушчыны мне не ўдалося.

У канцы 80-х гадоў Уладзімір Някляеў застаецца ў творчасьці, па-за палітыкай. Яго не было ні ў арганізацыйным камітэце Беларускага Народнага Фронту, яго не было чутна і на сходзе творчай інтэлігенцыі і беларускага актыву ў 1988 годзе ў Доме кіно, калі ўтварыўся антысталінскі «Мартыралог Беларусі». Але ўжо ніякія ідэалагічныя каноны не стрымлівалі ягонага таленту. Уся гэтая камсамольская наменклатурнасьць абсыпалася зь яго, як старая фальшывая пазалота. Хіба што засталіся сувязі і знаёмствы. І я добра памятаю вочы Уладзіміра Някляева на Дзядах у 1988 годзе, калі мяне, плачучага ад сьлезацечнага газу, цягнулі ў міліцэйскі «уазік». Мяне закідвалі ў задні закратаваны адзьдзел — «сабачнік», а ён разам зь пісьменьнікам і філолагам Аляксандрам Станютам, сынам артысткі Стэфаніі Станюты, стаяў і глядзеў, суперажываў.

*14 чэрвеня 2012 года, Бабруйск.*

**Ліст трэці**

Ізноў вяртаюся да Уладзіміра Някляева.

У першай палове 90-х ён быў рэдактарам часопіса «Крыніца». Пра гэты перыяд ягонага жыцьця добра, каб напісаў хтосьці той, хто тады працаваў разам зь ім. А хто ў «Крыніцы» толькі не працаваў. І Павел Якубовіч, і Леанід Галубовіч, і Валянцін Акудовіч, і Уладзімір Арлоў, і Алесь Асташонак, і Алесь Разанаў, і Анатоль Сідарэвіч, і Адам Глёбус. Наколькі гэтыя асобы былі неардынарнымі і цікавымі — і як потым лёс, выпрабоўваючы і спакушаючы іх, разьвядзе ў розныя бакі. Хтосьці зь іх, потым ужо, пазьней, атрымае ордэн з рук Лукашэнкі, а хтосьці інкогніта ўцячэ зь Беларусі, будзе зьбіраць пляшкі па сьметніках і скончыць жыцьцё самагубствам. Пэўна адно, што часопіс «Крыніца» рэдактарства Уладзіміра Някляева быў адметнаю і вартаю зьяваю ў беларускай культурнай і літаратурнай прасторы. Я некалі любіў чытаць гэты часопіс.

У другой палове 90-х гадоў Уладзімір Някляеў быў ва ўладаў па нейкіх прычынах на добрым рахунку. І, мабыць, таму паралельна з рэдактарствам у «Крыніцы» яго прызначылі рэдактарам у газету-штотыднёвік беларускіх пісьменьнікаў «Літаратура і мастацтва». Падчас ягонага рэдактарства, да ягонага гонару, газета не зьмяніла свой ранейшы нацыянальна-дэмакратычны накірунак і мела прыстойны літаратурна-мастацкі ўзровень. Рэальна газету рабіў намесьнік рэдактара Барыс Пятровіч. Рэдактар Уладзімір Някляеў зьяўляўся ў газеце не часта, нічога не навязваў, асабліва не перашкаджаў і спраўна прыкрываў выданьне ад злога вока. І некалькі гадоў яму гэта ўдавалася рабіць. Падчас ягонага рэдактарства ў «ЛіМе» выходзіла мая штотыднёвая калонка, у адзін год прысьвечаная бягучым грамадскім і палітычным падзеям, а ў другі — навінкам беларускай літаратуры. І ніводзін з маіх тэкстаў тады не быў адхілены.

Затым пэўны час Уладзімір Някляеў быў у эміграцыі ў Польшчы і Фінляндыі, а калі вярнуўся, як старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра браў удзел у заснаваньні Беларускага

Дома правоў чалавека ў Вільні, адным з заснавальнікаў якога быў і Праваабарончы цэнтр «Вясна». Відавочна, што жыцьцё ў Еўропе неяк ачалавечыла, спрасьціла яго, зьмяніла ў лепшы бок, яшчэ больш умацавала ягоныя дэмакратычныя погляды. Даволі часта сустракаючыся з Уладзімірам Някляевым па справах Дома правоў чалавека, чытаючы ягоныя новыя вершы і празаічныя тэксты, я заўсёды адчуваў да яго вялікую павагу як да аднаго з найвыдатнейшых беларускіх і еўрапейскіх паэтаў сучаснасьці.

Праўда, адкрыю табе адную невялікую таямніцу. У нас, у Беларусі, шмат выдатных паэтаў! Я не магу патлумачыць і зразумець — чаму так. Але іх, арыгінальных, выбітных, віртуозаў беларускага слова, мысьляроў, лірыкаў і казнадзеяў, надзіва шмат, як для такой літаратуры, якая існуе на мове, што гібее ў бядотным, крытычным стане. Іх сапраўды шмат, як для народа, інтэлектуальная думка і культура якога выпальвалася на працягу стагодзьдзяў раскаленым жалезам. Я не магу зразумець, адкуль у беларусаў гэтае магутнае і неспыняльнае жаданьне выказацца ў мастацкім слове. Можа, зь ціхмянай паэтычнай сузіральнай натуры беларуса? Ці ж тая ўнутраная інтэлектуальная энергія, якая не можа рэалізавацца ў грамадскім ды палітычным жыцьці, сублімуецца ў творчасьці за пісьмовым сталом, у мастацкім асэнсаваньні плыні жыцьця? Іх, беларускіх выдатных творцаў, шмат, як для прафесіяналаў, чыя дзейнасьць і занятак не дае дастатковага матэрыяльнага набытку, за які можна было б пражыць. Калі разважаць, сыходзячы зь меркаваньняў здаровага сэнсу і жыцьцёвай логікі, то іх не павінна было б быць! Дык вось жа, у гэтай кагорце выдатных і лепшых адно зь відных цэнтральных і высокіх месцаў займае Уладзімір Някляеў. Я не бяруся ацэньваць ягоныя здольнасьці, дасягненьні і пралікі як грамадскага дзеяча і палітыка. Але ў выніку ягонага зьняволеньня і зьявілася гэтая кніжачка «Лісты да Волі» як разьвіцьцё ягонай літаратурнай творчасьці і як працяг «турэмнай» плыні ў беларускай літаратуры.

*18 чэрвеня 2012 года, Бабруйск.*

### Ліст чацьвёрты

Кніжачка «Лісты да Волі» Уладзіміра Някляева, хоць і невялікая па памеры і сьціслая па зьмесьце, дзеліцца на чатыры лагічныя часткі. Гэта — прадмова, затым 30 вершаў, 20 з якіх былі напісаны ў СІЗА КДБ, так званай «амерыканцы», і апошні, 30-ы — калі паэт знаходзіўся пад хатнім арыштам, паэма «Турма», напісаная ў калядны тыдзень 2010 года таксама ў «амерыканцы», і апошняе слова Уладзіміра Някляева.

Вось жа прадмова паэтычнага зборніка напісаная ў форме эсэ. Яна — важкая і самадастатковая частка кнігі. У беларускай паэзіі вось такія аўтарскія прадмовы да вершаваных зборнікаў — зьява рэдкая. З апошніх кніг можна згадаць «Стрэмку» Сяргея Сыса. Як правіла, у такіх празаічных развагах паэты даюць агульны кантэкст, які набліжае чытача да вершаў, дапамагае зразумець атмасферу і нейкія адметныя ўмовы, у якіх вершы былі створаныя. Такую ж ролю выконвае і прадмова Уладзіміра Някляева да свайго зборніка. У ёй паэт лаканічна апісвае ў прозе тое, пра што не сказаў у вершах, перадае свой псіхалагічны стан падчас зьняволеньня.

Магу пацьвердзіць, што пачатак зьняволеньня ва ўсіх упершыню арыштаваных, мабыць, аднолькавы. Чалавека апаноўваюць мацнейшы стрэс, псіхалагічны шок, зьяўляецца пэўная затарможанасьць, часам нелагічныя паводзіны, аслабляюцца напрацаваныя рэфлексы. Узгадайце, калі памятаеце, відэа, якое паказвала БТ пасьля затрыманьня пасла і міністра Міхаіла Марыніча. Многія тады, паглядзеўшы гэты сюжэт, казалі, што выглядаў ён, як не ў сабе, як пад узьдзеяньнем наркотыкаў. Насамрэч менавіта псіхалагічны шок, зьвязаны з арыштам, уводзіць чалавека ў такі неадэкватны стан.

Пасьля арышту яркая і выразная мяжа падзяляе тваё жыцьцё: тое, што было да арышту, і зусім іншае, што адбываецца з табой зараз. Галавою ты разумееш, што гэта ўсё па-

сапраўднаму, але ў першыя гадзіны і дні пасьля арышту ты паглядаеш на самога сябе як бы збоку і табе здаецца, што ўсе дзеяньні, размовы, дыялогі падчас вобшуку, допытаў — гэта штосьці ірэальнае, гэта ўсё не з табой. Штосьці падобнае перажыў і я, хоць быў маральна і практычна падрыхтаваны значна лепей, бо не раз арыштоўваўся і сядзеў на «сутках» па адміністратыўных працэсах.

Ва Уладзіміра Някляева было значна горш. Яго арыштоўвалі другі раз у жыцьці і забралі-пацягнулі зьбітага з бальніцы ў невядомасьць. Таму шок арышту ўзрастаў праз страх. А страх яшчэ болей абвастрыў пачуцьці, усялякая логіка — што робіцца і што будзе рабіцца далей — страціла сэнс. Урэшце яго прывозяць у турму КДБ і паведамляюць урэшце, дзе ён. Але ж ці зрабіла гэта палёгку яму, абазнанаму ў трагічнай гісторыі гэтай турмы? У прадмове ён дакументальна, зь лічбамі і датамі напіша: «У так званай “амерыканцы”, унутранай турме КДБ, у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года былі забітыя 22 беларускія паэты. У наступную яшчэ чацьвёра. Недзе ў гэтых сутарэньнях…»

Шлях на Галгофу ва ўяўленьні паэта працягваецца: «Вядуць сутарэньнямі. Канвойныя не ў чорным — у вайсковай форме. Спыняюць. Ставяць тварам да сьцяны. На сьцяне шчарбіны, нібы сьляды куль. Халадзее патыліца». Парадаксальна, але ад сьмяротнай невядомасьці ратуе паэта камера: «…і дзьверы зачыняюцца. Як толькі яны зачыніліся, страх адпусьціў. Я адчуў сябе абароненым».

Штосьці падобнае адчуваў і я, калі пасьля напружаных дзён у судзе вяртаўся на Валадарку ў сваю 15-ю камеру. Я заходзіў у яе эмацыйна спустошаны, як у свой родны дом. Дзьверы за мною захлопваліся, лязгаў замок, і я, акурат як Уладзімір Някляеў, адчуваў сябе абароненым. Што тычыцца гістарычных успамінаў, то ў мяне яны былі, праўда, не такія трагічныя, як у паэта. Бо тут, на Валадарцы, яшчэ за царом сядзелі Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Якуб Колас, Алесь Гарун, Карусь Каганец, праўда, яны выйшлі зь яе муроў жывымі.

Бясспрэчна, сюжэтнай вяршыняю ў эсэ-прадмове зьяўляецца гісторыя аб тым, як Уладзімір Някляеў выносіў з камеры сьмецьце. Менавіта так яго называлі ахоўнікі ў Жодзінскім СІЗА, недалюбліваючы слова «мусор». Занёсшы сьмецьце ў прыбіральню, паэт убачыў там газетны шматок з радком: «Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко». Можна ўявіць, што перажыў у гэтую хвіліну паэт, цалкам адрэзаны ў тыя дні-тыдні ад усялякай інфармацыі. Адзін толькі прачытаны газетны радок зь ліста расейскага паэта Яўгена Еўтушэнкі да яго прыводзіць паэта да глыбокіх высноваў: «У людзях нельга вынішчыць чалавечае. Яно незьнішчальнае. Яго не вытравіць, не спаскудзіць ні брудам, ні лайном. З-пад бруду, з-пад лайна яно прарываецца хараством. І калі ў чымнебудзь на зямлі ёсьць паэзія, дык у гэтым». Думка паэта перагукаецца з тым, пра што ў свой час пісаў Максім Багдановіч, захапляючыся хараством лілеяў, якія ўзрасьлі зь сьмярдзючай твані балота. Чалавечыя ўчынкі, ва ўяўленьні Уладзіміра Някляева, зьвязаныя з хараством, якое ў сваю чаргу зьяўляецца паэзіяй жыцьця.

І вось праз тыдзень пасьля арышту шок мінае, і тады ў паэта адбываецца выкід унутранай энергіі: «я зноў адчуў неверагодную моц жыцьця, якая вулканічна можа вырвацца з самай, здавалася б, слабой, але яшчэ не сканалай клетачкі». І гэтак жа ж няўстынна, падобна на тыгра ў клетцы, кідаецца, б’ецца думка паэта. І ўвесь сьпектр ягоных перажываньняў, мараў, расчараваньняў, уяўленьняў адбіваецца ў вершах.

*24 чэрвеня 2012 года, Бабруйск.*

**Ліст пяты**

Няўдзячная справа — каментаваць вершы такога высокага ўзроўню і кшталту. Мае заўвагі зусім не вартыя саміх вершаў. Але ж я адважваюся на іх, бо ўсё ж сам праходзіў

праз турму і гэтымі каментарамі, можа, заахвочу чытача прачытаць самі вершы. Яны ж — напоўненыя неверагоднай энергіяй, у іх няма ніводнага лішняга слова, літая, віртуозная форма, нязмушаная самабытная думка, цудоўная беларуская мова.

Першы верш у зборніку выглядае як праграмны. Нават не верыцца, што ён быў сапраўды першым вершам, створаным паэтам у турме. У ім паэт робіць Волю сакральным сімвалам, сьвятыняю, вартаю пакланеньня. Ён стварае ў сваім уяўленьні Храм Волі, у якім лунае бел-чырвона-белая плашчаніца. Воля — гэта не толькі ягоная багіня, гэта і родная па крыві «крэўная мая», гэта і ўсіхняя крывіцкая мара.

Крэўнасьць з Воляй паэту давялося даказваць уласнай крывёй на сьнежаньскім сьнезе. І ён дзеля Волі гатовы ахвяраваць і далей: «Калі табе трэба ахвяра, ёй стану я».

Параўнаньне плашчаніцы зь бел-чырвона-белым сьцягам падкрэсьлівае сьвятасьць, чысьціню беларускай сімволікі. Ёсьць у гэтым вобразе і трагічнае адценьне. Бо што ж яшчэ ў хрысьціянскім разуменьні можа выклікаць пачуцьці і смутку, і болі, і бясспрэчнай сьвятасьці, як не кавалак палатніны, у які быў загорнуты Хрыстос? Мяркую, што гэты верш будзе блізкім і зразумелым шмат каму, у каго ў сістэме чалавечых каштоўнасьцяў Воля займае галоўнае ці, прынамсі, значнае месца.

У вершы «Не ўсё дарэмна, што дарэмна» паэт задумваецца над прадвызначанасьцю чалавечых дзеяньняў, ён мяркуе, што гэтыя дзеяньні невыпадковыя: «Магчыма, нехта патаемна мяне да нечага вядзе».

У адным зь лістоў да мяне ў турму дакладна гэтую думку выказвае адна незнаёмая мне жанчына. Яна хацела такім чынам падтрымаць мяне і мой выбар. Хаця я мяркую, што ў кожнага з нас заўсёды ёсьць магчымасьць выбару, і нават у неверагодна цяжкіх сітуцыях, пра што неаднаразова пісаў у сваіх творах Васіль Быкаў. Гэта як у вядомай казцы пра камень на раздарожжы. Толькі гэта ты, а не казачны герой, стаіш і чытаеш вырытае на камені: налева, направа, проста,

і ты выбіраеш — куды, згодна са знакамі, пасланымі табе жыцьцём, ці, наадварот, насуперак ім, і ідзеш.

Наступны верш «І той, які махаў рукамі», на маю думку, адзін зь лепшых вершаў у гэтай кніжцы, хаця ягоную трагічную загадку я так і не разгадаў. Верш складзены зь сімвалаў і асацыяцыяў, знаменьняў і таемных дзеяньняў. Ён і пра трагічную сьмерць, і пра трагічнае каханьне. Сімвалізм гэтага верша перагукаецца зь сімвалізмам у паэзіі Янкі Купалы.

У вершы «Праз краты, праз калючыя драты» адбываецца мінімум дзеяньня. Лірычны герой, якога можна атаясаміць з аўтарам, у вершы засынае... і прысьнёная ўсьмешка каханай робіць яго вольным. Яна дае яму крылы, і ён разам з усьмешкаю «паляцеў дахаты».

Верш падказвае мне і мае высьненыя ці вымараныя ў камеры думкі. У турме пачынаеш цаніць гэтую найкаштоўнейшую магчымасьць, якую і там у цябе нельга адняць: магчымасьць марыць.

Але сны бываюць вельмі розныя. Часам гэта дзіўныя сны:

Прысьнілася, што я ў турме адзін
На васямнаццаць камер з прыбіральняй.

І такая ж дзіўная рэчаіснасьць:

А ў шэсьць пад'ём! І змрочны вартавы
Павёў у прыбіральню. Ледзянела
У ёй лайно. Дрыготка біла цела,
І адляталі сны ад галавы.

Ашчадна-апісальны стыль паэта-мастака нагадвае стыль малавядомага паэта 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя Алеся Смаленца.

У вершы «Як жыць не хочаш, дык памры» апісваецца знаёмы для кожнага вязьня пейзаж турэмнага дворыка: «Турэмны дворык два на тры — у ім пяцёра нас». Рытміка верша, трывожна-перарывістая, перадае сухое клацаньне турэмных замкоў і дзьвярэй:

Пляц.
«Кляц!»
Клецъ.

Апаноўваюць паэта і думкі пра сутнасьць чалавечага жыцьця. А каго ж не наведвалі ў турме гэтыя думкі? З узростам асабліва адчуваеш, што не пасьпяваеш жыць:

Не хопіць на жыцьцё твайго жыцьця,
І рэшту будзеш дажываць на сконе.

Гэтыя ж матывы гучаць у вершы «Толькі сьнег» і «На сьнезе сьляды». У вершы «Калі я выйду з турмы на волю» ізноў жа разьвіваецца думка, якую перадумаў кожны ў зьняволеньні, — мары пра тое, што ён будзе рабіць на волі. У паэта перамагаюць думкі ўсёдараваньня і лагоды:

І калі сядзе на вецьце воран,
І калі каркне, што ён — мой вораг,
Не стану ў Бога вымольваць кары...
На тое й воран, каб жыць ды каркаць.

Пазіцыя паэта глыбока гуманістычная. Хаця мяне вось мае мары выносяць да ідэі справядлівага правасудзьдзя.

Ізноў жа ў наступным вершы «Падышоў да возера і лёг» паэт задумваецца над сэнсам існаваньня чалавека, над такім цудоўным, але ж не вечным жыцьцём.

Прабіваецца ў паэта часам турэмны гумар, заўважны ў вершах «Зь нябожчыкамі параішся», «Сьпіш яшчэ, мая сплюшка?». У апошнім вершы паэт просіць жонку Волю:

Да мяне прыйдзі ты ночкай,
На мяне зірні ты ў вочка
І кармушку адчыні,
Дай цукерку мне да чаю
І цукерку вертухаю,
Каб не гаўкаў дзень пры дні.

Напоўнены трывогаю, змрочнымі ўспамінамі і ўнутранымі перажываньнямі верш «Паўзе па шкле, што раптам пачарнела». Паэту не сьпіцца, начныя прадчуваньні апаноўваюць ім:

На кожны рып напружваецца цела,
На кожны грук.

Наплываюць жахлівыя ўявы, навеяныя ведамі і ўспамінамі:

І замірае камера ў здранцьвеньні
На ўскрык нямы...
Тут некалі стралялі ў сутарэньні
Такіх, як мы.

Гэта, дарэчы, ці не адзіны верш, дзе зьняволены паэт і ягоны лірычны герой думае і гаворыць і ад імя іншых вязьняў.

Трагічнае пераўвасабленьне, пералёт у мінулае ў пэўных дэталях адбываецца і ў вершы «Зьбіты операм, на нары», галоўнае пытаньне ў якім датычыць жыцьця і сьмерці:

Калі ты каля парашы
Ніцма лёг,
Толькі б выжыць, зубы сьцяўшы,
Даў бы Бог.

Адзін з найбольш уражлівых вершаў у зборніку — «Ці ты хочаш, ці не хочаш» — напоўнены трагічным сімвалізмам, дзе мільгацяць, як у вар’яцкай карусэлі, змрочныя, трывожныя словы: турма — ноч — кат — вязень — вецер — вяроўка — пятля.

Сімволіка зь беларускіх замоваў гучыць у вершы «Пяць крокаў па камеры ўздоўж», перадаецца яна праз лічбы:

Пяць крокаў ступаю праз дождж
І тры — празь вятры.

Гэта, дарэчы, улюбёны прыём у паэзіі Анатоля Сыса.

Апошні верш «Нечакана легла карта» быў напісаны Уладзімірам Някляевым ужо дома, калі ён знаходзіўся пад хатнім арыштам. Гэты стан існаваньня невядомы мне, але з апошнімі радкамі верша цяжка не пагадзіцца:

Бо ўсё ж хата — гэта хата,
не турма.

Прачытаныя вершы ствараюць цэльную і завершаную карціну. Але і яна не спатоліла прагу паэта да самарэалізацыі. Як пісаў Уладзімір Някляеў у прадмове, «з турмой у мяне ўзьніклі нечаканыя адносіны». У выніку гэтых адносінаў і нарадзілася паэма «Турма».

*25 чэрвеня 2012 года, Бабруйск.*

**Ліст шосты**

Працягваю далей дзяліцца сваімі ўражаньнямі ад кнігі Уладзіміра Някляева «Лісты да Волі». Паэма «Турма» была напісаная імкліва, за тыдзень ад Калядаў да Новага года. У паэта нібы ўмомант прарваліся нахлынулыя эмоцыі, уражаньні, пачуцьці, выкліканыя нядаўна перажытым магутным стрэсам. У гэтым глыбока экспрэсіўным і эмацыйным творы, як мне падаецца, не так істотная сюжэтная лінія. Зразумела, што сюжэт паэмы вымысьліўся без папярэдняй падрыхтоўкі і доўгага роздуму, як кажуць, з ходу. У паэме ўражвае ўзровень унутранай энергіі, нейкага поўнага роспачы і жарсьці яраснага енку-рыку, які вырваўся са зьбітага-скалечанага цела паэта. І які ўліўся-перадаўся ў паэтычныя радкі і строфы. Выглядае, што надзвычайная небясьпечная і трагічная сітуацыя амаладзіла і розум, і думку, і пачуцьці паэта. Ёсьць упэўненае адчуваньне, што ён скінуў з душы чвэрць пражытага стагодзьдзя, а разам з гадамі і ўсю накоп-

леную за пражытае жыцьцё і за выбарчую кампанію стомленасьць. З энергетыкі паэмы Уладзіміра Някляева зусім не адчуваецца, што яшчэ за якіх дзесяць дзён перад гэтым ён быў цалкам пагружаны ў выбарчую кампанію, падчас якой, хутчэй за ўсё, яму было зусім не да творчасьці.

І вось трагічна перарвалася выбарчая кампанія. Усе планы грамадскай і палітычнай дзейнасьці былі перакрэсьленыя, паэт быў брутальна зьбіты, патрапіў у бальніцу, затым апынуўся ў «амерыканцы». Ці мог ён прадбачыць такое разьвіцьцё падзей? І зьнікае Уладзімір Някляеў-палітык, а зьяўляецца, устае на ўвесь рост Някляеў-паэт. Ён не піша пра цяжкую выбарчую кампанію, не піша пра тое, што адбылося 19 сьнежня ў Менску каля Дома Урада, ён нічога не піша пра свой лёс роўна да гэтай мяжы, велічэзнага мура, які падзяліў ягонае жыцьцё. На волі засталася ягоная каханая жонка Воля, змрочным і нявызначаным выглядае будучыня народа. Гэтыя два найважнейшыя для паэта вобразы завастраюцца ягонай ізаляванасьцю, і, хочаш не хочаш, у думках паэта зьяўляецца і пачынае існаваць трэці важны вобраз — Турма.

Лірычнага героя паэмы ў сьне ахоплівае трызьненьне. Ён марыць пра сустрэчу зь любімай жонкаю Воляй, але яе месца падступова займае Турма:

Цяпер, калі ты не са мной,
Не на плячы маім, не побач,
З турмой я засынаю ў поўнач
І прачынаюся з турмой.
...
Я цалаваўся зь ёю ў сьне,
Яна ў маіх абдымках спала!
«Ты закахаешся ў мяне!» —
Турма мне горача шаптала.

Сон — некантралюемы і бездапаможны стан, у якім знаходзіцца чалавек. Кожнаму з нас за жыцьцё сьніліся розныя страхі і жахі. Дык чаму б не паверыць паэту ў гэтае пераўва-

сабленьне, у якім імкненьне да Волі прыводзіць лірычнага героя да Турмы як да жывой, у нечым пачварна-чароўнай і распуснай, амаральнай істоты:

Ва ўсім падманка і падменка,
Яна сьпяшала ў сон: «Хутчэй!..»
І падала
　　　　твая сукенка
Зь яе аголеных плячэй.

Каб мне
　　　　табой
　　　　　　　да ранку сьніцца,
Яна пярсьцёнак залаты
І залатыя завушніцы
Здымала, як здымаеш ты.

Турма водзіць лірычнага героя паэмы па сваіх спратах і лёхах, у якіх ён сустракаецца са зданямі закатаваных тут людзей:

«Сексот ён,
　　　　　здраднік
　　　　　　　　ці герой? —
Пыталі здані. — Наш ён? Твой?..
А што паэт, дык нам не дзіва!»
Турма казала: «Ён са мной», —
І здані ўкленчвалі пачціва.

Паступова, нягледзячы на супраціўленьне, Турма спакушае і прываблівае лірычнага героя. У яго губляецца, зьнікае патрэба і адчуваньне мэты. БязВольле лірычнага героя прыводзіць да наступных зьменаў:

...не знаючы спатолі,
Кахаўся я з Турмой і Воляй,
І ўжо не помніў:
　　　　　　　　дзе я?.. з кім?

Далей у паэме існуе лірычнае адступленьне, дзе паэт вельмі шкадуе, што так мала ў жыцьці пеставаў сваю жонку:

Як мала мела ты дарункаў
І нават абяцанкаў іх,
Як мала ласкаў, пацалункаў,
Абдымкаў дзённых і начных!

Гэты маналог каханьня пранізаны горыччу расстаньня і сусьветным жалем. Ён належыць не толькі герою паэмы, але ж і самому паэту, які апынуўся ў такой незайздроснай, трагічнай сітуацыі. Чытаючы паэму, разумееш, што паэту ёсьць што сказаць і як тонкаму лірыку, і як умацаванаму жыцьцёвым вопытам мысьляру.

Затым у паэме зьяўляецца Голас, які дэбатуе зь лірычным героем наконт мэтаў жыцьця і чалавечых ідэалаў. Вырак Голасу жорсткі і бязьлітасны:

Дзе
Твае сябры? І дзе краіна,
Якую сьлепа ты любіў?
І дзе народ, які ў ёй быў,
Які, як зваць яго, забыўся?..
Збылося ўсё, а ён не збыўся!
І ўжо не збудзецца...
— Чаму?
— Бо любіць волю, як турму!

Кім жа зьяўляецца гэты Голас? Каму ён належыць? Чалавечаму Духу, якога няволя лічыць за свайго найгалоўнейшага ворага:

...Век ад веку
Турма найперш у чалавеку
Ламае не хрыбет, а дух.

І калі няма Волі, тады церпіць і пакутуе Дух:

Турма ў турме — і воля ў ёй.
Усе за кратамі ў краіне,
Дзе дух крывіцкі нема гіне,
Разьняты з моваю сваёй.

Ён тут. Загнаны ў самы дальні
І цесны лёх, у змрочны кут,
Ён тут са мной у катавальні,
Са мной на допытах ён тут.

Але Дух у лірычнага героя паэмы, веру, і ў аўтара, непераможны:

Мой дух з хрыбтом пераламаным
Не пакідае ўсё ж мяне!

Ён сам абраў такую долю:
Цягнуць мяне зь ярма, зь дзярма, —
І ненавідзіць больш, чым Волю,
Яго
раўнівая Турма.

Ён — сутнасьць правоў чалавека, дадзеных яму Богам, ад самага нараджэньня. Ён — менавіта той, хто ўпарта ўздымае з каленяў кожнае прыгнечанае племя і пакаленьне, любы край і любы народ, той, хто спрабуе ўзьняць з каленяў асабіста кожнага з нас.

Далей у паэме матывы ўзьнёслага каханьня пераходзяць у жарсны сэнс:

Ва ўлоньне!.. і глыбей!.. і болей!..
Каб Воля нарадзіла Волю!..
З крыві і болю!.. тут!.. пры мне!..

Але ж зноў, Воля аказалася прывіднай і падманлівай, і лірычны герой прачынаецца ў абдымках не з Воляю, а з Турмой. І вось лірычны герой паэмы і сам паэт узводзяць Волю на вышэйшы п'едэстал чалавечых жаданьняў і імкненьняў. Яна для Уладзіміра Някляева — і шлях да мэты, і сама мэта, яна — і форма, і зьмест, яна — найвышэйшая чалавечая каштоўнасьць:

Ах, воля, воля! Што хацець,
Апроч цябе?.. Дальбог, нічога!

Калі ты не са мной — дарога
Ёсьць да цябе, якой іду.

Я не люблю цябе:
ваду
Не любяць —
проста п'юць, бо смага.

У палеміцы, якая працягваецца ў лірычнага героя з Голасам, лірычны герой спрабуе разабрацца, чаму беларусы страцілі сваю волю. Адказ банальны:

Затое кожны свой катух
Займеў... Хай цесны, але з кашай
Прасянай... З нарамі, парашай:
Паеў, паспаў...

Такім чынам, пераканаsuccessfully лірычны герой, Няволя — прадукт нясьпеласьці, запалоханасьці як усяго грамадства, так і кожнага з нас:

Турма — не сьцены.
Для турмы
Не камяні сабраны. Мы.

Мы — краты і ключы астрога.

Урэшце лірычны герой паэмы прыходзіць да высновы, што:

І воля ў часе мусіць высьпець —
І вы для волі ў час сасьпець.

Паэт бачыць, як ідзе гэты працэс высьпяваньня волі:

Яна ў вязьніцы выжывае
У гэтым краі страт і скрух,
Але расьце, але мужае,
І разам зь ёй мужае дух,
Якому толькі воля трэба —
Нічога болей!..

Чытаючы паэму Уладзіміра Някляева «Турма», разумееш, які вялікі шлях у разьвіцьці думкі, грамадзянскай сьвядомасьці, разуменьні агульначалавечых каштоўнасьцяў прайшла беларуская літаратура за апошнія дзесяцігодзьдзі. Паэма «Турма» зьяўляецца вялікім асабістым дасягненьнем Уладзіміра Някляева. Відавочна, што палітык-Някляеў не зьнішчыў Някляева-паэта. Ягоны талент як паэта дасягнуў вяршыняў беларускай грамадзянскай лірыкі. Паэзія Уладзіміра Някляева сваёй пафаснасьцю, майстэрствам і актуальнасьцю наўпрост перагукаецца з паэзіяй Янкі Купалы. Уладзімір Някляеў узьняў прэстыж паэмы як жанру, які быў у апошнія гады ў беларускай літаратуры не на першых ролях.

*1 ліпеня 2012 года, Бабруйск.*

### Ліст сёмы

Аляксандр Фядута даслаў мне сваю кніжачку «Американские стихи». Кніжачка атрымалася цікавай, зноў жа з вопыту аўтара, які, седзячы ў «амерыканцы», дасылаў сваёй жонцы Марыне вершы, напісаныя з розных нагодаў. Але ўсе яны моцна зьвязаныя зь ягоным перабываньнем у чатырох

камерных сьценах. У кніжачцы, апроч вершаў, ёсьць і тэкст, які тлумачыць абставіны іхняга напісаньня. Трэба зазначыць, што самі каментары, напісаныя ў жанры эсэ, не менш, а нават і больш цікавыя за вершы. І каштоўнасьць вершаў у гэтай кніжачцы не ў іхняй мастацкай вартасьці, а ў месцы і атмасферы, дзе яны былі напісаныя. Вершы, створаныя ў турме, маюць асобую аўру, асобы псіхалагічны зарад і асобую энергетыку. Яны напоўненыя турэмным духам! У іх адсутнічаюць фальш, надуманасьць, манернасьць. Яны падобныя на толькі што вылупленых птушанятаў — з найтанчэйшай скураю, не ўхутаныя ў пух і пер’е. І яны — як адлітыя з цэлых кавалкаў металу. Вядома, метал гэты розны якасьці, і рэчы, адлітыя зь яго, — разнастайныя. І я з аднолькавай цікавасьцю перабіраю і вершы — «алавяныя гузікі», і вершы — «жалезныя стрэлы», і вершы — «каштоўныя перліны». Яны ўсе — з аднаго куфра і з аднаго горна. Яны — з турмы.

Празаічны тэкст з «Американских стихов» напісаны лаканічнай прозаю. У ім за зьнешняй прастатой і лёгкім нязлосным гумарам Аляксандру Фядуту ўдалося перадаць вострыя пачуцьці, якія апанавалі зьнянацку стрывожаную і зьняволеную душу.

Раю ўсім зацікаўленым прачытаць гэтую кніжачку. Што тычыцца мяне, дык яна заінтрыгавала, зачапіла мяне яшчэ тым, што часам Аляксандр Фядута ўздымае пытаньні ці пераказвае пачуцьці, сугучныя з маімі ў турме. А часам ягоны турэмны вопыт, развагі і высновы выклікаюць у мяне парадаксальную нязгоду. Я ні ў якім выпадку не хачу зь ім спрачацца, я проста дзіўлюся, наколькі ўсё ж розная чалавечая істота. І погляд людзей, якія знаходзяцца ў аднолькавай сітуацыі, на, здавалася б, аднолькавыя рэчы і зьявы можа выклікаць зусім іншыя думкі і асацыяцыі.

Я закрану толькі адзін выпадак. Аляксандр Фядута піша ў сваёй кніжачцы пра кніжкі, якія былі і якія чыталіся ў «амерыканцы». «У першай маёй камеры ляжыць “Тридцать пятый и другие годы” Анатоля Рыбакова. У другой — “Жизнь



Хвядос Шынклер з сынам Юрам і пляменьніцай Наташай.
Менск, 1938 год

Засталася нязьменная ў Хвядоса Шынклера ранейшая пашана да беларускай мовы. Па-беларуску размаўляў ягоны сын Юрка. Пляменьніца Натальля піша: «Ён вучыў мяне чытаць і назаўсёды прывіў любоў да кнігі, літаратуры, роднай мовы».

У гэтыя гады Хвядос Шынклер шмат піша для дзяцей. Сыход у дзіцячую літаратуру быў хіба адным легальным сыходам з трывожнай і жахлівай рэчаіснасьці.

Зь «ЛіМа» Хвядос Шынклер пераходзіць у «Полымя». У гэты час ён перажывае вал сталінскіх рэпрэсіяў, якія ў 1937 годзе дасягнуў свайго эпагею. Што адчуваў Хвядос Шынклер, калі адзін за адным зьнікалі ягоныя старыя і новыя знаёмыя, абвешчаныя «ворагамі народа»? З бабруйскага літаратурнага асяродка былі арыштаваныя Барыс Мікуліч, Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі, зь «лімаўскага» — Ян Скрыган ды многія іншыя. Што ён адчуваў, калі пад нож пайшла

новая тэхнічная інтэлігенцыя — інжынеры-чыгуначнікі, сувязісты, электрыкі? Што адчуваў Хвядос Шынклер са сваім прозьвішчам, калі сталінская каса пачала касіць асяродкі палякаў і немцаў?

Мяркую, што страх панаваў у ягонай душы. І ён са сваім непралетарскім паходжаньнем з усіх сілаў у сваёй дзейнасьці і творчасьці імкнуўся даказаць і паказаць сваю гранічную шчырасьць і адданасьць савецкай уладзе і камуністычным ідэалам. І ён штодня чакаў арышту, адчайна баючыся хоць рухам, хоць словам выдаць гэты свой усёабдымны страх.

Хвядос Шынклер перажыў 1937 год, ягоная тактыка знарочытай, паказушнай адданасьці савецкай уладзе дала свой плён, хаця яна дапамагала далёка не ўсім. Яму пашанцавала выжыць. Але за гэта ён мусіў заплаціць высокі кошт. Ён мусіў даастатку вытруціць усё жывое ў сваёй творчасьці, ён мусіў забіць у сабе пісьменьніка, пакінуўшы жыць ідэалагічнага работніка. Парадаксальна, але рэпрэсаваныя знаёмыя Хвядоса Шынклера, якія заплацілі доўгімі гадамі зьняволеньня за тое, што хацелі быць і былі беларускімі пісьменьнікамі, засталіся ў беларускай літаратуры. Барыс Мікуліч адсядзеў у ГУЛАГу дзесяць гадоў і здолеў напісаць пра перажытае ўспаміны. Яны зьяўляюцца праўдзівым і трагічным творам беларускай літаратуры другой паловы 40-х гадоў. На жаль, неўзабаве ён памёр, пакінуўшы здароўе ў сталінскіх лагерах. Сяргей Грахоўскі адсядзеў яшчэ большы тэрмін — і выйшаў з ГУЛАГа толькі пасьля сьмерці Сталіна. Але ён здолеў яшчэ раскрыцца і рэалізавацца як цудоўны паэт і празаік. І ягоныя ўспаміны пра пакутніцкі шлях зьяўляюцца набыткам нашай літаратуры. Стаў добрым празаікам пасьля шматгадовага зьняволеньня і Ян Скрыган. Лаканічны і ашчадны ў словах і фарбах, ён не дазваляў сабе ніводнай фальшывай ноты ў напісанай прозе.

Але гэта будзе пазьней.

Пачалася вайна. 25 чэрвеня 1941 года Хвядосу Шынклеру разам зь сям’ёй удалося выехаць з палаючага Менска.

Спыніліся яны на Урале, у Сьвярдлоўску. Зь беларускіх знаёмых там нікога не было. 2 кастрычніка 1941 года Х. Шынклер пісаў: «Я тут адзін. Працую на тэлеграфе, узгадаў старую, кінутую 14 гадоў таму сьпецыяльнасьць. Быў пару дзён Маўр, не затрымаўся, накіраваўся ў Алма-Ату».

У кнізе ёсьць здымак Сьвярдлоўскага цэнтральнага паштамта, пабудаванага ў стылі канструктывізму: строгія прастакутныя абрысы будынка, дэкараваньне фасадаў адбываецца коштам разнастайных па форме вокнаў. Углядаюся ў гэты будынак, і ён падаецца мне знаёмым. Амаль увесь 1986 год я служыў у савецкім войску ў артылерыйскай часці, якая стаяла на ўскраіне Сьвярдлоўска. І калі мы хадзілі ў звальненьне, а такое здаралася раз ці два разы на месяц, мы сноўдаліся па горадзе, часам забрыдаючы і ў цэнтр. Сьвярдлоўск запомніўся мне канструктывісцкімі будынкамі. Пэўна, што я хадзіў і каля паштамта, а можа быць, нават і заходзіў у яго. Калі б я тады ведаў, што буду пісаць гэтае эсэ, то дакладна зьвярнуў бы на будынак большую ўвагу.

Працуючы тут, Хвядос Шынклер напісаў аповесьць аб працы тэлеграфістаў «Пульс жыцьця». Напісаная ў форме дзёньніка лёгкім публіцыстычным стылем аповесьць, асабліва напачатку, мае пэўную мастацкую вартасьць. Вось чалавек, закінуты вайною на Урал, ідзе працаваць тэлеграфістам. І нікому тут ягоныя здольнасьці літаратара не патрэбныя і не цікавыя. Савецкай краіне ў гэты момант патрэбныя салдаты, можа быць, трохі — тэлеграфісты, але не літаратары.

Хвядос Шынклер апісвае стасункі паміж тэлеграфістамі, сутнасьць іхняй працы, суперажывае той інфармацыі, якая праходзіць праз яго рукі. Але хутка эфект дзёньніка разбураецца, галоўны герой, чытаючы тэлеграмы, выкрывае шпіёна. Чыстай агіткаю выглядае перапіска тэлеграмамі братоў Колчыных, адзін зь якіх шахцёр, а другі — аўтаматчык на фронце. Яны ладзяць паміж сабой спаборніцтва: «Мікалай Колчын паведамляў брату: “Лік прадаўжаю. 94 гітлераўскія мярзотнікі склалі галовы пад маімі кулямі. Берагу аўтамат, міма не страляю”». Сьцяпан Колчын у адказ выканаў шах-

цёрскую норму на 350 працэнтаў. Вось такім сацыялістычным спаборніцтвам з крэсла тэлеграфіста ўяўлялася пісьменьніку вайна...

Захаваўся здымак Хвядоса Шынклера ў Сьвярдлоўску. Яму 38 гадоў, ён у сваім нязьменным гарнітурчыку пад гальштукам, з глыбокімі стомленымі вачыма, схуднелы і без сваіх заўсёдных вусікаў. Зразумела чаму, бо такія самыя, як аказалася, насіў і Адольф Гітлер.

Жывучы ў Сьвярдлоўску, Хвядос Шынклер спрабуе аднавіць сувязь зь беларускімі пісьменьнікамі. Ён піша Янку Купалу. Замест Я. Купалы адказвае ягоная жонка Уладзіслава, спасылаючыся на тое, што Купала «цяжкі на пад’ём». Можа, так яно і было, а можа, Купала проста не пажадаў пісаць. Затое адгукнуўся Васіль Вітка, які працаваў у газеце «Савецкая Беларусь», што выходзіла тады ў Маскве. В. Вітка піша Хвядосу, што «зараз пытаньне стаіць аб зьбіраньні кадраў усіх, у тым ліку — пісьменьнікаў і журналістаў. Мы з Кузьмой Чорным ужо ставілі аб тым пытаньне».

У красавіку 1942 года Хвядосу Шынклеру ўрэшце прыходзіць чаканая тэлеграма: «Выязджайце Маскву Цэка партыі пастаянную работу сакратар Цэка Беларусі Гарбуноў»

Але ў гэты час Хвядос Шынклер ужо быў у... войску.

У канцы сакавіка 1942 года Хвядос Шынклер, як піша А. Лысенка, маючы белы білет, «добраахвотнікам» быў прызваны ў войска. Яго пасылаюць вучыцца ў пяхотную вучэльню ў г. Кіштым Чалябінскай вобласьці, што недалёка ад Сьвярдлоўска. Але пісьменьнік не пакідае спадзяваньня на перавод у Маскву. У лісьце да жонкі ён піша: «Быў у камісара з тэлеграмаю. Яна, вядома, цяпер нічога не вартая. Буду пісаць Міхасю (М. Лынькову. — ***А. Б.***). Трэба фарсіраваць, калі ён зможа гэта зрабіць». Бачна, што «добраахвотнасьць» Хвядоса Шынклера пры прызыве ў войска мела прымусовы характар, але зьмяніць ужо што-небудзь было вельмі цяжка, калі не немагчыма зусім.

Хвядос Шынклер вельмі хвалюецца за сям’ю, за маленькую дачку Ірыну, якая нарадзілася ў 1940 годзе і якую ён

называе Анай-Кікі: «Амаль паўмесяца няма ад вас лістоў. Я страшна хвалююся, ёсьць хвіліны, калі месца сабе не знаходжу. Чаму вы маўчыце, пазбаўляеце мяне адзінай радасьці? Хоць пару слоў — і мне лягчэй будзе, дні будуць весялейшымі».

Пры цяжкіх нагрузках, калі курсанты знаходзіліся, як піша Хвядос Шынклер, «на становішчы радавых ды яшчэ жарстчэй у дзесяць разоў», ён сур'ёзна захворвае. Пісьменьніка кладуць у бальніцу, зьбіраюцца рабіць аперацыю. Але галоўурач вырашае яе адмяніць, бо тады на лячэньне пайшоў бы ўвесь час вучобы. У Хвядоса Шынклера знайшлі склероз сэрца і міякардыт. Ён піша жонцы Ксеніі: «не здаючыся ўсё ж хваробам, я сёньня хадзіў на заняткі. Вынік варты жалю — боль і цяжка хадзіць, задыхаюся... не ведаю, чым гэта скончыцца...» У траўні 1942 года адбылася медыцынская камісія. Пісьменьнік піша жонцы: «Быў я 9/V на камісіі, учора даведаўся вынік: пакінуты ў страі».

Хвядос Шынклер працягвае спадзявацца на М. Лынькова і В. Вітку. Але спадзяваньні марныя. Ён з горыччу паведамляе жонцы: «Меў паштоўку ад М. Лынькова. Ён піша: “Шкада, што гэтак бязглузда атрымалася з табой. Што-небудзь паспрабуем зрабіць, але каб сказаць тут што-небудзь пэўнае, дык не бяруся”. Я яму напісаў яшчэ ліст». Далей у кнізе — скарачэньне. Можна здагадацца, што ўкладальнікі кнігі апусьцілі крыўдлівае выказваньне Хвядоса пра свайго былога літаратурнага і ідэйнага бацьку.

Хвядос Шынклер на сабе адчуў жорсткасьць і бяздушнасьць армейскай машыны, якая зусім не зважала ні на ягоныя прафесійныя здольнасьці, ні на здароўе. Жыцьцёвая практыка моцна разыходзілася з той разумнай і рацыянальнай тэорыяй, якую ён прапагандаваў у сваіх творах.

Я адчуў гэтую сьляпую сілу вайсковай бюракратыі на сваёй скуры ўжо ў 80-я гады «разьвітога сацыялізму», бо ў мірны час (калі не лічыць вайну ў Афганістане) мяне, асьпіранта Інстытута літаратуры Акадэміі навук, забралі ў войска і накіравалі ў вучэбку ў Сьвярдлоўскую вобласьць, у мястэчка

Ялань, дзе я быў вывучаны на... механіка-вадзіцеля самаходнай гарматы і браніраванага цягача.

Хвядоса Шынклера ўсё яшчэ не пакідаюць надзеі на ўлік ягоных уласных якасьцяў пры далейшым лёсе. Ён піша жонцы: «Хочацца стаяць цьвёрда на сваіх нагах і папрацаваць са сваёй ініцыятывай». Ён супакойвае жонку, а мабыць, і сябе: «Цімоша (В. Вітка. — ***А. Б.***) піша, што ў іх шмат гавораць пра Дзюку, робяць усё неабходнае, каб забраць да сябе, і гэта, пэўна, будзе зроблена».

Пасьля заканчэньня чатырохмесячных курсаў вайсковай вучэльні малодшы лейтэнант Хвядос Шынклер у верасьні 1942 года быў накіраваны ў лінейную часць, якая фармавалася тут жа, на Урале, у вёсцы Кур'я. Здароўе ў яго гэткае ж благое, ён скардзіцца жонцы: «...хадзіць цяжка. Пайду на днях да хірурга. Няхай дасьць бандаж ці дапаможа чым іншым».

Ізноў паўстае пытаньне пра аперацыю і пра камісаваньне Хвядоса Шынклера з войска. Але лёс і камандзіры распарадзіліся па-іншаму. 30 верасьня 1942 года ягоная часць выехала на захад. Цягнік без супынку праязджае Сьвярдлоўск. Хвядос піша з дарогі жонцы: «Крыўдна, так шкада, што не пабачыўся з вамі».

Гэта было апошняе падарожжа Хвядоса Шынклера па чыгунцы, якую ён так любіў. Лёс напасьледак падараваў яму гэтае тысячакіламетровае падарожжа праз лясы, палі і масты, насустрач непазьбежнай сьмерці. 13 кастрычніка ён дасылае апошнюю паштоўку жонцы, у якой паведамляе: «Усё яшчэ ў паходзе... цяжка мне без вас... і ўвесь час у думках я з вамі. Беражыце маіх рабятак, нагадвайце ім пра татку, і яму будзе лягчэй».

Вайсковая часьць Хвядоса Шынклера была накіравана пад Сталінград. У гэты час там ішла адна з найбольш крывавых бітваў Другой сусьветнай вайны. Я не ведаю, ці пасьпеў малодшы лейтэнант, беларускі пісьменьнік Хвядос Шынклер паваяваць хоць два-тры дні, ці ён быў забіты ў першы ж дзень, у першым жа баі. Урэшце, гэта не мае ніякага зна-

чэньня. З усіх здольнасьцяў Хвядоса Шынклера ў гэтыя дні спатрэбілася толькі адно — пайсьці па загадзе і памерці. Гэты хворы немалады ўжо інтэлігентны чалавек, пісьменьнік, які так аддана даказваў савецкай уладзе сваю патрэбнасьць, які гэтак актыўна ўдзельнічаў у фармаваньні чалавека нова-га тыпу, апантанага савецкім патрыятызмам, павінен быў пакласьці на алтар уласнае жыцьцё...

25 кастрычніка 1942 года камандзір узвода 1-й роты 93-й асобнай стралковай дывізіі малодшы лейтэнант Хвядос Шынклер загінуў пад Сталінградам на вышыні 95,9 каля пасёлка Бекетаўка.

*P. S.* Праз год, 15 верасьня 1943 года загіне сямнаццаці-гадовы сын Хвядоса Шынклера Юры, які добраахвотнікам пайшоў на фронт...

*Жодзіна, турма № 8.*

## «СЬВЕТЛЫ СМУТАК ПА ВЕЧНАЙ РАДЗІМЕ»

### *Нататкі пра зборнік Сержука Сыса «Стрэмка»*

Пяцьдзясят гадоў — зеніт чалавечага жыцьця. Час падводзіць вынікі. Хаця ў кожнага чалавека — па-markрознаму. Паўтара стагодзьдзі таму паўвека чалавечага жыцьця былі ўжо старасьцю. Так вось Яна Баршчэўскага, аўтара «Шляхціца Завальні», Р. Падбярэзскі называе «дзядком». І Янка Купала, якому не было яшчэ і сарака пяці гадоў, перадае паходню беларускасьці наступнаму, маладому пакаленьню. Ды і якасьць жыцьця за апошнія гады зьмянілася. Гэтаксама багата што залежыць ад унутранай энергіі чалавека, ягонай прагі да спазнаньня гэтага сьвету. І ўсё ж пяцьдзясят гадоў — гэта такі рубеж, які так проста не перамахнеш.

Чаму я пачаў свае нататкі з такіх развагаў? Ды таму што хутка ўжо, праз два месяцы ад часу, калі я пішу гэтыя радкі, пяцьдзясят гадоў будзе ўжо і мне. Мае сябрукі і прыяцелі, мае аднагодкі, маё пакаленьне адзін за другім бяруць гэты рубеж: Сяргей Дубавец, Віктар Івашкевіч, Барыс Пятровіч, Язэп Янушкевіч, Вінцук Вячорка, Славамір Адамовіч, Анатоль і Васіль Дэбішы і іншыя.

У гэтым, 2012 годзе 50-гадовы юбілей адзначыў і мой стары, можна сказаць, старажытны сябра Сяржук Сыс. Да ягона-

га юбілею выйшла першая кніжка ягонай паэзіі «Стрэмка», якая ўвабрала ў сябе выбраныя вершы. Ішоў да гэтай кніжкі ён доўга. Дасюль у яго магло быць ужо і некалькі кніжак, прынамсі, напісаных Сержуком вершаў хапіла б на іх. Але магло быць і так, што і гэтая кніжка не зьявілася б. Чаму? Дзеля гэтага трэба ведаць характар, натуру майго сябра Сержука. А натура і тэмперамент у яго — о-го-го! Яшчэ тыя.

Пазнаёміліся мы зь ім тады, калі паступалі на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага ўніверсітэта. Лета далёкага 1979 года было гарачым. Мы пасьля 10 класаў, ён — Засьпенскай вясковай школы, я — сьветлагорскай гарадской. Нам па 17 гадоў. Мы абодва кучаравыя з даўгаватымі валасамі па тагачаснай моладзевай модзе. Ён — чорнавалосы, смуглявы, каравокі, як цыган, я — блакітнавокі, беласкуры з попельнымі кудзерамі. Была яшчэ і трэцяя шатэністая галава сярод абітурыентаў — Едруся Акуліна. Мы, кучаравыя, сябравалі ўтрох.

Пісаць пра сябра, зь якім мы сябруем зь 17 гадоў, гэта ў значнай ступені пісаць пра самога сябе. І яшчэ адное, што апрача ўзросту, кучаравых галоваў і паступленьня аб'ядноўвала нас, — любоў да прыгожага пісьменства. Едрусь ужо бачыў сябе паэтам. Ён друкаваўся ў «Бярозцы» і нават твор на ўступных іспытах па беларускай літаратуры ва ўніверсітэт напісаў у выглядзе зрыфмаванай паэмы. Сяржук і я таксама пісалі вершы. Ён ужо па-беларуску, я яшчэ па-расейску, але зь цьвёрдым намерам перайсьці на беларускую. Дзеля беларускай мовы, якую я хацеў дасканала вывучыць, уласна, я і паступаў на беларускую філалогію. У хлопцаў з гэтым было лепей. Яны зь дзяцінства размаўлялі па-беларуску і вучыліся ў беларускіх школах. Я ж у апошніх класах у школе з прычыны адсутнасьці беларусіста ў маёй сьветлагорскай школе № 5 урокі беларускай мовы пераважна прагуляў у футбол. Таму я паехаў паступаць у Гомель, а не ў Менск, бо тут, у Гомелі, конкурс быў меншым, усяго два чалавекі на месца.

Усе ўтрох мы займаліся на месячных падрыхтоўчых курсах, дзе я падцягваў беларускую мову, там мы і пазнаёміліся.

Твор на беларускай мове я напісаў на тройку і быў шчыра рады, бо з маім тагачасным веданьнем мовы і гэта было за шчасьце. Твор па рускай літаратуры напісаў на чацьвёрку, а беларуская літаратура вусна і гісторыя СССР былі здадзеныя на пяцёркі. Гэтага разам са школьным атэстатам зь сярэднім 4,5 хапіла, каб паступіць. Дзесьці прыкладна гэтаксама паздавалі й хлопцы. Быў моцна расчараваны Едрусь, якому за памылкі па пунктуацыі ў ягоным вершаваным творы ўляпілі трайбана.

Якое адчуваньне ў мяне было пасьля знаёмства з Сержуком Сысом, гэтым страшэнна жвавым хлопцам? Як быццам бы я сустрэў родную душу. Гэта было зьвязана і з тым, што ў школе апошнія два гады, калі я вызначыўся ў філалагічным накірунку майго далейшага разьвіцьця і адукацыі, я пачуваўся самотным. Маё захапленьне літаратураю, а да ўсяго яшчэ і беларускаю, з маіх школьных сяброў не падтрымліваў ніхто. Усе яны бачылі сябе «тэхнарамі».

Я, у якога дакладныя прадметы ішлі вельмі няблага, пры ўсёй патрабавальнасьці нашага матэматыка Уладзіміра Аліферчына, яшчэ ў 9-м па алгебры і геаметрыі меў пяцёркі, ужо ў 10-м класе перастаў іх вучыць і захапляўся Багдановічам і Караткевічам. Мы вельмі добра сябравалі ў апошнія школьныя гады, хадзілі разам танчыць на дыскатэкі, купацца на Бярэзіну, піць «чарніла» ў недалёкія сасоньнікі, але адчуць узаемную радасьць ад спазнаньня магіі слова, узаемнае захапленьне я змог толькі тут.

Напачатку верасьня мы са сваіх хатаў і кватэраў прыехалі ў Гомель вучыцца. Інтэрнат першакурсьнікам не давалі. Едрусь уладкаваўся на кватэры ў роднай цёткі, якая працавала тады ў гандлі і забясьпечвала яго дэфіцытнай вопраткай, а мы зь Сержуком ліхаманкава шукалі кут, каб прытуліцца. Першыя ночы я ўвогуле начаваў на гарадскім аўтавакзале. Урэшце ён усё ж такі неяк уплішчыўся ў інтэрнат на вуліцы Кірава, не ведаю, па якім блаце гэта яму ўдалося, я зьняў прахадны пакойчык у прыватнай хаце, варыў на абед штодня бульбу з лупінамі і паліў торфабрыкетам грубку.



Сяржук Сыс. Хойнікі, 1980 год

Цяжка патлумачыць унутраную роднасьць сяброўскіх душаў, якая ёсьць у адзінстве поглядаў, у камфортнасьці ўзаемных стасункаў. Самае, мабыць, істотнае тое, што вы неўсьвядомлена аднолькава ўспрымаеце сьвет і ад вас сыходзяць аднолькавыя флюіды, якія можаце ўспрымаць і адчуваць толькі вы. Вы жывяце на адной хвалі, нягледзячы на вашу, здавалася б, істотную розьніцу ў характарах.

Я б не сказаў, што нашыя стасункі былі заўсёды роўнымі. Сяржук быў неверагодным жэўжыкам, энергія зь яго валіла праз край. Яму ні хвіліны не сядзелася на месцы, ён увесь час шукаў нейкіх прыгодаў, а часта і самі прыгоды знаходзілі яго. Зь ім немагчыма было штосьці планаваць напэўна, сустракацца штодня і размаўляць на гарачыя тэмы ці абмяркоўваць прачытаныя кніжкі. Ён то зьяўляўся, і тады можна было размаўляць гадзінамі, то зьнікаў на дні ці нават на тыдні па нейкіх сваіх пільных справах, зьяўляючыся толькі на вучобу. Тым не менш менавіта зь ім мы зьдзейсьнілі свой першы грамадзянскі ўчынак, першы свой вопыт спазнаньня беларушчыны. Скончыўшы першы семестр і паздаваўшы іспыты, атрымаўшы стыпендыі, у лютым 1980-га на зімовыя вакацыі мы зь Сержуком купілі агульныя квіткі на цягнік і паехалі ў Крым, у Ялту, пакланіцца магіле Максіма Багдановіча. Мы былі ў захапленьні ад ягонай паэзіі, нам было страшэнна шкада яго, памерлага такім маладым. Туды мы ехалі, лежачы на трэціх паліцах, гаманілі з маладымі дзяўчатамі, ды так і прагаманілі ўсю дарогу. Дабраўшыся зь Сімферопаля да Ялты па горнай дарозе на тралейбусе, мы пайшлі ў першы гатэль, які трапіўся нам на вочы, — «Крым». Было ўжо цёмна, імжыла. На дзіва, былі вольныя месцы, мабыць таму, што ўсё ж гэта быў далёка не сезон. Мы засяліліся, заплацілі не такія ўжо вялікія грошы. Выйшлі ў бліжэйшую краму, купілі па маленькай двухсотграмовай пляшачцы салодкага марачнага «Какуру», вярнуліся ў нумар і пілі яго маленькі каўткамі. Пасьля беларускага пладова-ягаднага папулярнага «чарніла» «Какур» здаваўся райскім напоем.



Алесь Бяляцкі, Едрусь Акулін, Анатоль Сыс у будатрадзе.
Бабчын, 1980 год

Памятаю гэтае ўнутранае задавальненьне, што вось — задумалі і зрабілі! А назаўтра быў сум, навеяны старымі могілкамі, шэрым сутонлівым надвор'ем, расшуканаю намі сьціплаю магілкай паэта зь невялікай шэрай пірамідкай з пабітага імхом і часам пясчаніку, з надпісам на ім, зробленым «няправільнаю тарашкевіцаю». І высокія чорныя змрочныя кіпарысы, і дзіўныя пальмы на гарбатых вуліцах Ялты, і царква, дзе адпявалі Максіма Багдановіча, і набярэжная, дзе нясьпешна прагульваліся адпачывальцы. Мы сквапна разглядалі ды імкнуліся запомніць убачанае. Першы раз у жыцьці бачыў я мора. Стаялі ля берага прычаленыя драўляныя шхуны з голымі мачтамі. На адной зь іх быў рэстаран. Мы ўзьняліся на яе, выпілі па кілішку віна. Мы прабылі ў Ялце двое ці трое сутак. Грошы скончаліся. Мы пайшлі на вакзал, адстаялі вялізную чаргу, і нам пашанцавала адразу купіць зваротныя квіткі. Ехалі мы назад ізноў у агульным вагоне, набітым, як селядцамі, марачкамі-дэмбелямі. Сярод іх было багата латышоў, якіх чамусьці паслалі служыць са свайго Балтыйскага на чужое Чорнае мора.

Мяркую, што нашая паездка ў Ялту была вынаходкаю Сержука Сыса для ўсьведамленьня сваёй індывідуальнасьці, для станаўленьня свайго асабістага творчага «я».

Улетку 1980 года, пасьля летняй сесіі, зборнай камандаю гісторыкаў, філолагаў і матэматыкаў паехалі ў будатрад у Хойніцкі раён, у вёску Бабчын, будаваць цагляныя дамкі. З гэтага будатрада захаваўся ў мяне адзін памятны фотаздымак, дзе мы ўтрох: Толік Сыс, Едрусь Акулін і я — нахілілі жалезную бочку і выліваем зь яе бетонны раствор у падмурак аднаго з гэтых дамкоў. Дзесьці побач працаваў і Сяржук Сыс.

Мы жылі ў актавай зале сярэдняй школы, на якой вісела шыльда ў гонар Станкевіча-Палескага, партыйнага чыноўніка і пісьменьніка, які быў родам з Бабчына і, хутчэй за ўсё, дапамагаў пабудаваць гэтую школу. Побач стаяў будынак старой, яшчэ дарэвалюцыйнай школкі з чырвонае цэглы, у якім месьціўся вучнёўскі інтэрнат, а каля асфальтавай дарогі расьлі вялікія нічые вішні. Так атрымалася, што, самі



Віктар Ярац, Валянціна Бандарэнка, Едрусь Акулін, Алесь Бяляцкі, Віктар Сьцешыц і Ліда Кукштэль. Стаяць: Міхась Хацяновіч, Сяржук Сыс і Анатоль Кавалёў. Гомельскі ўнівэрсітэт, 1980 год

таго не хочучы, Сяржук Сыс, Едрусь Акулін і я нарабілі ў гэтым будатрадзе гвалту, які перавярнуў нашае аднастайнае працоўнае жыцьцё.

Натуральна, мы тады не ведалі, што адсюль родам прэм’ер Беларускай Народнай Рэспублікі ў эміграцыі, сталінскі вязень, літаратар і гісторык Яўген Калубовіч, які вучыўся тут у педтэхнікуме і якога разам з іншымі хлапчукамі-студэнтамі арыштавалі яшчэ напачатку 30-х гадоў за антысавецкую беларускую дзейнасьць. Таксама мы не ведалі, што адсюль родам паэт Мікола Мятліцкі, які ў гэты час у Менску пачынаў масьціць сваю літаратурную кар’еру. А вось зь ягоным стрыечным братам, як потым аказалася, мы пазнаёмі-

ліся аднойчы ўвечары, калі Сяржук, Едрусь і я сядзелі каля цяпельца разам з маладзенькімі бабчынскімі дзяўчатамі і гаманілі пра штосьці. І раптам узьнік гэты стрыечнік Мятліцкага Міколы, які абурыўся такой ідылічнай карцінай: як так — чужыя хлопцы і тутэйшыя дзяўчаты! У выніку ён раскідаў нашае цяпельца, схапіў за руку і зьвёў адну зь дзяўчат, за што літаральна празь некалькі хвілінаў быў дагнаны і крыху павалтужаны. Запомніў ён, як самага прыкметнага, Сержука Сыса, і хутка разгарэлася супрацьстаяньне паміж мясцовымі хлопцамі і будатрадаўцамі. Затым быў набег тутэйшых хлопцаў на нашую стаянку ў актавай зале школы. Шукалі Сержука. І, каб прыхаваць яго, палова будатарада, у тым ліку і Анатоль Сыс, і Едрусь, і я, і, натуральна, сам Сяржук, калі паехалі мыцца ў хойніцкую лазню, заадно і пастрыгліся налыса. Між тым эскалацыя канфлікту працягвалася, хутка разрасталася. Да бабчынскіх мсьціўцаў далучылася моладзь з суседніх вёсак, што прыязджала на дапамогу землякам, стоячы ў кузавах бартавых «ЗіЛоў». А да нас далучыўся будатрад з Мазырскага педінстытута, які таксама нешта будаваў у Бабчыне. Урэшце на Сержука бабчынскімі хлопцамі было абвешчана паляваньне. Яго гналі, як зайца, па школе, і ён ледзь уцёк праз запаснное выйсьце спартзалы. А ўвечары, каб паквітацца, мы аб’яднанымі студэнцкімі сіламі атакавалі і акупавалі мясцовы сельскі клуб. Дзеля спыненьня вайны і захаваньня ўласнага здароўя Сяржук патаемна і сьпехам пакінуў негасьцінны Бабчын. Тутэйшыя хлопцы супакоіліся. Іх адпусьціла.

Так што ў студэнцкія гады нашага сумеснага навучаньня там, дзе быў Сяржук Сыс, там заўсёды здараліся нейкія прыгоды. Вось, памятаю суботнік у інтэрнаце на Кірава. Я ўжо жыву там зь першакурсьнікам Анатолем Казловым. Мы цягаем нейкае будаўнічае сьмецьце да запаснога ўвахода інтэрната і звальваем яго ў ворах. Побач стаіць бартавы «ЗІЛ», на які гэтае сьмецьце трэба загрузіць. Машыну трэба падагнаць бліжэй, але кіроўца недзе падзеўся, ключы тырчаць у замку запальваньня, матор пачынае раўсьці, і «ЗІЛ» порстка скача

ўзад і ўразаецца ў гэтую кучу сьмецьця. З кабіны вылазіць прыгаломшаны Сяржук. Дзьве заднія дошкі драўлянага кузава пераламаліся. Мы на хуткую руку папраўляем іх, мо кіроўца не заўважыць...

Мы хадзім разам ва ўніверсітэцкі гурток на ярцаўскую «Крынічку». І вось там я ўпершыню чую гэты верш, які распачынае Сержукоў зборнік вершаў:

У горадзе шэрым,
квадратна-кубічным,
усьцяж паралельным
і скрозь сіметрычным,
дзе сьціплае сонца
з-за гмахаў зьвісае
і промні, што дзіды,
туман прабіваюць,
дзе коміны неба
паранілі дымам,
дзе пахне мазутам,
іржой і бензінам,
скрозь панцыр асфальту,
праз тоўшчу бетону,
прабіўся да сонца
парастак
клёна.

Ярац хваліць яго і падтрымлівае Сержука: пішы далей. Толік Сыс крытыкуе. Ад таго дабіцца пахвалы амаль немагчыма. А верш, між іншым, атрымаўся праграмным. Таму, мабыць, і зьмясьціў Сяржук Сыс яго ў сваю «Стрэмку». Гэта ж мы — тыя самыя парасткі клёна, прабіліся ў чужым горадзе. У зрусіфікаваным і наскрозь савецкім тагачасным Гомелі. А ці моцна ён зьмяніўся з тых часоў? Горад, ані Гомель, ані Менск затым, так і не стаў для Сержука Сыса чымсьці прымальным, камфортным і ўтульным. І чым даўжэй ён жыў у горадзе, тым больш разумеў гэта: «Са мной, нібыта стрэмка пад скураю, падарожнічаў Смутак... Мой сьветлы Смутак па маёй вечнай Радзіме».

Пасьля будатрада, у верасьні, мы выбіраемся ў падарожжа. Я прыдумаў прайсьці Гомельскую вобласьць з усходу на захад. Ідуць Сяржук Сыс, Міхась Хацяновіч, наш аднакурсьнік, і я. Ідзём моцна нагружаныя па прыкладным маршруце. У дарогу захапілі цяжкі брызентавы намёт, ватнія спальнікі, узятыя ў пракаце, а таксама яшчэ нейкія непатрэбныя рэчы. У першую ж ноч Сяржук ганарыста ўключае вялікі ліхтар зь цяжкім акумулятарам. Той ярка сьвеціць некалькі хвілінаў, а затым сьвятло міргае і ўрэшце гасьне. Аказваецца, акумулятар не зараджаны.

Дні яшчэ сьпякотныя, нам горача, нам смажыць. Стаіць беларускі верасень, прыгожыя гароды, на якіх людзі выбіраюць картоплі; валяюцца, як лянівыя парсюкі, крутабокія гарбузы; стаяць чароўныя лясы зь першымі залатымі маністамі лісьця. Мы просім у людзей вады. Нам ахвотна даюць. Мы спазнаём нашую Беларусь. Да нас прыбіваецца нейкі заблуканы паляўнічы сабака. Мы падкормліваем яго. Ён весела носіцца вакол нас па лесе, кругам ідзе ягоны брэх, мабыць, ганяе нейкіх птушак і зайцоў. Часам ён падбягае да нас і, пэўна, дзівіцца, чаму гэта мы не страляем. А затым, калі мы ідзём паўз нейкую млявую ў верасьнёўскай нерухомасьці вёску, ён прыносіць нам зачаўленае куранё. І цяпер мы ўжо подбегам, не зважаючы на гарачыню і стому, шыбуем зь вёскі, пакуль людзі не пабачылі і не ўзьнялі гвалт.

Па начох ужо холадна. Вопратка, што мы ўзялі з сабой, не грэе. Мы дрыжым-трусімся, тулімся ў цяжкай дрымоце адзін да аднаго. Цяжкія ночы зьмяняюцца дзіўнымі па прыгажосьці сонечнымі, сухімі верасьнёўскімі днямі. І ўсё ў прыродзе наталяецца гэтым гарачым сонцам; выпрацоўвае апошні хларафіл цёмна-зялёнае лісьце бярозавых гаёў, смарагдамі зелянеюць цяжкія пасмы травы, чырвонымі гулькамі дасьпяваюць апошнія памідоры. Мы адаграёмся зранку і ідзём ляснымі дарогамі на захад.

Вось мы ўваходзім у вёску і бачым сінюю пафарбаваную драўляную царкву. Мабыць, нейкае сьвята, бо царква адчыненая. Мы скідаем цяжкія пляцакі і заходзім усярэдзіну.

Пахне ладанам, прахалодна. Шырачэзныя, на паўметра, масьніцы, сядзяць на лаўках пры сьцяне зь дзясятак бабулек, з царскіх варотаў зьяўляецца малады чарнагрывы сьвятар. Ён паглядае на нас гарачым позіркам сваіх чорных вачэй, а мы паглядаем на яго, нам цікава.

Па дарозе мы зьбіраем ягады і грыбы, урэшце дабіраемся да пераправы праз Дняпро. Высокі бераг, чырвоная, суцэльным пластом, гліна. Сяржук з захапленьнем расказвае, што такія чырвоныя гліняныя стромы можна ўбачыць толькі тут, на Дняпры. Пазьней ён напіша пра Дняпро не адзін верш, бо «У час, калі маімі былі рэкі, я ў спадчыну Радзіму атрымаў».

Праз раку нацягнуты сталёвы трос, паўзь які ходзіць на другі бераг паром. Мы сядзім, адпачываем і чакаем іншых пасажыраў. Урэшце кранаемся. Наш прыблудны сабака застаецца на беразе, на паром ён не пайшоў. А мы ідзём далей.

І вось на чацьвёрты дзень паходу мы прачынаемся зранку задубелыя і зьнясіленыя. Сон не падмацаваў нас. У Сержука тэмпература, і ён дрыжыць, як цуцык. Міхась нацёр скуру паміж ног, і кожны крок даецца яму з болем, ён ідзе раскаракаю. Мы вырашаем спыніць паход. Ловім на шашы грузавую машыну з брызентавай будкаю, якая едзе да Гомеля, закідаем туды транты, залазім самі і валімся на пляцакі, зьняможаныя. І вось неўзабаве мы ўжо ў Гомелі, можам вымыцца, пад’есьці, паляжаць у чыстых ложках. Мы прайшлі недзе трацiну вызначанага маршруту. Але ж ці быў гэты паход няўдалым і дарэмным? Думаю, што не. Бо мы ж самі на свой розум і капыл, як умелі, спазнавалі Беларусь і нашае асабістае месца ў ёй. Увесь першы і другі курс навучаньня ішло гэтае паступовае высьпяваньне, напачатку спантанныя, а пасьля і сьвядомыя яе пошукі.

На першым курсе мы патрапілі на фальклёрную практыку ў Жыткавіцкі раён. З намі таксама езьдзілі два выкладчыкі. Вясёлы, малады і картавы Літвінаў і пахмурны, вечна незадаволены Уладзімір Каваленка. Зь першага багата кпілі і лічылі хутчэй за старэйшага прыяцеля, а другога не любілі. Літвінаў замест «л» выгаворваў «р». І Толік Сыс, які любіў

розныя сьмешныя анекдоты, распавёў нам, што за пару гадоў перад гэтым, калі іх вазіў на практыку, дык першае, што сказаў, калі прыехалі, было: «Раскладайце чамаданы, я прайдуся па сялу». З-за ягонай картавасьці прагучала зусім іншае, і ўся група пакацілася ад сьмеху. Літвінаў прыехаў разам з намі, а празь дзень на «Запарожцы» прыкаціў Каваленка. У гэты час Сяржук ад лішку пачуцьцяў скакаў па школьным даху, дзе мы былі спыніліся. Убачыўшы знаёмы «Запарожац» Каваленкі, ён скаціўся па даху і абвясьціў нам пра гэта.

Пасьля гэтай практыкі я вельмі палюбіў беларускую народную песьню. Празь нейкі час, пазычыўшы на кафедры пераносны стужкавы магнітафон, я паехаў у вёску да маёй бабулі па маці Соні (Сафіі) у вёску Будніцкі Двор Нараўлянскага раёна. Дык вось са мною за кампанію паехаў Сяржук Сыс. Бабуля, ад якой я перад гэтым не чуў аніводнай песьні, напачатку ніякавела і саромелася, а потым нечакана расьпялялася. На песьні ў яе была вельмі добрая памяць, і яна сьпявала нам зь невялікімі перапынкамі два дні. Прыходзіла да яе баба Аляксандра, яе родная сястра, і таксама дапамагла ёй узгадаць яшчэ некалькі песень.

Мы, захопленыя, сядзелі, слухаючы нашую спрадвечную беларускую песьню, якую сьпявалі беларускія жанкі з калена ў калена сотні і сотні гадоў. Тады бабуля Соня прасьпявала нам болей за сто песень. Мы вярталіся з гэтага незвычайнага канцэрта, зладжанага толькі для нас дваіх, уражаныя і ўзвышаныя. Мы ясна адчувалі, што дакрануліся да залатога беларускага слова, адшліфаванага вякамі, да старажытных славянскіх і праславянскіх яшчэ мелодыяў, водгукі і напевы якіх я буду пазьней лавіць у розных кропках славянскага сьвету. Мяркую, што рытмы гэтых песень, спрадвечны беларускі сьветапогляд не маглі не адбіцца на вершах майго сябра Сержука Сыса.

Не было чалавека на той час, з кім бы мне было так проста і лёгка, як зь Сержуком. Я таксама моцна сябраваў зь Едрусем Акуліным, але Едрусь заўсёды захоўваў сваю адмет-

насьць. Ён заўсёды быў іншым. А вось зь Сержуком мне часам здавалася, што мы аднолькавыя. Хаця зьнешне мы жылі розным жыцьцём. Я багата чытаў, самаадукоўваўся, адным словам, найперш быў «кніжным» хлопцам, і толькі затым, на другім месцы, былі для мяне розныя радасьці жыцьця. Для Сержука кніжка таксама не была чужою, рэгулярна і ён трымаў яе ў руках, але ягоная фантастычная жыцьцёвая энергія, радасная неўтаймаваная халерычнасьць выклікала бясконцы ланцуг розных гісторый і падзеяў, у большасьці сваёй захапляльных і бессэнсоўных. Я ў жыцьці не бачыў такога чалавека, які гэтак сьпяшаўся жыць. Эмоцыі і пачуцьці часта кіравалі ягонымі ўчынкамі. У тыя часы ён заўсёды быў закаханым, і часта прадметам яго абагаўленьня была не адна пасія, а некалькі, і не было аніводнае хвіліны, каб месца ў ягоным сэрцы, якое займала зямная муза, было пустым.

Пазрываныя зь неба ружы,
Адшуканыя ў полі зоры
І амаль звар'яцелае сонца,
Быццам дар, пакладу ля ног.
Разарвуцца сталёвыя «нельга»,
Сутыкнуцца дрыготкія пальцы
І амаль звар'яцелае сонца
Спаліць ветах нашых трывог.
Напачатку не хопіць слова,
Потым яго нават замнога,
І амаль звар'яцеламу сонцу
Не спазнаць глыбінь немаматы.
Ці такая, дальбог, нязбытнасьць —
Твая згода і кветкава-зорна,
І амаль звар'яцелае сонца,
Калі недзе ёсьць я і ты?

Хоць гэты верш і напісаны, відаць, пазьней, але вось гэтае «звар'яцелае сонца» я часта бачыў у Сержуковых вачах, урэшце, адна з гісторый каханьня прывяла яго да ўтра-

пеньня, калі ў інтэрнаце Гомельскага ўніверсітэта голымі рукамі ён, плачучы ад унутраных пакутаў, разьбіў ушчэнт некалькі вялікіх калідорных шыбаў.

Я памятаю гэтую карціну — вялікія вострыя аскепкі шкла, якія грудаю валяліся на розных паверхах інтэрната, з празрыстымі рагамі крыві і Сержука з рукамі па локаць у крыві. Бр-р-р-р! Такое мог утварыць, мабыць, толькі ён. У гэтым інтэрнаце на Кірава рабілася ўсялякае і рознае, але...

І няўмольная проза жыцьця ў выглядзе дэкана змусіла яго прыпыніць вучобу і ўвесну 1981 года сысьці ў войска. Дзесьці тады ім былі напісаныя наступныя радкі:

Я забіты.
Кроў мая — шыпшына
Паабапал змучаных дарог.
Я цябе, зямля мая, пакінуў,
Я цябе, Радзіма, не ўбярог...

Вось жа, сапраўды, пакінуў на два гады. Служыў Сяржук кіламетраў у трыццаці ад Ленінграда. Улетку 1981 года, калі мы паехалі ў свой чарговы будатрад на Пскоўшчыну, ізноў будаваць цагляныя дамкі, я, папярэдне напісаўшы яму, на выходныя сеў у цягнік і паехаў да Сержука на сустрэчу. Вядома ж, заадно хацелася паглядзець і Ленінград. У торбе ў мяне была цывільная вопратка. Я прыехаў у вайсковую часьць, сустрэўся зь Сержуком, ён пераапрануўся, мы пралезьлі ў дзірку ў калючай агароджы і падаліся ў Ленінград. Хадзілі па ўзьбярэжжы Нявы, былі каля Зімняга палаца, бегалі яшчэ багата дзе, елі лёды, размаўлялі, былі шчасьлівымі. Увечары я прывёз яго ў вайсковую часьць і ўначы паехаў назад на Пскоўшчыну. Як пісаў пазьней мне Сяржук, на такія самаволкі і стараслужачыя не адважваліся, бо кара за іх была суровая. А ён толькі быў тры месяцы адслужыў.

Пасьля вяртаньня Сержука Сыса з войска ўвесну 1983 года мы зь Едрусем Акуліным жылі тады ў інтэрнаце кватэрнага тыпу на вуліцы Савецкай. Сяржук часова пайшоў працаваць на цукерачную і шакаладную фабрыку «Спартак», якая месь-

цілася троху наўскасяк на другім баку вуліцы. Часта, калі вецер дзьмуў з фабрыкі ў бок нашага інтэрната, нам апетытна пахла цукерачнай памадкаю і ванільным шакаладам.

З войска Сяржук прыйшоў падужэўшы, таму працаваў грузчыкам, пераносіў мяхі з цукрам і какававым зернем, з павагаю распавядаў пра сваіх калегаў, някідкіх з выгляду мужычкоў, якія за зьмену маглі перанесці некалькі дзясяткаў тон цукру ў 50-кілаграмовых мяхах, а потым яшчэ шахнуць «маліноўскага» сямідзесяціградуснай апельсінавай эсэнцыі.

Ён адразу без агаворак успрыняў беларускую ідэю, якой тады пасьля наладжваньня кантактаў зь менскімі адраджэнцамі я быў проста апантаны. Ён прагна слухаў мае гарачыя маналогі па гісторыі і культуры Беларусі, чытаў беларускі самвыдат, перайшоў у большасьці сваіх кантактаў на беларускую мову. І ён працягваў быць гэткім жа закаханым, якім быў да войска, працягваў улазіць у нейкія неверагодныя гісторыі і працягваў пісаць вершы. У ягоным зборніку вершаў «Стрэмка» яны, на жаль, амаль не прадстаўленыя.

Праца на «Спартаку» стварала свае жыцьцёвыя калізіі. Скрозь былі вялізныя дэфіцыты, і лічылася цалкам натуральным, калі працоўны народ цягнуў што-небудзь зь дзяржаўных (а іншых тады і не было) фабрыкаў, заводаў, калгасаў. Існавала багата анекдотаў і гісторый на гэтую тэму. Вось адзін толькі з тагачасных папулярных вершыкаў: «Для таго, каб жыць у шчасьці, трэба красьці, красьці, красьці». Наколькі гэта адрозьнівалася і пярэчыла народнай традыцыі, у якой крадзеж лічыўся за найвялікшы грэх і сорам! Ну, гэта адна са шматлікіх «заслугаў» савецкай улады.

Неяк раз нас, студэнтаў, запусьцілі на суботнік на «Спартак». Напачатку мы пацягалі мяхі з какававымі бабамі, тады пайшлі ў цэх, дзе па канвееры плылі стужкі шакаладных цукерак. Пачалося выбарковае паляваньне, аж пакуль з цэха нас не выгнала майстрыха, якая праз колькі хвілінаў прынесла нам цэлую місу шакаладнага «браку». Я ніколі ў жыцьці ні дагэтуль, ні пасьля не еў столькі шакаладу. А затым быў яшчэ і россып фундуку і міндалю. У канцы нашага суботніка

мы ледзь выпаўзалі са спартакаўскай прахадной з кішэнямі, набітымі гарэхамі і грыяльжам. Вось на якой фабрыцы працаваў Сяржук Сыс!

З фабрыкі несьлі ўсе, і калі б Сяржук не рабіў тое самае, дык, пэўна, выклікаў бы падазронасьць у сваіх калегаў-грузчыкаў. Але аднойчы яму не пашанцавала. Неяк ён прыйшоў да нас у інтэрнат і сказаў мне, што заўтра яго будуць судзіць. «За што?» — зьдзівіўся я. Аказваецца, калі ён перакінуў праз фабрычны плот скрынку сьметанковага масла і затым пералез сам, там яго, бягучага з гэтай скрынкай масла, і злавілі.

«Адвакат хоць у цябе ёсьць?» — спытаўся я. «Не», — адказаў ён. «Чаму? — зьдзівіўся я. — Цябе ж могуць пасадзіць». — «За адваката трэба плаціць, а ў мяне якраз грошы скончыліся», — сумна паведаміў ён. Грошы былі ў мяне. Мы пабеглі ў адвакатуру, заключылі дамову, я заплаціў 25 рублёў. Столькі каштавала ягоная свабода. Назаўтра на судзе адвакатка адбараніла Сяржука, і ён абышоўся адно штрафам.

Дзіўнае гэтае жыцьцё. Бо бадай ніводзін зь беларускіх паэтаў не прысьвяціў столькі вершаў Гомелю, як Сяржук Сыс. Ён урэшце звыкнецца з гэтым паўмільённым горадам і стане яго паэтычным голасам.

Афішы змываючы з твараў вітрынаў,
Людзей заганяючы збоем пад дахі,
Ліпень залеву на Гомель абрынуў —
Водар лазы ды аерныя пахі.
Стома сплывае з прасьпектаў руплівых,
Перыпыняюцца пульсы артэрый,
І выбягаюць пад дождж нецярпліва
Людзі пасьлянавальнічнае эры.
Бурбалкі ўсьпеньваюць гладзь тратуараў,
Кроплі гаючыя лашчаць лістоту...
І ў гамяльцоў прабягае па тварах
Лёгкая ўсьмешка дзіцячай пяшчоты.

Гэта, можа, не лепшы вершык Сержука Сыса, прысьвечаны Гомелю, але ён такі свойскі, усёабдымны. Ён з такіх вершаў, якія мусяць быць у гомельскіх вітрынах і зьмяшчацца ў любых зборніках і кніжках, прысьвечаных Гомелю. І ў зборніку ёсьць у яго больш моцныя гомельскія вершы, такія, як «Сьвяты вечар», «Мясцовы час». І калі паэт прызнаў урэшце горад за свой, то горад пакуль што ніяк не адрэагаваў на гэта, ды і ці адгукнецца ўвогуле гэты зрусіфікаваны ўшчэнт Гомель, любімы горад майго юнацтва.

А вось наступныя мае нататкі будуць прысьвечаныя кранальнаму перыяду ў жыцьці Сяржука і маім жыцьці. Сталася так, што Сержукова беганіна за дзяўчатамі прыпынілася; прынамсі, пасьля таго, як ён сустрэў у нашым інтэрнаце Валю і раззнаёміўся зь ёй, то яна набыла больш уцямны і мэтанакіраваны характар. Валя вучылася на рускай філалогіі на пару курсаў ніжэй за мяне, была родам з Чачэршчыны, зь сям'і кіраўніка калгаса. Шатэнка зь сінімі, як васількі, вачыма і прывабліваю ўсьмешкаю, радзіміцкіх крывей, танклявая Валя глядзелася эфектна і была разумнаю дзяўчынаю. У нашай кампаніі яна хутка вярнулася да беларускай мовы.

Гэтых сінявокіх і шэравокіх радзіміцкіх дзяўчат з Прысожжа, урэшце як і хлапцоў, можна лёгка навучыцца пазнаваць, калі пабываць у іх мястэчках, гарадках і вёсках і прыглядзецца да іх. Згадайце хаця б Аляксея Пысіна, Алеся Пісьмянкова, Едруся Акуліна. І тут, у бабруйскай калоніі, я іх пазнаю адразу і па характары, і па абліччы.

Дык вось, Сяржук гэтым разам закахаўся не на жарт і пачаў настойліва ўлягаць за Валяю. На вясну 1984-га ў іх прыпаў перыяд жаніхоўства. Пяшчотнай, кранальнай, незабывальнай пары дваіх маладых людзей, якіх нястрымна цягне адно да аднаго невытлумачальная прага каханьня і жыцьця. Гэта была незабыўная вясна, бо ў гэты самы час я быў згубіўшы галаву ад маёй будучай жонкі Натальлі. Яна ў 1983 годзе паступіла на гістарычнае адзьдзяленьне нашага факультэта, ужо год, як мы былі знаёмыя дагэтуль. Нашае знаёмства — гэта асобная гісторыя. А зараз скажу толькі, што ў

тую вясну мы ўчатырох разам часта бавілі свой вольны час. І гэта былі цудоўныя дні, якія ўжо ніколі-ніколі не паўторацца.

Раньняй вясной, як толькі зазелянелі косы бярозаў, у балотцах і нізінах, на паплавах яшчэ стаіць вада, а зямля яшчэ цёмная ад талай вады, мы едзем на прыгарадным «пазіку», маленькім аўтобусіку, у Чачэрск, глядзець царкву пачатку XIX стагодзьдзя, пабудаваную ў класічным стылі. Мы хадзілі вакол царквы, параспраналіся да маек, а сьвіткі павесілі на пояс, бо горача, фатаграфуем царкву і фатаграфуемся самі. Назад едзем стоячы, месцаў няма, смажыць веснавое яркае сонца, цёплы вецер завявае ў адчыненыя форткі, дзяўчаты расчырванеліся, як вясновыя макі, вецер варушыць далікатныя пасмы дзявочых валасоў. Нават кіроўца часам не глядзіць на дарогу, а паглядае на нашых дзяўчат. Я крыху раўную і адначасова ганаруся. Я імкнуся запомніць гэтую карціну натуральнай дзявочай прыгажосьці. Мне здаецца, што я ўжо ніколі такога не пабачу ў жыцьці і ніколі не буду такім напоўненым да краёў каханьнем.

Мы прыязджаем у інтэрнат, бяжым зь Сержуком у гастраном, купляем там пельмені і дзьве літровыя бутэлькі славацкага лёгкага віна. Гэтае віно — таксама ўсьмешка свайго часу, пры татальным дэфіцыце ў крамах тым не менш заўсёды ёсьць сухое віно — малдаўскае Алігатэ і Фецяска, валам наваленае ляжыць у драцяных ёмістасьцях, крыху даражэйшыя віны з Чэхаславакіі, Венгрыі стаяць выстаўленыя на палічках, у кіёсках прадаецца балгарская зубная паста, кубінскі ром і цыгары. Затым мы сядзім учатырох у інтэрнатаўскім пакоі, ямо пельмені і запіваем іх проста з рыльца літровай бутэлькі саладкаватым віном. Я ніколі не забудуся на пах і смак пасьля пунсовых Натальліных вуснаў. Побач сядзяць Сяржук з Валяй і таксама наўперамен цягнуць віно, і бачу я ў вачах у Сержука стан, набліжаны да найвялікшае асалоды і шчасьця.

А вось у іншы дзень мы кідаем у торбу выпадковую ежу, кладзём пляшку чырвонага балгарскага сухога віна і едзем у Чонкі на пікнік. Гэтыя прыгожыя мясьціны знаходзяцца

непадалёк ад Гомеля на Сажы. Гомельцы здаўна аблюбавалі іх для адпачынку. Некалі яшчэ да вайны маляваў чонкаўскія пейзажы кіраўнік беларускага тэатра, пісьменьнік і драматург Уладзіслаў Галубок. Па дарозе мы сьмяёмся і дурэем: ідзём па краі паляны, паўзь невялікае футбольнае поле, дзе стаяць футбольныя брамы, зробленыя з гнутых трубаў. Сяржук бяжыць да адной зь іх, падскоквае, імкліва хапаецца за перакладзіну і спрабуе зрабіць пад'ём зь пераваротам. Мы з жахам глядзім, як незамацаваная брама, расхістаная ягоным скачком, хіліцца і падае. Перакладзіна б'е яго па грудзях, і ён ляжыць нерухома, прычаўлены гэтай брамаю. Мы кідаемся, уражаныя, да яго, ён стогне і сьмяецца адначасова. Я падымаю браму, дзяўчаты дапамагаюць яму прыўзьняцца, ён мацае грудзі і рэбры, здаецца, усё цэлае, мы рагочам як шалёныя. У вачах — карціна сагнутага ў крук Сержука і брама, якая адрываецца і ляціць.

Затым мы раскладаем цяпельца, расьсьцілаем посьцілку, ставім ежу і зноў нястрымна сьмяёмся, бо з торбы дастаецца вялікі будзільнік, які нехта з нас туды закінуў, зьбіраючыся сьпехам. Адной пляшкі сухога віна на чатырох нам дастаткова. Мы і так як п'яныя, ад маладосьці, току жыцьця, ад каханьня.

У парку пустэльным
Каханьне жыве,
Яму тут хораша жыць,
Схавалася недзе у
Мокрай траве,
Дзе слёзкі крыштальнай імжы.
Падобна нацятай тугой цеціве
Жаданьне лістотай дрыжыць,
Чаруе яно, за сабою заве
У восеньскія вітражы.
Але прыпыніся, суцішся, ўяві,
Пакліч яго ціха, скажы
Аб тым, як у гэтай
Дажджлівай крыві
Няма для каханьня мяжы.

Спакусьлівы вечар
Паволі плыве
Над паркам, што на Сажы...
Пяшчотная восень і постаці дзьве,
Якім паасобку
Не жыць.

Распавяду пра яшчэ адну паездку — у вёску Дварэц, якая стаіць паміж Рэчыцай і Лоевам. Мы паехалі да роднай бабулі Сержука. З Дварца родам, як аказалася, была і маці Натальлі. У Дварэц і Сяржук з Заспы, і Наталья з Лоева прыязджалі малымі да сваіх бабуляў і дзядоў, але адно аднаго калі і сустракалі, дык усё адно не памяталі. Мы сьмяяліся, пазіраючы на чарнакосую з завітымі ў буйныя кучары валасамі Натальлю і на дробна кучаравага, як баранчык, Сержука, было ў іх штосьці падобнае, мо некалі іхныя дварцоўскія продкі мелі больш блізкія стасункі, чым проста суседскія... Натальліны дзядуля і бабуля, на жаль, ужо не жылі.

Быў травень, мы распалілі падалей ад хаты агеньчык і смажылі, як у дзяцінстве, на ражончыках сала. Стаяла цёплая зорная і чорная аднначасова ноч. Хорам сьпявалі салаўі. Іх было некалькі, і іхныя сакавітыя сьпевы далёка разносіліся па вялізнай дняпроўскай лагчыне. Сержукова бабуля вохкала, не ведаючы, як нас укласьці на двух ложках, якія стаялі ў чыстай хаце. Урэшце мы паклаліся зь Сержуком, а Натальля з Валяю. Бабуля зь першай хаты чуйна прыслухоўвалася, каб не зрабілася якой бяды. А мы і не думалі пра што іншае. Нам і так было ўтульна і весела. Мы здушана сьмяяліся, а потым я працягнуў руку і пацягнуў кагосьці зь дзяўчат за нагу. Пачулася спалоханае войканьне, і мы зноў душыліся сьмехам. Адразу пасьля гэтага я перакруціўся і лёг галавою ў ногі ложка. Цяпер ужо хтосьці зь дзяўчат вырашыў паторгаць нас за ногі і наткнуўся на маю галаву. «Вой!» — ускрыкнула яна ад нечаканасьці, а мы проста зайшліся нястрымным сьмехам.

Ніколі ў жыцьці я не чуў такіх салаўёў, як у той вечар. Я ўпэўнены, яны сьпецыяльна сьпявалі для нас пералівістую песьню веснавога непаўторнага маладога каханьня.

Няпроста пісаць у такіх умовах, у якіх я зараз знаходжуся, пра тыя шчасьлівыя і бесклапотныя часы. Няпроста не толькі псіхалагічна, бо вялікай фрустрацыі ад свайго перабываньня ў лагеры я не адчуваю, толькі розныя падзеі і падзейкі, якія здараюцца тут ледзь не штодня, зьбіваюць мяне з настальгічнага і рамантычнага настрою. Можна параўнаць мой цяперашні стан жыцьця з колішнім палётам на вялізным аэробусе праз акіян. Мы ляцелі на вышыні бліжэй да 13 кіламетраў. І наш вялікі і цяжкі самалёт трэсла, як ліпку на ветры. Мы ўсю дарогу сядзелі прышпіленыя рамянямі бясьпекі, і нам усю дарогу падлівалі шампанскае не шкадуючы. Вось такая ж турбуленцыя віхурыць зараз вакол мяне. Але ж цягам усяго жыцьця нешта замінала мне цалкам аддавацца пісаньню. А можа, гэта і я сам дапамагаю майму лёсу адштурхнуцца ад супакою і цішы пісьмовага стала? Можа, гэта мая няўрымсьлівая натура ўвесь час цягне мяне ў пошуку свайго адметнага шляху, які і ёсьць сапраўды мне наканаваньнем. Хто ведае, мо і так.

Улетку 1984-га Сяржук з Валяй узялі шлюб. Вясельле гулялі на Чачэршчыне, у Валіных бацькоў. Я на тым вясельлі быў за шафера ў Сержука і ставіў свой подпіс у загсе аб іхнім шлюбе. Бедныя і няўладкаваныя яшчэ ў жыцьці, што мы маглі даць нашым каханым? Адное — абяцанкі-цацанкі, расплывістыя персьпектывы ды шчырае, палкае каханьне.

Затым я паступіў у асьпірантуру ў Менск і адтуль быў забраны на паўтара гады ў войска. Перапісваліся мы неяк мала. Значна больш ліставаўся зь Едрусем. Але, ведаючы характар Сержука, я не зьдзівіўся, калі ў гэты час ён скончыў дзеля чагосьці гандлёвы тэхнікум, працаваў на тым самым «Спартаку», езьдзіў, як ён сам пазьней распавядаў, у Рагачоў на малочна-кансервавы завод па радыяцыйнае згушчонае малако і завочна аднавіўся ва ўнівэрсітэце. Затым Валю разьмеркавалі настаўніцай у Жлобінскі раён, у вёску. Сяржук паехаў туды разам зь ёй і выкладаў у школе беларускую мову і літаратуру. Пасьля нашага вясельля з Натальляй у 1987 годзе мы прыязджалі да іх у госьці, жылі ў іх, можа, з

тыдзень. Зранку Сяржук і Валя сыходзілі на працу ў школу, што ж — сельскія настаўнікі! А мы з Натальляю высыпаліся ў іх невялікай кватэрцы. Затым я пісаў сваю кандыдацкую працу, а Натальля чытала кнігі. Пасьля абеду мы хадзілі ўсе разам гуляць па навакольлі, у хваёвы бор, які пачынаўся за вёскай, на недалёкую чыгунку, удалечыні, за Бярэзінай былі бачныя высокія коміны сьветлагорскага хімзавода. Мы шмат размаўлялі пра надыходзячыя зьмены, бо тады, у другой палове 80-х, Менск ужо пачынаў віраваць, актыўнічалі беларускаарыентаваныя моладзевыя дэмакратычныя ініцыятывы, разгортвалася праца Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», прэзідэнтам якога абралі мяне. Мы размаўлялі і пра беларушчыну, і пра літаратуру, потым Сяржук паказваў свае грады непадалёк ад дома, зарослыя, як ён пераконваў, смачным і карысным тапінамбурам. А ўвечары мы ізноў гаварылі, гаварылі і гаварылі.

Празь нейкі час Сяржук пайшоў працаваць у жлобінскую раёнку і атрымаў у Жлобіне кватэру. Ён вучыўся на завочным і працаваў на вельмі няўдзячнай для творчага чалавека працы раённага журналіста. Усе, пэўна, бачылі нашыя беларускія раёнкі. Гэта казённы стыль і казённая душа, пародыя на газету, дзе на першым месцы надоі, жніво, сяўба і перадавікі з ударнікамі разам. Месца для творчасьці там няма, а газетныя штампы і газетнае мысьленьне загубілі не аднаго празаіка і паэта. Усе памятаюць, у што ператварыўся «ЛіМ», калі ў крэсла галоўнага рэдактара туды прыйшоў яшчэ адзін гадаванец гомельскага ўніверсітэта Анатоль Казлоў, бо ён сфармаваўся ў газетнай раёнцы і хоць затым, здаецца, атрымаў рэдактарскую школу літаратурнага выданьня, працуючы ў «Маладосьці», але ж не, вяртаньне ў газету вярнула і ўсе напрацаваныя раней хібы і штампы. Вось чытаю зараз вершы яшчэ аднаго газетчыка, які ўсё жыцьцё працаваў у раёнках магілёўскай вобласьці і ў «Магілёўскай праўдзе», зь цяжкасьцю прабіваюся праз плоскае газетнае пустаслоўе, аформленае ў вершаваныя радкі. І першыя шчырыя, незаштампаваныя словы і думкі зьяўляюцца ў вершах, калі яму

ўжо за сорак. У вершах пра сьмерць маці і вершах пра Дняпро, толькі тут яго адпускаюць задушлівыя абдоймы газетнага стылю і мысьленьня. Аляксея Пысіна я буду чытаць і далей, можа, далей і зьменіцца мая думка пра яго. Ягоны малодшы сябра, выдатны беларускі празаік Віктар Карамазаў так і пісаў пра Аляксея Пысіна: «Ягоная паэзія цяжка прабівалася да сонца праз жорсткі, нібы франтавы, статус раённых і абласных газет, якія патрабавалі не лірыку, не вершы, а праўду падзей, кароткую і скупую на пачуцьці, аператыўную. Факты і каментарыі». Вось жа зразумела, якой была «праўда» ў газетных радках у савецкія, пасьляваенныя асабліва, часы, але сутнасьць сумяшчэньня працы ў газеце і паэзіі ён перадаў даволі трапна.

Тым не менш газетнай працы Сяржук Сыс не баяўся. Трэба сказаць, што нашыя кантакты тады паслабелі. Жыцьцё неяк запрэгла нас у розныя вазы, паставіла ў аглоблі і ўсунула ў хамуты. Я высільваўся ў музеі Максіма Багдановіча, дырэктарам якога я стаў і які, кроў з носу, трэба было адчыніць да 100-й гадавіны паэта, а яшчэ ж грамадская праца, якая забірала ўвесь астатні час. А Сяржук праз пару гадоў перабраўся ў абласную газету «Гомельская праўда», куды яго перацягнуў Барыс Пятровіч, атрымаў там кватэру і мусіў адпрацоўваць яе.

Няпростае жыцьцё творчага чалавека ў правінцыі. А Гомель, на жаль, так і не стаў самадастатковым культурным цэнтрам. Менск высмоктвае ўсё творчае і цікавае, як пыласос, і толькі Гародня ў змозе супрацьстаяць яму. Калі ж няма дастатковага кола аднадумцаў і разнастайных творчых кантактаў, людзей, якія натхняюць тваё творчыя пошукі і падштурхоўваюць тваё творчае «я», можа наступіць крызіс. Відавочна, як у час жыцьця ў Гомелі ў вершах Сержука Сыса прабіваюцца ноткі песімізму, боязі «ўгрузнуць у балота», адчуваньне незадаволенасьці і марнасьці свайго жыцьця. Аднастайнасьць правінцыйнага жыцьця ператвараецца ў сапраўдны экзамен для яго як для творцы:

Мясцовы час…
Нясьпешны плёскат Сожа,
Спагада позіркаў, што ловіш незнарок,
На скрыжаваньні выцьвілы «ларок»,
Язьмін ды бэз за кожнай агароджай.
Жанчына размаўляе з галубамі,
«Пятра і Паўла» ціхі перазвон,
Пах ежы зь незачыненых акон…
Мясцовы час,
Ці вытрымаць экзамен?
Мясцовы час…
Ці я ўжо не мясцовы,
Па сьвеце натаптаўшыся як сьлед?
Дымяць патроны танных цыгарэт,
Каля піўной плятуць карункі словы.
На ровары — падлетак круглатвары,
Педаль нагой кранаючы ледзь-ледзь…
Мне за табою болей не пасьпець,
Мясцовы час…
Стрыножаныя мары.

Пры пераезьдзе ў Гомель Сержуку Сысу, можна сказаць, моцна пашанцавала на той час, бо ў «Гомельскай праўдзе» працаваў Барыс Пятровіч, які і стаў для Сержука тым інтэлектуальным апірышчам, які не даў яму апусьціць творчыя крылы, патануць у дрыгве будзённасьці і побыту. Потым, хоць Барыс Пятровіч і пераехаў у Менск, іхняе сяброўства і кантакты і надалей падтрымлівалі паэтычную натуру Сержука Сыса.

Вось так у розных клопатах і справах праляцела пятнаццаць наступных гадоў. Сустрэчы нашыя былі цёплыя, але рэдкія. Ці я быў у Гомелі і заходзіў да яго ў госьці, ці ён зьяўляўся наездамі ў Менск і прыходзіў да нас. Гадоў восем таму выбраліся мы ў вандроўку ў Чарнобыльскую зону, у той самы Бабчын, дзе калісь мы працавалі ў будатрадзе. Паехалі ў адной машыне: Барыс Пятровіч, Сяргей Дубавец, Едрусь Акулін, я і былы аднагрупнік Барыса па журфаку. А па дарозе заехалі ў Вялікія Нямкі, вёску на Веткаўшчыне на бера-

зе Бесядзі, адкуль родам Едрусь. Спыніліся там у ягонай хаце. Хлопцы паплылі на чаўне лавіць у Бесядзі рыбу, а мы зь Едрусем засталіся. І вось апоўначы ў хату ўваліўся Сяржук Сыс, якому затэлефанавалі ў Гомель і папрасілі далучыцца на ноч да нашай кампаніі. Сяржук тады працаваў у нейкім рэкламным адзьдзеле, дзень правёў на выставе, і яго прывёз на машыне швагер. Мы выпілі і доўга гаманілі пра творчасьць, літаратуру і пра тое, куды коціцца гэты сьвет.

Так я даведаўся, што Сяржук разводзіцца з Валяю. Сумеснае жыцьцё трэснула, і склеіць яго ні ён, ні яна не давалі рады. Кожнае каханьне, як і кожнае чалавечае жыцьцё, індывідуальнае, і яно мае свой век. І часам людзі паміраюць у каханьні, а часам памірае каханьне, а людзі жывуць. Мне было прыкра і вусьцішна. Вядома, яны былі дарослымі людзьмі і самі вырашалі, як ім жыць. Але ж зачынялася шчымлівая старонка майго жыцьця, маёй маладосьці.

Потым, далёка за поўнач, мы леглі спаць, але вярнуліся з рыбалкі Барыс з Дубаўцом і іхнія размовы з Сержуком працягнуліся. Калі зранку я прачнуўся, Сяржук спаў на кінутым на дол матрасе ў тым самым касьцюме, у якім прыехаў, і пад гальштукам. Неўзабаве мы разьехаліся. Мы — далей праз Лоеў на Хойнікі, а ён вярнуўся ў Гомель.

У траўні 2005 года памёр наш сябра, геніяльны паэт Анатоль Сыс. Хтосьці можа засумнявацца, ці можна вось так запраста нашага равесьніка, чалавека з далёка не ідэальнымі паводзінамі называць геніем? Я ўпэўнены, што можна. Бо хто ж, як не ён, у 80—90-я гады XX стагодзьдзя праз паэтычнае слова выявіў духоўную і нацыянальную сутнасьць беларускага народа? Ён, як той Янка Купала напачатку XX стагодзьдзя, думаў за ўсіх беларусаў, здолеў акумуляваць усю горыч і ўвесь боль беларусаў, усе паразы і перамогі беларускага духу, усе надзеі і спадзяваньні на лепшую будучыню. Няма такога іншага паэта ў нашай сучаснасьці. Вось жа здольнасьць да трансфармацыі духоўнай сутнасьці беларусаў у магію і чары паэтычнага слова і робіць паэзію Анатоля Сыса геніяльнай.

На пахаваньні Анатоля Сыса я не быў, у той час мяне не было ў Беларусі. На сорак дзён у чэрвені 2005 года мы выехалі з Менска на мікрааўтобусе ў Гарошкаў, каб адзначыць саракавіны на радзіме паэта. Перад ад’ездам Кася Камоцкая выперла з аўтобуса двух п’яных хлапцоў, былых знаёмых Сыса, якія гучна вохкалі і прычыталі за Толіка і зьбіраліся ехаць разам з намі. Астатнія ж пасажыры былі збольшага знаёмыя паміж сабой. Разам з намі ехала і Галя Дубянецкая, паэтка, мая даўняя знаёмая, зь якой разам мы некалі вучыліся ў асьпірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Галя, мілая, сьціплая, усьмешлівая дачка Міхала Дубянецкага, беларускага дзеяча, аднаго з інтэлектуалаў і заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту. Бог даў ёй ціхі, вытанчаны, высокаінтэлектуальны талент. Выхаваная ў рэчышчы еўрапейскай літаратуры, яна сваім паэтычным голасам нагадвае мне расійскую паэтку Марыну Цьвятаеву, вельмі, вельмі няпростую для ўспрыманьня шараговага чытача. Паэзія такога кшталту — элітарная паэзія, зразумелая далёка не ўсім. Яе тэксты насычаныя тонкімі асацыяцыямі, падтэкстам, заглыбленасьцю ў свой сьвет, у выбудаваную ўнікальную сістэму каардынат. Але калі такі талент зьяўляецца ў літаратуры, дык гэта разглядаецца як вялікая ўдача і гонар для гэтай літаратуры. Бо тады ўжо немагчыма не заўважыць і проста пераскочыць праз творчасьць паэта ці паэткі такога кшталту. Але неверагодна сьціплая Галя ніколі адмыслова не прыцягвала ўвагі да сваёй паэзіі. Яе вершы, здавалася, расьлі самапасам, як далікатныя кветкі на лузе, і толькі зрэдку зьяўляліся ў друку.

І вось мы прыехалі ў Гарошкаў, дзе нас сустрэлі гасьцінныя сёстры Анатоля. На сядзібу Анатоля Сыса зьехаліся таксама і былыя сябры, і прыхільнікі таленту паэта з Гомеля, Рэчыцы, Сьветлагорска. Прыехаў з Гомеля і Сяржук Сыс. Мы мелі крыху часу і пад’ехалі зь ім у суседнюю Заспу, да ягонай маці, выйшлі паглядзець на Дняпро, трохі паразмаўлялі. Сяржук сказаў, што жыве цяпер у Гомелі сам, здымае жытло. Затым мы вярнуліся, наведалі могілкі і пасьля памінальнага стала і выступаў паэтаў і бардаў пайшлі на ўлюбё-

нае месца Анатоля Сыса — Гарошкаўскае гарадзішча. І там ужо Сяржук Сыс і Галя Дубянецкая хадзілі збольшага разам, узяўшыся, як дзеці, за рукі. Аказваецца, яны таксама былі ўжо даўно знаёмыя, бо разам удзельнічалі ў семінары маладых літаратараў у пісьменьніцкім Доме творчасьці ў Іслачы і неяк падчас выступу сяброў-калегаў у Дзяржынску пайшлі ўдваіх разглядаць засьнежаныя могілкі.

Ніхто асабліва не зьвяртаў увагі на Галю і Сержука. А яны спусьціліся з Гарошкаўскага гарадзішча і пайшлі да адступіўшага ўдалеч пасьля меліярацыі Дняпра. Было цёпла, ярка сьвяціла сонца. Ужо быў час ад’язджаць нам у зваротную дарогу. Я набраў нумар сотавага тэлефона Сержука і папярэдзіў, што мы мусім неўзабаве вяртацца, таму добра было б, каб ён прывёў Галю назад. Іхнія фігуркі былі ўжо маленькія, у адказ Сяржук памахаў мне рукой, а па тэлефоне сказаў, каб мы ехалі без Галі, бо яна застаецца зь ім. Праз чатыры месяцы яны ўзялі шлюб. Вось так Анатоль Сыс і памяць пра яго злучыла ў яшчэ адну сямейную пару паэта і паэтку, Сержука Сыса і Галіну Дубянецкую.

Дагадзіў жа ты мне, Анатоль,
Дагадзіў…
Хоць тваімі шляхамі
Амаль не хадзіў —
Я начамі тваімі
Не ведаў начэй,
Прама ў вочы глядзеў,
Ды не бачыў вачэй.
Не двайнік твой, не брат
І не зьменлівы цень, —
Толькі сэрца маё
Апаліў твой «агмень»,
Я відушчым,
Як фенікс, зь нябыту ўваскрэс
Ды пайшоў за табою
Ў бурштынавы лес.
А ты ведаеш, што я знайшоў,
Анатоль?

Галя Дубянецкая вярнулася ў Менск толькі праз год, а яшчэ праз некалькі месяцаў, разьвітаўшыся з працаю, да яе пераехаў жыць Сяржук Сыс. Іронія лёсу, што ў царкоўным шлюбе Сыса і Галі Дубянецкай я зноў быў ягоным дружкаю, і стаў хросным бацькам і іхняй дачкі Стасі. Сёлета Стася ідзе ў школку. Яна піша мне друкаванымі літарамі пажаданьні ў паштоўках, каб я хутчэй выйшаў на волю.

Пераезд у Менск даў творчасьці Сержука Сыса новы якасны штуршок. Менскае творчае асяродзьдзе, знаёмства з новымі людзьмі, актыўная праца, знаходжаньне ў гушчыні культурных і грамадскіх падзеяў дабратворна паўплывалі на ягоную паэзію. Узьнікае такое адчуваньне, што ў паэта Сержука Сыса зьявілася другое дыханьне. Гэта сталася магчымым найперш дзякуючы ягонаму ўменьню не спыняцца ў разьвіцьці, а расьці далей, шырэй і глыбей. Самае істотнае, што, чытаючы «Стрэмку», не губляеш цікавасьці да паэта, да ягонай думкі і ягоных вершаў, хочацца чытаць кніжку далей і далей. Сяржук Сыс здолеў перадаць праз сьцігмы вершаў нервовае трапятаньне сваёй душы. Жыцьцё, думкі, пачуцьці, каханьне і горыч адстойваюцца, набіраюць водар і ператвараюцца ў гаркавае, ці салодкае, ці сухое каштоўнае віно вершаў.

Пэўна, што 50 гадоў не зьяўляюцца для Сержука той датай, пасьля якой пачынаецца творчы закат. Пэўна, што мы яшчэ дачакаемся ад яго глыбокіх, цікавых паэтычных твораў.

Дзе апошняя поўня вужыная
Мые твар у прыціхлым Сажы,
За вярбой і сухімі ажынамі
Дзеляць яблык апалы вужы.
Ля ракі, што нізамі туманіцца,
Разьліваюць жаўцё ліхтары,
Зь іх сьвятлом застаюся да раніцы,
Да сьвітальнага сонца ўгары.

Дык тады ўжо з астатнімі сіламі
Над Сажом палячу на край-сьвет,
Будуць мне надламанымі крыламі
Ветракі памахваць усьлед.
Палячу ў неабсяжнае, сіняе,
Некаханы і ўжо незямны,
Назіраюць, як зьвялы дэльфініюм
Замірае ў чаканьні зімы.
Ломіць рукі палёт мне, і, стомлены
Прыцягненьнем далёкай зямлі,
Упаду паміж Заспай і Гомелем
У расхростаныя палі.
Скуру вымыюць пальцы кашчавыя
Верасьнёвых самотных дажджоў,
Колкай пожняй, ссохлай атаваю
Я без рук дапаўзу да вужоў.
Можа, прымуць і зь велькай літасьці
Не адмовяць у цёплай нары?
Толькі вужам бы з поля выпаўзьці
Да ракі, дзе мігцяць ліхтары.

Рэчыцкі бераг Дняпра даў беларускай паэзіі шэраг адметных і выбітных паэтаў. Найперш гэта гонар беларускай паэзіі Анатоль Сыс, і наш унівэрсітэцкі настаўнік, барацьбіт за беларушчыну, глыбокі лірык Віктар Ярац, і цікавы, арыгінальны паэт Віктар Стрыжак, і кранальны сьпявак дняпроўскіх кручаў і далёкіх берагоў Сяржук Сыс. Крыўдна, але яны не ацэненыя, не ўшанаваныя належным чынам, так, як яны заслугоўваюць, так, як было б у любога іншага народа, які паважае сябе. Няма прарокаў у сваёй Айчыне, пакуль што няма, нядоўгі час яшчэ няма. Яшчэ крыху, яшчэ трохі...

*Жнівень 2012 года, Бабруйская калонія.*

# ТРАГЕДЫЯ ТОЛІКА СЫСА

Упершыню мы пазнаёміліся з Анатолем Сысом, калі вучыліся на першым курсе гомельскага філфака. Чаму я кажу «мы», бо на адным патоку са мной вучыліся Едрусь Акулін і Сяржук Сыс. Апошні хоць і меў такое ж прозьвішча, як у Анатоля, але паходзіў з Заспы, суседняй з Гарошкавам вёскі. Памятаю, як да нас у аўдыторыю зазірнуў малады хлопец са сьветлымі валасамі, шырока раскрытымі вачыма і безапеляцыйна абвясьціў: «Я — паэт Анатоль Сыс! Калі сярод вас ёсьць паэты ці празаікі — сёньня ўвечары прыходзьце на паседжаньне літаратурнага гуртка “Крынічка”!»

Натуральна, што мы ўтрох туды і пайшлі. Там і пазнаёміліся. Сыс вучыўся на трэцім курсе і быў вядомым на ўвесь філфак паэтам. Хаця добрых настаўнікаў ці паплечнікаў у яго не было. Віктар Ярац, які вёў тады паседжаньні «Крынічкі», таксама Толікаў зямляк, родам, як і Сяржук Сыс, з Заспы, хутчэй, быў яму сябрам. А нас, маладзейшых, пакуль што ён не браў у разьлік. Пазьней ужо, у Менску, убачыўшы нас зь Едрусем, заўсёды ганарова абвяшчаў усім: «Глядзіце, гэта мае дзеці!» І сапраўды, першыя пару гадоў ва ўнівэрсітэце мы, як кажуць, «глядзелі яму ў рот».

Толік сам шукаў і выбіраў сабе паэтычных настаўнікаў, не памятаю, каго хваліў з расейскіх паэтаў, а пра беларускіх ганарова абвяшчаў: «У маладой беларускай літаратуры ёсьць тры сапраўдныя паэты: Разанаў, Някляеў і Пашкоў!» І трэба сказаць, што ён амаль не памыліўся. Прынамсі, першыя два дакладна застануцца ў беларускай літаратуры.

Добра памятаю першы пачуты мною верш Сыса, які ён прачытаў на паседжаньні «Крынічкі». Там было штосьці пра забітага дэльфіна, які калыхаўся на сініх хвалях, а побач зь ім плавалі... ягоныя мазгі.

Пэўная саматужнасьць, аддаленасьць ад літаратурнага Менска наклала адбітак на ўсё ягонае далейшае жыцьцё і літаратурны шлях, які ён церабіў выключна сам. Адсутнасьць аўтарытэтаў — небясьпечная рэч. Яна дазваляе бясстрашна ісьці наперад, захаваць прыродную чысьціню і дасягаць неймаверных вышыняў, але часам даводзіць жыцьцё да поўнага анархізму і робіць яго проста бессэнсоўным.

Толік любіў гучны сьмех, цікавыя, часам балючыя для іншых жарты. Прыгожы і дужы, ён падабаўся многім дзяўчатам-філфакаўкам. І часам круціў зь імі раманы. Але ўжо ў тыя гады ён прысьвяціў сябе адной паненцы — паэзіі. Імкнучыся дасягнуць максімальнай шчырасьці ў вершах, ён не адрозьніваў паэзію ад жыцьця і быў гэткім жа шчырым у будзённасьці, што часта ставіла яго ў драматычныя сітуацыі. Разы два яго зьбіраліся выключаць з універсітэта. Не за тое, што ён кепска вучыўся, а за тое, што ён заўсёды быў вельмі шчырым і казаў праўду выкладчыкам у вочы. А таму былі выкладчыкі, якія любілі яго, але былі і такія, што ненавідзелі.

Спраўджвалася банальная ісьціна — мізэрнасьці ненавідзяць талент за тое, што ён не такі, як яны. Упершыню ў жыцьці я бачыў такую непрыхаваную зайздрасьць да яскравага таленту і жаданьне зламаць чалавека, даказаць, што ён — нікчэмнасьць. Але Сыс не ламаўся, не ўгінаўся і ганарліва, як карабель, ішоў сваім шляхам.

Што тычыць жартаў — Толік любіў апавядаць і сам ствараць розныя недарэчныя і сьмешныя сітуацыі. Неяк у Гомелі ён і два ягоныя аднавяскоўцы, таксама здаровыя і мажныя хлопцы, прыйшлі ў рэстаран. Селі за столік. Да іх падышла афіцыянтка і прапанавала зрабіць заказ. Абсалютна сур'ёзна хлопцы далі заказ: «Тры міскі баршчу і булку хлеба!» Афіцыянтка разгубілася і перапыталася: «Что-что?» — «Тры міскі баршчу і булку хлеба!» — з каменнымі тварамі паўтарылі яны. Афіцыянтка спалохалася і, адыходзячы ад іх сьпінаю, адно толькі паўтарала: «Не ўгражайце! Не ўгражайце!»

Наступным разам Толік са сваім сябруком у гомельскім парку голасна аббрахалі маленькага сабачку, які на шворцы ў сваёй гаспадыні ўздумаў пагаўкаць на іх. У выніку ўцякаў спалоханы сабачка, а разам з ім і не менш спалоханая ягоная гаспадыня.

У нечым Толік, безумоўна, паўплываў на нашае станаўленьне як асобаў, на нашую ўнутраную незалежнасьць. Самае каштоўнае, што ён навучыў цаніць на асабістым прыкладзе, дык гэта — волю, якая тады зусім не значылася ў сістэме савецкіх каштоўнасьцяў. Добра памятаю, як, ходзячы з нататнікам зь вершамі, якія ён пісаў пакутліва доўга, літаральна хварэў, перапісваючы, прагаворваючы на прапахлых супамі інтэрнатаўскіх лінолеумных калідорах, дашліфоўваючы ўначы, перабіраючы словы, як каштоўныя камяні, ён убачыў нас (а мы ішлі з начной разгрузкі вагонаў сухой гарчыцы, брудныя і стомленыя) і сказаў: «Напрацавацца пасьпееце! Вучыцеся, пакуль у вас ёсьць такая магчымасьць, чытайце, пішыце, узрастайце, пакуль кормяць вас вашыя бацькі! Вас сюды не працаваць пасылалі!» Гэта ўразіла мяне. Я падумаў — і праўда! І болей на начныя разгрузкі не хадзіў. Аднак была яшчэ адна начная разгрузка, на якую мы патрапілі ў будатрадзе, дзе былі разам зь Едрусем і Толікам. Разгрузка калійных угнаеньняў на станцыі. Грошай у будатрадзе на Хойніччыне плацілі мала, да-



Алесь Бяляцкі ў будатрадзе. Бабчын, 1980 год

рэчы, мы будавалі дамы ў Бабчыне, якія зараз стаяць пустымі, бо там — радыяцыйная зона. І вось нашыя камандзіры дамовіліся на «шабашку». Па два чалавекі на вагон, цэлую ноч мы кідалі шуфлямі гэтае ўгнаеньне, а Толік час ад часу запяваў магутным голасам штосьці з Доны Самар. Была такая папулярная на дыскатэках у тыя часы амерыканская сьпявачка. Амаль сюррэалістычная карціна. Ціхая палеская ноч, якая, не пасьпеўшы пачацца, ужо запалілася на ўсходзе мяккім золкам, вялізныя празрыстыя зоркі, чысты сьпеў звар'яцелых салаўёў і магутны рык няўтомнага Сыса.

Тамсама, у Бабчыне, калі ў Сержука Сыса пачаліся непрыемнасьці зь мясцовымі хлопцамі з-за мясцовай прыгажуні і калі яны пачалі сур'ёзна адлоўліваць яго ўсёй сваёй вясковай грамадой, ганяючыся за ім, як статак быкоў, каб



Анатоль Сыс у войску

пабіць, хаця і Сяржук тут быў не вінаваты, і дзяўчына таксама ні сном ні духам, а заварыў кашу тамтэйшы хлопец, п'яны стрыечны брат Міколы Мятліцкага, тады Толік прапанаваў нечаканы ход — усім хлопцам з будатрада пастрыгчыся нагала, каб было немагчыма пазнаць Сержука па прычосцы.

Паехаўшы ў лазьню ў Хойнікі, мы, чалавек дванаццаць, салідарна гэтак і зрабілі. Памятаю выраз на тварах у хойніцкіх яўрэйскіх хлопцаў, якія тады яшчэ жылі ў Хойніках і тусаваліся каля лазьні, калі яны ўбачылі цэлую купу лысых будатрадаўцаў. Сержука ўжо было немагчыма вылучыць сярод нас, хаця вечна п'яны Мятліцкі са сваімі быкамі і прыходзіў на апазнаньне, ды дзе там!

Першыя мае спробы ў 1981 годзе ўцягнуць Толіка Сыса ў моладзевы нацыянальны рух, які тады распачалі менскія студэнты Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў, Сяргей Дубавец,

ён успрыняў насьцярожана. Казаў, што ў Менску — нацыяналісты і што ўсё гэта скончыцца турмой, а ён хоча пісаць вершы і нічога болей.

Хоць і з праблемамі, але ўнівэрсітэт ён, дзякуючы дэкану, скончыў і пайшоў служыць у войска на паўтара гады. Служыў у Польшчы, у Легніцы, у пантонным батальёне. У Польшчы разгортваўся незалежніцкі рух, і, як ён распавядаў, на плоце вакол вайсковай часьці палякі часта малявалі тое, што думалі пра іх, савецкіх вайскоўцаў. За гэты час падрасьлі і мы — перайшлі на беларускую літаратурную мову, паглыбілі свае веды ў беларушчыне, пашырылі кола аднадумцаў. І гэта моцна ўразіла Толіка пасьля прыходу з войска. Ягоная шыкоўная трасянка, якой ён вечна фарсіў падчас вучобы, выглядала ўжо анахранізмам. І ён адразу ж перайшоў на літаратурную мову, на якой размаўляў да канца жыцьця. Ён і да нас пачаў ставіцца, як да роўных. Працуючы ў веткаўскай раёнцы, часта бываў у нас у інтэрнаце, браў пачытаць кніжкі, слухаў мае гарачыя аповеды па гісторыі Беларусі: тое, што я здолеў «накапаць» па перыёдыцы, чытаў Ермаловіча, Абдзіраловіча, «Калосьсе» і «Студэнцкую думку», якія на фотаздымках хадзілі тады ў нас па руках. І не такія страшныя ўжо былі для яго нацыяналісты. Неўпрыкмет, атрымаўшы патрэбныя веды, ён і сам стаў носьбітам беларускай нацыянальнай ідэі.

Увосень 1984 года я паступіў у асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук і атрымаў месца ў інтэрнатаўскім пакоі на Акадэмічнай, 3. Там яшчэ давучваўся Юзік Янушкевіч, ужо вучыўся гісторык Мікола Крывальцэвіч, толькі паступіў Генадзь Сагановіч. У нас адразу ж склалася беларускае кола і закіпела актыўнае жыцьцё.

У гэты ж час, кінуўшы сваю раёнку, у Менск прыехаў Толік Сыс. Не маючы жытла, ён спаў у пакоі ў мяне, у Генадзя Сагановіча, які меў асобны пакой. Хадзіў, шукаў у Менску працу, пакутаваў, шумна ўздыхаў і напісаў за гэтых пару

месяцаў адныя зь лепшых сваіх вершаў: «Пацір», «Маналог Апанаса Філіповіча», «Дух» ды яшчэ некалькі іншых. Таксама напісаў пару артыкулаў па беларускай культуры, у прыватнасьці для «Маладосьці» пра слуцкія пасы. Урэшце знайшоў працу на тэлевізіі, за што вельмі дзякаваў Генадзю Бураўкіну, атрымаў пакой у інтэрнаце і неяк зачапіўся за Менск. За гэты час пазнаёміўся са сьведамай беларускай моладзьдзю.

Назвы, дарэчы, для сваіх «маналогаў» ён часам даваў адвольна, як з тым жа «Апанасам Філіповічам» — за старасьвеччынай маскуючы сучасны зьмест. А то натхняўся якойнебудзь постацьцю зь беларускіх нацыянальных дзеячаў, што ўражвала яго сваім яскравым талентам ці трагічным лёсам. Так, крыху пазьней, перабіраючы старую беларускую перыёдыку, я прачытаў пра беларускага артыста Рамуальда Жакоўскага, які скончыў жыцьцё самагубствам, перапісаў гэтую інфармацыю і паказаў Толіку. Той схапіўся за яе і напісаў «Маналог Рамуальда Жакоўскага».

Увесну 1985 года на Радуніцу на Усходніх могілках сьведамая моладзь і старэйшыя наладзілі ўскладаньне кветак на магілу Уладзіміра Караткевіча. Прыйшлі і мы. Былі прамовы і выступы. Толік таксама выступіў і прачытаў свой верш «Дух». Як ён чытаў вершы — гэта асобная гаворка. Ён зачароўваў людзей. Кожнае слова клалася ў сэрца і душу, гонячы мурашоў па целе і выбіваючы сьлязу. Усе зьнерухомелі, бо было ў вершы, апроч усяго, і пра «плюгавага», які скажа: «Дух — гэта, людзі, Я! Скажа, а сам з рагамі. Людзі разявяць рот — Як жа ж, такія словы: “З намі увесь народ! Шлях да адзінай мовы!”» — зь якой пагардай і нянавісьцю гучалі гэтыя радкі пра «адзіную мову»! Прарокам вяшчаў ён пра Духа-заступніка, які «Выжыве — гэна так! Знойдзе... і вам на тацы Медны падасьць пятак: “Вось вам на хлеб, засранцы!”» Пра «адзіную мову» тады вяшчалі з самых высокіх трыбунаў. І асацыяцыі з «плюгавым» былі вельмі празрыстымі.

Адразу пасьля сканчэньня прамоваў да Анатоля падышлі тры коратка пастрыжаныя хлопцы ў цывільным, якія дагэтуль аціраліся ў натоўпе, сунулі яму пад нос кніжачкі і памкнуліся затрымаць яго. У мяне было пачуваньне роспачы, як, мабыць, і ва ўсіх, хто там быў. Бо што на той час азначала такое затрыманьне — не ведаў яшчэ ніхто. Я інстынктыўна схапіў аднаго зь іх за локаць, спрабуючы нейкім чынам затрымаць, задаючы нейкія недарэчныя пытаньні, накшталт: «За што?» Адзіны, хто не разгубіўся, дык гэта быў Анатоль, які рэзка разьвярнуўся і... пабег! Гэтага не чакалі і «ціхуны», якія запозьнена кінуліся за ім. Толік зьявіўся ўвечары да нас у інтэрнат і распавёў, што ўцёк ад іх, добра, на могілках на Радуніцу тады было шмат людзей, і ён, пераседзеўшы за адной з магілаў, выбраўся незаўважаным.

Увесну 1985-га прыйшла мая чарга ісьці ў войска на паўтара гады. Вярнуўшыся ў Менск увосень 1986 года, я ўбачыў Толіка ўжо асвойтаўшымся ў Менску, знаёмым шмат з кім зь беларускіх культурных дзеячаў, фатографаў, мастакоў, моладзевых нацыянальных актывістаў. Алег Бембель, Алег Мінкін, Анатоль Кляшчук, Аляксей Марачкін — гэты шэраг неардынарных асобаў можна было б працягваць і працягваць. Знаёмствам спрыяла ягоная праца. Цягаючы драты, — іншага яму не прапаноўвалі — за камерамі і асьвятляльнымі лямпамі, ён меў шмат часу, каб пагаманіць і пазнаёміцца зь цікавымі для яго людзьмі. Сітуацыя ў грамадстве пачала мяняцца, гарбачоўская перабудова надала нам рэальнага імпэту і аптымізму. Зьявілася магчымасьць для легальнай працы, прапаганды беларускіх ідэяў. Пачала пераглядацца ў аб’ектыўны бок беларуская гісторыя, зьявіліся ў друку забароненыя доўгія гады літаратурныя творы.

Павевы волі пасьля доўгага перыяду задушша і застою п’янілі нам галовы. Была спроба далучыць Анатоля да падпольнай дзейнасьці, якую тады праводзілі мы па меры сваіх магчымасьцяў. Я распавёў яму пра нашую групу, у якую ўваходзілі Вячорка, Суша, Івашкевіч, Дубавец ды іншыя,

распавёў пра мэты і задачы. Цяпер ідэя незалежнасьці Беларусі, яе дэсаветызацыі не была такой недасяжнай. Ён пагадзіўся працаваць, удзельнічаў у некалькіх зборках, здаваў складкі, штомесяц па пяць рублёў, але далей справа не пайшла. Падпольная праца патрабавала скрытнасьці і канспірацыі, а Толікава паэтычная імпульсіўнасьць і шчырасьць маглі пашкодзіць і яму, і ўсім нам, таму было вырашана глыбей яго не ўцягваць, шчыльна працуючы разам у легальным полі. Тым больш, што мы разумелі — ягоны паэтычны талент, тыя тэмы, на якія ён пісаў, тыя праблемы, якія ён ставіў у сваіх вершах, ягоныя прамоўніцкія здольнасьці, уменьне пераконваць і ўплываць на людзей ужо маглі быць рэалізаваныя адкрыта і легальна зь вялізнай карысьцю для Бацькаўшчыны. Ён жыў Беларусьсю і дзеля Беларусі, а што яшчэ трэба было?

У кастрычніку-лістападзе 1986-га на чарговай нарадзе Міктарату, так мы называлі свае патаемныя зборкі, было прынятае абавязковае для выкананьня рашэньне максімальна разьвіваць легальныя метады працы ў грамадстве праз стварэньне «нефармальных», як іх называлі, арганізацыяў. Гэта дало пачатак «Талацэ». А ў сьнежні 1986 года ў інтэрнатаўскім пакоі Анатоля Сыса на Авангарднай упершыню сабралася шэсьць маладых літаратараў, якія запачаткавалі Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», якое адыграла значную ролю ў творчым і дэмакратычным жыцьці Беларусі напрыканцы 80-х гадоў. Як пазьней высьветлілася, адзін з нашай шасьцёркі яшчэ раней быў завербаваны КДБ, але ўжо нішто не магло спыніць моладзевы рух і тыя грандыёзныя перамены ў гісторыі Беларусі, якія неўзабаве наступілі і да чаго мы таксама, наколькі змаглі, прыкладалі свае намаганьні. Бліскучая роля ў тагачасным моладзевым нацыянальным руху належала Анатолю Сысу. Больш падрабязна я напішу пра гэта пазьней. Жыцьцё «Тутэйшых», літаратурныя вечарыны, удзел у розных «нефармальных» імпрэзах, узьняцьце на шчыт у сваёй творчасьці нацыянальнай ідэі —

усё гэта натхняла не толькі Анатоля, але і тых людзей, зь якімі ён кантактаваў. Эпоха зьменаў нараджае вялікіх творцаў. Трагедыя гэтай эпохі становіцца часта і іхняй асабістай трагедыяй.

*Успаміны былі надрукаваныя ў кнізе: Алесь БЯЛЯЦКІ. Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера. — Мн., 2006.*

# «Я — СЫН КУПАЛЫ!..»

Згадваючы студэнцкія гады, думаю, што азначэньне «сябры» занадта моцнае для нашых стасункаў з Анатолем Сысом, які заўсёды трымаўся на пэўнай дыстанцыі, хаця разам мы прабавілі не адзін вечар, працавалі ў адным будатрадзе, хадзілі на канцэрты ды вечарыны, танчылі на студэнцкіх дыскатэках, наведвалі літаратурны гурток. Ды чаго мы яшчэ толькі разам не рабілі... Самае ж істотнае, што нас яднала, — шанотнае стаўленьне да беларускага Слова, у храм якога мы тады імкнуліся знайсьці дарогу.

Але ён быў старэйшы за нас на два курсы, быў вопытнейшы, ужо друкаваўся ў «Гомельскім універсітэце», мэтанакіравана і апантана займаўся вершатворчасьцю, таму ставіўся да нас крыху паблажліва, як да пачаткоўцаў. І заўсёды пад'юджваў: ну, давайце, давайце! Рабіце, пішыце! Мо з гэтага некалі што і атрымаецца. Здавалася б, на першы погляд, таварыскі і падманліва наіўны, зь якім так лёгка і весела было бавіць час у кампаніі, Анатоль практычна нікога не дапускаў у свой унутраны сьвет.

Усе тры гады сумеснай вучобы мы былі слухачамі ягоных вершаў — і на творчых вечарынах, і на паседжаньнях гуртка «Крынічка», і ў інтэрнаце па вуліцы Кірава. Ужо тады юнацкія вершы Анатоля Сыса захаплялі нас сваёй унутранай энергіяй і

самабытнасьцю. Для нас відавочна было, што побач з намі, на нашых вачах кшталтуецца і шліфуецца вялікі талент.

Анатоль вельмі патрабавальна і нават жорстка ставіўся да сваіх твораў. І таму не дзіва, што большасьць ягоных студэнцкіх вершаў так і не былі ім аддадзеныя ў друк. Ён хацеў прыйсьці ў літаратуру ўжо сфармаваным і завершаным творцам. Ягоныя студэнцкія вершы засталіся ў нашай памяці асобнымі назвамі, вобразамі ці радкамі. Толькі ў апошнія гады некалькі Анатолевых вершаў гомельскага перыяду зь лістоў сяброў і з альбомных запісаў аднакурсніц былі надрукаваныя.

Якім жа было наша зь Сержуком Сысом зьдзіўленьне, калі на сьвяце паэзіі ў Гарошкаве сястра Анатоля Тамара Ціханаўна дастала з шафы стос машынапісных аркушаў і працягнула нам з пытаньнем — ці гэта вершы Анатоля, ці друкаваліся яны і ці вартыя яны друку наогул. Некаторыя вершы адразу падаліся знаёмымі. Калі ж я ўбачыў яшчэ і сшытак, сьпісаны рукой Анатоля, з чарнавікамі вершаў, дык не засталося ніякіх сумневаў, што перад намі студэнцкія творы Анатоля Сыса. А многія гады лічылася, што яны страчаны назаўжды. Ды і сам Анатоль падтрымліваў гэты міф, сьцьвярджаючы, што ён іх спаліў...

Дзявятага траўня 2011 года, у выхадны дзень, мы з Эдуардам Акуліным выбраліся ў Гарошкаў. Разам з Тамарай Ціханаўнай у хаце Анатоля Сыса правялі некалькі гадзінаў, перабіраючы пыльныя стосы папераў. Аказалася, што свае студэнцкія вершы Анатоль сабраў у асобную кнігу пад назваю «Берагі майго юнацтва». Яшчэ адна верагодная назва зборніка фігуруе ў знойдзеных паперах як «Манускрыпт майго юнацтва». Вершаваны зборнік мае разьдзелы «Бераг правы» і «Бераг левы». На жаль, не захаваўся зьмест зборніка, таму немагчыма дакладна вызначыць, якія вершы адносяцца да першага, а якія да другога разьдзела.

Цяжка пераацаніць значэньне ацалелых вершаў. Спадзяюся, што ў хуткім часе ўсе знойдзеныя вершы выйдуць асобным зборнікам. Зараз скажу толькі, што большасьць з гэтых вершаў мае ўласную эстэтычную каштоўнасьць. Безь іх немагчыма зразумець, якімі шляхамі разьвіваўся талент вялікага паэта. Яны

шмат чаго дадаюць да разуменьня творчай эвалюцыі Анатоля Сыса, фармаваньня ягонай паэтычнай стылістыкі.

У вершах студэнцкіх гадоў прачытваюцца асноўныя матывы і тэндэнцыі творчасьці Анатоля Сыса, якія выкшталтуюцца і расквітнеюць у наступныя гады. Адна з асноўных тэмаў вершаў — любоў да Беларусі. Сыса можна назваць адным з самых беларускіх паэтаў канца XX стагодзьдзя. Не фармальнай і паказушнай зьяўляецца гэтая любоў, ёй прасякнуты кожны вершаваны радок Анатоля Сыса. Апісаньні прыроды роднага краю, якую паэт абагаўляў, рэкаў, і ў прыватнасьці Дняпра, на берагах якога прайшло ягонае дзяцінства і юнацтва, лесу, у якім ён адчуваў сябе як у храме, будуць неаднаразова зьяўляцца ў розных сюжэтных варыяцыях ягонага пазьнейшага творчага перыяду.

З самага пачатку паэтычнага шляху Анатоль надзвычай сур’ёзна ставіўся да свайго «боскага» прызначэньня. Ён назаўжды зьвязваў свой лёс з паэзіяй, параўноўваючы яе то з «полем бою», то з рызыкоўным заняткам — альпінізмам. Займацца паэзіяй, паводле Анатоля Сыса, — «рызыкаваць спакоем», «шчыраваць нястрымнаю душой», за што паэта чакае «ці ўзнагарода, ці адплата». Тут мы назіраем купалаўскае разуменьне адказнасьці паэта за напісанае слова. Нездарма пазьней Анатоль Сыс неаднойчы з гонарам будзе прамаўляць: «Я — сын Купалы!..»

Філасофскае асэнсаваньне свайго лёсу, выбар індывідуальнага шляху, часта супраць агульнай плыні і прынятых меркаваньняў, — важная частка жыцьця і творчасьці Анатоля. І ўжо ў свае дваццаць гадоў ён абірае шлях у Паэзію, што азначае — шлях у невядомасьць...

У вершы пра дэльфіна і ў «Хутаранцы» таксама праявілася адметная рыса паэзіі Анатоля Сыса. Гэта — сюжэтнасьць, драматызм і нават — трагічнасьць. Ён шукаў вобразы, якія б маглі моцна ўразіць чытача, закрануць самыя балючыя струны чалавечай душы. Так паступова нараджалася ягоная Паэзія болю. Так паступова нараджаўся і сам Паэт — валацуга, бажаволак і прарок...

*Верасень. 2010. № 4.*

## ПРАРОК СВАБОДЫ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Ёсьць горкая іронія ў тым, што пісаць пра невядомыя вершы Анатоля Сыса — майго сябра і геніяльнага беларускага паэта канца XX стагодзьдзя, які ў сваім жыцьці найбольш цаніў свабоду, прыходзіцца седзячы ў камеры. Жалезныя дзьверы і аконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палосамі, якія тут ласкава называюць «расьнічкамі», за імі ў шчыліны праглядаецца расьпілаванае бяздоннае верасьнёўскае неба і белыя ватныя аблокі. Колькі разоў ужо, стоячы ля акна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: «Вось воблака, сяду і ў сьвет палячу!» Калі не целам, дык думкамі і душою. І ёсьць у гэтым маім пісаньні вышэйшы сэнс, бо душа мая зараз дакладна наладжаная ва ўнісон Анатолевым вершам. І хто ж, як не ён, навучыў мяне некалі шанаваць свабоду і даражыць ёй. Гэтае ягонае ўнутранае і вонкавае разьняволеньне, незалежнасьць, якія праяўляліся і ў штодзённых паводзінах, і ў стасунках зь людзьмі, натуральна пераходзілі ў ягоныя вершы.

За гэта мы шанавалі Анатоля, за гэта яго не любілі людзі абмежаваныя і залежныя.

Увосень 2010 года, падчас штогадовага паэтычнага сьвята ў гонар Анатоля Сыса на радзіме паэта ў вёсцы Гарошкаў

Рэчыцкага раёна, я і зямляк Анатоля паэт і журналіст Сяржук Сыс даведаліся ад роднай сястры Анатоля Тамары Ціханаўны пра існаваньне неразабранага архіва Анатоля Сыса. Падчас прагляду яго я заўважыў невядомыя вершы паэта. Для нас гэта было моцнай неспадзяванкай, неверагодным сюрпрызам, у які зь першага разу цяжка было паверыць, бо Анатоль, жывучы ў Менску, неаднойчы распавядаў пра тое, што спаліў свае юнацкія вершы.

Хаця, ведаючы нястрымную ахвоту Анатоля да розных жартаў і розыгрышаў, я мяркую, што гэтая містыфікацыя якраз і была ў ягоным стылі. Перадаваць знойдзеныя вершы для публікацыі без прысутнасьці паэта і нашага сябра, заснавальніка і натхняльніка паэтычнага сьвята ў Гарошкаве Эдуарда Акуліна, Тамара Ціханаўна не адважвалася. Таму, пасьля тэлефонных дамоўленасьцяў, 9 траўня 2011 года мы з Эдуардам выбраліся ў Гарошкаў, дзе сустрэліся з Тамарай Ціханаўнай. Перабіраючы друкапісы і рукапісы, мы канчаткова пераканаліся, што перад намі вершы, пародыі і пераклады, большасьць зь якіх мы некалі чулі з вуснаў Анатоля Сыса ў нашыя юнацкія студэнцкія гады.

Асобна ў невядомай спадчыне паэта можна вылучыць машынапіс зборніка вершаў падназовам «Берагі майго юнацтва» (іншая верагодная назва — «Манускрыпт майго юнацтва») з разьдзеламі «Бераг правы» і «Бераг левы». На жаль, старонкі пераблытаныя і няма зьместу зборніка, таму нельга вызначыць, як дакладна былі разьмеркаваныя вершы па гэтых разьдзелах. Зборнік складаюць творы, напісаныя Анатолем Сысом падчас вучобы ў Гомельскім унівэрсітэце ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў.

Анатоль Сыс адсылаў свой зборнік на рэцэнзію. Захавалася частка канверта зь пячаткаю Саюза пісьменьнікаў Беларусі, з чаго можна зрабіць выснову, што зборнік дасылаўся менавіта туды. На жаль, рэцэнзія, падрыхтаваная Фёдарам Яфімавым, якая таксама знайшлася ў архіве, была адмоўнаю. Гэта, мабыць, і паслужыла прычынаю, чаму гэтыя вершы патрапілі ў тумбачку бацькоўскай хаты паэта. Толькі два вершы адсюль пазьней былі апублікаваныя ім.

Чытаючы знойдзеныя вершы з вышыні сёньняшніх гадоў, а іх мінула ўжо трыццаць, я пераканаўся, што большасьць зь іх зьяўляюцца самадастатковымі, высокавартаснымі творамі.

А яшчэ два гады таму, складаючы ў 2009 годзе зборнік выбраных вершаў А. Сыса «Алаіза», які рыхтаваўся да 50-х угодкаў паэта, я моцна шкадаваў, што так мала было вядома раньніх твораў Анатоля. Бо не зусім зразумелым быў для чытача шлях разьвіцьця ягонага магутнага таленту. І мала для асэнсаваньня гэтага шляху ўспамінаў і нататкаў знаёмых і сяброў. Што можа сказаць пра паэта выразьней, чым ягоныя вершы? «Берагі майго юнацтва» зьяўляюцца бліскучым адказам на маё рытарычнае мараньне. Яны запаўняюць «белую пляму» на раньнім этапе творчага шляху Анатоля Сыса.

Апроч гэтага машынапіснага зборніка ў паперах таксама была частка рукапісных вершаў Анатоля, у прыватнасьці вянок санетаў, напісаны ім ва ўнівэрсітэцкія гады. Увага да вершаванай формы санета ішла ў Анатоля Сыса ад захапленьня творчасьцю Максіма Багдановіча. Недарэмна ён пісаў курсавую працу, прысьвечаную санету як паэтычнай форме ў творчасьці М. Багдановіча. Гэтая праца зь вершам-прысьвячэньнем М. Багдановічу таксама захавалася ў архіве. Анатоль Сыс вучыўся ў свайго «старэйшага брата» — так ён называў пазьней М. Багдановіча — працаваць са словам. Чатырнаццаць радкоў санета ўяўляліся яму ідэальнай формай для паэтычных практыкаваньняў, для шліфоўкі слова і адточваньня рыфмы і думкі. Я памятаю, як ён ганарыўся сваім вянком санетаў, гаворачы пра тое, што гэта вельмі складаная форма вершаскладаньня і што ў беларускай паэзіі на той час было толькі два вянкі санетаў, адзін зь якіх напісала нашая зямлячка Соф’я Шах.

Некаторыя зь іншых вершаў, якія знаходзяцца ў архіве, створаныя ў стылістыцы раньняга перыяду творчасьці паэта. У іх пераважаюць рамантызм, этнаграфізм, апісальнае захапленьне роднымі мясьцінамі, юначая непасрэднасьць, неспатоленасьць праявамі жыцьця. Да гэтых твораў адносіцца верш «Вясковы каваль».

Спробы філасофскага асэнсаваньня сьвету, пераплеценыя са старажытнай магіяй беларускіх замоваў, зь іхнімі чароўнымі рытмікай і духам, якія бяруць выток з паганскай мінуўшчыны, былі характэрнымі для далейшай творчасьці Анатоля Сыса. Верш «Высакосны год» і «Балада-прысьвячэньне маці» акурат зьяўляюцца прыкладам гэтага этапу творчасьці паэта. Выглядае на тое, што яны былі напісаныя пасьля вучобы Анатоля ва ўнівэрсітэце.

Вялікі ўплыў на станаўленьне паэтычнага таленту Анатоля Сыса аказала насычаная філасофскай думкаю паэзія Алеся Разанава. Недарэмна бліскучая «Балада-прысьвячэньне маці» пачынаецца з эпіграфа — радка зь верша А. Разанава: «Да гарызонту даляцела птушка». Гэты радок паслужыў штуршком і асноўнай супярэчлівай ідэяй балады. Зыходзячы з рацыянальнага асэнсаваньня сьвету, немагчыма дапяць да гарызонту. І калі гэта ўсё ж удаецца — тады адбываецца цуд. Менавіта там, за гарызонтам, па ўяўленьні паэта, птушка пераўтвараецца ў чалавека. Птушка-чалавек — гэты паганскі, родавы, татэмны вобраз заўжды прыцягваў паэта. Вобраз птушкі ўяўляецца яму абсалютным вобразам свабоды. Там, у небе — «крылы» і «музыка нябеснага прастору», а тут, на зямлі — «немач рук» і «прыцягненьне вечнае зямлі».

Вобраз маці зьяўляецца культавым вобразам, які праходзіць праз усю творчасьць Анатоля Сыса. Вось і ў «Baладзе...» птушка пераўтвараецца ў маці. Такім чынам, паэт назваў сябе сынам жанчыны-птушкі, уяўныя будучыя дзеці якога таксама будуць дзецьмі-птушкамі.

Гэтаксама ў архіве паэта захаваўся сцэнар радыёперадачы, прысьвечанай ягонай творчасьці, падрыхтаваны ўвесну 1984 года для Гомельскага радыё пасьля ягонага вяртаньня з войска. У друкапісе з рукапіснымі праўкамі паэта ёсьць і невядомыя вершы. Можна меркаваць, што яны былі напісаныя ў 1983–1984 гадах, падчас службы. Да невядомых вершаў адносіцца «А мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы» — аптымістычны твор, у першым радку якога выказваецца жыцьцёвае крэда паэта. Радкі: «Мяняў я коней, стомленых

дарогай», «Быў я ў сябрах, як брыганціна ў чайках» даюць уяўленьне пра характар героя верша, якога можна атаясамліваць з асобай паэта.

Верш «Маці» існуе ў двух варыянтах — надрукаваны на асобным аркушы і ў тэксьце радыёсцэнара. Мне ўяўляецца, што Анатоль вымушаны быў перарабіць першапачатковы варыянт верша для радыёэфіру з прычыны ягоных рэлігійных матываў. Паэт параўноўвае сваю маці з «жывой Божай Маці». У ягоных вачах такое падабенства зьяўляецца вышэйшай адзнакай. Рукою Анатоля Сыса ў сцэнары зробленыя праўкі, у якіх ён акцэнтуе ўвагу на тым, што вобразы Маці і Радзімы для яго зьяўляюцца непадзельнымі — такімі ж яны існуюць і ў ягонай паэзіі.

Анатоль ніяк не ўспрымаў «ідэалагічна правільную» паэзію. Ён грэбаваў і зьдзекаваўся з рыфмаваных траскучых радкоў у гонар Леніна, партыі, рэвалюцыі ды розных іншых камуністычных сьвятаў і падзеяў. Нават пішучы на «прахадныя» на той час тэмы, да прыкладу, пра Вялікую Айчынную вайну, ён асэнсоўваў яе праз канкрэтны цяжкі лёс свайго прыйшоўшага з той вайны бацькі. І ядзерную бамбардзіроўку Хірасімы, якую савецкія ідэолагі падавалі выключна ў антыамерыканскім ключы, ён успрымаў з агульначалавечых пацыфісцкіх пазіцыяў. У вершы «А мне білет да Хірасімы» ён абыгрывае факт, які найбольш уразіў яго: на самалёце, што скінуў атамную бомбу, лётчыкам было напісанае імя ягонай маці. І менавіта да яе зьвяртаецца паэт, спрабуючы асэнсаваць тую трагедыю.

У вершы «Верлібр першай сустрэчы з морам» можна адзначыць знаёмы нам па іншых вершах паэта вобраз «адзінокага пілігрыма». Такім «адзінокім пілігрымам» і сам паэт пройдзе па гэтым зямным жыцьці.

Ёсьць у архіве некалькі вершаў, напісаных Анатолем Сысом у пазьнейшыя часы — у 90-я гады, у пачатку 2000-х. Іх лёгка распазнаць па правапісе — «тарашкевіцы», на якую паэт перайшоў у другой палове 80-х гадоў, пасьля пераезду ў Менск і далучэньня да моладзевага нацыянальнага руху. Тады

пераход на «тарашкевіцу» азначаў выразную грамадзянскую пазіцыю, арыентаваную на пераемнасьць нацыянальных каштоўнасьцяў і ідэалаў, якія бязьлітасна зьнішчалі камуністы і за якія перасьледавалі творцаў. Адзін з гэтых вершаў мае дачыненьне і да часопіса «Дзеяслоў». У лісьце, напісаным у пачатку ліпеня 2002 года, Эдуард Акулін прасіў Анатоля Сыса даць у першы нумар «Дзеяслова», які тады рыхтаваўся да друку, нізку вершаў. Да гэтага ў Анатоля рукі не дайшлі, але на канверце ягонай рукою быў запісаны сьціслы верш: «Сапраўднаму паэту...».

Выдрукаваны таксама «тарашкевіцай», захаваўся ў архіве і пераклад твора расейскага паэта М. Гнедзіча «Маім вершам». Як мне падаецца, думкі М. Гнедзіча, выказаныя ў гэтым вершы, былі блізкімі Анатолю Сысу, што і стала прычынай перакладу. Бескарыснасьць у творчасьці, любоў да музы, якая палала «зь юных гадоў», душэўны настрой, што выліваўся ў вершаваныя радкі... Анатоль Сыс пагаджаецца з Гнедзічам, які гаворыць пра тое, што ён не гандляваў душою дзеля ўцехаў, што «часта трымаў я іспыты на гонар і годнасьць» і «з тых вопытаў выйшаў я чыстым», што ён «ахвяр не паліў, патрахвіць каб ідэалам сьвету». М. Гнедзіч, а празь пераклад і Анатоль Сыс, жадае, каб людзі адшукалі ў ягоных вершах «сардэчную мову нябёсаў».

Спадзяюся, што неўзабаве невядомыя вершы Анатоля Сыса выйдуць асобным зборнікам, так, як некалі і планаваў паэт. Несумненна, што гэтыя вершы сур'ёзна дапоўняць творчую спадчыну паэта, нашага прарока свабоды і незалежнасьці.

8 верасьня 2011 года.

*Дзеяслоў. 2011. № 54.*

# САРДЭЧНАЯ МОВА НЯБЁСАЎ

Якраз сёлета мінула трыццаць гадоў з часу, як мы з Эдуардам Акулiным і Сержуком Сысом паступілі вучыцца ў Гомельскі ўніверсітэт. Апроч усяго іншага там нас чакала знаёмства з Анатолем Сысом, які адвучыўся ўжо два гады. Улічваючы агульныя інтарэсы, найперш захапленьне прыгожым пісьменствам, а таксама даволі вузкае кола асобаў, якім гэта было цікава, сталася так, што мы, гомельская суполка студэнцкай моладзі, аказвалі даволі моцны ўплыў адзін на аднаго. Перачытваючы свае нататкі-ўспаміны, а таксама нашыя тагачасныя лісты, я зразумеў, што гэты ўзаемны ўплыў быў нават большым, чым гэта ўяўлялася раней. І адбівалася тое як на фармаваньні творчасьці, так і на коле нашых грамадскіх інтарэсаў, агульных уяўленьняў пра сучаснасьць і будучыню Беларусі.

У вайсковых лістах Анатоля Сыса да нас, а ён амаль заўсёды пісаў лісты мне і Э. Акуліну разам, бачна, якое значэньне ён надаваў сяброўству з намі. «Як ні дзіўна, але самыя дарагія лісты для мяне вельмі рэдка прыходзяць ад вас», — піша А. Сыс. У іншым лісьце ад 10 студзеня 1984 года ён паўтарае: «Весткі ад вас для мяне заўсёды асаблівыя».



Анатоль Сыс, 30-годзьдзе. Менск, 1989 год

Трэба сказаць, што мы таксама моцна даражылі сяброўствам з Анатолем, і ягоны ўплыў на станаўленьне нас як асобаў цяжка перааацаніць.

Пры перачытваньні лістоў А. Сыса з войска становіцца зразумелым, як ён працуе над вершам, наколькі яго захапляе працэс вершастварэньня, колькі адбірае гэта энергіі і сілаў. Бачна агульнае незадавальненьне сваёй творчасьцю, жаданьне ўдасканальваць вершы да бясконцасьці.

У лісьце ад 16 ліпеня 1983 года ён паведамляе: «Пішу я ў месяц тры-чатыры вершы. І толькі тады, калі мяне разрывае на кавалкі. Я кідаю ўсю службу і пішу, дзень, два, тры, магу тыдзень — у выніку гатова радкоў дзесяць. Яны мне здаюцца залатымі, але не маімі». Дастаткова параўнаць чарнавік верша «Мама, вышый мяне на падушцы сваёй», які падаецца далей, з тэкстам, надрукаваным А. Сысом пазьней. У шасьці строфах не зьмененымі засталіся толькі два радкі.

А. Сыс неаднаразова просіць у нас даваць заўвагі да сваіх вершаў і да паэмы «Алаіза». Атрымаўшы заўвагі, вельмі сур'ёзна і ўдумліва ставіцца да іх. Захаваўся чыставы машынапісны варыянт паэмы «Алаіза», дасланы ім з войска. Перачытваючы паэму, пазьней папраўленую ім ужо для друку ў першым зборніку вершаў «Агмень» (1988), бачу, што некаторыя мае парады па мове паэмы былі ім улічаныя, але таксама лаўлю сябе на думцы, што гэты, яшчэ «непрыгладжаны», не перагледжаны ім пазьней у Менску «вайсковы» варыянт «Алаізы» не менш моцны і арганічны. Некаторыя праўкі нават здаюцца больш слабымі, чым было напісана спачатку. Таму ёсьць сэнс разглядаць гэты варыянт паэмы не як чарнавы, а як другі, больш раньні.

Кранальнымі выглядаюць ягоныя адносіны ў войску да беларускай мовы: «Тут нехаця прыходзіцца размаўляць парускu. Я з усіх сілаў стараюся падтрымліваць у сабе памяць роднай мовы, і калі земляка сустрэну, і кніжкі дастаю, даю, нават прымушаю іх чытаць беларусаў, вось тут мяне лічаць дзіваком. Вы не ведаеце, што такое плакаць па роднай мове, а я плакаў горкімі сьлязьмі. О, якая гэта асалода! Я часта думаю: прыйду да вас — і будзе сорамна за сваю мову, бо я не толькі застаўся на ранейшым узроўні, але і скаціўся ўніз. Напісаць верш, у моўных адносінах, для мяне мука», — піша Анатоль у лісьце ад 10 студзеня 1984 года.

У войску А. Сыс даволі шмат чытаў. Прачытанае затым часта адбівалася ў ягонай творчасьці. Цікавым кур'ёзным фактам у нашай перапісцы можа падацца ліст А. Сыса, напісаны на лісьце В. Шніпа. Але такіх кур'ёзаў, перабіраючы

свае юнацкія архівы, я знайшоў не адзін. Так, у 1984 годзе, блазнуючы, Анатоль і Эдуард падпісалі мне зборнікі Алеся Разанава ад імя... аўтара. Анатоль напісаў мне на зборніку А. Разанава «Шлях 360»: «Шаноўнаму Алесю ад Алеся ў знак шчырага сяброўства і прыемных сустрэч. Не Беларусь для нас, а мы для Беларусі».

Вынікам настальгіі па закончаным і, цяпер з пэўнасьцю магу сказаць, шчасьлівым і бесклапотным перыядзе майго студэнцкага жыцьця стаўся яшчэ адзін літаратурны кур'ёз — напісаньне ўспамінаў пра Анатоля Сыса ў... 1984 годзе. Гэтыя аркушы, выдраныя са сшытка, праляжалі 25 гадоў, і толькі цяпер, перабіраючы свой архіў, шукаючы лісты Анатоля, я натрапіў на іх.

Тыя запісы, якія я тады яшчэ назваў «Успаміны пра Анатоля Сыса», мне падаецца, павінны стаць фактам беларускай літаратурнай крытыкі, не толькі таму, што ў іх прыводзяцца малавядомыя факты з жыцьця А. Сыса, але й таму, што ў іх ці не ўпершыню Анатоль Сыс быў названы «Вялікім паэтам». У гэтым я ні кроплі не сумняваюся і цяпер. Магутны і фенаменальны паэтычны талент А. Сыса. Як у часы беларускага адраджэньня векавой даўнасьцці ярка зазьзялі зоркі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, так і чарговае адраджэньне 80–90-х гадоў дало беларускай літаратуры і беларускаму народу некалькі творцаў першакласнай велічыні, сярод якіх ці не першае месца займае паэтычны талент Анатоля Сыса.

Недрукаваныя вершы А. Сыса складаюць найкаштоўнейшую частку гэтай публікацыі. Вершы «Мама, вышый мяне на падушцы сваёй» і «...Таварыш донар» адносяцца да перыяду творчасьці А. Сыса ў войску і маюць яшчэ пэўныя вобразныя калькі, ад якіх паэт карэнным чынам ужо адыходзіць у паэме «Алаіза». Яны цікавыя для разуменьня, якім шляхам ішло высьпяваньне творчай думкі і паэтычнага прафесіяналізму паэта. Але і ў іх ужо бачныя яскравыя праявы паэтычнага таленту А. Сыса, якія ў хуткім часе выбухнуць грандыёзным паэтычным феерверкам.

Важнымі для асэнсаваньня разьвіцьця творчасьці паэта зьяўляюцца вершы, напісаныя А. Сысом неўзабаве пасьля войска: «Паэты-мастакі» і «З нагоды выхаду ў сьвет зборніка М. Мятліцкага (Міклухі Маклая) “Мой дзень зямны”». Верагодней за ўсё, вершы былі напісаныя ў 1985 ці першай палове 1986 года. У іх бачна, якую грамадскую пазіцыю займае А. Сыс і якім чынам гэта ўплывае на ягоную творчасьць. Пазіцыя нонканфармізму, нязгода з існуючай афіцыйнай палітыкай уціску ўсяго беларускага ў БССР, кшталтаваньне ўласных поглядаў па вышэйшым стандарце (недарэмна пазьней ён будзе не раз казаць: «Я — брат Багдановіча і сын Купалы»), нежаданьне падладкоўвацца пад пануючыя стандарты сацыялістычнага рэалізму, — усё гэта знайшло месца ў глыбока народнай па сваёй сутнасьці творчасьці А. Сыса.

Нават у няўдалых, на погляд аўтара, вершах, такіх, як «Апошні зь ненароджаных сыноў», ёсьць строфы, якія ўражваюць дасканаласьцю формы і глыбінёй зьместу. Насычанае грамадскае жыцьцё ў Менску ў другой палове 80-х гадоў, актыўнасьць Анатоля надалі ягонаму таленту неабходны імпэт агульнабеларускага маштабу. У сваім лісьце ад 10 студзеня 1984 года ён сумняваецца: «Алесь, я нават не ведаю, ці змагу я ўліцца ў “Беларусы”. Я — эгаіст, а для гэтай вялікай справы трэба... ну ты сам ведаеш». Але з 1985 года ён становіцца адным з лідараў менскай нацыянальна сьведамай моладзі.

Ці не ў кожным лісьце да мяне пра А. Сыса згадвае і Эдуард (Едрусь) Акулін, які тады настаўнічаў у вёсцы Дуброва Рэчыцкага раёна. 28 студзеня 1985 года ён піша: “Даляглядыˮ пакуль не набыў, “Дзень паэзіі” да нас яшчэ не дайшоў — цікава, ці ёсьць там Сыс? Дарэчы. Дзе ён зараз, гэты “выхадзец”? Ці прыняла сталіца яго ў сваё ўлоньне? (...) Перадавай усім прывітаньне, абдымі бацьку (Сыса), пішы. Ż. B.! (Што трэба чытаць як «Жыве Беларусь!». — ***А. Б.***) Едрусь».

У лістах да мяне ў войска ў 85–86-м гадах мае сябры ды сяброўкі, пішучы пра свае клопаты ды розныя падзеі, часта пісалі і пра Анатоля Сыса. Я, будучы ў войску, атрымаў не

шмат лістоў ад яго, але добра ведаў, што робіць Анатоль Сыс. 6 кастрычніка 1985 года Едрусь Акулін піша мне: «Гляджу зараз на тваю жыцьцярадасную ўсьмешку на здымку і думаю, што нечым яна нагадвае мне блазнавата-хітрую ўсьмешку Цішкі (вясковая мянушка бацькі Анатоля Сыса Ціхана Сыса, якой мы часам называлі і Анатоля. — ***А. Б.***), у ёй — усё. (...) Днямі адбылося паседжаньне прэзідыума праўленьня Саюза пісьменьнікаў БССР. Абмяркоўвалася творчасьць маладых. Нарэшце спамянулі Цішку, побач з Глёбусам, пра мяне — нічога. Сумненьні, расчараваньні...» 27 сьнежня 1985 года Едрусь Акулін паведамляе: «Днямі пачнуцца вакацыі. Не ведаю, што рабіць. Прасіў Сыса А. разьведаць наконт тэрміну здачы рукапісу пасьля дапрацоўкі, а ён маўчыць, як мойвы аб'еўшыся...»

Літаратурнай зьяваю 1985 года быў для нас выхад зборніка паэзіі Алега Мінкіна «Сурма». Першая кніжка паэта паказвала, што ў беларускую літаратуру прыйшоў выдатнейшы паэт, неардынарны, таленавіты творца, прыхільнік класічных формаў вершаў, пасьлядоўнік багдановічавае школы «чыстае красы» ў паэзіі. Кніжка А. Мінкіна моцна ўразіла мяне, і я ў войску напісаў на яе адназначна станоўчую, калі не сказаць, што хвалебна захопленую, рэцэнзію ў адрозьненьне ад увогуле станоўчай, але даволі прыдзірлівай рэцэнзіі на «Сурму» ў «ЛіМе» Анатоля Сідарэвіча. Затым я пераслаў яе Э. Акуліну і папрасіў, каб ён перадаў яе ў «Маладосьць». У працэсе «ўладкаваньня» рэцэнзіі браў удзел і Анатоль Сыс.

Едрусь так апісвае гэтыя падзеі ў лісьце за 1 лютага 1986 года, а заадно і апісвае свае ўзаемадачыненьні з Анатолем: «...Прабач, што доўга маўчаў. Не хацеў пісаць, пакуль не высьветлю лёс твайго рукапісу. Поштай я яго не дасылаў, а адвёз сам у Менск... Заходзілі ў “Маладосьць” разам зь Цішкам — Далідовіча не было. Гаварылі зь Сіпаковым — сказаў, што ў іх артыкул на Мінкуса (так мы тады называлі А. Мінкіна. — ***А. Б.***) ужо ёсьць, яны самі камусьці заказвалі. Так што я пакінуў яго ў Цішкі, хай паспрабуе занесьці ў

«Полымя» — ён пасьля табе напіша. Па меншай меры — абяцаў. Па Менску хадзіў з Сысом разам. Ён выходзіць “у людзі”. Вельмі сябе хваліць... Прасіў у Сыса вершаў пачытаць — не дае, ці пераслаць у лісьце — не хоча, ці то баіцца, што перайму манеру, я ж “вялікі плагіятар” да ўсяго... Увогуле я ім вельмі незадаволены, як быў аднаасобнікам-кар’ерыстам, так і застаўся. Проста маскіруецца словамі. Дарэчы, я вельмі, і гэта шчыра, рады, што нарэшце яго вершы павінны “пайсьці”. У “Маладосьці” яго дэбют (8–10) вершаў будзе ў 4-м нумары. Абяцаюць надрукаваць у «Полымі» і «ЛіМе». Казаў, што ў “Полымі” быў мо 20 разоў, пакуль нарэшце прынялі вершы — вось табе і незацікаўленая асоба. Крыўдзіць не гэта, а тое, што ён не хоча дапамагчы сябру. Кажа, што ён адзін такі ў Беларусі і сам да гэтага дайшоў. Толькі мне здаецца, што наўрад ці, каб сядзеў і зараз у сваёй Ветцы. Рукапіс мне раіць зьнішчыць і пісаць новы. Што пісаць новыя вершы трэба, і на іншым узроўні, я згодны, але і адмаўляцца цалкам ад сябе ўчарашняга — не зьбіраюся. А што ты думаеш? Не дачакаюся, пакуль ты вернешся з войска. Поўная ізаляцыя. А ты сапраўдны сябра і дарадчык... У Гомелі не быў, пра Сыса С. нічога не чуў. Цішка бачыў у Менску Кавалёва, той вельмі прасіў тваю адрэсу — ці варта даваць? Ż. B.! Пішы аб сабе. Да пабачэньня. Едрусь».

Дарэчы, падобныя звышпатрабавальныя ацэнкі да ўласнай паэзіі давялося на працягу наступных гадоў выслухаць ад Анатоля не аднаму маладому беларускаму паэту. Кагосьці гэта злавала, хтосьці крыўдзіўся, хтосьці пагаджаўся, а хтосьці — не, але ў любым выпадку гэта прымушала маладых паэтаў больш патрабавальна ставіцца да сваёй творчасьці. У лісьце ад 27 сакавіка 1986 года Генадзь Сагановіч распавядае мне пра далейшыя клопаты Анатоля Сыса наконт маёй рэцэнзіі: «Анатоль прывітаньне шле. Рэцэнзія твая на Мінкуса пакуль не ўладкаваная. У “Маладосьці” ўжо напісаная (здадзеная), у “ЛіМ”, здаецца, не бяруць». 4 красавіка 1986 года Едрусь паведамляе: «У аглядзе паэзіі за год нарэшце згадалі і маё імя. На думку Каржанеўскай, нягледзячы на пэўныя

фармальныя здабыткі, мае вершы носяць эскізны характар. Мажліва, гэта — стыль, але ёй, як чытачцы, не хапае паўнаважкасьці зьместу. Паэткай першай велічыні Каржанеўская высунула Соф'ю Шах. Спамянула і Сыса А., маўляў, яго вершы чакаюць сваёй чаргі. У гэтым месяцы, сапраўды, мы будзем сьведкамі "цішкаўскага" дэбюту ў "Маладосьці". Алесь, ці даслаў ён табе ліст, наконт артыкула?»

Празь месяц, 4 траўня 1986 года, Генадзь Сагановіч піша драматычны ліст, у якім апісвае разгон студэнтаў, якія зьбіраліся сьвяткаваць на Траецкім прадмесьці «Гуканьне вясны», і зноў згадвае Анатоля Сыса. Дазволю сабе прывесьці гэты ліст больш падрабязна, бо ён перадае грамадскую атмасферу тых гадоў. Я таксама перакананы, што падзеі, апісаныя ў лісьце, аказалі ўплыў і на актыўнасьць пазіцыі Анатоля Сыса, які быў у тыя месяцы частым госьцем у асьпіранцкім пакоі Генадзя Сагановіча:

«Спачатку аб дробязях, бо забудуся, а потым — галоўнае. Вольны паэта на старым мейсцы. Шле прывітаньне. У чацьвертай "Маладосьці" — яго нізка.

(...) Ну, а цяпер галоўнае. 20 красавіка стала "чорнай нядзеляй" у гісторыі Беларусі. Той самы гурток, аб якім ты пытаеш, — гэта школьнікі з Рэспубліканскай мастацкай школы-інтэрната імя Ахрэмчыка. Я вяду іх са сьнежня 1985 г. па даручэньню камсамола. У нядзельку, 20 красавіка, у Менску афіцыйна праводзілася сьвята "Выстава аднаго дня" (разам з Гуканьнем вясны) на Траецкім. Вось і прыйшлі гэтыя дзеткі арганізавана, каб узяць удзел у Гуканьні. Як і мае быць, са стужкамі зь бел. арнаментам, з птушачкамі і інш. Толькі яны сталі вадзіць карагоды (на тым жа мейсцы, дзе й мы летась), як на іх накінулася група малойчыкаў, што аднекуль зьявілася (чалавек 50). Частка была добра п'янай, у чорных пальчатках, з кастэтамі. Яны пачалі крычаць дзецям, каб тыя спыніліся, зрывалі з галоў стужкі, адбіралі ўсё і... білі кулакамі... нават дзяўчат. У паветры луналі пагрозы: "Перестань разговаривать по-белорусски! Сволочь, не притворяйся!", "Не разговаривать по-белорусски, не то убьем!"

Шмат хто з гэтых малойчыкаў хваліўся медалямі, атрыманымі за службу ў Аўгане... Сярод іх быў кіраўнік, якому яны зносілі ўсё, што адбіралі ў дзяцей.

Потым аўганскія штурмавікі сказалі, што іх напярэдадні сьвята сабралі ў гаркаме камсамола і сказалі, што 20-га на Траецкім будуць пераапранутыя ў бел. строй... фашысты (?!), якія, магчыма, будуць прыкрывацца... бел. мовай і бел. песьнямі (?!).

Словам, біць усіх, хто размаўляе па-беларуску і сьпявае.

У момант гэтага пагрому на мосьце стаяла шмат міліцыі, якая спакойна назірала за зьбіваньнем дзяцей. Калі да яе падбягалі прасіць дапамогі, адказ быў кароткі: “Идите домой, не то вам здесь достанется”...

На другі ж дзень (калі ўжо і я прыехаў у Менск, бо 20-га быў у камандзіроўцы) кінуліся ў органы, каб знайсьці злачынцаў — і штурмавікоў, і іх арганізатараў. Але ўсё аказалася не такім простым. Міліцыя замінае. Па ўсіх афіцыйных каналах — чорная прапаганда, накшталт: “Да, это были действительно фашисты, с крестами и свастикой!” Гэта ўсё, што я магу табе напісаць. Але інцыдэнт гэты — упершыню ў гісторыі! Людзі ўсё робяць, каб яго раскруціць, не даць замяць. Лецка асьмеліўся прамым тэкстам сказаць аб гэтым на зьезьдзе Бел. СП (23.IV.86), дзе прысутнічалі дэлегаты ўсіх рэспублік. Але без Масквы, здаецца, шукаць злачынцаў ніхто не будзе, каму б ні падавалі тут скаргу. Вось, Алесік, як у нас усё паварочваецца. Ты можаш шмат аб чым здагадацца і сам, падумаўшы над “чорнай нядзеляй”. Усё яшчэ добра абышлося. І дзеці не пакалечаныя. Пішы. Чакаю. Генусь. Хрыстос уваскрос!»

Анатоль Сыс прысутнічае на розных грамадскіх ды культурніцкіх імпрэзах, з галавою акунаецца ў беларускае маладзевае жыцьцё.

Паліна Качаткова паведамляе мне: «18/V я паехала ў Ракуцёўшчыну на “сьвята песьні і паэзіі”. Барадулін пра “Пагоню” ў мікрафон чытаў верш. Я сядзела на траве-мураве

на нейкім пагорку. Па мне бегалі павукі. А за мною сядзеў А. Сыс (калі я правільна зразумела) з хлопцамі».

Пра маладосьцеўскую падборку вершаў А. Сыса 11 чэрвеня 1986 года піша Э. Акулін: «Сысава падборка — нічогая, улічваючы 27-гадовы ўзрост, магла быць і лепшай — шмат сысаўскіх “у чым жа соль санета?” (сказ з курсавой А. Сыса, прысьвечанай санету як форме вершаскладаньня, які мы часта ў гумарыстычным сэньсе цытавалі між сабой. — ***А. Б.***). Добра — “З чаго пачаць? Пачну з Радзімы...” Хоць “Чорны замак” пачынаецца гэтымі ж словамі. («З чаго мне, чорт пабірай, пачаць?» — ***А. Б.***) (...) І ўсё ж, усё ж — ён малайчына — я шчыра рады за яго і чакаю лімаўскай падборкі».

Улетку 1986 года Н. Пінчук піша мне: «Я ведаю, цябе цікавіць “Талака”. Яна зараз існуе і ў Гомелі. Нас са Сьветай (Сьвятлана Ткач. — ***А. Б.***) туды прывялі хлапцы, зь якімі мы пазнаёміліся на камуністычным суботніку. Я як з глузду зьехала, калі пачула беларускую мову. У той жа вечар я напрасілася і паехала з адным зь іх у Менск, на сьвята “Выстава аднаго дня”. Бачыла Вінцука, індзейца (Алесь Сімакоў. — ***А. Б.***), Толіка Сыса (ледзь яго пазнала). Потым усё закруцілася. Нядаўна мы прыехалі зь Ленінграда, дзе былі на зьлёце падобных аб’яднаньняў. Пазнаёміліся зь мінчанамі. Ты іх павінен ведаць: Вітушка Сяржук і яшчэ адзін Сяргей, прозьвішча запамятавала. Таксама быў там і Суша».

Улетку 1986 года адгукаецца малады паэт Анатоль Дэбіш: «Добрыя вершы напісаў А. Сыс. Я думаю, табе выслалі яго нізкі вершаў, надрукаваных у “Маладосьці” і “Літаратуры і мастацтве”».

Тады ж я атрымаў ліст ад Анатоля Кавалёва, нашага аднакурсьніка, які служыў у міліцэйскім палку ў Менску: «Пабывалі мы, праўда, і пад Чарнобылем, у 30-кіламетровай зоне, ахоўвалі выселеныя вёскі (гэта Брагінскі і Хойніцкі раёны, тыя мясьціны, дзе мы калісь былі “на фальклоры” — Бабчын, і ў будатрадзе пасьля першага курса. Я нават бачыў тыя домікі, што мы тады будавалі). Былі там амаль паўтара месяца. Ну, а зараз, як і раней, служу ў Менску. Неаднаразо-

ва сустракаў тут Анатоля Сыса, ён увайшоў у мясцовую “Талаку” і нават, здаецца, зрабіўся ў ёй адным зь верхаводаў».

Як можна заўважыць зь лістоў маіх сяброў, энергія, якая ішла ад А. Сыса, не заўсёды была станоўчаю. Так, перад самай маёй дэмабілізацыяй з войска 31 кастрычніка 1986 года Генадзь Сагановіч піша: «Сыс сказаў, што яму “Бог даў дар паэта” і ён адзін разумее Разанава, бо й сам “20 гэткіх жа вершаў напісаў” (?!). Карацей, ён зрабіўся для мяне сапраўдным тыранам. Пасьля яго — некалькі дзён ачуньваю».

У сваіх пазьнейшых лістах я таксама часта згадваю Анатоля. Так, 6 чэрвеня 1988 года я пішу Натальлі Пінчук: «Учора езьдзілі ў Мілавіды (паездка была арганізаваная моладзевымі беларускімі суполкамі для парадкаваньня помніка паўстанцам 1863 года.— ***А. Б.***). Быў і Алесь (Алесь Яўсеенка, старшыня гомельскай «Талакі». — ***А. Б.***) з камісарам. Яны спазьніліся і заявіліся тады, калі ўсе сабраліся ўжо ад’язджаць. Талакоўцы засталіся зь імі на начоўку, а я вярнуўся ў Менск, бо тут багата пісаніны і хацелася сёньня, у нядзелю, троху папрацаваць. Так з Алесем і не пагаманіў. (...) А ўвечары прыйшоў Анатоль Сыс з Федарэнкам, спакушалі мяне выпіць (Анатоля ў Саюз рэкамендавалі), але я моцна трымаюся і да жніўня не п’ю. Прасядзелі цэлы вечар, балбаталі ні аб чым. На лета разьбягаемся — у Сыса адпачынак, дык проста прыемна памяньцілі напасьледак языкамі. Вось дык папрацаваў (...) Учора быў мацнейшы “ЛіМ”, у якім проста фенаменальны матэрыял З. Пазьняка. Гэта нейкі жах. Дасюль не магу адысьці. Увогуле прэса разбарзелася як перад сконам. Разбор зь вечарынаю, што мелася адбыцца ў інстытуце гісторыі, працягваецца, і заўтра, у панядзелак, будзе зноў вялізны сход. (Маецца на ўвазе забароненая літаратурная вечарына «Тутэйшых», якая мусіла адбыцца ў зале Інстытута гісторыі Акадэміі навук.) (...) Мы тут паціху закручваем справу са школкамі».

У іншым лісьце за 1988 год да Натальлі Пінчук я пішу: «Ніколі, як, мабыць, у войску, не быў так заняты. Вось і зараз гадзіна ўжо амаль. Але працы пасьпяваю зрабіць шмат,

і таму ёсьць нейкае задавальненьне. Справы ідуць паціху. (...) У нас у Менску зараз вельмі неспакойна, “крызіс вярхоў”, так бы мовіць. Атэстацыю, першую частку, я прайшоў, у аўторак — зацьвярджэньне на навуковым савеце. Сыса 22-га будуць у Саюз прымаць, а Глобуса і Мінкіна пракінулі, затое набралі нейкіх графаманаў. Саюз дэградуе. Мы вельмі абурыліся, таму што рэкамендавалі ад “Тутэйшых” усіх траіх».

Гэтыя вытрымкі зь лістоў маіх сяброў і знаёмых, мне падаецца, дадаюць штрыхі да разуменьня таго асяродзьдзя і тых праблемаў, у якіх знаходзіўся Анатоль Сыс у сярэдзіне 80-х гадоў і што, безумоўна, адбілася на тэматыцы і праблематыцы ягоных твораў.

Паэтычны феномен Анатоля Сыса, вялікага паэта канца XX стагодзьдзя, патрабуе ўважлівага і сур’ёзнага вывучэньня. Ягоная творчасьць лягла ў залатую скарбонку беларускага прыгожага пісьменства. Анатоль Сыс, як і класікі беларускай літаратуры — Янка Купала, Максім Багдановіч, — у паэтычным слове здолеў выказаць самае моцнае жаданьне беларусаў у апошнія стагодзьдзі — людзьмі звацца.

## Успаміны пра Анатоля Сыса

### *Запісы 1984–1985 гадоў*

Восень 84-га года. Надыходзяць хвіліны, калі тое, што накапілася ў табе і бегла разам з імклівым жыцьцём, што было тваёй часткай, раптам спыняецца, аддаляючыся. І глядзіш на ўсё з узрастаючай цікавасьцю, як на нешта і не зусім знаёмае. «Госпадзе, няўжо ўсё так і было?» Гэта называюць: яшчэ адзін скончаны этап жыцьця. І хаця ты вырас зь яго і сотні нітак будуць да скону зьвязваць цябе зь ім, але там, там усё так і застанецца ўжо нярушаным, некранутым.

Гады студэнцкага жыцьця майго... З мудрасьцю глядзіць на мяне Купала, падпёршыся рукою, так, як глядзіць на мяне ўжо трэці год. І нязвыклы сум падкочвае да сэрца. Наперадзе яшчэ ўсё жыцьцё, аднак нешта застанецца ўжо як памяць, яшчэ яркая і шматфарбная, але якая з кожным днём аддаляецца і не блякне, проста становіцца празрысьцейшай, сьвятлейшай...

Я хачу апісаць сваіх сяброў такімі, якімі яны былі. Магчыма, потым, у творах, вобразы іх будуць падпарадкаваны нейкай мэце, нешта будзе зьнята, нешта дабаўлена, нешта спрошчана, нешта ўскладнёна, а зараз хай яны застануцца самімі сабой...

Анатоль Сыс. Упершыню я ўбачыў яго на пачатку першага курса. На перапынку да нас зайшоў нейкі сьветлы хлапец у сінім летніку і, гледзячы трохі вырачанымі вачыма, здаецца, некуды па-за нас, павольна гэтак, акцэнтуючы кожнае слова, аб'явіў аб тым, што... некалі там... адбудзецца «Крынічка» і што ўсе паэты запрашаюцца на яе. Вершы на рускай мове я кінуў пісаць у канцы ліпеня, яшчэ перад паступленьнем, зрабіўшы для сябе дзьве высновы — пісаць буду па-беларуску і прозу. Таму такі заклік мяне трохі пакрыўдзіў. Але ў падсьвядомасьці ўвесь гэты час цягнула на вершы. Перашкаджала дрэннае веданьне мовы, баяўся. Сядзелі мы побач зь Едрусем, хлопец той нам падаўся сьмешным, але на «Крынічку» мы вырашылі пайсьці, тым больш, што туды ж запрашаў нас і Ярац.

На першым курсе, а Анатоль быў тады на трэцім, у нас былі толькі асобныя сустрэчы. Я жыў на кватэры і ў інтэрнат не хадзіў. Сустракаліся звычайна на «Крынічцы». Памятаю, ці не на першым пасяджэньні абмяркоўвалі яго вершы, і тады, на мой неўмацаваны густ, вершы падаліся мне нейкімі дзіўнымі, хваравітымі, ці што... Зараз я разумею: ішоў пошук на ўзроўні свайго разьвіцьця, пачварна няроўнага, дзе некаторыя эстэтычныя крытэрыі былі ссунутыя, але гэта асобная тэма. Запомніўся верш пра забітага чалавекам дэльфіна, мазгі якога плылі па хвалях. Да ўсяго даходзяць інтуітыўна,

у параўнаньні з вопытам. Але і тады я разумеў: мазгі на хвалях у гэтым месцы — антыэстэтычна, не для гэтага верша, і ў той жа час выкінуць іх зь верша — амаль немагчыма, тое ж, што адпілаваць у нованароджанага ўразьлівую руку ці нагу. Зараз я магу сказаць: перарабляемасьць твора, нат пры яго недасканаласьці, — прыкмета таленту. У Едруся прыроднае, інтуітыўнае адчуваньне верша, але канкрэтнае, без уяўленьня яго перспэктывы, разьвіцьця. Але тады, хаця як і ў 90 выпадках са 100 і потым, характарыстыкі нашыя супалі: гэта добра, але недасканала, хаця лепш, чым у каго.

Потым быў яго вянок санетаў, зноў, на наш зь Едрусем погляд, не вельмі ўдалы, нат мы проста не ведалі, што і сказаць, але ўражвала агромністая праца, зробленая ім. Ён першы даваў нам прыклад адказных адносінаў да літаратуры, паказваючы, што пісаньне — гэта ў першую чаргу праца.

Добра запомнілася яшчэ адна сустрэча — недзе пад вясну. Я сядзеў на падваконьні, на 2-м паверсе, чытаў падборку квантэмаў А. Разанава ў «Маладосьці». Падышоў ён. На мае захопленыя словы на адрас Алеся, прачытанага і зьведанага мною ўпершыню, адказаў, што піша па Някляеву, Пашкову і Разанаву курсавую — дасьледуе іх наватворы. Ён лічыў іх тады самымі перспэктыўнымі з маладых. Наконт першага і трэцяга словы яго збыліся.

Зараз згадваю і не магу дакладна згадаць, магчыма, што з творчасьцю Разанава ён пазнаёміў нас і раней, бо «Каардынаты быцьця» дайшлі да нас (мяне і Едруся) празь яго рукі. Разанаў быў для яго доўгі час Богам. Вялікі ўплыў паэзія Алеся аказала і на нас. На мяне — сваім выпраменьваньнем энергіі. Багата чытаць яго я проста не магу. А зараз літаральна баюся браць у рукі, два апошнія яго зборнікі моцна ўзьдзейнічаюць на мяне. Хаця да канца я яго не разумею і не хачу зразумець — таямнічая загадкавасьць паэзіі.

Вось тады мы размаўлялі пра паэзію А. Разанава і яшчэ пра нешта. У мяне было імкненьне выказацца, паказаць самастойнасьць думкі, што характэрна для 17 гадоў, нат калі ты і рэзкі і бескампрамісны ў меркаваньнях...

Манера чытаць вершы ў яго захавалася. Ужо тады было адчувальна, што вершы для яго — жыцьцё. І ўжо тады я адчуў, што расьце Вялікі паэт, па магчымасьцях сваіх, па таленце, а як ён іх скарыстае, як здолее разьвіць — гэта яго справа. Ужо тады я абараняў яго ад зьедлівых насьмешак, верачы ў ягоны талент. Саня Мякаценка, якому я сказаў, што Сыс таленавіты паэт, адказаў, што сам ён не ведае, але хлопцы, што вучацца на 5-м курсе, гавораць, што ён піша абы-як, на што я адказаў, што гэтыя хлопцы нічога ў паэзіі не разумеюць. Час спраўджвае, хто з нас быў правы. Сьмяліся з Анатоля і некаторыя з выкладчыкаў — Генаш, Каваленка.

***

Ідзе дождж. Толькі прачытаў кнігу Арабей пра Цётку. Толік напісаў паэму «Алаіза», прысьвечаную Цётцы. Моцную паэму, хаця, мабыць, кнігу Арабей ён не чытаў, там цікавыя факты.

Потым, летам, быў будатрад, куды Толік прыехаў праз некалькі дзён. Трэба сказаць, што ўжо тады яго Асоба мела прыцягальную сілу. Людзей проста цягнула да гэтага чалавека. Абсалютна спакойны, добразычлівы, аматар хохмаў і кпінаў, ён любіў тых, што любілі яго (з жанчынамі было па-іншаму, з жанчынамі ён быў жорсткім, хаця яны аддана кахалі яго і ляцелі да яго, бы матылькі на агеньчык).

Ізноў, у акне, які ўжо раз, скрыпячы, ляціць клін жураўлёў, вяселікаў, як тут, у Грабянях, кажуць. Восень.

Там, у будатрадзе, мы і пазнаёміліся па-сапраўднаму, сышліся, хаця гады, розьніца ў іх была адчувальнай. Ён быў старэйшым, вопытнейшым, зьведаў багата такога, да чаго мы яшчэ не падышлі. Добра запомніліся некалькі эпізодаў. Мы працуем, заліваем фундаменты пад дамы і размаўляем пра паэзію. Спрэчка зайшла аб паэтычных канонах і правамернасьці розных эстэтычных кірункаў у паэзіі,

у прыватнасьці плыні ў паэзіі ў XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Я абараняў «збачэнцаў», налягаючы на «свабоду слова і выказваньня», яны з Эдуардам былі супраць. Спрэчка насіла юнацкі характар, і хутка мы пачалі абзываць адзін аднаго, яны мяне — «дэкадэнтам», я іх — «рабакамі», што далей свайго носа не бачаць. У асноўным я прытрымліваюся тагачаснай думкі і цяпер, хаця тыя канцэпцыі багата ў чым выглядаюць сьмешнымі. З часам перанёсься і акцэнт, на «найбольшае ўзьдзеяньне любымі слоўнымі і графічнымі сродкамі паэзіі». Увогуле, ёсьць некалькі праблемаў паэзіі — зьмест і форма, графіка і сэнс, прыгажосьць і інфармацыйнасьць, грамадзянская паэзія і эстэтычная, па якіх мне хацелася б выказацца, і я гэта калі-небудзь зраблю. І творчасьць хлопцаў зрабіла карэктывы ў іх выказваньнях. Як казаў Толік, вярнуўшыся з Каралішчавічаў: «Мне сказалі, вельмі сьмела пішаш. Цяжка будзе што-небудзь надрукаваць». Я скажу больш — у апошніх лепшых творах ён больш, чым рэаліст. Пра гэта можна многа гаварыць і да канца яшчэ не асэнсавана, але калі адным словам — сюррэалізм. І ў яго ён ужо ярка індывідуальны.

Тады ж, у будатрадзе, мы купілі ў хойніцкай кнігарні «паэмы» «Каардынаты быцьця» Разанава, і я дабіваўся сэнсу некаторых словаў; мы даўмяваліся разам. Там жа, у Хойніках, 11 чалавек, сярод іх і мы, — пастрыгліся налыса, а мы з Сысамі нат пагалілі галовы. Так і хадзілі, паўбандытамі. Тады ж, я добра памятаю яго напружаную, бы ў пантэры, постаць, ён сядзеў на ложку, калі да нас прыйшлі разьбірацца мясцовыя. І яшчэ, мы гулялі, калі работы не было, у «казла». Як ён скакаў! Ходзіць, разваліўшыся, ці стаіць, сьмеючыся, і раптам — раз! — ужо імкліва ляціць такая маса пад 90 кг, як спружына.

***

І цяпер, і тады Толік вельмі любіў мыцца. У інтэрнаце сыходзіў у душ на гадзіну. Там жа, у будатрадзе, ён вельмі лаяўся на нас зь Едрусем, калі мы гулялі ў храпа, крычаў, што нас абдураць, а мы выйгралі. Ён ухваліў маё першае апавяданьне, параіўшы больш чытаць па-беларуску. Але гэта было ўжо потым, на другім курсе. З будатрада Толік зьехаў раней за нас дні на чатыры, калі стала вядома, што мы там нічога не заробім.

Любімымі тады нашымі мелодыямі былі песьні Доны Самар і музыка гурта «Задыяк».

Пачаўся другі курс. Курс нашага разброду і пошукаў. Тады ў Едруся зьявіліся першыя неблагія вершы. З другога курса я зразумеў, што ён стане Паэтам. Пасьля яго вершыка пра бярозавік, што кранаецца пад карой, калі сыходзіць першы сьнег. Ад Сысавых вершаў яны ўжо тады пачалі адрозьнівацца прыроднай натуральнасьцю, музычным гучаньнем радка, распрыгоненасьцю. Форма ў Едруся блішчэла ярчэй. Тады ўжо Толік пачаў уліваць яму. Накшталт таго, што бракаваў усе вершы, пакідаючы адзін вобраз «Сонца ў хмары язём ырае». Максімалізм — рыса характару Толіка.

Але ў адносінах да творчасьці Едруся, псіхалогіі яго твораў Сыс адыграў, безумоўна, станоўчую ролю. Той злаваў, але гэта прымушала яго і працаваць. Аб’ектыўна, тады вершы ў яго яшчэ былі нямоцнымі, яны былі «шматабяцаючымі». Толік жа не даваў яму гэтай форы. Што тычыцца ўсёй паэзіі Едруся, то гэта той выпадак, калі ўнутраная прыгажосьць яе вышэйшая значна за звычайнасьць чалавецкай асобы са звычайнымі недахопамі. Ён такі, як усе, яго Паэзія — лепшая, чым ва ўсіх.

Тады ж, на другім курсе, пачаўся вельмі моцны ўплыў Сыса на Едруся як на чалавека. Той не хаваў свае благія рысы (багемнасьць, страшэнны эгаізм, эгацэнтрызм, індывідуалізм (закрэсьлена: індывідуалізму ўсё ж такі не было), манера апашляць усё), але яны ў сумесі і адначасова з альт-

руізмам, таварыскасьцю, праўда, тады страшэнна няпэўнай, спакоем, дабрадушшам, праўдзівасьцю, нейкай безабароннасьцю і давалі той надзвычай супярэчлівы сплаў характару, які можна назваць Сысом. Таму да яго адносяцца такія супярэчлівыя ацэнкі іншых, як: «дурань», «ненармальны», «трохі вальтануты», «сапраўдны сябра», «таленавіты паэт», «чоткі хлопец». Таму яго і кахалі жанчыны. Асоба. Надзвычай анархічная і свавольная, не звыклая падпарадкоўвацца нікому. Анархіст.

Я супрацьстаяў дрэннаму ўзьдзеяньню Сыса на нас, як і Толік Казлоў. Гэта пазбавіла нас, бо маё ўзьдзеяньне было і на Едруся, ад непатрэбных вялікіх памылак. Хаця ўплыву анархізму не пазьбеглі і мы. Ужо потым я пачаў заўважаць, што гэта дае і душэўную жорсткасьць, зьневажае людзей, што недапушчальна. Тэорыя элітарнасьці, бліскуча прадэманстраваная Сысом, замацавалася і дала нечаканыя парасткі. А спачатку гэта ўсё было арыгінальнічаньнем. Поўная безадказнасьць за дзеяньні і словы — асноўная рыса. Сыс мог прыгалубіць, прыгрэць, а потым даць высьпятка. Ён яшчэ не лічыў нас роўнымі. Гэты чалавек прыносіў і добрае, і нядобрае. Яму не было роўных, таму ён і вырас такім, да ўсяго даходзіў сам, таму надзвычайныя здольнасьці і адчуваньне самай складанай філасофскай паэзіі ў яго жывуць побач з прымітыўнымі ўяўленьнямі аб некаторых рэчах. Ды гэта заўважна і ў яго паэзіі.

У нас ужо было не так. Можна сказаць, што мы ішлі калектывам (Едрусь, я і Толік Казлоў) і ўзьдзейнічалі адзін на аднаго. Гэта сфармавала і напрамак творчасьці кожнага. Зь Едрусем мы сябравалі на працягу пяці гадоў вучобы, нас лічылі ледзь не «двайнюкамі», бо мы заўсёды хадзілі разам. У нас не было таямніцаў адзін ад аднаго.

А потым было празрэньне. І адмова Сыса ад бязьвер’я і адмова Едруся ад нявер’я ў сябе. Але тое, што не атрымалася наскокам, ужо я, самастойна, стараўся закласьці ў іх паступова. Што, безумоўна, безвынікова не прайшло і не пройдзе. А тады — былі змрочныя перыяды, калі я цалкам адхіснуўся

ад Сыса. Ён ішоў не тым шляхам, па якому трэ было ісьці. Мы самі, багата ў чым, пракладвалі сабе шлях. Гэта надало нам самастойнасьці. Гэта прымусіла нас больш сур'ёзна ставіцца да жыцьця, чым гэта рабіў ён.

І калі ён запрасіў мяне на дзень нараджэньня — я не пайшоў, ён азьліўся на мяне. Потым мы разам езьдзілі на сустрэчу зь пісьменьнікамі ў чыгуначны ДК (пісьменьнікі так і не прыехалі).

На пятым курсе ён хадзіў у тоўстым паліто на ваціне са штучным, пад сабаку, каўняром. Ён быў не шмотачнік, хаця любіў прыгожае адзеньне, а калі не было чаго, то апранаў і сьмешнае паліто.

На пятым курсе ён езьдзіў у Каралішчавічы. Мы сустрэліся з ім у душы, і ён распавёў, каго ён там бачыў, што яны там рабілі. Паехаў ён туды празь Сяркова, бо зь Ярцам яны ўжо тады пасварыліся. З-за «Крынічкі». Сыс сказаў яму, што той нічога не робіць з маладымі. А трэ хоць трошкі варушыцца. Той пакрыўдзіўся, хаця гэта была праўда. І пачалося... Сыс займае першае месца на абласным конкурсе самадзейных паэтаў — Ярац гаворыць Балогу, што гэта лухта, і той здымае яго падборку з газеты. Ярац пры нас крытыкуе паэзію Сыса (у групе), той піша ў яго дыплом — Ярац «падкузьмівае» яго так, што Сыс ледзь абараняецца на чацьвёрку. Урэшце яны перасталі здароўкацца адзін з адным.

Крыху пазьней нашыя адносіны крыху наладзіліся, ды сапсаваліся ў яго зь Едрусем. Едрусь канчаткова вырашыў выйсьці з-пад яго ўплыву і па-юнацку зрабіў гэта рэзка — ва ўсім пачаў «цапацца» з Толікам.

Шмат вады ўжо сплыло. Я, як пісаў Едрусь у эпіграме, «здуру ўсунуўся ў асьпірантуру». А ўвогуле нічога. Забіраюць у войска, а потым — вольны чалавек. Так што ў любым выпадку — усё нічога. У Грэбянях было цікава. Але не ўсе гэтую маю цікавасьць падзяляюць — войска над шыяй увесь час вісіць, псіхалагічна — непрыемная рэч.

Хлопцы мае зьмяняюцца. Пакуль усё ідзе нармальна. У Каралішчавічах заўважылі Казлова. Хутка яго аповеды пойдуць у друк. Праўда, калі пусьцяць. Усе тры — асобы неардынарныя і ў творчасьці, а гэта заўсёды цяжкасьці ў выхадзе ў сьвет. У лепшы бок пайшла творчасьць Сыса. Вельмі добрыя, проста цудоўныя апошнія вершы. «Пацір», «Радзіма», «Хлопчык шыбу ліжа», «Зьніч». Паглыбленьне пайшло і ў бок нацыянальнага. Невядома, наколькі яго хопіць, — надта ён пераменлівая натура, але — гэта магутны, адзіна правільны стрыжань.

*Дзеяслоў. 2009. № 42.*

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ФОТАЗДЫМКА

У маім дзёньніку сямнаццацігадовага першакурсьніка гомельскага гістфіла застаўся запіс літаратурнай вечарыны, якая праходзіла ва ўнівэрсітэце 7 траўня 1980 года, вось ужо як 30 гадоў таму. Перачытаў яго і зразумеў — ёсьць здымак, ёсьць і анатацыя. Запіс, вядома ж, суб’ектыўны, зроблены самаўпэўненым маладзёнам, але перадае, здаецца, атмасферу нашага студэнцкага жыцьця і далучэньня да сапраўднага беларускага літаратурнага слова.

9 траўня 1980 г.

Апісаць хочацца кавалачак пазаўчарашняга дня, дакладней вечар. Была сустрэча зь пісьменьнікамі. Спачатку Крупа[1] нас зьняў з заняткаў, і мы пайшлі ўладкоўваць залу. Зьдзерлі два старыя плакаты. Эдзік[2] пад стольлю па бэльках у джынсах сваіх лазіў[3], пыл вышморгваў і засьцерагальнікі

---

[1] Сьвятаслаў Крупенька, выкладчык, аўтар пародый.

[2] Эдуард Акулін, паэт, зь якім мы вучыліся разам у адной групе.

[3] Зроблены ў запісе акцэнт на джынсах зразумелы тым, хто тады, у савецкія часы, плаціў за іх вялізныя па тым часе грошы.



Анатоль Сыс, Алесь Бяляцкі, Уладзімір Някляеў, Эдуард Акулін.
Гомель, 1980 год

з рэек зь лямпамі здымаў. З канца ў канец па-пластунску. Яшчэ палову пары адсядзелі і — на сустрэчу. А займаліся мы з 14 гадзін. А 15-й — сустрэча. Пісьменьнікаў было даволі шмат. Вось тыя, каго я памятаю: М. Лобан, П. Місько, С. Грахоўскі, А. Вольскі, У. Някляеў, Н. Тулупава, Б. Спрынчан, У. Верамейчык, М. Башлакоў, В. Ярац. Першыя два — празаікі, астатнія паэты.

Першым выпусьцілі Грахоўскага. Уражаньні: чыстая, мілагучная беларуская мова, умее гаварыць на публіку, вершы зьмястоўныя, добрыя. Я думаў, ён старэйшы — такі яшчэ рухавы дзядзька з лысінай і шэрым венчыкам валасоў, разумныя вочы.

*Вывад:* найбуйнейшы з гэтых паэтаў. Яшчэ не здаецца.

М. Лобан — гэта ўжо стары, сівы дзед у гарнітуры і з маршчыністай праваленай скурай шчок. Як гаварыў — мне яго шкада стала: не багата яму ўжо ліпець. Хутка адыдзе.

Але ж справу сваю галоўную скончыў — «Шэметаў»[4] дапісаў. Хутка ў друку зьявіцца. Як напісаў дылогію[5] — ставілі высока, амаль побач зь мележаўскай. Зараз ужо ўсё высьветлілася. Але ж і гэтае зрабіць — талент сякі-такі трэба мець. Апошнюю частку я яшчэ не чытаў. Ён сказаў, што яна галоўная. Зараз на абразкі перакінуўся. Яно зразумела — жыцьцё доўгае за плячыма, уражаньні, асацыяцыі, вобразы — куды іх падзець? У малых формах і адлюстроўвае. Ён яшчэ і лінгвіст: нарматыўны слоўнік — ягоных рук справа.

*Вывад:* асноўную, хай і не шумную, затое сваю справу зрабіў. І паміраць можна.

P. S. Гаварыў вельмі цяжка — узрост усё ж.

А. Вольскі — сын В. Вольскага. Я здуру іх спачатку зблытаў. Даволі падобны на бацьку. Увесь час амаль, на нас гледзячы, пасьміхаўся, вельмі разумныя вочы. Галава яшчэ не сівая, але ж медалік юбілейны за ўдзел у вайне матляецца. Урэзаўся ў памяць адзін яго верш пра аднакласнікаў. Пералічваў іх кожнага, хто загінуў. Багата каго налічыў. І дзяўчынкі былі таксама.

А перад ім яшчэ Н. Тулупава выступала, жанчына з маладым яшчэ тварам, гадоў 35, з моцным целам і разьвітым бюстам. Чытаць умее. Умее патлумачыць свой верш. Сам прачытаў бы — зразумеў бы далёка не ўсё. А так падала добра.

*Вывад:* не ўсе жанкі — дурніцы. Але ж у вершы — жаночая псіхалогія сьвеціцца. Мужык бы так не напісаў.

Вось потым Вольскі, пасьля Місько. Яму ўжо гадоў 45, а выглядае на 35. Адзін з нашых сярэдніх пісьменьнікаў, што падмурак прозы закладваюць. Багата не робіць, але ж тое, што робіць, — сумленна. Я асабіста зь яго нічога не чытаў — яшчэ пацікаўлюся.

---

[4] «Шэметы» — апошні раман з трылогіі М. Лобана, выйшаў з друку ў 1981 годзе.

[5] Раманы М. Лобана «На парозе будучыні» (1964) і «Гарадок Устронь» (1970).



Алесь Бяляцкі і Едрусь Акулін. Гомель, пачатак 80-х гадоў

*Вывад:* здаецца, лепш, чым такім быць, на ўлоньні прыроды жыць. Гульня (жыцьцё ж адное) сьвечак не вартая...

Затым Спрынчан — адзіны рускі паэт сярод усіх — у «Нёмане» загадчык адзьдзела паэзіі. Ну, у рускай паэзіі якое ён слова мае і якую вагу — не ведаю. Здаецца, невялікую. Але чытаў безь мікрафона і ў саматканай кашулі з васількамі. Мы спачатку думалі, што ён беларус заядлы. Сам ён калісь на Гомсельмашы працаваў. Чытаў добра, але ж забыўся адзін верш на сярэдзіне. Другі пачаў чытаць, а той яму Грахоўскі адшукаў. Ён і той потым скончыў.

*Вывад:* рускім паэтам у Беларусі няма чаго рабіць — ходу няма. Іх і ў Расеі хапае.

Далей Верамейчык выйшаў. Здаровы такі дзядзька, мы ўсё з Акуліным сьмяяліся, як на яго фізіяномію паглядзім. Комік нейкі, штангіст. Ён у вёсцы працуе — дырэктар школы. Я — Эдзіку: «Мабуць, багато гарэлкі п'е». Эдзік: «А няўжо ж не п'е». Вершы яго не тое каб вельмі, але што ж ты зробіш, і ў вёсцы багата сядзець, мне здаецца, шкодна, карысьці не прыносіць. Здаецца, ён у сваёй стыхіі. Некалькі ягоных цытат — каштоўныя даволі: 1. Як казаў Пушкін: «Москва — это девичья, Питер — гостиная, а деревня — рабочий кабинет». 2. Прыпеўка на ўсю Расею: «Все писатели в столице, один Шолохов в станице». Ну і яшчэ колькі, я ўжо не памятаю.

*Вывад:* Дыягену і ў бочцы добра жыцьмелася.

За ім — Віктар Ярац, наш мясцовы «карыфей». Вершы гладкія, добра абробленыя, але моцна не ўразілі.

Потым Някляева выпусьцілі — лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола. Во, гад, дае! Во таланцішча! Бясспрэчна, гэта адзін з самых таленавітых сярод маладых. Яшчэ я там Разанава ведаю. Той больш інтэлігентны ў паэзіі, больш мудрагелісты. А гэты, з пружыністай хадой, рэзкімі рухамі — як устаў, як зачытаў — зала скамянела. Во рэжа, гад!

*Вывад:* «молодым везде у нас дорога», толькі ў паэзіі трэба «рубаць» вось так — як ён, і ў прозе таксама.

Башлакоў выскачыў сьледам: нічога вершы, ёсьць багата спрэчнага, але агульнае ўражаньне даволі добрае. Настаўнічае ў Гомелі. Запыталіся, як дзеці беларускую мову і літаратуру ў горадзе вучаць. Адказаў так, як яно і ёсьць на самай справе.

Потым яшчэ адзін наш карыфей выйшаў — Анатоль Сыс. Пачаў вершы чытаць — зь пісьменьнікаў хто слухаў, а хто не, ды ён і не самае сваё добрае чытаў. А потым на пародыі перайшоў — на Някляева, Башлакова, Верамейчыка. Зацікавіліся ўсе. Малайчына. На гэтым Сыс вечар і скончыў, запрасіў, каб яшчэ прыязджалі і з сабой Шамякіна, Караткевіча з Быкавым захапілі. Рэктар абяцаў пасьля майскіх Шамякіна з Макаёнкам прыслаць — яму Іван[6] званіў.

Пачалі ўсе разыходзіцца. Ярац нас за шкіркі — ідзіце сюды, на сцэну, і Сыса старэйшага таксама, і зь Някляевым — фотаздымак — хлоп. Я не хацеў, а Акулін задаволены — хоць так у прэсу пападзём. Някляеў Сысу аўтограф здаровы такі напісаў. Во гад. Потым мы стулы пазносілі і дамоў пайшлі.

[6] Маецца на ўвазе Іван Шамякін.

# ТЫПАЛАГІЧНЫ АНАЛІЗ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX–XX СТАГОДЗЬДЗЯЎ

Тыпалагічны аналіз патрабуе вельмі ўважлівага станаўленьня да гнасеалагічных каранёў вывучаемай зьявы, разнастайных фактараў, якія ўзьдзейнічаюць на яе і становяцца прычынаю менавіта гэтай зьявы ў бясконцым руху гісторыі. Мы не прэтэндуем на ўсёабдымнасьць і дасканаласьць, паколькі самое вызначэньне «беларуская культура — што гэта такое» — яшчэ не акрэсьлена пэўна па форме і зьмесьце, таксама як у прасторы і часе.

Паняцьце беларускай культуры пачатку XIX стагодзьдзя, пачатку XX стагодзьдзя і сёньняшняга дня — даволі адрозныя. Разьвіцьцё нацыянальнай культуры заўсёды самым шчыльным чынам зьвязана з ідэяй нацыянальнай дзяржаўнасьці, з рэальнасьцю існаваньня гэтай культуры ў пэўнай дзяржаўнай і палітычнай сістэме. Нягледзячы на ўсю складаную для ўяўленьня трансфармацыю ў паняцьці «беларуская культура», якая адбылася за два стагодзьдзі, тым не менш яе падняволены, апазіцыйны, пакутніцкі, недзяржаўны стан, стан культуры, якая ў залежных умовах заўсёды мусіла супрацьстаяць дзяржаўна-адміністрацыйнаму апарату, магутным хвалям пальшчызны і расейшчыны, дазваляе

вызначыць некаторыя тыпалагічныя рысы яе разьвіцьця за гэты час.

Мы засяродзімся на беларускай літаратуры, як квінтэсенцыі ўсяе нацыянальнае культуры, як фактары, які гаворыць пра канчатковую сфармаванасьць культуры, бясспрэчнага яе прафесійнага існаваньня, усьведамленьня свайго адметнага «я» ў полікультурным сьвеце. Нацыянальная літаратура ў сілу свайго існаваньня зьяўляецца аб'ектыўным носьбітам нацыянальнае ідэі. Ніякі іншы чыньнік культуры народа так эластычна і чуйна не зьвязаны з гісторыяй. Разьвіцьцё беларускай літаратуры, яе абсягі і правалы самым непасрэдным чынам пацьвярджаюць гэтую аксіёму. Спынім свой погляд на найвялікшых узрушаньнях у гісторыі нашага народа, так бы мовіць, яе паваротах і паспрабуем паназіраць, якім чынам яны ўзьдзейнічалі на працэс разьвіцьця нашае літаратуры.

Першая вялікая гістарычная падзея ў XIX стагодзьдзі, якая ўскалыхнула Беларусь, — вайна 1812 года не аказала непасрэднага ўплыву на новую беларускую літаратуру па той простай прычыне, што яна тады яшчэ толькі нараджалася. Адзначым толькі вершаванае апавяданьне Яна Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў», прысьвечанае падзеям 1812 года. У той самы час вайна аказала вялікі ўплыў на фарміраваньне сьветапогляду пакаленьня так званых філаматаў-філарэтаў. Паход на Маскву празь Беларусь французскага войска пахаваў канчаткова праект Міхала Агінскага аб стварэньні Вялікага Княства Літоўскага як асобнай дзяржаўнай адзінкі на мапе Еўропы, у той самы час імгненна разбурыў адладжаны ўжо механізм царскай адміністрацыі на гэтых захопленых Расеяй землях, адрадзіў мясцовы патрыятызм, выклікаў энтузіязм, спадзяваньне на лепшую гістарычную будучыню. Напалеон, дарэчы, таксама правёў пэўныя захады да адраджэньня Вялікага Княства Літоўскага.

Ідэі Асьветніцтва, дэмакратыі, роўнасьці і братэрства не згінулі разам з разьбітым французскім войскам. Ужо празь пяць гадоў, у 1817–1820 гадах, у Вільні дзейнічае тайнае

таварыства філаматаў-філарэтаў, славутае сваёй пільнай увагаю да вывучэньня беларускай культуры — фальклёру і гісторыі. Менавіта з шэрагаў гэтага таварыства выйшаў геніяльны пісьменьнік Адам Міцкевіч, творчасьць якога проста набрынялая беларускім фальклёрам, традыцыямі, звычаямі нашага народа, на чым узгадаваўся і вырас ягоны талент. Значэньне творчасьці А. Міцкевіча, таксама як і ягоных сяброў Тамаша Зана, Яна Чачота, да канца яшчэ не асэнсаванае ў нашай культуры, хаця б на такім узроўні, як творчасьць Гогаля для ўкраінскай культуры ў ягоных, так бы мовіць, украінскіх творах. Фармальна далей за ўсіх пайшоў Ян Чачот, які выдрукаваў свае творы, як ён пісаў, «у крывіцкай мове», але па духу творчасьць А. Міцкевіча, Т. Зана зьяўляецца не менш беларускай і з поўным правам можа быць уведзена ў кантэкст літаратуры. Верагодна, што калі б А. Міцкевіч не быў высланы ў ссылку, а затым не зьехаў бы за мяжу, калі б ён застаўся ў арбіце тутэйшых культурных і палітычных, гістарычных каштоўнасьцяў, у атачэньні тутэйшага асяродзьдзя і тутэйшага люду, так, як гэта атрымалася ў Яна Чачота, дык мы ўбачылі б і арыгінальныя беларускія творы А. Міцкевіча (прыклад Рафала Каліноўскага)...

Паўстаньне 1830 года хоць і не адбілася нейкім значным чынам на беларускай літаратуры, зноў жа ж найперш з-за яе кволасьці, у той жа час вельмі моцна паўплывала на агульную культурную сітуацыю ў краі, уніфікацыю палітычных і рэлігійна-культурных адметнасьцяў. Быў зачынены Віленскі ўнівэрсітэт, адменены Статут Вялікага Княства Літоўскага, скасавана унія.

Непрысутнасьць беларускага культурнага элемента ў паўстаньні тлумачыцца хутчэй за ўсё нявывучанасьцю гэтага пытаньня менавіта ў такім асьпекце. І тым не менш нам вядомая творчасьць Аляксандра Баршчэўскага, паўстанца 1830 года, які эміграваў на Захад і там, у Парыжы, выдрукаваў сваю беларускую баладу «Нячысьцік».

Паўстаньне 1848 года ў Венгрыі прамым чынам не дакранулася Беларусі. Аднак яно стала прычынаю напісаньня ад-

нага зь нямногіх захаваных беларускіх твораў «вясковага лірніка» — Уладзіслава Сыракомлі, верша «Добрыя весьці».

Студзеньскае паўстаньне 1863 года канчаткова ўсталявала тую тэндэнцыю разьвіцьця беларускай літаратуры, якая пачала складацца падчас пераломных момантаў у нашай гісторыі. Нагадаем, што да паўстаньня на беларускай літаратурнай ніве працаваў ужо не адзін чалавек. Гэта і В. Дунін-Марцінкевіч, і А. Вярыга-Дарэўскі, і В. Каратынскі, і той самы У. Сыракомля — ды іншыя паэты рознай велічыні і значнасьці, якія, тым не менш, ужо складалі літаратурную плынь.

Вяршыняю ўзаемадачыненьняў беларускай літаратуры і студзеньскага паўстаньня можна лічыць «Ліст з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага, а таксама ягоную «Мужыцкую праўду». Менавіта паўстаньне сфарміравала К. Каліноўскага як літаратара. Верш, зьмешчаны ў «Лісьце з-пад шыбеніцы», бясспрэчна, зьяўляецца таленавітым творам.

Вынікі студзеньскага паўстаньня для беларускай культуры і літаратуры ў прыватнасьці мелі некалькі асьпектаў, якія зноў-такі былі характэрнымі для папярэдніх падзеяў, ужо адзначаных намі.

Па-першае, гэта быў магутны ўдар па беларускай культуры, адукацыі, нацыянальнай сьвядомасьці і г. д., які выразіўся, найперш, у дзясятках тысяч сасланых і расьсеяных з краю шляхты ды інтэлігенцыі, менавіта таго асяродзьдзя, якое было найбольш перадавым і грамадска актыўным, дзе і фарміравалася беларуская прафесійная культура — літаратура, вывучалася гісторыя і г. д.

Для прыкладу нагадаем, што амаль усе вядомыя нам дагэтуль беларускія пісьменьнікі таго часу тым ці іншым чынам бралі ўдзел у паўстаньні і моцна пацярпелі за гэта. Каля года адсядзеў у астрозе В. Дунін-Марцінкевіч, на восем гадоў быў сасланы ў Сібір А. Вярыга-Дарэўскі, быў арыштаваны Ф. Тапчэўскі і г. д.

Значная частка працаваўшых у беларускай культуры людзей больш ужо ніколі не вернецца да гэтай працы.

Ёсьць пачуцьцё разгрому пасьля ацэнкі вынікаў паўстаньня для беларускай культуры. Каторы раз ужо пацьвярджаецца афіцыйная забарона беларускай мовы, зачыняецца інстытут у Горках, пачынаецца планавая русіфікацыя краю праз расейскую адміністрацыю ды адукацыю.

Але праходзіць трохі часу — і аказваецца, што менавіта паўстаньне нарадзіла наступнае пакаленьне беларускіх літаратараў. Гэта ягоныя ўдзельнікі А. Ельскі і А. Абуховіч, гэта бацька новай беларускай літаратуры Ф. Багушэвіч.

Спынены, прыглушаны на нейкі час літаратурны працэс адрадзіўся і ажыў ужо на іншым узроўні. Можна меркаваць, што ў паўстаньні ўдзельнічалі лепшыя, найбольш чуйныя і дзейсныя асобы, якія любілі краіну, свой народ, якія жадалі яму дабра. Менавіта таму такі высокі працэнт удзелу ў ім «абмужычыўшайся» шляхты, якая працавала для беларускага народа і па-беларуску. Іхняя беларуская праца была арганічнаю часткаю ў гэтым паўстаньні. Студзеньскае паўстаньне было для іх выйсьцем у далейшым адраджэньні і станаўленьні беларускай культуры. Але таксама можна меркаваць, што менавіта паўстаньне таго-сяго назаўсёды зьвязала зь беларускай культураю, канчаткова вызначыла для іх галоўныя нацыянальныя прыярытэты.

Паказальны ў гэтым плане лёс Ф. Багушэвіча, які юнаком вымушаны быў пакінуць Беларусь і 20 гадоў пражыць на чужыне. За гэты час ён здолеў не распляскаць сваіх пачуцьцяў да Беларусі, да мужыцкае мовы. Паспрыяла гэтаму, верагодна, і ўкраінскае адраджэньне, якое таксама паўставала і разьвівалася насуперак расейскаму молату і польскаму кавадлу.

Здаецца, што без удзелу ў студзеньскім паўстаньні і далейшага лёсу паэта, зьвязанага зь ім, нам наўрад ці прыйшлося б весьці гаворку сёньня пра такую выбітную асобу ў нашай літаратуры, як Ф. Багушэвіч, які ўзроўнем сваёй творчасьці, сваёй ідэалогіяй, выкладзенай ім у вершах і прадмовах да сваіх зборнікаў, аказаў вялізнае ўзьдзеяньне на далейшае фарміраваньне літаратурнага працэсу ў нашай культуры.

Рэвалюцыя 1905–1907 гадоў дала чарговае спадзяваньне беларусам на лепшыя зьмены ў іхняй будучыні. Гэтыя спадзяваньні ў асноўных сваіх мэтах не спраўдзіліся. Стары лад, Расейская імперыя, супраць якіх была накіравана рэвалюцыя, засталіся. Была разгромлена фактычна адзіная на той час нацыянальная партыя — БСГ. Сотні і тысячы беларусаў перасьледаваліся царскімі ўладамі. Саступкі царызму былі мізэрнымі і прывялі адно толькі да выданьня «Нашай Нівы» і трохі пазьней — каталіцкага штотыднёвіка «Biełarus». Нагадаем, што толькі польскіх штотыднёвікаў у Вільні для краю выходзіла больш за тузін, не лічачы расейскіх выданьняў.

Але ўзьдзеяньне, уплыў тых зрухаў, якія адбыліся за гэтых некалькі гадоў у грамадстве, цяжка пераацаніць. Як у свой час К. Каліноўскі «Мужыцкаю праўдаю», толькі ў значна большых памерах, БСГ заваліла беларускімі пракламацыямі ды іншай агітацыйнай літаратураю ўсю Беларусь. Падчас рэвалюцыі адбылася рэзкая актывізацыя беларускага паэтычнага слова. Таксама, як перад паўстаньнем 1863 года, распаўсюджваліся ананімныя «Гутаркі», так цяпер у шматтысячных улётках разыходзіліся вершы Цёткі. Вядома з розных крыніц, што з агітацыйнымі мэтамі выкарыстоўвалі свае творы К. Каганец, А. Гарун, Я. Колас.

Кінутае зерне ўпала на добрую глебу. Дзякуючы агітацыйнай працы БСГ, канчаткова ўсьвядоміўся Я. Купала. Прыгадаем, што і «Наша Ніва» пачала выходзіць па рашэньні, прынятым на зьезьдзе БСГ, і фактычна зьяўлялася легальнай партыйнай газетаю, а затым, па разгроме БСГ, — цэнтрам усяе сьвядомае беларушчыны, якая толькі і чакала спрыяльнага моманту для аднаўленьня пэўных палітычных структураў.

Амаль усе беларускія творцы пачатку XX стагодзьдзя бралі ўдзел у антыцарскай барацьбе. Амаль усе і пацярпелі. Сядзелі ў турмах, былі сасланыя, вымушаныя былі хавацца. Але, нягледзячы на ўсё гэта, менавіта яны стварылі залатое беларускае адраджэньне ў нашай літаратуры і вывелі яе на іншы ўзровень. Рэвалюцыя 1905 года выклікала фенаменаль-

ны выбух у беларускай літаратуры, заклала пэўныя традыцыі, якія вызначылі яе далейшае разьвіцьцё.

Вельмі падобныя зрухі адбываліся ў нашай літаратуры падчас чарговае рэвалюцыі і далейшага вызначэньня лёсу Беларусі ў 1917 годзе. Вялізныя страты прыносіць яна. Ахвярамі падаюць М. Багдановіч і А. Гарун, Ядвігін Ш. і А. Зязюля. Прыпыняецца выданьне «Нашай Нівы» ды іншых беларускіх перыядычных выданьняў. Але ўздым нацыянальнае, грамадскае актыўнасьці паклікае да творчасьці, можна сказаць нараджае, У. Жылку, У. Дубоўку, Н. Арсеньневу і К. Чорнага — цяпер ужо дзясяткі і дзясяткі творцаў, большасьць зь якіх, на жаль, з-за крайняй зыдэялагізаванасьці, з-за няслушна абраных эстэтычных, духоўных, этычных арыенціраў — тых падвалін, на якіх трымаецца літаратура, так і не здолела самарэалізавацца. Тут сказаў сваё страшнае слова камунізм.

Заўважым, што і апошняя вайна ўнесла свае зьмены ў літаратурны працэс. Перад вайною беларуская літаратура была фактычна прыдушана сталінскім ботам.

Вайна зрушыла здранцьвелых ад погляду сталінскага ўдава літаратараў. Па той бок фронту лепшыя свае творы пішуць А. Куляшоў і П. Панчанка, па гэты як бы другое дыханьне набывае паэзія Н. Арсеньневай, пачынае расквітаць талент А. Салаўя. І калі тут, у Савецкай Беларусі, пасьля вайны наступае страшны, знаёмы па перадваенных гадах час сталінскае летаргіі, дык за мяжою, на эміграцыі адбываецца пэўны літаратурны рэнесанс. Як ні парадаксальна гэта гучыць, менавіта «дзякуючы» вайне апынуліся на эміграцыі і, адпаведна, па-за ўплывамі сталіншчыны Н. Арсеньнева і А. Салавей, А. Адамовіч і С. Станкевіч, Р. Крушына і Я. Юхнавец, Я. Золак і У. Клішэвіч, Ю. Віцьбіч і М. Сяднёў, У. Дудзіцкі і К. Акула. Яны здолелі аднавіць, разьвіць і пранесьці праз пэўны час гуманістычныя традыцыі літаратуры, узбагаціўшы яе таленавітымі творамі. Воля выбару, адсутнасьць цэнзуры, арыентацыя на праўдзівыя здабыткі ў беларускай культуры, здабыткі ў іншых літаратурах, зь якімі

яны атрымалі магчымасьць пазнаёміцца, а таксама пачуцьцё адказнасьці за лёс народа, асэнсаваньне ўсяго трагізму падбальшавіцкага існаваньня ягонае культуры прывялі да надзвычайнага плёну ў іхняй працы ў паваенныя гады. Зоркамі першай велічыні засьвяціліся Н. Арсеньнева і А. Салавей, А. Адамовіч і Я. Юхнавец. Значна вырасьлі іншыя літаратары, талент якіх быў слабейшым, але не менш цікавым і самабытным. Дастаткова параўнаць падсавецкую і экзыльную творчасьці Ю. Віцьбіча і Р. Крушыны-Казака, каб зразумець гэта.

Сапраўдным узрушэньнем у нашай гісторыі можна лічыць сьмерць Сталіна і XX зьезд, на які адразу ж адгукнуліся новым пакаленьнем беларускія літаратары. Як бы другое дыханьне адкрылася ў Я. Брыля і І. Мележа, зазьзялі таленты В. Быкава, У. Караткевіча, Р. Барадуліна і В. Адамчыка.

Наступіла эра палацавых пераваротаў, аксамітных рэвалюцыяў, калі зьмена кіраўнікоў несла адначасова і вялікія зьмены ў палітыцы, у дзяржаўным і культурным жыцьці народа. Але адчуваньне стратаў падчас такіх зьменаў усё ж такі было. Не столькі ў тым, што адбылося, колькі ва ўсьведамленьні таго, што адбывалася раней. Цэлае пакаленьне літаратараў у той ці іншай ступені зразумела, што ўсё, што рабілася імі дагэтуль, — вельмі далёкае ад праўдзівае літаратуры. Гэта была цяжкая плата беларускай літаратуры за пераход са стану апазіцыйнага, у якім яна заўсёды была да 20-х гадоў у Савецкай і да 40-х у Заходняй Беларусі, у стан уяўна пануючы, афіцыёзна-дзяржаўны, калі зь беларускае літаратуры спрабавалі зрабіць інструмент пэўнае ідэалогіі. Вынікі гэтага пракруставага ложа былі жахлівымі — сотні страчаных талентаў, якія згінулі назаўсёды.

1968 год неяк натуральна, сам па сабе зьвязваецца ў мяне з паэзіяй А. Разанава. А вось 1985-ы нарадзіў цэлае пакаленьне, якое ўмоўна можна назваць пакаленьнем «Тутэйшых», якія і зараз ужо вызначаюць персьпектывы далейшага разьвіцьця нашае літаратуры.

Такім чынам, можна заўважыць, што ўсялякі гістарычны зрух на Беларусі, які ставіў за мэту вызваленьне краіны

ад акупацыі, зьмену палітычнага рэжыму, непазьбежна працягваў да ўдзелу ў ім лепшых беларускіх літаратараў, гэтым самым шмат у чым абумоўліваючы іхнюю творчасьць. Прычым даволі часта такія надзвычайныя падзеі ў жыцьці нашага народа станавіліся каталізатарам, які шмат каго з нашых творцаў як бы падводзіў да неабходнасьці пісаць пабеларуску.

Можна адзначыць, што літаратурны працэс, які разьвіваўся ў пэўны гістарычны перыяд, падчас вялікіх зрухаў дасягаў свайго апагею, найбольш актывізоўваўся, а затым наступала як бы пэўнае, часта даволі балючае перараджэньне. Літаратурны рэнесанс заўсёды наступаў трошкі пазьней, пасьля падзеяў, якія адбываліся. Штосьці адмірала, адыходзіла, але абавязкова нараджалася нешта новае і працягвала раней распачатую справу. Так вясною зьмяя з болем губляе старую скуру і абноўленая, у новым целе існуе далей.

Заканчваючы, хацелася б яшчэ адзначыць такі характэрны эфект для нашае літаратуры, як эфект аддаленасьці. Сутнасьць яго палягае на тым, што найбольш вартыя і каштоўныя ў літаратурным плане творы ствараюцца на палітычнай і літаратурнай перыферыі, далей ад палітычнага і літаратурнага эпіцэнтра, якія, здаецца, высмоктваюць з творцаў усю энергію. А. Міцкевіч і Я. Чачот, А. Рыпінскі, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, Ф. Багушэвіч у XIX стагодзьдзі, М. Багдановіч, А. Гарун, Я. Купала зь яго класічнымі ўцёкамі ў Піцер і Я. Колас з адсідкаю ў турме і бежанствам, У. Жылка і Л. Геніюш, Н. Арсеньнева і В. Быкаў хіба што сьведчаць аб гэтым.

Менавіта таму, здаецца, сёньня адбыліся падсьвядомыя ўцёкі часткі маладой беларускай інтэлігенцыі ў Вільню — там зараз авангард маладой беларускай літаратуры — «Наша Ніва», а таксама значнай часткі менскіх літаратараў, якія дэманстратыўна зьвязваюць сваю творчасьць з «Нашай Нівай», зь віленскай традыцыяй, зьяўляючыся па сваёй ідэалогіі віленчукамі яшчэ большымі за віленчукоў. Наяве жаданьне разьдзяліць афіцыйна-літаратурны цэнтр, якім за-

раз зьяўляецца Менск, ад праўдзівага літаратурнага, інтэлектуальнага жыцьця.

Акрэсьленыя тут тэндэнцыі разьвіцьця беларускай літаратуры, мабыць, будуць захоўвацца і надалей, пакуль не будзе вырашанае асноўнае глабальнае пытаньне для нашай нацыі — пытаньне існаваньня нацыянальнай дзяржавы, якая будуецца, як падкрэсьліваў Эрнст Гэльнер, на сувязі ідэі незалежнасьці з ідэяй культуры.

*Даклад, прачытаны на першай навуковай канферэнцыі «Лёс нацыянальнай культуры на паваротах гісторыі» ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў 1993 годзе.*

# У МОЛЬНАСЬЦІ ПРЫГАСТВА

Упершыню вершы Янкі Юхнаўца давялося прачытаць мне ў сьпецфондзе Акадэміі навук, на апошнім годзе брэжнеўскай задухі, калі ў сьпецфонд пускалі толькі навукоўцаў. Нічога небясьпечнага ў іх для камуністычнай ідэалогіі не было, апроч таго, што выдадзены яны ў Нью-Ёрку беларускім эмігрантам ваеннага часу. Але калі я прачытаў вершы, дык зразумеў не асэнсаваную, мабыць, але адчутую камуністычнай цэнзураю небясьпеку — гэта былі таленавітыя творы. А ці ж мог творца-эмігрант нешта значыць у нашай літаратуры? Тым нечаканей для мяне было адкрыцьцё зоркі першай велічыні ў беларускай паэзіі — Янкі Юхнаўца.

Неўзабаве завязаліся кантакты з самім дзядзькам Янкам, які даслаў колькі сваіх новых кніжак, якія канчаткова пераканалі мяне — небывалы паэт узгадаваўся на чужыне. І дзякуй Богу, што ён не пачаў рабіць вялікія грошы і не закінуў свае амаль нікому не патрэбныя тады беларускія вершаваныя практыкаваньні. Адзінага хацелася мне, каб не толькі я ведаў, што жыве ў Нью-Ёрку вялікі беларускі паэт.

Вось жа прыйшлі такія часы.

Янка Юхнавец нарадзіўся на Віцебшчыне ў сялянскай сям’і. У вайну страціў родных, вынішчаных літоўскімі фа-

шыстамі. Вершы пачаў пісаць за мяжою, ужо ў Нямеччыне, друкаваўся ў шматлікіх эміgranцкіх перыядычных выданнях, адначасна спасьцігаючы глыбіні беларускага славатворства. Пераехаўшы на стала ў Амерыку, Янка Юхнавец выдае наступныя кнігі: «Шорах моўкнасьці» (Нью-Ёрк, 1955), «Новая Элегія» (Мюнхен, 1961), «Калюмбы» (Нью-Ёрк, 1967).

На паэзію Янкі Юхнаўца вялікае ўзьдзеяньне аказваюць вершы заходнееўрапейскіх і амерыканскіх сучасных паэтаў, а таксама філасофскія працы Ніцшэ і Сартра. Ён засвойвае найбагацейшы сусьветны культурны здабытак, але ў сваіх творах грунтуецца на беларускім фальклёры, беларускай псіхалогіі, ментальнасьці нашага народа. Атрымаўся нечаканы, нетрадыцыйны для нашай паэзіі сінтэз.

У Амерыцы Янка Юхнавец атрымаў адукацыю юрыста і працаваў у сферы камп’ютарнага бізьнесу, гэтым зарабляючы на хлеб.

З творчага набытку Янкі Юхнаўца адабраны вершы з цыкла «Вецер песьняй падмовіў», зьмешчаныя ў 1-м томе яго «Твораў».

Магічнае ўзьдзеяньне маюць гэтыя вершы. Чытаючы іх, чуеш, як зьвініць дрот на слупах, напоўнены ветрам, як хінуцца дрэвы, шасьцяць травы, увесь сьвет наліваецца гэтым дзіўным сьпевам. Чалавек нараджаецца і памірае пад гул ветру. Ветрам працяты ўсе рэчы і зьявы, існасьць і быцьцё — ад раніцы да ночы, ад лета і да зімы.

Дзіўная паэзія. Яна існуе на ўзроўні замовы. Яна чаруе падсьвядомасьць і цягне ў нязьведаныя вышыні, прымушае падпарадкоўвацца толькі ёй вядомай рытміцы і цыклічнасьці. Паэзію Янкі Юхнаўца можна чытаць і перачытваць бясконца, бо ўсё ў ёй шматмернае і нестатычнае — як Прырода, якую ніколі чалавеку не спасьцігнуць дарэшты.

Янка Юхнавец нарадзіўся ў 1921 годзе на Бягомльшчыне. Як згадвае сам паэт: «Шчасьлівы выпадак быць народжаным між паэтычных мясьцінаў. Я толькі пазьней апамятаваўся іх любіць, а для гэтага была прычына — 2-я вайна».

Сталеньне беларускай моладзі ў 20-я і нават 30-я гады адбывалася сярод беларускай рэчаіснасьці. Паэт на пытаньне аб вытоках сваёй літаратурнай творчасьці адказвае: «Я ўспомніў казкі ад мае цёткі Куліны. Яна была хадлівай вясковай энцыклапедыяй, хоць і непісьменнай». Народная беларуская стыхія дапаўнялася нацыянальным выхаваньнем, адукацыяй: «Апынуўся юнаком у нацыянальным жыцьці, якое потым было прыдушана... Здарылася эгаістычнасьць чытаць і шанаваць М. Багдановіча, а потым Я. Купалу». У асабістых нататках паэт згадвае і такі эпізод: «Калісьці, быў у 4-м класе, нацдэмаўшчына была ўсюды, выпрасіў ад бацькі грошы і купіў зборнік “Вянок”. Пазьней, пакуль не быў дома, хаваў яго разам з гісторыяй М. Гарэцкага і эвангеліяй ад прадзеда ў падстрэшшы хлева».

У маленстве і раньнім юнацтве ў большасьці з нас закладаюцца рысы характару, якія дазваляюць вызначыць стан чалавечай асобы на ўсё далейшае жыцьцё. І шчасьлівы той чалавек, які гадаваўся ў шчыльнай лучнасьці з прыродаю, на сваім родным нацыянальным фальклёры, на традыцыях свайго народа, праз адукацыю атрымліваючы лепшае зь ягонае спадчыны. Такія людзі, як правіла, здатныя на далейшае творчае жыцьцё, і зглуміць гэтыя пачаткі, вырваць з чалавечае сьвядомасьці зусім няпроста. Згадаем хоць бы земляка Янкі Юхнаўца Васіля Быкава, якога зь сямнаццаці гадоў лёс кідаў па сьвеце, не раз ставячы на мяжу гібелі, але талент ягоны, закансерваваны на доўгі час, пры больш-менш спрыяльных умовах ажыў, прабудзіўся і паказаў нам вяршыні беларускага нацыянальнага характару ў нашай літаратуры. Аснова для творчасьці ў В. Быкава была закладзеная яшчэ ў тыя перадваенныя «беларускія» гады. Гэтаксама адбывалася і ў Янкі Юхнаўца, і для яго час маленства і юнацтва, час «выпрацаваньня характару» стаўся грунтам усяе ягонае далейшае творчасьці, якая пасьля пэўнага анабіёзу прабудзілася ўжо ў эміграцыі. Як зазначае аўтар у прыватным лісьце, «літаратурную творчасьць (паэзія + проза) пачаў пасьля вайны за межамі Айчыны. Першыя творы (1948) зьяўляліся

ў часопісах “Шыпшына”, “Сакавік”, “Беларуская Думка” ды іншых».

Але яшчэ перад гэтым была вайна. Янка Юхнавец змагаўся з акупацыйным рэжымам. Менавіта ў вайну ён «зацікавіўся багацтвам беларускай мовы», вандруючы па Беларусі. Зьвязаны з ваенным часам і эпізод, прыгаданы Я. Юхнаўцом падчас ягонага побыту ў Менску. Ён піша пра менскую Кальварыю, старыя каталіцкія могілкі з капліцаю: «...шкадую, што на менскай Кальварыі ў сьвятыні чуваць польскую мову. Калісьці там падчас вайны схаваўся ад нашых сяброў жмудзінаў (літоўцаў)» (зь ліста ад 19.10.1989). Ужо ў Амерыцы ў 1953 г. паэт напіша верш «Менская Кальварыя»:

Помнікі ў моўкнасьці, што нас хвалюе,
бы адзіным выхапам сьцяжын кароткіх,
узьняліся ўгару. Іх пэўныя сьляды —
магілы
адтокамі старых узрэччаў адыйшліся.
Між імі ў разбудлівым, з муравы, засьцілі
весяла павеі ветру блукаюць.
Бы нядобры рыцар, там сьвятыня
дзіду гострую — званіцу зь неба выцягнула.
Там паставілі яе жывыя. Усьлед за ёй — не надвак,
у каменных плітках бяжыць алея,
сьцьвярдзела...
Усё трываюць сонцам дні.
Мальбой пакуль сьціхаюць каля крыжоў
карэньні неба—
сьцені, ня прыходзіць мніх у змрок тае
сьвятыні...
Таполі
шэптам прыхалоды споду
з Богам росьцяць шум сваіх
вяршалін:
зь іхнай боляй за равом, у полі,
адросьлі іхныя апынуліся.

Колькі такіх беларускіх «адросьляў» было раскідана падчас вайны па цэлым сьвеце! Апынуўся на чужыне і Янка Юхнавец. Яго вывозяць у Нямеччыну. Сям'ю, як ён даведаўся пазьней, зьнішчаюць літоўскія карнікі: «Яны кінулі ў падпаленую хату пяць малых братоў і расстралялі бацьку». У вершы, прысьвечаным бацьку, паэт самотна прыкмячае:

Загінуў ты.
Цішыню тваю памерлую
не растлумачу анікому.

У Нямеччыне пасьля вайны Янка Юхнавец вучыцца ў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, дзе пад той час выкладалі Натальля Арсеньнева, Яўген Калубовіч ды інш. Тады ж пачынаецца ягоная паэтычная творчасьць, якая напачатку мае традыцыйныя рысы. У 1946 годзе паэт піша:

А Зорка-Лебедзь зіхацела
з таёмнай высі (гэта — ты).
— Дзе пахаваюць твае цела?
Здаецца, ты... пытала ты...
Красуня зор, нябёсных хваляў!
Я — лунь сівы пячор зямных
прыйшоў, каб толькі пахавалі
пакуты дзён маіх зямных.

Вельмі хутка паэзія Янкі Юхнаўца набывае непаўторнае, арыгінальнае аблічча. Паэтычныя навацыі яго не заўсёды знаходзілі разуменьне ў беларускай творчай інтэлігенцыі на эміграцыі, якая больш арыентавалася на традыцыйныя здабыткі ў беларускай літаратуры. У адказе на анкету паэт заўважае: «Посьпехам на эміграцыі паэтычнай ніколі не паважаўся. Па-іхняму, я "абганяў" не па-сапраўднаму пакуты Айчыны аднадзёнкамі, "афармліваў" сваё, не падтасоўваўся зразумеласьцяй да мэтадаў пісаньня на Беларусі. А мне не было чым афармлівацца — я пачаў пісаць на эміграцыі. Аднак тое-сёе згаджаліся друкаваць (помач, заступства знаходзіў

ад др. В. Тумаша, старшыні Беларускага Інстытута навукі й мастацтва)».

Лёс вёў Янку Юхнаўца далейшымі сьцяжынамі беларускай эміграцыі. Ён перабіраецца на сталае жыхарства ў ЗША, у Нью-Ёрку атрымлівае юрыдычную адукацыю, працуе ў сфеы камп'ютарнага бізьнесу. Увесь гэты час ідзе спасьціжэньне сьвету, асэнсаваньне ўласнага нацыянальнага вопыту, здабыткаў агульначалавечае культуры, што знаходзіць сваё адлюстраваньне ў плённым творчым набытку паэта. У 1955 годзе ў Нью-Ёрку выходзіць першая кніжка паэта «Шорах моўкнасьці», якая канчаткова зацьвердзіла зьяўленьне ў беларускай літаратуры самабытнага і таленавітага творцы.

Так атрымалася на той час, што нешматлікая беларуская пісьменьніцкая эміграцыя фактычна ўтрымлівала гонар беларускай літаратуры, не даючы перарвацца працэсу яе разьвіцьця. Творчае жыцьцё ацалелых беларускіх пісьменьнікаў у Савецкай Беларусі пасьля вайны, падчас сталінскай стагнацыі і ў першыя гады па ёй было цалкам бясплённым. Беларускія літаратары на эміграцыі — Натальля Арсеньнева, Алесь Салавей, Рыгор Крушына, Уладзімір Дудзіцкі, Масей Сяднёў, Уладзімір Клішэвіч, Міхась Кавыль, Янка Золак, Юрка Віцьбіч, Кастусь Акула, Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч — стварылі жыцьцядзейны літаратурны працэс, залатая пара якога прыпадае на пасьляваеннае дваццацігодзьдзе. Адметнае месца ў ім займае і творчасьць Янкі Юхнаўца.

Зборнік «Шорах моўкнасьці» складзены зь лірычных замалёвак, у якіх паэт спрабуе зафіксаваць няспынны бег часу, злавіць і адбіць у паэтычных радках тую няўлоўную пячатку вечнасьці, якую мы звычайна не прыкмячаем:

На замчышчы толькі вусьціш.
У вышынях месяц спынёны.
Вецер, чаму ты не хлусіш
песьню разрытай калёны?
Як добра! Хоць раз заўнімуся
і псальму сьпяю ўсяночную.

Рэхам з вуснаў маіх разьліюся,
бы на скале вада ўсточная.
На замчышчы вусьціш прапала.
Месяц,
здаецца, ты сьпевам спынёны?..
Ах, вецер узноў,— нябачная хваля,
і шорах пясочны з калёны —
мой сьпеў зглумлёны.

Убачыць і адчуць разам з чытачом «шорах моўкнасьці» — звышзадача паэта. Паэтычныя замалёўкі Янкі Юхнаўца не статычныя. Яны, як жыцьцё, як прыродны сьвет, напоўненыя гулам часу і подыхам ветру, начной цішаю і супакоем, каханьнем і радасьцю маладога чалавечага існаваньня, пабудаванага на натуральных інстынктах.

Паэзія Юхнаўца не простая. За зьнешняй прастатой сюжэту, часам знарочытай нязграбнасьцю радка, моўных эксьпэрыментаў і знаходак, падкрэсьленай арытміяй, паступовай адмовай ад рыфмы бачацца пошукі паэта ў суадносінах формы і зьместу, намацваньне свайго ўласнага шляху ў паэзіі, выкарыстаньне тых паэтычных сродкаў, якія дазваляюць яму выказацца як найпаўней, дазваляюць наблізіцца да максімальнай самарэалізацыі як творцы. «Зьмест творыць форму, — заўважае паэт, — для мяне закон. У зьмесьце знойдуцца формы, і форма знойдзе зьмест».

У сучаснай беларускай паэзіі шлях Янкі Юхнаўца можна ўмоўна параўнаць з творчасьцю Алеся Разанава, які таксама, паступова адыходзячы ад традыцыяналізму ў пошуках уласнага «я», узьбіўся на свой шлях, які вылучаецца ў агульным рэчышчы беларускай паэзіі, але й адначасова складае яе неад’емную частку. Адпіхваючыся — набліжаемся, адмаўляючыся — сьцьвярджаем. Супярэчлівыя законы дыялектыкі нашае літаратуры.

Наступныя творы Янкі Юхнаўца друкуюцца ў эмігранцкай перыёдыцы (газета «Бацькаўшчына», часопісы «Конадні», «Баявая Ускалось» і інш.). Асобнаю кніжкаю ў 1961 годзе выходзіць паэма «Калюмбы». Пад псеўданімамі

Я. Юстапчык, Я. Юхневіч, крыптанімам Я. Ю. друкуецца проза пісьменьніка, зьяўляюцца драматычныя творы, паэмы.

У 1953 годзе Янкам Юхнаўцом ствараецца акрэсьлены як «драматычны нарыс» твор «Узгоркі і пячоры». Час дзеяў — вайна. Галоўны герой — Антон, уцёкшы з палону, жыве на ўзгорку ў пушчы, на тым самым месцы, дзе колькі гадоў таму быў забіты ягоны бацька. Дзеі нарыса адбываюцца таксама ў царкве, у гаспадара-старавера — забойцы бацькі, у пушчы. Асобнымі ўстаўкамі ў нарысе выглядаюць сны Антона. Сюжэт «драматычнага нарыса» даволі дынамічны, хаця і адыгрывае далёка не асноўную ролю. Галоўны акцэнт аўтар робіць на спробе філасофскага асэнсаваньня жыцьця з пазіцыяў гуманізму і агульначалавечае дабрыні. Бяскрыўдны, няздатны да благіх учынкаў галоўны герой, які спрабуе разабрацца ў сутнасьці трагічных падзеяў агульнанароднага і прыватнага характару, што адбываюцца вакол яго, сустракае неразуменьне людзей: «Я пасяліўся ў пушчы, на месцы забойства майго бацькі. Я хацеў пазнаць там разам зь сябрамі сьвет зла і шчасьця майго народу і сусьвету, але яны пакінулі мяне, назвалі мяне: “краска, якая ніколі не расьцьвіце”. Задумаўся і я. Прыйшоў да вас, дзе разам з вамі падрастаў. Бо зразумеў: чалавечым захаваньнем да ворагаў уздымешся да роўных… Вы сустрэлі мяне ў царкве: бязбожнікам…» Голас з натоўпу: «Што за гамазьня?»

І хаця ў рэшце рэшт праўда становіцца вядомаю для ўсіх, Антон гіне, бо няма месца для іншай жыцьцёвай платформы там, дзе пануюць толькі два колеры — чорны і белы, дзе змагаюцца дзьве сілы, дзьве ідэалогіі.

У лёсе Антона праглядаецца і лёс беларусаў падчас Другой сусьветнай вайны, якія ў любым выпадку цярпелі і заставаліся пераможанымі. Цудоўныя лірычныя адступленьні ў «нарысе», на якія так шчодры аўтар. Ён не баіцца запавольваць ці нават спыняць дзею, каб аглядзецца навокал, падмеціць і даць адчуць нам чароўнасьць прыроды, смак чалавечага жыцьця, прыгажосьць створанага Богам сьвету:

Але. Ты паглядзі праз гэты просяг пушчы.
Там дым, маўляў, хвала Узвышняму
за сон здаровы пад страхой
запраўднай,
за праснак жытнёвы, за бульбіну ў страве цёплай...
А там, далей, ядзерніста мурожны поплаў
так разаслаўся, як-бы затоны возера зялёнага.
Па ім, напэўна, хвалістасьць
андаракаў сяньня
у карагодзе зьліецца цудоўнай
расхварбоўкай,
там будуць і кунегі й журботы
маладыя,
там зыйдуцца ўсе да пешчаў
пажаданых
дзеля роду іхнага, што ведае
зманлівасьць
дарлівай вокмяці жыцьця адвечнага.
Ды што аб ім расказваць,
паказваць пальцам з воддалі, калі бачыш сам:
яно, бы той сьвятар дае малітву,
і ведаеш;
пад час яе, напэўна-ж,
людзі на калені стануць...

Гаворачы пра ўплывы на сваю творчасьць, Янка Юхнавец на першае месца ставіць фальклёр, які спрадвеку фармаваў у беларусаў эстэтыку ўспрыманьня навакольнага сьвету. Менавіта праз фальклёр нашыя продкі зусім яшчэ нядаўна вучыліся бачыць і разумець прыгажосьць. Янка Юхнавец сьцьвярджае: «Над мной пануе мудрасьць беларускага фальклёру». У фальклёры паэт знаходзіць філасофскае абгрунтаваньне рэчаіснасьці, там ён бачыць магутны філасофскі пачатак, невычарпальную крыніцу мудрасьці. Таму зусім не дзіўным выглядае аб’яднаньне ў філасофскім кантэксьце беларускага фальклёру і творчасьці Ж.-П. Сартра: «Я люблю беларускі фальклёр. Пасьля другой вайны сустрэўся з тво-

рамі Сартра. І не зьдзівіўся — хто быў першым? Ён ці нашыя казкі? Хоць бы адменны прыклад: звычайная казка пра “ваўка і сабаку”. Гэгэля забываюся, а Сартра трымаюся. Ён кантраст шмат іншым філёзафам, ці сучасным ці апошнім у XX стагодзьдзі. Ён дадатак беларускага фальклёру».

Пэўна, што мы недаацэньваем таго скарбу, які маем. Беларуская вусная народная творчасьць, без сумненьняў, дае адказ на любое жыцьцёвае пытаньне, дае класічныя ўзоры маральнасьці, прыгажосьці, своеасаблівасьці беларусаў — таго, што мы называем нацыянальным менталітэтам. Дзе нам вучыцца беларускасьці і агульначалавечнасьці, як не ў сваім фальклёры?

Эстэтыка, якой паэт удзяляе шмат увагі ў сваіх развагах, якая займае прыкметнае месца ў ягоных паэтычных дачыненьнях, мае свае вытокі ў дзіцячых успамінах паэта. Бачыць у жыцьці штосьці адметнае і прыгожае, радавацца гэтаму жыццю, на жаль, дадзена далёка не кожнаму. І, здаецца, з кожным пакаленьнем, паддаючыся ўніверсалізацыі ды ўніфікацыі, мы губляем гэтыя ўласьцівасьці, характэрныя для жыцьця і дзейнасьці ранейшых беларусаў.

Нашых продкаў вельмі часта падаюць як абмежаваных і прыбітых жыцьцём. Але ж гэта далёка не так. Беларусы заўсёды ўмелі радавацца жыцьцю, імкнуліся ўпрыгожыць яго, ужываючы паэтычны вобраз зь вядомага твора Максіма Багдановіча, імкнуліся заўсёды бачыць у жытнёвых васільках не толькі пустазельле, але й неад’емную частку родных палеткаў.

Янка Юхнавец згадвае: «Асабліва ўразілі ўспаміны бацькі: успамінаў сваіх прашчураў — прабабу, прадзеда, свайго бацьку, якія любілі стаўляць белыя і звычайна высокія камяні каля вясковых дарог, садзілі бярозы (мая сяліба была ў бярозах і ліпах), высякалі з камянёў крыжы-помнікі на магіліцы. Прадзед збудаваў з палявых камянёў вадзяную мельніцу — толькі пазьней зразумеў, прашчуры-родзічы захапляліся прыгаствам навакольля». І наступны эпізод з жыцьця паэта: «Аднойчы, назло майму бацьку, вясковыя актывісты

звалілі сасну, пасаджаную прадзедам, хараство якой шкадаваў бацька. Яна так ляжала, зваленая гніць, бадай у блізасьці ягонай сялібы, аж да другой вайны. Адчувалася хараство, якое шкадаваў бацька».

Расстаньне з Бацькаўшчынаю ўспрымалася Юхнаўцом пarознаму. З аднаго боку, яна адарвала яго ад натуральнай беларускай глебы, з другога — дала магчымасьць грунтоўна пазнаёміцца зь літаратураю іншых народаў, што, безумоўна, паўплывала на ягоны мастацкі густ і літаратурныя арыенціры. Жыцьцё ўдалечыні ад Радзімы для творцаў не заўсёды мае адмоўныя вынікі. Вельмі часта яно стымулюе іхнюю творчасьць, у якой яны бачаць чын служэньня Бацькаўшчыне. Дастаткова згадаць М. Багдановіча ды А. Гаруна. Як сьцьвярджае сам паэт, «найбольш вучыўся ў заходнеэўрапейскіх паэтаў і францускіх пісьменьнікаў».

Гаворачы пра паэзію Я. Юхнаўца, нельга абысьці ягоныя філасофскія погляды, бо ў шматлікіх творах паэта прысутнічае глыбокі філасофскі зьмест. Мы не памылімся, калі скажам, што паэзія Янкі Юхнаўца — філасофская паэзія, а сам паэт — філосаф.

Асэнсоўваючы свой жыцьцёвы і творчы шлях, паэт разважае: «Я супаў са сваім часам. Калі не сказаць слова, тады будзе моўкнасьць. Поўнасьцю без сэнсу метафізычнай прапазыцыі лагічнага аналізу сучаснасьці. Ледзьве паўзьці па сваёй зямлі жужаліцай, ледзьве інстынктам пазнаваць зьмест свайго быцьця... Карыстаю магчымасьць уступіць у сувязь творчага наканаваньня. Мая творчасьць, можа выпадак уласнае індывідуальнасьці, дамінуе нада мной. Я навучыўся ад мастацтва заняцца, разумець сябе, а іншых — іхная справа... Мастацтва патрабуе элементарнае характарыстыкі. Яно, мастацтва, — для нашае цывілізацыі і культуры. І як ні бяры яго акачанелымі рукамі, яно — адпаведнасьць нашаму гістарычнаму часу Айчыны... Як дзіўна абараняюся. Ды гэта ўроджаная справядлівасьць чалавека. Я люблю тое, што люблю, калі толькі люблю... Разумна паводзіцца ў маладосьці сталым чалавекам, а ў старасьці маладым».

Як адзначае сам паэт, вялікі ўплыў на яго аказалі філасофскія погляды Ф. Ніцшэ і Ж.-П. Сартра.

Выклікае вялікую ўвагу і мова твораў Янкі Юхнаўца, дзе сустракаецца шмат неалагізмаў, дыялектных словаў — нават звычайная лексіка ў аўтарскім кантэксьце пачынае гучаць па-іншаму. Менавіта арыгінальная аўтарская мова дапамагае вырашыць творчыя, паэтычныя, а таксама філасофскія, сэнсавыя задачы. І трэба адзначыць, што гэта яму ўдаецца. Паэт уздымае архаічны пласт дадатковых значэньняў у лексіцы нашае мовы. Цяжка часам зразумець, якое слова, ужытае ім, ужо існавала стагодзьдзі, а якое — наватвор. Галоўнае хіба — натуральнасьць існаваньня гэтых словаў, іх стваральная энергія. Аўтар пра сваю мову піша так: «Можа, і “захлынуўся словатворнасьцяй”. Ад жа мушу напомніць: я ўвесь ад “лексікону” паўночнабеларускага. Здараецца, сінтэзую, але шмат словаў чуў так, як пішу ў творах. Мова беларуская багатая. Мне давялося бачыць старыя слоўнікі ў заходніх бібліятэках, ад іх запазычыў шмат, і яны не дыялект для мяне. Пэўнюся: існуюць і цяпер, але яны чамусьці не прыцягваюць увагу нашых пісьменьнікаў і іншую творчую інтэлігенцыю. Гэтыя словы адрозьніваюць нашу мову ад суседска-славянскіх моваў-нацыяў. Навошта скідваць у гістарычную я́му свае родныя дыямэнты?»

Творы Янкі Юхнаўца асэнсоўваюцца не адразу. Таямнічая энергія, закладзеная ў іх, прымушае вяртацца да новага прачытаньня, кожны раз зьдзіўляючы нечым новым, не заўважаным раней. Пастаяннае адкрыцьцё новага ў, здавалася б, знаёмых тэкстах — уласьцівасьць сапраўднага мастацтва. Актам справядлівасьці трэба лічыць тое, што ў нашую літаратуру да шматлікага чытача вярнуўся яшчэ адзін праўдзівы Творца.

*З архіва Алеся Бяляцкага.*

# АДКРЫЦЬЦЁ ПРЫХАВАНАГА СЭНСУ

Мы ўжо, здаецца, звыкліся з адкрыцьцём новых імёнаў у гісторыі нашай літаратуры. Апошнімі гадамі яна пабагацела на Алеся Гаруна і Антона Луцкевіча, Натальлю Арсеньневу і Вацлава Ластоўскага ды на шмат іншых. Але кожная новая сустрэча, новае адкрыцьцё прыносяць радасьць і захапленьне яшчэ адным дыяментам у сузор'і прыгожага пісьменства.

Трагічныя супярэчнасьці ў нашай культуры пакінула пасьля сябе камуністычнае грамадства. Падсавецкая беларуская паэзія пачала ажываць у канцы 50-х гадоў з прыходам у літаратуру Р. Барадуліна, У. Караткевіча, а потым у вершах маладзейшых — А. Разанава, А. Мінкіна, А. Сыса... Пры цяжкіх стратах, якія прынесла для беларускай культуры пануючая камуністычная ідэалогія, тым не менш ішла барацьба паміж унутраным сьветам творчай асобы і псеўдакаштоўнасьцямі, якія навязвалі грамадству. У творчасьці кожнага пісьменьніка адбывалася антаганістычнае раздваеньне мэтаў і магчымасьцяў. Перамагалі найбольш моцныя, таленавітыя і незалежныя.

У жарале гэтага змаганьня выкрышталізаваліся сапраўды вялікія таленты. Можна правесьці аналогію з паэтычным выбухам у дзесяцігодзьдзе перад Першай сусьветнай вайною, калі, з аднаго боку, расейскія акупацыйныя ўлады дазволілі




Янка Юхнавец. Нью-Ёрк, 8.03.1992

беларускі друк, але, зь іншага боку, усё Адраджэньне хадзіла пад вязьніцаю і трывала выключна на энтузіязьме асобных ахвярнікаў.

У нацыянальным дэмакратычным грамадстве іншыя прыярытэты. Там існуе нацыянальная культурная плынь. Высьпяваньне творчых індывідуальнасьцяў ідзе ў іншым вымярэньні, тым не менш вельмі часта даючы выключныя вынікі на нейкіх балючых, трагічных сваіх зломах.

Для Янкі Юхнаўца, паэта-эмігранта, якога мы прадстаўляем у гэтым зборніку, гэтая трагедыйнасьць відавочная. Яна выкліканая вымушанай адарванасьцю ад Бацькаўшчыны, пагатоў гэтая адарванасьць узмацнілася ягоным асобным месцам у плыні беларускай эміграцкай літаратуры. Адметная эстэтыка, філасофскія падваліны ягонае паэзіі, стылёвая адрознасьць рабілі ягоныя творы непадобнымі для традыцыйнае беларускае паэзіі, а праз гэта былі і шмат для каго незразумелымі. Як згадвае Янка Юхнавец: «Першыя творы тут сустрэлі суперлівымі штыхамі, блізу “псіхалягічнай атакай” падчас 1-е вайны. Было чуваць: “Цікавы, але дзікі!”».

Аднак вышэйадзначаныя ўласьцівасьці паэзіі Янкі Юхнаўца, прышчэпленыя на глебу беларускага фальклёру, які зьяўляецца асновай сьветапогляду паэта, далі нечакана магутны эфект. «У фальклёры ўсё, — піша Янка Юхнавец, — там і літаратура, і даўная філязофія чалавечая».

З пэўнасьцю можна сказаць — мы маем стасункі з буйным беларускім паэтам, творчасьць якога, пры ўмове хай сабе і запозьненага асэнсаваньня і спасьціжэньня сучаснікамі, можа зрабіць значны ўплыў на далейшае разьвіцьцё беларускай паэзіі.

Нарадзіўся Янка Юхнавец у 1921 годзе на Бягомльшчыне. Падчас вайны страціў бацькоў і пецярых малых братоў, спаленых летувіскімі фашыстоўцамі. Быў вывезены ў Нямеччыну, дзе і застаўся на эміграцыі. Першыя друкаваныя творы зьявіліся ў эміграцкіх часопісах «Шыпшына», «Сакавік», «Беларуская думка» ды інш. Затым Янка Юхнавец

выехаў у Амерыку. Атрымаў юрыдычную адукацыю і працаваў у сферы бізьнесу. Апроч вершаваных твораў пісаў таксама і прозу пад крыптанімам Я. Юх. і псеўданімам К. Юхневіч.

Першая кніжка паэта — вершаваны зборнік «Шорах моўкнасьці» — убачыла сьвет у 1955 годзе і аб'яднала частку вершаў Янкі Юхнаўца, напісаных ім з 1947 па 1953 год. Гэты зборнік можна лічыць своеасаблівым ключом для разуменьня творчасьці паэта. Назва зборніка, узятая з назвы аднайменнага цыкла вершаў у кніжцы, абумоўлівае эстэтычную звышзадачу, якую спрабуе вырашыць паэт, — пачуць няўлоўнае, вылучыць паэтычную субстанцыю нашага жыцьця, зразумець спрадвечнасьць гэтага вялізнага сьвету, адначасна зьвёўшы сьвет вакол сябе ў адзінае беларускае цэлае.

Гармонію сьветаўспрыманьня выпраменьваюць гэтыя вершы. Спакойны беларускі пагляд на космас, які акаляе нас і зьвязаны з намі тысячамі нябачных нітак.

Уражвае ўнутраная танальнасьць вершаў, якія нібыта зьвіняць ад пачатку да канца, іхняе паэтычнае суладзьдзе. Недарма адна з галоўных дзеючых асобаў у творчасьці паэта — вецер. Гэта ўстойлівы і ўсёабдымны вецер, які пранізвае ўсё навылёт. Ён моцны і няспынны, ён вымушае ўсіх жыць пад сваёю апекаю, з абавязковым улікам ягонага існаваньня.

Ды і ўся паэзія Янкі Юхнаўца — гэта своеасаблівы вецер, які ахоплівае чалавека і не адпускае яго, трымае ў сваім пранізьлівым, сумным і адзінокім гудзе.

Вершы Юхнаўца трэба чытаць нясьпешна і ўважліва. Іхняя прыцягальнасьць — і ў нечаканасьці думкі, кожнага слупка, радка і нават слова. Ягоная паэзія дае магчымасьць вяртаньня да яе і разам з гэтым новага адкрыцьця прыхаванага сэнсу, шматлікіх нюансаў, не заўважаных раней. І пры ўсім пры гэтым яна застаецца праўдзівай паэзіяй.

У адвольным і такім дзіўным самараскрыцьці паэта, ягонага бліскучага таленту, трэба лічыць, вялікую ролю адыграла так званае пісаньне ў стол. Вершы друкаваліся, але чытацкае кола там, за мяжою, было вельмі абмежаванае.

Янка Юхнавец ці не адзіны беларускі паэт пасьля Максіма Багдановіча, які ўзгадаваўся і сфармаваўся як творца на чужыне. Недарэмна ён сьцьвярджае: «Я насьледак М. Багдановіча».

У такіх умовах разьвіцьця творчасьць Янкі Юхнаўца была скіраваная на індывідуалізацыю, раскрыцьцё паэтычных магчымасьцяў у самаспазнаньні, пераасэнсаваньні ўсяго сьвету праз сваё «я». Ні кроплі фальшу няма ў гэтай паэзіі, бо пісалася яна найперш для сябе і справаздача трымалася перад сваім уласным, унутраным крытыкам.

Паэзія Янкі Юхнаўца мае моцны агульналюдскі зарад, агульналюдское значэньне, бо нясе на сабе адбітак спрадвечнага ладу існаваньня многіх ранейшых беларускіх пакаленьняў. Само мысьленьне Янкі Юхнаўца, адбітае ў ягоных вершах, зьяўляецца, на маю думку, праявай менавіта беларускага асэнсаваньня гэтага сьвету.

Выданьне «Шораху моўкнасьці» ды іншых кніжак літаратараў-эмігрантаў Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Антона Адамовіча, Станіслава Станкевіча, Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва, Рыгора Крушыны ды іншых у другой палове 40-х — 50-х гадах фактычна запоўніла тую жахлівую пустку пасьля разгрому беларускай літаратуры, якая ўтварылася ў падсавецкай Беларусі. Дапаўняюць творчасьць беларускай эміграцыі тых гадоў вершы Л. Геніюш, Л. Случаніна, В. Супруна, якія знаходзіліся на другім канцы сьвету, але гэтак жа ўпарта рабілі беларускую літаратуру.

Творы і пераклады Янкі Юхнаўца друкаваліся ў беларускай эміgranцкай перыёдыцы, у часопісах «Конадні», «Баявая ўскалось» ды інш. Асобнымі выданьнямі выйшлі паэмы «Новая Элегія» і «Калюмбы». У 1987 годзе ў Нью-Ёрку выйшаў першы, у 1989 — другі і ў 1990 годзе трэці том твораў Янкі Юхнаўца, якія аб’ядналі ягоныя вершы, паэмы і драматычныя творы. Гэтае выданьне яшчэ не закончанае. Яно падсумоўвае амаль паўвекавую напружаную творчую працу паэта.

Пры знаёмстве зь вершамі Янкі Юхнаўца добра ўсьведамляеш, што асэнсаваньне ягонае творчасьці патрабуе хаця б элементарнага веданьня філасофіі, яе сучасных напрамкаў. Філасофскі накірунак паэм, драматычных твораў Янкі Юхнаўца, спробы па-свойму асэнсаваць складаныя пытаньні чалавечых стасункаў робяць ягоную творчасьць не толькі літаратурнаю зьяваю, але і набыткам беларускай філасофіі.

У сістэме каардынатаў беларускай літаратуры творчасьць Янкі Юхнаўца бліжэй за ўсё, на мой пагляд, да творчасьці Алеся Разанава, паэзія якога таксама мае вялікі філасофскі падтэкст. Перагукаюцца іхнія пошукі ў сферы ўнутранай стылістыкі беларускай мовы, словаўтварэньня і пераасэнсаваньня глыбіннага значэньня, здавалася б, спрадвечных слоў. Сьвядома ідучы на слоўны эксьперымент, Янка Юхнавец тым не менш заяўляе: «Мае словы належаць Беларускай мове». Хочацца перафразаваць выказваньне паэта і сказаць, што ўся ягоная творчасьць належыць беларускай літаратуры.

*Прадмова да кнігі: Янка ЮХНАВЕЦ. Сны на чужыне. — Мн., 1994.*

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ — ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК

Ёсьць пэўная заканамернасьць, што падчас адраджэньня нацыі зьяўляюцца магутныя асобы, якія волатамі вылучаюцца ў нацыянальным руху, паказваючы не толькі сучасьнікам, але і наступнікам шлях наперад. Кола іх дзеяў надзвычай шырокае і плённае. Згодна зь біблейскай прыпавесьцю яны засяваюць народную ральлю, шчодрай жменяю чэрпаючы зерне сваёй душы.

Пачэснае месца ў беларускім нацыянальным руху займае палітычны дзеяч і асьветнік, гісторык і літаратуразнаўца, публіцыст і мовавед, бібліяфіл і педагог, перакладчык і музейшчык Антон Луцкевіч.

Адзін з самых выдатных палітычных і культурных дзеячаў Беларусі Антон Луцкевіч нарадзіўся 17 студзеня па старым стылі (29 студзеня) 1884 года ў Шаўлях Ковенскай губерні (цяпер горад Шаўляй Літоўскай Рэспублікі) у сям'і служачага. (Род паходзіў зь беларускай шляхты і меў герб «Навіна», адсюль адзін з самых ужывальных псеўданімаў Антона Луцкевіча — «Антон Навіна».) Бацька быў вайскоўцам, а пасьля служыў на чыгунцы. Вучыўся ў гімназіі горада Лібавы, пасьля, калі памёр бацька і сям'я пераехала ў

Менск, — у Менскай класічнай гімназіі. У 1902 годзе паступіў у Пецярбургскі ўнiверсітэт на прыродазнаўчае адзьдзяленьне. Удзельнічаў у рэвалюцыі 1905 года. Адзін з кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай грамады, перайменаванай пазьней у Беларускую сацыялістычную грамаду. Арыштоўваўся за распаўсюд рэвалюцыйнай літаратуры. Універсітэцкую вучобу закончыў, здаўшы курс экстэрнам (прыродазнаўчы ў Пецярбургскім і юрыдычны ў Юр'еўскім, былым Дэрпцкім, зараз Тартускім універсітэце). Адзін з заснавальнікаў газеты «Наша доля», адзін з кіраўнікоў газеты «Наша Ніва». У 1917 годзе быў выбраны старшынёй Віленскай Беларускай Рады. Каалтаваны разам з братам Іванам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім у склад Рады БНР. На паседжаньні народнага Сакратарыята прапанаваў абвясьціць незалежнасьць БНР, што і адбылося 25 сакавіка 1918 года. Выступаў супраць агрэсіўнай палітыкі польскіх уладаў адносна беларускіх школ і нацыянальных правоў беларускага народа. Асуджаў рэпрэсіі ў БССР. Рэпрэсаваны ў 1939 годзе.

Мы спынімся на працы Антона Луцкевіча ў літаратурнай крытыцы.

Ужо ў раньніх публіцыстычных творах А. Луцкевіч выкарыстоўвае мастацкі набытак новай беларускай літаратуры, цытуючы вершаваныя радкі для падмацаваньня сваёй аргументацыі (Наш доўг // Беларускі каляндар за 1913 г.).

Першая вядомая нам нататка-рэцэнзія А. Луцкевіча (зьявілася ў «Нашай Ніве» за 1913 г., № 16–17) — на зборнік вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцьця». Крытык заўважаў: «Кніжка цешыць душу кожнага шчырага беларуса. Гэта ўжо сур'ёзны здабытак беларускай літаратуры... Мы можам сьмела сказаць, што пясьняр маладой Беларусі займець пачэснае месцо ў гісторыі беларускага адраджэньня».

Наступная яго нататка, таксама зьмешчаная ў «Нашай Ніве» (1914. № 8), была першай рэцэнзіяй на зборнік М. Багдановіча «Вянок». Яна мела назву «Пясьняр чыстай красы». Гэта вобразнае азначэньне на доўгія гады замацуецца за М. Багдановічам. Асноўным дасягненьнем паэта А. Луцкевіч

лічыць надзвычайную меладычнасьць, эстэтычную дасканаласьць ягоных вершаў: «І лёгка ліюцца яго вершы кунштоўнай, філіграннай работы, а кожын формай падходзіць да думкі».

Не кожнаму дадзена ўпадабаць і зразумець вартасьць такой паэзіі, мяркуе А. Луцкевіч. «Запраўды: чытаць вершы Багдановіча павінны толькі тыя, хто разумее музыку слова, чыя душа бачыць хараство ў чыстай паэзіі». Такое ўспрыманьне было не зусім характэрнае ддя беларускага нацыянальна сьвядомага грамадства, якое бачыла ў паэзіі найперш фунцыю правадніка ідэй нацыянальнага адраджэньня, што і адзначае крытык: «Але не грамадзкія тэмы займаюць галоўным чынам паэта: ён перш за ўсё шукае чыстай красы». Выснова: «“Вянок” — гэта праўдзівая пэрла ў беларускай паэзіі». А. Луцкевіч спрабуе і сам праз вобраз перадаць духоўную асалоду, якую прыносяць вершы паэта. «І як у летні гарачы дзень у крыстальна чыстай крынічнай вадзе асьвяжаецца нашае цела, так асьвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча». Гэты сказ перагукваецца з радкамі М. Багдановіча, які цытуе Псалтыр: «Вось псальма сьлічная. “Як той алень шукае Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я”. Як вее сьвежасьцю яе краса жывая!..»

Дзьве першыя нашаніўскія рэцэнзіі А. Луцкевіча шмат у чым вызначаюць далейшыя эстэтычныя зацікаўленьні крытыка. Значная частка ягоных прац будзе прысьвечана асэнсаваньню творчасьці Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, якія прадстаўлялі, на думку крытыка, розныя плыні беларускай паэзіі: плынь стыхіі і барацьбы і плынь дасканаласьці і прыгажосьці.

Даволі плённа крытык А. Луцкевіч выступае ў беларускай віленскай газеце «Гоман», якая выдавалася ў 1916–1918 гадах. Як і раней, ён друкуецца пад псеўданімам Антон Навіна, крыптанімамі а-н-а і А. Л., а таксама падпісваючыся ўласным прозьвішчам. Зьяўляюцца ягоныя трапныя і выверанargы ў ацэнках рэцэнзіі на п’есу «Базылішк» Францішка Аляхновіча, на зборнік вершаў «Матчын дар» Алеся Гаруна,

некралогі па Алаізе Пашкевіч-Кейрысавай (Цётцы), Аляксандру Ельскаму, Генрыку Сянкевічу, Максіму Багдановічу. Таксама ён друкуе цыкл крытычных артыкулаў пад рубрыкаю «Нашы песьняры» (1918). Гэтыя артыкулы стануць асноваю для аднайменнай кніжкі крытыкі, што ўбачыла сьвет у 1918 годзе ў Вільні.

Гонар выдаць першую кніжку крытыкі па-беларуску належыць, такім чынам, Антону Луцкевічу. Выданьне яе абумоўлівала неабходнасьць мець дапаможнік па беларускай літаратуры для беларускіх школ, якія ў той час густа пакрылі Віленшчыну. У адпаведнасьці з задачамі быў складзены і зьмест кнігі, як сьціпла зазначае аўтар, «з груба напісаных літаратурна-сацыяльных нарысаў». Кніжка вылучаецца прадуманай пабудовай, акадэмізмам у добрым сэнсе гэтага слова.

Ва ўступным артыкуле «Прадвесьнікі адраджэньня» А. Луцкевіч падае беларускае адраджэньне ў кантэксьце агульнаеўрапейскіх працэсаў, паказвае яго непазьбежнасьць і заканамернасьць: «Тая сіла, каторая адрадзіла чэхаў, украінцаў, літвіноў, латышоў, эстаў і іншых, у канцы сагнала сон і з вачэй беларусаў, — і беларускі народ, пераступіўшы парог XX сталецьця, меў у душы сваей вялікі запас творчай энергіі, каторая ждала толькі адпаведнага момэнту, каб выбіцца наверх».

Першым песьняром маладой Беларусі А. Луцкевіч лічыў Ф. Багушэвіча: «Ён знамяніта вывучаў біцьцё пульсу народнага, балеў яго болем, цешыўся яго радасьцямі, усей душой абурываўся з прычыны ганебнага рабства, сьляды каторага надоўга забілі ў беларускіх сялянах пачуцьцё чалавечай гордасьці. Ён горача зваў наш народ скінуць путы духоўнага рабства, горда падняць галаву і сьмела — на ўвесь сьвет — заявіць, што ён толькі спаў, а цяпер збудзіўся і трэбуе для сябе належнага мейсца ў сям'і братніх народаў».

У ацэнцы значнасьці творцы для нацыі А. Луцкевіч даволі дакладны, ён адчуваў дыялектыку літаратурнага працэсу, яго сувязь з народным жыцьцём. Ён валодаў беспамылковым літаратурным чуцьцём і густам.

Наступны артыкул прысьвечаны Якубу Коласу, які, на думку А. Луцкевіча, займае «адно зь першых мейсц у беларускай літэратуры часу адраджэньня». Крытык заўсёды вылучае ў творчасьці адраджэнцаў тое, што робіць кожнага зь іх адметным, непадобным да астатніх. Праз апісаньне прыроды, беларускіх краявідаў, адзначае А. Луцкевіч, Я. Колас выказвае сваю любоў да Бацькаўшчыны: «Яго патрыятызм абнімаў увесь родны край і праявы яго, а перш за ўсё родную прыроду».

Асноўнаю рысаю ў творчасьці Янкі Купалы крытык лічыць спантаннасьць, незапраграмаванасьць, «бо Купала запраўды пясняр “з волі Божай”, і вершы яго — гэта адгалоскі ўсяго, што ён бачыць навакол, што перэжывае з дня на дзень». Ён падзяляе яго творчасьць на два перыяды: першы, які ахоплівае 1905–1906 гады, «у каторым наш пясьняр, седзючы на вёсцы, жыў толькі вельмі вузкім кругам спраў і інтарэсаў, калі ўся яго псыхіка зьлівалася з псыхікай масы». І другі: жыцьцё ў Вільні, Пецярбурзе, калі «Купала як быў, так і астаўся песьняром вёскі, але — пры гэтым усё ярчэй пачынае выступаць індывідуальнасьць яго».

Адным з найвышэйшых дасягненьняў паэта А. Луцкевіч лічыць паэму «Сон на кургане»: «“Русальчыны песьні” — то чыстая музыка зыкаў. Словы слухаюцца думкі песьняра і пакорна ўкладваюцца так, каб мысьль і форма яе вырашэньня захоўвалі поўную гармонію».

Нягледзячы на вялікую ўвагу крытыка да ўласнапаэтычнай, мастацкай значнасьці твораў Купалы, як яно і мае быць найперш, А. Луцкевіч адзначае выключную ролю паэта ў фармаваньні ідэалогіі беларускага нацыянальнага руху: «Купала — адзін з найбольш яркіх ідэолягаў беларускага адраджэньня, і гэта — яго “сказ новых дзён”... Душа песьняра вывучае той пераварот, які адбываецца ў самай глыбі народных мас». Падводзячы вынікі сваім развагам, А. Луцкевіч зноў-такі ўпэўнена гаворыць: «Хаця творчасьць Купалы толькі нядаўна дайшла свайго расьцьвету, ужо і цяпер трэба зусім шчыра прызнаць, што Я. Купала мае бязспорнае права насіць

імя *беларускага нацыянальнага* песьняра: ён папраўдзі заслужыў на гэта».

А. Луцкевіч адзначае ролю Купалы ў літаратурным станаўленьні беларускай мовы, у словатворчасьці, што ён лічыць «адной з найбольш сур’ёзных заслуг гэтай бязспорна найвялікшай сілы ў беларускай літаратуры», а таксама яго «выдатнае становішча ў грамадзкім жыцьці беларусаў як рэдактара часопіса “Наша Ніва” ў Вільні».

У асобе Цішкі Гартнага ў беларускай літаратуры А. Луцкевіч бачыць «даволі выдатнага прадстаўніка работніцкай ідэалёгіі». Сацыял-дэмакрат па перакананьнях (праграма Беларускай сацыялістычнай грамады, у ЦК якой у свой час уваходзіў А. Луцкевіч, шмат у чым супадала з мэтамі сацыял-дэмакратыі, за выключэньнем нацыянальнага пытаньня, якому БСГоўцы надавалі большую ўвагу, і зямельнага пытаньня, дзе яны арыентаваліся на традыцыі землекарыстаньня на Беларусі), А. Луцкевіч заўсёды сімпатызаваў прадстаўнікам пралетарскага руху ў беларускай культуры. Таму ён так высока цаніў Цішку Гартнага, гэтага, па словах крытыка, «песьняра працы». Прыслухоўваючыся да работніцкай паэзіі Ц. Гартнага, крытык заўважае: «Агульны тон паэзіі яго — жывы, бодры, з рытмам, напамінаючым шыбкіе ўдары молата ці рух гарбарскага скрэбла».

Аддаў А. Луцкевіч належную ўвагу і свайму ўлюбёнаму ў беларускай літаратуры паэту — Максіму Багдановічу.

У артыкуле «Памяць — настаўніца жыцьця» (ЛіМ. 1989. 2 чэрв.) беларускі крытык Уладзімір Калесьнік, характарызуючы А. Луцкевіча, адзначае: «Дзеяч, які па прыродзе быў пераважна здольным чалавекам свабоднай прафесіі ды пакутліва зносіў абавязкі функцыянера. І тым не менш не мог жыць без абавязкаў». У. Калеснік закрануў вельмі важную дылему — дылему свабоды творчай індывідуальнасьці і драматычнай неабходнасьці сьвядомага падпарадкаваньня барацьбе за агульнанацыянальныя ідэалы, хіба што перавялічваючы «пакуты» А. Луцкевіча. Буйнейшыя беларускія мастакі слова даволі лёгка пераносілі такі дуалізм быцьця (за

выключэньнем, можа, С. Палуяна). Постаці Цёткі, А. Гаруна, якія, па словах Ц. Гартнага, трымаюць «у адной руцэ меч, а ў другой пяро», характарызуюць ці не ўсіх прадстаўнікоў беларускай адраджэнскай літаратуры. У А. Луцкевіча гэтыя зьнешнія супрацьлегласьці яшчэ выразьней кідаюцца ў вочы: з аднаго боку — сябра ЦК падпольнай партыі, з другога — апалагет «чыстай красы». Гэтыя два бакі цэльнага, па нашых меркаваньнях, характару А. Луцкевіча якраз і забясьпечвалі яму адчуваньне навізны беларускай адраджэнскай творчасьці ў кантэксьце нацыянальнага руху і цьвёрдую арыентацыю крытыка на каштоўнасьці класічных літаратураў, сусьветных узораў прыгожага пісьменства, што не дае і да сёньня састарэць ягоным крытычным дасьледаваньням.

Творы М. Багдановіча для А. Луцкевіча — «гэта чыстая паэзія, без жаданьня каго-колечы навучаць, без якіх-небудзь староньніх тэндэнцый. Пясьняр самае сваё творчаство ўважае за службу роднаму народу. Выбіраючы беларускія матывы, ён затрымліваецца на іх не затым, што яны — родныя, а затым, што ў іх ёсьць неадкрытыя дагэтуль скарбы хараства». На думку А. Луцкевіча, «агульналюдзкі момэнт» у паэзіі М. Багдановіча прымушае «яго верш гэтаксама гаварыць беларусу, як і чужынцу». М. Багдановіч, заўважае крытык, «мае незвычайна сільнае пачуцьцё красы, гармоніі». Заслугу паэта А. Луцкевіч бачыць у «прысваеньні беларусам новых форм верша». Акрамя ўсяго, адзначае ён, «Багдановіч — першы між беларусамі пясьняр места, каторае дае яму натхненьня не меньш, чым жывая прырода. Між імі на першае мейсцэ выбіваюцца вершы аб адвечнай сталіцы зямлі Беларускай — старой Вільні, каторая зрабіла на песьняра незвычайна сільнае ўражаньне сваімі памятнікамі старыны, чысьленымі высокай красы касьцёламі, вузкімі вулкамі, якія не зьмяніліся ад трохсот гадоў».

У Алаізе з Пашкевічаў Кейрысавай (Цётцы) А. Луцкевіч бачыў асобу, фанатычна захопленую беларускім адраджэньнем. Ён піша: «Для тэй невялічкай жмені людзей, каторыя тварылі беларускую ідэю, справа беларуская станавіла быт-

цам інтэгральную, неадзьдзялімую часьць іх душы». Менавіта беларуская справа і служыла неабходнаю ўмоваю для росквіту паэтычнага таленту Цёткі. Яе жыцьцё нагадвае яму ахвярнае самаспаленьне: «Праз усё сваё жыцьцё Цётка папраўдзі гарэла, і шыбка таялі яе сілы, каторыя так шчодра аддавала беларускай справе. І, шыбаючы ўверх — да сонца і да зор, яна разам чула сваю слабасьць, бязсільнасьць». Моманты ўзьлёту і спаду танальнасьці вершаў Цёткі А. Луцкевіч зьвязвае зь яе грамадскай актыўнасьцю. «Слабасьць і бязсільнасьць» нарастаюць у яе на эміграцыі, і наадварот, Цётка палае, працуючы ў Беларусі, на роднай ніве.

Характэрнай адзнакай для А. Луцкевіча-крытыка зьяўляецца ягоная здольнасьць пераўвасабляцца, аналізуючы творчасьць розных мастакоў слова. Няма, здаецца, у нашай літаратуры нічога вартаснага, што магло б схавацца ад яго добразычлівага, заклапочанага погляду. У гэтым пераконваешся, чытаючы ягоныя радкі пра Канстанцыю Буйла. А. Луцкевіч трактуе паэтку як «маладую, поўную сіл і ахвоты да жыцьця дзяўчыну, каторая глядзіць на сьвет такімі вачыма, як павінна глядзець дзяўчына з гарачым сэрцам і чыстай душой, маючы 18–20 гадоў». К. Буйла ў вачах А. Луцкевіча — супрацьлегласьць Цётцы ў жыцьці. А жыцьцёвы тон, на думку крытыка, адыгрывае вялізную ролю ў станаўленьні творчай асобы. Таму, робіць ён выснову, «і не дзіва, што на першым мейсцы ў яе вершах чуюцца гарачыя словы каханьня, што яна жджэ тэй любові, якую бачыць толькі ў марахснах, якую душою яна прачувае». Тыповай адзнакаю вершаў К. Буйла крытык называе «эратычную інтуіцыю». Менавіта таму «мы маглі бы назваць “песьнямі каханьня” вершы яе, сабраныя ў томіку пад загалоўкам “Курганная кветка”». Гэтыя ж матывы каханьня, любові асьвятляюць усё, да чаго дакранаецца паэтка: «Буйла горача любіць свой край і народ, бо не можа не любіць: каханьнем сагрэта ў яе ўсё, што яна робіць, што піша».

У апошнім артыкуле кніжкі «Нашы песьняры» — пра Зьмітрака Бядулю — крытык разглядае ролю яўрэяў у сусь-

ветнай культуры, дзе яны, нягледзячы на рознасьць культураў, у якіх тварылі, здолелі захаваць сваё аблічча. Беларуская культура здолела прывабіць і інтэграваць у значнай ступені З. Бядулю, гэтага, па словах А. Луцкевіча, «арыгінальнага маладога песьняра». У ягонай творчасьці, лічыць крытык, «перавіваецца беларуская рэчаіснасьць і жыдоўская душа». Апошняя, на думку крытыка, адметная містыцызмам, «чуласьцю... пры гарачым тэмпэрамэнце», а таксама выкарыстаньнем старажытных матываў зь яўрэйскай гісторыі.

Па дзьвюх асноўных прычынах можна вылучыць наступнае дзесяцігодзьдзе з жыцьця А. Луцкевіча-крытыка ў асобны перыяд. У 1929 годзе ў Вільні выйдзе новая кніжка ягонае крытыкі: «Адбітае жыцьцё» з падзагалоўкам: «Лекцыі і стацьці зь беларускае адраджэнскае літаратуры. Кніжка 1», у якую сабраны найбольш значныя, на думку аўтара, артыкулы, напісаныя за гэты час. Акрамя ўсяго, канец 20-х гадоў вызначаецца і рэзкаю зьменаю палітычнай сітуацыі. Калі папярэдняе дзесяцігодзьдзе мела пэўную стабільнасьць і нарастаньне беларускага руху, ідэі нацыянальнага адраджэньня, то канец 20-х гадоў прынёс пагромы нацыянальнай інтэлігенцыі ва Усходняй Беларусі, а таксама масавыя рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі, накіраваныя супраць дэмакратычнага беларускага адраджэнскага руху. Давялося пэўны час пасядзець у Лукішках і А. Луцкевічу.

Усе гэтыя падзеі не маглі не паўплываць на беларускую літаратуру, якую А. Луцкевіч паважаў за «адбітае жыцьцё», «бо ж літэратура наогул, а наша адраджэнская — асабліва, і ёсьць адбітак жыцьця».

Адметнасьць некаторых артыкулаў у «Адбітым жыцьці» — агульнатэарэтычныя развагі аўтара. Ужо ў першым артыкуле «Істота літаратуры і яе грамадзкае значэньне» крытык вядзе гаворку пераважна пра тэорыю літаратуры, пачынаючы ад пачатку чалавечага маўленьня. Усе віды мастацтва, — разважае А. Луцкевіч, — гэта вынік патрэбы самавыяўленьня. Літаратура — гэта самавыяўленьне ў слове, якое мае

мастацкую форму. Слова, на думку крытыка, — найбольшы аб’ектыўны спосаб самавыяўленьня. Ён разглядае ўзаемадачыненьні формы і зьместу, зазнаючы, што галоўным пытаньнем у літаратуры, калі размова заходзіць пра форму, зьяўляецца рытм, «бо-ж і ў творах, пісаных прозай, і ў вершаваных творах бачым зусім натуральны падзел мовы і прыпынкі ў ёй, выкліканыя — з аднаго боку — патрэбай “перавесьці дух”, з другога — біцьцём нашага сэрца. Стуль — разнароднасьць будовы і верша, і сказаў у прозе, залежныя ад нашага ўласнага ўзварушэньня, ад тэмпу, шыбкасьці біцьця сэрца і дыханьня».

Найістотнейшым у мастацкім творы А. Луцкевіч лічыць прыгажосьць, красу: «Краса ў творах мастацтва — гэта і ёсьць тое, што дае нам духовае ўзварушэньне — так званую эстэтычную эмоцыю». Разглядаючы адрозьненьні паміж прозаю і паэзіяй, празаікамі і паэтамі, А. Луцкевіч прызнае за апошнімі надзвычайную ролю ў жыцьці нацыі: «Вялікія паэты — гэта правадыры, прарокі народаў, уяўляючыя сабе шляхі да лепшае будучыні лягчэй, чым кожны звычайны чалавек, маючыя ў сваім творстве элемэнт *прадбачаньня, яснавідства*». Літаратура ж, паводле перакананьня А. Луцкевіча, «гэта найлепшы праваднік новых ідэй і поступу ў народную гушчу».

Крытык прапануе сваю перыядызацыю беларускай літаратуры, падзяляючы яе на дзьве часткі: «Ад пачатку пісьменства да канца XVIII ст.» і «Пэрыяд Адраджэньня (XIX—XX стст.)».

У наступным артыкуле «Эволюцыя беларускае адраджэнскае ідэолёгіі і адбіцьцё яе ў літаратуры» А. Луцкевіч разглядае шляхі разьвіцьця нацыянальнага самаўсьведамленьня беларусаў ад пачатку XIX стагодзьдзя да рэвалюцыі.

Рамантызм пачатку XIX стагодзьдзя аб’ектыўна зварочваў погляды творцаў на мінуўшчыну свайго народа. Але прыналежнасьць пісьменьнікаў да шляхты, якая і па нацыянальнай сьвядомасьці ўжо шмат у чым адрозьнівалася ад беларускага сялянства, прывяла да таго, лічыць А. Луц-



Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў

кевіч, што «літаратура XIX стагодзьдзя страшэнна бедная па сваёй ідэолёгіі». А. Луцкевіч тлумачыць такое становішча ў беларускай літаратуры агульным становішчам у грамадстве, дзе «шляхта баіцца актыўнасьці масы». І толькі «лірнік вясковы» У. Сыракомля ды К. Каліноўскі ў сваіх творах, на думку крытыка, «сялянства хочуць бачыць як актыўную масу».

Наступны крок у разьвіцьці нацыянальнай ідэалогіі зроблены народнікамі (Ф. Багушэвіч, Я. Лучына і інш.): «На патрыятызм абапіраюцца нашы народнікі, але іх нацыянальны ідэал — дужа вузкі, аднабокі: усё зводзіцца да культу роднае мовы, — “каб не ўмёрлі”». І толькі новая адраджэнская плынь прыводзіць творцаў да разуменьня і асэнсаваньня імі ў літаратуры ідэі нацыянальнай незалежнасьці як перадумовы натуральнага разьвіцьця нацыі: «Ад дамаганьня звычайнага мясцовага самаўрадованьня, палітычны ідэал беларускіх адраджэнцаў... праходзе праз фазы аўтанамізму, фэдэралізму і ўрэшце — дзяржаўнае незалежнасьці».

У артыкуле пра Я. Коласа крытык называе «Новую зямлю» «цудоўнай паэмаю», у якой Колас «даў запраўднае і поўнае — да канца — выяўленьне беларускае сялянскае душы».

Жыцьцёваму і творчаму шляху Я. Купалы прысьвечаны артыкул А. Луцкевіча «Напевы ліры Янкі Купалы». Працягваючы ранейшыя развагі аб значэньні творчасьці Я. Купалы ў жыцьці беларускай нацыі, А. Луцкевіч прыходзіць да высновы, што ў пасьлярэвалюцыйных вершах Янка Купала — «прарок свайго народа, прарок перамогі ідэі Адраджэньня».

Гэты артыкул пісаўся А. Луцкевічам у студзені 1929 года. Хутка пачаліся жудасныя часы, і таму з горкім пачуцьцём чытаюцца сёньня радкі крытыка: «І жыцьцёвы, і пясьнярскі шлях Купалы вызначыўся ўжо хіба да канца. Трудна спадзявацца ад яго нечага нечаканага, што з сучасным духоўным воблікам Купалы магло б аказацца ў супярэчнасьці, бо тое, да чаго ён сягоньня дайшоў, гэта ж вытвар больш як 20-гадовае эволюцыі Купалы. Зь вясковага хлапца вырас вялікі паэта — волат слова, вырас павадыр свайго народу». У творчасьці Купалы А. Луцкевіч выдзяляе агульначалавечы момант, праз што паэт размаўляе не толькі са сваім народам, але і зь іншымі: «Усё нашае нацыянальнае сілай творчага таленту свайго Купала падымае на вышыню агульналюдзкага разуменьня, знаходзячы ў ім і адбіраючы цэннасьці агульналюдзкае вагі». А. Луцкевіч спрабуе вызначыць каштоўнасьці, якія аб’ядноўваюць розныя народы, і спыняецца

на прыгажосьці: «Краса — той супольны язык народаў, які іх зьвязвае ў вадну сям'ю. І гэтым языком прамовіў Купала на ўвесь сьвет — ад імя беларускага народу».

Наступны артыкул — «Максім Багдановіч» з падзагалоўкам «У дзясятыя ўгодкі сьмерці Яго» — істотна дапаўняе сказанае крытыкам пра М. Багдановіча раней. «Багдановіч — паэта палутонаў... Яго ролю ў беларускай паэзіі можна прыраўнаваць да ролі таго, хто ўвёў у музыку паўтоны, хто на іх збудаваў новую гармонію». Асабліва імпанавала крытыку праца М. Багдановіча над словам: «Багдановіч — вялікі вучыцель: ён паказаў, як, маючы ў душы іскру божую, можна выказаць роднай мовай усё, што перажывае, што адчувае не толькі "народ просты", але і інтэлігент эўропэйскага тыпу». А. Луцкевіч разьвівае выказаныя ім у артыкуле пра Янку Купалу меркаваньні наконт суадносінаў нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, больш выразна акрэсьлівае іх узаемасувязь у мастацтве: «Нацыянальнае стаецца агульналюдзкім праз укрытую ў ім чыстую красу». І таму «пясьняр чыстай красы» мае вялізнае значэньне для беларусаў, бо, «выкрываючы вечную, неўміручую красу ў нашым родным, беларускім, Багдановіч уводзіць нас у сям'ю культурных народаў з большай пэўнасьцю, чымся тыя, хто піша вялікія трактаты аб нашым праве на гэта».

Магутны эстэтычны пачатак паэзіі М. Багдановіча прыцягвае ўвагу А. Луцкевіча. Ягонаму разгляду крытык прысьвячае артыкул «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча». Пачынаючы з аналізу інстынкту размнажэньня, які ў чалавека стасуецца зь невядомым жывёльнаму сьвету пачуцьцём — каханьнем, А. Луцкевіч дае сваё вызначэньне прыгажосьці: «Краса — стымул для любві».

Праблема прыгажосьці ў М. Багдановіча, на думку А. Луцкевіча, разглядаецца ў творах «Апокрыф», «У вёсцы», «Музыка», дзе М. Багдановіч сьцьвярджае духоўную сутнасьць красы, яе бескарысьлівасьць. Аналізуюцца ўзаемадачыненьні грамадскага і эстэтычнага пачаткаў у мастацкім творы. Крытык лічыць, што «грамадзкія матывы, заклікі, ідэалы мо-

гуць складаць *зьмест* мастацкага творства, могуць служыць магутным *пабуджэньнем* да тварэньня, але не могуць дыктаваць сваіх законаў красе».

Артыкул А. Луцкевіча «Ідэолёг народнае інтэлігенцыі» прысьвечаны М. Гарэцкаму, якога ён лічыць «найглыбейшым з ідэолёгаў беларускае адраджэнскае народнае інтэлігенцыі». А. Луцкевіч паважае М. Гарэцкага за «натуру абдораную, чуткую і адзыўчывую на ўсё, што робіцца навакол». Менавіта гэтым ён тлумачыць няспынныя пошукі пісьменьнікам свайго ідэалу: «Гарэцкі асабліва востра перажывае і шуканьне грамадзкага ідэалу, і захапленьне агульналюдзкімі пытаньнямі і містычнымі настроямі, і ўрэшце даходзіць да яснага нацыянальнага ідэалу». А. Луцкевіч сьцісла абмалёўвае дыялектыку разьвіцьця нацыянальных поглядаў М. Гарэцкага: «Праходзячы ўсе этапы культурнага росту (ад несьвядомай абароны беларускага да сьвядомага служэньня), Гарэцкі разам з тым перажыў і ўсе этапы разьвіцьця беларускае ідэі». Асноўным у жыцьці пісьменьніка, заўважае А. Луцкевіч, становіцца беларуская справа, «для якой жыве і працуе сам Гарэцкі, якой шчыра аддае свае сілы, свае здольнасьці, свой талент». Перад намі паўстае вобраз трохі нечаканага Максіма Гарэцкага — фанатыка беларускай справы: «Беларуская нацыянальная справа, справа нацыянальнага адраджэньня беларускага народа — гэта найвышэйшы дагмат грамадзкае рэлігіі Гарэцкага», што, безумоўна, накладала моцны адбітак на ягоную творчасьць. Разглядаючы аповесьць М. Гарэцкага «Дзьве душы», А. Луцкевіч у першую чаргу адзначае, што аповесьць «раскрывае духоўнае хараство барцоў за беларускую нацыянальную ідэю».

А. Луцкевіч падтрымлівае М. Гарэцкага ў яго жаданьні сінтэзаваць духоўнае і нацыянальнае, бачачы менавіта гэты шлях персьпектыўным для адраджэньня беларускага народа: «Безумоўна, да “новага чалавека” дарога йдзе праз паглыбленьне свайго духовага Я, праз узбагачэньне сваёй душы. А з скарбаў ДУХА калі не нарадзіўся, дык народзіцца і шуканы

Гарэцкім, дый не адным толькі ім, запраўды новы “чалавек-беларус”».

Артыкул «На новых шляхох» пачынаецца зь літаратуразнаўчых развагаў пра суадносіны формы і зьместу, пра значэньне формаў у літаратурнай творчасьці ў гісторыі культуры народаў. А. Луцкевіч падхоплівае і разьвівае Багдановічаву ідэю паскоранага разьвіцьця беларускай літаратуры. Ён робіць назіраньні за разьвіцьцём рытмікі, формы ў беларускай паэзіі XIX–XX стагодзьдзяў, прызнаючы вучобу яе на сусьветных узорах. А. Луцкевіч адзначае ўплыў экспрэсіянізму на пасьлярэвалюцыйную паэзію Я. Коласа і ў яшчэ большай ступені — на паэзію М. Багдановіча і Я. Купалы: «Гэта ўсё людзі, узгадаваныя агульнаэўрапэйскай культурай». У паэзіі Я. Купалы і М. Багдановіча ён знаходзіць уплывы сімвалізму, футурызму і спрабуе вызначыць новыя матывы і формы ў маладых беларускіх паэтаў на прыкладзе зборнікаў У. Дубоўкі «Строма», У. Жылкі «Уяўленьне» і М. Чарота «Босыя на вогнішчы». Вось адна зь яго кароткіх і ёмістых характарыстык: «Уладзімір Жылка ў “Уяўленьні” адтварае псіхолёгічны бок нацыянальнае рэвалюцыі».

«Пад сінім небам» — артыкул з падзагалоўкам «Характарыстыка творчасьці Натальлі Арсеньневай». Яе першая кніжка вершаў «Пад сінім небам» (Вільня, 1927), піша А. Луцкевіч, — «край, такі далёкі ад усяе нашае сучаснасьці зь яе цывілізацыйнымі завяваньнямі, край фантазіі і хараства, дзе пануе непадзельна музыка гукаў». Гэта, адзначае крытык, — «першы варунак, першая і найбольш істотная адзнака запраўднае паэзіі».

А. Луцкевіч выдзяляе ў заходнебеларускай літаратуры тры ідэалагічныя кірункі: «нашаніўскі», «барацьбяны», «шуканьне красы хараства». Н. Арсеньнева, на яго думку, належыць да трэцяга. Паэтка «чуткая на боль і пакуту нашага гаротнага народа». Шукаючы адпаведнага вызначэньня яе паэзіі, А. Луцкевіч пераходзіць на мову вобразаў і параўнаньняў: «Яе творы — гэта запраўды быццам тыя сіненькія

васілёчкі пад нашым сінім небам — сярод жыта, узрашчонага цяжкай працай і барацьбой селяніна».

Палітычныя, грамадскія, эстэтычныя погляды арыгінальнага крытыка заўсёды знаходзяць адбітак у ягонай працы. Гэта адзін з найважнейшых кампанентаў, які робіць крытыку раўнапраўным жанрам літаратуры. Вялікае значэньне адыгрывае талент, інтуіцыя крытыка, якія дазваляюць яму рабіць пераканаўчыя абагульненьні, весьці чытача за сваёй думкаю. Ад інтуіцыі крытыка, ягонай здольнасьці прадбачаньня залежыць доўгатрываласьць ягонай працы.

А. Луцкевіч, безумоўна, належыць да ліку арыгінальных, канцэптуальных крытыкаў. Але, на наш погляд, суб'ектывізм крытыка праявіўся ў артыкуле «Бунт проці Бога». Разгледзеўшы «бунт проці Бога» ў творах К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы (не «заўважыўшы» на тое, што К. Каліноўскі прапагандаваў унію, Ф. Багушэвіч пісаў у акрэсьлена каталіцкай традыцыі, а Я. Купала прычыніўся да выданьня каталіцкай літаратуры па-беларуску), А. Луцкевіч знаходзіць «бунт» і ў вершах паэта-ксяндза К. Сваяка: «Праглядаючы томік яго вершаў "Мая ліра", выданы Беларускім выдавецкім таварыствам у 1924 годзе ў Вільні, мы бачым усюды "крык роспачы душы збалелай, з мук ашалелай", бачым страшэнную духовую драму паэты-ксяндза, утраціўшага веру ў Найвышэйшую Справядлівасьць». К. Сваяк, мяркуе крытык, «з рук Божага Даўцы» ўжо не чакае «збаўленьня з долі апляванай», бо «збаўленьне» гэтае вымагае барацьбы! А барацьба ў лагічным ланцужку развагаў А. Луцкевіча супярэчыць веры ў Бога, сутнасьцю якой, паводле крытыка, зьяўляецца наканаванасьць.

Кантрасным вобразам ксяндза-бунтара, які падняў руку на самае сьвятое, А. Луцкевіч, вядома, прыцягнуў вялікую ўвагу і да творчасьці паэта, і да яго па-мастацку трагічнай асобы. Але ж ці быў гэты разлад на самай справе? Сам К. Сваяк быў апанаваны ідэяй хрысьціянскай гуманізацыі народнага руху, таго, што А. Луцкевіч называе «барацьбою»: «Мы павінны дайсьці да высновы, што калі адкінем хрысьціян-

ства ад руху нашага народнага, то ён, гэты рух, расплывецца ў золкай міжнароднасьці і этычнай разьвязьлівасьці», — пісаў К. Сваяк у дзёньніку. Беларускі ксёндз-паэт з гонарам выконваў гэтую вызначаную сабе місію, не супрацьпастаўляючы народную барацьбу і веру ў Бога: «Аддаючыся найбліжэйшым братам маім, я хачу споўніць Волю Тваю, шукаць праўды і несьці знайдзеную другім».

У жыцьці самога А. Луцкевіча супярэчлівасьці паміж перакананьнямі і дзеяньнямі ў адносінах з рэлігіяй былі ці не большымі за тыя, што ён убачыў у К. Сваяка. З аднаго боку, атэістычны сьветапогляд і калі не задавальненьне, дык, прынамсі, спакойны тон у апісаньнях змаганьня з царквою ў Савецкай Беларусі, а з другога боку — актыўны ўдзел у перакладзе Новага Запавету на беларускую мову, які і да сёньня лічыцца адным з найбольш удалых перакладаў Бібліі па-беларуску (чацьвёртае выданьне выйшла ў Таронта ў 1991 годзе).

Адзін з тэматычных артыкулаў А. Луцкевіча — «Вільня ў беларускай літаратуры». Жыцьцё горада, адзначае А. Луцкевіч, займае невялікае месца ў беларускай літаратуры, за выключэньнем хіба Вільні, якая мае захаваную, як нідзе, шматвяковую гісторыю, помнікі, адметную душу. У кожнага зь беларускіх творцаў, заўважае крытык, ёсьць свая Вільня. У Я. Коласа і М. Багдановіча — сучасная Вільня, у Багдановіча ў «Пагоні» і ў Купалы ў «Замкавай гары» — Вільня мінулая. Для Зьмітрака Бядулі — гэта «сьвятое мейсца». Леапольд Родзевіч ставіць яе ў адзін шэраг з найбольш выдатнымі, па яго меркаваньні, зьявамі ў беларускім адраджэньні: «Беларусь — Вільня — Скарына — «Наша Ніва» — Луцкевіч (Іван, брат Антона Луцкевіча. — ***А. Б.***) стаяць неразьдзельна, шчыльна». Цікавыя адносіны У. Жылкі да Вільні. Як заўважае А. Луцкевіч, «Меккай выдаецца нашаму песьняру тая Вільня, зь якое сёньня беларуская ідэя аказалася прымушанай уцячы ў Медыну — Менск». І — верыць глыбока Жылка — яна, гэтая ідэя, як некалі Магамэт у Мекку, вернецца зноў у Вільню ўва ўсёй сваёй велічы і славе, і залу-

нае тады над адвечным месцам «пракрокавы сьцяг». Ірацыянальнымі здаюцца такія прадбачаньні, але «Нішто вечным лічыцца тут не можа...». Варта згадаць яшчэ эпіграф, які ўзяў да свайго артыкула А. Луцкевіч з паэзіі У. Жылкі: «О месца роднае, каханае! Цябе залье крывіцкі рух!»

Апошні артыкул у кнізе А. Луцкевіча «Жыдоўскае пытаньне ў нашым пісьменстве» закранае як адносіны паміж беларусамі і яўрэямі, так і адлюстраваньне гэтых адносінаў у творчасьці беларускіх пісьменьнікаў. А. Луцкевіч адзначае, што «беларускі адраджэнскі рух — гэта рух шчыра дэмакратычны, і ўжо з гэтае прычыны ў ім нямашака месца для нацыянальнага шавінізму, для нацыянальнае нянавісьці». Гэтым жа, піша А. Луцкевіч, вылучаліся і адносіны беларускага народа да яўрэяў: «Жывучы на адной зямлі на працягу некалькіх сот лет, беларусы ў адносінах да жыдоў мелі магчымасьць вытварыць зусім ясны пагляд, абапёрты на жыцьцёвай практыцы і на нашай нацыянальнай псыхолёгіі». Але, удакладняе крытык, гэтыя адносіны не да ўсіх яўрэяў былі менавіта такімі: «Стаўшыя неадзьдзялімай, інтэгральнай часткай нашае Бацькаўшчыны, жыды, аднак, выдавалі спаміж сябе і элемэнты благія, эксплёататарскія, бязбожна карыстаўшыя з народнай цемнаты дзеля свае матэрыяльнай карысьці». Менавіта такі вобраз яўрэя, заўважае А. Луцкевіч, з пункту гледжаньня эканамічнага, а не нацыянальнага, паказаны ў асноўным у творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны, Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш. Беларускія адраджэнцы «ўсімі сіламі змагаліся зь дзікім, агідным пасевам антысэмітызму і з пагромнай агітацыяй». Палітыку раўнапраўя нацыяў, заўважае крытык, праводзіла кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі: «калі пачалося беларускае дзяржаўнае будаўніцтва, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі забясьпечыла жыдоўскаму народу ўсе нацыянальныя і грамадзкія правы ў Беларусі і паклікала жыдоў да супольнае дзяржаўнае працы».

У 20-я гады ў А. Луцкевіча выходзіць шмат асобных крытычных артыкулаў і рэцэнзіяў, сярод якіх варта вызна-

чыць «Сымона-музыку», рэцэнзіі на «Гісторыю беларускае літаратуры» М. Гарэцкага, «Безназоўнае» Я. Купалы, памяці І. Канчэўскага, прысьвечаныя творчасьці В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Дубоўкі, Ф. Аляхновіча, Ядвігіна Ш., К. Сваяка і інш. Асобнай брашураю выйшаў артыкул «Пуцяводныя ідэі беларускай літаратуры» (Вільня, 1921), дзе А. Луцкевіч разглядае ідэалогію беларускай літаратуры ад канца XIX да пачатку XX стагодзьдзя. Істотныя тут высновы крытыка наконт нацыянальнага характару беларускай літаратуры і ідэалаў беларускіх пісьменьнікаў XIX ст.: «Нацыянальнага элемэнту ў беларускім разуменьні ня бачым яшчэ ані ў дэмакратаў, ані тым больш у шляхоцкіх пісьменьнікаў. Няма гэтакага сьвядомага нацыянальнага ідэалу ў іх і адносна да мовы беларускай, у якой усе яны пішуць: пішуць яны па-беларуску, бо народ так гаворыць!»

Толькі з прыходам у літаратуру Ф. Багушэвіча «паэзія абдымае і элемент сьвядома нацыянальны». А. Луцкевіч так ацэньвае заслугі Ф. Багушэвіча ў разьвіцьці беларускай ідэалёгіі: «Ён першы разьвярнуў у сваіх творах цэлую шырокую праграму, паставіўшы сабе галоўнымі мэтамі: прабуджэньне ў мужыка самапашаны, пачуцьця сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасьці і вартасьці. Бо ён першы абвяшчае самацэннасьць нацыянальнасьці і мовы беларускай і па гэтай дарозе ідзе доўгі сьцяг яго духовых насьледнікаў — і ўсе тыя беларускія дзеячы, што паклалі падваліны сучаснага адраджэнскага руху, кшталтавалі сваю ідэалёгію па ідэалах і лёзунгах Мацея Бурачка».

У сучаснай літаратуры, як лічыць А. Луцкевіч, найбольш прыкметная асоба — Янка Купала: «У асобе Купалы найбольш поўна выявіліся ўсе тыя думкі і ідэалы, якія твораць працэс адраджэньня нашага народа». Беларуская літаратура, паводле Луцкевіча, ёсьць «частка сусьветнага творства».

Даволі плённымі для А. Луцкевіча-крытыка зьяўляюцца 30-я гады. У 1932 годзе выходзіць ягоная брашура «Янка Купала як Прарок Адраджэньня», якая ўяўляла сабою лекцыю, чытаную крытыкам у Вільні, Рызе і Дзьвінску «ў 50-я

ўгодкі нарадзін паэта». Гаворачы пра Купалу, А. Луцкевіч параўноўвае яго з Пушкіным у рускай літаратуры, Міцкевічам у польскай, Шаўчэнкам ва ўкраінскай. У творчасьці Я. Купала «ўвесь аддаецца ідэі ўсебаковага адраджэньня й вызваленьня працоўнага народа і дае сінтэз змаганьня нацыянальнага і сацыяльнага — сінтэз, які характарызуе творчасьць Купалы ад пачатку да канца». А. Луцкевіч шукае падставы, якія дазвалялі Купалу выступаць вешчуном беларускага адраджэньня: «Каб нешта прарочыць... дзеля гэтага трэба было крэпка верыць у сваю ідэю, трэба было мець і нейкія аб'ектыўныя падставы для такое веры. І Купала знайшоў гэтыя падставы — у слаўнай мінуўшчыне свайго народа».

Гэта тыповы шлях беларускіх адраджэнцаў — вера ў будучыню, якая абапіралася на славутую мінуўшчыну беларусаў. Усё беларускае асяродзьдзе, што акаляла паэта, захаплялася гісторыяй свайго народа і здолела прышчапіць гэтае захапленьне Купалу. У паэме Я. Купалы «На Куцьцю», на думку А. Луцкевіча, найбольш поўна выказваюцца адносіны паэта да мінуўшчыны, сучаснасьці і будучыні беларускай ідэі. Купала спрабуе выявіць прычыны заняпаду нацыі і бачыць іх як у навязваньні беларусам чужой волі, так і ў сацыяльным прыгнёце народа. Але, выразна адчуваючы атмасферу здрадніцтва, адступніцтва, дзе гінуць лепшыя (што ён паказаў у паэме «Сон на кургане»), паэт у той жа час верыў у няўхільную эвалюцыю грамадства: «Купала не толькі клікаў свой народ да адраджэньня, да барацьбы, але й прадбачыў будучыну, прадбачыў трыумф беларускае адраджэнскае ідэі, трыумф беларускіх працоўных масаў».

Менавіта ў гэтай здольнасьці прадбачаньня і заключаецца вяшчунства Купалы, робіць выснову А. Луцкевіч, «бо і Вялікую Рэвалюцыю ў Расеі, і сацыяльны пераварот, і стварэньне ўлады працоўных, і той магутны ўздым беларускіх масаў пад незалежніцкім сьцягам, які знайшоў найбольш яркае сваё выяўленьне ў Усебеларускім Кангрэсе ў Менску ў канцы 1917 года, — усё гэта вешчым духам сваім напрарочыў Купала».

А. Луцкевіч спрабуе асэнсаваць сёньняшні дзень у жыцьці «прарока адраджэньня», ягоную творчасьць у сьвеце рэалізацыі ідэй і з сумам адзначае: «Ды і, мусіць, сьняцца Купале абразы поўнага зьдзяйсьненьня яго ідэалу Адраджэньня, — зьдзяйсьненьня да канца. Але на паперу яны ўжо не выліваюцца і — здаецца — не выльюцца».

А. Луцкевіч спадзяваўся, што гэтыя ідэалы «дасьпявае хіба новае, маладое пакаленьне песьняроў беларускіх, аб якіх маем поўнае права сказаць, што яны ўсе — у большай ці меншай меры — духоўныя дзеці Янкі Купалы. Слова за імі!» На жаль, гістарычныя абставіны ў Савецкай Беларусі пачалі крута мяняцца, і духоўная спадчына Я. Купалы была зьнявечана разам зь яе носьбітамі. Астатнія ж мусілі тварыць у манеры «сацыялістычнага рэалізму».

Ноткі суму і разгубленасьці ў юбілейнай лекцыі ў дачыненьні да Купалы набываюць пэўнае акрэсьленьне ў артыкуле «Ян Луцэвіч — Янка Купала» (Беларускі звон. 1932. 30 ліп.), гэтаксама прысьвечаны 50-м угодкам з дня нараджэньня паэта. А. Луцкевіч вылучае «тры мамэнты ў жыцьці Беларусі», якія адбіліся на творчасьці паэта: «мамэнт велізарнага нацыянальнага ўздыму», «мамэнт тварэньня новага сацыяльнага ладу на беларускай зямлі» і «мамэнт не радасьці, а жаху, мамэнт, калі па загаду чырвонае Масквы — ад імя тае ж сялянска-работніцкае ўлады — пачалося таптаньне і нішчэньне ўсяго, што было цэнным і сьвятым для Купалы. Гэта — вядомая процібеларуская акцыя ў Савецкай Беларусі, знайшоўшая свой водгук і ў Заходняй Беларусі, — акцыя, закончаная разгромам беларускай інтэлігенцыі, арыштам некалькіх сотняў найвыдатнейшых беларускіх культурных працаўнікоў у БССР». «Разборы» не абмінулі і Купалу, адзначае А. Луцкевіч: «І вось пачаўся і чыста інквізітарскі націск на Купалу, каб ён “пакаяўся” ў сваіх “нацыяналістычных грахох” і адрокся ад сваёй нацыянальнае ідэалогіі. Купала мужна адбіваў гэты націск, але ўрэшце, бачачы, як паддаюцца вонкавай сіле другія, паддаўся ёй і ён, апошні». Акт спробы самагубства Купалы, на думку А. Луцкевіча,

быў актам пратэсту супраць навязанага тэрору. Менавіта празь яго Купала «сьцьвердзіў сваю духоўную веліч не толькі як паэта, але і як грамадзянін».

Праз два з паловаю месяцы, 19 лістапада 1932 года, у гэтай самай газеце зьявіцца артыкул А. Луцкевіча «50-лецьце Якуба Коласа», дзе крытык ацэньвае вялізны ўклад Я. Коласа ў беларускую літаратуру, не забыўшыся дадаць: «Праўда, пэўне і шмат цяжкага прыйшлося перажыць за апошнія гады Я. Коласу, гледзячы, як сталінскія агенты пачалі паход проці беларускай культуры й беларускага народа, зьнішчажаючы і разганяючы па ўсёй Расеі беларускую інтэлігенцыю... Новы курс Сталіна, — з горыччу піша крытык, — прыглушыў і ліру Коласа, але — не заглушыў».

А. Луцкевічам, як наспрактыкаваным палітыкам, даецца дакладная характарыстыка грамадска-палітычнай сітуацыі ў Савецкай Беларусі. І гэта падчас ружовых ілюзіяў, якія ахапілі некаторых тагачасных вядомых еўрапейскіх пісьменьнікаў што да падзеяў у Савецкім Саюзе, падчас захапленьня значнай часткі заходнебеларускай моладзі «сацыялістычнымі пераўтварэньнямі ў БССР». А. Луцкевіча не напалохала магчымасьць падвергнуцца крытыцы ці нават і гвалту з-за крытыкі Сталіна. Хаця раней, падчас «беларусізацыі» ва Усходняй Беларусі ягоныя ацэнкі ўсходнебеларускіх падзеяў былі даволі станоўчымі. Захаваць цьвярозую галаву А. Луцкевічу дапамаглі крытэрыі, якімі ён кіраваўся ўсё сваё жыцьцё, — наколькі тое, што адбываецца, адпавядае агульначалавечым гуманным прынцыпам справядлівасьці і наколькі яно спрыяе беларускаму нацыянальнаму адраджэньню.

Таксама юбілейным, па сутнасьці, зьяўляўся артыкул А. Луцкевіча «Крытычныя моманты ў жыцьці Купалы і Коласа — паводле іх твораў», надрукаваны ў часопісе «Новая варта» (1932. № 2–3). Аналізуючы дарэвалюцыйныя вершы Купалы, А. Луцкевіч знаходзіць вытокі песімізму паэта, ягонага «сусьветнага суму». Я. Колас, заўважае крытык, сумуе ў астрозе, але «дух яго крэпкі». Крытычны момант, лічыць ён, у творчасьці Коласа настае пасьля рэвалюцыі, па вяр-

таньні на Бацькаўшчыну ў 1921 годзе, калі Колас, абглядаючыся ў вёсцы, піша: «Кавалі другія, а ланцуг той самы».

Найвялікшы крызіс у Купалы, мяркуе А. Луцкевіч, настае ў час пагрому беларускай інтэлігенцыі ў канцы 20-х гадоў. Пасьля замаху на жыцьцё і пакаяньня, адзначае крытык, «тая іскра Божая, якая так цудоўна зьзяла ў душы паэты, тухне з дня на дзень, і Купала ўжо нічога новага ня творыць».

Я. Колас у канцы 20-х гадоў, на думку крытыка, таксама перажывае творчы крызіс: «Гэты найярчэйшы ідэолёг беларускага сялянства зь яго векавечнай цягай да ўласнае зямлі піша цяпер апавяданьні, асуджаючыя гэтае імкненьне беларускага сялянства да самастойнага варштату працы — сваёй зямлі, а за тое ўслаўляе «калгасы», шляхам гвалтаў і тэрору накіненыя нашай вёсцы... Ці здолее паэта стварыць у сваёй душы такі ж яркі і красачны “новы сьвет”, як гэны “стары”, што адбіўся ў “Новай зямлі”?»

Азіраючы палетак беларускай паэзіі ў Савецкай Беларусі, А. Луцкевіч робіць несуцешныя высновы: «А старая “нацыянал-дэмакратычная” паэзія — разьбітая, раздаўленая ботамі агентаў ГПУ, абплёваная самімі сваімі “каючыміся” тварцамі — паступова замаўкае». Ён спрабуе зірнуць наперад і прарочыць: «А тым часам гараскопы беларускай паэзіі ў БССР наогул невясёлыя. Яна перажывае вельмі цяжкі крызіс». Ды А. Луцкевіч не губляе надзеі і верыць усё ж такі ў жыцьцяздольнасьць беларускай паэзіі, падводзячы пад сваю веру тэзу адвечнага імкненьня чалавека да прыгожага: «Чалавек без паэзіі ніяк жыць ня можа і будзе далей тварыць яе, будзе шукаць красы і харастве нават у варунках глыбокага паняволеньня ягонае індывідуальнасьці і свабоднае творчасьці. Цяжкі бот агентаў ГПУ роўна прыдавіў гэтую цудоўную краску чалавечае творчасьці (паэзію) на ўсім абшары дасягаемасьці».

У гэты самы час Я. Купала мусіў зьмясьціць ліст у «Савецкай Беларусі», дзе ён пісаў: «Беларускія нацыянал-фашысты, робячы справу польскага і сусьветнага імпэрыяліз-

му, стараюцца выкарыстаць і мой пяцідзесяцігадовы юбілей для сваіх агідных правакацыйных мэт. Яны распаўсюджваюць чуткі, што нібыта бальшавікі прымушалі мяне пісаць, як пішу я цяпер. Я з абурэньнем адкідаю гэтую фашыстоўскую хлусьню і ўсякія плёткі аб тым, што я калі-небудзь быў праціўнікам Камуністычнае партыі і Савецкае ўлады. Я пратэстую супраць юбілейнага фарсу, які наладжваюць у мой гонар тыя, чые рукі ў крыві працоўных Заходняй Беларусі... Ганьбячы здрадніцкую работу нацыянал-фашызму, я заяўляю, што адзіны шлях да канчатковага вызваленьня працоўных мас — ёсьць шлях камунізма».

У наступным, 1933 годзе А. Луцкевіч выдае асобнаю брашураю чарговы рэтрасьпектыўны агляд беларускай паэзіі «Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі».

Пачынаючы ад драматычнай паэзіі Я. Баршчэўскага (пачатак XIX стагодзьдзя), А. Луцкевіч спыняецца на вершы П. Багрыма, адзначаючы ягонае зьнітаваньне з фальклёрам, на «Энеідзе», як ужо цалкам «сьвядомым творстве». Этапам у разьвіцьці беларускай літаратуры крытык лічыць творчасьць В. Дуніна-Марцінкевіча, які «пакідае нам запраўдную спадчыну ў беларускай мове».

А. Луцкевіч выдзяляе рамантычныя, неарамантычныя ўплывы ў беларускай літаратуры, адзначаючы, што «натуралізм (сёньняшняй тэрміналогіяй — рэалізм. — ***А. Б.***) і рамантычны ідэалізм ідуць у нас поплеч, перамешваючыся».

Да народніцка-натуралістычнага кірунку А. Луцкевіч адносіць Ф. Багушэвіча, Я. Лучыну, А. Гурыновіча, К. Каганца, Ядвігіна Ш., Цётку.

Новым важным крокам наперад у беларускай літаратуры А. Луцкевіч лічыць нашаніўскі перыяд. «Наша Ніва», на ягоны погляд, — «літаратурная школа, фармулявала ідэолёгію беларускіх адраджэнцаў». У сваю чаргу літаратурны нашаніўскі рух «злучаў маладых аўтараў на грунце адраджэнскае ідэолёгіі».

А. Луцкевіч дае характарыстыку Я. Купалу, заўважаючы, між іншым, што «яго нацыянальная ідэолёгія поўнась-

цю грунтуецца на высокагуманітарных падставах». Купала, на яго погляд, — «тыповы нэарамантык».

Я. Колас прадстаўляе «вышэйшую форму народніцка-натуралістычнага цячэньня». У Ц. Гартнага крытык вылучае «пралетарскі кірунак». Схільныя да містыцызму А. Гарун, З. Бядуля, М. Гарэцкі, на думку А. Луцкевіча, шукаюць у містыцы адказы на жыцьцёвыя пытаньні. М. Багдановіч, прадстаўнік «эстэтызму», «удумчывы і тонкі цаніцель красы, далёкі ад разьвіваўшайся на Бацькаўшчыне палітычнае барацьбы, сваё служэньне беларускаму народу бачыць у тварэньні высокамастацкіх цэннасьцей у беларускай мове». У цэлым жа, лічыць А. Луцкевіч, «найбольш характэрнай рысай беларускае адраджэнскае паэзіі ёсьць яе рацыяналізм».

Цікавы погляд А. Луцкевіча на разьвіцьцё літаратурнага працэсу ва Усходняй Беларусі, у прыватнасьці на лёс аб’яднаньняў «Маладняк» і «Узвышша»: «У аснову сваёй дзейнасьці “Маладняк” паклаў гэткі прынцып: зрабіць літаратуру сродкам прапаганды на карысьць рэвалюцыйнай улады і замацаваньня новага сацыяльнага ладу. Пры аднароднасьці ідэолёгіі сяброў “Маладняка” гэтае заданьне і мусіла б выпаўняцца зусім натуральна, самахоць, — асабліва прымаючы пад увагу агульны ўздым настрояў у рэвалюцыянэраўпераможнікаў. Аднак на дзеле выйшла інакш: “маладнякоўская” асацыяцыя аказалася цалкам падпарадкаванай камуністычнай партыі і камсамолу, і апошнія, не задавольваючыся ідэйным кіраўніцтвам, выявілі імкненьне ператварыць “Маладняк” у свайго роду рамесьніцкі цэх, прабуючы вырашыць пытаньні чыста мастацкага характару, у якіх ні партыя, ні камсамол не былі кампетэнтнымі. Гэта выклікала ўнутраны разброд сярод асацыяцыі». Такім чынам, вылучылася «Узвышша». «Група “Узвышша”, — як лічыць А. Луцкевіч, — рашуча бараніла інтарэсы мастацтва, даючы адпор імкненьням зусім некампетэнтных у галіне мастацтва органаў падчыніць сабе апошняе... Аднак змаганьне за мастацтва неўспадзеўкі закончылася выступленьнем на сцэну грубае фізічнае сілы — сілы савецкае ўлады і камуністычнае партыі,

якія і ўчынілі поўны разгром “інакамысьлячых”... Запраўдныя мастакі слова, шчырыя і чэсныя самі з сабой, аказаліся абвінавачанымі ў рознага роду “ўхілах” ад сталінаўскае “генеральнае лініі”, у “нацыянал-дэмакратызьме” і т. п. і былі выкінены за борт жыцьця... Склад рэдакцыяў “Полымя” і “Узвышша” быў радыкальна “ачышчаны” ад усіх, хто сваёй музы не хацеў ператварыць у звычайнае рамясло. “Уцалелі”, праўда, Колас, Янка Купала (пасьля спробы самагубства), Бядуля, — але іх прымусілі “пакаяцца” і публічна апляваць усё, што дагэтуль тварылі і ў цэннасьць чаго верылі». Пераканаsucceeded прыхільнік дэмакратыі, справядлівага ўладкаваньня сьвету, чалавек, які надзвычай выразна адчуваў і даражыў такімі паняцьцямі, як воля, незалежнасьць, ён востра ненавідзеў гвалт і прыгнёт.

У наступныя гады ў А. Луцкевіча выходзіць яшчэ некалькі крытычных артыкулаў, рэцэнзій, аглядаў беларускай літаратуры па-беларуску і па-польску. Зь іх варта назваць такія, як «Idea niepodległosciowa w poezji białoruskiej», «Аб беларускай літаратуры нашаніўскае пары», «Odrodzeniowa literature białoruska».

У артыкуле «Праблема сфармаваньня нацыянальнае душы Максіма Багдановіча (да 20-х угодкаў сьмерці)» (Калосьсе. 1937. Кн. 4) А. Луцкевіч разглядае асноўныя крыніцы, якія паўплывалі на станаўленьне нацыянальнай сьвядомасьці паэта, адзначаючы, між іншым, што аб Багдановічу «трэба гаварыць як аб незвычайным у нашай паэзіі фэномене». У артыкуле «Абдзіраловіч і Барыка (літаратурная паралель)» (Калосьсе. 1939. Кн. 1) крытык праводзіць параўнальны аналіз «Дзьвюх душ» М. Гарэцкага і «Przedwiośnia» С. Жаромскага, твораў, «якія шмат у чым вельмі падобны да сябе, якія разьвязваюць тую ж праблему, хоць і ў розным асяродзьдзі, аналёгічна».

На працягу ўсяго часу А. Луцкевіч вядзе вялікую навуковую, літаратуразнаўчую, пошукавую працу, друкуючы такія артыкулы, як «Нязнаныя творы М. Багдановіча» (Наша будучыня. 1923. № 1), «Успаміны аб Мацею Бурачку» (Сын

беларуса. 1924. № 19), «Абмылкі ў выданьнях твораў Багушэвіча» (Сын беларуса. 1924. № 32), «Podświadome i świadome w duszy białoruskiej Syrokomli», «Праўда аб “Мужыцкай праўдзе”» (Гадавік БНТ. 1933. Кн. 1), «Палітычны працэс Якуба Коласа» (Запісы БНТ. 1938. Кн. 1) і шмат іншага.

Інтэнсіўная праца А. Луцкевіча — крытыка, літаратуразнаўцы — была спынена неўзабаве пасьля далучэньня Заходняй Беларусі: у 1939 г. Антон Луцкевіч яшчэ ў самым росквіце сіл быў рэпрэсаваны і ліквідаваны.

*Вобраз: літаратурна-крытычныя артыкулы. — Мн. : Мастацкая літаратура, 1990.*

## «ЯК Я ПАМРУ...»

Не ведаю, што прымушае мяне ў думках зноў і зноў вяртацца да гэтага чалавека. Яго наўзьдзіў трагічны лёс? Вялікая творчая спадчына, пра якую ў Савецкай Беларусі, пачынаючы з 1928 года па пачатак 90-х, не сказана ані слова? Такое знаёмае цікаўным гісторыкам літаратуры жаданьне — сказаць першым уголас пра тое, што доўгі час замоўчвалі? Ці перакананьне ў тым, што гісторыя народа і яго літаратуры — не прывілея абраных?

Ягонае жыцьцё складанейшае за ўсялякія схемы. Ды белыя плямы ў нашым мінулым ніколі яшчэ не прыносілі карысьці. Мы павінны ведаць усё, калі не хочам, каб падмешаную на салодкім ці горкім праўду за нас казалі іншыя.

Імя ягонае — Францішак Аляхновіч... Буйны беларускі драматург і вязень Салавецкіх лагераў, выдатны артыст і калабарант. Жыцьцё ўздымала яго ўгару і кідала ў прадоньне, не пытаючы ягонае згоды. Ён жыў у тыя часы, калі лёсы людзей вырашалі гістарычныя абставіны, часам лёгка і шчасьліва, часьцей — жорстка і няўмольна. Кон выбіраў людзей у залежнасьці ад таго, ці займалі яны якую пазіцыю ды і ці мелі яе ўвогуле. Беларускім адраджэнцам у гэтым сэнсе пашчасьціла менш.



Францішак Аляхновіч.
*Фота Яна Булгака, 1914 год*

Па-інакшаму склаўся б і лёс Францішка Аляхновіча, каб не гэтая заклятая беларушчына, але пра гэта — потым, а зараз мы вернемся ў Вільню канца XIX стагодзьдзя, стары і дарагі нам горад, дзе чаго толькі можна было не ўбачыць ды каго толькі не пачуць. Гучалі і беларуская, і польская, габрэйская і расейская, а таксама літоўская мовы. Усе адчувалі тут сябе, прынамсі, калі не гаспадарамі, дык тутэйшымі. Былая сталіца ўпарта не жадала забывацца на даўно ўжо мінулыя вольнасьці. Менавіта тут, у Вільні, 9 сакавіка 1883 года нарадзіўся Францішак Аляхновіч у сям'і скрыпача Караля Аляхновіча і Марыі Наркевіч, якая паходзіла з дробнай беларускай шляхты з-пад Гедройцаў.

Дзед Францішка па бацьку паходзіў з-пад Радашковіч са зьбяднелага шляхецкага роду. Недзе па тых мясьцінах вандравалі арандатарамі Луцэвічы… Захапленьне музыкаю выцягнула Аляхновіча ў Вільню, дзе ўлетку ён працаваў мулярам, а ўзімку граў на скрыпцы. Караль Аляхновіч пайшоў далей за бацьку і граў на скрыпцы ўжо ў віленскіх тэатрах. Малы Францішак зь пяці гадоў назіраў за сьпектаклямі з аркестравай ямы. Можна ўявіць сабе, што бацька новай беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч не раз заўважаў малога хлопчыка, які прагна лавіў кожнае слова са сцэны, а затым пужліва хаваўся ад грукату і стрэлаў.

Вучыўся Францішак вельмі слаба і неахвотна. Галаву адно займаў тэатр. Што такое гэтыя нудныя старыя мовы з усім астатнім у дадатак, калі там, на сцэне, было сапраўднае жыцьцё, шчасьце і радасьць, посьпех і слава? Душа Францішка не сядзела разам зь ім за гімназічнаю партаю, яна трывала пасялілася ў тэатры. А тут, у гімназіі, да ўсяго яшчэ была малазразумелая руская мова, на якой вялося выкладаньне. Удома ж размаўлялі «па-тутэйшаму» — беларуска-польскай мяшанкаю. Хлопцу даводзілася нялёгка, і ён мусіў адседзець два разы па два гады ў адным класе. Адзіным улюбёным прадметам Францішка было маляваньне, што, аднак, зусім не дапамагло яму скончыць вучобу. За непасьпяховасьць яго выганяюць з гімназіі, і Францішак пад усхліпы

маці і бацькавыя строгія панукальні падаецца ў Віленскую хіміка-тэхналагічную школу.

Тэхнічная адукацыя таксама яму не далася. Тэатр затуліў сабою ўсё. Францішак ведаў, кім ён будзе. А навошта артысту тэхнічны ці нават гімназічны дыплом? Калі й вучыцца — дык у драматычнай школе!

Сказана — зроблена. Увосень 1903 года дваццацігадовым, без замежнага пашпарта Францішак Аляхновіч выпраўляецца ў Кракаў, які належаў тады Аўстра-Венгрыі. Пазьней ужо, у лісьце да Кастуся Езавітава, Францішак Аляхновіч згадваў, як у памежным мястэчку Дамброва ў шынку пазнаёміўся ён зь мясцовым п'яніцам Андрэем Кулешам, які ўзяўся дапамагчы перайсьці мяжу. Тры дні яны пілі ў Дамброве, пакуль 45-гадовы Кулеша, аддаўшы свой пропуск, не пераправіў Францішка ў Кракаў. У першую ж ноч з кракаўскай начлежкі ён з Кулешавым дакументам у кішэні трапляе ў астрог, адкуль, праўда, раніцай яго выпусьцілі.

Да вялікага расчараваньня няўстрыманага аматара тэатра, драматычная школа ў тым годзе не працавала, і Францішак Аляхновіч паступае вольным слухачом на літаратурнагістарычны факультэт Кракаўскага ўніверсітэта, у якім за колькі стагодзьдзяў да яго вучыўся іншы Францішак — Скарына. Праз год ён перабіраецца ў Варшаву і паступае ў драматычную школу пры Музычным таварыстве. Урэшце Францішак апынуўся на сваім месцы. Ён з захапленьнем вучыцца і заканчвае школу ў 1907 годзе.

Год Францішак Аляхновіч вандруе з польскім тэатрам па мястэчках, а ў 1908 годзе вяртаецца ў Вільню, дзе жэніцца. Ужо тады юнака пацягнула на літаратурную ніву. Ён працуе рэпарцёрам у польскіх віленскіх газетах, а потым выдае папольску ілюстраваны гумарыстычны часопіс-тыднёвік «Пэркунас», які, дарэчы, анансавала і «Наша Ніва».

У гэты час лёс сутыкае яго зь віленскімі беларусамі-адраджэнцамі. Сярод іх ужо быў стрыечны брат Францішка Аляхновіча Францішак Умястоўскі. Невядома, ці была гэта беларуская вечарына, на якой ён прысутнічаў па службе, ці

гэта было знаёмства па справе зь некім з рэдакцыі «Нашай Нівы». Вільня была не такім ужо вялікім местам, каб журналісцкай хеўры не ведаць адзін аднаго. Завязалася сяброўства, а потым і захапіла ідэя беларушчыны, ідэя стварэньня першага беларускага тэатра. Ён, месьціч у трэцім калене, узгадаваны ў горадзе, дзе беларуская мова гучала хіба толькі ў бедных хатах віленскага прадмесьця ды на замазучанай чыгунцы, зьвязаў свой лёс з кволай беларушчынай, якая мусіла быць апазіцыйнай не толькі да афіцыйнай расейшчыны, але і да пальшчызны, адступіцца ад якой тутэйшым каталікам было зусім не проста. Толькі жменька з мясцовай інтэлігенцыі выбірала гэты, свой, трэці шлях.

Як пісаў Францішак Аляхновіч, і пра сябе ў тым ліку, «Нядаўныя “палякі” пачулі сябе сынамі свайго краю, пачулі сябе беларусамі, пачалі вяртацца да сваёй, папсаванай польскімі ўплывамі беларускай мовы» («Як мы зрабіліся “палякамі”»).

Красамоўна, што сярод адраджэнцаў не было моцна забясьпечаных людзей. На тыя часы паверыць у рэальнасьць адраджэньня беларусаў маглі хіба што толькі летуценьнікі ды рамантыкі. Паверыў і Францішак Аляхновіч. Разам з Ігнатам Буйніцкім, Алесем Бурбісам, Леапольдам Родзевічам ды іншымі ён руціцца пра беларускі тэатр. Яны наладжваюць першы сьпектакль, рэжысёрам якога быў Ф. Аляхновіч. Але раптам жорстка нагадвае пра сябе паліцэйскі рэжым «турмы народаў». За крамольны артыкул «Пэркунас» ліквідуюць, а рэдактару прыходзіць позва ў суд па справе «зьняважаньня сілаў нябескіх і за намер скінуць існуючую ўладу». Абвінавачваньні былі сур’ёзныя, і Францішак бітымі ўжо шляхамі ўцякае зь Вільні ў Кракаў. Прыйшлося на нейкі час адкласьці думкі пра родны нацыянальны тэатр.

Тры гады Францішак Аляхновіч выступае на Галіччыне ў розных польскіх трупах, адладжваючы акторскае майстэрства. Расстаньне блага адбілася на яго сямейным жыцьці, ён застаецца адзін. У 1913 годзе з нагоды 300-годзьдзя дома Раманавых была аб’яўлена палітычная амністыя. Нацягаў-

шыся па чужых краёх, Аляхновіч вяртаецца ў Вільню, ідзе да пракурора, каб зьняць зь сябе судзімасьць. Аднак за другі пункт абвінавачаньня (зьнявага нябескіх сілаў) ён дастае год Лукішак. Знаёмая гісторыя. Мала хто зь беларускіх адраджэнцаў не паспытаў астрожнай баланды. Частка беларускай літаратуры створаная ў турмах. Пісалі там Якуб Колас і Карусь Каганец, Ядвігін Ш. і Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч і Алесь Салагуб. Пісаў і Францішак Аляхновіч.

Жыцьцё ішло пакуль не зразумееш і як. Вымушанае зьняволеньне дапамагло раздумацца. Хацелася сказаць нешта і самому. Тут добра дапамагло і зьлілося ў адно выдатнае веданьне сцэны, набітая рука публіцыста ды рэжысёрская практыка. Францішак Аляхновіч піша першую сваю п’есу «На Антокалі». Перш — па-польску, потым рашуча перапісвае па-беларуску. Ёсьць тэатр Буйніцкага, ёсьць аматарскія гурткі! Урэшце, ёсьць мара пра ўласную беларускую трупу!

Выбар зроблены. Да Каруся Каганца і Янкі Купалы далучыўся, можна сказаць, прафесійны драматург, конча зьвязаўшы свой лёс зь беларускім тэатрам. Максім Гарэцкі, на якога мы не раз яшчэ будзем спасылацца, пісаў, што «“На Антокалі” — гэта надта добра зробленая мастацкая фатаграфія жыцьця віленскіх жыхароў прадмесьця Антокаля».

У хуткім часе пасьля вызваленьня Францішка Аляхновіча з турмы Вільню займаюць кайзераўскія войскі, якія прызнаюць беларусаў за асобную нацыю і даюць магчымасьць весьці асьветніцкую і культурную працу. Адразу ж на Гарадзеншчыне і на Віленшчыне ствараецца густая сетка беларускіх школаў, а на пачатку 1916 года ў Вільні адкрываецца беларускі клуб, дзе з удзелам Францішка Аляхновіча, які толькі выйшаў з астрога, ствараецца новы музычна-драматычны гурток колькасьцю да 60 асобаў, у які ўваходзяць драматычная дружына, аркестр і танцавальная група. Пры яго рэжысуры ідуць рэпетыцыі і ставіцца першы сьпектакль па п’есе Э. Ажэшкі «Хам».

26 сьнежня 1916 года адбылася прэм’ера першай п’есы Францішка Аляхновіча «На Антокалі». У рэцэнзіі на яе ад-

значалася: «Ігра была знамянітая. І песьні і дуэты выканаваны добра. Аўтар, каторы іграў роль гаспадара шавецкага варштату надта добра, спаткаў са сваёй п’есай добры прыём публікі і быў шчыра вітаны».

Узьнікае патрэба новага беларускага рэпертуару. Францішак Аляхновіч піша п’есу «На вёсцы» (1916). Па словах М. Гарэцкага, п’еса «напісаная вельмі жыва і цікаўна». Затым узьнікае п’еса «Бутрым Няміра» (1916), паводле легенды Вацлава Ластоўскага «Каменная труна». М. Гарэцкі зноў адзначае: «Яна маець высокія літаратурныя і сцэнічныя вартасьці. Як твор літаратурны п’еса выдаецца сваёй стылізаванасьцю, прыгаством мовы, пэўнасьцю псыхалягічных абрысовак, стульнасьцю і адзінствам у разьвіцьці падзей». Пішуцца таксама «Манька» (1917), у якой, па меркаваньні М. Гарэцкага, «калярытная жывасьць нашага местовага жыцьця гарманічна зьліваецца з глыбінёй думкі»; «Базылішк» (1917), «казка ў трох актах», якую М. Гарэцкі ўважае за «надта паэтычны мастацкі твор».

У гэты ж час Францішак Аляхновіч працуе карэктарам у беларускай газеце «Гоман», зарабляе на хлеб маляваньнем шыльдаў, служыць у міліцыі, працуе кантралёрам электрычных лічыльнікаў і піша, піша, піша. Якім чынам ён пасьпяваў? Быццам бы жадаў адпісацца як найхутчэй. Усё, што назапасілася да 33 гадоў, знайшло раптам увасабленьне ў п’есах, якія зьяўляліся адна за адной. Па колькасьці напісанага з Аляхновічам мог параўнацца хіба што Уладзіслаў Галубок, але па размаітасьці тэматыкі, па якасьці, бліскучасьці ўвасабленьня матэрыялу — бадай што ніхто.

Акупаваная немцамі Вільня галадала, і Францішак Аляхновіч перабіраецца ў Чорны Бор, што пад Вільняй, і працуе настаўнікам у беларускім дзіцячым прытулку. Піша за гэты час п’есу «Калісь». Зноў зьвернемся да ацэнак М. Гарэцкага, які ахарактарызаваў яе як «рэвалюцыйны сцэнічны абразок з жыцьця беларускіх меставых работнікаў». Піша аднаактоўку для дзяцей «У лясным гушчары». Яе адразу ж паставілі ў дзіцячым прытулку.

Празь нейкі час Францішак Аляхновіч вяртаецца ў Вільню, працуе пажарным.

Рэвалюцыі ў Расеі і Нямеччыне развалілі фронт, які падзяляў Беларусь на дзьве часткі, да Вільні дайшлі чуткі пра ўтварэньне ў Менску беларускага тэатра, і ў чэрвені 1918 года, пераапрануты фурманам, драматург пешшу выправіўся ў Менск, куды праз восем дзён дабраўся босы і абарваны.

Менск на той час стаў цэнтрам беларускага адраджэньня. Тут тры месяцы перад гэтым была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка, урад якой, нягледзячы на цяжкія ўмовы існаваньня, зрабіў надзвычай шмат для разьвіцьця беларускай культуры. Адкрываюцца першыя беларускія школкі, узьнік тэатр Фальскага і Галубка. Францішак Аляхновіч адразу ж падключаецца да іх. У яго рэжысуры ставіцца «Бутрым Няміра», дзе Аляхновіч выконвае ролю Бутрыма. П'еса карысталася ў гледачоў вялікім посьпехам. У Менску ён заканчвае вадэвіль «Чорт і баба», пра які Максім Гарэцкі піша як пра «надта добра сцэнізаваную вядомую народную казку-сатыру».

Вадэвіль «Чорт і баба», пастаўлены зноў Францішкам Аляхновічам, меў надзвычайны посьпех. Ён «усюдых заваяваў беларускую сцэну». Урэшце прыйшла да яго заслужаная слава беларускага нацыянальнага драматурга. Нацыянальная драматургічная дзялянка была вялікая, неаробленая, месца хапала ўсім.

Наступная п'еса Францішка Аляхновіча «Страхі жыцьця» выклікала шмат пярэчаньняў і размоў. Прэм'ера адбылася ў 1918 годзе. Гледачоў уразілі змрочныя фарбы драмы, безвыходнасьць і песімізм. М. Гарэцкі так перадае свой погляд на драму: «Прачытаўшы ці прагледзеўшы на сцэне ўсе тры акты, мы так уражаны жахам гэтага зла, гэтых страхаў, што сэрца закіпае гняўлівым абурэньнем і напаўняецца смагаю новай творчасьці, жаданьнем зьніштожыць страхі старога сьвету і стварыць новае ясьнеючае, не блізкае да ўсякіх страхаў жыцьцё».

У гэты ж час Францішак Аляхновіч піша некалькі апавяданьняў і вершаў. Пісаў, магчыма, і раней, але друкаваць пачаў толькі цяпер.

Каменьне вострае крывава раніць ногі,
Дрыжыць ў паветры плач старых бяроз...
Хаця мне жудасна, я не зыйду з дарогі,
Ня кіну край, дзе я радзіўся, рос...

*(«Мой родны край»)*

Творчая індывідуальнасьць Аляхновіча-рэжысёра прасіла самастойнасьці, ды і, мабыць, мэтазгодней для беларускага руху было існаваньне некалькіх тэатраў. Аляхновіч стварае сваю трупу «Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва» і ладзіць сьпектаклі ў «Беларускай хатцы» адначасова з калектывам Фларыяна Ждановіча. Мастацкая канкурэнцыя садзейнічала якасьці тэатральных пастановак. З вызваленьнем Менска ад немцаў трупы Фларыяна Ждановіча, Францішка Аляхновіча і хор Уладзіміра Тэраўскага зьліваюцца ў адзіны «Пралетарскі тэатр».

Мастакоўская фантазія Аляхновіча-драматурга працавала напоўніцу. У 1919 годзе пішацца «драматычны абраз са сьпевамі і танцамі» «Дзядзька Якуб».

Для вясковых самадзейных тэатраў Ф. Аляхновіч складае сьпецыяльную брашуру «Тэатр на вёсцы», дзе дае парады па абсталёўцы, дэкарацыях, аздабленьні сьпектакляў, стварэньні розных эфектаў, па строях актораў і г. д. У прадмове да брашуры ён адзначае: «І ў нас — я веру — тэатр адыграе не меншую ролю. Роднае слова, родная песьня, народныя скокі на сцэне — будуць той іскрай, якая запаліць у душах любоў да ўсяго свайго роднага, беларускага. Чаго не патрапе зрабіць кніжка, газэта, прамова, таго даб’ецца тэатр, у лёгкай мастацкай форме нясучы ў народ ідэю адраджэньня і запаляючы сэрцы да работы на ніве нацыянальнага ўсьведамленьня... Аддавайце беларускай справе кожны, што можаце, ня складвайце рук, нягледзячы ні на якія перашкоды

або няўдачы, а ваша вытрываласьць і ахвярнасьць зробяць тое, што наша культурнае жыцьцё ярка зазіхаціць усімі краскамі народнага духу і паслужыць на славу нашага АДРАДЖЭНЬНЯ».

Францішак Аляхновіч, выдатны актор, якога ў адзін голас тэатральная крытыка называла адным зь лепшых беларускіх актораў, ідзе на незвычайны ў нашай драматургіі эксьперымент. Драматург адчуваў сцэнічную няскончанасьць «Паўлінкі». Ён дапісвае «сцэны са шляхоцкага жыцьця», дадае трэці акт і ахвяруе яго Купалу. Гэтая незаканчанасьць, адчуваньне гледачом, што кропка яшчэ не пастаўлена, рабілі п’есу Янкі Купалы няпростай для пастаноўкі. Гэта заўважалі і адчувалі таксама іншыя рэжысёры ды крытыкі.

У 1927 годзе Іван Замоцін, пішучы пра форму «Паўлінкі», адзначае: «Нельга сказаць, каб аўтару ўдалося разьвярнуць гэты добра задуманы сюжэт з выстарчаючай выразнасьцю: для чытача і гледача п’есы застаецца нявырашаным пытаньне аб тым, што ж вышла з усёй гэтай драматычнай сітуацыі — ці распаўся канчаткова шлюб па прымусу, ці ўтрачана канчаткова магчымасьць шлюбу па каханьні і які наогул лёс герояў гэтай маленькай драмы — нечакана, сярод няскончанага шляху драматычнага дзеяньня кінутых аўтарам на лёс дагадак саміх чытачоў». Таму, верагодна, і пад уплывам дадатку Францішка Аляхновіча прэм’ера «Паўлінкі» ў Купалаўскім тэатры 23 мая 1944 года адбылася зь перарobленым у п’есе шчасьлівым канцом.

«Завяршэньне» «Паўлінкі» Францішкам Аляхновічам, на наш погляд, трэба лічыць не толькі завяршэньнем драматурга, але, у першую чаргу, задумай вопытнага рэжысёра.

Трэці акт быў дапісаны ў Менску ў 1921 годзе. Вельмі верагодна, што драматург раіўся і з самім Купалам. Хутчэй за ўсё, што яны былі знаёмыя яшчэ зь віленскіх часоў. Акрамя таго, наўрад ці хто зрабіў бы гэта з большым прафесіяналізмам за Ф. Аляхновіча. Прынамсі, Янка Купала ніколі не прад’яўляў яму сваіх прэтэнзій, хаця нішто не замінала яму гэта зрабіць.

Вясною 1919 года пры савецкай уладзе Францішак Аляхновіч вяртаецца ў родную Вільню.

Ты, Вільня, мяне ўзгадавала…
Тут сьніў я дзіцячыя сны!..
Ня раз была мачыхай Ты, —
Душы маёй боль задавала,
З-за вугла каменьні кідала
Зь нязнанай а братняй рукі,
І чару ад вусн адбірала,
Хаця я ўміраў ад смагі…

*(«Ты, Вільня, мяне ўзгадавала...»)*

Ён выдае газету «Беларускае жыцьцё», піша артыкулы на грамадска-палітычныя тэмы, закранае няпростыя праблемы польска-беларускіх стасункаў і будучнасьці Беларусі. І ў гэты ж час працуе над тэатральнымі пастаноўкамі.

Францішак Аляхновіч вельмі сур'ёзна ставіўся да акторскага майстэрства, ставячы на першае месца ў сваім тэатры добрае веданьне акторамі беларускай мовы. Як актор і драматург у адной асобе, ён выдатна ведаў, якое вялікае значэньне для ўспрыняцьця пастаноўкі публікай мае мілагучнасьць тэкстаў. Гукі беларускай мовы, тады яшчэ не ўспрымальнай многімі як мовы, на ўзроўні з расейскай і польскай, вартай сцэны, павінны былі быць прыгожымі і мілагучнымі. Ад гэтага залежаў посьпех прапаганды беларускай мовы праз тэатр і посьпех канкрэтнай тэатральнай трупы.

Ён пісаў: «Калісь ішлі гутаркі аб стварэньні беларускай драматычнай школы. Нельга тварыць школу, калі не будзе ў ёй каму вучыць. Запрашаць артыстычныя сілы з польскай ці расейскай сцэны? О не! Не раз мы ўжо чулі, як нашыя аматары калечаць са сцэны беларускую мову. Даць ім вучыцеля не беларуса — гэта значыць ушчэнт акалечыць беларускую мову на сцэне. Выхад адзін: перш-наперш вучыць нашых артыстаў добра гутарыць па-беларуску, затым няхай яны езьдзяць на вёску, хай чуюць сьвежую, непапсаваную беларус-

кую гутарку, — і гэтак няхай паўстане самародны тэатральны персанал» («Думкі аб беларускім тэатры»).

Кажучы пра ролю актора ў тэатры, у гэтым жа ж артыкуле ён піша: «Тэатр для публікі павінен быць прыемнай разрыўкай або забавай, але для працаўнікоў сцэны — ён праца, цяжкая праца».

Францішак Аляхновіч у Вільні жэніцца другі раз, ды грамадскае і асабістае жыцьцё парушаецца савецка-польскай вайною. Пры кожнай уладзе прыходзілася пачынаць усё наноў — даказваць, што беларускі культурны рух — гэта не прошукі польскіх паноў ці дыверсія чырвоных, што ён мае аб'ектыўнае права на існаваньне. Увосень 1919 года, калі Менск занялі палякі, ён зноў вяртаецца ў беларускую Медыну, дзе заканчвае п'есу «Цені». М. Гарэцкі не лічыў гэтую п'есу цалкам нацыянальнай, аднак адзначыў, што гэта «глыбока задуманы і мастацкі твор. Ён дае нам у роднай мове тое, што дагэтуль мы бралі выключна з чужых моў».

За 1920 год Францішак Аляхновіч напісаў яшчэ дзьве п'есы: «Птушку шчасьця», якую ў 1923 годзе Галіна Орліўна, заходнеўкраінская пісьменьніца, пераклала на ўкраінскую мову і надрукавала ў Львове, і «Няскончаную драму».

Пасьля разгрому польскага войска ён які ўжо раз пераязджае ў Вільню і спрабуе тут зноў наладзіць беларускі тэатр. Беларуская газета «Крыніца» пісала ў той час: «Нашыя надзеі на ўзрост і разьвіцьцё беларускага тэатру былі і ёсьць цесна зьвязаны з асобай абдаранай талентам, вельмі руплівага артысты Францішка Аляхновіча. Некалькі гадоў мы мелі магчымасьць зблізка прыглядацца, колькі працы, колькі сіл пасьвяціў ён дзеля стварэньня беларускага народнага тэатру».

Шмат часу, як заўсёды, займае грамадская праца. Францішак Аляхновіч у гушчы беларускага культурнага жыцьця. Створана тэатральная трупа, зноў сьпектаклі, зноў выступы. У 1921 годзе закладаецца Таварыства беларускай школы, і Ф. Аляхновіч зьяўляецца адным зь яго заснавальнікаў. У тым жа годзе ў перакладзе на польскую мову выходзяць яго «Страхі жыцьця».

У 1922 годзе драматург піша камедыю «Шчасьлівы муж», якую вельмі цёпла ўспрынялі гледачы.

У гэты час у Берліне Ц. Гартны спрабуе наладзіць выдавецтва беларускіх твораў і зьвяртаецца да пісьменьнікаў аб падрыхтоўцы рукапісаў. Чарговы раз без пашпарту і грошай, але з пачкам сваіх п’ес Францішак Аляхновіч пераходзіць польска-літоўскую мяжу з разьлікам трапіць у беларускае прадстаўніцтва В. Ластоўскага ў Коўне і зь яго дапамогаю выбрацца ў Нямеччыну. Ды літоўская палітычная паліцыя арыштавала драматурга і, не зважаючы на просьбы прадстаўніцтва, пасьля двух тыдняў канцлагера выслала назад у Вільню. Што заставалася рабіць няўдаламу вандроўніку? Вядома ж, пісаць, не зважаючы ні на што.

У 1923 годзе з-пад яго пяра выходзіць бліскучая камедыя «Пан міністр». У ёй Францішак Аляхновіч паказаў псеўдабеларускага дзеяча са скірмунтаўскага кабінета БНР пана Вернікоўскага, палітычнага авантурыста і дэмагога, а таксама сапраўдныя маладыя беларускія сілы, якія здатны былі дзеля шчасьця Беларусі пайсьці на ўсё. У п’есе драматург высьмеяў прыстасаванцаў да беларускага палітычнага жыцьця, якія, не ведаючы і не любячы ўсяго беларускага, маскаваліся пад вялікіх прыхільнікаў беларушчыны, спрабуючы зрабіць сабе на гэтым кар’еру. Камедыя заканчвалася велічным нацыянальным беларускім гімнам:

Браты! Да шчасьця мы падходзім,
Хай гром гудзе яшчэ мацней,
Ў крывавых муках мы народзім
Жыцьцё рэспублікі сваей!

Камедыі было забясьпечана доўгае сцэнічнае жыцьцё. Па сваіх нацыянальна-адраджэнскіх матывах, паказе сьвядомае беларускае інтэлігенцыі яна перагукаецца з «Тутэйшымі» Я. Купалы.

Драматычным творам Францішка Аляхновіча амаль заўсёды характэрныя моцныя пачуцьці, зразумелыя звычайна-

му чалавеку. Дзеяньне і сюжэт яго п’есаў абумоўленыя тым гледачом — селянінам, мешчанінам, рабочым, — на якога яны і былі разьлічаныя. Францішак Аляхновіч пісаў, разьлічваючы на людзей, якія жылі ў беларускай вёсцы, мястэчку і горадзе, амаль заўсёды — для канкрэтнай тэатральнай трупы. Таму ягоныя п’есы мелі вялікі посьпех у свой час.

Найбольш распрацаваныя зь іх — «Дрыгва», «Няскончаная драма», «Пан міністр» ды іншыя — і цяпер маюць бясспрэчную сцэнічную цікавасьць. У іх мы можам знайсьці не толькі этнаграфічна-бытавыя рэаліі тагачаснага малавядомага нам жыцьця, густа і каларытна выпісанага аўтарам, не толькі тыповыя на той час характары і паводзіны беларусаў, непазнавальна размытыя за апошняе паўстагодзьдзе мутнай хваляй савецкай расейшчыны, але і адвечныя чалавечыя пачуцьці — каханьне і нянавісьць, радасьць і гора, шчасьце і бяду — тое, што набліжае іх герояў да нас і прымушае разам зь імі перажываць гэтыя пачуцьці.

На нейкі час увагу драматурга захапіла гісторыя беларускага тэатра. Яму належыць першая манаграфія, якая доўгі час была адзіным дасьледаваньнем па гісторыі нашага тэатра. Дасьледаваньне выйшла ў Вільні ў 1924 годзе пад адною вокладкаю з «Панам міністрам». Віленская прагрэсіўная газета «Сын Беларуса» давала папярэдне анонс: «Выдатны беларускі драматург Ф. Аляхновіч заканчвае рад новых цэнных прац. Гэта ёсьць: 1. Гісторыя беларускай драмы і тэатру, пачынаючы ад першых праяў драматычнага элемэнту ў беларускай народнай творчасьці і канчаючы сучасным тэатрам; 2. Аднаактовы сцэнічны абразок; 3. Аповесьць з сучаснага беларускага жыцьця».

Цікавы факт зь літаратурнага жыцьцяпісу Францішка Аляхновіча — невядома, што засталося ў яго архівах, дзе, напрыклад, вышэйзгаданая аповесьць і ці захаваўся архіў увогуле, але ўсе п’есы, якія ставіліся ў тэатры, успаміны, вершы, проза Ф. Аляхновіча ўбачылі сьвет і былі надрукаваныя. Зь вялікай і найбольш каштоўнай часткай ягонай твор-

чай спадчыны лёс абышоўся даволі міласэрна. У гэтых адносінах яму пашчасьціла болей, чым іншым. Ды пойдзем далей, куды вядзе нас пакручасты, поўны нечаканасьцяў жыцьцёвы шлях драматурга.

У 1925 годзе Францішак Аляхновіч перапрацаваў ранейшую драму «Манька», дадаў яшчэ два акты, і драма атрымала назву «Дрыгва». 17-я п’еса за дзесяць гадоў творчага жыцьця. Наступную п’есу драматург напіша толькі праз... 17 гадоў.

1926 год для разьвіцьця беларускай культуры ў Савецкай Беларусі быў плённы і ўдалы. Беларусізацыя прыносіла свае вынікі. Адчыняліся беларускія школкі, тэхнікумы, працаваў беларускі ўнівэрсітэт. Беларускую мову шырока ўжывалі ў справаводстве, у дзяржаўных установах. Усё гэта кантраставала з тым, што рабілася па заходні бок мяжы, дзе польскія акупацыйныя ўлады вялі зацятае змаганьне зь беларушчынай. Там ішла сапраўдная палітычная вайна. Польскія ўлады зрабілі стаўку на асіміляцыю беларускага народа.

Эміграваўшыя ў свой час, не прызнаўшыя савецкай улады беларускія палітычныя дзеячы паверылі ў рэальную магчымасьць будаваць «беларускі дом» у Савецкай Беларусі, і шмат хто зь іх, пасьля амністыі 1925 года, вярнуўся на Радзіму.

Сапраўдным сьвятам беларускай навукі была Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу, якая адбылася ў лістападзе 1926 года ў Менску. На канферэнцыю былі запрошаны і прынялі ў ёй удзел не толькі савецкія мовазнаўцы, але і славісты, культурныя беларускія дзеячы і пісьменьнікі з Заходняй Беларусі, Чэхаславаччыны, Латвіі, Літвы ды іншых краінаў. Канферэнцыя пакінула вялікае ўражаньне на гасьцей і шмат каго пераканала ў сур’ёзных намерах савецкай улады адносна разьвіцьця беларускай культуры.

На канферэнцыю быў запрошаны і Францішак Аляхновіч, які быў, па словах складальніка вядомай на той час беларускай хрэстаматыі Ігната Дварчаніна, «у гісторыях літаратуры

ахрышчаны бацькам беларускай драматургіі». І сапраўды, ніводзін падручнік, ніводная хрэстаматыя беларускай літаратуры не абыходзіліся без драматычных твораў, вершаў, прозы Францішка Аляхновіча, гэтага, па вызначэньні шаноўнага дасьледчыка беларускай культуры і мовы Яўхіма Карскага, «аднаго зь лепшых беларускіх акtoраў». Францішак Аляхновіч трывала заняў у нашай літаратуры месца Пачынальніка.

Па ўспамінах сваячкі паэта Міхаіла Грамыкі, Іны Рытар, падчас правядзеньня канферэнцыі Францішак Аляхновіч быў захоплены ігрой Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра, і калі гасьцей запрасілі на адкрыцьцё БДТ-2 у Віцебск, ён пачаў рабіць захады, каб застацца ў Савецкай Беларусі. На гэты прадмет Францішак Аляхновіч сустракаўся з наркамам асьветы А. Баліцкім, але той, як быццам штосьці прадчуваючы, а можа і ведаючы, параіў яму не заставацца.

У Віцебск на адкрыцьцё тэатра паехалі Янка Купала, Якуб Колас, Язэп Лёсік, Міхаіл Грамыка ды іншыя беларускія паэты і акторы. Пасьля адкрыцьця БДТ-2, перакананы ў сваім намеры застацца, Францішак Аляхновіч па звароце ў Менск зайшоў у ГПУ, адкуль яго ўжо не выпусьцілі...

У Менску яшчэ жыла ягоная старэнькая маці. У яе Францішак Аляхновіч спыняўся падчас прыезду на канферэнцыю. Адразу пасьля арышту драматурга Якуб Колас і Язэп Лёсік зьбіралі подпісы пад лістом у абарону драматурга. Падпісаліся пад ім Міхаіл Грамыка ды іншыя выдатныя беларускія дзеячы, але ліст гэты не дапамог.

Па ўспамінах самога Францішка Аляхновіча, ён прыехаў у БССР 17 лістапада, а на чацьвёрты дзень пасьля атрыманьня савецкага грамадзянства, 1 студзеня 1927 года, быў арыштаваны. Яго абвінавацілі па сумнавядомым 58-м артыкуле: «Участие в организации или содействие организации, действующей в направлении помощи международной буржуазии». Доказаў, як і матэрыялаў абвінавачваньня, прадстаўлена не было. Не было і суда. Францішак Аляхновіч быў засуджаны завочна на 10 гадоў Салавецкіх лагераў. Пазьней па гэтым

артыкуле гэтак жа ж, без суда, пройдзе не адзін дзясятак беларускіх культурных дзеячаў, пісьменьнікаў. Аляхновіч быў першы. Гэта былі першыя грымоты ад той буры, якая ў хуткім часе пранеслася над беларускім нацыянальным рухам і амаль што нікога не пакінула жывымі. Сталінская савецкая машына тэрору павольна набірала абароты.

На сем гадоў Францішку Аляхновічу прыйшлося забыць, хто ён такі, адкуль і чым займаўся дагэтуль. Спачатку год на высьпе Мяг, недалёка ад берага, насупраць карэльскага мястэчка Колежма, затым Салаўкі. 13-я працоўная рота, кватараваньне ў былым Праабражэнскім саборы… Недзе ў той самы час тамсама адбываў кару расейскі акадэмік Дзьмітры Ліхачоў. Вязні стварылі свой самадзейны тэатр, у якім забываліся на рэчаіснасьць пасьля працы на лесапавале. Тэатр нават дасягнуў значных посьпехаў, і вязьняў-актораў ставілі на больш лёгкія работы. Францішак Аляхновіч, заўзяты актор, працаваў нейкі час музейным вартаўніком, часам пускаючы ў царкву-музей вернікаў памаліцца. Пройдзе не так шмат часу, і пасьля Францішка Аляхновіча ў гэтым самым тэатры будзе іграць славуты ўкраінскі рэжысёр і пастаноўшчык Лэсь Курбас…

Пасьля шасьці гадоў зьняволеньня Францішка Аляхновіча перавялі ў Кем, на мацярык. Летам 1933 года яго прывозяць у Бутыркі, у Маскву, а шостага верасьня ён ужо праездам у Менску, дзе спатыкаецца з маці. Потым — абмен на Браніслава Тарашкевіча, лідара Беларускай сялянска-работніцкай грамады, які быў зьняволены польскімі ўладамі за беларускую грамадскую дзейнасьць (з савецкага боку мянялі Францішка Аляхновіча і некалькі літоўскіх ксяндзоў, маючых польскае грамадзянства, на польскіх палітычных вязьняў), і ў хуткім часе ён — у Вільні. Абмен адбыўся, дзякуючы хадайніцтву перад польскім урадам уплывовых сваякоў драматурга ў Польшчы.

Пераказваюць легенду, як яны на абмене, на нейтральнай тэрыторыі перамовіліся некалькімі словамі, бо даўно былі ж знаёмыя. «І куды ты?» — з іроніяй спытаўся ў Францішка

Аляхновіча Браніслаў Тарашкевіч. «А ты куды?» — з жахам перапытаўся Аляхновіч у Тарашкевіча. Кожны зь іх спадзяваўся на лепшы лёс.

Жонка не дачакалася Францішка Аляхновіча, і другі раз разьбілася сям'я. У сэрцы драматурга пасьля «адпачынку» на Салаўках засталіся жахлівыя ўспаміны ад савецкай улады. З таго часу Францішак Аляхновіч, як ён сам пісаў, «не пакідаў пісаць і гаварыць аб найстрашнейшым ворагу чалавецтва — аб бальшавізьме».

Францішак Аляхновіч піша кнігу ўспамінаў «У кіпцюрох ГПУ», якая ў 1936–1937 гадах, яшчэ раз нагадаем, у часы найвышэйшага разгулу сталінскага тэрору, выйшла ў Еўропе і ў Амерыцы ў перакладзе на сямі мовах. У 1937 годзе аўтар сваім коштам выдае іх па-беларуску.

За інтрыгуючай назваю кнігі быў дакументальны зьмест, насычаны нявыдуманымі «крыважэрствамі гэпэушнікаў». Гэта першае ў беларускай літаратуры дакументальнае сьведчаньне аб дзікім камуністычным разгуле ў Беларусі, успаміны чалавека, які цудам выбраўся з савецкага пекла і паказаў усяму сьвету сапраўднае аблічча камунізму. Аўтар імкнуўся стрымана і разважліва распавесьці пра жыцьцё і побыт вязьняў у савецкіх турмах, пра норавы і звычаі, якія культываваліся там турэмнай адміністрацыяй. З будзённага апісаньня такіх эпізодаў, як вываз вязьняў зь менскай турмы на расстрэл, гульня зь дзецьмі, што бегаюць па турэмных калідорах, вымушаная масавая прастытуцыя нявольных кабетаў ды іншых атрымліваецца жахлівая сюррэалістычная і алагічная карціна Зла, усьвядоміць якую да канца нармальнаму чалавеку проста немагчыма. У пякельным віры, які закруціў Францішка Аляхновіча, былі страчаныя прычынныя сувязі, і ніхто не мог адказаць на пытаньне: «за што?». Савецкая камуністычная сістэма метадычна зьнішчала традыцыйныя чалавечыя вартасьці, замацаваныя ў нашым народзе на працягу ўсяго яго існаваньня.

У менскай турме, у Салавецкім лагеры як на далоні відны «дасягненьні і заваёвы» савецкай улады: чалавек бачыў у

чалавеку ворага, а набольш пахвальнымі якасьцямі былі здрада і данос, паклёп і ўгодніцтва. Цяжка было ў такіх умовах захаваць чалавечую годнасьць. Вялікім кантрастам у рэчышчы апісаных падзеяў высьвечваецца гуманізм аўтара, ягоны цьвярозы, не пазбаўлены чалавечнасьці погляд на турэмнае жыцьцё, невычарпальны аптымізм, які даў яму сілу перажыць гэтыя цяжкія гады і захаваць пачуцьцё гумару.

Можна шкадаваць, што кніга аказалася дэперсаніфікаванай, ды аўтар мусіў улічваць, што тыя, з кім ён сядзеў, засталіся па той бок мяжы.

У 30-я гады — гады асаблівага націску на беларускую культуру ў нацыяналістычнай Польшчы — Францішак Аляхновіч прымае пасільны ўдзел у беларускім грамадскім і культурніцкім жыцьці. Ён дапамагае ставіць сьпектаклі, дэкламуе са сцэны, дапамагае існаваньню беларускага музея, піша артыкулы на беларускую тэматыку ў польскамоўнай віленскай прэсе.

Францішак Аляхновіч жэніцца трэці раз. Здавалася, жыцьцё зноў пачынае ўваходзіць у сваю каляіну, але надышоў 1939 год. Падзеі, выкліканыя пактам Молатава—Рыбентропа, непасрэдным чынам паўплывалі на далейшы жыцьцёвы лёс Францішка Аляхновіча.

Прывіленскі край разам зь Вільняю, нягледзячы на пераважную беларускасьць насельніцтва і гістарычныя падставы, загадам з чырвонага Крамля быў аддадзены Літве. Для беларусаў-віленчукоў такое далучэньне не прынесла асаблівых выгодаў. Іхняе існаваньне не заўважылі чарговы раз. Адно што была спроба зьліць беларускі музей імя Івана Луцкевіча зь невялікімі літоўскім і польскім у адзін краёвы музей, на што беларусы не пайшлі. Умомант усе польскія шыльды былі заменены на літоўскія, а дзяржаўныя служачыя павінны былі пасьля падрыхтоўкі скласьці іспыт па літоўскай мове. Мусіў вучыць літоўскую мову і 57-гадовы Францішак Аляхновіч, які працаваў тады ў віленскай электрычнай службе.

У хуткім часе Літва разам зь Віленшчынаю была далучана да Савецкага Саюза. Што чакала Францішка Аляхновіча ў той суровы і неміласьцівы час зь ягонымі мемуарамі, якія выкрывалі сталінізм, думаю, тлумачыць няма патрэбы.

У 1940 годзе ідуць у лагеры Антон Луцкевіч, адзін з пачынальнікаў беларускага адраджэньня, Макар Краўцоў, паэт, стваральнік беларускага нацыянальнага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», і шмат іншых, якія так і не вярнуліся назад.

Як пісаў пазьней Францішак Аляхновіч, «Лепш у голым полі спаткацца са зграяй галодных ваўкоў, чымся неспадзявана пабачыць гэтыя шапкі, гэтыя зоркі, гэтыя скуластыя мангольскія твары, зь якімі, здавалася, ужо ніколі не сустрэнешся...». Драматург хаваецца спачатку ў Вільні, затым уладкоўваецца вартаўніком на будаўніцтва моста пад Вільняю, дзе ходзіць у зрэб'і, аброслы, знарок прыгорблены, грае жыцьцёвую ролю, каб уратавацца.

Ён быў тройчы «вінаваты» перад савецкай уладай: ён быў беларускім нацыяналістам, ён быў пісьменьнікам, і ён асьмеліўся падаць голас супраць жорсткай, адладжанай машыны тэрору, якая ў канцы 20-х гадоў толькі набірала хаду, а да 40-х перамалола ўжо мільёны нявінных ахвяраў. І вось мяжа зьнікла, і ён застаўся безабаронны. Успаміны Францішка Аляхновіча каштоўныя тым, што па ягоным шляху пазьней прайшла ледзь не ўся беларуская інтэлігенцыя, пісьменьнікі, якія не здолелі пакінуць па сабе ані слова. Ягоны шлях прадказаў шлях тых, чыіх успамінаў мы не ўбачым ніколі.

Хаджэньні па пакутах драматурга яшчэ не скончыліся. Далей ідзе самая трагічная, але цалкам заканамерная частка ягонага жыцьця. Невядома, колькі часу яму ўдавалася б гуляць у хованкі, і мы лёгка можам прадказаць канец гэтае гульні, ды гісторыя далей правярнула сваё кола. Пачалася вайна. І, іронія лёсу, прыход немцаў, чарговых акупантаў беларусаў, якія, таксама як і бальшавікі, несьлі беларускаму народу сьмерць і пакуты, Францішак Аляхновіч вітаў як

сваё збаўленьне: «Канец маіх мукаў, канец бадзячага жыцьця, я буду магчы вярнуцца ў сваю хату і жыць як чалавек. Ужо чырвоная нечысьць не дасягне мяне».

Зьмена сітуацыі дазволіла яму вярнуцца дадому і зноў заняцца літаратурным ды грамадскім беларускім жыцьцём. Ён падпісвае, як рэдактар, газету, якая выходзіла ў Вільні лацінкаю, «Беларускі голас», уваходзіць у віленскі Беларускі камітэт, які хоць нейкім чынам стараўся бараніць правы беларусаў у Вільні. У газеце прыкметная літаратурная частка, у якой друкуюцца новыя творы самога Францішка Аляхновіча — перапробленая п’еса «На Антокалі», дзёньнікавыя запісы, тэатральныя рэцэнзіі і г. д., а таксама вершы Натальлі Арсеньневай, Лявона Случаніна ды іншых.

У гэты час аднаўляецца творчасьць Ф. Аляхновіча як драматурга. П’есы Францішка Аляхновіча зноў увайшлі ў рэпертуар беларускіх тэатраў. У 1942 годзе ён пераглядае першую сваю п’есу «На Антокалі», і ў 1942 годзе ў Менску адбылася яе прэм’ера.

У 1943 годзе ён перапісвае сваю ранейшую дзіцячую п’еску «У лясным гушчары», і ў тым самым 1943-м у «Новым шляху», менскім літаратурным часопісе, выходзіць яго новая камедыя-батлейка «Круці не круці — трэба памярці» з малюнкамі Пётры Сергіевіча. Камедыя, па вызначэньні аўтара, «сцэнічны народны гратэск», напісаная рыфмаванай прозай, заснаваная на беларускім фальклёры, мае высокія мастацкія вартасьці. У камедыі ці не ўпершыню ў беларускай літаратуры асуджаны і высьмеяны культ асобы Сталіна, хваласьпевы ў яго гонар.

«ЧОРТ ЛЮЦЫПАРУ:

Наш вучыцель, наш вялікі! родны бацька наймілейшы! наймудрэйшы! найсьвяцейшы! геніяльны! незраўнальны! правадыр наш! наша сонца, к сьвету яснаму ваконца! ўсёмагутны! неабмыльны! над чартамі найвышэйшы! найдужэйшы гаспадар! прашу слова, наш ўладар!..

ЛЮЦЫПАР:

Ты, брат, шкоднік, ты — «вредитель»! Каб запраўднага злачынца нам трудней было знайсьці, хацеў нашу ўвагу ты ў іншы бок накіраваць... цябе трэба пакараць... хто проці? ёсьць? ніхто? няма? Пастанова прынята.

1-Ы ЧОРТ:

Родны бацька наймілейшы! Прашу кары найстражэйшай! Стражэй трэба пакараць! Мяне трэба расстраляць, каб для іншых прыклад быў...

ЛЮЦЫПАР:

Пайшоў вон!!!»

У тым самым 1943 годзе беларуская грамадскасьць адзначае 60-годзьдзе «бацькі беларускага тэатра», як заслужана называлі яго ў прэсе.

У 1944 годзе ў «Новым шляху» друкуюцца ўспаміны Францішка Аляхновіча пра перадваенны год туляньняў і ўцёкаў ад ГПУ. Ён мяркуе напісаць успаміны пра пачатак беларускага адраджэньня.

Трэцяга сакавіка 1944 года ўвечары да яго прыйшлі два чалавекі. Хутчэй за ўсё — знаёмыя. Нейкі час яны спакойна размаўлялі аб нечым, каля восьмай гадзіны з кабінета Францішка Аляхновіча пачуўся стрэл. Жонка, калі прыбегла да яго, убачыла чалавека, які ўцякаў з хаты. Драматург ляжаў за сваім пісьмовым сталом з прастрэленай галавою. Апошнія ягоныя словы былі: «Звані, звані».

Дасюль невядома, хто ўчыніў гэтае злачынства. Хутчэй за ўсё — чырвоныя дыверсанты. Францішак Аляхновіч, як і Вацлаў Іваноўскі і Уладзіслаў Казлоўскі, уваходзіў у лік асобаў, вызначаных у Маскве на першачарговае зьнішчэньне. Але зрабіць гэта маглі і «акоўцы», баевікі Арміі Краёвай, якія гэтаксама метадычна зьнішчалі беларускую інтэлігенцыю.

Так скончыўся трагічны лёс «бацькі беларускай драматургіі». Францішка Аляхновіча пахавалі на Кальвінісцкім могільніку ў цэнтры Вільні. Пасьля вайны клады зьнеслі. Зацёрся сьлед магілы Францішка Аляхновіча. Было накладзена вета на ягоныя кніжкі, фотаздымкі і кніжкі пра яго. На доўгія гады імя драматурга, аднаго з пачынальнікаў беларускага адраджэньня, выпала зь літаратурнага працэсу. Нібы нябачная пячатка паморку пазначыла гэтыя два словы: ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. І смутным, няясным яшчэ ў тыя 20-я гады прароцтвам гучаць жудасныя радкі яго вершаванага тастаманту:

Як я памру — прабійце сэрца мне калом,
Асінавым калом прабійце його наскрозь.
І закапайце мой глыбока ў зямлю труп
Ды камень, як гару, ўзвалеце мне на гроб,
Каб я устаць не мог...
Ды уцякайце ўсе хутчэй да сваіх хат,
І крыжам пражагнайце хатні свой парог,
І імя вы маё прад ночай ўспамінаць
Забаранеце ўсім: і дзецям, і старым,
Каб я устаць не мог...
Бо ў ноч вясеньнюю, як сівер загудзіць, —
Устану я з магілы,
Страхну зь сябе магільны пыл
І пойду на сяло —
Ад хаты да хаты,
У вокны вашы буду паглядаць,
Сон адганяць з вачэй,
Дзяцей пужаць.
На вуснах сьмех замрэ, як гляну у вакно,
Дзіця заплача ў маткі пры грудзёх,
Магільны холад ўсім па скуры прабяжыць...
На вёску ўсю найдзе якаясь дур:
Дзіця ў лес пабяжыць Цьвет-Папарацьшукаць;
Вясковыя дзяўчаты ўсе пачнуць
Праменьні месяца у косы заплятаць;

А пры дарозе, дзе стаіць за вёскай крыж,
Мужык мацнейшы сук пачне ўжо выбіраць,
І дзягу ад парткоў ў пятлю вязаць
Ён будзе ў гэту ноч...
А дзед сівы грудзямі ляжа на зямлі,
Рукамі абнімаць пачне ён свой загон.
Благаславіць ды праклінаці будзе ён,
Прыльнуўшы да грудзей Маці-Зямлі...
Здаволеным, шчасьлівым я сон з вачэй зганю, —
Няхай не сьпяць, а ў муках хай жывуць,
У страшнай роспачы рукі свае грызуць, —
Няхай не сьпяць!..
Як ужо мне не будзе хапаць сіл,
Я зь віхрам паляту на Лысую Гару,
Там склікаю зусюль начных нячыстых сіл,
Бо сябрам буду іх, як ўжо памру...
Ім дам загад: ляцець, гудзець, трубіць, —
Хай ўсе дрыжаць, моў перад Судным Днём...
Пракляцьце ўсім, хто радасьці спазнаў,
Бо лёс быў наш — мук доўгі, вечны шлях!..
Як я памру — прабійце сэрца мне калом,
Асінавым калом прабійце його наскрозь.
І закапайце мой глыбока ў зямлю труп
Ды камень, як гару, ўзвалеце мне на гроб,
Каб я устаць не мог...

Але Беларусь паступова прачынаецца ад цяжкага летаргічнага сну, і разам зь ёй паўстаюць з небыцьця і лепшыя яе сыны, што ўсё даастатку аддалі ёй. Між імі — і Францішак Аляхновіч зь вечна жывымі творамі і сваім цяжкім і трагічным лёсам.

*Маладосьць. 1990. № 10.*

## ПАЭТ КАХАНЬНЯ І СЬМЕРЦІ

Усё далей ад нас адыходзіць эпоха рамантычнага Беларускага адраджэньня пачатку XX стагодзьдзя. Колькі было запалу! Колькі жаданьня дапамагчы свайму народу «людзьмі звацца»! Колькі гераічнай самаахвярнасьці! І там, сярод беларускіх адраджэнцаў, пачэснае месца займае Максім Багдановіч.

Нарадзіўся Максім Багдановіч 9 сьнежня 1891 года ў Менску. Бацька Максіма — Адам (Адольф) Багдановіч — паходзіў зь сям'і прыгоннай дворні мястэчка Халопенічы, але дзякуючы фенаменальным здольнасьцям — цудоўнай памяці, матэматычнаму, літаратурнаму, аратарскаму таленту і вялікай жыцьцёвай энергіі — сам здолеў пракласьці сабе дарогу ў жыцьці. Пасьля заканчэньня Нясьвіжскай настаўніцкай семінарыі і працы ў каляменскіх вёсках, у час, калі нарадзіўся Максім, ён працаваў загадчыкам першай менскай прыходскай вучэльні. Ён захапіўся зьбіраньнем і вывучэньнем беларускага фальклёру, этнаграфіі і зрабіў немалы ўнёсак у нашу навуку. Адначасова займаўся асьветніцкай і падпольнай рэвалюцыйнай працай. У будынку вучэльні, на другім паверсе, дзе была кватэра Багдановічаў, і нарадзіўся Максім.



Максім Багдановіч, 1911 год

Маці Максіма — Марыя з дому Мякотаў — таксама была адукаваная, высокай культуры жанчына. Яна паходзіла з дарэшты зьбяднелае сям'і, якая мела сьвятарскія, па бацьку, і шляхецкія, па яе маці, карані. Бацька яе, дробны чыноўнік у Ігумене, памёр вельмі рана, і яе здалі ў менскі дзіцячы прытулак. Там яна была заўважаная і ўзятая на выхаваньне менскай губернаторшай. У гэтай сям'і яна атрымала выхаваньне і здолела разьвіць свае творчыя задаткі. Марыя вучылася ў настаўніцкай школе ў Пецярбурзе, але не скончыла яе, а ў 1888 годзе выйшла замуж за маладога, прыгожага і аўтарытэтнага Адама Багдановіча.

Гэта была надзіва шчасьлівая сям'я. Адпаведнае выхаваньне Марыі і неўспрымальнасьць Адама да жыцьцёвага бруду, які яму давялося пабачыць, уздымаючыся зь ніжэйшых слаёў грамадства, ягоны невычэрпны аптымізм заклалі моцны падмурак для шчырае любові і несупыннага захапленьня адно другім.

Максім быў другім дзіцём у сям'і. Адам Багдановіч так апісвае яго нараджэньне: «Не шмат ён прынёс пакутаў сваёй маці, не тое, што старэйшы брат. Усё адбылося вечарам, я даваў урокі ў яўрэйскай рамесьніцкай вучэльні, куды і прыехалі па мяне. Тады я прыехаў з акушэркаю, захапіўшы яе па дарозе. Не мінула і паўгадзіны, як незадаволены крык новазьяўленага чалавечка радасна адбіўся ў маім сэрцы, і спакутаванае аблічча маці стала звычайным і асьвяцілася шчасьліваю ўсьмешкаю».

Але ў Менску сям'я Багдановічаў надоўга не затрымалася. Улетку 1892 года ў Адама горлам пайшла кроў, і ён быў вымушаны кінуць настаўніцкую працу і пераехаць у Гародню, дзе знайшоў службу ў Сялянскім банку. Туды ж у хуткім часе пераязджае і ўся сям'я Багдановічаў.

Марыя Багдановіч выхоўвала дзяцей па навамоднай тады фрэйбелеўскай сістэме. Простыя гульні заўсёды мелі пэўны падтэкст. Яна сама часта шчыра захаплялася імі. Часта, калі Адам Багдановіч вяртаўся з працы дадому, дык ён зь цяжкасьцю мог зразумець, дзе бегалі і весяліліся дзеці, а дзе — маці. «Незвычайная жывасьць успрыманьня, пачуцьця і рухаў была асноўнай, выключнай рысай яе натуры» — так ён апісвае сваю жонку.

У гэты час, па-за асноўнай працай, Адам Багдановіч з захапленьнем вывучае беларускі фальклёр, актыўна друкуецца ў гарадзенскай газеце на тэмы педагогікі, фальклёру, краязнаўства. У 1895 годзе ён выдае кнігу «Перажыткі старажытнага сьветасузіраньня ў беларусаў», якая стала значнай зьяваю ў дасьледаваньні беларускага фальклёру, звычаяў і традыцыяў беларускага народа.

Такія рысы характару Адама Багдановіча, як незвычайная працавітасьць, жыцьцёвы рамантызм, літаратурны талент, праявяцца пазьней у Максіма Багдановіча. Такім чынам, ён пацьвердзіў тэорыю спадчыннасьці, прыхільнікам якой быў ягоны бацька. Максім узяў усё самае лепшае ў сваіх бацькоў.

З падзей маленства вельмі важнай і запамінальнай была для Максіма паездка ў 1895 годзе з маткай у вёску Вязьзе



Адкрыццё Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Менску. Сьнежань 1991 года

пад Асіповічы да яе сястры Стэфы. Там на некалькі месяцаў дзеці апынуліся ў жывой беларускамоўнай стыхіі. І ці не вязьзеўскія ўражаньні, хай сабе і на ўзроўні падсьвядомасьці, дапамаглі пазьней Максіму вярнуцца да беларускай мовы як да сваёй, роднай? Засталася кранальная перапіска Марыі і Адама Багдановічаў гэтага перыяду.

У 1896 годзе сям'ю Багдановічаў напаткала вялікае гора: пасьля нараджэньня чацьвёртага дзіцяці Марыя Багдановіч захварэла на сухоты і неўзабаве памерла. Адам Ягоравіч цяжка пераносіў сьмерць любімай жонкі. Калі толькі надарылася магчымасьць, ён у канцы 1896 года, баронячыся ад пакутлівых успамінаў і ратуючы дзяцей ад неспрыяльнага, залішне вільготнага клімату, пераязджае ў Ніжні Ноўгарад. Тут, у глыбіні Расеі, пачынаецца новая старонка ў жыцьці сям'і Багдановічаў.

Адам Ягоравіч хутка стаў сваім сярод інтэлектуальнай, прагрэсіўнай эліты горада. Ягоныя сябры — лепшы адвакат горада Ланін, дырэктар гімназіі і навуковец Шчарбакоў, доктар Залатніцкі. Добрым сябрам Адама Багдановіча быў Максім Горкі, чыя зорка толькі ўзыходзіла на літаратурным небасхіле рускай літаратуры.

Адпаведна і Максім Багдановіч з маленства жыў у атмасферы лепшых традыцыяў прагрэсіўнай інтэлігенцыі, якая бачыла сваё пакліканьне ў служэньні народу. Мы можам сабе ўявіць, што ціхія, давяральныя гаворкі дарослых пра лёс народа, грамадскія дабрачынныя акцыі, бясконцыя арышты неўгамоннага Горкага выклікалі спачуваньне і адчуваньне агульнай несправядлівасьці ў Максіма. Блізкія стасункі сям'і Багдановічаў зь сям'ёй Горкага рабілі больш зразумелым і даступным для Максіма і пісьменьніцкае рамяство.

У 1899 годзе Адам Ягоравіч ажаніўся з маладзенькай Аляксандрай Волжынай, роднай сястрой жонкі Максіма Горкага. Такім чынам, іхнія сем'і парадніліся.

У гэты ж час Адам Багдановіч вельмі ўважліва і рупна займаецца выхаваньнем сваіх сыноў, кожны зь якіх меў вялікія здольнасьці. Але любы каштоўны камень патрабуе апрацоўкі. Так і дзіцячая душа. Увесь свой немалы педагагічны талент ён аддаваў дзецям, сам вучыў іх пісаць і чытаць, а затым паступова прыадчыняў перад імі чароўны сьвет казак і эпасаў розных народаў, такім чынам закладаючы падмурак для разьвіцьця мастацкага густу, фантазіі і інтэлекту. Як гэта потым прыдасца Максіму!

Літаратурныя падарожжы часта замяняліся рэальнымі выправамі. Часта бацька выводзіў дзяцей на ўзбярэжжы Волгі і Акі, якія зьліваліся тут, у Ніжнім, браў з сабою падчас сваіх камандзіровак у расейскую глыбінку: вучыў любіць прыроду, назіраць за ёй.

Але няшчасьце ішло сьледам за сям'ёй Багдановічаў. Пры родах у гэтым жа 1899 годзе памірае другая жонка Адама Ягоравіча. Сына, якога ў памяць пра маці назвалі Аляксандрам, бярэ на выхаваньне жонка Максіма Горкага Кацяры-

на. У дзіцячай памяці паэта назаўсёды застанецца маладая цяжарная жанчына зь яе трагічным лёсам. Пра гэта ён пазьней напіша ў вершы:

Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла;
Мілым кветам рожа зацвіла.
Тут калісьці ты, мой друг, спачыла, —
Спарадзіла ў муках і лягла...

Максім Багдановіч будзе яшчэ і яшчэ раз вяртацца ў вершах да таямнічай дзеі прыроды, якая вельмі тонкай мяжою адзьдзяляе жыцьцё ад сьмерці. На ягоных вачах зьявяцца на сьвет наступныя чатыры ягоныя браты ад трэцяй бацькавай жонкі — Аляксандры Мякоты, роднай сястры яго маці...

Вучоба ў гімназіі, калі меркаваць па адзнаках, ішла ў Максіма пасрэдна. Бацька адчыніў перад ім сапраўдны сьвет па-за сьценамі гімназіі, і кола зацікаўленьняў Максіма ляжала там. З аднаго боку, гэта было натуральным і заканамерным. Бацька быў дасьледчыкам беларускага фальклёру, меў уласную кніжку, надрукаваў не адзін дзясятак артыкулаў. У ягоным архіве ляжала не адна сотня старонак запісаў нашых цудоўных песень, казак, абрадаў. Ён чытаў дзецям беларускія казкі, у ягонай бібліятэцы было ці не ўсё, што выйшла на той час па-беларуску і на беларускую тэматыку. Урэшце, ён усьведамляў сябе беларусам і не саромеўся гэтага.

Мы ведаем, што беларуская атмасфера панавала і ў сем'ях сясьцёр Адама Багдановіча, якія таксама жылі ў Ніжнім Ноўгарадзе.

З другога боку, такое раньняе рамантычнае захапленьне беларушчынай, беларускім народам, які на той час уяўляў несьвядомы этнаграфічны масіў з туманнымі персьпектывамі ў галіне нацыянальнага разьвіцьця, было выклікана ў Максіма і ягонай уласнай акрэсьленай пазіцыяй. Думаецца, сьвет беларускіх уяўленьняў яго быў значна шырэйшы, чым лічыцца. Адам Багдановіч у сваіх «Успамінах» прызнаецца, што

ясна памятае сябе з двухгадовага ўзросту. Натуральна меркаваць, што спадчынная памяць у Максіма была не горшая. А тое далёкае беларускае жыцьцё было зьвязана ў яго яшчэ і з балюча-прыцягальнай памяцьцю пра маці.

Як адзначае Адам Багдановіч, свае першыя літаратурныя практыкаваньні па-беларуску Максім зрабіў у дзесяцігадовым узросьце.

Набыцьцё ведаў ішло ў Максіма часам разам, а часам паралельна з гімназічным навучаньнем. Але, нягледзячы на сьціплыя адзнакі ў гімназіі, ён даволі добра ведаў замежныя мовы, што дазволіла яму пазьней стаць адным з самых універсальных перакладчыкаў на беларускую мову.

У чацьвёртым класе Максіма нават пакідаюць на другі год. Ішоў 1906 год. Максім захапляецца гімназічнымі сходамі, чытае выданьні рэвалюцыянераў-анархістаў, удзельнічае ў гімназічным анархісцкім гуртку і нават бярэ ўдзел у «тэрарыстычным акце» — разам з аднакласьнікамі пад лесьвіцай у гімназіі ўзрывае «бомбу» — бляшанку з порахам.

Да служэньня роднаму беларускаму народу канчаткова схілілі юнага Максіма Багдановіча першыя беларускія газеты «Наша доля» і «Наша Ніва», якія пачалі выходзіць у далёкай Вільні і якія выпісала яму, верагодна па яго просьбе, хросная маці Максіма — Вольга Сёмава, што жыла тады ў Пінску.

«Наша доля», а затым «Наша Ніва» — арганізатары і штабы беларускага нацыянальнага руху, сьветлыя ластаўкі надзеі — утварылі прадушыну для беларускага прыгожага пісьменства, якое шпарка пайшло ў рост.

Можна ўявіць, як натхняла беларуская перыёдыка Максіма Багдановіча да пісаньня! Ёсьць газета — значыць, будзе магчымасьць друкавацца, значыць, творы не зжаўцеюць у стале, а дойдуць да беларусаў і дапамогуць народу ў ягоным нацыянальным і культурным росквіце.

Першым творам Максіма Багдановіча, надрукаваным у «Нашай Ніве» (ліпень 1907 г.), было невялікае памерам апавяданьне «Музыка». У ім адразу выявілася манера аўтара

прыхоўваць пад мастацкай абалонкай твора, выкарыстоўваючы, здавалася б, просты сюжэт, пэўны філасофскі падтэкст. Такім чынам, твор рабіўся як бы шматгранным, кожная грань якога была адшліфаваная паэтам і блішчэла непадобна, пановаму. У далейшым Максім Багдановіч па-майстэрску адточыць гэтае сваё ўменьне.

Немудрагелісты сюжэт «Музыкі»: Музыка меў уплыў на людзей. Ён ведаў, як трэба граць, каб быць пачутым і зразумелым людзям. Але ён памёр, і ў народзе засталася толькі памяць пра яго. Але яшчэ прыйдзе час для новых музыкаў, сьцьвярджае аўтар.

Здавалася б, гэта ўсяго толькі апрацоўка народнага паданьня пра вечнае жаданьне шчасьця, пра спадзяваньне на лепшую долю. Разам з аўтарам мы бачым таксама ў Музыку тыя ранейшыя таленты, інтэлектуальныя і палітычныя дзейсныя сілы, якія ў старадаўнія часы мудра парадкавалі жыцьцё народа, але былі зьнішчаныя ці перарадзіліся. У тых, хто падмяніў Музыку, «іхняе граньне нічога людзям не сказала». Бо Музыка ў свой час «усю душу ўклаў у ігру».

Адразу ж прыгадаем «Дудку беларускую» Францішка Багушэвіча, які пісаў у прадмове да зборніка, што «язык і ёсьць адзежа душы». Роля палітычных і духоўных лідараў надзвычай важная ў жыцьці народа, прыводзіць нас да такой думкі аўтар.

Максім Багдановіч спадзяецца, што зьявяцца дзясяткі новых «музыкаў» у беларускім народзе, якія дапамогуць яму выйсьці з доўгага «летаргічнага сну», як выкажацца ён пазьней.

У 1908 годзе сям'я Багдановічаў пераязджае ў Яраслаўль. Туды па службе перавялі Адама Багдановіча, які не даваў ніжненаўгародскаму дваранству і зямельным сьпекулянтам нажывацца на продажы зямлі. Зь Яраслаўлем у Максіма Багдановіча зьвязаны асноўны перыяд жыцьця і літаратурнай творчасьці. Тут распусьціцца і заквітнее ягоная дзівосная, нетутэйшая кветка таленту. Тут ён будзе кахаць і пакутаваць. Тут ён стане Беларускім Паэтам.

Зьяўленьне новага беларускага паэта на берагах далёкае Волгі, паводле ўспамінаў тагачаснага сакратара «Нашай Нівы» Вацлава Ластоўскага, была неадназначна ўспрынята «нашаніўскімі» культурніцкімі дзеячамі. Той-сёй палічыў яго дэкадэнтам, а матывы ягоных твораў неактуальнымі для дэмакратычнага беларускага руху. Частка зь першых дасланых паэтам вершаў пайшла ў архіў. Ды заступіліся Янка Купала і Сяргей Палуян. І своеасаблівасьць таленту паэта, ягоную непадобнасьць да іншых хутка зразумелі і ацанілі. З 1909 года Максім Багдановіч рэгулярна пачынае друкавацца на старонках «Нашай Нівы».

Побач з добра адшліфаванымі, але традыцыйнымі для тагачаснай беларускай паэзіі грамадзянскімі матывамі («Брацьця! Ці зможам грамадскае гора?! Брацьця! Ці хваце нам сілы?!») у вершах Максіма Багдановіча ажылі чароўныя вобразы беларускай міфалогіі:

Ўсё дзіка, пустынна імшыцца.
Агністая сьпёка стаіць.
На моху між сьпелай брусьніцы
Лясун адзінокі ляжыць.

*(«Лясун»)*

У радках паэта закугукалі пугачы, папаўзьлі зьмяіныя цары, заплёскалі русалкі. Усе гэтыя вобразы перасяліліся ў вершы Максіма Багдановіча з бацькавай кніжкі «Перажыткі старажытнага сьветасузіраньня ў беларусаў», куды яны, у сваю чаргу, трапілі з вуснаў Максімавай прабабкі — Рузалі. Так старажытная сямейная традыцыя пераказу паданьняў стала агульнанацыянальнай.

Але такі, мабыць, чалавечы лёс, што ён патрабуе вялікую плату за ўсё, што даецца звыш. Сьцюдзёны подых року сям'і Багдановічаў — сухоты — патыхнуў і на Максіма. Праявы гэтай хваробы зьявіліся ў яго неўзабаве пасьля сьмерці ў 1908 годзе ад сухотаў старэйшага брата Вадзіма. Дактары прапісалі лячэньне ў Крыме.

Лячыўся паэт у пансіёне «Шалаш», недалёка ад Ялты. У вершах Максіма Багдановіча зьявіўся тужлівы матыў недалёкай сьмерці:

Я, бальны, бяскрыдлаты паэт!
Мо жыцьця майго верш ужо сьпет...

*(«Я, бальны, бяскрыдлаты паэт...»)*

Дзе выйсьце? Хіба ж справядліва — паміраць маладым? Максім пачынае шукаць апору, але не знаходзіць яе:

Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.
Над зямлёю імгла, у душы пустата.

*(«Цемень»)*

Урэшце верх бярэ маладосьць, прага да жыцьця, спадзяваньні на лепшае. Увесь 1910 год прайшоў у руплівай працы. «Словарь белорускаго наречія» Івана Насовіча — яго настольная кніга. Максім шліфуе сваю беларускую мову, упарта працуючы над вершамі, бясконца перапісвае радкі, адточвае думку, вобраз. І дасягае праўдзівых вяршыняў. Словы беларускай мовы для яго — каштоўныя камяні. Ён малюе словамі, ствараючы яркія і запамінальныя карціны:

Вечар на захадзе ў попеле тушыць
Кучу чырвоных кавалкаў вугля...

*(«Вечар на захадзе ў попеле тушыць...»)*

Ягоныя эксьперыменты ў сферы спалучэньня гукавых, вобразных і рытмічных радкоў даюць бліскучыя вынікі. Вершы Максіма літаральна напаўняюцца энергіяй жыцьця:

Па-над белым пухам вішняў,
Быццам сіні аганёк,

Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі
Сінякрылы матылёк.

*(«Па-над белым пухам вішняў...»)*

Дзе там хвароба, дзе там думкі пра сьмерць! Юнацкі задор ды імпэт перапаўняюць бы з золата літыя радкі:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!

*(«Зімой»)*

Паэт авалодаў майстэрствам стварэньня настрою ў вершах. Здаецца, няма такіх пачуцьцёвых, эмацыйных адценьняў, якія б ён не мог перадаць у сваіх творах. Зімовы малюнак у іншым вершы, да прыкладу, набывае зусім іншы каларыт:

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць пад дугой...

*(«Зімовая дарога»)*

Захапленьне Максіма Багдановіча класічнымі формамі паэзіі знаходзіць увасабленьне ў трыялетах і пентаметрах. У гэты час ён актыўна выкарыстоўвае антычныя вобразы са старажытнай грэчаскай міфалогіі: «Калі зваліў дужы Гэракл у пыл Антэя...», апелюе да знакамітых старажытных папярэднікаў: «Бледны, хілы, ўсё ж люблю я Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!» І зноў гучаць у некаторых вершах матывы сьмерці. Але ў іх ужо адчуваецца спакой і як бы прымірэньне з наканаваным лёсам. Здаецца, што паэт звыкся з думкаю пра сьмерць і асэнсаваньне яе пераходзіць з рэчышча пачуцьцёвага ў рэчышча філасофскае і сузіральнае. Паэт не бунтуе супраць сьмерці і не лякаецца яе, ён паказвае і перадае настрой суму і велічы, якія заўсёды крочыць побач са сьмерцю:

Скрылась кветкамі ў полі магіла,
Зарасла бур'яном і травой,
І ўжо памяць людская забыла,
Хто пахованы тут пад зямлёй.

*(«Скрылась кветкамі ў полі магіла...»)*

Назіраньні за жаночай цяжарнасьцю, можна меркаваць, сваёй мачахі і цёткі Аляксандры, загадкавасьць нараджэньня і таямнічага высьпяваньня жыцьця, жаданьне зразумець гэта і суперажываньне падштурхоўвае Максіма Багдановіча да стварэньня вершаў ад імя цяжарнай кабеты ці пра яе, што ўвайшлі ў цыкл «Каханьне і сьмерць»:

Ціха ідзеш ты, у нетрах дзіцёнка хадою калышаш,
Цёмнай і цёплай яму служыш калыскай цяпер.

*(«Да вагітнай»)*

Здаецца, што пад пяром паэта зьніклі ўсе перашкоды. Менавіта так, разьвіцьцё таленту Максіма Багдановіча ўспрымаецца як няўхільнае пераадоленьне перашкодаў. І вось ужо няма такога малюнка, сюжэта, пачуцьця, лёгкай зьмены настрою, стану душы, што ён не здолеў бы пераўвасобіць у верш. Максіма Багдановіч, сам не ведаючы таго, стаў вялікім паэтам. Ды і ці здагадваўся пра гэта ўвогуле хто-небудзь у той час...

Шмат папрокаў атрымаў ад біёграфаў Максіма Багдановіча бацька паэта. Маўляў, не праяўляў належнай цікавасьці да творчасьці сына, не падтрымаў ягоны талент, а пасьля сканчэньня гімназіі не дазволіў Максіму паехаць вучыцца на філолага ў Пецярбург, каб там вывучаць «беларусіку» прафесійна. Гэтыя папрокі засноўваюцца на... успамінах самога Адама Багдановіча.

Роля бацькі Максіма бачыцца мне зусім іншай: ён зрабіў усё, каб сын атрымаў самыя шырокія веды і займеў магутную гуманітарную базу, на якой далей разьвіваўся талент

Максіма. Ягоныя грамадскія погляды і жыцьцёвая пазіцыя, кола знаёмых і надзвычайная працавітасьць дадатна паўплывалі на фармаваньне Максіма. Адам Багдановіч даў магчымасьць сыну спакойна вучыцца, жыць, не думаць пра кавалак хлеба і займацца сваёй улюбёнай справай. Што ж да Пецярбурга, то бацька не пусьціў туды сына найперш беручы ў разьлік неспрыяльны для яго здароўя клімат. Гэтым самым Адам Ягоравіч фактычна працягнуў жыцьцё Максіму.

Нягледзячы на ўсю сваю стрыманасьць і замкнутасьць, якраз да бацькі хадзіў Максім дзяліцца сваімі ўражаньнямі аб разьвіцьці беларускай літаратуры. А тое, што бацька не лічыў літаратурныя заняткі сына паважнай справай, дык жа ведаў, што гэта не дасьць Максіму хлеба. А перспектывы? Перспектывы беларушчыны былі тады значна больш цьмянымі, чым цяпер... Але ў іх безаглядна верыла беларуская моладзь у Вільні і Менску і, што важна для нас, непахісна верыў Максім Багдановіч.

У чэрвені 1911 года Максім заканчвае гімназію і па настойлівых просьбах бацькі паступае ў Яраслаўскі юрыдычны ліцэй. А на лета едзе ў Беларусь, куды яго запрасіла рэдакцыя «Нашай Нівы». Ён спыняецца на некалькі дзён у Вільні, дзе адбыліся надзвычай важныя для Максіма гутаркі аб перспектывах беларускага адраджэньня з Вацлавам Ластоўскім, Іванам ды Антонам Луцкевічамі. Максім Багдановіч напоўніцу дыхае рамантызмам беларускага рэнесансу.

Максім жыве ў рэдакцыі «Нашай Нівы», захапляецца калекцыяй старажытнасьцяў, сабраных Іванам Луцкевічам, яго ўражвае старая Вільня. Ён гуляе па старажытных вулках Вільні, любуецца Вострай Брамай, прыслухоўваецца да вечаровых гукаў і шорахаў у старым горадзе, чуйна ўпітвае атмасферу, запамінае бытавыя сцэнкі і зноў шукае і знаходзіць праявы жыцьця і сьмерці ў старой беларускай сталіцы.

Затым паэт едзе адпачываць да дзядзькі Луцкевічаў Вацлава Лычкоўскага, які меў маёнтак побач зь вёскай Ракуцёўшчына, на Маладзечаншчыне. На цягніку ён дабіраецца да станцыі Вуша, а затым на брычцы, паўз красьненскі кась-

цёл, які яшчэ стаяў у рыштаваньнях, праз Пакроўскую царкву яго вязуць у маёнтак.

Маляўнічыя мясьціны Ракуцёўшчыны, ляскі і лагчыны, крынічка, якая бруіла непадалёк, вясёлая дзявоцкая кампанія — там у гэты час таксама адпачывалі маладыя сваячкі гаспадара Ядвіга Русецкая і Эмілія Шабуня, беларускія песьні, якія сьпявалі сялянкі, ідучы паўз маёнтак па дарозе ў Ракуцёўшчыну, народны побыт далі Максіму магутны штуршок для творчасьці. Яны надалі яму аптымізму і энергіі на доўгія гады. Упершыню, будучы ўжо дарослым, не па кніжках і пераказах бацькі і цётак ён спаткаўся зь Беларусьсю, дзеля якой ён жыў і пісаў, якой ён так палка жадаў дабра. І гэта была тая Беларусь, як ён сабе яе ўяўляў.

Усё лета пражыў Максім Багдановіч у асобнай невялічкай хатцы, якая стаяла непадалёк ад галоўнага будынка і якую яму выдзеліў гаспадар, зважаючы на ягонае здароўе. Там цудоўна пісалася. У вокны шаргацела гольле сьліваў, пасярэдзіне двара раскашаваў вялізны цёмна-зялёны куст бэзу.

Адбыўся своеасаблівы паэтычны выбух. Віленскія і ракуцёўскія ўражаньні вершамі выліваліся на паперу. Ён стварае гарадскі цыкл вершаў — «Места», хіба што самы паэтычны цыкл вершаў пра горад у беларускай літаратуры, прысьвечаны вялікай Вільні, духоўнай Меццы беларусаў.

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тратуароў...

*(«Вулкі Вільні»)*

Вільня літаральна зачаравала Максіма. Ягоная Беларушчына паўставала тут на магутным гістарычным падмурку, дзе кожны камень быў зьнітаваны з нашай гісторыяй:

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасьвецкіх будынкаў;

*(«Вулкі Вільні»)*

Вельмі ўразіў Максіма касьцёл Сьвятой Ганны. Паэт-штукар захапіўся архітэктурным штукарствам сваіх продкаў і не мог не выказаць сваё захапленьне:

Каб залячыць у сэрцы раны,
Забыць пра долі цяжкі глум,
Прыйдзіце да касьцёла Анны,
Там зьнікнуць сьцені цяжкіх дум.

*(«Касьцёл сьв. Анны ў Вільні»)*

Не маглі забыцца ў Ракуцёўшчыне і тыя памяткі беларускай старажытнасьці, якія паэт убачыў у Вільні ў зборы Івана Луцкевіча, а таксама мройныя, на ўсю ноч, размовы з сакратаром «Нашай Нівы» Вацлавам Ластоўскім пра славутую мінуўшчыну Беларусі. Хіба можна было паверыць, што краіна, якая мела такую гісторыю, не ўзьнімецца з заняпаду? Максім думае пра ўсё гэтае ў Ракуцёўшчыне і стварае яшчэ адзін зь лепшых сваіх цыклаў вершаў — «Старая Беларусь». І загучаць разьмераныя радкі:

Вось псальма сьлічная. «Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я»...

*(«Кніга»)*

У гэты цыкл уключаны і «Слуцкія ткачыхі» — ці не адзін з самых дасканалых твораў Максіма Багдановіча. Верш захапляе не толькі адточанасьцю думкі і вобразаў, сапраўды беларускай інтанацыяй і гэткім жа ж спакойным, сьветлым, журботным настроем. Ён адначасна і гістарычны і патрыятычны, і вельмі душэўны, асабісты. Паэт бачыць вытокі «красы», мастацтва ў непазьбежнай ахвярнасьці. Дзяўчаты-ткальлі, узятыя ў няволю «дзеля красы», — яе служкі. Іхнія пакуты — плата за стварэньне «красы». Шчасьлівы і задаволены чалавек не здольны да вышэйшага духоўнага ўзьлёту. Максім Багдановіч, творачы «красу», на сабе адчуваў цяжкую працу «перапісчыка» і «ткача».

У Ракуцёўшчыне паэт напісаў таксама дзьве невялікія паэмы: «У вёсцы» — абразок з убачанага вясковага жыцьця, з апісаньнем самой Ракуцёўшчыны:

З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі — шэрыя, струхлеўшые; як латы
Віднеліся ў сьценах сьляпые вокны іх
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.

*(«У вёсцы»)*, —

і «Вэроніку». Падставай для яе зьяўленьня было каханьне Максіма да Ганны Какуевай, сястры ягонага аднакласьніка па Яраслаўскай гімназіі Рафаіла Какуева. Частка Максімавай душы ўвесь гэты час заставалася ў Яраслаўлі.

Паэт аб'яднаў гэтыя паэмы ў цыкл «Мадонны» і прысьвяціў яго Ганьне. Неспатольнае жаданьне паэта ва ўсялякіх праявах жыцьця знайсьці прыгажосьць і адбіць яе ў сваіх творах. І ў васьмігадовай дзяўчынцы, і ў абліччы каханай ён бачыць рысы рафаэлеўскай Мадонны, ён бачыць несьмяротную прыгажосьць. Краса захапляе яго больш за ўсё. Краса падаецца паэту самаіснаю і самадастатковаю.

Каханьне да Ганны, з думкаю пра якую ён зноў прыехаў у Яраслаўль, засталося безадказным. Супраць — цётка Ганны, якая яе выхоўвала, бо маці Ганны памерла ад сухотаў. Гэтую ж няўлоўную пячатку сьмерці цётка бачыць на чале Максіма... Максім спрабуе супраціўляцца і пратэставаць, натуральна... у вершах:

Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна
Рабіць обыск у маім сэрцы...

*(«Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна...»)*

Ганна, старэйшая на год за Максіма, зьязджае на вучобу ў Пецярбург. Ён застаецца ў Яраслаўлі і падчас расстаньня, сумуючы па ёй, напіша поўны пяшчоты раманс «Зорка Вэне-

ра» — тая зорка, якая ў ягонай палкай фантазіі і магла б аб'яднаць яго і такую цяпер нерэальную, амаль што ўяўную каханую.

Увесь 1912 год праходзіць у паэта ў рупнай працы. Яшчэ сьвежыя ўспаміны пасьля наведваньня Беларусі, і душа ягоная канчаткова перасяляецца туды:

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край родны мой!

*(«Даўно ўжо целам я хварэю...»)*

Хвароба не адыходзіць, і паэт шукае трагічныя праявы сьмерці ў прыродзе. Ён спрабуе знайсьці красу і ў сьмерці:

Падаюць вішняў цьвяты, і разносіць іх вецер халодны;
Сьнегам у чорную гразь падаюць вішняў цьвяты.

*(«Непагодаю маёвай»)*

У гэты ж час ён стварае цыкл вершаў «Каханьне і сьмерць».

Ідзе падрыхтоўка да першага зборніка вершаў, які, па замыслу паэта, павінен быў пашырыць даляглядны адроджанай беларускай паэзіі ў некалькіх напрамках. Адзін са шляхоў — пераклады, якія мусілі паказаць, што беларуская мова здатная на перадачу самых разнастайных і далікатных пачуцьцяў. Таму для перакладу Максімам былі абраныя вершы аднаго з самых тонкіх лірыкаў у сусьветнай паэзіі і ягоных любімых паэтаў — французскі паэт Поль Вэрлен. Ягоныя вершы натуральна загучалі ў перакладзе на беларускую мову. Узровень таленту Максіма Багдановіча ўзьняў пераклады на вышыні высокамастацкіх арыгінальных твораў:

Раяль цалуе тонкая рука
У час вячэрні, шэра-ружаваты;

І на крылах, цішэй ад вецярка,
Ў паветры мяккім, пекным паплыла ты
Пужліва, песьня, і срэдзь комнат хаты
Шчэ доўга веяў пах, як ад цьвятка...

*(«Раяль цалуе тонкая рука...»)*

Найбольш выразна ягоныя магчымасьці ў гэтым накірунку праявіліся ў вершах, напісаных адметнымі паэтычнымі формамі. Сам паэт пісаў, што, працуючы над «даўнейшымі формамі верша», ён мае на ўвазе «ня толькі іх красу... але і жаданьне прышчапіць да беларускай пісьменнасьці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш эўрапейскі выгляд».

Пераважна сялянская беларуская мова, адлітая ім у класічных формах, заіскрылася прыгажосьцю і выкшталцонасьцю і ў такім выглядзе выходзіла на еўрапейскі абсяг, што і ставіў сабе за мэту паэт: «Хацеў я давесьці здатнасьць нашай мовы да самых строгіх вымогココ вершаванай формы...» У наборы апрабаваных ім паэтычных формаў ёсьць трыялеты, санеты, пентаметры, рандо і тэрцыны.

У 1913 годзе паэт напісаў, па яго словах, шмат «вытанчаных» вершаў. Ён зноў вяртаецца да сваёй улюбёнай тэмы — сьмерці і каханьня. Год пачынаецца няўдала, ён хварэе на запаленьне лёгкіх, ляжыць у ложку з тэмператураю і піша:

Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах
Ля склепу. Часам лёгкі пах
Сюды даносіцца ад рожы.
Паўсюль крыжы, вянкі... Чаго ж
Тут, дзе магілы, сьцень і прах,
Амур і сумны і прыгожы
Стаіць з павязкай на вачах?

*(«На могілках»)*

Максім шукае тую сілу, якая магла б перамагчы сьмерць. Можа, гэта каханьне? Можа быць, можа... Думкі пра Ганну Какуеву не пакідаюць яго. Яна — у далёкім Пецярбургу, а ён? Ён стварае кранальны «Эпілог да паэмы “Вэроніка”», напоўнены невымоўным смуткам і адначасна сьветлай і ціхай радасьцю:

Чым болі сходзіць дзён, начэй,
Тым імя мілае вышэй.

*(«Ізноў пабачыў я сялібы»)*

Аддаленасьць Максіма Багдановіча ад штодзённых клопатаў беларускага нацыяльнага жыцьця дапамагала яму засяродзіцца на грунтоўнейшых і адвечных пытаньнях, адно зь якіх выклікала вялікую дыскусію ў «Нашай Ніве». Што важней у творы — форма ці зьмест? На гэтае пытаньне чарговы для сябе раз паэт спрабуе адказаць у апавяданьні «Апокрыф». «Нашто каласы, калі няма васількоў?» — пытаецца ён вуснамі Хрыста. Краса, сьцьвярджае паэт, не патрабуе апраўданьня і мэтазгоднасьці, бо «сама краса і ёсьць той спажытак для душы». Яшчэ больш выразна на гэты конт выказаўся Максім у «Апавяданьні аб іконьніку і залатару...», напісаным ім праз год: «не тое, што майстар малюе, а толькі тое, як ён гэта робіць, толькі здольнасьць і ўлежнасьць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасьць надаваць».

Пазіцыя Максіма Багдановіча была надзвычай важная для вызначэньня шляхоў, па якіх разьвівалася тагачасная беларуская літаратура. Па вялікім рахунку, кожная літаратура ў сьвеце цікавая сваім агульнакаштоўным элементам, «красой», прыбранай у нацыянальную вопратку, прасякнутай нацыянальным духам. Гэта і спрабаваў давесьці Максім Багдановіч, але рэаліі драматычнага жыцьця беларускага народа, тым не менш, не абміналі і яго. Развагі пра «красу», натуральна, мяжуюцца ў паэта з разуменьнем, для каго і на якой мове ён піша. Ён не баіцца ў сваіх творах сурова і з горыччу кінуць:

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сьляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі зь ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.

*(«Народ, Беларускі Народ!..»)*

У гэтым жа 1913 годзе выйшаў крытычны артыкул Максіма Багдановіча «За тры гады», у якім ён спрабуе вызначыць «узрост вартасьці твораў нашых пісьменьнікаў». Ягоныя крытычныя заўвагі і аналіз становяцца больш дакладнымі. Ён даволі аб’ектыўна ацэньвае тагачасны стан беларускай літаратуры. Бясспрэчна, што крытычныя ацэнкі даваў чалавек, шчыра зацікаўлены ў разьвіцьці беларускага прыгожага пісьменства.

У кастрычніку 1913 года ён хварэе зноў. Але паэт спакойны. Ён ужо вызначыў сваё месца ў гэтым сьвеце:

Няяркая, маленькая вясёлка!
Праз гэта ты і даспадобы мне,
Бо я адну з табою долю маю —
Зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне.

*(«Просьценькі вершык»)*

Прыкладна ў гэты час у Яраслаўль зь Ніжняга Ноўгарада ў госьці прыязджае стрыечная сястра Максіма Ганна Гапановіч, ці, як яе звалі сваякі, — Нюта. Зь ёй у Максіма Багдановіча былі цёплыя сяброўскія адносіны, якія, можна лічыць, знаходзіліся на мяжы захапленьня. Нюце Максім прысьвеціць некалькі вершаў.

А на пачатку 1914 года да Максіма прыходзіць вялікая радасьць. У Вільні выйшла кніжка ягоных вершаў «Вянок». Складзеная пры ўдзеле Вацлава Ластоўскага, кніга атрымалася адной з самых удалых за ўсю гісторыю беларускіх вершаваных зборнікаў. Сьвежасьцю зьместу, даска-

наласьцю формы зьдзіўлялі чытача зьмешчаныя ў ёй вершаваныя цыклы.

Цыкл «У зачараваным царстве» ўтрымліваў вершы, у якіх былі перапрацаваныя фальклёрныя вобразы беларускай міфалогіі і вершы, прысьвечаныя прыгажосьці беларускай прыроды. Гэта была Максімава Беларусь зьмяінага цара, вадзянікоў і лесуноў, пастаральных летніх краявідаў і сумных восеньскіх пейзажаў, зімовых тумаоў і вясновага трымценьня матылька. Гэта была прывідная і прынадная Беларусь, якая зачаравала ягонае сэрца сваёй вонкавай і глыбіннай прыгажосьцю.

Нізка вершаў «Згукі бацькаўшчыны» была ягонай першай спробай апрацаваць фальклёрныя песенныя матывы, часам насьледуючы фальклёрныя сюжэты, часам укладаючы свой, важны для паэта зьмест у фальклёрную форму верша. Адвечным беларускім сумам павявае ад «Згукаў Бацькаўшчыны».

У цыкле «Старая Беларусь» сабраныя вершы, прысьвечаныя славутай беларускай мінуўшчыне, а ў цыкле «Места» — сучаснаму для паэта каменнаму гораду. У «Думах» і «Вольных думах» аб’яднаныя разнастайныя па стылі і тэмах вершы, якія сапраўды падобныя на разнастайныя думкі простага, слабога, а часам і вельмі моцнага чалавека, які жыве ў гэтым сьвеце. А цыкл «Старая спадчына» аб’яднаў вершы, напісаныя разнастайнымі формамі вершаскладаньня, і пяць перакладаў. Заканчваюць зборнік дзьве паэмы «У вёсцы» і «Вераніка», аб’яднаныя ў адзін цыкл «Мадонны».

І хаця сам аўтар бачыць «Вянок» не зусім такім, як ён жадаў бы, у прыватнасьці, у зборнік не ўвайшоў цыкл вершаў «Каханьне і сьмерць», але няма межаў дасканаласьці.

Антон Луцкевіч у першай рэцэнзіі на «Вянок» дае вельмі высокую ацэнку зборніку, даводзячы, што гэта «праўдзівая пэрла ў беларускай паэзіі». Ён ці не першы з сучаснікаў не шкадуе сьмелых эпітэтаў і параўнаньняў: «І як у летні гарачы дзень у крыштальна чыстай крынічнай вадзе асьвежаецца нашае цела, так асьвежае душу паэзія Максіма Багдановіча».

У жніўні 1914 года пачалася Першая сусьветная вайна. У велізарную крывавую бойню былі ўцягнутыя і славянскія народы. Яны ваявалі па розныя бакі франтоў. Канчаткова была пахавана ідэя славянскага адзінства, і без таго падарваная папярэднімі войнамі на Балканах паміж паўднёвымі славянамі. Сучасьнікі гэтых падзеяў адчувалі, што вайна магла прывесьці да зьмены еўрапейскіх межаў і ўтварэньня самастойных славянскіх дзяржаў.

Максім Багдановіч здаўна цікавіўся жыцьцём славянскіх народаў. Ён на прыкладзе гісторыі роднасных беларусам народаў шукаў шляхі і паралелі нацыянальнага разьвіцьця. Ён быў добра абазнаны ў іхняй культурнай і палітычнай сітуацыі. Ён хутка стварае публіцыстычныя нарысы, якія былі выдадзеныя асобнымі брашурамі: «Чырвоная Русь», «Угорская Русь», «Браты-Чэхі», прысьвечаныя Заходняй Украіне і Чэхіі, якія знаходзіліся ў складзе Аўстра-Венгерскай імперыі.

У «Братах-Чэхах» паэт адзначае, што ўтварэньне славянскіх дзяржаў вымагае «пачуцьцё звычайнай справядлівасьці» і што незалежнасьць — «запаветная мэта цэлага шэрагу славянскіх народаў». Выдатна ведаючы, што і беларусы, як народ, ідуць па агульным для паняволеных славянскіх народаў шляху, Максім Багдановіч разумеў, што наступны крок у разьвіцьці беларусаў — гэта незалежнасьць. У сваіх артыкулах таго часу ён спрабуе абгрунтаваць, закласьці ідэалагічную базу пад гэтую ідэю.

У нарысе «Белорусское возрождение» Максім Багдановіч дае кароткае апісаньне тысячагадовай гісторыі Беларусі. Ён адразу разьмяжоўвае беларускую і расейскую культуры, кажучы, што «ў іх абліччы (беларускай і рускай культураў. — ***А. Б.***) перад намі знаходзяцца два самастойных культурных комплексы, якія з самага пачатку расьлі і разьвіваліся незалежна адзін ад аднаго».

Максім Багдановіч лічыць Вялікае Княства Літоўскае па сваёй сутнасьці беларускаю дзяржаваю, у якой «дзяржаўнае

жыцьцё Вялікага Княства Літоўскага павінна было праяўляцца ў беларускіх нацыянальных формах». Ён справядліва называе гэты час «залатым векам» у гісторыі беларускай культуры, адзначаючы, што «ўсё гэтае, узятае разам, вылучала Беларусь на адно зь першых месцаў паміж культурнага славянства, ставячы яе далёка наперадзе Маскоўшчыны — тагачаснае славянскае глухмені, якая жывілася, як чужаедная расьліна, духоўнымі сокамі Белай Русі».

Максім Багдановіч бачыць гісторыю Беларусі ў еўрапейскім кантэксьце, называючы яе «передавым фарпостам Заходняй Эўропы на ўсходзе».

Цікавым падаецца вызначэньне Максімам Багдановічам уніі, якая, на яго думку, зьяўлялася як бы «нацыянальнай беларускай рэлігіяй».

Падрабязны аналіз разьвіцьця новай беларускай літаратуры з канца XVIII стагодзьдзя і да пачатку XX паказвае шырыню ведаў Максіма Багдановіча. Ніводнае больш-менш вядомае імя ў беларускай літаратуры не прайшло па-за ягонай увагай.

У 1915 годзе Максім Багдановіч асьцярожна гаворыць, што беларускі рух дабіваецца толькі «выдзяленьня Беларусі і Літвы, спаяных эканамічна, геаграфічна ды гістарычна, у абласную, самакіравальную адзінку». Ягоныя погляды на дзяржаўнае ўладкаваньне беларускіх земляў адпавядаюць поглядам лідараў беларускага нацыянальнага руху ў самой Беларусі. Гэта гаворыць пра ягоную абазнанасьць у бягучых справах беларускага адраджэньня, у шчыльных сувязях паэта зь беларускімі адраджэнцамі і хуткім пераймальні ім павеваў новага, хвалюючага для Беларусі часу. Не за гарамі будзе той час, калі беларускія адраджэнцы ў разьвіцьцё ідэі аўтанамізму паспрабуюць абвясьціць поўную дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

Ведаючы недахоп ведаў саміх беларусаў пра сябе як пра адзіную супольнасьць, народ, у гэты ж час Максім Багдановіч стварае патрыятычны «Ліст да простых людзей». У ім

аўтар вызначае асноўныя адрозьненьні беларусаў ад сваіх суседзяў: «Жывём мы паміж палякаў і вялікарусаў, народаў моцных, і маем шмат крыўды ад іх». Паэт палымяна заклікае беларусаў захаваць сваю адметнасьць: «Агляніцеся: усё нашае роднае, беларускае, марнуецца, нішчыцца, зьнікае, бо яго забіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе, пышаецца, мае сабе пашану і павагу».

Грамадскія, нацыянальныя праблемы, якімі быў захоплены Максім Багдановіч у гэты час, не выцясьняюць у ягонай душы тонкага лірыка, які спрабуе адбіць у сваіх вершах чалавечыя пачуцьці:

Прынадна вочы зьзяюць да мяне;
Чароўна усьміхаючыся, губы
Адкрылі буйныя бялеючыя зубы…
Ласкавы шэпт… Гарачай хваляй мкне
Кроў к сэрцу маяму…

*(«Санэт»)*

Паэт ужо ведае сваё месца ў беларускай літаратуры. Не дарэмна ў вышэйзгаданым нарысе «Беларускае адраджэньне» ён сьціпла, але з пачуцьцём годнасьці напіша пра сябе: «У аглядах беларускай літаратуры да імёнаў гэтых двух паэтаў (Я. Купалы і Я. Коласа. — ***А. Б.***) прынята далучаць і маё».

Ды гэта там — у літаратуры, а ў жыцьці ён бачыць сябе іншым: «Я — непрыкметны, шэры чалавек»… Свае пачуцьцівершы ён параўноўвае з чыстым сокам шэрага клёна. І яны працягвалі ліцца з паэтычнае крыніцы паэта, увасабляючы ягоныя думкі, пачуцьці ды памкненьні.

У 1914 годзе Максім Багдановіч творча эксьперыментуе па стварэньні вершаў «беларускага складу». Ён працягнуў свае спробы паэтычнага пераўвасабленьня фальклёрных матываў, якія адзначаліся ў некаторых вершах «Вянка», на літаратурным узроўні. Ён піша вершы «Ой, лясы-бары ды лугі-разлогі», «Цёмнай ноччу лучына дагарала» ды інш.

Тэарэтычнае абгрунтаваньне пераходу ад еўрапейскіх класічных формаў вершаскладаньня да народных формаў ён выклаў у артыкуле «Забыты шлях», напісаны ім у 1915 годзе.

Дасягнуўшы на той час вялікіх вяршыняў у традыцыйным, па еўрапейскіх канонах, вершаскладаньні, Максім Багдановіч спрабуе абгрунтаваць свае пошукі і скіраваць увагу беларускіх паэтаў на «свой родны, беларускі шлях, пралажаны праз соткі год народнай песеннай працы». Ён разумее складанасьць пастаўленай задачы: «Распачаць гэтую справу ў паэзіі будзе нялёгка: лягчэй ісьці па прабойным дарогам, куды лягчэй пісаць, маючы перад вачыма добрыя прыклады». Паэт выразна падкрэсьлівае і мэту гэтай працы: «каб улажыць што-небудзь сваё ў скарбніцу сусьветнай культуры, каб уліць у нашу паэзію сьвежыя сокі, каб стаць бліжэй да душы роднага народа».

Максім Багдановіч бачыць два ўзроўні гэтай працы. Першы — прыпадабненьне да лепшых узораў беларускага фальклёру, другі — вышэйшы, каб «зрабіць нашу паэзію не толькі мовай, але і духам і складам твораў чыста беларускай».

Ён разумее шкоду празьмернага ізаляцыянізму і перасьцерагае: «мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала сьветавая (найчасьцей эўрапейская) паэзія». Але ён бароніць тыя самабытныя і каштоўныя рысы, якія ёсьць у беларускай народнай творчасьці, і заклікае абапірацца на іх ды ісьці далей: «Але заносіць толькі чужое не разьвіваючы свайго — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу».

Пасьлядоўна, на працягу наступных гадоў ён зьдзяйсьняў сваю задуму. Вершы «беларускага складу», напісаныя ў гэты час, моцна адрозьніваюцца ад іншых паэтычных твораў Максіма Багдановіча. Яны нагадваюць рупна адшліфаваныя народныя песьні. Але яны больш індывідуальныя і персаніфікаваныя. Па сваёй арыгінальнасьці яны, хіба што, саступаюць «еўрапейскім» вершам паэта. Паэт сам адчувае гэта. У вышэйзгаданым артыкуле ён адзначае, што прыпадабненьне да фальклёру, фальклёрная паэтычная стылізa-

цыя — «гэта не шлях да шырокага разьвіцьця паэзіі». З гэтай пазіцыі вершы «беларускага складу» можна ўспрымаць як паэтычныя практыкаваньні, падрыхтоўку да нечага большага, да шляху «апанаваньня беларускага духу», які яскрава выразіўся ўжо ў паэме Максіма Багдановіча «Максім і Магдалена» і неўзабаве, у 1916 годзе, у паэме «Страцім-лебедзь».

На пачатку 1915 года ў Максіма Багдановіча высьпявае жаданьне пакінуць бацькоўскі дом і вярнуцца на Радзіму. «Складаньне праектаў пачалося вось ужо таму два-тры месяцы», — пісаў у лісьце, пазначаным траўнем 1915 года, стрыечны брат паэта Пётр Гапановіч. Надышоў час, калі Максім хацеў вымкнуць з-пад бацькоўскага крыла і пачаць самастойнае жыцьцё. Ён нудзіцца, перакладае з рускай мовы верш А. Пушкіна «Сяджу я ў турме за рашоткай гады». Але жыцьцё ідзе сваёй хадою.

Летам 1915 года паэт, па настойлівых просьбах бацькі, які хваляваўся за слабое здароўе Максіма, едзе адпачываць у Стары Крым, у пансіянат, дзе знаёміцца з маладой замужняй жанчынаю Клавай. Успыхвае палкае каханьне, якое перарастае ў фізічную блізкасьць, водгук ад якога дайшоў да нас у напаўсьцёртых алоўкавых адбітках ды вершаваных радках, напісаных па-расейску:

Забудется многое, Клава,
Но буду я помнить всегда,
Как в сердце шипела отрава
Любви, и тоски, и стыда...

*(«Забудется многое, Клава...»)*

Між тым ішла вайна. Некаторыя дзяржаўныя ўстановы зь Беларусі былі эвакуяваныя ў Яраслаўль. У 1915 годзе сюды пераводзіцца Менскі настаўніцкі інстытут, зь некаторымі студэнтамі якога пазнаёміўся і Максім Багдановіч. Гэта былі свае, беларусы!

Між іншым, у гэты час з 1914 года ў Яраслаўскай жаночай гімназіі вучыцца дачка віленскага чыноўніка, у будучым выдатнейшая беларуская паэтка, пасьлядоўніца багдановіцкай «чыстай красы» ў паэзіі, Натальля Арсеньнева. Мабыць, па адных ходніках па ўзьбярэжнай Волгі хадзілі тады малады Максім і юная Натальля, не ведаючы адно аднога і не здагадваючыся, што іх навечна зьвяжа ў гэтым сьвеце.

Пётр Гапановіч адзначае, што ў гэты час «гіпертрафаванае захапленьне асобнымі бакамі літаратуры і занадта заўзятыя адносіны да “самостийной” Беларусі без астатку паглыналі ўсе ягоныя клопаты і ўсю ўвагу». Заўвага непрыхільная да захапленьня Максіма, але трапная. Ён засынаў і прачынаўся, думаючы пра Беларусь. Хаця ўспрымаў жыцьцё больш living рознабакова. Пра гэта сьведчаць і вершы пра каханьне, напісаныя ім у гэты час:

Маладыя гады,
Маладыя жаданьня!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасьце каханьня.

*(«Маладыя гады»)*

Пра гэта сьведчыць і вострае адчуваньне маладосьці паэтам, жаданьне неяк прыпыніць і захаваць гэты стан у сваіх вершах:

Ўсё прайшло, сплыло вадою, —
Моладасьць не зьнікла, не прайшла!

*(«Выйшаў з хаты. Ціха сьпіць надворак...»)*

Выбрацца на радзіму Максіму Багдановічу ўдалося толькі восеньню 1916 года, пасьля сканчэньня юрыдычнага ліцэя. Бацька Максіма Адам Багдановіч напіша пазьней ва ўспамі-

нах: «З трывожным пачуцьцём я яго адпускаў, але рабіць не было чаго: радзіма была цэнтрам яго прыцягненьня, туды прыцягвалі яго ўсе жывыя інтарэсы і сімпатыі».

Прыехаўшы ў Менск, Максім Багдановіч уладкоўваецца на працу ў камітэт Менскага адзьдзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, старшынёй якога быў вядомы грамадскі дзеяч Раман Скірмунт. Гэтым разам Беларусь непрыветліва сустрэла яго. Непадалёку праходзіў фронт. Голад, холад, хваробы, сьмерць, дзясяткі тысячаў бежанцаў, дзеці-сіроты — вось што ўбачыў тут паэт.

Вакол камітэта ў Менску сабраўся ці не ўвесь беларускі актыў. Беларуская палітычная дзейнасьць была пад забаронай, і асноўную задачу менскія нацыянальныя дзеячы бачылі ў гуманітарнай дапамозе свайму народу, які незвычайна цярпеў у гэтыя часы. Пасяліўся Максім Багдановіч на адной кватэры са Зьмітраком Бядулем і ягонымі сёстрамі. Харчаваўся ў сталоўцы пры камітэце.

У Менску паэт адразу ўключаецца ў беларускую дзейнасьць — выступае на вечарынах, дэкламуе свае вершы. Аркадзь Смоліч назаве яго адным з ідэолагаў беларускага адраджэньня. На творчую працу для паэта заставаўся толькі позьні начны час.

Слабае здароўе паэта не магло доўга вытрымаць такіх вялікіх нагрузак. Зь неспадаючай высокай тэмператураю, каўтаючы па начах лекі, Максім Багдановіч піша паэму з трагічным сюжэтам «Страцім-лебедзь». Мабыць, сябе ўяўляў ён такім лебедзем, які ўсклаў на свае крылы занадта вялікі цяжар і зараз не вытрымліваў — хутка слабнуў. Тут, у халодным засьнежаным Менску, ствараецца неўміручая «Пагоня», велічны гімн беларускаму адраджэньню.

Сілы хутка зыходзілі, і ў лютым 1917 года беларускія сябры адпраўляюць Максіма Багдановіча лячыцца ў Крым. Ён жыве там непрыветлівай вясною без асаблівага догляду. Перыядычна ў яго ідзе горлам кроў. Паэт ведае, што жыць засталося няшмат, але ставіцца да гэтага спакойна. Сьветлы тужлівы настрой працінае ягоныя апошнія радкі:

Пралятайце вы, дні,
Залатымі агнямі,
Скончу век малады, —
Аблятайце цьвятамі...

*(«Пралятайце вы, дні...»)*

Жыцьцё так хутка заканчвалася, і засталося яго зусім-зусім на дне, але ніхто не мог забараніць паэту марыць, а можа, ужо і мроіць:

Як забудуся сном
Ў сіняватыя ночы, —
Прылятаеш ты ў дом,
Пазіраеш у вочы...

*(«Набягае яно»)*

Сьмерць не палохае Максіма Багдановіча. Ён утойвае свой цяжкі стан ад бацькі, які на той час знаходзіўся ў недалёкім Сімферопалі, не жадаючы яго турбаваць. Максім не адчувае сябе самотным, ці, прынамсі, спрабуе сябе ў гэтым пераканаць:

Ў краіне сьветлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

*(«Ў краіне сьветлай, дзе я ўміраю...»)*

Жыцьцё заставалася для яго сьветлым, але яно няўмольна прасочвалася, як вада празь пясок.

Пасьля чарговага прыступу, зьнясільваючага адкашліваньня крыві, да Максіма прыходзіць медыцынская сястра. Яна чым можа дапамагае яму. Наведвае яго і заўтра. Ён піша, сьпяшаецца, кажа, што часу мала, а многае яшчэ трэба пасьпець.

На наступны дзень Максім Багдановіч памірае ў адзіноце.

Яго пахавалі на трэці дзень пасьля скону. Адпелі ў царкве. Рабілі гэта чужыя людзі, удалечыні ад Беларусі, якой ён аддаў усё сваё жыцьцё.

Максім Багдановіч — «непрыкметны» геній, які як сьвяча згарэў на алтары Бацькаўшчыны, пакінуў пасьля сябе найкаштоўнейшы набытак — нязгасную любоў да Беларусі, з выключным майстэрствам адбітую ў ягоных творах.

*Максім БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы. — Мн. : Беларускі кнігазбор, 1996.*

# НЕКАТОРЫЯ СТЭРЭАТЫПЫ ВА ЎЯЎЛЕНЬНІ АСОБЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Гаворачы пра стэрэатыпы ўспрыняцьця асобы Максіма Багдановіча, працуючы ў музеі, размаўляючы з аматарамі ягонай паэзіі, а часам нават і з дасьледчыкамі, увесь час даводзіцца сутыкацца з так званаю праблемаю «бацькоў і дзяцей». Я заўсёды расчароўваю суразмоўцаў, адказваючы, што, на маю думку, ніякай такой праблемы не было. «Як жа, — зьдзіўляюцца яны, — Адам Багдановіч не разумеў свайго сына, ягоныя зацікаўленьні беларушчынай былі чужымі для бацькі». Урэшце, аб іх разладзе гаворыць і адзінокая сьмерць паэта.

Вялікім містыфікатарам гэтай прычыны рызыкну назваць Міхася Стральцова, які стварыў эсэ «Загадка Багдановіча» і запусьціў у сьвет не адзін мастацкі міф. Бясспрэчна таленавітае эсэ перавыдаецца, а разам зь ім і мастацкія версіі, прафесійна абгрунтаваныя аўтарам. «Не будзем перабольшваць», — пісаў аўтар у сваім эсэ, але ягоная фантазія не раз сягала далей рэальных межаў. Гэта датычыць і адносінаў Максіма зь Нютай Гапановіч, і міфа аб надзвычайнай цнатлівасьці паэта, і, урэшце, аб стасунках Максіма з бацькам.



У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, прэзентацыя зборніка архіўных матэрыялаў. Менск, 1996 год

Адгалоскі гэтых уяўных непаразуменьняў блукаюць па іншых працах, творах, прысьвечаных Максіму Багдановічу. У прыватнасьці, трэба згадаць успаміны Ганны Кіпрыянаўны Валасовіч, якую, у сваю чаргу, цытуе М. Стральцоў і якая адкрыта піша: «Адам Ягоравіч належным чынам не ацаніў таленту і значэньня Максіма. Інакш, не зважаючы ні на што, ён павінен быў дапамагчы Максіму паехаць вучыцца ў Пецярбург…».

Паспрабуем разабрацца, ці так гэта было.

У сваіх успамінах Адам Багдановіч не раз выказваў прыхільнасьць да тэорыі спадчыннасьці, мяркуючы, што ўсе асноўныя рысы характару, разумовыя здольнасьці, урэшце, талент дзеці атрымліваюць у спадчыну ад сваіх бацькоў ці трохі далейшых продкаў. Што датычыць Максіма ў прыватнасьці, дык ён называе ягоную маці Марыю Апанасаўну, адметнай рысай натуры якой, па ягоных словах, была «незвычайная жывасьць успрыняцьця, пачуцьця і рухаў», а так-

сама сваю бабулю, прабабку Максіма Рузалю, «цудоўную апавядальніцу народных казак». Адам Багдановіч сьціпла замоўчвае сваё імя і сваю ролю ў станаўленьні Максіма як асобы. Бліжэй пазнаёміўшыся зь ягоным жыцьцяпісам, а гэта сталася магчымым пасьля поўнай публікацыі ягоных успамінаў у часопісе «Неман» № 5–8 за 1994 год, ды супаставіўшы іншыя факты зь ягонага жыцьця, прыходзіш да высновы: у гэтым выпадку тэорыя спадчыннасьці пацьвярджаецца жыцьцём.

Калі чытаеш успаміны Адама Багдановіча, дык кідаецца ў вочы ягоная фенаменальная памяць на падзеі са свайго дзяцінства, пачынаючы зь вельмі раньняга ўзросту: «Я памятаю сябе з двух з паловай гадоў, а можа быць і з двух», — згадвае ён. Можа, у гэтым і заключаецца адна з крыніцаў, што жывіла феномен Максіма Багдановіча, які пакінуў Беларусь у пяцігадовым узросьце, а ў чатыры гады ў Вязьзі, гасьцюючы з маці ў сваёй цёткі Стэфы, «нахватался белорусских словечек». Ці не зьвёз ён з Гародні ў Ніжні Ноўгарад з сабою цэлы сьвет, чароўны і захапляючы, як заўсёды гэта бывае ў дзяцінстве, які так і не сьцёрся з часам і паслужыў менавіта тым магнэсам, які прыцягнуў Максіма да Беларусі.

Гаворачы пра працэс засваеньня Максімам беларускай мовы, Адам Багдановіч пытаецца: «Які з паэтаў, што ўсмакталі беларускую мову з малаком маці, уздымаў гэтую цяжкую, крапатлівую і марудную працу?» Ён зазначае, што «ў працы ён (Максім) быў настойлівы і ўпарты. Калі ён ставіў перад сабой якую-небудзь мэту, ён цьвёрда і няўхільна імкнуўся да яе зьдзяйсьненьня». У поўнай меры гэтую ж рысу характару можна ўбачыць і ў Адама Багдановіча, які з дваровага хлопчыка, дзякуючы сваёй упартасьці і працы, выбіўся ў кола асьветнікаў, інтэлігентнейшых людзей свайго часу, у шэрагі інтэлектуальнай эліты.

Матэматычныя здольнасьці Адама Багдановіча, які большую частку свайго жыцьця, як мы ведаем, праслужыў у банку, наймацней выявіліся ў Льва Багдановіча, але Максім, чалавек бясспрэчна філалагічнага складу, тым не менш пась-



Адам Багдановіч, этнограф, бацька Максіма Багдановіча

пяхова ўжываў матэматыку ў сваіх дасьледаваньнях вершаскладаньня. Зьмітрок Бядуля згадваў пра Максіма, што «ён меў сьпецыяльны тоўсты сшытак, які цалкам быў запоўнены матэматычнымі вылічэньнямі і іерогліфамі — узорамі розных разьмераў вершаў». Больш падрабязна пра гэта піша Вацлаў Ластоўскі: «Ён шукаў матэматычна правільнага і вернага спосабу ацэны твораў і прыйшоў да вываду, што такі спосаб можна знайсьці, калі разлажыць твор на паасобныя абразы, звароты, словы... Раўняючы творчасьць двух аўтараў, трэба падлічыць суму створаных абразоў, зваротаў і думак кожнага ў адзьдзельнасьці — і цыфравая розьніца пакажа стасунковую выжшасьць або ніжшасьць аднаго і другога аўтара».

Адам Багдановіч быў надзелены выключнай прыроднай памяцьцю. Ён успамінае: «Пры маёй здольнасьці хутка запамінаць, нават не завучваючы, як звычайна завучваюць на памяць... 2–3–4 прачытаньні ўголас — і гатова. Да канца 70-х гадоў і пачатку 80-х гадоў адносіцца, галоўным чынам,

той вялізны запас завучаных на памяць вершаў і паэмаў, якія ў бальшыні я памятаю і цяпер. Запас быў такім вялізным, што я з посьпехам мог бы вытрымаць спаборніцтва зь любым "апавядальнікам", а ў інтэлігенцкіх колах я не сустракаў супернікаў».




Марыя Мякота (Багдановіч), маці Максіма Багдановіча

А цяпер прыслухаемся да ўспамінаў сяброў і знаёмых Максіма Багдановіча. Аляксей Залатароў згадвае: «Ён любіў чытаць заўсёды на памяць вершы Блока, Белага, Мараўскай і чытаў заўсёды вельмі добра: усхвалявана і стрымана разам». Мікалай Агурцоў дапаўняе: «Здавалася, не было якога-небудзь значнага верша, якога ён не ведаў на памяць...» І ўрэшце ў Дыядора Дзябольскага чытаем: «Памяць яго была рэдкасная, — прачытаўшы два, самае большае тры разы вялікі верш, ён ужо добра яго запамінаў». Дык ці ж не бацькава памяць была ў Максіма?

Можна згадаць і пра больш дробную «фамільную рысу», як называе яе Адам Багдановіч, — любоў Максіма да кніг. Абодва Багдановічы імкнуліся да нефармальнага, але сутнаснага авалодваньня ведамі. «У першы год я так захапіўся




Адам Ягоравіч Багдановіч — бацька Максіма Багдановіча з Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай (другой жонкай). Г. Ніжні Ноўгарад, 1899 год

бібліятэкай, дапяўшы да самых разнастайных кніг, — успамінае Адам Багдановіч пра сваю вучобу ў настаўніцкай семінарыі, — што прапусьціў каля 400 урокаў, гэта значыць 120 дзён». А ва ўспамінах пра Максіма ён піша, што той «лекцыі слухаў нячаста: больш займаўся ў вялікай ліцэйскай бібліятэцы і ў чытальні».

Найбольш сканцэнтравана менавіта пра спадчыннае падабенства Адама ды Максіма Багдановічаў выказаўся стрыечны брат Максіма Пётр Гапановіч, які жыў у іхняй сям'і і добра іх ведаў: «сын свайго бацькі» — напісаў ён пра Максіма. Прычым ён меў на ўвазе не толькі добрыя ці благія рысы іхняга падабенства, а менавіта натуру, сукупнасьць рысаў, якія ўтвараюць з чалавека асобу.

А зараз зьвернем увагу на тыя рысы асобы, якія набываюцца падчас яе сталеньня: агульнакультурны ўзровень і кола зацікаўленьняў.

Усімі прызнаецца той бясспрэчна вялізны ўплыў на фарміраваньне агульнакультурнага ўзроўню Максіма Багдановіча, які аказаў на яго Адам Багдановіч. Першыя трое дзяцей ад шлюбу Адама Багдановіча з Марыляй Мякотай вылучаюцца выключнымі здольнасьцямі. Выхаваныя на лепшых узорах сусьветнай літаратуры, маючы дома да ўжытку вялікую бібліятэку бацькі, атрымаўшы класічную адукацыю ў гімназіі, дзеці Адама Багдановіча здолелі разьвіць свае прыродныя схільнасьці да надзвычай высокага ўзроўню. Вялікая тактоўнасьць Адама Багдановіча ў адносінах са сваімі дзецьмі, прызнаньне іхняга права на самастойныя ўчынкі, на ўласную думку (згадаем, да прыкладу, ягоную падтрымку пазіцыі Максіма падчас канфлікту ў Яраслаўскай гімназіі) мелі вялікі ўплыў на іхняе станаўленьне як незалежных і творчых асобаў.

Зярняты зацікаўленьня Максімам «беларусікай» (па вызначэньні Адама Багдановіча) у той атмасферы, якая панавала ў сям'і Багдановічаў, упала на дабратворную глебу. Зборнікі беларускага фальклёру, слоўнікі, першыя беларускія кніжкі В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча — усё

гэта Максім знайшоў у бібліятэцы свайго бацькі. Прыгадаем, якое значэньне для творчасьці Максіма мела кніжка бацькі «Пережитки древняго миросозерцания у белоруссов». Цыкл вершаў, сапраўдных перлінаў у беларускай паэзіі «У зачараваным царстве» напісаны па матывах паданьняў, запісаных Адамам Багдановічам у гэтай кніжцы. Антон Луцкевіч, адзін зь першых дасьледчыкаў творчасьці Максіма Багдановіча, сьцьвярджае, параўноўваючы настроі ў вершы «Краю мой родны» з прадмоваю Адама Багдановіча да «Пережитков», што і агульныя ўяўленьні пра беларускі народ у Максіма Багдановіча склаліся пад уплывам кніжкі бацькі.

Словы Адама Багдановіча аб тым, што ён «не перашкаджаў сваім дзецям быць, кім яны хочуць», пацьверджаныя жыцьцём і шмат у чым трагічным лёсам ягоных дзяцей. У пэўныя моманты здаецца, што ён ім аж занадта папускаў (згадаем напружанае жыцьцё Вадзіма ў Ніжнім Ноўгарадзе перад сьмерцю ад сухотаў ці ад'езд Максіма ў Менск), але мы памятаем, што ўпартасьць — гэта сямейная рыса Багдановічаў, і Адам Багдановіч добра гэта разумеў.

А цяпер зьвернем увагу на сямейныя ўзаемаадносіны бацькі і сына. Мы можам спаслацца толькі на асобныя фрагменты ўспамінаў, але і яны дастатковыя, каб скласьці нейкую агульную карціну.

Падчас усё больш глыбокага зацікаўленьня «беларусікай» Максім усё далей адыходзіў ад агульных сямейных інтарэсаў. Гэта тычылася і агульных з бацькам паездак (як згадвае Адам Багдановіч: «Ужо ў яраслаўскі перыяд жыцьця (1908) на пытаньне, ці не жадае ён паехаць са мною, ён звычайна адказваў: «Не»), і стылю жыцьця Максіма: «Жыцьцё ён праводзіў сіроцкае, ціхае» — успамінае бацька Максіма. Тое ж адзначае Ганна Валасовіч: «Максім ніколі не бываў разам з усімі, не палуднаваў, не піў гарбаты. Заўсёды праходзіў у свой пакой». Пэўна, што тут была вінаватая ягоная хвароба, прымушала яго трымацца падалей ад сям'і, але й праяўлялася прыроджаная сарамлівасьць, сьціпласьць Максіма. Тым не менш Адам Багдановіч заўсёды быў у курсе

асноўных інтарэсаў Максіма. Хаця ён і піша, што «заняткі беларусікай адбываліся зусім непрыкметна для мяне і акаляючых», але ў той жа час ён згадвае: «Ясна памятаю ягоную (Максіма) радасьць у абліччы і бліскучыя ад жывога агеньчыка вочы, калі ён убег у мой пакой і паказаў мне надрукаванымі свае вершы». Менавіта Максім знаёміў Адама Багдановіча са станам разьвіцьця беларускай літаратуры і ўсяго беларускага адраджэньня: «Ён адразу прыносіў кніжку, часопіс ці зборнік да мяне, адзінага чалавека, які мог яго зразумець і ацаніць новы твор, каб падзяліцца сваёй радасьцю».

Пасьля паездкі ў Беларусь у 1911 годзе, як згадвае бацька, «вярнуўшыся, ён шмат расказваў пра ахвярнікаў беларускай літаратуры, пра тыя цяжкасьці, якія яны перажываюць, пра недахоп сродкаў, пра бескарыснае служэньне роднаму слову многіх працаўнікоў, галоўным чынам з асяродзьдзя настаўнікаў... пра Вільню і яе старажытнасьць і пра тое ўражаньне, якое яна аказала на яго...».

Вельмі характэрным для разуменьня стасункаў бацькі і сына зьяўляецца эпізод з успамінаў Дыядора Дзябольскага. У 1916 годзе «Максім быў нездаровы і ляжаў, апрануты, на ложку... Прыйшоў са свайго пакоя Адам Ягоравіч і, ласкава пагладзіўшы яго густыя, тады доўгія каштанавыя валасы, зачэсаныя назад, любоўна і жартаўліва сказаў: “Беларускі Гамер”».

Ці дзяліўся б Максім самымі дарагімі для яго думкамі з чалавекам, які не разумеў бы яго? Пры гэтым трэба ўлічваць скрайнюю сьціпласьць Максіма, які вельмі паважаў свайго бацьку і стараўся не торгаць яго, як ён лічыў, па дробязях.

Для таго, каб закрануць наступнае пытаньне — клопат Адама Багдановіча пра здароўе сына, нам трэба больш уважліва ўглядзецца ў характар Максіма. Дыядор Дзябольскі адзначае: «Ён ніколі не бываў на вечарынах у гімназіі. Пайсьці туды для яго было проста немагчыма, а на які-небудзь танцавальны вечар — і ўявіць нельга было». Пра непрыстасаванасьць Максіма да побытавых дробязяў піша ў лісьце Пётр Гапановіч да сястры. А. Цітоў зазначае, што «на сябе ён




Алесь Бяляцкі і Алесь Камоцкі каля помніка Максіму Багдановічу

мала зьвяртаў увагі. Ён нават не заўважаў, што ў яго старая кашуля, і староньнія зьвярталі на яго ўвагу». Пра тое ж піша Змітрок Бядуля: «Трэба адзначыць, што здароўя свайго Максім Багдановіч не шкадаваў, не зьвяртаў увагу на яду і вопраткі. Заўсёды хадзіў у студэнцкай старой вопратцы». І Леанард Заяц уторыць яму: «Ён часта недаядае і не глядзіць за сабой, калі гэта лёгка можна зрабіць». Больш падрабязна пра гэта піша бацька: «Ён увогуле ставіўся няўважліва да свайго здароўя: не любіў лячыцца... Я павінен быў назіраць за станам яго здароўя, мераць тэмпературу, прымусіць легчы ў ложак, прымаць лекі, харчавацца. Мне ён падпарадкоўваўся. Хоць бы і супраць свайго жаданьня». Такім чынам, перад намі вымалёўваецца вобраз вельмі непатрабавальнага, сьціплага юнака, які абыякава ставіцца да свайго зьнешняга выгляду, да бытавых праблемаў і, урэшце, да ўласнага здароўя. Вядома, гэта далёка не вычарпальны ягоны вобраз, які, на самай справе, быў значна больш шматмерным, але пэўна, што ў ягоным партрэце былі і вышэйпералічаныя рысы.

Вось жа ці можна прадбачыць вынікі паездкі Максіма Багдановіча на вучобу ў Пецярбург? Можна: хуткая сьмерць ад сухотаў. У той час як дома Максім Багдановіч знаходзіўся пад бацькоўскім доглядам. Але, зразумелая рэч, ён не жадаў увесь час жыць пад бацькоўскай апекаю. Максім сур’ёзна пачаў думаць пра самастойнае жыцьцё на пачатку 1915 года, у 23 гады. Ён шмат каму казаў пра гэта, але здолеў выехаць з дома бацькі толькі пасьля сканчэньня вучобы ў ліцэі, восеньню 1916 года, у 25 гадоў. Пры ўсёй ягонай непрыстасаванасьці да самастойнага жыцьцёвага побыту, хто ўжо мог яго ўтрымаць? Адам Багдановіч? Хіба што не. Бацька піша: «З трывожным пачуцьцём я адпускаў яго, але не было чаго рабіць: радзіма была цэнтрам яго прыцягненьня, туды прыцягвалі яго ўсе жывыя інтарэсы ды сімпатыі. Я разьлічваў на іх ажыўляльнае дзеяньне, прычым ён упэўніваў мяне, што яго ў Менску ўладкуюць у сэнсе задавальненьня жыцьцёвых умоваў як мага лепш». І, на жаль, гэта трывожнае пачуцьцё спраўдзілася. Як матылёк на агонь, паляцеў Максім

Багдановіч на Беларусь, каб канчаткова і бязрадна захварэць і памерці дзеля гэтай сваёй усёпаглынальнай любові да бацькаўшчыны.

У апошнія месяцы свайго жыцьця ў Ялце Максім Багдановіч заставаўся сабою — бясконца сьціплым і непатрабавальным чалавекам. Пятру Гапановічу ён піша: «Бацьку я пра хваробу пісаў без усялякіх падрабязнасьцяў. Лячуся, маўляў, у Ялце — і ўсё тут. І ты не расьпісвай...» Адам Багдановіч згадвае: «Ён хаваў ад мяне сваю хваробу і пісаў зусім заспакаяльныя лісты». Недаацэньваць ролю Адама Багдановіча ў выхаваньні Максіма, ягоным доглядзе, разуменьні сына — няварта. Гэтая роля была вялізнай. Мала хто з бацькоў даў столькі сваім дзецям, як Адам Багдановіч — Максіму. Ён быў той сьцяною, за якой спакойна разьвіваўся і квітнеў талент Максіма Багдановіча, дык будзем яму ўдзячны за гэта.

*Артыкул надрукаваны ў зборніку дакладаў навуковай канферэнцыі ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча за 2000 год.*

## КУПАЛА І РЭВАЛЮЦЫЯ

На Купалаўскіх чытаньнях, якія праходзілі ў траўні 1988 года і былі прысьвечаныя 106-й гадавіне з дня нараджэньня Янкі Купалы і 80-годзьдзю ягонага першага зборніка «Жалейка», беларускія вучоныя-літаратуразнаўцы А. Лойка і В. Рагойша зноў казалі пра даўно насьпелую неабходнасьць выданьня поўнага збору твораў паэта. Яшчэ ў 1981 годзе В. Рагойша пісаў: «У апошні збор твораў Купалы не ўвайшлі апроч п’есы «Тутэйшыя» семдзесят дзевяць вершаў і вершаваных перакладаў, семдзесят шэсьць публіцыстычных артыкулаў і выступаў, чатыры празаічныя пераклады». Некаторыя творы, якія паэт напісаў да рэвалюцыі, а таксама вершы, якія ўслаўлялі Сталіна, не патрапілі ў найбольш поўны сямітомнік ягоных твораў, можна сказаць, з-за неадпаведнасьці рэальнага Купалы ягонаму мемарыяльнаму, прынятаму і зацьверджанаму вобразу. Не ўключаныя і паўтара дзясяткі вершаў, напісаных у асноўным у 1918–1920 гады. Манапольная ўлада чыноўнікаў ад купалазнаўства, іхняе імкненьне зрабіць Купалу «сваім», уціснуць яго ў схему гатовых адказаў аказаліся мацнейшымі за гістарычную праўду. У выніку з творчасьці паэта былі выкрасьленыя вершы, якія пралівалі сьвятло на важныя асьпекты ягонага сьвета-

ўспрыманьня, і перш за ўсё на адносіны паэта да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Але што ўсё ж такі там было, у 1918-м, 1919-м, 1920-м? Што пісаў Купала? Пра што ён думаў? Што казаў свайму народу ўжо тады прызнаны прарок, сумленьне нацыі? Тлумачэньні гэтых пытаньняў літаратуразнаўцамі і крытыкамі ўмоўна зводзяцца да трох пунктаў погляду. Усе яны цікавыя, і кожны мае пад сабой саліднае абгрунтаваньне ідэалагічнага, палітычнага ды іншага характару, але праўдзівы толькі адзін.

Найбольш распаўсюджанай зьяўляецца думка пра тое, што Купала не зразумеў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вось некалькі найбольш характэрных выказваньняў. Крытык І. Плашчынскі, 1930 год, часопіс «Узвышша»: «Ідэалогія Купалы, якая фармавалася падчас нашаніўства і стала яго выражэньнем, не вяла на шлях пралетарскай рэвалюцыі, чаму Купала і не зразумеў самой рэвалюцыі, не вітаў яе адразу ваяўнічарадасным гімнам вызваленага».

Другі крытык, А. Кучар, 1932 год, часопіс «Полымя рэвалюцыі»: «Пралетарскую сацыялістычную рэвалюцыю, яе прыйсьце, тое, што гэтая рэвалюцыя несла сапраўднае вызваленьне ўсім нацыянальна прыгнечаным народам, — гэта ўсё, усю веліч прыходу новай эры ў гісторыі чалавецтва Купала яўна не зразумеў».

Я. Шарахоўскі, 1940 год, праца «Творчы шлях Я. Купалы»: «Пасьля нямецкай акупацыі неўзабаве наступіла белапольская, зноў пачаліся зьдзекі і гвалт над беларускім народам. Усё гэта перашкаджала паэту разабрацца ў падзеях, зразумець, што далейшае разьвіцьцё ягонай паэзіі цалкам залежыць ад таго, наколькі ён здолее быць выказьнікам не толькі агульнадэмакратычных патрабаваньняў народных масаў, але і выразьнікам сацыялістычных тэндэнцый барацьбы працоўнага класа, песьняром сацыялістычнага пераўтварэньня грамадства».

Я. Мазалькоў, 1961 год, кніга «Янка Купала»: «Аднак у цяжкіх умовах белапольскай акупацыі Купала не заўсёды

слушна ўяўляў сабе шлях беларускага народа да волі і незалежнасьці. У творчасьці гэтага перыяду ў Купалы былі і сур’ёзныя зрывы, і памылкі, якія пакінулі сваю пячатку і на шэрагу ягоных твораў пачатку дваццатых гадоў».

Гэты пункт погляду распаўсюджаны і ў нашыя дні, яго паўтараюць і некаторыя сучасныя дасьледчыкі творчасьці Я. Купалы. Напрыклад, М. Яраш у 1982 годзе ў кнізе «Пясьняр роднай зямлі»: «Несумненна, што разуменьне Купалам карэнных праблемаў жыцьця Беларусі ў той час, і ў першую чаргу праблемы нацыянальнай, было аднабаковым, звужаным, што і адбілася на ідэйнай накіраванасьці асобных вершаў».

А. Майхровіч у энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» (1986) адзначае, што ў паэта «выразна выявілася немагчымасьць пранікненьня ў сутнасьць складаных зьяваў эпохі пралетарскіх рэвалюцыяў з пазіцыі рэвалюцыйнага дэмакратызму». Па сутнасьці паўтараецца версія, выказаная ў больш чым дзіўным, па словах Б. Сачанкі, «пакаянным» лісьце самога Купалы, надрукаваным 10 сьнежня 1930 года ў газеце «Зьвязда»: «Захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі ідэаламі стала прычынай таго, што я і ў першыя гады Кастрычніцкай рэвалюцыі не здолеў ад іх пазбавіцца, зразумець і ўсьвядоміць усю веліч і гістарычную непазьбежнасьць пралетарскай рэвалюцыі».

Згодна з канцэпцыяй «неразуменьня» Купалам рэвалюцыі, ён трактуецца як прадстаўнік «беспартыйнай сялянскай дэмакратыі». Сьцьвярджаецца, што Купала проста не дарос да разуменьня сацыялістычнай рэвалюцыі, бо ўзровень ягонага дыялектычнага разьвіцьця быў ніжэйшы, чым у носьбітаў перадавой бальшавіцкай марксісцкай ідэалогіі. Пра гэта, у прыватнасьці, пісалі і І. Навуменка ў сваёй кнізе «Янка Купала»: «Па самой логіцы рэчаў ідэолагі “беспартыйнай” рэвалюцыйнай дэмакратыі, якімі былі Купала і Колас, проста не маглі адразу, з ходу стаць на сацыялістычныя пазіцыі»; Р. Бярозкін: «Купале, ідэолагу беспартыйнай сялянскай дэмакратыі, не хапала яшчэ ў тыя гады яснага разу-

меньня класавых імперыялістычных, “антыбальшавіцкіх” мэтаў інтэрвенцкіх паходаў на Беларусь... Купала яшчэ не дайшоў да разуменьня таго, што нацыянальная палітыка бальшавіцкай партыі сыходзіла з характару рэвалюцыі сацыялістычнай» (Бярозкін Р. Выбранае. Мн., 1981).

Увогуле ж гіпотэза пра «неразуменьне» дазваляла неяк апраўдаць жыцьцё і творчасьць Купалы тых гадоў і надрукаваць большасьць твораў, напісаных ім у той час.

Але, па-першае, яна прыніжала Купалу як асобу, выстаўляючы яго гэткім прастачком, Янкам-недарэкам, які, выбачайце, не зразумеў, не разабраўся, недаацаніў. Я. Колас, вядома ж, не ад добрага жыцьця, а пад прыцэлам вульгарнай крытыкі ў 1934 годзе, выступаючы на Першым усесаюзным зьезьдзе пісьменьнікаў, казаў: «У чым быў карэнны недахоп беларускай паэзіі?.. Перш за ўсё... у тым, што самі песьняры, сапраўдныя выразьнікі народнага гора, не мелі ясна акрэсьленых палітычных поглядаў... не валодалі тымі метадамі барацьбы, якія несла і прапаноўвала марксісцка-ленінская філасофія». Амаль тое ж самае, але ўжо з іншых прычынаў паўтарыў І. Навуменка: «Калі б Я. Купала ў тыя гады валодаў марксісцкім сьветапоглядам, выразьней бачыў рухаючыя стваральныя сілы рэвалюцыі, дыяпазон ягоных узаемаадносінаў з рэвалюцыйнай рэчаіснасьцю быў бы, бачна, нашмат шырэй, чым толькі роздум пра “айчыну”, ды і сам роздум меў бы іншыя эмацыйныя колеры».

Па-другое, гэтая гіпотэза скажала, спрашчала, а то і адмаўляла Купалу ў палітычных поглядах, якія ў яго былі дастаткова вызначанымі. Сам панятак «рэвалюцыйнай дэмакратыі» пасьля рэвалюцыі 1905–1907 гадоў адышоў на другі план, бо «сацыялістычныя ідэі ў Беларусі да пачатку XX стагодзьдзя ўжо мелі безьліч прыхільнікаў: не было ніводнага горада, ніводнага мястэчка, дзе б не існавала якая-небудзь рэвалюцыйная група» (Агурский С. Очерки по истории революционного движения в Белоруссии. Мн., 1928). У гэты час на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі ў падпольлі: РСДРП, сацыял-дэмакратычная партыя Каралеўства Польскага і

Літвы, Польская сацыялістычная партыя, Бунд, сацыялісты-рэвалюцыянеры ды іншыя. Кожная партыя — са сваёй праграмай, задачамі і сферай уплыву. Праходзіла актыўная палітызацыя жыцьця, і палітычныя погляды Купалы, вядома ж, адпавядалі гэтаму часу. Купала ў сваіх біяграфічных лістах адзначаў вялізны ўплыў на яго станаўленьне як грамадзяніна і патрыёта партыі Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ). Зьміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) пацьвярджае гэты факт: «Агітацыя на роднай мове, якую выкарыстоўвала Беларуская Сацыялістычная Грамада, мела вялізнае значэньне для прапаганды сацыялістычных і рэвалюцыйных ідэяў у сялянскіх масах, дазваляла лёгка іх засвойваць нават непісьменнаму селяніну» (Полымя. 1925. № 8). Купала бярэ ўдзел у дзейнасьці гэтай партыі: доўгі час шчыльна супрацоўнічаў з лідарамі БСГ, а пасьля яе фармальнага роспуску ў 1907 годзе, а па сутнасьці — пасьля пераходу на легальныя формы дзейнасьці, быў адным зь лідараў тэарэтычнай думкі нацыянальна-вызвольнага руху, «прарокам беларускага адраджэньня», як назваў яго адзін з заснавальнікаў БСГ, Антон Луцкевіч. Такім чынам, тагачасная палітычная думка Купалы, якая знайшла сваё ўвасабленьне ў ягонай паэтычнай і публіцыстычнай творчасьці, мусіць расцэньвацца не як беспартыйная рэвалюцыйна-дэмакратычная, а як партыйная сацыялістычная, але не ў тым «скончаным» разуменьні сацыялізму, да якога мы прызвычаіліся. «Уся паэзія яго — палітыка» — пісаў пра Купалу крытык Рыгор Семашкевіч.

Па-трэцяе, гіпотэза пра «неразуменьне» не дазваляла аб'ектыўна разглядзець некаторыя творы паэта, асабліва вершы і артыкулы часоў грамадзянскай вайны, многія зь якіх сьведчаць якраз пра добрае разуменьне Купалам таго, што адбывалася тады ў Беларусі. Менавіта таму яны на карысьць гэтай схеме ўвогуле выключаліся з творчай спадчыны паэта.

Не менш памылковая, на мой погляд, і канцэпцыя поўнага прыняцьця Купалам Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэтым выпадку ўвогуле адсутнічаюць разыходжаньні паміж жадае-

мым і рэальным. Усё фарбуецца ў адзін колер. Н. Перкін у 1971 годзе недвухсэнсоўна адзначаў: «У краіне адбылося тое, да чаго так палка імкнуўся, пра што так горача марыў паэт. Ад самага сэрца ідуць у сьвет радасныя словы вітаньня Кастрычніка». М. Яраш, які выказваў і іншыя, больш праўдападобныя погляды, пісаў: «Вялікі Кастрычнік зьдзейсьніў самыя сьмелыя жаданьні народнага паэта. Беларусь улілася ў брацкую сям'ю савецкіх рэспублік, а беларускі народ разам зь іншымі народамі выйшаў на сьветлыя прасторы жыцьця». Зьвязваючы першы і другі пункт погляду, можна лічыць парадаксальнай думку М. Ларчанкі, выказаную ім у 1977 годзе: «З аднаго боку, Купала і Колас сьмела становяцца на шлях Кастрычніцкай рэвалюцыі, шчыра вітаюць яе як рэвалюцыю, якая зьдзейсьніла іх дэмакратычныя ідэалы, прынесла беларускаму народу нацыянальнае і сацыяльнае разьняволеньне. Аднак, з другога боку, цалкам не разумеюць яе пралетарскай сутнасьці». Сярод гэтых адназначных, кантрасных (прыняў, не прыняў) канцэпцыяў сустракаюцца і танальныя, з рознымі «адценьнямі». Напрыклад, цікава трактуе ў 1962 годзе гэты перыяд жыцьця і творчасьці Купалы М. Лазарук: «У паэта не было прынцыповых разыходжаньняў з рэвалюцыяй. Купалу першых пасьлярэвалюцыйных гадоў у пэўным сэнсе можна зразумець псіхалагічна як чалавека, які на нейкі момант разгубіўся перад веліччу той рэчаіснасьці, да якой ён сам імкнуўся і клікаў іншых».

Канцэпцыя «чыстага» Купалы была і застаецца спрошчана-сацыялагічнай. Вытокі гэтай канцэпцыі — у 30-х гадах, у эпосе адназначных героеў-стаханаўцаў ва ўсіх сферах жыцьця, у тым ліку і ў літаратуры. Дасюль займае яна цэнтральнае месца ў падручніках...

У 1928 годзе, сыходзячы з тактычных меркаваньняў, З. Жылуновіч пісаў: «Янка Купала ўрачыста, з адкрытай душою сустрэў гэты вялікі акт у жыцьці свайго народа (абвяшчэньне БССР. — ***А. Б.***)... Мы прытрымліваемся цьвёрдага погляду на паэта як на пасьлядоўнага рэвалюцыянера, які красамоўна самым выразным чынам адбіў дух Кастрычніка

ў беларускім пераламленьні». Пра тое, што гэта было сказана менавіта з тактычных меркаваньняў, сьведчыць больш раньняе выказваньне З. Жылуновіча. У 1923 годзе ён з гарыччу пісаў: «Першы студзень 1919 года, які прынёс Беларусі гэтае вызваленьне, даўшы да гэтага безыменнай, пагарджанай, разбуранай краіне прамяністае імя — Беларуская незалежная Савецкая Рэспубліка — канстытуцыю, сацыялістычную працоўную дзяржаўнасьць... Гістарычныя падзеі, якія пісалі залатавогненнымі літарамі вялікі помнік вызваленьня міліёнаў беларускіх працоўных, выглядалі ў іхніх вачох пякельнай бурай-нашэсьцем, якая "праз пагоркі" кацілася на іхнія "ногі"». Узятыя ў двукосьсе тут З. Жылуновічам словы — зь верша Я. Купалы «Буралом» (1919). Надыходзячая эпоха суцэльнага тэрору скарэктавала погляды З. Жылуновіча, які імкнуўся абараніць Купалу. Сёньня нам няма неабходнасьці скажаць праўду, які б ні быў прыцягальны і зручны для некаторых «чысты» Купала.

Ці жадаў паэт прыйсьця Кастрычніцкай рэвалюцыі такой, якой яна была ў рэальнасьці? Ці лічыў ён адзіна слушным варыянтам разьвіцьця падзеяў у нас, у Беларусі, дзе беспамылковая для марксістаў формула дыктатуры пралетарыяту на справе вылілася ў адхіленьне прадстаўнікоў карэннай нацыі — беларусаў — ад улады, а значыць, не абяцала справядлівага рашэньня нацыянальнай праблемы (па заўвазе гісторыка М. Біча, сярод пралетарыяту і паўпралетарыяту Беларусі беларусы складалі на пачатку XX стагодзьдзя ўсяго толькі 17,1 %. Як гэта ні парадаксальна, але праўдзівы па сутнасьці адказ на гэтае няпростае пытаньне давалі не біёграфы паэта, а бязьлітасныя барацьбіты за «чысьціню сацыялістычных пралетарскіх ідэяў» у беларускай літаратуры, ягоныя схаваныя і адкрытыя нядобразычліўцы. У барацьбе з усім, што, як яны лічылі, не адпавядала новаму, на іхні погляд, адзіна магчымаму і слушнаму ладу, яны шукалі ў паэта перш за ўсё крамолу і... знаходзілі яе. Дзейнічаў фармальны падыход да творчасьці без імкненьня асэнсаваць унутраны сьвет паэта, зразумець логіку і заканамернасьць

разьвіцьця ягоных поглядаў і ягонай творчасьці. Нацыянальнае абвяшчалася нацыяналістычным, а натуральнае імкненьне пасьля шматгадовага прыгнёту ўбачыць свой народ вольным і незалежным расцэньвалася як адступленьне на пазіцыі буржуазнага лагера. Ды і не імкнуліся гэтыя «вартавыя рэвалюцыі» ў беларускай культуры да якога-небудзь разуменьня, да пошукаў ісьціны. «Нам, — пісаў А. Кучар, — ацэньваючы творчасьць паэта, няма чаго замазваць ці хаваць сапраўдную сутнасьць палітычных пазіцыяў Купалы падчас рэвалюцыі 1917 года. Купала быў пад вельмі і вельмі моцным уплывам буржуазных нацыяналістаў, так што часамі ён станавіўся нават на пазіцыі нацыяналізму, знаходзіўся ў палоне буржуазнага нацыяналізму».

Тое ж сьцьвярджаў І. Плашчынскі: «З ідэалізацыяй былога, з патрабаваньнем і абаронай незалежнасьці Беларусі засьпела Купалу рэвалюцыя... Лірычны герой не задаволены рэчаіснасьцю, неспакойны, нацыянальна абмежаваны чалавек, палітычныя патрабаваньні якога заключаныя ў жаданьні нацыянальна-дэмакратычнай дзяржаўнасьці для “маці Беларусі”». І. Плашчынскі, як мне падаецца, даволі дакладна характарызуе Купалу, кажучы пра тое, што «ён і прыняў рэвалюцыю, калі яна перайшла ў далейшыя формы разьвіцьця. Больш за ўсё і толькі таму, што яна вырашыла пытаньне нацыянальнага вызваленьня і вызваленьня сілаў «ад баршчынных бед».

Асабліва разьвіты «класавы нюх» прадэманстраваў сумнавядомы беларускі «крытык» Лука Бэндэ. Ён у 1932 годзе пісаў: «Я. Купала сустрэў Кастрычнік як ідэолаг буржуазнага нацыянал-адраджанізму. Гэтым у асноўным і тлумачыцца ягоная варожая пазіцыя да пралетарскай рэвалюцыі і дыктатуры пралетарыяту падчас грамадзянскай вайны... Ён не ўспрыняў пралетарскую рэвалюцыю як рэвалюцыю, якая адна можа вызваліць працоўныя масы ад эксплуатацыі капіталістаў, паноў і ад нацыянальнага прыгнёту...»

Пазьней, у 1935 годзе Л. Бэндэ разьвівае сваю думку пра тое, што пасьля рэвалюцыі Купала «не пайшоў з працоўнымі

масамі, а пайшоў з буржуазіяй, у сваіх песьнях ён ужо не выражаў жаданьні працоўных масаў і не адлюстроўваў іх барацьбы, а наадварот, ягоныя песьні былі накіраваныя не на карысьць гэтых мас. Ягоны заклік: "На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход Ідзі, аграблены, закованы народ" — не носіць рэвалюцыйнага характару. Гэта заклік не на аснове пралетарскай дыктатуры "заводзіць парадак", а на аснове буржуазнай дэмакратыі, якая зжыла ўжо сябе, гэта заклік ісьці за беларускую буржуазную рэспубліку — "радзіму-маці — Беларусь"... "Чужынцы суседзі" ўвогуле, без дыферэнцыяцыі — вось хто, па ўяўленьні паэта, вораг беларускага народа, яны забіраюць мёд зь ягоных вульлёў, яны "запрэглі" яго ў няволю. Ён, як і іншыя беларускія нацыяналісты, у сваіх вершах імкнецца паказаць, што ў Расеі ў выніку сацыялістычнай рэвалюцыі нічога не зьмянілася, што засталася царская Масква, прыгнятальнік і душыцель нацыянальнасьцяў... Наіўна веруючы ў ідэю Бээнэраўскай "незалежнасьці", паэт усё ж не бачыў яе на справе».

Такім чынам, калі мы прыбяром з гэтых цытатаў празьмерную экспрэсію, якая скажала рэальныя намеры і пазіцыю паэта, а таксама ярлыкі, такія, як, напрыклад, «ідэолаг буржуазнага нацыянал-адраджанізму», дык атрымаем дастаткова аб'ектыўную карціну адносінаў паэта да рэчаіснасьці. Ідэолаг нацыянальнага адраджэньня — так, але не буржуазнага. Купала проста выражаў інтарэсы сваёй сялянскай нацыі.

Так, у перыяд 1918–1920 гадоў Купала не прымаў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Масавы тэрор, палітыка ваеннага камунізму — усё гэта прывяло да таго, што паэт дастаткова прахалодна ставіўся да дыктатуры партыі бальшавікоў і пралетарыяту, адстойваў ідэю незалежнасьці Беларусі, неўмяшальніцтва ў яе ўнутраныя справы. Ён верыў у тое, што толькі сам беларускі народ здолее вырашыць свае эканамічныя, палітычныя і нацыянальныя праблемы. Ён заклікаў народ да зьдзяйсьненьня гэтай ідэі, у нейкай ступені бачачы яе ўвасабленьне ў абвешчанай нацыянальнымі дзеячамі ў Мен-

ску 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспубліцы. Калі меркаваць па праграме дзеяньняў, па палітычных заявах, а таксама па часта зьмяняемым складзе ўрадаў гэтай не зьдзейсьненай з прычыны гістарычных абставінаў рэспублікі, дык можна казаць якраз пра іх сацыялістычную, народную накіраванасьць.

Пра стан Купалы ў гэты перыяд, ягоныя перакананьні распавёў у сваёй канцэпцыі (ужо трэцяй, дзьве другія разглядаліся намі раней) М. Яраш: «Нацыяналісты (іхняя дзейнасьць асабліва актывізавалася з прыходам белапалякаў), якія настойліва імкнуліся перацягнуць паэта на свой бок, сьпекулявалі на нацыянальных праблемах, выстаўлялі сябе адзінымі абаронцамі нацыянальнай самабытнасьці, культуры, мовы. Яны больш чым старанна спрабавалі арганізаваць беларускія выданьні, тэатральныя гурткі, культурныя ўстановы, імкнуліся пераканаць нявопытнага інтэлігента, несьвядомага рабочага ці цёмнага селяніна ў сваім высокім патрыятызьме. Мабыць, і Купала ў хвіліны асаблівага душэўнага ўзбуджэньня, унутранага разладу паддаваўся гэтай двурушніцкай прапагандзе, пра што, у прыватнасьці, сьведчыць верш “25.III.1918 — 25.III.1920”. А паэт жа заўсёды быў бязьлітасна шчырым — значыць, ён нічолькі не ўсьведамляў, што вельмі і вельмі памыляўся»...

Паставім пад сумненьне тактычную версію М. Яраша пра «ўплыў на Купалу нацыяналістаў». Сапраўды, сьмешна думаць усур’ёз пра нейкі шкодны ўплыў на ўжо ўсенародна вядомага і любімага паэта, які (жыцьцё і творчасьць таму сьведчаньне) не па чыёйсьці падказцы і не як староньні стаўся да самых насьпелых пытаньняў нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня свайго народа. І ўжо ніяк нельга аднесьці Купалу да ліку наіўных інтэлігентаў, у якіх час прыняцьця жыцьцёва важных рашэньняў заўсёды супадае з хвілінамі «душэўнага разладу» і, як вынік, зьяўляюцца фатальныя «памылкі». Апроч таго, зь версіі М. Яраша выпадаюць вершы, напісаныя паэтам у 1918 годзе ў Смаленску, яшчэ ўдалечыні ад «нацыяналістаў». Слушна заўважае

А. Лойка: «Купала ў абароне інтарэсаў народа і айчыны быў заўсёды і пасьлядоўны і лагічны».

Грамадска-палітычныя погляды Купалы адлюстраваны перш за ўсё ў ягонай паэтычнай творчасьці. Многія вершы перыяду грамадзянскай вайны не друкаваліся літаральна да апошняга часу (толькі ў апошнія два-тры гады зьявіліся публікацыі). У межах гэтага артыкула я не магу разглядзець усе творы таго часу, уключаючы тыя, што друкаваліся, якія патрабуюць таксама аб’ектыўнага, невульгарызатарскага падыходу. Яркі прыклад таго, як літаратуразнаўцы сьвядома скажалі ці зацянялі зьмест вершаў Купалы, лічачы за сваю асноўную мэту надрукаваць іх, бачыцца ў нядаўняй легалізацыі верша «Пазвалі вас», надрукаванага пасьля доўгага забыцьця ў зборніку артыкулаў В. Рагойшы «Напісана рукой Купалы» (1981) і ў часопісе «Полымя» (1988. № 10).

У Энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» В. Рагойша такім чынам характарызуе гэты верш: «Першы твор беларускай паэтычнай Ленініяны... У творы выяўлена разуменьне Купалам сутнасьці сацыялістычнай рэвалюцыі... Нягледзячы на элегічна-рэфлексіўны характар твора, у цэлым верш прасякнуты сьветлым настроем, аптымізмам».

Але пры чым тут Ленініяна? Хіба ж гэта твор пра Леніна? А чаму тады ў вершы такое разьмежаваньне на «вас» і «нас»? А як патлумачыць радок «О, каб не ў краты толькі з крат!», слова «рабы-цары»? Зь верша відаць, што аповед вядзецца збоку. Купала выступае арбітрам-назіральнікам, дастаткова адлучаным і ад пераможцаў, і ад пераможаных. Занадта шмат чаго ў пераможцах не мог успрыняць Купала... Адзінаўладзьдзе, аднапартыйная сістэма кіраваньня дзяржаваю, падаўленьне ўсялякай апазіцыі, роспуск іншых сацыялістычных партыяў — ці не крок гэта «з рабоў у цары»? Паэт прадбачыць вынікі такой узурпацыі ўлады: «О, каб не ў краты толькі з крат!» — што значыць адмену дэмакратычных заваёваў, зьнішчэньне іншадумцаў, вяртаньне да дыктату і гвалту. Гэтыя сімптомы татальнага гвалту, які зьдзяйсьняе новая ўлада. Купала, будучы далёка не пацыфістам, заўважае:

«Тварыць вы шлі і кроў лілі Сваю, чужую па зямлі...» Два дзеяньні, пастаўленыя побач, — стварэньне і разбурэньне, да ўсяго разбурэньне, якое зьдзяйсьняецца без ваганьняў, ствараюць даволі змрочны кантраст. І зноў жа ў гэтай карціне ёсьць прадчуваньне абясцэненай крыві. За шматкроп'ем схавана тое, пра што Купала недагаворвае, але ўжо цалкам можам дагаварыць мы.

Паэт не робіць канчатковых высноваў, ён толькі ставіць пытаньне: ці была апраўданая гэтая бязьлітасная вайна, зьнішчэньне сістэмы гаспадараньня, згуба мільёнаў людзей, сапраўды «Пірава перамога» дзеля таго, каб усё ж такі вярнуцца да агульных для ўсялякага цывілізаванага грамадства законаў разьвіцьця? Дзеля чаго былі гэтыя пакуты і гібель дзясяткаў мільёнаў людзей, калі ўсё ў рэшце рэшт скончылася мірнымі перамовамі з буржуазнай Еўропай? Хто ж перамог і што зьмянілася? На гэтыя няпростыя пытаньні мы шукаем адказу і да гэтага часу.

У 1918 годзе Купалам былі напісаныя два «забытыя» да нядаўняга часу вершы: «Наша гаспадарка» і «Крыўда». У свой час, аналізуючы верш «Наша гаспадарка», Рыгор Бярозкін пытаўся: «Доўгія гады не перадрукоўваўся ў зборах Купалы верш "Наша гаспадарка". А, уласна кажучы, чаму?» На гэтае пытаньне адказвае М. Яраш: «У вершы "Наша гаспадарка", датаваным 7 лістапада 1918 года, гучаць вельмі выразныя словы: "І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам Варшава панская і царская Масква?!" Цікава, што Масква ўжо год як была бальшавіцкай, а пра гэта — ні слова — ні ў водным вершы». Яшчэ раней пільнасьць праявіў Лука Бэндэ: «Пралетарскую дыктатуру паэт прадстаўляе і паказвае ў гэтым вершы як спадчыньніцу царскай панска-буржуазнай палітыкі прыгняценьня нацыянальнасьцяў, беларусаў у прыватнасьці».

У вершы «Наша гаспадарка» (гл.: Полымя. 1988. № 10) Я. Купала задае зусім натуральнае пытаньне пра нацыянальную незалежнасьць беларускага народа.

Ні для кога сёньня не сакрэт, што мясцовыя бальшавіцкія і савецкія кіраўнікі, якія валодалі фактычнай уладаю, у

большасьці былі зусім не беларусамі і адмоўна ставіліся да разьвязаньня беларускага пытаньня. Для многіх зь іх «Белоруссия (Северо-Западный край)» была толькі частка «Великороссии», і нават пазьнейшае абвяшчэньне БССР, якога дабіўся Беларускі нацыянальны камітэт у Маскве, было не практычным увасабленьнем законнага права народаў на самавызначэньне, а не больш як часовы тактычны манеўр. Пра ўсё гэта, пра перыпетыі ўтварэньня БССР падрабязна напісаў Э. Ялугін у аповесьці «Пасьля небыцьця» (гл.: Неман. 1988. № 2). У 1918 годзе Купала жыў у Смаленску, дзе разьмяшчалася і кіраўніцтва Заходняй вобласьці, і не мог не ведаць пра адносіны новай улады да нацыянальнага пытаньня.

У газеце «Западная Коммуна» — органе Аблвыкамзаха 21 сьнежня 1918 года, менш чым за два тыдні да абвешчаньня БССР, у рэдакцыйным артыкуле пісалася: «Задаёмся пытаньнем: навошта гэтая гульня ў савецкія рэспублікі? Для нас жа зразумела, што Савецкая ўлада ставіць сваёй задачай... не стварэньне нацыянальнай адасобленасьці ў рамках маленькіх нацыянальных дзяржаў, а зьнясеньне ўсялякіх нацыянальных перашкодаў... Абвешчаньне савецкай рэспублікі Беларусі не толькі не служыла б інтарэсам барацьбы з нацыяналістычнымі тэндэнцыямі дробнай буржуазіі, але якраз разьвівала б прастору гэтым тэндэнцыям. А гэта не ў інтарэсе сацыялістычнай рэвалюцыі».

Зьезд Саветаў Беларусі, якім кіравалі былыя Аблвыкамзахаўцы, ужо пасьля абвешчаньня БССР, як пісала «Звезда» 5 лютага 1919 года, «пацьвердзіў, што высілкі беларускай нацыяналістычнай інтэлігенцыі да стварэньня "сваёй" беларускай мовы, "сваёй" нацыянальнай культуры дарэмныя... Няхай маюць гэта на ўвазе беларускія пісьменьнікі».

Купала абсалютна слушна меркаваў, што толькі беларусы ў стане вырашыць свае праблемы і што беларускі народ мае на гэта поўнае права. А ў палітыцы, якую праводзілі акупацыйныя ўлады Польшчы і арганізаваныя Аблвыканзахам органамі Савецкай улады, Купала не бачыў зьменаў у

адносінах да беларусаў. Менавіта таму ён падкрэсьлівае ўжо не існуючыя рэаліі суседніх краінаў: «Варшава панская і царская Масква». Да таго ж яшчэ ні для кога не было зразумела, якія сілы пасьля рэвалюцыі будуць весьці рэй у Польшчы і ў старой Расейскай імперыі, якая, па перакананьні паэта, павінна была абавязкова распасьціся. «Не супраць Савецкай улады быў гэты верш, — адзначае Алег Лойка, — а за ўвасабленьне прынцыпаў рэвалюцыі ў жыцьцё, за перамогу яе прынцыпаў, яе палітыкі па нацыянальным пытаньні». Паўтаруся: зусім несправядліва абвінавачваць Купалу ў абароне буржуазнага ладу. Купала — сьпявак сялянства, уся ягоная паэзія — кроў ад крыві, цела ад цела беларускага народа. У будучым Беларусь паэт, безумоўна, бачыў сацыялістычнай, але й маючай гарантыі разьвіцьця нацыянальнай культуры, духоўнага росту нацыі ва ўсіх праявах. Падкрэсьлім гэтае «але», каб яшчэ лепей усьвядоміць вытокі сёньняшняга бядотнага становішча зь беларускай мовай, літаратурай, усім духоўным патэнцыялам народа.

Пры, скажам так, «купалаўскім» кірунку дзяржаўнай палітыкі гэтых праблемаў проста б не існавала.

Янка Купала задумваецца над многімі пытаньнямі быцьця. Што ёсьць свабода асобы і справядлівасьць увогуле і свабода асобы і справядлівасьць вось зараз, у гэтыя рашуча ўсё зьмяняючыя гады. Пра гэта — ягоны верш «Крыўда», якому даў вось такую своеасаблівую трактоўку Лука Бэндэ: «Лютаўская рэвалюцыя і дадзеная ёю свабода, як бачым, успрымаюцца паэтам, як і іншымі пісьменьнікамі-нашаніўцамі, як сапраўдная воля зь “мілай уцехай”». Кастрычніцкая рэвалюцыя і дыктатура пралетарыяту ўяўляюцца яму як адмена, як зьнішчэньне волі ўвогуле, як перамога адвечнай крыўды над праўдай.

Іншасказальна Купала апісвае несправядлівае класавае грамадства, пабудаванае на ўзьвелічэньні багатых і прыгняценьні бедных. Але вось адбыліся гістарычныя рэвалюцыйныя зьмены, і сьвет зьмяніўся — упалі кароны, а рабы сталі вольнымі. Але, піша Купала, нявольнік не змог скарыстаць

са сваёй свабоды для ўзвышэньня. Ён, у сваю чаргу, пабратаўся са злом. З вышыні сёньняшніх дзён засьцярогі Купалы зноў-такі не падаюцца нам неабгрунтаванымі.

У студзені 1919 года Купала пераязджае ў вызвалены ад немцаў Менск. Настрой ягоны гэткі ж змрочны, як і раней. Савецкія газеты ў Менску выходзяць на расейскай, польскай, літоўскай, яўрэйскай мовах, але няма ніводнай на беларускай. Тады ж, у студзені, Цэнтральнае Бюро КП(б)Б пастанавіла: «Выданьне беларускай газеты прызнаць непажаданым». Нагадаю: «Паэта не магло не насьцярожыць тое, што ў сталіцы Беларускай Савецкай Рэспублікі Менску, куды ён пераехаў, зусім не адчувалася ажыўленьня нацыянальнага жыцьця...» (М. Яраш). Сам паэт у 1922 годзе, калі, так бы мовіць, ужо ўсё ўтрэслася, пісаў Б. Эпімах-Шыпілу: «Напачатку 1919 года пераехаў у Менск. Але і тут салодкага мёду не было спачатку. Зьмены ўладца ды інш. не давалі прасьвету». 8 жніўня 1919 года Менск захапілі палякі. Спраўдзіліся прадказаньні Купалы наконт захопніцкіх памкненьняў «панскай Варшавы». 28 жніўня Купала піша «незалежніцкі» верш «Паўстань...», апублікаваны нядаўна ў нарысе Б. Сачанкі «Бэндэ» (Літаратура і мастацтва. 1988. 3 чэрв.). Паэт заклікае беларускі народ з дапамогаю міфічных Прарока, Песьняра, Ваяка і Уладара, якія ўвасабляюць усё самае лепшае, сьмелае і думаючае ў нацыі, дапамагчы народу вызваліцца ад «чужых бадзяк», аб'яднаць свой край, свае сілы для барацьбы за свабоду, абараніць Радзіму, якая стамілася ад бясконцага прыгнёту. Купала заклікаў «адбудаваць свой збураны пасад».

Цікавы верш «Жыды», напісаны Купалам у гэтым жа годзе, які выпаў са збору твораў Купалы, верагодна, з-за неадукаванага пурытанства рускамоўных складальнікаў. Амаль да сярэдзіны XX стагодзьдзя слова «жыд» было, дый зараз застаецца, нейтральным у беларускай мове. Неэкспрэсіўнае яно і ў польскай, літоўскай і многіх іншых мовах. Заўважу, што апусканьне гістарычнай назвы іншай нацыі не

робіць гонару перш за ўсё нацыі сваёй. Тым не менш некалькі вершаў Францішка Багушэвіча і Янкі Купалы да гэтага часу «забытыя» менавіта па названай прычыне, нягледзячы на іхні зусім інтэрнацыянальны зьмест:

ЖЫДЫ

Жыды! «Хрыстапрадаўцы і прыблуды»!
О, слава вам, ўсебеларускія Жыды!
Я веру вам, хоць чорнай гразьзю ўсюды
Плюе вам цар і раб, стары і мала́ды.

Нявольнікі вы сёньня з намі разам
На беларускай змучанай зямлі,
Дзе чорны зьдзек, пасьвенчаны абразам,
Гняце нас разам, як зьвяр'ё, ў крутой пятлі.

Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй —
Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць,
Хоць наш магільнік кветкай апрануўся,
Хоць згубны мор над намі гібеляй ляжыць!

Калі ў Гішпаньі ўзбунтаваны людзі
З сваёй краіны выгналі вас напасьмех,
На беларускім полі вашы грудзі
Навек знайшлі дняваньне, страву і начлег.

Шлі дні. І вас у ланцугі скавалі
Бязбожны каралі і дэспаты-цары.
Адны вас Беларусы шанавалі,
Як блізкіх родных — да сьвятлейшае пары.

Масква й Варшава аплюлі вам імя
І ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам,
А Беларусь пад крыльлямі сваімі
Вас грэла й вашым нянькаю была дзяцям.

Пасьля, Жыды, вы зрэкліся народу,
Які вам шчодра даў багацьце і прыпын,
Пайшлі прыдбаць сабе вы чэсьць, выгоду
Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!

Раскіданыя гібнуць па ўсім сьвеце,
Вы Мэсыі чакаеце яшчэ, Жыды, —
Тэй Мэсыі ждуць Беларусі дзеці
І з вамі пойдуць, як вы з намі, ўсе тады.

Ваш ясны сьветач там, дзе Палестына,
Наш ясны сьветач — Маці-Беларусь адна;
Спадзе ланцуг ваш у сьляпым загіну,
Спадзе ланцуг наш і зазьзяе ўсім вясна!

Цяпер за вамі слова ў буру гэту:
Пайсьці ці не з народам нашым да сьвятла?
Пара, Жыды, паны усёга сьвету,
Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!

Верш «Жыды» Купалы важны для нас ужо ў тым сэнсе, што ён адхіляе абвінавачваньні паэта ў нацыяналізме. Гэты верш — своеасаблівая праграма ўзаемаадносінаў паміж беларускім народам і яўрэйскім народам, які адыграў даволі актыўную ролю ў гістарычным лёсе Беларусі. Як адзначае польскі гісторык Алексы Дзеруга, «у гарадах Беларусі працэнт яўрэяў хістаўся ад 40 да 80. Яўрэйскі пралетарыят складаў значную частку, а неаднаразова і большасьць на прамысловых прадпрыемствах».

Беларускі літаратуразнаўца і крытык Антон Луцкевіч так вызначыў асноўны пафас верша: «Дзеля таго, каб нашыя дарогі не разышліся ў розныя бакі (а хвалёная ідэя сіянізму якраз мяркуе такое разыходжаньне), Купала прад'яўляе яўрэям цьвёрдае патрабаваньне: у гэты гістарычны момант, калі вырашаецца пытаньне пра будучыню Беларусі, верагодна, на доўгія часы, яны павінны аддаць беларускаму народу старую пазыку і падтрымаць яго ў барацьбе за свабоду і незалежнасьць».

Традыцыйны для Купалы па назве і тэматыцы верш «Новы год» 1919 года (Полымя. 1988. № 10) незвычайны па зьмесьце. Гэта адзін з самых трагічных вершаў паэта. Паэт як бы нерухомее на імгненьне, азіраючы тое, што адбываецца на беларускай зямлі. І назіраньні ягоныя страшныя і беспрасьветныя:

Пад звоны зброі, путаў звоны,
Пад сьвіст разьюшаных прыблудаў
Брыдзеш зь няведамых старонаў,
Як здань няведамага цуду.

На беларускае йдзеш поле,
На акрываўленыя межы,
Дзе закаванай дрэмле воля,
Дзе звоне звон хаўтурны зь вежы.

Ідзеш у край, дзе пажарышча
Яшчэ дымець не перастала,
Дзе сьмерць спраўляе сваё йгрышча
У сполку з чэрняй адзічалай.

Ідзеш у край, дзе сотні летаў
Хто толькі хоча гаспадарыць,
Але не сын зямліцы гэтай,
Які тут косьці вечна парыць.

Ідзеш у край, які бязбожна
Жыўцом парэзаны на часьці,
А брат проць брата стаў варожна
І памагае край раскрасьці.

На Беларусь ідзеш, Год Новы,
На зьмену йдзеш Старому Году,
Ідзеш і звоніш у аковы,
Як той стары з пачатку роду.

У гэтым жа годзе Купала напісаў чатыры зь сямі вершаў цыкла «На вайсковыя матывы», толькі два зь якіх ёсьць у Зборы твораў. У такой выбарковай публікацыі адсутнічае хоць якая логіка, таму што ўключаны ў сямітомнік верш «Дзе ты, хмелю, зімаваў?» няма падставаў лічыць менш «котррэвалюцыйным» за неапублікаваныя і наадварот. Рыгор Бярозкін называе гэты верш адным з купалаўскіх шэдэўраў. Але і астатнія не горшыя, дадамо мы, маючы на ўвазе мастацкую цэласнасьць цыкла, адзіная «правіна» якога толькі ў тым, што пісаўся ён для беларускіх вайсковых часцей, дэкрэт пра фармаваньне якіх быў падпісаны Ю. Пілсудскім 23 кастрычніка 1919 года. Надалей ідэя палякаў узброіць беларусаў была адкінута, вырашылі, што можа так стацца, што беларусы павернуць зброю ў бок дабрадзеяў, і далей невялікага афіцэрскага корпусу справа не пайшла (у гэты корпус, дарэчы, уваходзілі Сымон Рак-Міхайлоўскі, будучы дзеяч кампартыі Заходняй Беларусі, і паэт Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі), якому ўдзел у Беларускай вайсковай камісіі інкрымінаваўся пазьней як варожыя адносіны да савецкай улады, што аўтаматычна выключала ягоную творчасьць з гісторыі беларускай літаратуры). Многія зь беларускіх паэтаў бачылі ў беларускім войску, якое пачынала фармавацца, сілу, якая магла б адстаяць інтарэсы беларускага народа, і лічылі сацыяльным заказам напісаньне тэкстаў для вайсковых маршавых песьняў, якія адразу ж былі пакладзеныя на музыку У. Тэраўскім: «То не дудка мая, Не жалейка, Гэта стрэльба мая Трохлінейка... — пісаў Алесь Гарун. — Мы цяпер зажывём Па-другому, Непадданы чарту Ніякому, Будзем мы ваяваць Для народу, Бараніць яго край І свабоду». Зьмітрок Бядуля таксама напісаў цыкл «Вайсковых песьняў»:

Пара, пара. Сядлай каня!
Хутчэй у бой, у бой!
Гарыць мой конь, як той агонь, —
Разлучымся з табой.
.........................................

...Вітай, вітай, курган і гай,
Я, можа, не вярнусь...
Мой конь сьпяшыць, трэ бараніць
Сьвятую Беларусь.

«Я — жаўнер малады, Я — дзяцюк хоць куды. І бязь меры я дуж, Звапь мяне Беларус», — спрабаваў нямоцны яшчэ голас вядомы ў будучым заходнебеларускі паэт і палітычны дзеяч Леапольд Родзевіч.

Купалаўскі цыкл «На вайсковыя матывы» быў апублікаваны ўпершыню ў часопісе «Рунь», які рэдагаваў сам Я. Купала. Часопіс, кажучы словамі Уладзіміра Конана, «выступаў за нацыянальную незалежнасьць беларускага народа, усебаковае разьвіцьцё яго эканомікі і культуры». Цыкл вершаў «На вайсковыя матывы» мае выразную фальклёрную аснову. Не дарэмна першы верш цыкла «Ой, вяду бяду...» мае падзагаловак «З народнага». Верш глыбока метафарычны. Традыцыйная для беларускай літаратуры (узгадаем таго ж Ф. Багушэвіча) сустрэча героя зь бядой-горам у Купалы мае арыгінальную разьвязку: герой не апускае рукі, а ўступае зь бядою ў бой.

Ой, вяду бяду,
А бяда мяне
Водзіць вечным сьледам;
Гэтак ходзім мы
За адным адно,
Як той дзед за дзедам;
Гэй, паклічу сход
Ды зьбяру народ,
Ды зьбяру жаўнераў,
Хай ідуць вайной
На маю бяду —
На ліхога зьвера.
Знай, жаўнеры мы,
Выйшлі не на жарт
Біцца, ваяваці;

Знай, хавалі нас
Поле, бор і лог
Беларусі-маці!

У традыцыйным жанры народнай балады напісаны верш «Гэй, паехаў сын Даніла...» і адзін з дасканалейшых вершаў цыкла «А ў бары, бары...». Што, як не купалаўскі тэкст, ёсьць лепшым доказам абсалютнай абсурднасьці замоўчваньня, забыцьця гэтых вершаў?

Гэй, паехаў сын Даніла
Ваяваць на вайну,
Ад нападу, ад няволі
Бараніць старану.
..............................
Ехаў поле і другое,
Трэцьце поле дасьціг,
Дзе сабраліся жаўнеры
Зь сёл і вёсак усіх.

І пайшлі яны паходам,
Дружна, сьмела пайшлі,
Каб вон злыбяду прагнаці
Зь беларускай зямлі.

Добра ўсе там ваявалі —
Уміралі ў баю.
А найлепш Даніла біўся
За краіну сваю.
................................
Як ачысьцілі ваякі
Край ад ворага свой,
Важна ехалі дадому,
Як тых пчол буйны рой.

А наперадзе ўсіх едзе
Наш Даніла з вайны,

Шабля бліскае пры боку,
Конь пад ім буланы.

Даніла едзе на вайну бараніць родны край, маці на памяць дае яму крыжык, а дзяўчына — пярсьцёнак. Праз год пасьля вызваленьня радзімы ад ворага Даніла са славаю вяртаецца дадому.

Верш «А ў бары, бары...» таксама з выгляду просты і нескладаны, якой і павінна быць тэкставая аснова маршавай песьні.

Перад жаўнерам ростані: тры дарогі. Адна вядзе на ўсход, адкуль не вярнуцца, другая — на захад, у няволю. Жаўнер выбірае трэцюю, якая ідзе ў родны край.

А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!
Тудой шоў жаўнер
Наш прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!

Стаў, глядзіць жаўнер,
Сумняваецца.
Гэй, гэй, гэй, сумняваецца!
Па якой пайсьці,
Надумляецца.
Гэй, гэй, гэй, надумляецца!

Абодва вершы глыбока патрыятычныя па зьмесьце. Купала аптымістычна глядзіць у будучыню Беларусі, ягоныя героі — «беларускія сыны» — па-сапраўднаму адданыя свайму краю. Працуючы над вобразам рамантычнага героя, беларускага вайскоўцы, бясстрашнага рыцара ў песенна-народным успрыманьні, Купала паказваў шлях маладым беларускім сілам, а не толькі сьпяваў у адчаі і ў суме пра будучыню сваёй Радзімы. Цікава, што двума гадамі раней гэты самы сюжэт па-свойму, але з гэткім жа пафасам апрацаваў Зьмітрок

Бядуля. За апошнія 70 гадоў ягоны верш «Тры сьцежкі...» таксама нідзе не публікаваўся...

Супраць гаспадараньня чужакоў у родным краі накіраваны пафас верша «Габруся ў жаўнерку ўзялі...». Усьцерагчыся ад іх можна толькі супольна ўсім разам. Абараніць родную зямлю — гэта абавязак кожнага чалавека. У гэтай справе грамадскія інтарэсы павінныя быць вышэйшыя за асабістыя, — вуснамі галоўнага героя Габруся гаворыць Купала.

Габруся ў жаўнерку ўзялі,
Ад дамоўства адарвалі.
Зажурыўся стары татка,
Стогне, плача цяжка матка,

Ой, Габруська! Ой, Габруська!

Не журбуйце, тата, маці!
Я ўсядзець не мог у хаце,
Сам пайшоў па добрай волі
Паспытаць ваеннай долі,

Не журбуйце, не журбуйце!

Сваякі ўсе і суседзі —
Ніхто дома зь іх не ўседзеў,
Выйшлі ўсе з адною радай —
Бараніцца ад нападу,

Бараніцца, бараніцца!

Юнацкай гарэзьлівасьцю напоўнены верш «Будзь здаровы, бацька, маці...», яшчэ адзін маленькі шэдэўр Купалы. Песьня стала народнай:

Будзь здаровы, бацька, маці, —
Мы пайшлі ўжо ваяваці.
    Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
    Каля вуха дзецюка.

Што за доля, што за воля —
Жаўняроньку выйсьці ў поле!
    Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
    Каля вуха дзецюка.

Нам няўцям віхры, грымоты, —
Дадае нам гром ахвоты.
    Сьвішча куля, йяй-ха-ха!
    Каля вуха дзецюка.

Па рытміцы вершы-песьні Я. Купалы «Габруся ў жаўнерку ўзялі...», «Будзь здаровы, бацька, маці...» вельмі падобныя на шырокавядомую «Песьню беларускіх жаўнераў 1794 года» — гімн паўстанцаў-касьцюшкаўцаў:

Помнім добра, што рабілі,
Як нас цёрлі, як нас білі.
Дакуль будзем так маўчаці,
Годзе нам сядзець у хаце...

Безумоўным бачыцца насьледаваньне Купалам традыцыяў беларускай гістарычнай вайсковай песьні.

...Напачатку 1920 года Купала цяжка захварэў. Пасьля трох месяцаў лякарні, дзе яго даглядаў беларускі ксёндз, рэктар Менскай духоўнай семінарыі Фабіян Абрантовіч, паэт зноў бярэцца за пяро і 24 сакавіка 1920 года піша адметны па трагічным напаўненьні верш, які ўжо згадваўся ў гэтым артыкуле «25.III.1918 — 25.III.1920», прысьвечаны другой гадавіне абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. «Гадаўшчына-памінкі» — даў Купала падзагаловак гэтаму рэквіему жаданьняў і нязбытных навараў. Мінула два гады, але народу даводзіцца адзначаць не сьвята, а трызну па маціайчыне. Вакол — папялішчы, магілы, паднявольле. Купала разьвітваецца з тым, што ў ягоным уяўленьні было адной з найбольш істотных задачаў сапраўднай рэвалюцыі, — з правам народа на самастойнае вызначэньне свайго лёсу. Паэт прадбачыў, як для беларускага народа можа абярнуцца штуч-

нае запавольваньне разьвіцьця толькі яшчэ ўзрастаючай нацыянальнай сьвядомасьці. А гэтым рэальна пагражала палітыка белапалякаў і многіх былых кіраўнікоў Аблвыкамзаха, якія пазаймалі камандныя пасты ў БССР.

Тым часам савецкая ўлада канчаткова ўсталявалася на тэрыторыі Усходняй і Цэнтральнай Беларусі. Многія вядомыя беларускія дзеячы актыўна падключыліся да будаўніцтва «новага жыцьця». Зьміцер Жылуновіч, Вацлаў Ігнатоўскі, Сьцяпан Булат, Алесь Чарвякоў ды іншыя заклікалі беларускую інтэлігенцыю ўдзельнічаць ва ўмацаваньні і будаўніцтве незалежнай савецкай сацыялістычнай рэспублікі.

Купала шмат працуе. Ён — намесьнік загадчыка выдавецка-літаратурнага адзьдзела Наркамасьветы БССР, уваходзіць у навуковую камісію па складаньні і апрацоўцы беларускай тэрміналогіі, зьяўляецца сябрам навукова-рэдакцыйнай калегіі Наркамасьветы БССР, рэдагуе часопіс «Вольны сьцяг», бярэ ўдзел у арганізацыі Інбелкульта.

Своеасаблівым вынікам мінулага перыяду зьявілася ўжо згаданая п’еса Я. Купалы «Тутэйшыя», скончаная ім у жніўні 1922 года. Дзея п’есы адбываецца з пачатку 1918 года да сярэдзіны 1920-га ў Менску.

П’еса была надрукаваная ў «Полымі» толькі ў 1924 годзе. Пастаўленая ў 1926 годзе Купалаўскім тэатрам, яна была хутка выключаная з рэпертуару. Зьмяняўся час, і шматлікія думкі і намёкі пачыналі здавацца крамольнымі. У 1927 годзе п’еса была надрукаваная ў зборы твораў Купалы. І пасьля гэтага доўгі час пра яе нават не згадвалі, пры гэтым назва часам фігуравала ў літаратуразнаўчых працах, але заўсёды зь негатыўнай ацэнкай. У 1982 годзе магілёўскі тэатр паставіў «Тутэйшых», але пасьля паказу ў Менску зьняў з рэпертуару. А п’еса зноў была надрукаваная толькі ў верасьнёўскім нумары «Полымя» за мінулы год, і ў перакладзе на рускую мову — у «Немане» (1989. № 7).

Трэба думаць, што ў 20-я гады паэт часова «адклаў» пытаньне пра сваё прыняцьце рэвалюцыі, аддаў перавагу напружанай творчай працы. Іншымі словамі, паэт не сьпя-

шаўся з высновамі. Гэта не значыць, канечне, што ён ухіляўся ад асэнсаваньня рэчаіснасьці і зьменаў, якія адбываліся ў жыцьці. Ён пакутаваў ад невырашальных праблемаў. Напрыклад, тое, што спрадвечныя беларускія землі — большая частка Віцебшчыны, Гомельшчыны, Магілёўшчыны — апынуліся ў складзе Савецкай Расеі, а Заходняя Беларусь — пад польскім ярмом. А. Лойка адзначае: «У 1922 годзе пытаньне аб расчляненьні краю, аб няпэўнасьці яго тэрытарыяльных прастораў быў сапраўды адным зь першых». У 1926 годзе Купала з горкай крыўдай пісаў радкі, дарэчы, прапушчаныя ў зборы твораў.

На памяць мне прыйшла дзяўчына, —
Скажу — тутэйшая яна, —
І здарылася зь ёй прычынай,
Прычына жудкая адна:

Кашулю ёй зьнялі ў няшчасьці
Суседзі, а не іншы хто, —
І падзялілі ўсё на часьці,
Як бы дзяліць не мелі што.

*(«У лесе»)*

Яшчэ наперадзе беларусізацыя і карэнізацыя, узбуйненьне рэспублік 1924 і 1926 гадоў, вяртаньне лепшых культурных і палітычных нацыянальных кадраў з эміграцыі «будаваць беларускі дом». А пакуль у 1922 годзе нараджаўся поўны цяжкіх роздумаў і трывогі верш «Перад будучыняй». «Ці ўскрэсьнем мы, душою ўпаўшы, зьвяўшы, Каб выйсьці ў сьвет, як нейкі здольны род...» На гэтыя пытаньні Купалы гісторыі яшчэ трэба было адказаць. Сам паэт адказаць не пасьпеў. Імклівы прыліў беларусізацыі зьмяніўся яшчэ больш імклівым адлівам. Пасьля 1928 года прыйшоў час, калі духоўны лідар нацыі думаў адно, а рабіць і гаварыць быў вымушаны зусім іншае. Пісаліся пакаянныя лісты, праводзіліся арышты. Пачынаўся перыяд страху і грамадзянскага маў-

чаньня, узаконенага паклёпу і зьнішчэньня лепшых сыноў і дачок усіх нацый. Да выхаду краіны з гэтага перыяду паэт не дажыў. Яго не стала ў 1942 годзе.

Сёньня, амаль праз паўстагодзьдзя з таго часу, у друку загаварылі нарэшце пра тямніцу таямніцаў купалазнаўства — пра загадкавую гібель паэта ў пралёце лесьвіцы гатэля «Масква». У шэрагу шматлікіх, яшчэ не апублікаваных твораў, схаваных у сьпецсховы, і бясконца перакручаных сьведчаньняў пра ўчынкі, словы і погляды Купалы месца гэтага эпізоду асобнае. Яго асабліва трэба праясьніць. Што гэта было — выпадковасьць? Забойства? Самазабойства? Ці не хаваецца тут канчатковы адказ пра адносіны паэта да новага рэжыму? Ці можна гаварыць пра новую канцэпцыю, пераацэнку састарэлых поглядаў, пра высновы, не маючы асноўных біяграфічных фактаў? Можна — як я і паспрабаваў гэта зрабіць — толькі гіпатэтычна... Можна згадаць пра тое, што яшчэ да вайны была спроба самагубства. І было яшчэ доўгае дзесяцігодзьдзе згасаньня метадычна трэціруемага чалавека. Была рэальнасьць, якая зрабіла сьмерць усяго і ўся і татальную хлусьню будзённай, нарэшце — быў лесьвічны пралёт. Гэта — з аднаго боку. З другога — былі звонкія гімны калгаснаму ладу, оды правадыру...

Купала і рэвалюцыя. Стыхія, якая нясе крохкі карабель. Куды? У апошняе імгненьне ён бачыў бездань. Яму было 35, калі зьдзейсьнілася рэвалюцыя, ёй — 25, калі яго не стала. Па шматзначным супадзеньні і ўжо цяпер па арыфметычнай заканамернасьці ўсе іх юбілеі заўсёды будуць адзначацца разам.

*Нёман. 1989. № 11.*

## ЦІ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ?

Так, гэты даведнік — першая персанальная энцыклапедыя ў беларускай літаратуры. Заканамерна, што пры выбары тэмы выдаўцы і ўкладальнікі аддалі перавагу вялікаму паэту, духоўнаму лідару нацыі Янку Купалу. Нягледзячы на шматлікія дасьледаваньні, прысьвечаныя творчасьці, жыцьцю і дзейнасьці паэта, трэба прызнаць, што тэма гэтая ў беларускім літаратуразнаўстве прадстаўлена недастаткова аб'ектыўна і вычарпальна. Шматлікія важныя пытаньні, напрыклад такія, як асэнсаваньне творчасьці Купалы 1918–1920 гадоў, а таксама 30-х гадоў, дагэтуль асьвятляліся пад уплывам спрошчаных канцэпцый, выпрацаваных у часы культу асобы, калі шматлікія творы Купалы, імёны яго папярэднікаў, паплечнікаў і пасьлядоўнікаў замоўчваліся, як быццам бы іх не існавала наогул.

Дата выхаду ў сьвет энцыклапедычнага даведніка — 1986 год. Гэта значыць, час яго падрыхтоўкі, улічваючы крыўдную маруднасьць паліграфічнага працэсу, — гэта час «застою», што, на жаль, адбілася на ўзроўні даведніка. Бо акрамя важнай і надзённай задачы — збору ўсяго матэрыялу, зьвязанага зь імем Купалы, у наш час дэмакратызацыі і галоснасьці неабходна з аб'ектыўных пазіцый перагледзець

эстэтычныя і палітычныя адзнакі творчасьці паэта, не адпаведныя праўдзе, даць суцэльны, шматгранны, «жывы» вобраз Купалы.

Пэўныя посьпехі аўтарскім калектывам дасягнуты. Сабраны разам і спарадкаваны велізарны біяграфічны матэрыял, разгледжаны розныя асьпекты сьветапогляду Купалы, яго маральна-этычныя, філасофскія погляды, а таксама некаторыя творы паэта, раней не згадваемыя, не ўключаныя ў яго апошні збор твораў. Гэта, у першую чаргу, п’еса «Тутэйшыя», вершы «У чужой старане», «На рынку», «Чараўнік», «Груганы». Увогуле «рэабілітавана» каля 30 твораў паэта. Па аб’ёме гэта важкі том. Па значнасьці — каштоўная частка мастацкай спадчыны.

Зрэшты, першая радасьць ад такога папаўненьня хутка праходзіць, азмрочваецца пры больш дэталёвым знаёмстве з даведнікам. Атрымліваецца, і тут, як і ў папярэднім, «застойным» купалазнаўстве, занадта шмат «белых плям», скажэньняў, спроб «адлакіраваць» Купалу, паказаць яго ў выгадным для старой схемы сьвятле, насуперак фактам, аб’ектыўнай праўдзе.

Нягледзячы на ўмоўны том «новых» твораў, адзначаных і разгледжаных у даведніку, па самых прыблізных падліках (улічаны толькі апублікаваныя творы) з поля зроку дасьледнікаў-энцыклапедыстаў выпала больш за 20 вершаў паэта, а таксама паэма «На Дзяды». Гэта значыць, значная частка пакінута ў цcraню. Наша сучаснае купалазнаўства апынулася не гатовым да аналізу і каментаваньня «нязручнага» Купалы. Згадай даведнік верш «25.III.1918 — 25.III.1920», прысьвечаны 2-м угодкам абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, — і давялося б казаць пра стаўленьне паэта да БНР, гэта значыць пра прадмет, мала вывучаны нашымі дасьледнікамі і вельмі далікатны.

Аднак перад намі не ўзор «выпадковага цемрашальства» і шкодных ці памылковых поглядаў, а хутчэй наадварот. Купала востра і хутка рэагаваў на падзеі грамадзянскай вайны ў Беларусі. Стаўленьне яго да БНР было неадназначным,

што і адбілася ў вершы «25.III.1918 — 25.III.1920». Але найперш гэты верш — пра народ, пра будучыню радзімы:

Не сьвята сьветлае спраўляці
Сягоньня будзе наш народ.
А трызну па айчызне-маці
Ён справе ў гэты цяжкі год.
.............................................
За катам кат на нашы гоні
Прыходзіў, грабіў, зьністажаў,
Людзей закованых палоніў,
На той сьвет без пары саджаў.

Край разрываны ўвесь на часьці —
Народ аграблены яго —
Не ўбараніўся ад напасьці
І ад пагібельля свайго.

Апошняя публікацыя гэтага верша ў БССР датуецца 1930 годам.

А якое тлумачэньне даць вершам Купалы з «упадніцкімі», па старой наменклатуры, матывамі, такімі, як «Крыўда», «Казка аб песьні», «Перад будучыняй», «Новы год» (1920)?

Што рабіць зь вершамі «Над Нёмнам», «Маці» і той жа «Казкай аб песьні», дзе выказваецца стаўленьне Купалы да «залатога стагодзьдзя», згадваньне пра якое ў 30-я гады стала палітычным кляймом? Як суаднесьці погляды Купалы на гісторыю з начотніцтвам гісторыкаў-вульгарызатараў, якія і цяпер не жадаюць саступаць свае пазіцыі? На гэтыя пытаньні даведнік, на жаль, адказу не дае. Вершы ж «апушчаны» без усякіх тлумачэньняў.

Няма ў даведніку і асобных артыкулаў, прысьвечаных стаўленьню Купалы да афіцыйнай палітыкі дарэвалюцыйнай Расеі. Мабыць, прымаецца да ўвагі версія тых жа вульгарызатараў пра «шматвяковае імкненьне беларускага народа да ўзьяднаньня зь вялікім рускім народам», калі пад рускім народам разумеецца наогул усё рускае, у тым ліку цар, чы-

ноўнік, царква. Інакш як растлумачыць адсутнасьць у кнігах паэта і ў даведніку пра яго вершаў «Наша гаспадарка», «Акоў паломаных жандар...», «Годзе!..». Заўважым, што гэтыя вершы незаменныя пры вывучэньні гістарычнай сьвядомасьці Купалы, яго імкненьня вызначыць далейшыя шляхі разьвіцьця беларускай культуры, нацыі:

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна.
Ўсе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі б да дна.
.................................................
Мы не пакінем свае папялішчы,
Зь сьцежкі — наперад, не пойдем назад.
Сьмела здрузгочам старыя бажыжчы,
Новым законам збудуем пасад.

*(«Годзе!..»)*

Не вядзецца размова таксама пра тыя вершы Купалы, у якіх адлюстраваны праблемы, што хвалююць наша грамадства і сёньня, — захаваньне і разьвіцьцё беларускай мовы, выхаваньне і адукацыя на роднай мове. У 1926 годзе, у разгар палемікі пра беларускую мову, разгорнутай у газеце «Савецкая Беларусь», паэт пісаў:

Акоў паломаных жандар,
Сьліўнём зарыўшыся ў нару,
Сядзіць расейскі чынадрал,
«Слуга оцечаству, цару».

Ён сьніць былую моц і шыр:
Цары, царыцы, цэрквы, трон,
Пагромы, катаргі, Сібір...
О Русь! Прымі раба паклон!
.....................................

У твой ланцуг былі, о Русь,
Уплецены з усіх бакоў
Украйна, Польшча, Беларусь
І сотня іншых «языкоў».

Цяпер, што бачу я кругом?
Пасад маўклівы збуран скрозь…
Рэспублікі?! Ды зь «языком»
Зь іх лезе кожная ўсур'ёз.

Прычыны ўключэньня таго ці іншага верша Купалы ў «чорны сьпіс» часам і зусім незразумелыя. Напрыклад, зь сямі вершаў цыкла «На вайсковыя матывы» ў даведніку даецца характарыстыка толькі двум, якія не адрозьніваюцца ад астатніх ні ідэйна-палітычнай скіраванасьцю, ні мастацкім узроўнем. Няма артыкула і пра сам цыкл.

Магчыма, такім чынам дасьледчыкі пазбеглі тлумачэньняў і адказу на пытаньне: для якога такога войска пісаў Купала гэтыя маршавыя песьні, пакладзеныя на музыку У. Тэраўскім?

Аднак думаецца, што сыход ад рэчаіснасьці 20-х гадоў, ад фактаў, ад твораў паэта — далёка не лепшае рашэньне складаных пытаньняў, тым больш для паважанага энцыклапедычнага выданьня. Ды і ці заканамерна называць «энцыклапедычным даведнікам» выданьне, у якім сьвядома не зьмешчаны шматлікія зьвесткі па вывучаемым прадмеце?.. Хаця названае намі — толькі невялікая частка таго, што не зьмешчана ў даведніку.

Не патрапілі ў даведнік, хутчэй за ўсё па няўважлівасьці, артыкулы пра некаторыя вершы Купалы, так бы мовіць, нейтральныя, безь якіх-небудзь «нязручнасьцяў». Гэта эпіграма «Любіць ён працу», надрукаваная ў часопісе «Полымя» ў 1929 годзе, а таксама верш «Зашуміць-загудзіць», які друкаваўся яшчэ ў 50-я гады. Па гэтай жа, мабыць, прычыне ў даведніку ніяк не адзначаны факт публікацый у першай складанцы паэта «Жалейка» двух варыянтаў верша «Шавец».

Даўно надышоў час перагледзець ацэнку творчасьці Купалы 30-х гадоў, калі, па сутнасьці, ён быў змушаны пісаць голыя дэкларацыі і лозунгі, якія ўслаўлялі І. Сталіна і нібы райскае жыцьцё беларускіх сялян і працоўных.

У даведніку мы не знойдзем прычын і вех, якія пазначылі гэты страшны шлях ад паэта-трыбуна, паэта — прарока бед і спадзяваньняў народа да паэта прымусовага афіцыёзу, вершы якога цяпер успрымаюцца як насьмешка над геніем, зламаным і зьнявечаным. Але мы знойдзем нешта зваротнае. Напрыклад, да верша «Маё мне сонца правадыр...» прачытаем такі каментар: «У творы, не пазбаўленым цёплага лірычнага пачуцьця, — настрой бадзёры, узнёслы. Паэт ухваляе дзеяньні правадыра, называе яго “сонейкам” і, адштурхоўваючыся ад гэтага сімвалічнага вобраза, прызнаецца ў шчырай любові да ўсяго, што злучана з гераічнымі зьдзяйсьненьнямі народа» (аўтар артыкула М. Мішчанчук). Якая ідылічная карціна! Як быццам бы не было перад гэтым 1929 года, калі лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі апынуліся ў ссылцы, калі амаль усе блізкія сябры Купалы былі рэпрэсаваныя. Як быццам бы не было арышту, зьняволеньня і спробы самагубства самога Купалы, не было публічнага адрачэньня ад сваіх поглядаў і папярэдняй творчасьці, не было ганеньня з боку надзеленых уладай крытыкаў, якія прымусілі пісаць тое, што патрабавалася, не было неабгрунтаванага «раскулачваньня» і спробы высяленьня блізкіх сваякоў паэта. Але якраз пра гэтыя падзеі ў даведніку мы не знойдзем ні слова, як не знойдзем згадваньня пра купюры, зробленыя безь ведама паэта ў яго вершах 30-х гадоў.

У агульнай колькасьці ў апошнім зборы твораў бракуе 22 вершаў і 37 строф гэтага перыяду. Але ці патрэбны нам Купала «вычышчаны», адрэдагаваны? Ці не зьмякчаем мы той «падчысткай» ва ўласным уяўленьні становішча, якое склалася ў нашай літаратуры ў 30-я гады? Ці ўсьведамляем мы трагедыю тых гадоў, згаджаючыся на купюры? Ці разумеем мы цалкам, пры гэтых купюрах, якія хаваюць бясконцае — Сталін, Сталін, Сталін, — як было тады Купалу?

Складальнікі даведніка замоўчваюць пра сітуацыю канца 30-х гадоў, калі над Купалам навісла пагроза фізічнага зьнішчэньня, ніяк не асьвятляюцца акалічнасьці трагічнай сьмерці паэта. Досыць успомніць, як старанна рускія літаратуразнаўцы вывучаюць апошнія дні жыцьця і акалічнасьці сьмерці А. Пушкіна, каб зразумець недарэчнасьць замоўчваньня ў даведніку «Янка Купала» нават надрукаваных меркаваньняў пра матывы і акалічнасьці сьмерці паэта.

Час складаньня даведніка адчуваецца і ў такіх вось «белых плямах» у біяграфічным матэрыяле і ў «пропусках» матэрыялаў творчага парадку.

Няма інфармацыі пра пераклад Купалам з польскай на беларускую мову «Кантычкі» — зборніка каталіцкіх рэлігійных песень, выдадзенага Вацлавам Ластоўскім. Наяўнасьць у зборніку 20 невядомых перакладаў паэта, акрамя ўсяго іншага, сьведчаць пра яго стаўленьне да праблемы беларускай мовы ў касцёле.

Невыразна прадстаўлена ў даведніку такая важная праблема, як прысьвячэньні Купалам сваіх вершаў. Хоць менавіта прысьвячэньні дазваляюць вызначыць прыхільнасьці паэта, яго пазіцыю па некаторых праблемах. Нічога не сказана ў даведніку пра прысьвячэньне вершаў паэта Вацлаву Ластоўскаму («Дудар», «Песьня званара», «А як нам зоркі загаснуць...»). Бо па афіцыйнай версіі адносіны паміж Купалам і Ластоўскім, мякка кажучы, не скаліся. З чатырох прысьвячэньняў рэдакцыі «Нашай Нівы» не названы два — да трэціх угодкаў газеты (верш «Зь мінулых дзён») і да чацвёртых угодкаў («Роднае слова»).

Сумнай памяці традыцыя часу «застою» адбілася ў тым, што даведнік значна дэперсаналізаваны.

Бо не сакрэт, што шматлікія прозьвішчы не рэкамендавалася нават згадваць. Вось толькі некалькі прозьвішчаў, якія выпалі з даведніка: А. Станкевіч — заходнебеларускі крытык, які не раз пісаў пра Купалу, ксёндз; І. Луцкевіч — ідэолаг беларускага адраджэньня, працаваў разам з Купалам у «Нашай Ніве»; Я. Обст — польскі журналіст, захаваўся

аўтограф Купалы з прысьвячэньнем Обсту кнігі вершаў; М. Забэйда-Суміцкі — вядомы ў Еўропе беларускі тэнар, выконваў песьні на вершы Купалы; Ф. Аляхновіч — беларускі драматург, які напісаў унікальную ў нашай літаратуры п'есу-працяг купалаўскай «Паўлінкі» — «Заручыны Паўлінкі» і прысьвяціў яе Купалу; Л. Заяц згадваецца ў артыкуле пра «Паўлінку» як выканаўца ролі ў пецярбургскай пастаноўцы п'есы, але ён заслугоўвае асобнага артыкула, бо сустракаўся з Купалам у Празе ў кастрычніку 1925 года; там жа, дарэчы, Купала сустракаўся з А. Цьвікевічам, сябрам урада БНР, па хуткім часе — рээмігрантам, буйным беларускім навукоўцам-гісторыкам, пра якога ў даведніку наогул не згадваецца.

Няма артыкулаў пра паэта, паплечніка Купалы А. Гаруна; пра дасьледчыка А. Бергмана, пяру якога належыць манаграфія «Беларускі штотыднёвік “Наша Ніва”»; пра С. Яновіча, які выказаў, дарэчы, адну зь версій сьмерці паэта ў сваёй кнізе «Беларусь, Беларусь». 8 траўня 1927 года ў віленскай газеце «Беларускі Дзень» быў апублікаваны здымак групы беларускіх пісьменьнікаў, якія сфатаграфаваліся ў Менску ў 1920 годзе. Сярод сфатаграфаваных разам зь Янкам Купалам пісьменьнікаў — М. Краўцоў, Ю. Фарботка, А. Гарун, Ф. Аляхновіч. Ні пра іх, ні пра здымак, ні пра газету даведнік не згадвае. Як не згадвае ён і пра віленскі часопіс «Калосьсе», які часта зьвяртаўся да творчасьці Купалы.

У даведніку няма артыкула, прысьвечанага Беларускай сацыялістычнай грамадзе, партыі, якая аказала вялікі ўплыў на грамадзянскае станаўленьне паэта. Сам Купала ўспамінаў: «У 1904 годзе трапляюць мне ў рукі беларускія пракламацыі і рэвалюцыйныя брашуры на беларускай мове (у той час усе яны выходзілі толькі па ініцыятыве БСГ. — ***А. Б.***). Гэта канчаткова вырашыла, што я беларус і што адзінае маё пакліканьне — служыць свайму народу ўсімі сіламі сваёй душы і сэрца». Больш таго, Купала хоць і не стаў сябрам партыі, бо «не мог бы вынесьці партыйнага ці іншага падначаленьня», але ўдзельнічаў у нелегальнай дзейнасьці БСГ.

Ён успамінаў у лісьце да Л. Клейнбарта: «Яны (В. Самойла і А. Бурбіс — дзеячы БСГ. — ***А. Б.***) давалі мне нелегальную літаратуру для распаўсюду...».

У асобны артыкул вылучаны помнікі Я. Купалу (іх апынулася на зьдзіўленьне мала), але няма артыкула пра вуліцы, плошчы, якія носяць імя паэта. Няма схемы роду Луцэвічаў, а таксама схемы месцаў пражываньня Я. Купалы.

Сярод мноства ілюстрацый мы не знойдзем фотаздымкаў Радашковіцкага касьцёла, у якім Купала быў хрышчоны, Маскоўскага гарадскога народнага ўніверсітэта імя А. Л. Шаняўскага, у якім паэт вучыўся, маскоўскага Петрапаўлаўскага касцёла, дзе Купала вянчаўся з Уладзіславай Станкевіч, будынка ў Смаленску, дзе паэт жыў у 1918 годзе, гасьцініцы «Масква», дзе загінуў Купала, месца часовага пахаваньня паэта ў Маскве.

Даведнік «Янка Купала» зьявіўся своеасаблівым зрэзам, аб’ектыўна паказаў моц і слабасьць сучасных гуманітарных навук у Беларусі. Недахопы, характэрныя і нават звыклыя для навукі мінулых гадоў, сёньня кідаюцца ў вочы, патрабуюць выпраўленьня, дапрацоўкі, больш асьцярожнага, удумлівага, паважлівага падыходу да спадчыны вялікага паэта. У перспектыве, будзем спадзявацца, выйдуць энцыклапедыі Францыска Скарыны, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... Магчыма, у іх атрымаецца пазбавіцца ад тэндэнцыйнасьці і замоўчваньняў, якіх не пазбег, на жаль, даведнік «Янка Купала».

*Нёман. 1987. № 9.*

## ЛЕТНІ КРАЯВІД
## З ЗАСЬНЕЖАНАЙ МАГІЛАЙ

— Ты хоць фотаздымак яго бачыў?
— Але.
— Можа, ты яго са Сваяком блытаеш?
— Не, ён рахманы такі, ураўнаважаны.
— У Сваяка вочы гараць.
— Хварэў бы ты на сухоты, і ў цябе гарэлі б...

Зь Віцебска я паехаў у Сянно, там пахаваны Андрэй Зязюля — беларускі ксёндз і паэт Астрамовіч. Памёр ён у 1921 годзе, меўшы веку сорак два гады. Я ехаў і думаў: чаго памёр? Не стары яшчэ быў. І не ад голаду. Захварэў, мабыць, і памёр...

Пры Саветах Зязюлю замоўчвалі доўга, бо ксёндз. І нікога не цікавіла, што ксёндз гэты зь сялянаў, на простай мове казаньні прамаўляў ды вершыкі складаў.

А можа, і добра, што памёр. Хоць гвалту ў старасьці не зазнаў ад мясцовых хунвэйбінаў. З ксяндзамі па гэты бок мяжы разьбіраліся люта. Да 1939 года, здаецца, ніводнага незачэпленага не засталося. Галоўны іх Папа ў капіталістычнай краіне, а гэтыя, натуральна, прамыя агенты. Не



Андрэй Зязюля

ратавала і беларуская мова. Ксёндз Сак таксама вершыкі беларускія складаў, найперш змусілі адмовіцца ад сану, а пасьля ўсё адно забілі.

Зьліквідавалі. Вось і сумняваешся, ці варта было чалавеку жыць далей. Далей — усё ў крыві.

А зямля ўсё ўсмоктвае. І нічога. Жывём, хоць бы што. Але ж нельга ўхваляць сьмерць бліжняга. Нават ад спачуваньня. Мо б і выжыў як-небудзь. Выкараскаўся. Уцёк, скажам, у Кітай, як ксяндзы Цікота і Германовіч. Праўда, і там іх дасталі кітайскія камуністы. Вярнулі ў савецкія лагеры. І ўсё адно... Кожны павінен прайсьці свой шлях, які б ён ні быў, цяжкі ці лёгкі. Таму няма чаго шкадаваць. Невядома, што з намі будзе праз тры гады.

За акном між тым дзіўныя краявіды. Віцебскія пагоркі ды лагчыны. Нешта сьпее-жаўцее на невялікіх палях. Жыта, ужо, мабыць, пажалі. А як выразана ўсё, як акрэсьлена. Цяпла жоўтыя палі, і аксамітныя ласкавыя лясы, і сіняе неба зь белымі іскрыстымі аблокамі.

Прыгожа як, Госпадзі! Цывілізацыя — чалавечае пакараньне. Сумна прызнаваць, але з-за матэрыяльных дабротаў губіцца душа чалавечая. Душачыся ў гарадах, забываемся на прыгажосьць, хараство. Ды і сам я такі.



Сянно

Я гляджу — за шыбкаю зьмяняюцца чароўныя явы. І тут бы застаўся жыць, і тут. Слухаю адным вухам родную сваю гаворку, і дзівацкая ўсьмешка кладзецца на мае вусны. Добра ж як, добра! І які д’ябал наслаў на гэтую зямлю калгасы, адняўшы яе ў людзей, хто змусіў іх дзяцей «зачігірікаць»? Шчаслівы чалавек не заўважае свайго шчасьця. Толькі згубіўшы, пачынае разумець, што меў і што страціў.

Вялікая, ледзь бачныя краі, лагчына хавае ў сваім густым кустоўі цёмную рэчку. І меліярацыя не зачапіла, — думаю я, — не напаскудзіла. Жывуць сабе людзі, як і жылі. Хоць і не так, але бегма і не прыкмеціш.

Зімою тут усё заносіць сьнегам. Няма гэтых яркіх зіхоткіх колераў. Ёсьць толькі сьнег, сутонлівае шэрае неба, размытыя абрысы ўсяго і поўная цішыня. Можа, толькі ваўкі, ледзь чутныя, выюць.

У такі час, у студзені, і памёр Андрэй Зязюля.

Мы прыязджаем на пляц. Тут аўтобусная станцыя, крамкі, пыльныя местачковыя ліпы вакол пляца і пасярэдзіне. Бабулькі прадаюць яблыкі, а два дзяды каля штыкетніку канторы з адной пляшкі пацягваюць віно. «Горача», — думаю я.

«Добры дзень!» — адказалі зь цікаўнасьцю, паглядаючы, маўляў, чаго гэта ён. Я патлумачыў, што шукаю месца, дзе стаяў касьцёл. Ведаю ўжо, што разбурылі. Мне ахвотна паказваюць, пашкрэбваючы па чырвоных тварах, абцёршы пе-

рад тым вільготныя раты. Паказалі пустку на пляцы. «А дзе хавалі ксяндзоў?» — «У касьцёле, у самім касьцёле». — «І што ж?» — запытаўся я, ужо ведаючы, што. «Узарвалі. Арнаты з мерцьвякоў парасьцягвалі дзеці». — «А які быў касьцёл?» — «Высокі такі!» — адказаў адзін. «Стары», — дадаў другі. «А могілкі каталіцкія ёсьць?» — «Ёсьць», — паказалі мне на вуліцу ў самым канцы пляца.

На месцы касьцёла засталіся адно меткі ад былых падмуркаў — зраўняныя з зямлёй рады чырвонае цэглы. І не будуюць тут, мабыць, баяцца чарадзейнае сілы моцных падмуркаў. Рассыпалі твае костачкі, і сьледу не засталося, — думаў я, ходзячы па цагляных радах і прыгаворваючы «Ойча наш». Не ў жыцьці, дык пасьля сьмерці, — усё адно дасталі. Хай хоць цяпер моляць Бога, каб Ён дараваў ім іхнія грахі.

Побач з касьцёлам, якога няма, стаіць абсаджаны з усіх бакоў спарудкамі ды прыбудоўкамі кавалак былога кляштара.

«Езус пахвалёны!» — пасьміхнуўся я другому паверху, беламу і чыстаму наўзьдзіў з акуратнымі баракальнымі гзымсамі. Першага паверха за рознай драбязой амаль не відаць. Бляшаны ў рудых плямах дах. Адно другі паверх троху суцяшаў, супакойваў. Напэўна, там хадзіў наш паэт, магчыма, спаў, Богу маліўся перад сном. У думках я прымацаваў паміж вокнамі пасярэдзіне бронзавы барэльеф з Зязюлевым профілем. І палез у чорную яміну з камунікацыямі, што вялі да кляштара. З тлустае зямлі выкалупнуў кавалак зялёнае кафлі ды глінянае донца чаркі — на памяць. І пайшоў туды, дзе бліскала сіняя вада.

Пакуль ішоў, думаў, што, можа, жывыя яшчэ людзі, якія памятаюць паховіны «простага» ксяндза. Ішоў па грэблі. Празрыстая рэчка, што, відаць, бегла напрасткі да вялікай вады, а я дабіраўся дарогаю. Насустрач крочыла зь вязанкай боханаў старая. Спытаў у яе пра каталікоў — не ведае, хто застаўся. І Зязюлю не памятае. Сказала толькі, што касьцёл, перарабіўшы на царкву, былі адчынілі ў вайну, а пасьля ізноў зачынілі.

«Куды ж падзеліся каталікі?» — падумаў я, зварочваючы з грэблі па сьцяжынцы налева. Праз колькі метраў рэчка наблізілася да мяне, і мы пайшлі разам у засені вербаў. І шкло тут ніхто не кідае, не сьмеціць, — глядзеў я на рэчаньку-ручаіну, калматую ад водарасьцяў. Блікі сонца краналі яе ільсьняную паверхню. А прыгробся сюды б які бульдозер, зрабіў меліярацыю — праз пальцы рэчачку можна было б прапусьціць, калі б зусім не высахла. Не дабраліся яшчэ палескія механізатары... 

І вось адступілі вербы, скончыліся людскія агароды, а рэчка саскочыла сабе ў сінюю роўнядзь і згубілася ў ёй. Далёка насупраць ужо другі бераг. Паміж невысокімі ўзгоркамі ляжыць ужо колькі тысяч гадоў сіняя лінза вады. Сьвежасьцю і вечнасьцю патыхнула на мяне. Вада, як і лес, ды яшчэ неба разам зь імі падказваюць чалавеку месца ў гэтым сьвеце. Мабыць, і ён прыходзіў сюды дзякаваць Богу за зямную прыгажосьць, стаяў у захапленьні, якраз дзе стаю я. Ад касьцёла паўз ручай гэтым жа шляхам... Калі, вядома, не быў ужо зусім хворы.

Я сеў на траву і глядзеў на гусей, што шэра-белымі плямамі рухаліся па берагавым аксаміце, на дзяцей, якія калупаліся ў пяску на беразе каля перавернутага чаўна. Ластаўкі ціўкалі навокал, а над возерам, нібыта нечыя душы, лёталі кірлі.

І чаго я не пайшоў у ксяндзы?

Файнае гэта мястэчка, Сянно. Я пашыбаваў назад, паўз пляц, разбураны касьцёл і кляштар, па вуліцы, якую паказалі мне дзяды. Нейкае спадзяваньне кволілася: а раптам гэты «просты» ксёндз захацеў легчы разам са сваімі парафіянамі? Прайшоў каля ўлады і каля пошты, каля банка і каля крамы. Местачковыя хаты — гэта не вёска. І дзьверы не туды, і кветак болей, і на панадворку больш парадак.

Я цягнуўся па гарачым асфальце ды згадваў, як там Зязюля пісаў пра мястэчка. Не ўздумаў ані радка. І толькі цяпер, за сталом, выцягнуўшы замацаваныя сашчэпкаю аркушыкі, знайшоў вершык, пра які думаў той парою ў Сяньне:

Цераз шлях пачтовы
Палыскнула рэчка.
Відны ўжо будовы
Роднага мястэчка.
Накрыж праляцелі
Вуліцы ў будынку
І касьцёл ў белі
Нідалёка рынку.
Чутачку ў аддалі
Царква, сынагога
Контуры ўказалі
І красы німнога.
Там вучэльня-школа,
Почта ліставая,
Карчма ды стадола,
Воласьць месца мае.
Вунь такі прыемны
Фэльчар ды аптэка,
Магазын — склад скромны
Усялякіх лекаў.
Ля званіцы-брамы,
Тут пры агароджы,
Ў рад пасталі крамы
Сьцерагчы Дом Божы.
Журавы ля студні
Высунулі дзюбы.
Ў дзень сьвяты ці будні
Говар тут нялюбы,
Пояць быдло, коні,
Абліваюць сьвіньні,
Скрып асьверу тоне
Ў гомане і гіне.
Ціўкат верабейкі
Чуецца ў прасторы,
Быццам солад нейкі
Для душы у горы.

Міла параехаць
Праз сваё мястэчка…
Тут саломы вехаць
Маніць, вабіць рэчка.
У мяйсцовым стылі
Хаты збудаваны.
Іх з сабой злучылі
Густыя парканы.
Меніцца у воку
Места дарагое,
І тужу здалёку
Неяк да яго я.

Нясьпешнасьць і раўнавага. Вершык псіхалагічна здаровага чалавека, які любіць свой край і свой народ. І жыцьцё. Я думаю, добра, каб вершы Зязюлі вучылі на памяць у школе.

Але вось вулка вывела мяне за мястэчка, скінула зь сябе гарачы асфальт і пацягнулася руховаю стужкаю да нябачных паселішчаў. Зьлева ад мяне — яшчэ адно возера. Меншае за першае і не такое прыгожае. Побач нейкія сучасныя жоўтыя кар’еры, заліты асфальтам шлях і яшчэ штосьці, што не кладзецца адразу на вока. А справа ад гасьцінца на ўзгорку — зарослыя могілкі. Сюды я й іду.

Могілкі невялікія. А хавалі каталікоў з усіх ваколіц, пра што гавораць польскія надпісы на крыжах. Я хаджу ад адной магілкі да другой. Учытваюся. У тутэйшым каталіцтве — частка культуры нашага народа. Не ўберажоная, аддадзеная хцівым заходнім суседзям. Для «братоў» і з Захаду, і з Усходу беларускі ксёндз быў страшнейшы за чуму. Мо таму па вайне іх амаль не засталося. Цкавалі адны і другія, а тых, хто мог абараніць, не было.

Мне заўсёды цікава на старых могілках. Хоць падсьвядомае жаданьне цісьне душу — хутчэй бы пайсьці адсюль, дзе ляжаць мёртвымі столькі людзей. Магчыма, гэта толькі чалавечая ўласьцівасьць — так хутка ўсё забываць. Прыродная легкадумнасьць дазваляе нам вось так хадзіць па могіл-

ках. Мая маладая істота больш настроеная на разгляд старых крыжоў, чым на думкі пра тых, хто ляжыць пад зямлёю. Праўда, часам мне становіцца непамысна, калі мушу таптацца па ледзь прыкметных капцах.

Крыж за крыжам, камень за каменем перагледзеў старую частку могілак. Надпісу АСТРАМОВІЧ не знайшоў.

Я прылёг на высокім схіле між кустоўя, на дробным чабары. Рукі былі ў чабары, вочы глядзелі ў сіняе неба. І ў галаве круцілася: вось я ляжу тут часова пакуль, побач з маімі землякамі. Якія яны былі людзі — злыя ці добрыя, любілі гэтую зямлю ці не — невядомая справа. Я задрамаў, на імгненьне яднаючыся зь імі і зь зямлёй. Нібыта маё цела распусьцілася ў пяску і зьнікла. Толькі ясная, чыстая, не затлумёная мігатлівымі думкамі сьвядомасьць завісла ў цішыні...

Загула на дарозе машына і пабудзіла мяне. Час вяртацца і з могілак, і зь Сянна.

Калі-небудзь я ўсё ж убачу дошку з барэльефам на Сеньненскім кляштары.

*ЛіМ, студзень 1992 года.*

## АДЗІН З ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ

Алесь Ружанцоў… Яшчэ адно напаўзабытае імя ў аблозе нашай культуры.

Не дарма адзін з дасьледчыкаў беларускай літаратуры, пішучы пра пачатак XX стагодзьдзя, казаў, што жыцьцяпіс шмат каго з пачынальнікаў беларускага прыгожага пісьменства мог бы стаць асноваю для прыгодніцкага рамана. Вось такім драматычным, багатым на падзеі і зьмены было жыцьцё Аляксандра Ружанцова. Адное можна сказаць з пэўнасьцю — праз увесь свой жыцьцёвы шлях пранёс ён замілаваньне да Бацькаўшчыны.

Нарадзіўся Аляксандр Ружанцоў 12 жніўня 1893 года ў Вязьме Смаленскай вобласьці на этнаграфічных беларускіх землях у знаным шляхецкім родзе, адкуль выйшаў і вядомы палітычны карыкатурыст А. Ружанцоў, які ў час першай рэвалюцыі 1905 года вымушаны быў хавацца ад паліцыі за сатырычныя карыкатуры на цара.

Алесь атрымаў вышэйшую адукацыю на гісторыка-філалагічным факультэце Маскоўскага ўнівэрсітэта. Удзельнічаў у Першай сусьветнай вайне, а ў 1919 годзе служыў у літоўскім войску камандзірам беларускага батальёна.

З 1921 года Ружанцоў кіраваў цэнтральнай вайсковай бібліятэкай у Коўне. У гэты час ён піша па-беларуску вершы пад псеўданімам Алесь Смаленец, займаецца вывучэньнем гісторыі беларускага войска ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Ён шмат друкуе матэрыялаў з гісторыі беларускага войска ў «Крывічы» — беларускім ковенскім часопісе, рэдактарам якога зьяўляецца Вацлаў Ластоўскі. Акрамя таго, займаецца літоўскай бібліяграфіяй, рыхтуе на літоўскай мове даведнікі, сярод якіх бібліяграфія ўсіх вайсковых беларускіх выданьняў у Літве.

Максім Гарэцкі ў аглядзе «Беларуская літаратура пасьля “Нашай Нівы”» адзначае: «Зь іншых ковенскіх беларускіх працаўнікоў трэба згадаць А. Смаленца. Яшчэ ў віленскіх газетах у 1921–1922 гг. было зьмешчана колькі яго вершаў, моцных думкаю і даволі арыгінальных формаю. Апрача таго, Алесь Смаленец перакладае беларускіх паэтаў на літоўскую мову і літоўскіх на беларускую, а таксама займаецца навуковай дзейнасьцю».

Алесем Смаленцам быў падрыхтаваны вершаваны зборнік «У роднай старонцы», рукапіс якога, на жаль, нам невядомы.

Алесь Ружанцоў стала займаецца літоўскай і беларускай бібліяграфіяй, займае пасаду кіраўніка справамі літоўскага Бібліяграфічнага інстытута.

У 1931 годзе Алесь Смаленец разам зь іншымі заснаваў Літоўскае таварыства бібліятэкараў. Таксама ён распрацоўвае гісторыю паўстаньняў 1831 і 1863 гадоў у Коўне.

У 1944 годзе Алесь Смаленец выязджае ў Нямеччыну, а ў 1949 годзе — у ЗША. Але і там, за мяжою, ён памятае пра сваю Радзіму. У Літоўскай энцыклапедыі, якая выйшла ў Бостане ў 1959 годзе, зьмешчаны яго артыкулы «Янка Купала» і «Якуб Колас».

Памёр Алесь Ружанцоў 23 ліпеня 1966 года ў Данвіле, штат Ілінойс.

Цікавай старонкай у нашай культуры засталіся яго публіцыстычныя, навуковыя артыкулы, асабліва вершы, адметныя і мілагучныя, бы невялічкія акварэлі-замалёўкі, выка-

наныя таленавітым майстрам. Вельмі шкада, што талент паэта не быў падтрыманы ў свой час, ды і ўмовы жыцьця, якое ў большасьці сваёй прайшло за мяжой, не спрыялі яго разьвіцьцю.

## АЛЕСЬ РУЖАНЦОЎ

### РАССТРЭЛ

*(ахвярую Максіму Гарэцкаму)*

Мільганула маланка ў мазгу: «Я памру!»
Й часам думка ў крывавым віру…
І ў самлелае цела так смагла ўтыкнулі
Свае тварыкі гострыя кулі.
І упала яно. І пачуліся енкі
Каля цёмнай цаглянае сьценкі.
Раптам згасьлі ліхтарні… Задыміў папіросай,
Моцна лаяўся хтосьці з матросаў…
На сьнягу чырванела крывавая пляма:
Зачынілась жыцьцёвая брама.

*05.03.1922*

### НА СТАРОЙ ДЗЯЛЯНЦЫ

Куды ні глянь — гарматаў, мінаў шмат,
Акопы, рэйкі ды пячураў лісьіх брамы,
На батарэі два лафеты без гармат —
Нямыя сьведкі незабытнай драмы.
Адвіснуў дрот. Асыпаўся акоп.
Ў ягоным рве клубком вужакі ўюцца.
Няма людзей… Ў чужыне землярobы…
Бог ведае, ці прыйдзецца вярнуцца.

*1921*

Творчая спадчына Алеся Смаленца належыць двум народам — беларускаму і літоўскаму — і зьяўляецца яшчэ адной ніцьцю, што зьвязвае нашыя братнія народы.

Трагічны быў лёс беларускай інтэлігенцыі, раскіданай па ўсім сьвеце, пазбаўленай магчымасьці працаваць дзеля свайго народа. І тым больш каштоўным для нас ёсьць культурны набытак пачынальнікаў беларускага Адраджэньня, яго шчырых рыцараў.

*З архіва Алеся Бяляцкага.*

# БОЖЫ ЛЕРНІК

Змоўк пясьняр, затаіў свае шчырыя песьні,
Ён іх болі ужо не пяе.
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесьні
Лёд халодны ў душэ пад напорам іх трэсьне,
І струёй лынуць вершы зь яе.

*М. Багдановіч. Каганцу*

Карусь Каганец (Казімер Кастравіцкі) вядомы ў беларускай літаратуры пісьменьнік, фальклярыст і педагог, які тварыў на мяжы XIX і XX стагодзьдзьяў, разам зь Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам, А. Гаруном закладаў падваліны сучаснага беларускага прыгожага пісьменства. Карусь Каганец найбольш вядомы як аўтар удалай п'ескі «Модны шляхцюк», якая не раз ставілася беларускімі тэатрамі. Але амаль нічога не вядома пра Каруся Каганца як пра беларускага каталіцкага паэта, які адзін зь першых, крыху раней за Я. Купалу, а затым і разам зь ім, імкнуўся данесьці да беларусаў вершаванае слова пра Бога ў роднай мове.

Нарадзіўся Казімер 10 лютага 1868 года ў Табольску ў каталіцкай сям'і сасланага за ўдзел у паўстаньні 1863 года шляхціца Караля Кастравіцкага. Зьбяднелы род Кастравіцкіх

паходзіў ад мсьціслаўскіх князёў. Караль Кастравіцкі валодаў маёнткам Навасёлкі, што пад Койданавам, які пасьля паўстаньня быў сканфіскаваны.

У 1872 годзе пасьля амністыі ён разам зь сям’ёю вяртаецца на Беларусь. Караль Кастравіцкі прыходзіўся сваяком Міхаіла Апалінара Кастравіцкага, дзеда вядомага французскага паэта Гіёма Апалінэра.

Але неўзабаве ён паміраё, і сям’я застаецца без сродкаў для існаваньня. Маці Казімера ў хуткім часе выходзіць замуж, а ён вымушаны змалку зарабляць хлеб сваімі рукамі. Казімер заканчвае вучэльню ў Менску, а затым навучаецца ў скульптурных майстэрнях Масквы і Пецярбурга.

Усьведамленьне свае нацыянальнае адметнасьці прыйшло да яго ў юнацкім узросьце. Зараз цяжка сказаць, якія акалічнасьці дапамаглі Казімеру ў гэтым. Але першыя беларускія творы Казімера пазначаны 1893 годам. У 1899 годзе ён жэніцца і жыве ва ўрочышчы Лісьсі Норы Менскага павета. На пачатку стагодзьдзя ён прыводзіць да нацыянальнай сьвядомасьці менскіх гімназістаў — братоў Івана ды Антона Луцкевічаў, якія ў хуткім часе сталі правадырамі беларускага адраджэньня.

Ужо напрыканцы мінулага стагодзьдзя Казімер Кастравіцкі бярэ ўдзел у фармаваньні беларускай нацыянальнай ідэалогіі. У «Прадмове» за 1893 год ён пытаецца: «Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй?» У рэфераце на Калядны сход у 1903 годзе ён сьцьвярджае: «Гэта, што беларусы названьня беларус ня знаюць, то праўда, але тое, што яны з народнасьці свае ніякай справы не здаюць, то няпраўда. Яно то, можа, трохі і не так, як бы трэба было, але ўсё ж такі цямяць, што яны не маскалі і не палякі. А калі станеш у каторага дапытвацца, хто ён, то адкажа, што ён тутэйшы...»

Разумее Казімер Кастравіцкі і гістарычны механізм занядбаньня беларушчыны сярод шляхты, сярод каталікоў і праваслаўных: «Як толькі краем нашым завaладзела Расея, дык паны нашы, каторыя каталіцкае веры, перакінуліся ў

ляхі, а каторыя былі праваслаўныя — тыя расейцамі менаваціся сталі, і хоць косьць з косьці і кроў з крыві — нашы, але пазаракаліся свайго народа. Так што ўсё беларускае пайшло на зьдзек і на паругу. Усё нашае стала называцца хамскім, мужыцкім» («Парада», 1905).

За часам першых беларускіх арганізацыяў пачатку XX стагодзьдзя ён як ніхто лепей усьведамляе ідэю адраджэньня беларушчыны і працуе на гэтую ідэю разам з братамі Луцкевічамі ў шыхтох Беларускае сацыялістычнае грамады.

За прапаганду сярод сялянаў у 1905 годзе Казімер Кастравіцкі быў кінуты ў астрог, а затым у сувязі з гэтымі ж падзеямі ў 1910 годзе даседжваў яшчэ год.

Памёр Казімер Кастравіцкі 20 траўня 1918 года і пахаваны ў дзядзіннай вёсцы Навасёлкі.

У 1979 годзе выйшла кніжка «Твораў» Казімера Кастравіцкага, які пісаў пад псеўданімам Карусь Каганец. Але ў гэты зборнік праз ідэалагічную бальшавіцкую цэнзуру не трапіў ніводзін рэлігійны верш, ніводзін пераклад малітваў, іншых духоўных вершаў паэта. І гэты бок адраджэнцкае працы на сёньня зусім невядомы шырокаму чытачу. На ім мы спынімся больш падрабязна.

У «Творах» Каруся Каганца выдрукаваны верш «Жайваронча малы», які істотна адрозьніваецца ад рукапіснага арыгінала і быў, верагодна, моцна зьменены ўкладальнікам зборніка С. Александровічам з мэтаю захаваць гэты верш у «Творах». Радок К. Каганца «Птушачка ты божа» ператварыўся ў «Птушачка ты гожа». Паэт піша пра жаўрука: «Песьняю сваею Богу чэсьць заносіш», а са зьместу ў «Творах» атрымліваецца, што селяніну: «Песьняю сваею яму чэсьць узносіш». Апошні слупок у вершы зусім прапушчаны. Такім чынам, камуністычная цэнзура дабівалася зьмены сэнсу ў вершах паэта.

Адзін з самых раньніх вершаў К. Каганца «Вось па той сьцежцы...» — добры прыклад паэтычнае лірыкі. Верш прасякнуты драматызмам і спагадаю да чалавека, да ягоных

перажываньняў і пачуцьцяў, але ён не быў зьмешчаны ў «Творах», таму што ў вершы згадваецца Бог.

Асобны цыкл — каляндарны (прысьвечаны асноўным порам года і сялянскім сьвятам) — у К. Каганца складаецца зь вершаў «Каляды», «Юр'е», «Купальле» і «Дзяды». Гэта своеасаблівы гімн прыродзе, створанай Богам, апяваньне беларускіх традыцыяў, увасобленых у фальклёры, у адвечным ладзе нацыянальнага жыцьця, дадзенага нам Богам.

Ідэя нацыянальнага адраджэньня беларусаў моцна зьвязана ў К. Каганца зь верай у Бога, які, па ягоных пераканьнях, не дапусьціць несправядлівасьці і дапаможа беларусам стаць роўнымі сярод роўных. У вершы «Наша Ніўка», прысьвечаным адной з першых беларускіх газетаў, «Нашай Ніве», заўважае ён, што пакуль яшчэ «Чужым зернем пражываем, Бо свайго у нас ня мае», але, спадзяецца паэт, «А Бог вышні нам паможэ, і ўзыйдзе нашэ зерне», маючы на ўвазе беларускае адраджэньне.

На Бога ўскладае свае спадзяваньні паэта ў вырашэньні асабістых сямейных праблемаў. Гэта мы заўважаем у вершы «Аб долю сям'і». Біблейскім матывам прысьвечаны «Вялікі чэтвер».

Адметным разьдзелам у творчасьці К. Каганца зьяўляюцца ягоныя пераклады каталіцкіх песень, малітваў на беларускую мову. «Малітва раньня» і «Малітва вячэрняя» даюць нам усе падставы сьцьвярджаць, што К. Каганец удзельнічаў у падрыхтоўцы перакладаў для беларускай «Kantyczki», якая пабачыла сьвет у 1914 годзе ў Вільні. Параўнаем першыя слупкі гэтых песьняў.

Паводле рукапісу К. Каганца:

Раньні сьвет як чуць займецца,
Усё на сьвеце прачыхнецца.
Усё на землі і на моры,
Усё жывушчэ ў сьвет-прасторы.
Песьні свае васьпявае,
Табе хвалуваздавае.

У «Kantyczcy»:

Раньні сьвет як чуць займецца,
І на сьвеце ўсё прачнецца,
Ўсё на зямлі і на моры,
Ўсё жывое ў сьвет-прасторы,
Песьні свае засьпевае,
Табе хвалу аддавае.

«Малітва вячэрняя» паводле рукапісу:

Усі нашы дняўны справы
Прыйм, ласкавы Божэ правы!
Няхай славіць як хто можэ
Цябе вышні, Пане Божэ!

У «Kantyczcy»:

Усе дзенны нашы справы
Прыймі ласкава, Божэ правы!
Ніхай славіць, як хто можэ,
Цябе, вышні добры Божэ!

Бачна, што гэтыя тэксты К. Каганца для друку папярэдне рэдагаваліся. Дзякуючы паведамленьню В. Шутовіча ў «Biełaruskaj Krynicy» мы ведаем, што гэтую «Kantyczku» рэдагаваў Янка Купала. Трэба меркаваць, што частка тэкстаў, адрэдагаваных ім, была перакладзеная К. Каганцом, а частка, мабыць, і самім Купалам. Так, не ўвайшоў у «Kantyczku» тэкст перакладу К. Каганца «Песьні аб апецы Боскай», а быў пададзены іншы, безумоўна, прафесійна больш дасканалы варыянт перакладу, які, пэўне, належыць Янку Купалу. Для прыкладу параўнаем першыя чатырохрадкоўі.

У Каруся Каганца:

Дайся ў вапеку Ты Госпаду свому
І шчырым сэрцам даверся Ёму,

Тады праў скажэш: маю спасам Бога, —
Не прыйдзе на мене страшная трывога.

У «Kantyczcy»:

Хто толькі ўдасца пад апеку Божу,
А думкі шчыра ў Яго рукі зложэ,
Сьмела той скажэ: маю сховы ў Бога,
Знаці ня буду нічога благога.

Варыянт перакладу, надрукаваны ў «Kantyczcy», дарэчы, затым передрукоўваецца і ў «Hołasie Dušy» кс. Казімера Стэповіча (Рым, 1949). Але ў гэтым жа выданьні друкуецца «О Божа, Збаўца наш», якога няма ў «Kantyczcy» за 1914 год, але ёсьць у рукапісах К. Каганца. Варыянты К. Каганца і «Hołasu Dušy», у сваю чаргу, вельмі падобныя.

Безумоўную цікавасьць для гістарычнага параўнаўчага аналізу самых разнастайных перакладаў (Малітвы Панскай, Анельскага прывітаньня і Знака крыжа сьвятога, а таксама малітваў да Пана і Маткі Божай) уяўляюць пераклады К. Каганца, якія зробленыя на грунце каталіцкае традыцыі, але з улікам стараславянскіх адпаведнікаў.

Зьмешчаныя тут вершаваныя творы і пераклады Каруся Каганца кардынальным чынам зьмяняюць уяўленьне пра аднаго з пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і дазваляюць гаварыць пра яго найперш як пра беларускага каталіцкага пісьменьніка.

*Хрысьціянская Думка. 1993. № 2 (213).*

## ДА ГІСТОРЫІ АДНОЙ ПАЛЕМІКІ

### *З гісторыі беларусізацыі*

Сярэдзіна 20-х гадоў... Бурлівы час на Беларусі. НЭП ажывіў эканоміку, у культурным будаўніцтве быў узяты курс на беларусізацыю. Нацыянальнае пытаньне вырашаецца на ўзроўні Пленумаў ЦК. Вельмі доўга беларускі народ быў у становішчы нацыянальна і класава прыгнечанага. Шмат трэба зрабіць, і кіраўніцтва рэспублікі падыходзіла да праблемы станаўленьня нацыі з усёй адказнасьцю і рэалізмам. Створаны нацыянальныя камісіі на рэспубліканскім і акруговым узроўнях, якія назіраюць за правядзеньнем беларусізацыі, дапамагаюць беларускай мове ўзьняцца на дзяржаўны ўзровень. Упершыню праз сотні гадоў урад размаўляў з народам на адной мове. А. Чарвякоў у брашуры «За Савецкую Беларусь», прысьвечаную дзесяцігодзьдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, як дасягненьне ў нацыянальнай палітыцы адзначаў паступовы перавод войска на беларускую мову: «Вялікая работа праводзіцца ў Чырвонай Арміі. Заснавана аб’яднаная Беларуская школа камандзіраў сярэдняга саставу, у задачы якой уваходзіць падрыхтоўка камандзіраў для беларускіх войск. Адна пяхотная дывізія, блізка цалкам, праводзіць

сваю палітычную, а часткай і сьпецыяльна вайсковую працу на беларускай мове. Друкуюцца статуты, падручнікі на беларускай мове».

Побач зь беларускаю перажывалі час рэнесансу і іншыя нацыянальныя культуры. На 1927 год на Беларусі выкладаньне ў школах вялося на васьмі нацыянальных мовах.

Рэзалюцыя Пленума ЦК КПБ аб нацыянальнай палітыцы (14.10.1925) абвяшчала: «Пралетарскае ўладжаньне нацыянальнага пытаньня адрозьніваецца ад шурпатага дробнабуржуазнага падыходу да яго першым чынам тым, што замест фармальнага раўнапраўя нацый на пярэдні плян высоўваецца рэальная дапамога раней занядбаным нацыянальнасьцям у справе ўздыму іхняй культуры... Поруч зь першачарговаю задачаю гаспадарчага адраджэньня краю важнейшае значэньне мае праца па пераводу справаводства дзяржаўных, партыйных і прафесыянальных арганізацый на родную мову жыхарства па заснаваньню школы на матчынай мове, па забесьпячэньню раўнапраўя моў».

Сьведамыя беларусы, якія пазаймалі некаторыя ўплывовыя пасады ў Савецкай Беларусі, імкнуліся выкарыстаць свае ўладныя магчымасьці для правядзеньня беларусізацыі дзяржаўнага апарату, школьніцтва, войска ды іншых галінаў грамадскага жыцьця.

Але працэс беларусізацыі праходзіў няпроста. Чынавенства і бюракратыя яшчэ царскай выпраўкі ўсяляк тармазілі яго. Старшыня СНК Язэп Адамовіч на 2-й сесіі ЦВК СССР у красавіку 1926 года адзначаў: «Мы бачым, што якраз чыноўніцкі апарат усякімі спробамі выяўляе сваю ўпартасьць, не хоча даваць адказу ўкраінскаму ці беларускаму селяніну на яго роднай і зразумелай яму мове».

Фельетонны бюракрат са старонак «Савецкай Беларусі» шчыра рапартаваў: «Беларусізацыя ідзе ў нас шпаркім крокам, і не сёньня, дык заўтра перашагне 30 прац. Дасягненьні аграмадныя. Сялянства на ўсе 100 прац. ужо гаворыць на беларускай мове. Яшчэ напор — і... хто наступны?»

Пазьней, на пачатку 30-х гадоў, калі пад выглядам барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам ад беларускай культуры былі ізаляваны лепшыя навуковыя і літаратурныя сілы нацыянальнай інтэлігенцыі, супраціў беларусізацыі меў ужо арганізаваны характар. Білі з розных бакоў. Гісторык В. Міхнюк у манаграфіі «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919–1941 гг.)», выдадзенай у 1985 годзе, адзначаў: «Трацкісты, крытыкуючы беларускіх нацыяналістаў па тых ці іншых пазіцыях, нават не згадвалі пра махровыя бундаўскія фальсіфікацыі гістарычнага мінулага. У выглядзе джэнтльменскай удзячнасьці бундаўскія гісторыкі засяроджвалі агонь крытыкі толькі на беларускім нацыянал-дэмакратызьме, пакідаючы за межамі сваёй увагі трацкісцкія скажэньні гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі».

Падобны малюнак быў не толькі ў гістарычнай навуцы. Спрабуючы асэнсаваць працэс беларусізацыі, адзін зь сяброў рэдакцыйнай калегіі часопіса «Полымя» Я. Ліманоўскі адзначаў: «Характэрна, што пакрыўджанымі “насильственной” беларусізацыяй аказваюцца пераважна расейцы (ня ўсе), ім належыць перавага ў скаргах на беларусізацыю... рэшткі “великодержавного, великорусского” шавінізму, — працягваў Я. Ліманоўскі, — выяўленага не ў аднолькавай сіле ў розных колах грамадзянства, вельмі “занепакоены” беларусізацыяй, не могуць зь ёй згадзіцца і выяўляюць значную актыўнасьць у перашкодах беларусізацыі» (Савецкая Беларусь. 1926. 21 жніўня).

Не меншую актыўнасьць у супраціве беларусізацыі праяўлялі і т. зв. «тоже белоруссы», як іх ахарактарызаваў яшчэ да рэвалюцыі М. Гарэцкі, — былое чынавенства, старарэжымная псеўдаінтэлігенцыя, беларусы па паходжаньні і вялікадзяржаўнікі па выхаваньні.

16 мая 1926 года ў беларускамоўнай тады газеце «Савецкая Беларусь» пад агульным загалоўкам «Ці мае беларускі народ сваю мову і сваю культуру?» быў надрукаваны ліст з Полацка «Вражда из-за языка», падпісаны сьціплым псеўданімам «Белорусс». Аўтар ліста не хаваў сваіх непрыхільных

адносінаў да беларусізацыі, апісваючы становішча, якое склалася, на яго думку, такім чынам: «Язык белорусский стал злобой дня в Белоруссии. Казалось бы, что раз вводится в крае язык белорусский, то населению остается только радоваться. А тут как раз наоборот; население в 75–80 проц. выражает свой громкий протест против своего языка — чтобы не вводить в жизнь, в учреждения, в школы, чтобы изъять его из употребления».

Аўтар ліста выказвае наступныя аргументы супраць беларусізацыі:

1) народ не жадае навязаную яму мову;

2) насельніцтва страціла сваю адзіную мову і ў розных месцах размаўляе на розных дыялектах, «причем эти наречия мало отличаются от чисто русского языка»;

3) беларуская літаратурная мова штучная, «в основу этого языка положено минско-полесское наречие, и в него введена масса польских слов... В самом деле, что может дать белорусский язык в школах и учреждениях... Ведь язык белорусский, не имеющий литературы (ибо нельзя же в самом деле считать большими литераторами таких “письменников”, как Янка Купала, Якуб Колас, которых местные шовинисты ставят наряду с Пушкиным, Шекспиром), в сущности говоря, служит лишь для того, чтобы портить, извращать фонетику, стиль, грамматику чисто русского языка...»

Вельмі арыгінальна «Белорусс» апісвае беларускую літаратурную мову, пералічваючы яе прыкметы:

«1) Одни слова русские, как бы нарочито каверкаются в угоду белорусскому (пошта, навука);

2) Вместо “о” почему-то ставится “а” (барада, дарагій);

3) Вместо “и” осьмеричного везде пишется “і” десятиричное;

4) Вместо твердого произношения “т” — “ть” (вядеть, нясеть);

5) Наконец, целый ряд чисто русских слов заменены словами польскими (расчет — рахунак, казна — скарб). Прибавьте к этому изменение чисто русских имен на белорусский

манер (Александр — Алесь, Михаил — Міхась, Иосиф — Язэп) и вставку новых слов — творения новой терминологии (сябр — таварыш, гвоздь — цвяк, воздух — паветра) — и вы будете иметь в миниатюре белорусский “словник”. В общем вы можете сказать, что одни слова служат для извращения русского, другие для его полонизации...»

Ліст полацкага «Белорусса» заканчваўся ледзь не істэрычнай нотаю: «Было бы очень отрадно, если бы высшая власть поскорей бы обратила внимание на это ненормальное явление в жизни исстрадавшегося народа белорусского и отменила бы особым декретом насильственное введение белорусского языка в школу и учреждения, так как нет к тому решительно никаких оснований — ни исторических, ни политических, ни экономических, ни научных».

З вышыні сёньняшніх дзён мы не будзем абвяргаць аргументы «Белорусса», адзначым толькі, што некаторыя зь іх, як, напрыклад, наўмыснае спальшчэньне беларускай мовы, «заснаванай на гаворках кулацкіх хутароў Міншчыны», слаўтварэньне на аснове ўласных моўных рэсурсаў, а не калькаваньне з расейскай, у хуткім часе будзе абвешчана шкодніцтвам нацыянал-дэмакратаў на мовазнаўчым фронце. Абвешчанае лагерам, абсалютна супрацьлеглым «Белоруссу» па ідэалогіі, барацьбітамі з нацыянал-дэмакратызмам зьлева, установкі якога ў пэўнай ступені захаваліся ў нашым мовазнаўстве аж па сёньняшні дзень (як прыклад насьледаваньня гл. артыкул дырэктара Інстытута мовазнаўства АН БССР А. Жураўскага ў часопісе «Беларуская мова і літаратура ў школе» за 1988 год, № 2–3). Вось так духоўнае ўбоства, атрафацыя ўласнай нацыянальнай годнасьці аб’ядноўвае, здавалася б, несумяшчальнае. І трэба сказаць, што асноўная просьба «Белорусса», праўда, без асобых дэкрэтаў, паступова, паўзучымі мерамі на вачах у дэзарганізаванага рэпрэсіямі народа і з дапамогаю пасьвечаных згоднікаў будзе выканана амаль да канца.

Але паглядзім далей, як разгортваліся падзеі вакол надрукаванага ліста. Пакуль што адраджэньне беларускай куль-

туры лічылася пачэснай справай і за беларускую мову пакуль што не запісвалі ў ворагі народа. Каментары «Савецкай Беларусі», якую ўзначальваў на той час гадунец Усевалада Ігнатоўскага паэт Міхась Чарот, быў недвухсэнсоўны. Пад загалоўкам «Шавінізм, які расьперазаўся» рэдакцыя разважала: «Чаго тут больш у гэтым малюнку, кашмарнага ці трогацельнага? Сутнасьць разважаньняў нашага аўтара грунтуецца на адкрыта выказаным пераконаньні: беларускі мужык тупы. Дзе ж яму, тупому і малапісьменнаму, мець сваю мову, сваю літаратуру?»

Супраць першага і самага сур'ёзнага доваду «Белорусса» рэдакцыя дае пераканальны адказ: «Усебеларускі зьезд Саветаў, людзі ад верстакоў і сахі ўхваляюць дэкрэт аб беларусізацыі... Пытаньне аб нацыянальнай палітыцы савецкай улады разглядалася і разглядаецца на многіх тысячах сялянскіх сходаў — без усякага пратэсту супроць сутнасьці гэтае палітыкі. Дзе ж яно, якое ўціскаецца, абуранае «насеrange»? — пытаецца «Савецкая Беларусь» і адказвае: — Яно ёсьць. Аўтар праў. Але яно сядзіць у савецкіх канцэлярыях, як абломак царскага дзяржаўнага апарату».

Такім чынам, скажам мы, да пытаньня беларусізацыі далучаўся і класавы, нацыянальны асьпект. Варта тут згадаць вызначэньне, дадзенае беларускім публіцыстам і крытыкам Лявонам Гмыракам, перадрэвалюцыйнай інтэлігенцыі краю, якая складалася «з памешчыкаў-палякаў і апалячэўшых, з чыноўнічэства расейскага і абруселага, ды мяшчанства, часьцю абруселага, часьцю апалячанага». Праблема існавала, і было бачна, адкуль, зь якіх слаёў грамадства зыходзіць варожасьць да беларусізацыі.

Рэдакцыя праўдзіва зазначае: «Аўтар яго (ліста. — ***А. Б.***) меў брыдкую адвагу сказаць тое, аб чым думаюць шмат іншых... Шмат яшчэ вакол нас гэтых "белоруссов через ять". Зьява была ацэнена з разуменьнем той небясьпекі, якую яна ўтойвала для дзяржаўнасьці беларускай нацыянальнай культуры: «Вялікадзяржаўны шавінізм выпаўзае напаверх праз дзіравыя лахмоцьці слоўных хітрыкаў».

Ліст «Белорусса» выклікаў ланцуговую рэакцыю. Некаторыя з водгукаў былі зьмешчаны ў газеце і працягнулі дыскусію. Цяпер вопыт дзяржаўнага нацыянальнага будаўніцтва ў 20-х гадах асабліва каштоўны для нас і вымагае самага ўважлівага вывучэньня.

Наступным у дыскусіі выступіў вядомы мовазнаўца прафесар П. Бузук, які напачатку сярдзіта папракнуў аўтара «Вражды из-за языка» ў некампетэнтнасьці: «Вельмі мала людзей цікавяцца вывучэньнем мовазнаўства, але гаварыць на мовазнаўчыя тэмы бярэцца кожны», а потым спакойна, па пунктах абверг асноўныя довады «Белорусса»:

1. Зьнікла сацыяльная база магчымага неўспрыманьня беларускай мовы народам. Новае пакаленьне інтэлігенцыі размаўляе па-беларуску. (Так-так, шаноўны чытач, беларуская інтэлігенцыя ў 20-х гадах пасьля заканчэньня беларускіх ВНУ размаўляла па-беларуску.)

2. Кантактаваньне моваў між сабою — натуральны працэс, дыялектаў жа хапае і ў любой іншай мове. Вялізнае адрозьненьне паміж паўночнымі архангельскімі і паўднёвымі астраханскімі рускімі гаворкамі, але іх аб’ядноўвае якраз руская літаратурная мова. «Беларуская літаратурная мова, — казаў П. Бузук, — павінна зьвязваць усе дыялекты».

3. Зноў жа, руская літаратурная мова яшчэ больш адрозьніваецца ад дыялектаў за беларускую. Такім чынам, «Белорусс» выказвае неразуменьне адносінаў дыялектнай і літаратурнай мовы.

А для аваладваньня беларускімі сялянамі літаратурнаю моваю, адзначае аўтар артыкула, выйсьце не ў спрашчэньні тэрмінаў, а ў ліквідацыі непісьменнасьці.

Ад сябе мы можам яшчэ дадаць, што беларуская тэрміналогія, утвораная на аснове ўласных рэсурсаў мовы (экватар — роўнік, фундамент — падмурак, экзамен — іспыт і г. д.), замененая пазьней на словы, узятыя жыўцом з рускай мовы, а туды з замежных моваў, была больш зразумелай і блізкай народу за такія, напрыклад, пэрліны сучаснай літаратурнай мовы: «фракцыя інтэрнацыяналістаў канстатавала каласаль-

ныя дэфекты эвакуацыі». Ад рускай мовы ў беларускай гэтую фразу адрознівае толькі вымаўленьне. Як бы хто сьпецыяльна памкнуўся выправіць «памылкі» мовазнаўцаў 20-х гадоў, выканаць зьдзеклівы пастулат «Белорусса» аб «извращении русского языка...».

Найбольш абсурдным лічыць П. Бузук погляд «Белорусса» на ўтварэньне беларускай мовы. «“Белорусс” павінен ведаць, — піша прафесар, — што ніхто з гары загадамі не ўтварае мовы. Галоўныя рысы беларускай мовы былі ўжо ў XIV ст., а некаторыя і да пачатку пісьменнасьці». Што да запазычаных слоў, то і тут прафесар Бузук патрабуе асьцярожнасьці ў высновах, бо часта «гэта — агульная спадчына 2–3 моў, як і фанетычныя і марфалагічныя асаблівасьці».

На беларускую ж літаратуру і пісьменьнікаў, якія, на думку «Белорусса», не апраўдваюць мэтазгоднасьці існаваньня мовы, П. Бузук выказаў вялікія спадзяваньні, у чым, сёньня мы сьмела гаворым, і не памыліўся.

16 чэрвеня 1926 года ў «Савецкай Беларусі» была надрукавана цэнтральная публікацыя дыскусіі, яе апагей — падборка водгукаў, у якой быў зьмешчаны і верш Янкі Купалы, які такім чынам адрэагаваў на палеміку.

З-за сарамлівай сьціпласьці нашых дзялкоў ад кіраўніцтва культурай і, здавалася б, ужо ад вырашанасьці праблемы, якая падымалася ў гэтым вершы, а можа, якраз дзеля яе нявырашанасьці, а таксама з-за «нявыхаванасьці» Янкі Купалы, якога мы прывыклі са школьнай парты бачыць зусім не такім, верш не быў выдрукаваны ў апошніх зборах твораў (у пасьмяротных выданьнях Я. Купалы друкуецца з 1993 года. — ***А. Б.***) і нават не быў згаданы ў Купалаўскай энцыклапедыі.

1926 год. Купала яшчэ заставаўся Купалам:

Акоў паломаных жандар,
Сьліўнём зарыўшыся ў нару,
Сядзіць расейскі чынадрал,
«Слуга оцечаству, цару».

Ён сьніць былую моц і шыр:
Цары, царыцы, цэрквы, трон,
Пагромы, катаргі, Сібір...
О Русь, прымі раба паклон!

Табе такой служыць па гроб
Ня кіну я і «расьцярзаць»
Ня дам дзяржаўнасьці «оплот»,
Цябе, «единую», о маць!

Здарма-ж двуглавы твой арол
Празь векі ў кіпцюрох трымаў
Мільёны ўбогіх хат і сёл,
Рабоў мільёны?.. Нездарма!

У твой ланцуг былі, о Русь,
Уплецены з усіх бакоў
Украйна, Польшча, Беларусь
І сотня іншых «языкоў».

Цяпер, што бачу я кругом?
Пасад маўклівы збуран скрозь...
Рэспублікі?! Ды зь «языком»
Зь іх лезе кожная ўсур’ёз,

А ты, о рускі мой «язык»!
Мой «общарускі», што з табой?
Табе слухмян быў мал, вялік,
Быў славен ты сваёй кляцьбой.

Табой сам самадзержац цар
Пісаў ланцужны свой закон,
Што маці-Русь есі жандар
Усёй Эўропы!..
І твой сон

Сьніць далей гэты царадвор,
Калі надыдзе яму дзень,
Ізноў пад лёзгат царскіх шпор
Свой распрасьцерці чорны цень.

Ён, гэты скінуты сатрап,
Ня знае, што ў свабодзе жыць;
Яму дай вісельню, дый каб
На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.

Не па нутру, як сьмерць, яму,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сьцюжную зіму
У школку пазнаваць жыцьцё.

Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,
Напоўадзеты вёскі сын
У роднай мове ўчыцца змог?..
О, стыдна, рускі «гражданін»!

Язык твой царскі ён табе
Ня выража, спакойны будзь!
Цябе тваім-жа у кляцьбе
Ён не забудзе памянуць.

Былых не выклічаш вякоў
І ты, Масквы каронная гразь,
Парваных не скуеш акоў,
Зь якой брахнёю ні вылазь!

*5 чэрвеня 1926 г., Акопы.*

Палымяная публіцыстычнасьць верша, яго грамадзянскі пафас накіраваны супраць змрочных перажыткаў царскага мінулага, супраць нацыянальнага, культурнага прыгнёту беларускага народа. Янка Купала злосна высьмейвае «расейскага чынадрала», паказвае рабскую сутнасьць натуры чы-

ноўніка, гатовага растаптаць культуру, мову свайго народа дзеля інтарэсаў звышдзяржавы, «турмы народаў».

Янка Купала сьпецыяльна акцэнтуе ўвагу на ўсім ненавісным, што заключала ў сабе паняцьце «Расейская імперыя», з тым каб сімптомы гэтай узурпацыі ніколі не выявіліся надалей. Да таго, хутчэй за ўсё, паэт адчуваў магчымасьць вяртаньня рэакцыі ў адносінах да беларускай культуры, мовы ў школе, ён адчуваў безабароннасьць маладой беларускай інтэлігенцыі, якая толькі яшчэ станавілася на ногі, і ўсёй магутнасьцю свайго таленту імкнуўся яе абараніць. Гаворка ішла аб самым сьвятым у яго жыцьці, што ён ставіў вышэй над усім, і тут ужо ён не далікатнічаў, а зь нянавісьцю змагаўся супраць спробаў вярнуць вялікадзяржаўную асімілятарскую палітыку ў дачыненьні да беларускага народа.

Разам зь вершам Янкі Купалы рэдакцыя зьмясьціла і агляд пошты. Настаўніца Р. пісала: «Варожыя адносіны “Белорусса” да роднай мовы... — гэта здабытак нашае непрыкметнае асьветніцкае працы. Мы ішлі супраць прыроды, вучылі беларусаў па-расейску, маем такія дасягненьні!»

Вось і яшчэ адзін з адказаў на пытаньне «Хто вінаваты?» не толькі для сярэдзіны 20-х гадоў, але і ў цяперашнія часы. Выключна, што адказнасьць за дыскрымінацыю беларускай мовы ў царскай сістэме адукацыі ўзяла на сябе звычайная настаўніца. У гэтым выявілася яе сапраўдная інтэлігентнасьць, бо яна адчула сябе саўдзельніцаю ў антымаральнай палітыцы асімілятарства.

Настаўнік Я. Цьвірка ў допісе «Прыгнечаны роднаю мовою» піша: «Дык вось, братка “белорусс”, я, які не нажыў палацаў за гэтую родную мову, а самы звычайны, не з кітоў навукі вясковец, як нарадзіўся і пад стол пехатою хадзіў, дык і да гэтага часу жыву ў вёсцы, хоць і працую вясковым настаўнікам, а таксама “прыгнечаны”, як і 75–80 прац., па тваёй, братка, думцы, беларускага жыхарства, кажу табе — помні заўсёды беларускую прыказку: “Ня зьмерыўшы броду, ня суньса ў воду”. Не беларускі народ прыгнечаны мовою, а беларускі мешчанін, царская салдафоншчына, чыноўніцтва,

якіх яшчэ шмат у нашых установах, а ад іх і беларуская мова церпіць».

Заканчвае настаўнік Я. Цьвірка сваё пісьмо так: «Такіх жа беларусаў, якія прамянялі беларускую сярмягу зь яе моваю і розумам на бліскучыя гузікі, ды яшчэ завуць сябе беларусамі і высоўваюцца на абарону правоў беларускага народу, якога правы самі здраджвалі — трэба гнаць ад сябе ў тры шыі».

Рэзка адмежаваўся ад думкі полацкага «Белорусса» агульны сход настаўнікаў Полацка супольна з загадчыкамі раённых адзьдзелаў народнай асьветы.

У наступным нумары «Савецкай Беларусі» за 17 чэрвеня рэдакцыя зьмясьціла ліст старога беларускага адраджэнца Хв. Імшэньніка, які адзначыў, што нападкі на імкненьне беларускага народа да самастойнасьці, на яго мову, культуру — зьява не новая. Гэтак было і ў часы першай рэвалюцыі 1905 года, ды беларуская рэвалюцыйная моладзь аб'ядналася ў сацыялістычную падпольную партыю Беларуская сацыялістычная грамада. «Гэтая моладзь мела шырокі ўплыў на батрацка-сялянскія масы, павяла іх за сабою і адбівала ўсе атакі ворагаў беларускага адраджэньня».

Пытаньне аб грамадскіх правах беларускай мовы выносілася ў 1909–1910 гадах у Дзяржаўную думу. Імкненьне ж да нацыянальнага адраджэньня выклікала і арганізаваную апазіцыю «з манархічна настроеных і ўрадавых асоб». Беларусы праз «ять» сьцьвярджалі: «Яшчэ лепшымі зробяцца беларусы тады, як усе пачнуць гаварыць толькі па-расейску». «Разьвіцьцё беларускай нацыянальнай душы, — спасылаецца на «Нашу Ніву» Хв. Імшэньнік, — гэта аграмадны дар і скарб для ўсясьветнай людскай культуры».

Дыскусія паказала, што вытокі ліста «Белорусса» цягнуліся яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. Тэарэтычна гэта адчувалі і пісалі пра гэта ўсе ўдзельнікі дыскусіі. І таму зусім лагічным было яе заканчэньне, калі дзеячы беларускай культуры А. Адамовіч, І. Барашка і А. Аніхоўскі ў артыкуле «Якая глеба, такое і насеньне» за 1 ліпеня 1926 года рас-

крылі псеўданім «Белорусса». Аўтары паперш адзначылі, што нумары газеты з артыкулам «Вражда из-за языка» расхоплівалі, «бо артыкул “Вражда” адбіваў сапраўдныя настроі беларусаў праз “ять”, якія яны не адважваліся адкрыта выказваць у друку, але настойліва праводзілі ў жыцьцё, працуючы на тэрыторыі Савецкай Беларусі». Аўтары вызначылі гістарычныя ўмовы задушлівай атмасферы ў Полацку, дзе «Белоруссом» быў напісаны артыкул.

Перад рэвалюцыяй Полацк быў «асяродкам “истиннорусской” грамадскасьці, пагромшчыкаў, школай чарнасоценцаў». Падчас Першай сусьветнай вайны, з эвакуацыяй, «гарады Усходняй Беларусі апрача старых “культурных” і “палітычных” сіл атрымалі значнае папаўненьне зь верных царскіх слуг, якія раней працавалі ў Заходняй Беларусі...

Вось тая глеба і тыя ўмовы, — адзначаюць аўтары артыкула, — на якой расла і разьвівалася полацкая «грамадскасьць», якая дае сябе адчуваць і на сёньняшні дзень у выглядзе артыкулаў, заяў і той штодзённай кротавай шавіністычнай працы, якая так шкодзіць будаўніцтву Савецкай Беларусі... Праца чарнасоценных зуброў ішла ўвесь час, але найбольш узмацнілася ў 1925 годзе, калі цэлы шэраг адпаведных таварышаў, працаўнікоў Беларусі, пачалі атрымліваць скаргі з Полацка аб тым, што мясцовыя органы з практычным правядзеньнем нацыянальнай палітыкі душаць усякія праявы расейскай культуры, робяць немагчымай працу і ствараюць такія ўмовы, калі «ўсе культурныя сілы павінны бегчы з Полаччыны ў Расею».

І вось, працягваюць аўтары ліста-адказу, «5 сьнежня 1925 году на кватэры аднаго з настаўнікаў г. Полацку зьбіраюцца на чале з гр. Пігулеўскім і Пшчолка вялізная кампанія чорнасоценцаў, якія пішуць вышэйпамянуты артыкул “Вражда”, а таксама заяву бадай аналягічнага зьместу ў прэзыдыум ЦВК СССР, у якой, гаворачы ад 80 прац. насельніцтва Савецкай Беларусі, пратэстуюць супраць правадзімай камуністычнай партыяй нацыянальнай палітыкі, адраджэньня бе-

ларускай культуры, арганізацыі для беларускага насельніцтва школ на роднай беларускай мове і г. д.».

Усё стала на свае месцы. Гр. Пігулеўскі — былы «действительный статский советник», намесьнік папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі, натуральна, «истинно русский» чыноўнік. Ну а гр. Пшчолка? Пра яго ў дыскусіі, якая падыходзіла да канца, было зьмешчана яшчэ два артыкулы, якія раскрываюць нам вобраз цікавай асобы, ураджэнца гэтай зямлі.

А. Шлюбскі ў артыкуле «Пшчолка і “вражда из-за языка”» і Хв. Імшэньнік у дадатку «Хто яны?» да свайго першага артыкула паведамлялі: нарадзіўся Пшчолка ў Лепельскім павеце Віцебскай губерні ў сям’і беларускага праваслаўнага дзячка, скончыў духоўную семінарыю, настаўнічаў, вучыўся ва ўнівэрсітэце. Ён добра ведаў беларускую мову і нават пісаў на ёй апавяданьні, часам высьмейваючы ў іх беларускага селяніна, яго мову. Потым працаваў эксьпертам-перакладчыкам зь беларускае мовы ў Віленскім судзе і нават перакладаў на працэсах супраць «Нашай долі» і «Нашай Нівы», дзе абвастраў зьмест, як адзначае Хв. Імшэньнік, з пазіцый манархіста.

Пшчолка, працягвае Імшэньнік, «у нашаніўскую пару рашуча выступаў супроць нацыянальнага адраджэньня беларускага народу і праводзіў погляд на беларускую мову як на такую, на якой можна было казаць толькі нешта сьмешнае».

А. Шлюбскі прыводзіць некалькі цытатаў з артыкулаў Пшчолкі, надрукаваных у рускіх чарнасоценных выданьнях. Давайце і мы паслухаем шчыры голас «истинно русского человека» родам зь Віцебшчыны: «Кто говорит, пишет, ратует за целость русской земли, за крепость и величие русской власти, русского имени, кто открыто высказывает привязанность к родине, к родным полям, лугам, к русской песне, кто не пресмыкается перед врагами России, кто не требует для инородцев государства в государстве, того не постесняются назвать черносотенцем. Наоборот, кто ругает в России все русское, кому даже стыдно “за свое русское имя”, кто готов

раздать веками добытые поля, луга “чужестранцу задарма, безденежно”, того называют “возродителем”, спасителем, освободителем отечества, передовым человеком» (Пахарь. 1906. Нум. 8).

А вось як Пшчолка стагнаў у 1917 годзе, калі ў народаў «імперыі» зьявілася рэальная магчымасьць, кажучы словамі Янкі Купалы, «парваць аковы»: «Что же сталося с русским народом? Неужели же он целые века рос, крепился, расширяя без конца свои владения, собирал, устраивал Русь великую, объединял под своей “высокой рукой” множество инородцев, — неужели этот народ задумал погубить себя, стереть себя с лица земли? Где же ты, наша Русь смиренная, кроткая, долготерпеливая?» — пытаўся разгублены «Белорусс».

«Пшчолка зьяўляецца правакатарам, які добра ведае беларускую мову, ведае яе распаўсюджанасьць — выступае перад вышэйшымі органамі нашага саюзу і перад чарнасоценным грамадзянствам, не спачуваючым беларусізацыі — з запэўненьнем таго, што ніякай беларускай мовы няма», — робіць суровы прысуд Хв. Імшэньнік.

Давайце задумаемся: ці ёсьць логіка ў паводзінах Пшчолкі? Быць узгадаваным гэтаю зямлёю, выдатна валодаць роднай (і для яго ж таксама) моваю народа і ўсё рабіць, каб зьнішчыць яе, зьнішчыць у сваім народзе любыя праявы нацыянальнае самабытнасьці, запабягаючы перад іншым, хай сабе і мацнейшым народам?

Але ёсьць нейкая заканамернасьць у тым, што людзі, якія сьвядома адышлі ад нацыянальнай культуры, ад свайго народа, зьдзекуюцца зь яго найбольш, хутчэй імкнучыся зьнішчыць у ім усё самабытнае і адметнае. І няма страшней для народа за такіх вось выпладкаў, якія вядуць барацьбу з ім, пры выпадку сьцьвярджаючы: «Не надо нам этого. Не надо. Ведь я тоже белорус и ничего страшного со мной без “мовы” не происходит».

Дыскусія наконт беларускай мовы ў 1926 годзе паказала нам глыбокія гістарычныя карані «тоже белоруссизма». Прад-

бачваючы з хадою дэмакратызацыі і паступовы працэс беларусізацыі — вяртаньня беларускай мове правоў рэальнага ўжытку ва ўсіх сферах грамадскага жыцьця, мы павінны ведаць, што гэты шлях не будзе лёгкі і просты і што знойдуцца беларусы празь «ять», якія будуць спрабаваць спыніць кола гістарычнага разьвіцьця з мэтаю павярнуць яго хаду ў іншы бок.

*Маладосьць. 1989. № 1.*

# ЗЬНІТАВАНАСЬЦЬ

## *Назіраньні за паэзіяй «чыстай красы» ў беларускай літаратуры XX стагодзьдзя*

«Калі гамоняць гарматы — музы маўчаць» — даўно прыкмецілі нашыя суседзі па кантыненту, французы. Праўдападобна, што ў паэтаў у неспакойныя часы і сапраўды трохі перацінае дых. Але, мабыць, і грамадства не жадае асабліва прыслухоўвацца да паэзіі ў «судзьбаносны» момант свае гісторыі, калі гэтая паэзія не выбівае барабанны пошчак, пад які так ёмка яднаць шыхты.

Ідэалагічная вайна на Беларусі палымнее ўжо не першы год. Рука, якая чэпка ляжала на глотцы іншадумства, аслабла, і рэдкія раней «дыверсійныя акты» ў нашай паэзіі, накшталт замаскіраванага У. Караткевічам бел-чырвона-белага сьцяга ў радках: «У крыві краіны нашай бель» ці то коньніка-Пагоні, якая ў Алега Мінкіна ляціць па вулках сучаснага Полацка, зьмяніліся на шырокую, незацугляную і, аднак, моцна спалітызаваную плынь. Зноўку ўзляцеў увышкі прыхаваны на паўстагодзьдзя бел-чырвона-белы сьцяг, зноўку загрукатаў пошчак крыўскай Пагоні, і зоры на небе над Беларусьсю спакваля склаліся ў шасьціканцовы Ярылаў Крыж.

І мы пакуль ніяк не можам нацешыцца гэткімі праявамі сапраўднае волі. Зьнітоўваюцца абарваныя ніці, зьлятае фальшывая луска, публіцыстычная паэзія набывае адметнае, вольнае і адначасна запраграмаванае ходам разьвіцьця нашае нацыі аблічча.

Зусім заканамерна, што ў гэты час непасрэднага ўзьдзеяньня прыгожага пісьменства на грамадскія працэсы праяўляецца цікавасьць да мастацка-эстэтычнага пачатку ў беларускай паэзіі, цікавасьць да так званае паэзіі «чыстае красы» (гл. анкету «ЛіМа» за 28 ліпеня 1989 года). Антон Луцкевіч, прафесійны палітык і крытык у адной асобе, у свой час тлумачыў гэта тым, што «пасьля бур, пасьля вострых перажываньняў душа шукае супакою, адпачынку. Думка кіруецца ў тыя сфэры, дзе пануе чыстая краса і гармонія». У згаданай намі лімаўскай анкеце гучалі два пытаньні: «Як вы думаеце, ці ёсьць у нас паэзія “чыстай красы”? Ваша стаўленьне да яе?» Адказы на гэтыя бяскрыўдныя пытаньні дазваляюць вызначыць некаторыя рысы, характэрныя для сягоньняшняй беларускай паэзіі як ЗЬЯВЫ.

Паэтка Ніна Мацяш адказвае даволі песімістычна: «Магчыма, я кепска ведаю сучасную беларускую паэзію, але, мне здаецца, паэзіі “чыстай красы” ў нас няма». Сьвятлана Яўсеева, руская паэтка, бачыць у «чыстай красе» запраграмаванасьць і як вынік — гатоўнасьць да дзеяньня, калі не саму барацьбу. Алесь Пісьмянкоў выказаўся супраць схематызацыі творчасьці пісьменьнікаў (у прыватнасьці М. Багдановіча) і гэтым самым, трэба меркаваць, не ўхваліў гэткі «вузкі» тэрмін, як «чыстая краса». Валянцін Тарас, папярэдне даўшы сваё разуменьне «чыстае красы» як «багацьця мовы, гукапісу, сьмелай, сьвежай, нечаканай метафары, вынаходлівай рыфмы, раскаванасьці інтанацыі», залічыў да яе «Блакаду» Р. Барадуліна, «Прыстасаванцаў» П. Панчанкі ды «На Куцьцю» Янкі Купалы.

Нічога новага не даў і працяг анкетаваньня ў наступным нумары «ЛіМа» за 5 жніўня таго ж года. Вось такая разбежка — ад непрыняцьця самога тэрміна і скептычных адносін

да яго рэальнай напоўненасьці — да атаясамліваньня яго зь нечым усё ж такі іншым.

Галоўны ідэолаг тэорыі «чыстае красы» ў беларускім творстве Антон Луцкевіч толькі намеціў яе агульныя рысы, адзначыўшы суб’ектыўнасьць, выбарковасьць яе ўспрыманьня: «Праўдзівая краса прамаўляе да душы і сэрца кожнага, хто здолен яе адчуваць». А хто не здольны? Ды і ці ўва ўсіх аднолькавыя ўяўленьні пра красу? І тым не менш яна, «чыстая краса», існуе, інакш не было б і мастацтва.

Разглядаючы генезіс класічнага разуменьня красы ў артыкуле «Праблемы красы і мастацтва ў творах Максіма Багдановіча», Антон Луцкевіч вызначае духоўную сутнасьць яе: «Краса па-за эстэтычнай эмоцыяй, якая павышае ў нас жыцьцёвы тонус, не дае ніякае іншае карысьці», а таксама яе аўтаномнасьць, самадастатковасьць: «Маючы задачай быць “спажыткам дзеля душы”, даваць *эстэтычную эмоцыю* і гэтым выклікаць у нас *рост душы, — краса не можа служыць іншым багом*».

Крытык вызначае таксама суадносіны паміж зьместам і формаю мастацкай творчасьці, заўважаючы: «І мастацтва, якое — маючы перад сабою тыя ці іншыя грамадзкія мэты, — забылася бы хоць на адзін мамэнт аб тым, што істотай яго зьяўляецца буджэньне *эстэтычнае эмоцыі*, такое мастацтва ўтраціла бы адразу і ўвесь свой сэнс, і сваю чарадзейную сілу, што прымушае мацней біцца сэрцы людзкія, і сваю ўладу над душамі». Згодна з А. Луцкевічам, «чыстая краса» валодае інтэрнацыянальнымі ўласьцівасьцямі. Менавіта на яе аснове складаецца сусьветная культура. І таму, дзякуючы паэтам «чыстае красы», народы маюць магчымасьць паразумецца духоўна, бо расьцьвітае «чыстая краса» на выключна нацыянальнай аснове. Акрамя прасторавага ўзьдзеяньня, «чыстая краса» валодае і часавым узьдзеяньнем, сьцьвярджае крытык: «Пясьняр Чыстае Красы ніколі не можа быць забыты і будзе таксама прамаўляць да душы і сэрца нашых унукаў, як прамаўляе цяпер да нас».

В. Тарас у адказе на лімаўскую анкету слушна пералічыў асноўныя прыкметы паэзіі «чыстае красы», не назваўшы хіба толькі таго, што зьвязвае іх у адно, — асаблівы лад мысьленьня паэтаў «чыстае красы», сьпецыфіку ўспрыманьня імі навакольнай рэчаіснасьці, уменьне ды ўнутраную неабходнасьць шукаць і бачыць прыгожае ва ўсіх праявах навакольнага сьвету.

Як мы бачым, паміж сёньняшнім ды «класічным» разуменьнем «чыстае красы» існуюць істотныя разыходжаньні. Яны заключаюцца, як мне здаецца, у першую чаргу ў недаацэнцы эстэтызму сучаснымі паэтамі. Ды і наўрад ці пасьля стольскіх гадоў змаганьня ўсяе грамады з «гнілым эстэцтвам», з «ізмамі», пасьля магутнай плыні паэзіі «сацыялістычнага рэалізму», у якой, хочаш не хочаш, давялося з галавою намачыцца ўсім, наўрад ці можна чакаць нечага выключна іншага. Усе мы дзеці свае эпохі. Але, але… розныя дзеці. І хто ішоў у нагу з часам, а хто шукаў нечага свайго, і ў «чыстай красе» таксама. Бо былі ўсё ж магутныя традыцыі, была чароўнасьць слова, якая, бы матылькоў на сьвятло, няспынна прыцягвала сваіх абраньнікаў.

Я не прэтэндую на акадэмічную выверанасьць сваіх ацэнак. Вельмі верагодна, што чытачу бачацца іншыя асобы з нашае літаратуры, што складаюць ланцужок паэтаў «чыстае красы». Я не зьбіраюся скрупулёзна пералічваць усіх і ўсё, што магло б, а часам і павінна было б легчы ў зададзеную канву. Мая задача — прасачыць за гэтым адвольным ланцужком і давесьці яго да нашых дзён.

У вышэйцытаванай анкеце «ЛіМа» А. Пісьмянкоў слушна гаворыць пра, як звычайна, шырокі паэтычны дыяпазон творцы. Але зноў жа, звычайна рэдка калі гэтая паэтычная творчасьць захоўвае аднолькавую вышыню. Застаецца нейкая тэма, кірунак, а часам нізка вершаў ці адзін верш (так, для сябе зусім нядаўна адкрыў я паэтку Ніну Тарас зь яе цудоўным вершам «Сонца за хмаркамі»).

Максім Багдановіч пісаў публіцыстычныя і сацыяльныя вершы, сярод якіх такія магутныя, як «Пагоня», што стала сапраўдным гімнам сучаснага нацыянальнага адраджэньня,

але ён для нас у першую чаргу «паэта чыстае красы», бо, як слушна заўважыў А. Луцкевіч, «**чыстай красе**, нікому і нічому не пакараючайся, з поўнай сьвядомасьцяй служыў Максім Багдановіч». Апроч усяго і публіцыстычныя вершаваныя практыкаваньні паэтаў «чыстае красы» грунтуюцца на абавязковым эстэтычным падмурку і, мажа, таму прымiраюць звычайна і чытачоў — прыхільнікаў «чыстае красы», і прыхільнікаў вершаванай публіцыстыкі.

Вяршыняй эстэтызму Максіма Багдановіча, сутнасьцю яго як творцы я ўсё ж такі лічу вершы «На могілках», «Непагодай маёвай», «Зімой», і прыгажосьць іхнюю і дасканаласьць не перадаць ніякімі перакладамі. Мабыць, і гэтыя наднацыянальныя паняцьці валодаюць у вялікай ступені нацыянальнымі ўласьцівасьцямі.

У 20-я гады пагляд мой спыняецца на некалькіх пазабытых імёнах, і найперш — пражскага песьняра Уладзіміра Жылкі ды заходнебеларускай паэткі Натальлі Арсеньневай. Яны падхапілі ліру Максіма Багдановіча, адкрыта прызнаючыся ў гэтым, ды надалей працягнулі ягоныя традыцыі ў нашай паэзіі, сьцьвярджаючы ідэю «чыстае красы».

У. Жылка актыўна выкарыстоўвае класічныя віды і формы верша — санет, пентаметр, гекзаметр ды іншыя. Імкнучыся спалучыць нацыянальныя матывы з філасофскім асэнсаваньнем рэчаіснасьці, ён ставіць усе гэтыя часткі творчага пошуку на службу галоўнаму свайму богу — хараству. Зачараваны паэт спрабуе адкрыць загадку дасканаласьці і хараства, захапляе міжволі і нас:

Няясны і трывожны сны людства,
І блудны цёмныя яго дарогі,
Але па-над будзённыя трывогі
Узносіць нас туга да хараства.

Так дробная, вясковая дзятва
З-пад курных стрэх (прытулак іх убогі)
Да рэчкі бег кіруе на разлогі,
Дзе яснасьць вод і золата жарства...

Філасофска-эстэтычны напрамак у паэзіі «чыстае красы», закладзены Максімам Багдановічам і бліскуча працягнуты Уладзімірам Жылкам, на жаль, не атрымаў далейшага разьвіцьця ў беларускай паэзіі. Невысокі ўзровень адукацыі, філасофская «зашоранасьць» грамадства адбіваецца міжволі й на паэтах. Выключэньне бадай што — Алесь Разанаў. Ды ў яго, відавочна, рацыя бярэ верх над эмоцыяй.

Вялікай стратаю для паэзіі «чыстае красы» трэба лічыць раньнюю сьмерць ад сухотаў Ігната Канчэўскага (памёр у 1923 годзе). Ягоныя філасофскія досьледы (выдаў у 1921 годзе кніжку «Адвечным шляхам») спалучаліся з плённымі вершаванымі спробамі. Часам яшчэ недашліфаваныя радкі яго дыхаюць неперадавальным хараством:

Так прыгожы старажытны званіцы,
Блізкі сэрцу — крыжы на разстаях
У тыя белыя бяз сонейка раніцы,
Калі ціха дзень засмучаны ўпаўзае…
А ў сэрца — радасьць плыве нечакана.
Шыбкі вецер, сам-адзін, цалуе Божы раны…

Успыхнуў тады ж і хутка прытух, рэалізаваны ў іншай дзейнасьці, непаўторны талент Алеся Смаленца, гэтага павысакароднаму стрыманага жаўнера ды адначасна «пяўца вайны», які найперш бачыць у ёй гора, але й там шукае праявы «чыстае красы»:

Ўжо празьвінела трубкі рытурнэль,
Вушмі прануўшы, задрыжэлі коні.
На штандару чырвоным знак «Пагоні»
Яскрава сьвеціць…
                    Трэснула шрапнель.
Праменьні слонца заліваюць блоні.
Перад вачмі як быццам акварэль.
Мацней сьціскаеш шаблю у далоні
І чуеш, як ляціць яшчэ шрапнель.

Натальля Арсеньнева — надзвычай тонкая лірычная паэтка, якая свой талент засяродзіла на дасканалай перадачы ледзь улоўных зьмен у прыродзе, у чалавечым настроі, у іх суадносінах і ўзаемадачыненьнях. Лад яе жыцьця (а пражыла Н. Арсеньнева на Беларусі літаральна некалькі гадоў), аддаленасьць доўгі час ад актыўнага нацыянальнага асяродзьдзя, натуральна, скіроўвалі музу яе на асьвятленьне суб'ектыўнага стану душы, разьвіцьця экзістэнцыяльнага пачатку ў яе паэзіі:

Сплёў вечар вянок прамяністы
з шыпшыны і макаў чырвоных,
у небе завесіў прачыстым,
на ясных нябёсных загонах…
А сонцу вянок спадабаўся,
у чырвані сонцу да твару…
Так — захад у хварбы прыбраўся,
так вечар заняўся пажарам.
Усё, што такім было знаным,
адразу зрабілася дзівам:
настольнікам, золатам тканым,
паслаліся жытнія нівы,
агнём загарэліся стрэхі,
сады і вяршаліны бору,
і густа праз хмараў узрэхі
сыпнулі, як зерняты, зоры.
Бярозаў зялёныя рукі
застыглі, бы ў часе малітвы,
прачнуліся ночныя гукі,
нячутыя ў дзень працавіты,
затросься лазьняк зь пераляку,
пачуўшы крок чорнае ночы…
І росамі вечар заплакаў,
у змроку хаваючы вочы…

Разьбіць створаны паэткаю сьвет надзвычайнага хараства здолелі толькі падзеі Другой сусьветнай вайны. Грамадзян-

скаю паэтычнаю творчасьцю Натальля Арсеньнева, безумоўна, дапоўніла сябе, але наўрад ці пераўзышла.

40—50-я гады тут, у Савецкай Беларусі, «чыстай красе» ў паэзіі не далі бадай нічога. Пасьля дзвюх жудасных навалаў, што пракаціліся па Беларусі, у тых, каму пашчасьціла выжыць, ужо, мабыць, аўтаматычна рыфмавалася што-небудзь накшталт: «Камуністы — гэта слова, як са сталі...». Але не нам іх судзіць. Вольнымі ад ідэалагічных абцугоў сталінскага сацыялістычнага рэалізму аказалася ўсяго толькі жменька беларускіх паэтаў-эмігрантаў. Не будзем зараз абмяркоўваць тыя жыцьцёвыя шляхі, па якіх яны прайшліся перад эміграцыяй. Адзначым толькі, што амаль ва ўсіх там значылася Калыма... Нягледзячы на нешматлікасьць, беларуская эміграцыя, аднак, запоўніла няўтульную пустку на гэты час у нашай паэзіі «чыстае красы».

Найперш гэта вышэйуспамянёная Натальля Арсеньнева, затым маладзейшыя таленавітыя: Алесь Салавей, Міхась Кавыль, Янка Юхнавец. Ёсьць пэўная заканамернасьць у тым, што да паэзіі «чыстае красы» ў нас зьвяртаюцца людзі, адарваныя ад радзімы.

Найбольш бліскучымі, з пункту погляду выкшталцонасьці, дасканаласьці формы, на маю думку, зьяўляюцца вершы А. Салаўя, які пры спрыяльных умовах мог бы зрабіць значна больш, чым пасьпеў:

Малым дзічком ты быў у маладосьці
і жыў між дрэў, між траў. Плыла рака.
Зігцела высь. Бязьмежжа весялосьці
гушкала сьвет на крылах ветрака.
Ці б не хацеў паўтору тэй любосьці?..
Старчма тырчыць шчацініьне ў вепрука.
Ні сонца йшчэ, ні зоры йзноў, ні зьнічы
Не вернуць больш нявіннай раньняй дзічы.

Сапраўднай падзеяй у нашым летапісе гісторыі «чыстае красы» трэба лічыць зборнік Алега Мінкіна «Сурма» (1985). У рэцэнзіі на зборнік, зыходзячы, мабыць, з навучальных

мэт, Анатоль Сідарэвіч добра-такі адхвастаў Алега Мінкіна, аднак «Сурма», безумоўна, паказала нам аўтара з выразнай яркай эстэтычнай канцэпцыяй, для якога «напачатку было Слова». А. Мінкін праз прызму эстэтызму бачыць такі недасканалы, але такі прываблівы для яго сьвет і прымушае нас зірнуць на «прывідную красу» праз чароўнае шкельца свайго таленту:

Дык пойдзем, сябра мой маўклівы,
У княства фарбы і журбы,
Дзе ў спрэчцы з гронкамі каліны
Палаюць гронкі арабін.
Дзе на імшарыне-кіліме
Жаўрэюць кроплі журавін,
Бы слёзы тыя, што згубілі
Сягоньня ноччу журавы.

Алег Мінкін, на маю думку, распачаў новую хвалю паэзіі «чыстае красы» ў нашай літаратуры. Яго зьяўленьне заканамернае. Крызіс афіцыйнае ідэалогіі ў грамадстве прымушаў не затлумленае траскучымі лозунгамі пакаленьне шукаць уласныя шляхі. Традыцыі намацваліся не сярод жывых, пазначаных пячаткаю брэжнеўшчыны, папярэднікаў, а сярод пачынальнікаў, ахвярнікаў нашае літаратуры, ідэі адраджэньня нацыі. Таму такая моцная сувязь у А. Мінкіна з Максімам Багдановічам (верш «Максіму Багдановічу», цыкл «Насьледаваньні народнаму» ды інш.).

Бадай што нікому з сучасных беларускіх паэтаў, як Алегу Мінкіну, не ўдаецца так згарманізаваць у вершах свае публіцыстычныя развагі. Гэтаму дапамагае ярка індывідуальны погляд паэта на зьявы рэчаіснасьці, іх акрэсьлена эстэтычнае ўспрыманьне. Спачатку ён адчувае «красу», бо такі лад ягонага сьветабачаньня.

Першай і пакуль што адзінай кніжкай вершаў у агульным зборніку «Крыло» (1985) прыкметна вылучаўся сярод іншых Уладзімір Сьцяпан. Прываблівалі ягоныя да дробязаў дакладныя, вытрыманыя заўсёды ў спакойных тонах вер-

шы-акварэлі. У гэтым «адсутным» стылі паэт працуе і ў апошні час:

Зімовы сад — спляценьні, скрыжаваньні.
Заблытанасьць штрыхоў і крэйды і вугля.
Крышталяў шэрані халоднае мігценьне
На чорным дроце нерухомага гальля.
Фантастыка асьнежаных абрысаў
Стварыла сну дакладны краявід.
Дыханьне комінаў празрыстай рысай
Стаіць зімой умацаванае ў блакіт…

Але цяжка вызначыць пакуль: відочная запраграмаванасьць ягоных вершаў — ці яна будзе спрыяць разьвіцьцю рацыянальнага, я б сказаў, халаднаватага асабістага шляху паэта, ці ўсё ж дазволіць яму ўнесьці сваю сьпецыфіку ў настраёвую, непрадказальную, здаецца, і для аўтараў плынь «чыстае красы».

Іншая справа — Едрусь Акулін. У 1988 годзе ў калектыўным зборніку «Лагодны промень раніцы» выйшла ягоная кніжка «Лес дзённага асьвятленьня». Тады ж у маладосьцеўскай кніжачцы «Тутэйшых» — «…І надзея, і лёс, і ўспамін» была выдрукавана вялікая падборка вершаў Е. Акуліна. Аб’яднаныя разам, яны даюць цэльнае ўяўленьне аб аўтары, найбольшыя знаходкі якога бачацца мне якраз на шляхах паэзіі «чыстае красы». Едрусь арыентуецца пераважна на вобразна-зрокавае ўспрыманьне сваіх вершаў:

Пунсовы ветразь плыў па лесе…
Нібы сьвятло сьвячы ў сутоньні.
Пунсовы ветразь — ліс на сьнезе,
агонь блукаючы на волі.
Плыві, прыгожы, покуль вецер
тваіх сьлядоў не пакідае,
і абмінуць здалей дасьвецьце,
дзе лёс-ганчак цябе чакае.

Паэт сьвядома шукае хараство ў акаляючым яго жыцьці. Рэчаіснасьць у яго перавіваецца з уяваю, і найлепш яму ўдаюцца карціны ўнутрана і зьнешне эстэтычна ўраўнаважаныя:

Акрэсьленасьць цёмных ліній.
Завершанасьць белых лілій.
Срэбнае зерне поўні
лебедзям не зьдзяўбаць...
У пяшчоце абвіўшы шыі, яны сьпяць.

З маладзейшага пакаленьня, што аддаюць даніну «чыстай красе», вылучаецца яшчэ Анатоль Дэбіш — адточанасьцю слова, сугучнасьцю рыфмаў, зычнасьцю і звонкасьцю верша.

А вось імя Іны Тарасавай і зусім наўрад ці каму што скажа. Хіба што згадае хто-небудзь яе па семінары ў Каралішчавічах. Пазалетась пасьля гомельскага філфака паехала яна настаўнічаць на Лоеўшчыну, пакінуўшы пасьля сябе нізку прыгожых вершаў ва ўніверсітэцкай газетцы. І прыходзяць на памяць радкі:

Яшчэ зялёныя лісты
Не растаптаны.
Нібы крывавыя бінты,
Ляжаць цюльпаны...

Ці вось гэта:

Гасла сонца. Чырванелі
Бляск вітрын і ЦУМ,
Парк, маўклівыя алеі,
Дзе спакой і сум.

Зьзяў на небе цёмна-шэрым
Сіняй плямай Сож —
Гэта ў горадзе вячэрнім
Пачынаўся дождж.

Ды незаўважныя яе вершы ў час гучнага трэску дзід. Як не надта чуцён у агульным публіцыстычным хоры і голас больш сталых паэтаў «чыстае красы». І часопіса ці альманаха свайго яны не маюць. А можа, і не патрэбен ён ім. Часопіс гуртуе, пры натуральным разьвіцьці літаратуры, як правіла, «школу». А ці ёсьць у іх усьведамленьне аб'яднальнага пачатку — сваёй «школы»? Мо яна ўзьнікне ў Бярэсьці, бо там — Алег Мінкін і Анатоль Дэбіш? Пабачым. Але ж і раскіданыя па Беларусі, як і ім падобныя — па ўсім сьвеце, — пакланяюцца яны адзінаму богу свайму — «чыстай красе», якая, па словах Антона Луцкевіча, «быццам тыя Багдановічавы васількі ў жыце, аздабляе і ўзбагачывае жыцьцё, незалежна ад таго, ці ёй выяўлены нейкія *карысныя* з сучаснага пункту гледжаньня думкі, — бо краса, паводле справядлівага азначэньня Максіма Багдановіча, сама ўжо ёсьць “спажытак дзеля душы”».

*Беларусь. 1991. № 5.*

# КАЛОНКІ Ў ГАЗЕЦЕ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА», НАДРУКАВАНЫЯ Ў 1996–1997 ГАДАХ

## Як я пачаў размаўляць

На пачатку васьмідзясятых, яшчэ студэнтам, я выбраўся ў падарожжа па Беларусі, каб пераканацца — ці не ўмерла яшчэ беларушчына на гэтай зямлі. Я быў прыемна зьдзіўлены — і пад Калінкавічамі, і ў Камянцы, і пад Баранавічамі, і пад Гродняй — жыве!

Гаварылі шмат і добра, не надаючы гэтаму значэньня — гаварылі, як дыхалі, як жылі.

А я ўжо выхоўваўся ў іншамоўнай сям'і. Калі прыязджаў з горада ў вёску, цёткі, сьмеючыся, падладжваліся пад мяне і крыўляліся па-расейску. Зьмяніць нацыянальную сьвядомасьць, нацыянальную і культурную арыентацыю можна за адно пакаленьне. Я спазнаў гэта на сабе. Але да беларушчыны цягнула.

Праўдзівы шок адбыўся ў мяне ў тую вандроўку пад Стоўбцамі. Цягаючыся па коласаўскіх маляўнічых мясьцінах, я натрапіў на аўтобус «Кубанец», каля якога з выгодаю разьмясьціліся, галёкаючы паміж сабою, тры сапраўдныя мастакі. Яны замалёўвалі прынямонскія краявіды.

Я падышоў бліжэй зь цікавасьці, паглядзець, і... здранцьвеў. Яны гаварылі па-беларуску! Зразумела — калі нашыя ўнівэрсітэцкія выкладчыкі, якія, выходзячы з аўдыторыі, адразу ж пераходзілі на расейшчыну. Гэта быў іхні хлеб. Спрабаваў размаўляць і я са сваімі сябрамі, але далей жаданьняў справа не ішла, і больш аднаго дня мы не вытрымлівалі — зьбіваліся.

Гэтыя ж, пэўна, нічога з гэтага не мелі і гаварылі сьведама, бо, ясная справа, не зь вёскі ж яны прыехалі сюды маляваць.

Мы пазнаёміліся. Я назваўся: «Саша». — «А-а-а, Алесь!» — упэўнена перайначылі яны.

Убачыўшы бляск у вачах, мяне захапілі ў Менск. Такім чынам, Мікола Купава, апроч сваіх вядомых гравюр да 100-х угодкаў Якуба Коласа, прывёз на спатканьне з групкаю менскай беларускай моладзі яшчэ аднаго гомельскага юнака.

На ноч мяне разьмясьцілі ў мастацкай майстэрні на другім паверсе, сярод карцін і фарбаў. Ужо лежачы на цьвёрдай канапе, у прыцемку я ўзяў з паліцы кніжку ў мяккай сінявата<br>тай вокладцы і разгарнуў «Рунь» Гарэцкага. Сапраўдных старых беларускіх кніжак дагэтуль у руках я яшчэ не трымаў.

(Зусім нядаўна Валодзя Сулкоўскі, сьмеючыся, згадваў пра гэтую начоўку ў ягонай майстэрні.)

Удзень мяне зьвялі зь Вінцуком Вячоркам. Ён прывёў мяне на кватэру да сябе, дзе ўжо чакалі два Сержукі — Сокалаў і Запрудскі. Праз тры гадзіны размовы, падчас якой я сарамліва хаваў свае падраныя за месяц вандраваньняў шкарпэткі, справа была зробленая.

Як намагнічаныя часьцінкі, зьліпаліся мы ў невялікія асяродкі, дапамагаючы адзін аднаму.

З тых часоў я заўсёды і пасьлядоўна размаўляю па-беларуску. Не таму, што маю зь беларускае мовы хлеб, а таму, што стаў урэшце нармальным беларусам і спрабую захаваць і абараніць гэтую сваю нармальнасьць.

*ЛіМ, 19 студзеня 1996 года.*

## «Я — непрыкметны шэры чалавек»?

Абсалютная большасьць беларусаў не настроеная супраць сваёй мовы. Чаму ж тады так хутка і масава яны адмаўляюцца ад яе? «Я — непрыкметны, шэры чалавек», — пісаў пра сябе Максім Багдановіч. Істотная рыса нацыянальнага характару беларуса — быць такім, як і ўсе, не высоўвацца.

Падаецца, што гэтая рыса належыць усім славянам. Не ў прыклад італьянцам, грэкам ці немцам, эміграцыя славянскіх нацыяў не пераможывае далей за трэцяе пакаленьне, асімілюецца.

Грунт для масавага супраціву асіміляцыі дае хіба што свая, родная зямля. Паглядзім на чэхаў, славакаў, палякаў, балгар — выстаялі, адрадзіліся, нягледзячы на шматвекавы прыгнёт.

Паўсюдна размаўляць па-чэшску, браць шлюб толькі з чэшкаю ці чэхам, вучыць дзяцей толькі ў чэшскай школе — перад пагрозаю канчатковае асіміляцыі гэтыя правілы ведаў кожны чэх яшчэ сто гадоў таму. «У перашкодах дух расьце» — круціцца ў галаве нечы радок.

Пераадолець дыскамфорт з-за іншае, чым у большасьці, моўнае пазіцыі можна, калі добра ўсьвядоміць і ніколі не забываць, *хто* і на *чыёй* зямлі жыве. У нас з нашай беларускай мовай ёсьць натуральная перавага, і мы не павінны яе хаваць.

Мяне асабіста натхняюць прыклады іншых. Так, заўсёды згадваю Міколу Стому — звышінтэлігентнага, далікатнага чалавека, які, як кажуць, мухі ніколі не пакрыўдзіць.

Андрэй Федарэнка распавядаў, што бачыў неяк таго ў паліклініцы, калі Мікола спрабаваў штосьці даведацца ў рэгістратаркі. Натуральна, па-беларуску. Тая незадаволена крывілася, бясконца перапытваючы: «Что? Что?» Мікола, тым не менш, не здаваўся і ціхенька, але настойліва спрабаваў дабіцца ў яе патрэбнага. «Я так быў зьдзівіўся, — апавядаў Андрэй, — тая грыміць над ім сваім “что-что”, а ён усё роўна — па-беларуску».

У мяне дык у такіх выпадках не заўсёды стае цярпеньня. Не так даўно ледзь не зароў на ўсю краму, паўтараючы па трэцяму разу касірцы: «Адзінаццаць!», якая ўпарта, аўтаматычна паўтарала за мною, хочучы прабіць: «Двенадцать». Аж сэрца сьціснула. Добра, што хоць яна пасьміхнулася, калі зразумела, чаго я ад яе хачу.

*ЛіМ, 26 студзеня 1996 года.*

## Нашыя бацькі

На нашых бацьках (а часткова і на нашым пакаленьні) перарвалася, у асноўным, беларускае слова. Для іх — 50-гадовых і старэйшых — яна яшчэ мова бесьперапынная, нават калі зараз яны і гавораць па-расейску ці на трасянцы.

Мой бацька гаворыць па-расейску. Ягоная сям'я выехала, уцякаючы ад голаду, з калгаса перад вайною, абжываць «вызваленую» Карэлію. Пасьля разрабаванай калектывізацыяй Беларусі — гэта быў рай.

Там, на Поўначы, яны перажылі вайну, і дзеці, абзавёўшыся сем'ямі, пачалі вяртацца на Беларусь толькі ў шасьцідзясятых.

Баба Марыя, нягледзячы на чвэрць стагодзьдзя жыцьця ў Карэліі, сваёй мовы не зьмяніла, так і прагаварыла там пабеларуску. А бацька, вярнуўшыся, толькі навучыўся чытаць. Праўда, ён з такіх рускамоўных беларусаў, якія без усялякіх агаворак ЗА Беларусь. Ён ніколі не пярэчыў маёй беларушчыне, а толькі падтрымліваў яе.

Маці пражыла ў Карэліі меней. Гадоў зь дзесяць. Уцякала зь вёскі праз вярбоўку ўжо ад пасьляваеннай галадухі. Сьмеючыся, распавядала, як, толькі навучыўшыся «чигирикать», кпілі, перадражнівалі тых зь беларусаў, хто быў з новых перасяленцаў, не прызнаючыся спачатку, што самі таксама — беларусы.

Пасьля таго, як вярнулася з бацькам і намі, дзецьмі, на Беларусь, чым далей жыла, тым болей, проста на маіх вачах, абсыпалася зь яе руская мова. Забываліся-зьнікалі расейскія песьні, а сьпявалася толькі сваё. Гаварыла яна так, як гавораць на яе Мазыршчыне, — сьпеўна і прыгожа. І маё замілаваньне мелодыкай нашае мовы, любоў да слова — ад яе ды ад яе маці, маёй бабулі Соні. У вёсцы ў яе я бавіў кожнае лета. Бабуля ўвогуле па-расейску не ўмела.

Сьветлагорск, дзе мы пасяліліся пасьля Карэліі, — быў «всесоюзной стройкой». Толькі ў нашым пад’езьдзе жыла добрая трацiна небеларусаў. Часам маці, вострая на язык, чуючы абгаворы беларускага, што пачало апошнім часам зьяўляцца і там, весела кідала сваім сяброўкам-суседкам: «Беларускія парадкі вам не падабаюцца? Нічога, прыйдуць нашыя беларусы да ўлады, яны вас усіх у 24 гадзіны адсюль павысяляюць».

Цесьць зь цешчаю — з Лоева. Гаварылі, як яны кажуць, «па-лоеўску» — на дзесяць беларускіх слоў адное расейскае. А дзяцей ужо вучылі па-расейску.

Цесьць, які скончваў школу яшчэ перад вайною, заўсёды падкрэсьлена казаў: чаравікі, брыль, цукеркі. Але, як праўдзівы камсамолец-інтэрнацыяналіст 30-х гадоў і як праўдзівы камуніст, які ўсё жыцьцё на раённым узроўні нёс сьвятло ідэй партыі ў народныя гушчы, мовы не любіць, хаця і гаворыць на ёй. Парадокс? Толькі не для нас, хто добра памятае ўсю падступнасьць гэтых камуністычных ідэй.

Іхняе пакаленьне праэксьперыментавала на сваіх дзецях, на ўсім наступным пакаленьні, адарваўшы іх ад свайго роднага, беларускага на карысьць хімернай ідэі пра выхаваньне новага «савецкага» чалавека, фактычна пазбавіўшы сваіх дзяцей нацыянальнай маралі.

Зараз гэты «савецкі» чалавек, не маючы нічога сьвятога за душой, цынічна рагоча, чуючы словы: Радзіма, мова, дзяржава. Для яго яны — пусты гук. Ён гатовы прадаць сваю зямлю хоць д’яблу, абы болей заплаціў. І ён ля ўлады.

Ды ўсё роўна я рады бачыць цесьця і чуць ягоную гаворку. Пры спатканьнях падкрэсьліваю сыну: маўляў, чуеш, і твой дзед размаўляе па-беларуску. Менавіта гэта ў ім — нашае, праўдзівае, няштучнае, тое, што мы пастараемся захаваць.

*ЛіМ, 2 лютага 1996 года.*

## Нашыя дзеці

Мой сын, якому зараз сем гадоў, гадуецца беларусам. Было б няшчыра, калі б мы з жонкаю «паказвалі» зь сябе беларусаў, а сына выхоўвалі «как все».

Ёсьць сярод гарадскіх беларускамоўных бацькоў і такія, што лічаць — націскаць з моваю на дзіця не трэба. Хай падрасьце — тады само выбера мову. Як зазвычай, іхнія дзеці гавораць па-расейску. Для мяне гэта значыць, што іх выхоўвае не сям’я, а асяродзьдзе, пакуль што неспрыяльнае беларушчыне.

Я заўважыў, што дзеці такіх «ненавязьлівых» бацькоў выразна камплексуюць з-за мовы. Для іх — гэта праблема на псіхалагічным узроўні, бо яны не гавораць на мове бацькоў...

У сувязі з гэтым я згадваю, як гады два таму зь цікавасьцю назіраў за сынам аднаго памерлага ўжо беларускага пісьменьніка, які ў свой час пісаў пра Максіма Багдановіча. Гэты сын, сказаўшы, што ён «человек точной науки», без усялякіх прадмоваў прапанаваў купіць арыгінальныя матэрыялы па Максіму Багдановічу. Яны засталіся ў архіве ягонага бацькі, куды патрапілі за так ад сваякоў паэта.

Матэрыялы гэтыя мы купілі ў музей, а я з прыкрасьцю думаю: ну што ж гэта за беларускі пісьменьнік, які сваіх дзяцей не мог навучыць беларускай мове? Ды хоць два словы зьвязаць.

Мой сын гаворыць па-беларуску. Ён чытае толькі беларускія кніжкі. Дзякуй Богу, зараз, пакуль дзіця расьце, можна сабраць прыстойную беларускую дзіцячую бібліятэчку. Ён ведае, хто такая Рагнеда і хто такі Вітаўт. Ён вучыць беларускія вершы і сьпявае беларускія песьні, ходзіць у першы беларускі клас, у нядзельную беларускую школку пры касьцёле і беларускі гурток па вывучэньні беларускага фальклёру. Ён гуляе зь беларускамоўнымі дзецьмі зь сем'яў нашых сяброў.

Пэўна, што гэта ўсё патрабуе высілкаў ад бацькоў. Але інтэлектуальна-культурны абсяг, назапашаны па-беларуску, зараз цалкам дастатковы, каб выхаваць чалавека ад маленства і да сканчэньня ВНУ на еўрапейскім узроўні. Для гэтага сёньня ў нас ёсьць усё.

Мой сын ведае, чым беларусы адрозьніваюцца ад расейцаў, і сам ужо разабраўся, хто агрэсар, а хто ахвяра ў расейска-чачэнскай вайне. Часам ён задае зусім дарослыя пытаньні, да прыкладу: «Тата, а як зрабіць так, каб украінцы дапамаглі нам, калі раптам нехта нападзе на Беларусь?»

Пэўна, што не ўсё так проста. У чатыры гады ён самастойна, гуляючы зь дзецьмі ў садочку, навучыўся расейскай мове, а мы з жонкаю добрых паўгода не ведалі пра гэта. Зараз яго не адарваць ад расейскамоўных мульцікаў Дысьнея. З мовы на «язык» ён пераключаецца аўтаматычна.

Моўнага тэрору ў нашай сям'і няма. Лепшы ягоны сябра — расейскамоўны хлопчык. Мы не робім праблем з расейскіх слоў, што праскокваюць у ягоным маўленьні — заўсёды цярпліва папраўляем яго. Але ў нашай прысутнасьці ён ніколі яшчэ не гаварыў па-расейску. Ён адчувае і ведае, што так не прынята.

Невядома, што зь яго атрымаецца пазьней, але пакуль што мой сын гадуецца беларусам.

*ЛіМ, 16 лютага 1996 года.*

## Добрая вестка

25 сакавіка чатырнаццаць гадоў таму адзначалі мы ў лесе пад Менскам. Ігліца пад хвоямі была вільготная, паветра п’янкое, у лагчынах яшчэ шэрхнуў сьнег. Мы паставілі між хвояў на грудку самаробны бел-чырвона-белы сьцяг, выпілі пляшку гарэлкі, прасьпявалі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Адчуваньне такое, што ў нас была свая, хоць і далёкая, незалежнасьць, прыемна хвалявала. У гэты дзень у 1918 годзе беларусы насуперак варожаму сьвету заявілі: «Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай».

Недалёка ад нас трашчала гольле. Няведама чаго ў гэты час бадзяўся па лесе нейкі чалавек. Бярозавік зьбіраць яшчэ рана.

Чатырнаццаць гадоў таму Беларусь была бээсэсэраўскай. Наперадзе не было ніякага прасьвету. Родныя браты-славяне з усходу і захаду зрабілі ўсё, каб нашая незалежнасьць захлынулася ў крыві і згніла ў турмах. Дзякуй ім за гэта.

Там, у лесе, Сокалаў выдурняўся, пачынаючы сьпяваць стары беларускі гімн: «Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі», а потым дадаваў, здаецца, сваё: «Пад с... нам далі і спаць палажылі». Але ўсё роўна нашая купка моладзі палка жадала паслужыць Беларусі незалежнай. Што там мы, калі за яе ў апошняе стагодзьдзе ўжо дзясяткі тысяч беларусаў аддалі свае жыцьці.

Прайшоў час, і, дзякуй Богу, гэта ўжо не толькі нашае сьвята.

Я заўсёды з унутраным задавальненьнем і гонарам разглядаю агульнавядомы фотаздымак нашага першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзевяць беларускіх апосталаў. Вясёлым аптымізмам праменяць іхнія вочы, бялеюць каўнерыкі ў цывільных, пабліскваюць наваксаваныя боты ў вайскоўцаў. Я ўпэўнены, што даў бы ім Бог гэты саракатысячны беларускі корпус, які быў сфармаваны на Румынскім фронце, і яны пабудавалі б нашую мару — за-

можную незалежную Беларусь! Але корпус да Беларусі не даехаў.

Палова з апосталаў прыняла ад рук камуністаў пакутніцкую сьмерць, другая палова памерла ў выгнаньні. Улада перайшла ў рукі прайдзісьветаў. А тут, на фотаздымку, проста нейкі ідэал. Прыгожыя людзі з чыстымі і прыгожымі думкамі ды памкненьнямі.

25 сакавіка — гэта не толькі беларускае дабравесьце. У гэты дзень анёл Гаўрыіл абвясьціў Марыі пра тое, што яна абраная Богам за маці для Ісуса Хрыста. Не толькі гісторыя Беларусі, але і ўся гісторыя чалавецтва дзеліцца гэтым днём на дзьве часткі. Стары Запавет сустракаецца тут з Новым, старая эра — з новай. Зьдзейсьнілася тое, чаго так доўга чакалі і пра што казалі прарокі ў Старым Запавеце. Чалавек быў узьнесены да вялікай годнасьці, таму што Бог стаўся чалавекам. І тое, што было, здавалася б, недасягальным ідэалам, запаветнаю мараю, — адбылося!

Але доўгі час мала хто ведаў пра гэтую хвіліну і яшчэ менш верылі. 25 сакавіка — Зьвеставаньне, Дабравесьце.

Недарма на мове «обрусителей» гэта — «благая весть». Няхай жа сапраўды для іх яна будзе такой, а нам яна надасьць веры і ўпэўненасьці ў нашую сьветлую будучыню.

*ЛіМ, 22 сакавіка 1996 года.*

## Нашыя класікі

Пачалі ўрэшце выходзіць поўныя зборы твораў нашых класікаў. Гэткія высачэзныя вяршыні розуму, пачуцьця й прыгажосьці. Летась убачыў сьвет апошні том з трохтомніка Максіма Багдановіча.

Чаго вартыя нашчадкі, якія не вывучаюць спадчыну сваіх геніяў, прызнаных нацыяй людзей? На тое існуе гістарычны вопыт, каб імкнуцца не рабіць адных і тых памылак. Цікава

з гэтага гледзішча пагартаць публіцыстыку нашага «паэта чыстай красы».

Пішучы пра «братоў-чэхаў», Максім Багдановіч заўважае, што незалежнасьць — гэта «запаветная мара цэлага шэрагу славянскіх народаў». На прыкладзе чэхаў ён паказвае, як у барацьбе за сваю мову, адукацыю, нацыянальнае і грамадскае жыцьцё яны спынілі «нямецкі напор»: «Праўда, немцы, якія жывуць у Багеміі і Маравіі, усімі сіламі імкнуліся ўтрымаць у руках панаваньне, прыбягаючы дзеля гэтага да цэлага раду несправядлівасьцяў. Але чэхі ўсё ж дабіліся свайго! Упарта змагаючыся, крок за крокам заваёўваючы новыя і новыя правы і саступкі, яны пераўтварылі сваю вобласьць у краіну сапраўды чэшскую».

А што ж беларусы ў дачыненьні да «расейскага напору?» — падумаем мы.

Беларусь у гістарычным еўрапейскім кантэксьце бачылася Максіму Багдановічу «перадавым фарпостам Заходняй Еўропы». Ужо на пачатку нашага стагодзьдзя ён разглядаў Вялікае Княства Літоўскае як беларускую дзяржаву, у якой «“беларускае жыцьцё” павінна было праяўляцца ў беларускіх нацыянальных формах». Максім Багдановіч мянуе гэты час «залатым векам» у гісторыі беларускай культуры, без ваганьняў зьвязваючы яе росквіт зь дзяржаўнай незалежнасьцю. Ён адзначае, што «ўсё гэта, узятае разам, вылучала Беларусь на адно зь першых месцаў паміж культурнага славянства, ставячы яе далёка наперадзе Маскоўшчыны — тагачаснае славянскае глухмені, якая жывілася, як чужаедная расьліна, духоўнымі сокамі Белай Русі».

У 1915 годзе Максім Багдановіч біў у званы, бачачы сьмяротную пагрозу для беларушчыны: «Агляніцеся: усё наша роднае, беларускае марнуецца, нішчыцца, зьнікае, бо яго забіваюць, яго прыглушаюць, ім пагарджаюць, а чужое пануе, пышаецца, мае сабе пашану і павагу». Хто вінаваты? Тады, у 1915 годзе, ён дакладна адказаў: «Жывём мы паміж палякаў і велікарусаў, народаў моцных, і маем шмат крыўдаў ад іх».

«Крыўды» ад палякаў, можна лічыць, скончыліся, калі мы адгарадзіліся ад іх паўстагодзьдзя таму іншай дзяржаўнасьцю і мяжою. Ад «велікарусаў» зрабіць гэта доўгі час не ўдавалася. Хаця, хто яго ведае, калі прыгледзецца да ўсіх тых авантур, у якія пасьлядоўна ўцягваў нас усходні сусед, можа, і варта было б адзьдзяліцца ад яго бетонным плотам? Як кажуць, ад граху падалей.

Праўда, і такая, якая яна ёсьць сёньня, нябачная, празрысьценькая мяжа, яна ўжо ўратавала нашых хлопцаў ад чачэнскае бойні.

Ды не слухаемся мы сваіх класікаў, не чытаем, не маем сваіх арыенціраў і сьветачаў і які ўжо раз жорстка расплачваемся за гэта. «Беларусы! Мы — вялікі народ, нас дванаццаць мільёнаў, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут», — пісаў Максім Багдановіч восемдзесят гадоў таму. Колькі ж яшчэ нам трэба перажыць, каб мы ўрэшце ўсьвядомілі і напоўніцу скарысталі з гэтага?

*ЛіМ, 5 красавіка 1996 года.*

## Прыйдзі, праўдзівая вясна...

Даўно не было такой зімы, як сёлета. Адзін раз мы зь сябрам нават выбраліся на паляваньне. Сьвяціла сонца, аблокі лёталі, як птушынае пер’е, сьнег зіхацеў, як буйная чыстая соль. У лесе было поўна сьлядоў зайцоў, дзікоў, ласёў, а самі яны недзе спакойна качаліся ў сьнезе, пакуль мы, успацелыя, наўздагад тапталі сьнежны цалік — вышэй калень.

Памятаю зь дзяцінства таксама сьнежную зіму. Я, малы, на вёсцы ў бабулі, пайшоў калядаваць па хатах сваякоў. У самым апошнім двары я ўшчаміўся ў браму, замеценую сьнегам, і засеў. Наплакаўся, зьмерз, але потым выкараскаўся і сядзеў на печы ў гэтай хаце, у стрыечнай прабабкі, адаграваўся, усьцешна перабіраючы назьбіраныя белыя дзясятачкі ды пятнаццаткі і грызучы салодкія сушаныя грушы.

У 50-х гадах, распавядаў мой знаёмы, калі ён, русак, браў замуж слуцкую дзяўчыну, вясельле спраўлялі ў яе ў вёсцы. Сьнегу было столькі, што да суседзяў у хату хадзілі танчыць проста па сумётах па-над плотам.

Сьнежныя зімы ў нас рэдкія ды прыгожыя. Дзеці добра адчуваюць гэта, з разьбегу, як бы так і трэба, кідаюцца ў сумёты, выкочваюцца ў сьнезе, прамакаюць наскрозь.

Але пасьля кожнай, нават самай працяглай і сьнежнай зімы надыходзіць вясна. Нашыя класікі любілі параўноўваць зь ёй адраджэньне беларускага народа:

Дык ідзі да нас, жаданая,
Ідзі,
Раскатурхай нашу дрэму,
Абудзі! —

прасіў вясну Якуб Колас у 1912 годзе.

Прайшло тры пакаленьні, і ў 1988 годзе Алег Мінкін напісаў:

Прыйдзі, вясна!
Вярні нам славу
І цеплыню далёкіх дзён!
Сарві зь зямлі магільны саван!
Здымі са сьпячых душ заклён!

Вось такая зацяжная ідзе ў беларусаў вясна. Ці гэта яшчэ прадвесьне? Адно, што можна пэўна сказаць, аглядаючы гэтую перманентную вясну народа з працяглымі лютымі прымаразкамі, — спыніць нацыянальнае адраджэньне немагчыма. Яго можна запаволіць, ужыўшы гвалт, яго можна абылгаць, зьняважыць, але чым вышэйшыя лёдавыя заторы, тым з гучнейшым трэскам яны развальваюцца ад веснавой паводкі.

Той-сёй з горыччу гаворыць, што сёньня для беларусаў апошні шанц. Няпраўда. Наш шанц — гэта нашая беларуская праца. Усё залежыць ад таго, наколькі рупліва і пасьля-

доўна мы робім яе, ад таго, наколькі стане ў нас духу і цягавітасьці. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Будзем назапашваць сілы, умацоўваць набытае і з аптымізмам глядзець наперад. Нашая праўдзівая вясна — яшчэ наперадзе.

*ЛіМ, 12 красавіка 1996 года.*

## Знаёмыя вершы

У канцы 1995 года зьявіўся ў кнігарнях першы том Поўнага збору твораў Янкі Купалы. У ім выдрукаваны вершы, якія паэт напісаў у 24–25 гадоў свайго жыцьця. Вершы ўвогуле знаёмыя, але, прачытаўшы іх наноў, адзначаеш надзвычайную сталасьць думкі паэта для такіх гадоў:

Я буду маліцца і сэрцам і думамі,
Расьпетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі
зь мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі
над роднай зямлёй.

Гэтак пісаў Купала, думаючы за ўсю Беларусь, а сёньняшнія ягоныя аднагодкі пакуль што яшчэ грукочуць у тазік. Моладзь сёньня не надта хоча сталець і браць хоць якую там адказнасьць на свае плечы.

Яшчэ што ўражвае ў ягонай паэзіі бясконца і штораз — багацьце і нязмушанасьць купалаўскай мовы, якую ён выслухаў у падменскіх, лагойскіх ваколіцах, акумуляваў і засьпяваў на ёй, паказаўшы, што яму ўсё даступна. Якая напеўная магутнасьць, якая веліч зьвініць у Купалавых радках:

Іграюць сурмы баявыя,
Віхор разносе іхні звон,

І песьні дзіўныя такія
Ад іх лятуць да ўсіх старон.

Які дзіўны, старасьвецкі і таямнічы сьвет беларушчыны раскрывае ён! Яшчэ не прайшло і стагодзьдзя, а ад гэтага сьвету засталіся адныя аскепкі.

«Ворагамі беларушчыны» Купала называў тых асоб, якія выступалі супраць беларускай мовы ці зьневажалі яе. Пагодзімся, што прамінулы час не зьмяніў гэтае азначэньне, хоць бы і «ворагі», узгадаваныя янычарамі, нарасьлі спаміж свайго народа.

Гладка чытаюцца польскія вершы Янкі Купалы. Яны неяк больш стасуюцца зь ягоным узростам. Беларускія вершы паэта — неўтаймаваны выбух энергіі, польскія — руплівыя вучнёўскія практыкаваньні.

Сярод знаёмых вершаў ёсьць адзін і незнаёмы. Верш «Kobiecie» раней пры Саветах не друкаваўся. Чаму? Бо галоўны герой яго — беларускі яўрэй. А гэта ж у нас заўсёды была далікатная тэма.

Будзем чытаць Купалу. Нам не стае слоў прарока. Ну не ўчарашнія ж недавучкі будуць вучыць нас жыць.

Толькі зараз дабудавалі другую вежу ў Радашковіцкім касьцёле, дзе некалі хрысьцілі Купалу. Для гэтага спатрэбілася больш за пяцьдзясят гадоў. Колькі ж гадоў спатрэбіцца нам, каб дабудаваць будынак беларушчыны, пачаты ў свой час Купалам і ягонымі паплечнікамі?

Спраўдзім у нашага прарока, а ён сказаў:

Пакіньма напуста
на лёс свой наракаць,
Скрозь сьлёзы скаргі сеяць
на зямлі, —
Нам трэба жыць
і долю папраўляць,
Каб нас патомкі
з часам не клялі.

*ЛіМ, 24 мая 1996 года.*

## «Здубавецьце»

Сапраўдным бестселерам года можна назваць новую кніжку Рыгора Барадуліна «Здубавецьце». Паспрабуйце яе знайсьці і набыць — і ў вас нічога не атрымаецца. У ёй Рыгор Іванавіч сабраў і не пабаяўся выдаць тую частку свайго вушацкага беларускага фальклёру, якая багатая на мацюгі і датычыць двухсэнсоўных, часта фрывольных жыцьцёвых сітуацый.

Трэба адразу адзначыць, што такі фальклёр у жыцьці беларуса быў да месца толькі пры пэўных выпадках — ці на вясельлях, калі таго патрабавала вясельная абраднасьць, замешаная на яшчэ паганскіх рытуалах, ці падчас гулянькняў, вячорак, калі тэмпература там уздымалася да адпаведнага ўзроўню.

Прачытаўшы ўсё сабранае Р. Барадуліным, можна яшчэ раз пераканацца ў тым, што беларусы — праўдзівыя пераемнікі славянаў, калі браць пад увагу тое, што пра тых казалі старажытныя летапісы. Яны любяць незласьліва пасьмяяцца, маюць лёгкі, незлапамятны характар ды й увогуле — вясёлая нацыя, багатая на разумныя галовы.

Гэта фальклёр не толькі пэўнай сітуацыі, але й адпаведнага ўзросту. Пагодзімся, што тое, што здаецца вельмі сьмешным і цікавым у 18, у 60 ужо выклікае паблажлівую ўсьмешку. Такі ток жыцьця.

Што тычыцца арыентацыі ў часе, дык мяне найбольш уражваюць матывы яшчэ з прыгонных часоў. Вось ужо амаль паўтара стагодзьдзя, як адмянілі прыгон, а песьні пра дваровых запісваюцца яшчэ й зараз.

Чытаючы гэтыя прыпеўкі, прыказкі ды показкі, разумееш усю марнасьць патугаў русафілаў даказаць, што беларуская мова — гэта «наречие» суседняга «языка». Іншая справа, што й нашыя занадта даверлівыя да расейскай прапаганды беларусы не лічаць беларускую мову за каштоўнасьць, якую неабходна абараняць, захоўваць і перадаваць сваім дзецям.

Пакуль жывая беларуская мова ў вёсках, датуль яна будзе блішчэць залатым россыпам народнае творчасьці. І пакуль будуць жыць беларусы, датуль будуць утварацца сьмешныя сітуацыі ў нашым штодзённым жыцьці. Варта, мабыць, не праходзіць, не зважаючы, а зьбіраць і запісваць пачутае, як зрабіў гэта Рыгор Іванавіч, — няхай застаецца.

Прыканцы варта адзначыць добрае арыгінальнае афармленьне зборнічка, што выйшаў у «Паліфаксе» Яўгена Будзінаса, які, на жаль, зрэдку, затое якасна друкуе і беларускія кніжкі.

*ЛіМ, 19 ліпеня 1996 года.*

## Нашая песьня

Добра памятаю зь дзяцінства, гадоў дваццаць пяць таму, у вёсцы ў бабулі, летам да суседскай маладой дзяўчыны прыходзіў хлопец зь вёскі за пяць кіламетраў і сьпяваў на ўвесь голас, чакаючы яе на вуліцы: «Ой там у полі, у полі, Сьцелецца ў полі туман...» Голас у хлопца быў гучны і прыгожы, маладая суседка не сьпяшалася выскокваць з хаты, трымала характар, і ён цярпліва чакаў яе, праходжваўся, сьпяваючы адную і тую ж, мабыць, ягоную любімую песьню. Неяк жа зьвязвалася яна ў яго з гэтымі спатканьнямі.

Трывожыла яна і маю дзіцячую душу, выклікаючы штосьці нязвыкла хвалюючае. І мне ўяўлялася, што, калі я вырасту, у мяне гэтаксама будзе дзяўчына, да якой я буду вось так хадзіць і сьпяваць пад вокнамі.

Але пакуль я стаў дарослым — так ужо не сьпявалі. Мне ўдалося засьпець, мабыць, апошняе пакаленьне, якое сьпявала яшчэ на вуліцах свае, беларускія песьні. Дзяўчаты — пабраўшыся за рукі й ідучы па вуліцы, хлопцы — пры вогнішчы.

Была ўжо і тады расейская папса, накшталт «Песьні пра Колю-трактарыста»: «Каласілась поле разгустое, Налівалісь

усікі аўса. Гдзе-та за дзярэўняю далёка Дзевушак зьвінелі галаса».

Мая бабуля ніколі пры мне не сьпявала. Але калі я папрасіў яе, ужо студэнтам, насьпявала мне на касеты больш за сто песень! І ў яе была адна такая, ейная песьня, пра ўдаву, у якой сьнег ляжыць на пашы, калі ў іншых ён ужо растаў… Яна сьпявала яе і плакала.

А што зараз? Нашае гарадское пакаленьне ўжо амаль не ведае песень сваіх бацькоў і бабуль. Зразумела — калі гэта жніўныя ці вясельныя, бо ўжо не так бяруць шлюб і жыта сярпамі амаль не жнуць. Але вось жа за сталом… Якая ж безьліч гэтых застольных, бяседных, жартаўлівых беларускіх песень! Ведаю, мы іх добра насьпяваліся ў групе, калі былі студэнтамі.

За апошні год разы тры даводзілася мне быць на розных вялікіх застольных бяседах, дзе сядзела ў асноўным моладзь. І калі справа даходзіла да песьні, як на грэх, усюды адзінае, што сьпявалі больш-менш зладжана, была: «Вот кто-то с горочки спустился». Расейская маскультура пышна квітнее на нашых беларускіх палетках.

Хаця зь дзецьмі ўжо ёсьць і па-іншаму. З прыемнасьцю я сядзеў на калядным канцэрце ў класе свайго сына-першакласьніка. Клас беларускі, і выхавацелька-энтузіястка развучыла на Каляды зь дзясятак разнастайных беларускіх песень. Трэба было бачыць, зь якой цікавасьцю і як нязмушана сьпявалі іх дзеці. Упэўнены, гэтыя песьні яны ўжо не забудуць. Можа, мы і ўбачым калі-небудзь вялікую грамаду беларусаў, якая не будзе стаяць моўчкі, а здолее зладжана прасьпяваць «Магутны Божа» ці «Пагоню». Варта было б, як гэта і робіцца ў нармальных краінах, усё музычнае выхаваньне пабудаваць найперш на сваёй нацыянальнай музыцы, сьпевах. І тады гэта дало б плён, наша песьня не памерла б.

І самае істотнае — лепшую беларускую народную песьню мусіць прапагандаваць радыё і тэлебачаньне, каб яна там заўсёдна гучала і западала ў душу. Ды зараз у пашане ў нас

базары, на якіх, мабыць, беларусам, на чале з «усенародна абраным», варта было б зацягнуць:

Ой вы, дзевачкі беларускія,
Не ўлюбляйцесь ў расейскіх рабят,
Бо расейскія ўсе й жанатыя,
У заблужджэньне прыводзят дзяўчат.

*ЛіМ, 26 ліпеня 1996 года.*

## Беларускія шахцёры

Мая хатняя бібліятэка перажыла тры этапы напаўненьня. Першы — калі я купляў усё беларускае, другі — калі я пачаў выбіраць тое, што было цікавым і патрэбным з гэтага беларускага, і трэці — калі я зь цікавага і патрэбнага, вагаючыся, выбіраю самае-самае... У разрад гэтых кніжак нядаўна патрапілі і «Старажытныя шахцёры на Росі» калектыву аўтараў-археолагаў на чале зь Міхасём Чарняўскім.

Адзін зь нямногіх старых рамантыкаў беларушчыны, Міхась Міхайлавіч нават у такой далёкай ад белетрыстыкі навуцы, як археалогія, знаходзіць магчымасьць зацікавіць чытача. У прыватнасьці, мы даведваемся, што, аказваецца, «перадапошні ледавік (сожскі) вырваў з марскога дна гіганцкія адорвені крэйды і, адступіўшы каля 200 тысячагодзьдзяў назад на поўнач, пакінуў іх на паверхні пясчана-жвіровых адкладаў». Якія грандыёзныя падзеі адбываліся некалі каля ракі Рось! Сёньня ж, дзякуй Богу, «рака свабодна меандруе па поплаве».

Чым жа прыцягнулі ўвагу археолагаў гэтыя адорвені крэйды? У іх на працягу тысяч гадоў людзі здабывалі крэмень для вырабу зь яго прыладаў працы. Як вынік іхніх пошукаў засталіся крэмнездабываючыя шахты, месцы першаснай апрацоўкі крэменю, а таксама рэшткі паселішчаў старажытных людзей. Такі своеасаблівы «“рурскі басейн” старасьветчыны», як яго паэтычна называе М. Чарняўскі. Заўважу, што

гэты звычайны крэмень нашыя старажытныя продкі здабывалі прыладамі, выробленымі амаль выключна з рагоў высакароднага аленя...

Мабыць, гэтае параўнаньне з Рурам невыпадковае, бо такія шахты існуюць ва ўсёй Эўропе: у Бельгіі, Англіі, Францыі, Польшчы. У Расеі іх няма, і гэта дае падставу М. Чарняўскаму называць іх «унікальным для Усходняй Эўропы комплексам», а мне — правесьці мяжу «Усходняй Эўропы» дзесьці там — за Хоцімскам...

У кнізе апісваюцца самі шахты, тэхналогія апрацоўкі крэменю, які карыстаўся вялікай папулярнасьцю на Беларусі яшчэ падчас бронзавага веку і саступіў толькі жалезу недзе тры тысячы гадоў таму. Мабыць, нашае адставаньне ад Эўропы пачалося яшчэ з тых часоў, як у нашых землях не знайшлося бронзы... Але, тым не менш, з крэменю, аказваецца, рабілі скрабкі, скоблы, цёслы, разцы, наканечнікі стрэлаў, скрэблы, нажы і сякеры. А сякеры, у сваю чаргу, былі дыскападобныя, авальныя, трапецападобныя, прамакутныя, дзідападобныя, зь перахватам і міндалепадобныя...

Чытаючы гэтую працу, радуешся за беларускую мову. Ну што можа сказаць наступная фраза рускаму чалавеку: «на ўзроўні скляпеньня ў крэйдавым друзе калодзежа знойдзена кірка з аленевага рога з прасьвідраванай адтулінай». Бойцеся, хто кажа, што беларуская мова — гэта дыялект расейскай!

Самае непрыемнае ў кніжцы, як заўсёды, зьвязана з савецкай уладай. Так, прыкладна зь дзвюх тысяч шахт, якія дайшлі да нашага стагодзьдзя, тры чвэрці зьнішчыў цэментова-шыферны завод, які браў крэйду на сыравіну. На тэрыторыі хіленькага запаведніка застаецца каля 170 шахт, і ніводная зь іх не музеефікаваная. Таму не дзіўна чытаць наступнае: «большасьць зьмесьціва пахаваньня была ссунута бульдозерам у адвал...»

Ёсьць у расейскай мове такое ўстойлівае словазлучэньне: «Иваны-непомнящие». Дык гэта, здаецца, пра нас.

*ЛіМ, 30 жніўня 1996 года.*

## Дзьве душы

Вельмі часта душы нашых папярэднікаў-адраджэнцаў раздвойваліся паміж палітыкай і культурай. Сяўцоў было мала, а працы — як заўсёды. Прыгожа некалі выказаўся пра іх адзін літаратар: у адной руцэ яны трымалі меч, а ў другой — пяро. Пацьвярджэньнем гэтага правіла зьяўляецца і жыцьцё Вацлава Ластоўскага — адной з самых цікавых і шматбаковых асоб нашага Адраджэньня.

Перабіраючы неяк паперы з музея імя Івана Луцкевіча ў Віленскай акадэмічнай бібліятэцы, я натрапіў на некалькі ягоных недрукаваных вершаў, напісаных у 20-х гадах, адзін зь якіх па сваім настроі нагадаў мне нечым лёс самога Вацлава Юстынавіча. Седзячы на эміграцыі ў Коўне, сваю тугу і журбу па Беларусі ён выказваў апасродкаваным чынам, праз паэзію. Лепшыя сыны Беларусі былі расьцярушаныя па сьвеце, а на Радзіме панавала-ятрылася бальшавіцкае сабачае вясельле. Гэта ўжо было. Дык вось ён, верш:

КНЯЗЬ
РОСЬЦІСЛАЎ

Князь Росьціслаў
      ў зямлі чужой
Ляжыць на дне рачном,
Ляжыць ў кальчузе баявой
З паломленым шчытом.

Дняпра падводныя красы
Гуляці любіць зь ім —
І чэшуць воя валасы
Грабенцам залатым.

Яго дарэмна дзень і ноч
Княгіня дома жджэ:
Павезла ладзья яго проч,
Назад не прывязе.

Ў гушчы лясной,
      ў зямлі чужой
Ў рацэ яго прыпын.
Яму папы за упакой
Не справілі памін.

Ды зь ім падводныя красы,
Зь ім дзеў вясёлых сты
І чэша воя валасы
Іх грэбень залаты.

А як на бераг посьвіст іх
Сівыя хвалі мчыць,
Кружыцца
      ў лесе жоўты лісьць,
Яры Пярун грыміць.

Тады са сну
      на дне рачном
Раптоўна прабудзясь,
Вачамі мерклымі кругом
Паводзіць бледны князь.

Жану-малодку ён заве
Дармо. Яго жана,
Праждаўшы марна
      цэлы год,
З другім ужо яна.

Заве к сабе і брата ён,
Яго абняць бы рад,
Ды почтам грыдняў акружон
Балюе дома брат.

Заве ён полацкіх папоў
Вяліць сябе адпець,
Ды да айчызны слабы зоў
Не можа даляцець;

І ён панік на ржавы шчыт
Ізноў давечным сном,
Паміж русалак цяжка сьпіць
Адзін на дне рачном...

*ЛіМ, 27 верасьня 1996 года.*

## Нашыя задачы

Неяк размаўляў я са сваімі старымі знаёмымі. Я ведаў іх яшчэ «зафанацелымі» на беларушчыне студэнтамі, калі сам вучыўся ў асьпірантуры. Гаворка зайшла пра нашую беларускамоўнасьць, і я паўтарыў агульнавядомую, як мне здавалася, тэзу пра тое, што калі ты хочаш зьмяніць моўную сітуацыю на Беларусі, дык пачынай найперш зь сябе і будзь пасьлядоўным. Мае суразмоўнікі, і сёньня дастаткова актыўныя ў грамадскім жыцьці людзі, скептычна расьсьмяяліся, сказаўшы, што зараз ужо не «талакоўскія» часы. Я быў непрыемна ўражаны і нават крыху прыгаломшаны. А што зьмянілася? — спытаўся я ў сябе. Бясспрэчная, здавалася б, для нас у свой час ісьціна, аказваецца, у іх прайшла рэвізію. Мадэрнізацыя адбылася не на карысьць беларускай мовы.

А потым я згадаў іншых нацыянальна сьвядомых хлапцоў і дзяўчат з майго пакаленьня, якія пасьля актыўнага ўдзелу ў беларускім маладзёжным руху 80-х, пасьля апазіцыйнай партыйнай дзейнасьці адышлі ад палітыкі і кінуліся ў бізьнес. Я паглядаю на тых, якім удалося ўзьняцца, і з сумам адзначаю, што мала хто зь іх захаваў нармальны нацыянальны грунт. Былыя беларускамоўныя фундаменталісты сёньня актыўна карыстаюцца расейскаю моваю, апраўдваючыся для сябе, мабыць, тым, што гэтага патрабуе іхняе асяродзьдзе, іхні бізьнес. Паверыў бы, калі б не было такіх, якія ўсё ж няўхільна не саступаюць, працуюць у беларускамоўным рэжыме, з энтузіязмам засвойваюць гандлёвую тэрміналогію (згадайма тыя ж кампутары і чакалядкі).

І вось пра аднаго распавядаюць мне, што па-беларуску ён цяпер гаворыць толькі на вечарынках сярод бізьнесьменаў, расчуліўшыся пасьля чаркі. А другая, маючы магчымасьць выступаць у беларускамоўнай праграме па тэлевізіі, чэша па-расейску, толькі зубы паблісківаюць. Справа, здаецца, усё ж такі ва ўнутраных установўках, а яны паплылі.

Непакоіць мяне трохі і сёньняшняя «залатая» беларуская моладзь. Яны гавораць па-беларуску, для іх гэта нармальна, яны ведаюць, як правіла, замежныя мовы — зьявілася патрэба, не тое, што ў свой час у нас. Але яны лёгка зьбіваюцца зь беларускай на расейскую, не лічаць гэта для сябе істотнай прынцыповай рэччу. Для іх мова — больш інструмент, паказальнік свайго сацыяльна-палітычнага статуса, а не тая самакаштоўнасьць, якая абавязкова павінна ляжаць у духоўным падмурку кожнага нармальнага беларуса.

«Стомленасьць» таго-сяго са старой гвардыі — як сьпявае А. Мельнікаў, мабыць, усё ж такі не пра сябе: колькі ж можна — мова ды мітынгі, мітынгі ды мова, а таксама «недасьпеласьць» моладзі, якая прыўзьняла голаў у папярэднія гады беларусізацыі, і думалася, што паступова, натуральна яна «дасьпее», не мусяць зьбіваць з тропу астатніх.

Колькі можна пра адно і тое ж? Столькі, колькі трэба! Хоць усё жыцьцё!

Ты, мой брат,
каго звацць беларусам,
Роднай мовы сваёй
не цурайся, —

яшчэ некалі ўгаворваў беларусаў Алесь Гарун. Не надта яны яго паслухалі. Значыць, трэба працягваць. Нашая задача, якія б мы ні былі разумныя, вывучаныя і мудрыя, адна: тлумачыць і даказваць сто, тысячу, дзесяць мільёнаў трыста тысяч разоў элементарныя рэчы: мова — вышэй над усім, — і не забывацца пра ўласны прыклад.

*ЛіМ, 18 кастрычніка 1996 года.*

## Сумныя сны

Памятаю пачатак сьнежня гадоў пяць таму, як каля Чырвонага касьцёла, тагачаснага Дома кіно, галадалі вернікі. Так яны змагаліся за вяртаньне сьвятыні. Як і цяпер, тады ішоў мокры сьнег, а яны сядзелі ў алюмініевых шэзлонгах, апранутыя ў цёплыя паліто, шапкі і валёнкі, закутаныя ў поліэтылен, каб не прамокнуць: сталая кабета і юнак.

Вернікі тады адваявалі касьцёл. Як добра, думаю я, інакш бы там зараз баляваў Юра Азаронак. А так цяпер вакол касьцёла і ў ім — інакшая аўра. Архангел Міхаіл на цьвінтары, насупраць гарсавета, энергічна таўчэ дзідаю зьмея, на якім паблісквае цяжкая мядзяная луска. Гэтая сімвалічная выява барацьбы Дабрыні са Злом — набалелая тэма ў жыцьці нашай краіны.

Усярэдзіне касьцёла — мармур, ляпніна, надпісы па-беларуску. Я ж спускаюся ў дольную залу, дзе ў тэатры аднаго акцёра з паэтычнаю паганскаю назваю «Зьніч» ставіцца монасьпектакль па вершах Янкі Купалы «Мне сьняцца сны аб Беларусі...»

Цёмна-сінія раскладанкі хаваюць выступоўцаў, якія яшчэ рыхтуюцца. На сцэне — крэсла з кінутым беларускім ручніком і скрыпка без струнаў. Вось спачатку гасяць, а потым зноў запальваюць сьвятло, і на сцэну выходзіць Галіна Дзягілева, бярэ бясструнную скрыпку ў рукі і пачынае гаварыць. Голас акцёрскі — найвялікшы набытак тэатра. Глыбокі і насычаны своеасаблівай трагічнай сілаю, маючы адметную афарбоўку, ён неадольна прыцягвае ўвагу. Я на выбар выпісваю радкі, якія гучаць са сцэны: «ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся». «Залягла як пасьцель лебядзіная бель» — гэта Купала. «Вораг на свабодзе заўсёды небясьпечны» — а вось гэта Берман, наркам унутраных спраў Беларусі ў 30-х гадах.

Монасьпектакль скрозь сплецены зь вершаў, якія гадзіну гучаць бесьперапынна. Гэта складана і для акцёра, і для слухача. Недарма ў «Зьнічы» за яго бярэцца толькі сама спада-

рыня Галіна. Але з такім голасам ёй гэта пад сілу. Слухаючы яе, я пераканаўся, што найвышэйшае майстэрства акцёра-чытальніка палягае не ў тым, каб слушна вытрымаць рытм і інтанацыю. Галоўнае — перадаць жар душы паэта, ажывіць сухія кніжныя радкі. Пацьвярджэньне маіх слоў — поўная цішыня сярод вучняў, якія заваражана назіралі за сцэнаю.

Удала падкрэсьліў майстэрства актрысы цымбаліст Алесь Лявончык, плетучы звонкую, як крынічная вада, нягучную мелодыю.

Сьпектакль упершыню быў пастаўлены ў 1989 годзе. Празь вершы Купалы ў сьпектаклі закранаюцца тэмы адносінаў да беларускай мовы, годнасьці беларуса, любові да Бацькаўшчыны. Падаецца, што ён будзе актуальным яшчэ не адзін год.

*ЛіМ, 13 сьнежня 1996 года.*

## Сьнежань

Канец года. Зямля акрылася сьнегам. Зацерушыла сівізною лясы. Мяккасьць, паўтанальнасьць беларускай прыроды, пэўна, наклалі свой адбітак і на характар беларуса. Я думаў пра гэта некалі, стоячы на кургане Міцкевіча ў Наваградку і гледзячы на спакойны краявід дагледжанай і заселенай Наваградчыны. І зноў гэтыя думкі вярнуліся да мяне на засьнежаным Мсьціслаўскім замчышчы, гэткім жа стромкім і прыгожым, як і Наваградскае, і амаль з такім жа самым касьцёлам унізе.

Захапляльнае відовішча адкрываецца зь яго. Тут узімку менш разнастайных фарбаў, больш дзікасьці і змрочнасьці ў прыродзе, але няма той рэзкасьці і суровасьці, як, напрыклад, на Урале. Мутнае сьветлае неба павольна пераходзіць на даляглядзе ў мяккую чысьціню засьнежаных палёў. І трывога не ўнутраная, а нібыта вонкавая. Здаецца, не зьдзівіўся б, калі б з насупленых лясоў зараз з гіканьнем выскачыла татарская коньніца...

Я пераканаўся: каб агледзець прыгажосьць нашай зямлі, трэба хоць на трошкі ўзьняцца. І тады як бы яшчэ раз разумееш на відавочным і адначасна эмацыйным узроўні, што гэтая зямля — на дзясяткі кіламетраў наўкол цябе — Айчына.

Менавіта таму, здаецца, а не толькі дзеля абароны, нашыя ранейшыя сталіцы — і Наваградак, і Вільня — будаваліся на гарах. Бо зямлю бароняць не толькі таму, што яна твая, але й таму, што яна хвалюе цябе і бярэ за сэрца сваёй прыгажосьцю.

Мсьціслаў, дарэчы, некалі быў буйным ваяводскім горадам. Напамінкам аб гэтым — нейкім цудам захаваныя і не ўзарваныя муры старасьвецкіх камяніцаў, касьцёлаў і цэркваў, большасьць зь якіх яшчэ чакаюць руку выратаваньня. Непадалёк — занядбаны манастырскі комплекс сямнаццатага стагодзьдзя ў Пустынках з цудадзейнаю крыніцай. Менавіта тут, у Мсьціславе, добра разумееш, чаму Максім Багдановіч называў Беларусь фарпостам Заходняй Еўропы.

Дарога з Магілёва на Мсьціслаў ідзе праз Чавусы. Паўсюль у гэтых гарадах, што ўгору, што ўніз на Падняпроўі, адзіны герб — поўная ці «малая» «Пагоня» — рука зь мячом, разьвернутым на ўсход. Бараніліся як маглі, але часам атрымлівалася, як некалі ў тым Магілёве, што браму перад ворагам адчынялі свае ж... Гісторыя мае ўласьцівасьць паўтарацца, толькі ўжо на іншым узроўні.

Канец года. Зямля супакоілася і сьпіць. Здаецца, і краіна выдыхнула зь цяжкім супакоем пасьля бясконцай тузаніны 1996-га. Гэта як трывожны і цяжкі сон-перадых, які хутка павінен перарвацца.

Ёсьць хвіліны, і, мабыць, самы час падводзіць рахункі. Падумаць, паглядзець — што так, а што — не, азірнуцца, перад тым як пайсьці наперад. Сьпіць зацярушаны сьнегам Мсьціслаў, сьпіць уся Беларусь. Сьнежань...

*ЛіМ, 20 сьнежня 1996 года.*

## «На Каляды»

***Эдуард АКУЛІН. На Каляды : містэрыя ў 4-х актах. — Мн. : Беларуская каталіцкая грамада, 1996.***

Дзякуючы посткамуністычнай адлізе, мы зараз маем некалькі сваіх народных (дзяржаўных) сьвятаў. Адное зь іх — Каляды. Гэта хіба ці не самае найрадаснае сьвята, якое літаральна за некалькі гадоў паўстала зь небыцьця, адрадзілася і заквітнела, пацясьніўшы нават сьвецкі Новы год.

Таму зьяўленьне вершаванай містэрыі Эдуарда Акуліна «На Каляды» бачыцца справай натуральнаю. Апроч усяго, вядома, што сам паэт — цудоўны артыст-батлеечнік. Ягоныя лялечныя сьпектаклі-батлейкі, якія ён ладзіць у філіі музея М. Багдановіча ў Менску — у «Беларускай хатцы», нікога не пакідаюць абыякавымі і маюць нязьменна высокую міжнародную ацэнку. Праца над містэрыяй была для яго справай прафесійнага гонару.

Містэрыя пераказвае традыцыйны батлеечны сюжэт аб нараджэньні Хрыста. Але зроблена гэта вельмі жыва і цікава, з захапляльнай дынамікай, разнастайнай рытмікай, нечаканай вобразнасьцю, добрай беларускай мовай, якой Эдуард Акулін валодае проста віртуозна. У гэтым сэнсе яго можна параўнаць хіба што толькі з Рыгорам Барадуліным. Мова паэта, лёгкая і мілагучная, — адзін з найдаражэйшых набыткаў ягонае творчасьці.

Не зацягваючы дынаміку сюжэта містэрыі, разьлічанай найперш для сцэны, паэту ўдаюцца і даволі глыбокія духоўныя, філасофскія рэмінісцэнцыі:

Жыцьцё, як дым, плыве маркотна,
Зьнікаюць дні, лятуць гады.
І па шляху у незваротнасьць
Узрост мінае малады.

Душа ў сьлязах, душа, як сьвечка,
Самотна плача па начох...

Маўчыць падзорная сінеча, —
Няўжо душу не чуе Бог?

Выклікае замілаваньне сцэна вітаньня маленькага Езуса беларускім дзіцём:

А я з таго краю, дзе белыя гусі
Губляюць пярынкі
між промняў аеру...
О Божа, у сэрца маёй Беларусі
Вярні сваёй сілай Каханьне і Веру!

Каханьне і Вера — яны уратуюць!
Каханьне і Вера —
адродзяць народ мой!

Натуральна, што гэтыя словы не маглі быць сказаны амаль дзьве тысячы гадоў таму, але ж не памылюся, калі адзначу іхнюю актуальнасьць хаця б за апошнія 400 гадоў. Бо толькі там, дзе ёсьць свая дзяржава і хрысьціянская культура, — там існуе еўрапейская цывілізацыя.

Містэрыя разышлася па Беларусі і на гэтыя Каляды ставіцца дзецьмі і ў Менску (дзьве трупы), і ў Баранавічах, і на Міёршчыне. Зазначу, што гэта каталіцкі варыянт містэрыі, які, пры жаданьні, лёгка перарабляецца на праваслаўны манер.

*ЛіМ, 10 студзеня 1997 года.*

## «Адкуль наш род»

***Уладзімір АРЛОЎ. Адкуль наш род. — Мн. : ВЦ «Бацькаўшчына», 1996.***

Гадоў пятнаццаць таму я ўпершыню прачытаў патаемна перазьнятую на фотаздымкі брашурку В. Ластоўскага «Што трэба ведаць кожнаму беларусу». І ўвесь гэты час я падсьвя-

дома чакаў зьяўленьня такой сучаснай катэхізмоўкі па гісторыі, дзе вельмі проста, даступна і цікава былі б выкладзеныя асноўныя вехі тысячагадовай гісторыі беларусаў. І вось, здаецца, такая кніжка «для кожнага беларуса» зьявілася.

У асобе У. Арлова нашая культура мае надзвычай каштоўнае спалучэньне ўдумлівага, таленавітага гісторыка і яшчэ больш таленавітага літаратара. Таму кожную ягоную новую кніжку (вершы пісьменьніка — асобная гаворка) я чытаю з асалодаю і задавальненьнем.

Вось і ў новай сваёй кніжцы У. Арлоў натуральна спалучыў уважліва адабраныя гістарычныя факты з густоўнымі літаратурнымі ўстаўкамі, здольнымі сваёй маляўнічай нечаканасьцю зацікавіць і разбудзіць фантазію маленькага чытача, а дарослага добра так павесяліць.

Гартаючы ягоныя «апавяданьні для малодшых школьнікаў», я, напрыклад, даведваюся, што раней на Беларусі «трапляліся такія вялікія самы і шчупакі, што маглі перакуліць човен і самі злавіць рыбака». Для беларускіх юнакоў, піша У. Арлоў, наладжваліся выпрабаваньні. Для таго, каб стаць мужчынам, яны павінны былі ўпаляваць тура, мядзьведзя ці зубра, пераплысьці раку і распаліць пад дажджом вогнішча. Аказваецца, што «касьцярэзы выразалі з косьці грабяні, гузікі і шахматныя фігуркі, бо старажытныя беларусы надта любілі гэтую гульню», а майстры «выкоўвалі незаменныя на вайне сякеры і мячы, прычым такія вострыя, што імі можна было галіцца».

«Гісторыя Беларусі — гэта гісторыя войнаў», — піша ў прадмове да кнігі гісторык П. Лойка. І з гэтым пагаджаешся, гартаючы старонкі кнігі У. Арлова.

Пісьменьнік спрабуе комплексна і аб’ектыўна ацаніць вынікі нашага суседства з Расеяй. Гэтая ацэнка — бязрадасная. Дастаткова нават паглядзець на ролю знакамітых расейскіх дзеячаў і герояў у беларускай гісторыі. Так, сьвяты Рускай праваслаўнай царквы князь Уладзімір — забойца князёў полацкай дынастыі і гвалтаўнік. Славуты расейскі цар Пётр I месяц пражыў у Полацку, «але пакінуў па сабе

страшную памяць, бо ўчыніў там крывавае злачынства». А знакаміты расейскі палкаводзец Сувораў «заліў беларускую зямлю крывёю... Таму для Беларусі Сувораў — камандзір захопнікаў».

Увогуле, нягледзячы на вышэйпрыведзеныя цытаты, кніжка атрымалася аптымістычная і жыцьцесьцьвярджальная.

У. Арлоў даводзіць нам, што Беларусь мае сваю адметную гісторыю, якой мы па праву можам ганарыцца.

*ЛіМ, 17 студзеня 1997 года.*

## «У бязьмежную даль»

***У бязьмежную даль : кніга пра Максіма Багдановіча / уклад. С. Панізьнік. — Мн. : Асар, 1996.***

У серыі «Школьная бібліятэка» да 105-х угодкаў з дня нараджэньня М. Багдановіча выйшла кніга вершаў, артыкулаў і ўспамінаў, прысьвечаных М. Багдановічу. Укладальнік яе — С. Панізьнік. Нягледзячы на тое, што кніга найперш разьлічана на школьнікаў, яна атрымалася зьмястоўнай і цікавай і для больш шырокага кола чытачоў.

Трагічнае жыцьцё і геніяльныя вобразы паэзіі М. Багдановіча натхнілі не аднаго беларускага паэта. І гэтае судакрананьне да аўры паэта спарадзіла сапраўдныя каштоўныя пярліны ў нашай паэзіі. Найперш тут трэба згадаць вершы Н. Арсеньневай, У. Жылкі, У. Караткевіча, ягоныя знакамітыя радкі:

Ты сказаў нам:
«Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсьць у вас, як у іншых, сьвятыня.
Не давайце сьвятыні псам!»

А таксама нашых сучасьнікаў Э. Акуліна, Л. Галубовіча, Л. Дранько-Майсюка, Л. Рублеўскай ды іншых.

Шкада, не патрапіў у гэтую анталогію выбранага верш А. Мінкіна «У Полацку», адзін зь лепшых, на маю думку, вершаў паэта.

І наадварот, трапляюцца тут і пэўныя недарэчнасьці. Так, Ю. Сьвірка пісаў у сьнежні 1981 года, маючы на ўвазе толькі што адкрыты тады помнік паэту:

Ён слухае Менска гаворку,
Звыкаецца зь ёй, дарагой.

Што меў на ўвазе паэт — рускую гаворку, якая, як паводка, залівае Менск?

Можна заўважыць, што калі ў 60-я, 70-я гады асноўнай тэмаю вершаванай Багдановічыяны быў Крым, дык у апошнія гады — гэта вобраз «Пагоні».

Сярод артыкулаў, прысьвечаных творчасьці М. Багдановіча, варта адзначыць ніколі не друкаваныя ў Менску бліскучы артыкул А. Навіны, дасьледаваньне С. Станкевіча, а таксама цікавыя артыкулы У. Караткевіча, які з замілаваньнем адзначыў, што М. Багдановіч — «ледзь не самая сімпатычная і родная постаць у гісторыі беларускай літаратуры», Н. Гілевіча, А. Мальдзіса, адно з найбольш удалых літаратуразнаўчых эсэ «Загадка Багдановіча» М. Стральцова.

Кніга дапамагае лепей усім нам усьвядоміць тое, што М. Багдановіч — гэта нашыя, чыста беларускія гонар і сумленьне. І менавіта таму, як піша Г. Бураўкін, «ворагі ягонай Бацькаўшчыны, а значыць і ягоныя, сьпярша замоўчвалі і ўсяляк прыніжалі ягоны дар. Яны пасьля валасатымі пальцамі сталінскіх інквізітараў вырывалі ягоны партрэт і ягоныя вершы са школьных падручнікаў. Яны пяліся нацягнуць на ягоныя худыя плечы суконную робу нацыяналіста». Дык не будзем жа саромецца гэтай «суконнай робы» любові да нашае Бацькаўшчыны, бо тое нам запавядаў наш Максім Багдановіч.

*ЛіМ, 24 студзеня 1997 года.*

## Беларускі гістарычны сшытак

***Białoruskie Zeszyty Historyczne. — Białystok, 1996. — № 1 (5).***

Ужо чацьвёрты год, як у Беластоку выходзіць паўгадавік, матэрыялы якога прысьвечаны гісторыі, культуры беларусаў па абодва бакі мяжы і да якіх маюць доступ дасьледчыкі беларусікі, якія жывуць пераважна ў Польшчы.

Маю ўвагу ў гэтай кніжцы прыцягнуў матэрыял, прысьвечаны спрэчцы, якая разгарэлася вакол мовы казаньняў у касьцёле ў мястэчку Жодзішкі 26 красавіка 1925 года. Галоўная дзейная асоба — ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, які ў тыя гады быў у Жодзішках ксяндзом-пробашчам.

Як пісаў у пратаколе дазнаньня адзін з асаднікаў, «спачатку тутэйшыя людзі непрыхільна глядзелі на казаньні ксяндза ў беларускай мове, аднак, дзякуючы моцнай агітацыі ксяндза Гадлеўскага, людзі прызвычаіліся. Казаньні казаліся таксама і па-польску, аднак пасьля набажэнства, калі людзі выходзілі з касьцёла». З павятовага староства паведамлялі, што «ўвогуле ў жодзінішскай парафіі перад пробаствам кс. Гадлеўскага беларусаў было 15 працэнтаў насельніцтва, калі зараз, дзякуючы сьпецыяльнай агітацыі кс. Гадлеўскага, вырас ён больш за 60 працэнтаў насельніцтва».

Абураныя асаднікі і спольшчаная шляхта ўзьнялі гвалт. Была створана камісія з ксяндзоў, якая мусіла вызначыць мову казаньняў у Жодзішках. 26 красавіка камісія прапанавала людзям падзяліцца, у залежнасьці ад таго, хто якую мову падтрымлівае, але, як сьведчыць М. Мізура, каталік-беларус, «з-за таго, што паміж палякамі былі заўважаны людзі зь іншых парафіяў, беларусы жадалі, каб іх выдалілі». На што, як адзначае К. Шэмбер, каталік-паляк, ім адказалі: «Дык ідзі — выведзі, калі ведаеш некага між намі зь нетутэйшай парафіі». Беларусы ж, па сьведчаньні Ф. Жылкі, каталіка-паляка, «рушылі натоўпам з крыкам “ура” біць іх», як дадае Ю. Мурашка, крычалі: «Выкінуць палякаў зь цьвінтара; біць войта, бо ён дзержыць за палякамі». Ксёндз

Гадлеўскі зьвярнуўся да людзей: «Братцы-беларусы, супакойцеся!» Але тут, як сьведчыць Б. Грыб, каталік-беларус, «нейкая асоба ў пенснэ, якая стаяла з боку палякаў, пачала сьвістаць у паліцэйскі сьвісток, пасьля чаго адразу ж прыбылі паліцыянты з тутэйшага пастарунка з карабінамі і прынесьлі з сабой ручны кулямёт». Як сьцьвярджаў потым Ю. Жылка, каталік-паляк, «прыбыцьцё паліцыі было абавязковым, бо інакш дайшло б да бойкі зь беларускага боку, які быў мацнейшы». Як піша далей у сьведчаньні Л. Рэкець, каталік-беларус, закрыстыянін, «пасьля гэтага, ідучы да плябані, я спаткаў каменданта пастарунка, які спытаўся ў мяне: “А табе не дасталася па ілбе?” У адказ я спытаў у яго: “Што там такога сталася?” На што ён адказаў: “А няхай іх халера ведае!” і пайшоў у плябань».

У выніку гэтага «рэферэндуму» ксяндза Гадлеўскага пасадзілі ў турму, а беларуская мова ў касьцёле больш не гучала.

*ЛіМ, 31 студзеня 1997 года.*

## «Яшчэ адна вясна»

***Натальля АРСЕНЬНЕВА. Яшчэ адна вясна : выбраныя вершы / уклад. і прадм. А. І. Сямёнавай. — Мн. : Мастацкая літаратура, 1996.***

Зь беларускай інтэлігенцыі, якая нарадзілася на пачатку XX стагодзьдзя, мала каму ўдавалася пражыць поўнае жыцьцё. Усіх іх, як правіла, зьнішчалі маладымі. 25, 35, 40 — гэта сярэдні ўзрост нашых класікаў. А вось што мяне найбольш зьдзіўляе ў жыцьці Н. Арсеньневай, дык гэта яе нармальны, дай Бог ёй здароўя, узрост. Хоць кожны раз, калі думаю пра яе, прыходзіцца сябе пераконваць — так, яна сучасьніца М. Багдановіча і... нашая сучасьніца. Некалі, з 1914 па 1916 год, яны (Н. Арсеньнева — гімназістка, а М. Багдановіч — ліцэіст) хадзілі па адной і той узьбярэжнай Волгі

ў Яраслаўлі і, хутчэй за ўсе, нават сустракаліся, не ведаючы, хто ёсьць хто.

Але сёлета мы будзем адзначаць 80 гадоў з дня сьмерці М. Багдановіча...

Калі думаю пра жыцьцё і творчасьць Н. Арсеньневай, у мяне заўсёды ўзьнікае гэтая паралель — з Максімам Багдановічам. Ён — адарваны ад роднай беларускай стыхіі на тысячы кіламетраў, і яна — руская па нацыянальнасьці, якая таксама амаль не жыла на Беларусі. Якім цудам іх прыбіла да такога непрытульнага берага беларушчыны? І каштоўнасьць іхняя для беларускай культуры гэтаксама выклікае паралелі.

Чытаючы вершы Н. Арсеньневай, заўважаеш, як тэма прыгажосьці гэтага сьвету, эстэцкая, нават звышхваравітая адчувальнасьць яе душы, якая спрабуе адбіць у вершаваных радках ледзь улоўныя нюансы красы, становіцца «ўласнаю» тэмаю паэткі ўжо на пачатку яе творчасьці і дасягае вяршыні разьвіцьця ў 30-х гадах.

Хто ж бо ўцісьне ў словы пустыя
Чар нябёсаў адвечны і сталы? —

пытаецца паэтка, заварожаная гэтым боскім сьветам.

Яна любіла Зачараванае Царства Беларусь, а нас доўгі час прымушалі любіць беларускія лапці, у той час як лапці былі прызначаны для таго, каб у іх хадзіць. Але таксама, як і рускую паэтку А. Ахматаву, бальшавікі, калі надарылася такая магчымасьць, скінулі Н. Арсеньневу на зямлю. І спатрэбілася высылка ў галодны Казахстан, арышт мужа, блізкі подых сьмерці, каб яна ў акупаваным Менску, так, як і М. Багдановіч у свой час, да ягонай «Пагоні» далучыла бесьсьмяротныя радкі:

Магутны Божа!
Уладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй, ціхай і ветлай,
рассып праменьне
Свае хвалы.

Разьлятаецца чароўны замак уласнага супакою, і ўжо надалей перад намі паэтка, якая бачыць сьвет такім, які ён ёсьць. У лепшых сваіх творах яна — недасягальная і непераўзыдзеная.

Вяртаньне Н. Арсеньневай за апошнія гады ў кантэкст нашай літаратуры — гэта вялізная перамога і набытак для беларускай культуры, якой яна ніколі не здраджвала на працягу свайго доўгага, ды не, мабыць, усё ж такі — нармальнага жыцьця.

*ЛіМ, 7 лютага 1997 года.*

## «Уладары Вялікага княства»

***Вітаўт ЧАРОПКА. Уладары Вялікага княства. — Мн. : Полымя, 1996.***

Своеасаблівым працягам кнігі Вітаўта Чаропкі «Імя ў летапісе» зьявілася новая кніга ягоных дасьледаваньняў па гісторыі Беларусі. Унікальная зьява, калі беларускія пісьменьнікі: М. Ермаловіч, К. Тарасаў, У. Арлоў, і ў немалой ступені В. Чаропка, зрабілі гэтую работу — далі зьвязны і лагічны дакументальны відарыс гісторыі Беларусі, — што не здолелі зрабіць тысячы абкандыдачаных прафесійных гісторыкаў.

В. Чаропка ў сваёй кніжцы ідзе «кастамараўскім» шляхам, спыняючы сваю ўвагу на выбітных асобах нашай Айчыны. І адначасна перад намі раскрываецца найцікавейшая і найзахапляльная панарама беларускага палітычнага і культурнага жыцьця ў XVI–XVII стагодзьдзях.

Добра валодаючы літаратурным словам, а таксама маючы выразнае пачуцьцё суперажываньня да тэмы размовы, В. Чаропка літаральна ажыўляе сваіх герояў і перадае чытачу сваё захапленьне гэтымі асобамі.

Ды і як можна не паважаць і не захапляцца нашымі высакароднымі продкамі, кіраўнікамі старажытнае Беларусі,

калі яны, як адзін, былі высокакультурнымі, адукаванымі людзьмі. Так, і Міхайла Глінскі, і Ян Караль Хадкевіч, і Януш Радзівіл, і Леў Сапега ды іншыя асобы, пра якіх піша В. Чаропка, не адзін год пражылі ў Еўропе, вучыліся там ва ўніверсітэтах, вывучалі вайсковую справу, перш чым займелі рэальную ўладу ў сябе на Радзіме. І тут, на Беларусі, яны баранілі незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны і разьвітую, як нідзе, дэмакратыю і правы чалавека, як ні дзіўна гэта зараз гучыць.

Яшчэ ў XVI стагодзьдзі адзін з «уладароў Вялікага княства» Мікалай Радзівіл Руды сказаў: «Мы людзі вольныя, з усякім народам можам параўнацца сваімі вольнасьцямі, пачцівымі заслугамі нашых продкаў... А калі хто хоча забраць у мяне волю, дык буду лічыць яго тыранам».

Незалежнасьць Бацькаўшчыны і асабістая воля — асноўныя лозунгі, выпісаныя на харугвах беларускай сярэднявяковай гісторыі. Менавіта таму, падаецца, з гэтай сапраўднай гісторыяй ніяк не могуць пагадзіцца дамарослыя і прышлыя культуртрэгеры, выхаваныя на нянавісьці да ідэй незалежнасьці і дэмакратыі.

Урэшце, з кнігі цікава было даведацца і пра Канстанціна Астрожскага, які перад знакамітай Аршанскай бітвай яшчэ ў 1500 годзе пад Дарагабужам адчайна вырашыў: «Мала ці шмат будзе маскавітаў, але, спадзеючыся на Божую дапамогу, біцца зь імі, а без бою не вяртацца». І пра імператара Максіміляна, які ў 1-й палове XVI стагодзьдзя зразумеў, што «цэласнасьць Літвы — неабходна для карысьці ўсёй Еўропы: вялікасьць Расеі небясьпечна». І пра рускага цара Васіля, які прысягнуў: «Пакуль конь мой будзе хадзіць і меч секчы, не даць спакою Літве».

А ўсё гэта — наша гісторыя, вывучэньне і асьвятленьне якой, па сутнасьці, толькі пачынаецца.

*ЛіМ, 14 лютага 1997 года.*

## «Еўропа з 1815 года да нашых дзён»

***Жан-Батыст ДЗЮРАСЭЛЬ. Еўропа з 1815 года да нашых дзён. — Мн. : Беларускі фонд Сораса, 1996.***

Як бы там ні хвалілі «великий и могучий», але ўсё ж такі прыемна трымаць гісторыю Еўропы апошніх двух стагодзьдзяў французскага прафесара Сарбоны, выдадзеную па-беларуску. І што б там ні казалі пра роўныя правы ў нас расейскай і беларускай моў, але да тых часоў, пакуль у нас не зьявяцца тысячы і тысячы падобных перакладных выданьняў па-беларуску па ўсіх галінах чалавечых ведаў, надрукаваных за дзяржаўныя грошы, я буду сьцьвярджаць, што гэтыя «роўныя правы» — падман.

Цікавы ў гэтым гістарычным дасьледаваньні падыход да падачы матэрыялу. Аўтар імкнецца да максімальнай аб’ектыўнасьці, нават першакрыніцы разьмяшчае наперадзе дасьледаваньня, як бы кажучы: не верыце мне — чытайце і вывучайце крыніцы, якіх ён падае аж 1200 пазіцый.

XIX стагодзьдзе ў Еўропе аўтар разглядае як «стагодзьдзе нацыяналізму», спыняючыся на бясконцых нацыянальна-вызваленчых паўстаньнях у Багеміі, Харватыі, Венгрыі, Італіі, Румыніі і г. д. Ён разглядае супярэчнасьці прынцыпу легітымнасьці манархаў, на якім была пабудавана старая Еўропа, з прынцыпам самавызначэньня нацыяў. Ён піша пра тое, як Напалеон III «марыў пра натуральныя (этнаграфічныя. — ***А. Б.***) межы Францыі», і пра тое, як «ап’янеласьць нямецкага патрыятызму» аб’яднала 350 нямецкіх дзяржаў у 39, і толькі ў 70-х гадах мінулага стагодзьдзя — у адну. Дата стварэньня яшчэ адной «старой» еўрапейскай дзяржавы, Італіі, — 1870 год.

У XX стагодзьдзі, як сьцьвярджае гісторык, «еўрапейскае грамадства ўтрымлівала ў сабе разбуральны элемент: інтэрнацыяналістычны і рэвалюцыйны сацыялізм», якія і прывялі да дзвюх ягоных крайнасьцяў — камунізму і фа-

шызму. Я, між іншым, даведаўся пра тое, што першае, што зрабіў Мусаліні, калі прыйшоў да ўлады, дык гэта зьмяніў канстытуцыю «пад сябе», а адметнаю рысаю Гітлера ён лічыць «адначасовае спалучэньне цьвёрдага характару і абсалютную веру ў сваю дактрыну. Усё сказанае ім ён будзе выконваць, што б там ні здарылася».

Аказваецца, мы, беларусы, нягледзячы на ўсе непрыемныя нечаканасьці апошніх гадоў, не надта і выпадаем з агульнаеўрапейскіх працэсаў. Так, дэмакратызацыя Еўропы, якая пачалася, можна лічыць, з увядзеньня ў 1871 годзе ў Францыі ўсеагульнага выбарчага права, па-за краінамі былога сацлагера скончылася толькі ў 1974 годзе, калі былі зьменены аўтарытарныя рэжымы ў Партугаліі, Іспаніі і Грэцыі. А незалежнасьць Беларусі на фоне «сьвежай» незалежнасьці яшчэ пятнаццаці еўрапейскіх дзяржаў (не лічачы Абхазіі і Чачні) дык і ўвогуле выглядае зьявай своечасовай.

Прафесар Дзюрасэль на падставе аналізу двухвяковай гісторыі Еўропы прыходзіць да высновы, што «свабода ў канчатковым выніку робіць палітычную сістэму больш жыцьцяздольнай». Застаецца шкадаваць, што такія кніжкі не дайшлі да нашых гістфакаў гадоў 25 таму.

*ЛіМ, 21 лютага 1997 года.*

## «Літаратура народаў сьвету»

***Літаратура народаў сьвету : хрэстаматыя-дапаможнік для 10-га класа сярэдніх школ Беларусі / уклад. Л. П. Баршчэўскі. — Мн. : БГАКЦ, 1995.***

Калі размова заходзіць пра замежную літаратуру, сярэдні беларус не разгубіцца. Ён адразу ж назаве Чэйза і Агату Крысьці ці які-небудзь там дзясяты том «Унесенных ветром», што прадаецца ўраздроб у электрычках ці на шматлікіх кніжных развалах.

Але што ж, і Чэйз, і Агата Крысьці, і нават дзясяты том «Унесенных ветром», складзены за два тыдні ў Менску, дзенебудзь на Уральскай, — гэта ўсё ж лепей, значна лепей за тое, што сярэдні беларус можа пачуць ці пабачыць па Беларускім радыё ці тэлевізіі. Таму, мабыць, і купляюць, каб забыцца.

Але ж ёсьць і іншая замежная літаратура. Ёсьць літаратура, якая зьдзіўляе сваёй сталасьцю, мудрасьцю і хараством, якая пераносіць чытача ў іншы сьвет, у іншае вымярэньне, выхоўвае ў людзей лепшыя чалавечыя якасьці, дапамагае разумець і любіць гэты сьвет, а таксама стварае разнавектарнасьць у культурным выхаваньні чалавека, здымае рупна выхаваны ў беларусаў за два стагодзьдзі рабскі ўмоўны «ўсходні» рэфлекс.

У чалавечым выхаваньні праз вывучэньне замежнай літаратуры пажадана не пераскокваць, каб не выхоўваць пасярэдзіне Еўропы азіятаў у пэўным значэньні гэтага слова. І таму я літаральна з радасьцю трымаю хрэстаматыю сусьветнай літаратуры, складзеную вядомым беларускім перакладчыкам і грамадскім дзеячам Лявонам Баршчэўскім.

Укладальнік, адбіраючы творы ў хрэстаматыю, спасылаецца на аўтарытэт Гётэ, які «да твораў сусьветнай літаратуры адносіў самыя выдатныя творы нацыянальных літаратур, якія істотна спрыяюць культурна-духоўным кантактам розных народаў і маюць непераходнае для сусьветнай культуры значэньне».

Сабраныя пад адну вокладку беларускія пераклады і любоўнай лірыкі Сапфо, і велічных одаў Гарацыя, і знакамітая «Песьня пра Раланда», і «Боская камедыя» Дантэ, і санеты Петраркі, і драматургія Шэксьпіра і Мальера, і проза Бальзака і Ажэшкі, па-першае, яшчэ раз паказваюць натуральнасьць перакладаў «неўміручых» на беларускую мову, і, адпаведна, ідыятызм усіх адваротных сьцьвярджэньняў, а падругое, хоць на трошкі адхінаюць перад беларускім школьнікам покрыва, якое захінае такі невядомы для яго сьвет, як замежная літаратура.

Паглядзеўшы на прозьвішчы перакладчыкаў твораў з арыгінальных моваў, а гэта і сам укладальнік Л. Баршчэўскі, і Р. Барадулін, і В. Сёмуха, і З. Колас, А. Клышка ды іншыя, на якасьць гэтых перакладаў, прыходзіш да высновы: на сёньня ў нас склалася высокапрафесійная школа перакладчыкаў практычна з усіх асноўных моваў сьвету. Але наколькі іхнія намаганьні патрэбныя беларускай культуры, бачна па тым, як непрыкметна зьніклі беларускія «Даляглядь», затое нечакана буйна расквітнела рускамоўная «Всемирная литература». «Клопат» дзяржавы відавочны.

*ЛіМ, 28 лютага 1997 года.*

## Супраціў

***Юрка ВІЦЬБІЧ. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. — Нью-Ёрк : Беларускі інстытут навукі й мастацтва, 1996.***

У Амерыцы, дзякуючы рупнасьці эмігранта новай хвалі Лявона Юрэвіча, выйшла навукова-дасьледчая праца вядомага беларускага пісьменьніка на эміграцыі Юркі Віцьбіча. Само дасьледаваньне было выканана яшчэ ў 1952 годзе, але ўбачыла сьвет толькі зараз. Аўтар паставіў за мэту сабраць усе матэрыялы, якія толькі можна было знайсьці ў Амерыцы, што датычыліся перадваеннага змаганьня беларусаў з бальшавізмам. Сабраныя па пісьмовых крыніцах, а таксама па ўспамінах удзельнікаў і сьведкаў гэтага супраціву, зьвесткі шмат у чым новыя.

У кніжцы ідзе размова пра малавядомыя і зусім нязнаныя дагэтуль Вяліжскае, Нясьвіжскае, Мірскае, Дабранскае, Панькоўска-Будаўскае, Бешанковіцкае паўстаньні, пра Барысаўскі галодны бунт і Мсьціслаўскую сялянскую дэманстрацыю ды іншыя паўстаньні.

Да гэтых матэрыялаў трагічнага супраціву беларускага народа з бальшавіцкай няволяй датыкнулася рука таленавітага пісьменьніка, і яны чытаюцца як цікавы мастацкі твор.

«Шапкі далоў! Мы будзем гаварыць пра замучаных бальшавіцкай камунай», — піша Ю. Віцьбіч і сапраўды распавядае пра тое, як у 1918 годзе паўсталі мабілізаваныя сяляне ў Вяліжы: «Нашых айцоў харчпадаткам душыце? Нашыя маткі з голаду пухнуць! З нашае веры зьдзекуецеся?! А мы мусім вас абараняць? Няхай камандзіры паміраюць за Леніна з Троцкім, а мы хадзем дамоў!»

Ю. Віцьбіч піша пра тое, як Слуцкі зборны батальён у 1919 годзе ў мястэчку Мір, яшчэ да Слуцкага паўстаньня, замест таго каб пакараць местачкоўцаў за забойства двух камісараў, перайшоў на бок жыхароў Міра і вёў бой чатыры дні з палком чэкістаў. А таксама пра тое, як латышскія стралкі вялі на расстрэл вяліжскага партызана гімназіста Адахоўскага, а ён сьпяваў песьню паўднёваафрыканскіх бураў: «Трансвааль, Трансвааль, зямля мая, ты ўся гарыш у агні», маючы на ўвазе Беларусь. І пра Бешанковіцкае паўстаньне ў 1930 годзе, калі больш за пяцьсот сялян з сякерамі і віламі пайшлі на Бешанковічы бараніць сваю зямлю і дабро. Гэта было «змаганьне сякераў з кулямётамі». Сялян расстралялі. А ў 1933 годзе была забастоўка рабочых у Барысаве супраць зьмяненьня нормаў выдачы хлеба. Тады сакратар угаворваў іх: «Вярніцеся да сваіх асірацелых машын, на якіх вы куяце сусьветную пралетарскую рэвалюцыю. Калі раней мы недаядалі на радасьць буржуям, дык цяпер мы галадуем на страх ім». Абураныя работнікі схапілі яго і пацягнулі на раку Бярозу тапіць.

Пасьля кожнага з гэтых паўстаньняў распачынаўся страшэнны тэрор і людзі гінулі сотнямі, тысячамі. Па ўсёй Беларусі, як піша Ю. Віцьбіч, ішла «падводная вайна», гэта калі «карныя атрады рэвізавалі ў сялян падводы і ганяліся на іх за «белымі бандытамі». Нават лірычныя песьні складаліся пра антыбальшавіцкую партызанку: «Хадзіце, хлопцы, ў лес

зялёны, Зямлянка нас схавае там, Матуля-ноч нас абароніць, А бацька-лес дасьць волю нам».

Прачытаўшы гэтую кнігу, можна зрабіць гэткую выснову, што нават самы жорсткі і крывавы тэрор не можа накінуць вечнае ярмо на народ. Некалі яно ўпадзе, але, пэўна, не само па сабе, а дзякуючы няскоранаму і вольнаму духу гэтага народа.

*ЛіМ, 21 сакавіка 1997 года.*

## Арыштаваны ў высылцы

***Уладзімір МІХНЮК. Арыштаваць у высылцы: дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. — Мн. : БелНДІ дакументазнаўства і архіўнай справы, 1996.***

Хочаце, я вам распавяду цікавую гісторыю пра беларускага паэта? Пачаў ён пісаць у 20-х гадах, далучыўся да беларушчыны ў гуртку «Беларуская хатка», дзе пад выглядам мастацкай самадзейнасьці прышчаплялі любоў да гэтай беларушчыны, і як мог імкнуўся мацаваць яе. Менавіта таму ён упарта адпіхваўся ад расейшчыны. Паэтам ён быў таленавітым і хлопцам энергічным, таму і стаў адным з кіраўнікоў «Маладняка». Як ён згадвае, «у сярэдзіне 1926 года мы зьбіраліся выдаць сябрам “Маладняка” новыя білеты. У гэтых білетах тэкст быў пададзены на беларускай і на... французскай мовах». Гэта была ягоная задумка, толькі б падалей ад расейшчыны. І чаго толькі ён так не любіў яе?..

Камсамольцам ён быў не надта каб заўзятым. Яго нават выключылі з камсамола, бо не плаціў узносы. А яшчэ ён са сваімі двума сябрукамі, таксама пісьменьнікамі, у знак пратэсту супраць фармальнай беларусізацыі Беларускага ўнівэрсітэта напісалі адкрыты ліст і пакінулі вучобу, хацелі ехаць вучыцца на Украіну. А потым напісаў ён адзін верш, які быў асабліва папулярным у народзе і шпарка разыходзіўся ў ру-

капісах. Ды такі верш, што ім шчыльна зацікавілася ДПУ (гэта тое, што цяпер КДБ).

А што было потым? Угадалі. Вобыск. Толькі не трэба ніякіх паралеляў. Гэта ж было так даўно. І вось у пратаколе за 1929 год чытаем: «Взято для доставки в Госполитуправление Белоруссии следующее: 19 стихов, писаных на белорусском, и три письма». Паэта пасадзілі ў турму НКУС. У. Міхнюк, аўтар кнігі, нават не вытрымаў: «О, бедны мой народзе! Ты не меў сваіх сьледчых і пракурораў, і нават не меў сваіх катаў. Іншародцы над табой уладарылі, яны цябе і катавалі». Ізноў жа, не трэба ніякіх паралеляў. Што было, тое было.

Калі ў паэта органы запатрабавалі тлумачэньняў, дык ён аўтарства прызнаў і гэтак іранічна патлумачыў: «Прад'яўлены мне верш... напісаў я ў прошлым годзе ў сябе дома, будучы ў нятрэзвым стане». Дарэчы, усе свае тлумачэньні ён асьмельваўся пісаць па-беларуску.

Пакуль органы разьбіраліся, вырашылі «мераю паўстрыманьня супраць абвінавачанага... абраць падпіску аб нявыезьдзе з г. Менску, аб чым і абвясьціць». Не, не трэба ніякіх паралеляў. Далей усялякае падабенства сканчаецца. Гэта не гісторыя пра сёньняшняга Славаміра Адамовіча, а пра колішняга Алеся Дайлідовіча, ці Дудара — такі ягоны псеўданім.

Выслалі Алеся зь Беларусі на тры гады ў Смаленск. Потым адзін з «сачкомаў» (так іх называлі тады) данёс: «некалькі членаў партыі: рэдактар "Савецкай Беларусі" Чарот, Зарэцкі, Іллючонак удзельнічалі ў разьвітальнай выпіўцы з прычыны высылкі Дудара на кватэры аднаго беспартыйнага нацыяналіста»... А верш той называўся «Пасеклі наш край папалам», і былі там такія радкі: «За ўсходнім дэспатамцарком Мы бегаем на задніх лапках, Нью-Ёрку грозім кулаком і Чэмберлена лаем трапна... Не сьмеем нават гаварыць І думаць без крамлёўскай візы...»

Але досыць, не трэба паралеляў, не трэба!

*ЛіМ, 28 сакавіка 1997 года.*

## «Якаб і Катарына»

***Ленэ МАЕР-СКУМАНЦ. Якаб і Катарына: гісторыя для чытаньня, гуляньня й думаньня. — Мн. : Беларуская каталіцкая грамада, 1996.***

«Калі б Бог меў ногі, як мы, Ён хадзіў бы босы, каб адчуваць пясок між пальцамі, халодны мох на камянях у ручаі, цьвёрды бетон...» — так паэтычна вядомая аўстрыйская дзіцячая пісьменьніца Ленэ Маер-Скуманц празь дзіцячае ўяўленьне спрабуе суаднесьці духоўны сьвет з сучаснай еўрапейскай тэхнакратычнай цывілізацыяй. Босыя ногі Хрыста і «цьвёрды бетон» — што можа быць больш неадпаведным? Але гэта рэаліі нашага сёньняшняга сьвету.

Памятаем, як яшчэ на пачатку стагодзьдзя на Беларусі Бог хадзіў па іншых сьцежках. У «Апокрыфе» М. Багдановіча «босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым, мяккім пыле дарогі сьляды». І М. Багдановіч яшчэ тады прадбачыў страшэнную небясьпеку бездухоўнасьці, якая неўзабаве на доўгія дзесяцігодзьдзі запануе на нашай зямлі. «Але гора вам, — піша ён, — бо даўно ўжо затапталі вы іх».

Зараз, калі беларускае грамадства разбурана і дэзарыентавана, калі яно змагаецца за элементарнае фізічнае і нацыянальнае выжываньне, духоўнае выхаваньне як бы губляецца, адыходзіць на другі план. Але, відавочна, як няма нацыі без пачуцьця нацыянальнай годнасьці, так яе няма і без веры ў Бога. Цяжка адрадзіць адно і пакінуць у занядбаньні іншае.

У дзіцячай аповесьці Л. Маер-Скуманц перад намі адкрываецца як бы іншы сьвет: грамадства, дзе ўсё ёсьць, дзе вырашаны эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя праблемы, тым не менш, працягвае змагацца, а лепей сказаць — будаваць і даглядаць свой духоўны сьвет. І менавіта таму мяне не пакідае адчуваньне, што людзі ў «Якабе і Катарыне» — адна вялікая сям'я.

У тым сьвеце прадаўшчыцы ў крамах не гырчаць, а пасьміхаюцца, і звычайныя людзі без прымусу зьбіраюць і шлюць бясконцую гуманітарную дапамогу сюды, на ўсход.

Не, гэта не беспраблемнае грамадства. І трохі сьмешныя, гумарыстычныя гісторыі пра хлопчыка Якаба і ягоную сяброўку Катарыну паказваюць нам сьвет гэтых праблем і спробы іхняга вырашэньня. Дзеці — яны паўсюль дзеці. І калі Якаб думае: «Гэтая Зузі дурная карова. Але я ёй гэтага не скажу», дык гэта нам зразумела. Але нам, можа, не зусім зразумела, чаму ўсе дзеці ў гэтай кніжцы ходзяць у нядзельную царкоўную школку, чаму яны спавядаюцца і шчыра самнасам размаўляюць з Богам. Між тым, як падаецца, праблема культурнага выхаваньня, выхаваньня чалавечнасьці і дабрыні — асноў цывілізаванага грамадства — гэта найперш праблема выхаваньня рэлігійнага.

*ЛіМ, 7 сакавіка 1997 года.*

## «Стодзівы»

***Анатоль ДЭБІШ. Стодзівы : вершы. — Мн. : Мастацкая літаратура, 1995.***

«Каханьне і сьмерць» — так некалі назваў адзін з цыклаў сваіх вершаў М. Багдановіч. І калі пра каханьне ў нашай паэзіі напісана добра і шмат, дык вось тэма сьмерці — не кожнаму паэту даспадобы.

Калі б у мяне спыталіся адказаць адным сказам: што гэта за кніга ў А. Дэбіша, я сказаў бы: добрая кніга самотнага паэта пра сьмерць. Асоба паэта і лірычнага героя ў «Стодзівах» — непадзельныя.

Ёсьць тут нейкія радкі, вершы і нават трыпціх пра каханьне, але гэта, падаецца, маскіроўка асноўнай ягонай улюбёнай тэмы — самоты і сьмерці. Паэту самотна і няўтульна на гэтай зямлі. Ягоная самота дасягае мяжы, бо нават «недзе там, за сьпіною цень мой блукае, не можа мяне адшукаць».

Не будзем аналізаваць прычыны гэтае самоты, але, падаецца, недарэмна А. Дэбіш піша: «Мне б — у лес да зьвяроў, мне б — да птушак, мне б — неба глыток», а самыя цёплыя ягоныя ўспаміны — у дзяцінстве.

Дзе выйсьце? Паэт разважае: «Да Бога даляцець хацеў бы я анёлам, забыцца на жыцьцё. Ды паламаны крылы...» Застаецца адно — сьмерць. Яна бачыцца яму ў прыродзе: «зімовых вечароў сьняжок згусьцелы сьвет апрануў увесь у саван белы»; у мастацтве: «рука яго выводзіць фарбы лета, маленькіх птушачак, рамонкі, твар дзявочы, а я чытаю на мальберце: сьмерць»; у вобразах рэальнасьці: «чэрап счарнелы на мокрым пяску... Божа, адкуль гэты чэрап і кроў?»; ва ўявах: «і па кутах там памерлых схаваныя твары».

Сьмерць неадольна прыцягвае паэта: «штовечар... іду я на клады, ад дому недалёка, каб аднаму пабыць у цішыні». Паэт баіцца яе: «мой Божа, я малюся, каб вашае не ўбачыў я магілы», але не можа і адарвацца ад любаваньня ёй: «ляжыць нерухома на лаве ў сьвяточным убраньні: румянак на шчоках, усьмешка застыла на твары». То ён «адзін, мярцьвяк — сярод жывых», то навокал яго «бы мёртвая рака, халодны плыў натоўп».

Неаднойчы ён уяўляе сваю гвалтоўную сьмерць і ў снах: «мне сьніўся сон: зьнянацку мне ўпілася ў плечы чужынца вострая страла», і ва ўявах: «і струменіцца кроў з маіх ран на імхі і на дол вечаровы». Яго расстрэльваюць, ён сам разьвітваецца з жыцьцём: «звон разьбітага шкла: ані енку, ні крыку... ля нямога пад’езда ляжу нерухома», ці нечакана памірае: «і раптам небасхіл хісьнецца на імгненьне і рухне на зямлю...». Паэт перакананы, што ў сьмерці — выратаваньне: «збавеньня няма, апроч сьмерці ў жыцьці, ад вечных пакут і штодзённага тлуму». Не толькі ён абірае сьмерць, але і сьмерць яго: «сьмерці выбраньнік ляжу я на пласе самотны». Ён бачыць у сьмерці трагічную красу і яе няўхільнасьць: «яшчэ не народжаны — я ўжо памерлы». Урэшце, яна стала неад’емнай часткаю ягонага «я», дзе няма ўжо мяжы паміж сьмерцю і жыцьцём: «а мо нічога не было: ні нараджэньня, а ні сьмерці?»

«Што ж ісьціна? — пытаецца паэт і адказвае: — Бог, і каханьне, і сьмерць»... Ісьціну сёньня шукаюць не толькі паэты...

*ЛіМ, 14 сакавіка 1997 года.*

## «Праўдзівая гісторыя краіны хлудаў»

***Алег МІНКІН. Праўдзівая гісторыя краіны хлудаў : аповесьць. — Мн. : Мастацкая літаратура, 1994.***

Памятаю цёплую чырвоную цэглу Мірскага замка. І ў сярэдзіне, на замкавым пляцы, паміж кветак і травы, стомленыя пасьля раскопак і разморыныя пасьля абеду, мы ляжым і слухаем Алега Мінкіна, які прыехаў да нас у госьці і чытае сваю гісторыю пра хлудаў. Гэта была сярэдзіна 80-х, камуністы тады былі яшчэ ў сіле, і ўсялякія літаратурныя меркаваньні пра замену аднаго рэжыму другім здаваліся не больш чым «праўдзівай гісторыяй». Твор быў дапісаны аўтарам толькі ў 93-м, калі камуністы, здавалася, адышлі назаўсёды, і ўсялякія антыўтопіі, такім чынам, страцілі свой сэнс.

Але час ідзе. Непрыкметная кніжка А. Мінкіна яшчэ тамсям ляжыць у кнігарнях, а я ўвесь час згадваю яе і аўтара, які здолеў стварыць не толькі хіба што адзіную ў сучаснай беларускай літаратуры антыўтопію, якая адначасна зьяўляецца мастацкім творам высокай якасьці, але і прадбачыць на нейкі час ходу грамадскага разьвіцьця нашай «хлудзіі».

Вось аднекуль зьяўляецца ў Хлудзіі, маленькай краіне, агароджанай высокім парканам, Цмок Калывок, які паставіў сьмецярам дармовую бочку «Горкага палыну», за што яны далі яму шчырую клятву і прычасаліся адным грабянцом, што «сымбалізавала ў сьмецяроў еднасьць поглядаў і поўную аднадушнасьць». Дзякуючы сьмецярам, Цмок Калывок прыходзіць да ўлады. Інтэлігенцыю і апазіцыю пасылаюць капаць канал, каб злучыць адзіную ў Хлудзіі сажалку саму з

сабой, а новы ўрад вылучае новую праграму: пафарбаваць паркан, якім краіна адгароджана ад усяго сьвету, у бэзавы колер; абвясьціць непрымірымую вайну ўсяму, што знаходзіцца па-за парканам, а таксама, натуральна, «павытурваць з краіны ўсіх іншаземцаў».

І вось, ужо пасьля таго, як твор А. Мінкіным быў дапісаны, штосьці падобнае літаральна на нашых вачах адбылося і ў нас.

Цікава чытаць кнігі-прадказаньні.

Далей па сюжэце «дыктатар Цмок быў зрынуты рухавымі з Хіцерам Зьміцерам на чале». Рухавыя былі легальнай апазіцыяй, якая існавала са згоды Цмока і атрымлівала ў яго заробак. Што ж адбудзецца ў нас у рэальнасьці, як кажуць, пажывём — пабачым. А пакуль што да вышэйпададзеных фармулёвак, якія датычацца гэтай кніжкі, хочацца дадаць і яшчэ адну: выдадзеная «Мастацкай літаратурай» мадэрнізаваным дарэформенным правапісам, кніга А. Мінкіна стала хіба што вяршыняй вальнадумства і беларускасьці ў дзяржаўнай выдавецкай справе.

А далей, як напісана ў А. Мінкіна, прыйшоў Цмок Калывок. Але кніжка ўжо выйшла і засталася. Кніжка мудрая і трохі сумная, бо што б там ні адбывалася, а хлудам усяго толькі і трэба для шчасьця, як «трохі каханьня, жменьку зорак над галавою, кроплю спагады...»

*ЛіМ, 4 красавіка 1997 года.*

## З жыцьця Максіма

***Архіўныя матэрыялы : да жыцьця і творчасьці Максіма Багдановіча / Літаратурны музей Максіма Багдановіча. — Мн., 1996. — Сшытак 1.***

Пару гадоў таму я зьвярнуўся да вядомага нашага беларускага пісьменьніка з просьбаю перадаць чарнавік ягонай

прадмовы да аднаго з багдановічаўскіх зборнікаў у музей Максіма Багдановіча. Мяне вельмі ўразіў ягоны адказ, што гэтага чарнавіка ў яго няма, бо ён яго не захаваў.

У гэтым плане Максіму Багдановічу пашанцавала, бо педантычным зьбіральнікам сямейнага архіва аказаўся ягоны бацька, ды і сем'і цётак нічога лішняга не выкідалі, як бы ведалі, што прыйдзе час — і ўсе памяткі, зьвязаныя з Максімам, будуць тут, на Беларусі, сапраўдным нацыянальным скарбам.

Менавіта на базе гэтага архіва з падключэньнем іншых крыніц навуковымі супрацоўнікамі музея Максіма Багдановіча распачата выданьне перыядычных архіўных сшыткаў, якія ўтрымліваюць матэрыялы, што датычацца самога М. Багдановіча, ягоных сваякоў, сяброў, блізкіх, знаёмых. Трэба заўважыць, што такое імяннное перыядычнае выданьне зьяўляецца першым у краіне і яно, у персьпектыве, дапаможа лепей зразумець той сьвет, у якім узрастаў і гадаваўся М. Багдановіч як асоба і як творца.

У першым архіўным сшытку зьмешчана адзінае надрукаванае апавяданьне маці Максіма Марыі Багдановіч — «Напярэдадні Калядаў», а таксама найбольш поўная перапіска бацькоў Максіма — Адама і Марыі Багдановічаў з 1891 па 1896 год. Зь яе, за штодзённымі клопатамі і буднімі справамі, мы даведваемся пра вялікую любоў, якая існавала паміж Адамам і Марыяй і якая саграваіа іхніх дзяцей. Бо ўсе асноўныя клопаты Адама былі пра сям'ю, а Марыі — пра сваіх дзяцей.

Зьбіраючыся на адпачынак да сваёй сястры Стэфы ў вёску Вязьзе, што пад Асіповічамі, Марыя Багдановіч, ці Марылька, як ласкава называў яе муж, піша яму ў Гродна яшчэ зь Менска: «Максим, как всегда, немножко вялый», і што «теперь вот опять сидит здесь со мной, уставился в одно место и не шелохнется».

Ужо з Вязьзя яна піша, што «поместили они нас в лучшей обстановке... Все это Стэфа такая добрая. Клопа ни одного, а блох таки есть», і што дзеткі «едят хорошо... Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски и иногда такое

словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались», і яшчэ пра тое, што «сейчас Максим задавил в кухне гусака, будет теперь от Франца».

Адам заўважае ў адным зь лістоў, што «вчера мне что-то взгрустнулось: видно, сказывается твое отсутствие и детей». А Марылька ў сваю чаргу адказвае яму: «Я знаю, ты не поверишь, но когда я думала, что ты болен, и вдруг получила твои два письма, то мне даже дурно сделалось, ноги подкосились, и я скорей села на скамью».

Завяршае сшытак комплекс дакументаў, якія датычацца сям'і Багдановічаў, а таксама некаторыя сямейныя фотаздымкі.

*ЛіМ, 11 красавіка 1997 года.*

## Прасьпект

***Нямецкая прапаганда на Беларусі. 1941—1944. Выстаўка ў Берліне і Мінску. — Берлін, 1996.***

Вынікам памятнай выставы прапагандысцкіх плакатаў, выпушчаных падчас нямецкай акупацыі Беларусі, сталася, апроч усяго, выданьне кнігі-прасьпекта, у якой зьмешчана частка прыкладных матэрыялаў з гэтай выставы, а таксама друкуюцца некаторыя дакументы, якія дапамагаюць зразумець сутнасьць нямецкай прапаганды на Беларусі. Выстава асабліва цікавая і павучальная для беларускай моладзі, для якой апошняя вайна — гэта ўжо далёкая гісторыя, была пабудавана на кантрасьце паміж прапагандысцкім плакатам, тыпу «Нямецкі жаўнер ахоўвае цябе і тваю лепшую будучыню», і фотаздымкамі той рэчаіснасьці з забітымі людзьмі і папялішчамі.

Тым не менш, выстава зрабілася скандальнай. Яна не дабыла да канца вызначанага тэрміну і пад націскам ветэранаў была зачынена. Хаця, як падаецца, іх прэтэнзіі былі толькі фармальнай зачэпкаю для забароны выставы, бо зусім

нечакана, незалежна ад арганізатараў выставы, выявіліся паралелі паміж сродкамі працы, здавалася б, такіх розных прапагандысцкіх машын, ды і не толькі іх.

Чым больш жорсткі акупацыйны рэжым усталёўваўся на Беларусі, тым больш непраўдападобным ён паказваўся ў тагачасных агітацыйных матэрыялах. «Пры нямецкай ахове можна толькі выйграць», сьцьвярджала прапагандысцкая ўлётка, у той час як ішло планамернае рабаўніцтва і зьнішчэньне беларускага народа.

Асноўным сродкам усталяваньня акупацыйнага рэжыму было поўнае падпарадкаваньне беларусаў: «Усе выступы грамадскіх асоб, варожыя вермахту, павінны быць падаўлены зброяй, а іх удзельнікі зьнішчаны» — чытаем мы ў сакрэтных дакументах, зьмешчаных на выставе. Усё гэта рабілася з той мэтаю, што «зьдзяйсьненьне пакараньня павінна паглыбіць эфект запалохваньня насельніцтва».

Для выканаўцаў «навядзеньня парадку» была і прадугледліва вырашаная праблема маральнасьці: «за дзеяньні, якія салдаты вермахта ўчынілі адносна варожа настроенага цывільнага насельніцтва, яны не нясуць адказнасьці». Праўда, гэта не выратавала іх пасьля вайны. На паваенных працэсах, як сьцьвярджаюць выстаўленыя дакументы, «было ясна падкрэсьлена, што спасылка на “загад” не можа быць апраўданьнем злачынных дзеяньняў».

Вось жа цяпер застаецца толькі зрабіць некаторыя папраўкі на час, і стане зусім зразумелым, чаму ўлады прыкрылі гэтую выставу.

Але выстава і кніжка-прасьпект падводзяць таксама і да іншых думак. Нямецкі народ, які сам прагаласаваў за Гітлера, а потым, у выніку пяці рэферэндумаў, надзяліў яго неабмежаванай уладаю, тым не менш, здолеў аднавіць усе лепшыя свае якасьці, мабыць, назаўсёды атрымаўшы прышчэпку ад нацыянал-сацыялізму. Так што не трэба сёньня надта перажываць і за наш беларускі народ. У яго яшчэ ўсё наперадзе.

*ЛіМ, 18 красавіка 1997 года.*

## «Толькі не гавары маёй маме»

***Адам ГЛЁБУС. Толькі не гавары маёй маме : зборнік інтымнае прозы. — Мн. : Сучасная літаратура, 1995.***

Прачытаўшы кніжку А. Глёбуса, я падумаў пра тое, што ўсё ж такі ў беларускай літаратуры, у прозе ў прыватнасьці, за апошнія дзесяць гадоў штосьці адбылося. Калі параўноўваць літаратурны працэс з плыньню ракі, дык, здаецца, беларуская літаратурная рака зараз віхлянула ўбок са свайго звычнага рэчышча і пацякла зусім не туды, куды яе несла раней.

Традыцыяналізм ранейшай беларускай культуры, якую так удала кансервавалі і аберагалі ў сваіх творах пісьменьнікі, вяскоўцы па паходжаньні, няўмольна плытчэе. І адбываецца тое, пра што неаднаразова казалася раней: у літаратуру прыходзіць гарадскі беларус са сваёй сістэмаю каштоўнасьцяў і каардынатаў і прыводзіць туды такога ж самага, як ён, героя.

Тым не менш, чытаючы А. Глёбуса, адзначаеш, што ў характары гэтага новага гарадскога беларуса можна знайсьці шмат чаго знаёмага нам ужо з ранейшай нашай літаратуры. Вось ён бегае па Амстэрдаме і пакутліва шукае прыбіральню, думаючы, што і на вуліцы няёмка, і да прастытуткі не пойдзеш пытацца пра клазет, і адзінае ягонае выратаваньне — гэта ягоны нумар у пяцізорачным гатэлі. А што зрабіў бы рускі на месцы гэтага беларуса? Прачытайце Эдзічку Лімонава пра ягоныя прыгоды ў Нью-Ёрку — і стане зразумелай тая вялікая розьніца паміж нацыянальнымі стэрэатыпамі паводзінаў нашых народаў.

Я. Колас прысьвяціў цэлы разьдзел паездцы дзядзькі ў Вільню. Хаця ён і не пісаў там пра натуральныя патрэбы дзядзькі, бо гэта былі іншыя часы, але героі Я. Коласа і А. Глёбуса падаюцца да болю знаёмымі, бо ў іх адзіны нацыянальны архетып, адзіная рэакцыя на вонкавыя раздражняльнікі. У гэтым, нягледзячы на ўсю навізну тэм у прозе А. Глёбуса, дзе мастацтва ў яго зьмешана з каханьнем, секс

з падарожжамі, а развагі пра Купалу з развагамі пра Гагена і Ван Гога, яны падобныя. Усё роўна, ці яны выязджаюць зь вёскі і ўсё жыцьцё потым заваёўваюць горад, ці яны выязджаюць з роднага Менска, каб гэтаксама заваёўваць, да прыкладу, Амстэрдам. Яны, беларусы, застаюцца аднолькавымі. Ім паўсюль прыходзіцца бараніць сваё далікатненькае беларускае «я», і нідзе яны не адчуваюць сябе лепей, як у сваім куце, ці гэта хата ў роднай вёсцы, ці гэта нумар у пяцізорачным гатэлі.

Прайшло сто гадоў, а што зьмянілася? «Не люблю я места (па-расейску — горад). Надта там цяснота і вялікі смурад» — пісаў Ф. Багушэвіч у «Дудцы беларускай». А вось герой А. Глёбуса сядзіць на аэравакзале ў Амстэрдаме, паглядае на нічыйны зялёны пакунак, які стаіць на суседнім крэсьле, і разважае: «Вось табе, Адам Глёбус, і Амстэрдам, зараз разьдзярэ цябе выбухам на шматкі і, акрамя выразнага радка ў некралогу “Загінуў у Амстэрдаме”, нічога добрага не будзе».

Тым не менш на прыкладзе творчасьці А. Глёбуса мы бачым, што горад, як і ўвесь сьвет, не зьяўляецца бясспрэчна згубнай зьявю для беларуса. Ён можа і павінен зьесьці яе,ператравіць і застацца самім сабой.

*ЛіМ, 25 красавіка 1997 года.*

## Слоўнік

***Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. — Мн. : Беларуская энцыклапедыя, 1996.***

Люблю гартаць беларускія слоўнікі. Заўсёды знаходзіш для сябе што-небудзь цікавае. Гэта як перабіраць зваленыя ў ворах рэчы: ніколі не ведаеш, якая неспадзяванка чакае цябе. У мяне нават ёсьць сшытак, куды я выпісваю цікавыя словы

з розных слоўнікаў. Я рэдка туды зазіраю, але думка пра тое, што гэты сшытак існуе, грэе маё сэрца.

Таму і новы тлумачальны слоўнік я гартаў зь цікавасьцю. Увесь я яго не прагартаў. Мяркую, што гэта прынясе яшчэ мне шмат цікавых хвілінаў, але зараз я хацеў бы падзяліцца сваімі назіраньнямі.

Пачну са зьдзіўленьняў. Аказваецца, што Кабыла — гэта «самка каня», а Кавамолка — «тое, што і Кафямолка». Ніколі б не дадумаўся, што Калготкі — гэта «трыкатажны выраб у выглядзе панчох, вывязаных разам са штанамі». А даўнейшая барацьба з нацыянал-дэмакратызмам у мовазнаўстве чамусьці не закранула слова Калёквіум.

Я парадаваўся за аўтараў слоўніка, якія так аператыўна адгукнуліся на тое, што Абхазы сталі «асноўным насельніцтвам Абхазіі», але вось праблема з жонкамі індзейцаў і індыйцаў трохі ўсхвалявала мяне, бо тут атрымліваецца поўная неразьбярыха і ўсе яны індыянкі.

Часам і адна літара шмат што значыць. Так, Салітэр — гэта будзе «буйны брыльянт», а Саліцёр — «доўгі плоскі чарвяк». Падпарадкоўваючыся жалезнай логіцы структуры слоўніка, побач аказаліся словы Расіст і Расіянін... Але вось што найбольш мне спадабалася, дык гэта гучныя беларускія найменьні прафесіяналаў сваёй справы:Ваўчатнік, Голубегадовец, Мармуроўшчык, Цьвікар. І безумоўна, што слоўнік беларускай літаратурнай мовы не мог абысьціся без такіх слоў, як Латочына, што азначае «нізкае, часта забалочанае месца», ці Сабачуга — гэта «вялікі сабака».

Пасьля Сабачугі я, натуральна, паглядзеў дакладнае азначэньне «самца сукі», але, на жаль, яго там не знайшоў, затое вычытаў іншае сапраўды беларускае літаратурнае слова — Каблаграма, што азначае «тэлеграму, перададзеную па падводным кабелі».

Увогуле, склалася ўражаньне, што аўтары слоўніка маюць вялікі пасіўны запас усялякай беларускай лексікі, ал з-за таго, што самі ў паўсядзённым жыцьці не карыстаюцца беларускай мовай, таму і не адчуваюць жывога беларускага слова.

З гэтай прычыны і не маюць сінонімаў у слоўніку такія словы, як Казначэй і Выстаўка, Жэмчуг і Наручнікі, Кухня і Камп'ютар.

Хачу запярэчыць складальнікам слоўніка і сказаць, што Касьцёл — гэта не «польская назва каталіцкага храма», а Ксёндз — гэта не «польскі каталіцкі сьвятар» і што ніводзін чалавек, які размаўляе на беларускай літаратурнай мове, не будзе называць Цьвік — Гваздом, а Ёгурт — Йагуртам. Шкада, што складальнікі слоўніка не ведаюць, што такое Пагоня, і добра, што яны не ведаюць, што такое СНІД, але, мабыць, беларускай мове без гэтых слоў ужо не абысьціся.

*ЛіМ, 2 мая 1997 года.*

## Гімназія ў Брэсьце

***Михаил МОНТВИЛОВ. Русская гимназия в Бресте на Буге. 1919–1939 гг. — Ним ; Брест ; Минск, 1996.***

Якіх толькі цікаўнасьцяў не было на нашай зямлі. Вось, аказваецца, як я даведаўся з гэтай кніжкі, пры паляках у Брэсьце на працягу ўсяго часу польскай акупацыі існавала... руская гімназія. Больш за сто гадоў расейскай прысутнасьці на Беларусі пакінулі ў Брэсьце вось такі аскабалак імпершчыны.

Аўтар аб'ектыўна гаворыць пра тое, што «выхаванцы яе былі ў асноўным карэннымі жыхарамі». Але, спрабуючы абгрунтаваць даволі няпэўнае права на існаваньне гімназіі, аўтар, сам выхаванец гэтай гімназіі, прыводзіць у доказ нават «фізіка-геаграфічны асьпект»: «Брэст і яго вобласьць — гарманічная частка Сярэднярускай раўніны, заходняя акраіна яе». Ён відавочна перабірае, калі гаворыць, што тут «той самы, што і ў Расеі, жывёльны і расьлінны сьвет», забыўшыся ці не заўважыўшы зубра.

Чым жа займалася руская гімназія ў Брэсьце? Аўтар шчыра піша: «Усе 20 год свайго існаваньня яна выхоўвала

даверануюёй моладзь у рускім нацыянальным духу, у любові да Расеі, да рускага народа і яго культуры». Асноўнай ідэяй выхаваўчай работы гімназіі была «ідэя адзінай і непадзельнай Расеі». Парадаксальна, але такая «расейская» дзейнасьць гімназіі на беларускіх землях была выгадная палякам, пра што зноў жа шчыра піша аўтар: «Польскі ўрад трываў да пары да часу гэты рускі нацыяналізм гімназіі, як пэўнае супрацьядзьдзе... супраць сепаратысцкіх плыняў украінцаў і беларусаў, у дадзеным становішчы больш небясьпечных, з пункту гледжаньня палякаў, чым “неабгрунтаваныя мары” рускіх нацыяналістаў аб адраджэньні Вялікай Расеі».

Пэўных посьпехаў у працы па русіфікацыі беларусаў, можна лічыць, гімназія дасягнула. Так, напрыклад, «Рускае таварыства моладзі» ў Польшчы ўзначальваў выпускнік берасьцейскай рускай гімназіі з «истинно русским» прозьвішчам С. Трыбух, а фінансава дапамагаў выданьню гэтай кніжкі епіскап Бастонскі РПЦ за мяжой Мітрафан Зноска. І тым не менш, апісваючы палітычныя зацікаўленьні гімназістаў, аўтар вымушаны прызнаць, што «большасьць з вучняў задавальнялася мясцовым і нават местачковым патрыятызмам». І болей за гэта: «У 1927 г. польская паліцыя раскрыла сярод вучняў рускай гімназіі камуністычную ячэйку, — ці то “Беларускай Грамады”, ці то проста КСМЗБ».

Увогуле, лёс нацыянальнай гімназіі, у якой не была зацікаўлена дзяржава-маці, у дадзеным выпадку савецкая Расея, быў даволі незайздросны. З сумам згадваеш пры гэтым нашыя сучасныя беларускія школкі ў Вільні, класы ў Вісагінасе, Рызе, беларускую адукацыю на Беласточчыне. Калі тут, на Беларусі, супраць беларускай школы поўным ходам ідзе сапраўдная ўзаконеная вайна, ім там цяжка. Ворагі беларушчыны добра разумеюць: хочаш зьнішчыць нацыю — забяры ў яе нацыянальную адукацыю. Калі ж гэта зразумеюць і самі беларусы?

*ЛіМ, 9 мая 1997 года.*

## Шыпшына і ружа

***Людміла РУБЛЕЎСКАЯ. Застаюся ; Віктар ШНІП. Выкраданьне Эўропы. — Мн. : Тэмікс, 1996.***

Калі два паэты зьбіраюць свае вершы пад адной вокладкай кнігі, дык у чытача заўсёды ёсьць спакуса параўноўваць гэтыя вершы, вызначаючы, чые лепшыя, а чые горшыя. Але ёсьць і выключныя выпадкі, вось як у гэтай кніжцы, калі паэты — муж і жонка. Тады параўнаньні, наадварот, становяцца цікавымі, хаця б таму, што вершы пісаліся ў адной кватэры.

Ёсьць штосьці супольнае ў гэтых вершах, амаль як у дзяцей з адной сям'і. Не матывы, бо пішуць яны пра рознае, і не стыль, бо пішуць яны па-рознаму, і не паэтычны настрой, бо ён таксама ў паэтаў адрозны, а хіба што агульны дух творчасьці, агульныя погляды на сёньняшняе жыцьцё, якое за апошнія гады прынесла беларускай інтэлігенцыі столькі спадзяваньняў і расчараваньняў.

Аптымістычная вера ў «разумны» і нават «мудры» беларускі народ зьмянілася рашучым разуменьнем разнароднасьці і неадназначнасьці гэтага народа. «Яны спачываюць і поўняць дамы юрлівымі снамі ды храпам» — піша Л. Рублеўская. «Мая Айчына — ты мая Магіла. Як каменем, мяне ты прыдушыла...» — глядзіць В. Шніп шырока раскрытымі вачыма на тое, што робіцца навокал.

Але паэты жывуць не толькі ў сёньняшнім «сумным сьвеце». І вось тут у іх у кожнага свой сусьвет.

Увогуле падаецца, што для Л. Рублеўскай сучаснасьць у яе паэзіі — гэта тое, з чым чалавек мусіць прымірыцца, бо ён, на жаль, не выбірае час свайго нараджэньня. Менавіта таму яна змушана жыць у гэтым часе, хадзіць у краму, адводзіць дзяцей у садок і рабіць па інерцыі ўсё тое, што робіць сёньняшняя кабета. Але ў сваіх марах, у сваіх вершах яна жыве ў іншым часе і ў іншым вымярэньні, у сваёй творчасьці ёй прыносіць найвялікшую асалоду вяртацца ва ўтуль-

ную для яе эпоху шляхецкага рамантызму. І вось яна размаўляе з Пані, якая «за вышываньнем каляровым бавіць час у залачоных крэслах», а таксама зь Невядомай паэткай, якая «не хацела жыць, як усе, а інакш не выходзіла, пэўна». Вось яна ходзіць па манаскай кельлі, прыслухоўваецца да сябе і «не адчувае ні тугі ні страху. Адно — жаданьне, каб застацца тут». Яна прыглядаецца да шыпшыны, і сумны настрой, характэрны для яе паэзіі, выплёскваецца зь верша і заваблівае чытача: «Мой дзікі агеньчык, запалены Богам самім. У белыя рукі паненак трапляеш ты рэдка».

Калі Л. Рублеўская любіць шыпшыну, дык В. Шніпу болей падабаецца ружа, якая ў яго «застылы выбух сьвятла, да якога злятаюцца пчолы». І зорка ў паэта — «гэта ружа, ля якой як матылі лётаюць людскія душы». Лепшыя вершы В. Шніпа — гэта вершы самастойныя, не падказаныя, хай сабе і ўдалымі формастварэньнямі іншых паэтаў. Найбольш арганічна падпарадкоўваюцца яму класічныя вершаваныя формы.

Быць прафесійным паэтам у наш час не проста, але лёс паэты, «нават калі зноў бізунамі заплоцяць», як піша Л. Рублеўская, сабе не выбіраюць.

*ЛіМ, 16 мая 1997 года.*

## Сюжэты пасьцілак і ручнікоў...

***Міхаіл КАЦАР. Беларускі арнамент. Ткацтва, вышыўка. — Мн. : Беларуская энцыклапедыя, 1996.***

Хуткасьць, зь якой тэхнакратычная цывілізацыя зьнішчае традыцыйную культуру беларусаў, проста неверагодная. І можа, не было б так крыўдна, калі б гэтая беларуская традыцыйная культура была беднай і неразьвітой. Аднак, з аднаго боку, нам вельмі пашанцавала, што ў нас *такая* культура, але, з другога боку, не пашанцавала, што працэс яе

імклівага зьнікненьня і кардынальнай зьмены ў XX стагодзьдзі прыпаў на камуністычнае панаваньне. У выніку сістэматычнага дасьледаваньня яе не рабілася. І таму зьяўленьне вось такіх прац успрымаецца як нейкі нечаканы цуд.

М. Кацар не толькі падае больш за 500 прыкладаў тканых і вышываных узораў, не толькі дае сэнсавае тлумачэньне да кожнага зь іх, але аповед свой разнастаіць песьнямі, паданьнямі, успамінамі людзей, якія дапамагаюць лепей зразумець кантэкст існаваньня гэтага віду беларускай культуры.

Ткацкія і вышываныя ўзоры на кашулях, посьцілках і ручніках — гэта сапраўдная піктаграфічная пісьменнасьць, якой карысталіся беларусы ў старажытнасьці. Як казала аўтару кнігі адна 85-гадовая ткальля: «Усё, што я бачыла ў жыцьці, што рабіла, як мучылася, весялілася, любіла хлопцаў, выходзіла замуж, як мы будавалі дом, кахалі адно аднаго — усё гэта я расказала ў сваіх работах». Сотні і сотні паняцьцяў перадаюць геаметрычныя і расьлінныя ўзоры ды іх спалучэньні. Большая частка зь іх маюць карані яшчэ з паганскай міфалогіі беларусаў. Тут мы сустракаем узоры Сонца і Зямлі — як асновы ўсяго жывога ў сьвеце, узоры Маці-радзіцельніцы, Сьвятога дрэва, Ярылы, Жыценя, Волата і Радуніцы, узоры Мужчыны і Жанчыны, Дзіцяці і людской Душы, узоры Дажджбога і Багача, Абярогаў і Капішча. Цэлыя піктаграфічныя паганскія сюжэты разгортваюцца на посьцілках і ручніках нашых бабулек, і дзякуй аўтару, які пасьпеў запісаць інфармацыйны зьмест гэтых мала зразумелых на сёньняшні дзень пісьмёнаў. Наколькі актуальнай уся гэта інфармацыя была яшчэ на пачатку гэтага стагодзьдзя, сьведчаць, напрыклад, аповеды аўтару пра старца-песьняра Арсена, які «сьпяваў песьні, у якіх праслаўляліся Сонца і Маці-Зямля. Быў ён у секце сонцапаклоньнікаў, каля Нароўлі было ў яго капішча з крыніцай, сьвяшчэнным дубам, алтаром. Прыходзілі хворыя, старац лячыў іх крынічнай сьвятой вадой, агнём і замовамі».

Паганская міфалогія арганічна спалучалася ў беларусаў з хрысьціянствам, і цікава, напрыклад, чытаць такія развагі беларускай сялянкі: «Ярыла любіць, калі яго вышываюць на ручніку і вешаюць у царкве на абраз».

Але ўсё мінае ў гэтым сьвеце. І наколькі мы, беларусы, будзем цікавыя для сусьветнай культурнай супольнасьці і для нас саміх, залежыць ад рупнасьці ды ініцыятывы сёньняшніх пакаленьняў.

*ЛіМ, 23 мая 1997 года.*

## Мая зямля

***Мая зямля. Жывапіс беларускіх мастакоў : альбом / склад. В. Трыгубовіч. — Мн. : часопіс «Мастацтва» ; НВКФ «Сімон», 1996.***

Трымаю ў руках прыгожы мастацкі альбом, складзены са слайдаў з карцін, назапашаных у часопісе «Мастацтва». Углядаюся ў карціну на вокладцы альбома. Аўтар яе, на жаль, нідзе не пазначаны. Цёмны лясок, рэчка, палі, дарогі. На першым плане — маленькія фігуркі людзей, якія ці то скірдуюць стог, ці то зь вінтоўкамі ўзьбіраюцца на жоўты ўзгорак. А можа быць, яны падзелены, думаю я. Двое скірдуюць, а трое зь вінтоўкамі праходзяць паўзь іх і ідуць да рэчкі? Можа, дзе-небудзь непадалёк ляжыць трубаправод? І карціна адразу набывае сучасны зьмест. На ёй як бы адбітае і мінулае, і сучаснасьць, і будучыня гэтай зямлі, якая пакуль што яшчэ наша, мая, але гэта не значыць, што навечна.

Я гляджу на дом і хлявы на карціне А. Гараўскага, якія так нагадваюць фальварак у Ракуцёўшчыне, што аднаўляецца зараз; я гляджу на аб’едзеныя хвосьцікі маліны і на пабітыя плямкамі яблыкі ў кошыку на карціне І. Хруцкага; на вернікаў, якія кленчаць пад блакітным небам перад драўляным вясковым касьцёлам, на карціне Ф. Рушчыца і адчуваю, што гэта сапраўды — мая зямля.

Някідкія бляклыя фарбы ў нашай прыроды. Толькі ў траўні на тыдзень-два яркая зеляніна і аквамарынавае неба круцяць галаву, а так — паўтаны, паўколеры, паўцені. Дасканала адчуў і адбіў душу беларуса праз прыроду В. Бялыніцкі-Біруля. Я гатовы бясконца ўглядацца ў ягоныя шматлікія варыянты беларускага пейзажу, і мне падаецца, што там — разгадка беларускага характару.

Гартаю альбом далей. Вось «Шляхам жыцьця» П. Сергіевіча, якая ніколі не падабалася мне з-за свайго безвыходнага настрою. Няўжо гэты магутны, але прыбіты беларус, які цягне торбу, аніколі не расправіць плячэй? А вось пейзаж Я. Драздовіча здаецца геніяльна простым і дасканалым.

Гартаю далей, і вока спыняецца на халодным рацыянальным Менску М. Данцыга. Шэрая кубатура Дома ўрада, іржавыя ад бруднага сьнегу дарогі і мост — ідэальнае месца для самагубцы.

«Мой дом» В. Сумарава — апафеоз разьвітога камунальнага сацыялізму. Недарма над адным пад’ездам двухпавярховага драўлянага барака завісае чырвоны сьцяг, а над другім — шыльда: «вул. Беларуская, 37».

Увогуле, слайды падабраныя даволі густоўна і далей можна спыняцца калі не на кожным, дык праз аўтара.

Нягледзячы на вонкавую адметнасьць у манеры пісаньня — ад «размытасьці» Я. Батальёнка да «фатаграфізму» В. Шкарубы, ёсьць нейкае няўлоўнае падабенства ў творах беларускіх мастакоў сярэдняга веку. Свой адбітак, мабыць, наклала школа мастацкай акадэміі. На гэтым тле асобна вылучаюцца творы беларускіх мастакоў-замежнікаў.

Мая зямля — мастакам як нікому іншаму наканавана апяваць яе прыгажосьць, бо, як пісаў М. Багдановіч, «нашто каласы, калі няма васількоў?».

*ЛіМ, 30 мая 1997 года.*

## Мае ўспаміны

***Юліяна ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКАЯ. Мае ўспаміны. — Вільня, 1994.***

Доўгі час адно, што мы маглі прачытаць у беларускай літаратуры зь мемуараў, гэта былі ўспаміны партызанскіх камандзіраў пра апошнюю вайну, якія нагадвалі зводкі Інфармбюро, і, на жаль, за імі часта не было бачна людзей. Таму выдрукаваныя апошнім часам успаміны і А. Багдановіча, і І. Насовіча, і Л. Геніюш, і Ю. Мэнке (такое было дзявоцкае прозьвішча Ю. Вітан-Дубейкаўскай) чытаюцца як сапраўднае адкрыцьцё. Успаміны апошняй тым болей каштоўныя, што яны закранаюць пачаткі беларускага адраджэньня і прысьвечаны ў асноўным узаемаадносінам аўтаркі зь лідарам беларускага адраджэньня, пачынальнікам беларускай справы Іванам Луцкевічам.

Сама Ю. Мэнке паходзіла з тутэйшай нямецкай сям'і, бацька яе быў гандляром і здолеў даць ёй добрую мастацтвазнаўчую адукацыю. Яшчэ ў гімназіі яна вучылася разам з А. Пашкевіч (Цёткай) і разам зь сястрою, аднакласьніцай Алаізы, ананімна падкормлівала тую булкамі.

Да беларускага руху Ю. Мэнке далучылася праз знаёмства з І. Луцкевічам, якое завязалася на глебе зацікаўленьня мастацтвам, а потым перайшло ў глыбокае і шчырае каханьне.

Успаміны даюць шмат цікавых фактаў з палітычнага жыцьця беларусаў у 1915–1919 гадах і, у прыватнасьці, апісваюць палітычную дзейнасьць І. Луцкевіча, які бачыў выратаваньне Беларусі і беларусаў як народа толькі ў незалежнасьці. Жыва і цікава апісвае гэта аўтарка. Вось яны разам з І. Луцкевічам назіраюць, як адступаюць зь Вільні расейскія войскі: «Іван, паказваючы на бясконцыя абозы, казаў: “Вось гэта часткі нашых ланцугоў адпадаюць”». І. Луцкевіч быў не толькі тэарэтыкам, але і практыкам беларускай справы. Так, пасьля адступленьня расейскіх войскаў ён кіраваў стварэньнем беларускай лятучай дружыны для абароны Вільні ад рабункаў.

І тады, 80 гадоў назад, перад беларусамі стаялі тыя самыя праблемы, як і цяпер. Так, у 1915 годзе Цётка «хадзіла з апросам па раёне, каб адшукаць беларускія сем'і, і заклікала бацькоў запісваць дзяцей у гэтыя школы».

Асабістае жыцьцё закаханыя Іван і Юліяна адкладалі на далейшыя, больш спакойныя часы, якія так усё і не наставалі. І. Луцкевіч «натужыў усе сілы, каб падрыхтаваць варункі новага, лепшага ладу ў родным краі». Ён працуе ў палітыцы, у школьніцтве, рупна зьбірае беларускі музей. Ужо ў тыя часы ў І. Луцкевіча высьпела выдатная геапалітычная ідэя балта-чарнаморскага саюза: «Як ён захапляў сваёй ідэяй, што трэба рабіць хаўрус народаў ад мора да мора, ад Балтыкі да Чорнага мора, каб стварыць абаронны вал супроць захопніцкіх намераў суседзяў ад Захаду і Усходу».

Але сухоты зьядалі ягоныя сілы, І. Луцкевіч зусім не клапаціўся аб сваім здароўі, дыягназ дактароў быў несуцяшальным, і Ю. Мэнке ахвярна апекавалася ім усе апошнія гады ягонага жыцьця аж да астатняй хвіліны, якая наступіла ў жніўні 1919 года ў Закапаным.

Каханьне Юліяны і Яся, як ласкава называла яна яго, уражвае і кранае сваёй сілаю, вернасьцю і адданасьцю адно аднаму. Прыемна, што беларускую справу пачыналі высакародныя і шляхетныя людзі, якія самаададдана рабілі яе з чыстымі думкамі і сьветлымі сэрцамі.

*ЛіМ, 6 чэрвеня 1997 года.*

## «Круглы год»

***Круглы год : хоку беларускіх паэтаў. — Мн. : Літаратура, 1996.***

Як піша У. Адамчык у прадмове да зборніка вершаваных трохрадкоўяў, «кніга хоку беларускіх паэтаў была падрыхтаваная яшчэ ў 1986 годзе». Але зьявілася на сьвет толькі

празь дзесяць гадоў. Для сучаснай беларускай паэзіі — гэта немалы час. І, можа, таму, у параўнаньні з паэтычнымі хітамі бумбамлітаўцаў, гэты зборнік нагадвае стары і добры рок-н-рол. Урэшце, ён для майго пакаленьня стары і добры, а для старэйшых, узгадаваных на класічным ямбе і харэі, гэткая паэзія ў беларускай літаратуры — дзіва дзіўнае.

Але прадбачлівы У. Адамчык, каб падкрэсьліць пераемнасьць і даўнюю мадэрновасьць беларускай паэзіі для неабазнаных, пачынае зборнік з хоку М. Танка. Добры мадэрн, які ўсё дваццатае стагодзьдзе не можа зачапіцца за выпетраную сацрэалізмам беларускую паэтычную глебу... Каб панізіць яго яшчэ на адно пакаленьне, згадаю М. Багдановіча: «Мілая, згадай, Веяла цёплай вясной, І вішні цьвілі...»

Ох, гэтая вішня. У японцаў — гэта вобраз, за якім схаваны цэлы пласт японскай культуры. І таму М. Багдановіч пазначае свае вершы: «зь японскага», а М. Танк згадвае яе ў кантэксьце японскіх рэаліяў: «Над Фудзіямай — драконы бліскавіцаў. Цьвіце сакура». А вось ужо ўсе астатнія спрабуюць механічна прышчапіць вобраз вішні на беларускую глебу, забываючы на тое, што ў нас ёсьць толькі адна вядомая «зялёная вішня», якая «з-пад кораня выйшла».

«Пялёсткі вішняў Праляталі па рачулцы З майго дзяцінства», — піша У. Арлоў; «Сад занядбаны, Дол у пялёстках вішань. Ветраны вечар», — уторыць У. Сіўчыкаў; «Белая вішня. Узьляцела сініца. Сыплецца шэрань», — працягвае В. Шніп.

А. Глёбус спрабуе сьвядома пазьбегнуць «вішнёвай» тэмы ў сваіх найбольш шматлікіх у зборніку хоку, дарэчы, на маю думку, найбольш адметных і цікавых. І нават калі першы радок аднаго зь ягоных хоку пачынаецца з асацыятыўнага: «Квітнее сьліва», дык ужо ў наступных радках ён перапрашае: «О, не-не — падалося... Навокал шэрань». Шэрань, шэры — любімы колер у хоку А. Глёбуса, і гэта надае ім нацыянальны каларыт. Хаця часам і А. Глёбус зводзіць тонкі пачуцьцёвы сьвет хоку да звычайнага беларускага: «Сьліва на стале, Побач востры нож ляжыць; Зараз сьліву зьем...»

Гэтаксама, як і вішню, любяць беларускія аўтары хоку вобразы ракавінкі, сьлімака, матылька, кветкі, лісьця і дрэваў. Тэма ўзаемадачыненьняў з прыродаю — адна з асноўных тэмаў гэтых хоку, пра што, зрэшты, ніколі не стамляешся чытаць.

Для адкрытай і непасрэднай душы беларуса-славяніна, якая звыкла не стрымліваць свае эмоцыі, лаканічныя і зьмястоўныя хоку выклікаюць напачатку пэўнае неўразуменьне. Што і пра што ж там чытаць у гэтых трох радках на сямнаццаць складоў? Але калі яму патлумачыць правілы гульні, як гэта робіць у прадмове У. Адамчык, ён сьцішваецца, углядаецца, прыслухоўваецца і пачынае смакаваць.

*ЛіМ, 13 чэрвеня 1997 года.*

## «Адзінокая зорка»

***Лера СОМ. Адзінокая зорка. — Мн. : Мастацкая літаратура, 1996.***

Ніколі не чуў, як сьпявае Лера Сом. І гэта спрошчвае маю задачу. Я гляджу на яе тэксты да песьняў і вершы, і ў мяне не ўзьнікае ніякіх асацыяцый. Вельмі часта словы аўтарскай песьні, спалучаныя з музыкаю, набываюць нейкую самастойную магічную сілу, шматзначнасьць і выразнасьць, што, увогуле, цяжка паддаецца апісаньню. Часта радкі, прасьпяваныя пад гітару, узьдзейнічаюць на людзей значна мацней, чым проста вершы, таму ў аўтарскай песьні заўсёды прыхавана спакуса ўлады над слухачом.

Я, схаваны ад гэтых чараў за сваім няведаньнем, спакойна гартаю кніжку Л. Сом, якая, як спрактыкаваная вястунка, абяцае «не крыўдзіць, не шкодзіць нікому Учэпістым словам», а значыць, і мне.

Лірычная гераіня Л. Сом пакідае ўражаньне чулай і кволай істоты, якая, часам, і можа ўсклікнуць у адчаі: «Наша

сьветлае слова чужацкую хеўру заб'е», але яна сама не верыць у гэта. І яе рытарычнае пытаньне: «Ці навучуся жыць пад сонцам адзіноты? І быць "супроць", калі ўсё навакольле "за"?» вырашаецца ў яе, так бы мовіць, па-жаноцку традыцыйна. Яна баіцца і не жадае глядзець праўдзе ў вочы, і паддаецца жыцьцёвай плыні, хаця і фіксуе непрыдатную для свайго кволага «я» інфармацыю: «Іду калідорам — бліскучым, бясконцым, кручастым... Бягучыя стрэлкі на сьценах, каля паваротаў Паказваюць тупа: "Туды, кіравацца туды!" Мой родны! Вазьмі завяжы ты мне вочы, Каб я не зважала на тых вестуноў накірунку...»

Хада па жыцьці «з завязанымі вачыма» стварае ў лірычнай гераіні Л. Сом шмат ілюзіяў. Сярод іх — ілюзія самастойнасьці: «Я ведаю — у гэтым сьвеце Рэальная толькі я», зь якой вынікае яшчэ адна ілюзія — адзіноты, аднаго з асноўных матываў у вершах паэткі. Яна хоча навучыцца «ў зоркі яе адзіноце», яна «ідзе адна заўсёды», у яе «мая сяброўка — адзінота». Ілюзія адзіноты выклікае ў яе жаданьне знайсьці яшчэ некага, таму яна «адчувае, што, магчыма, У сьвеце ёсьць яшчэ адзіны — Няхай адзіны! — чалавеча, зь якім магчыма разуменьне». А гэта, у сваю чаргу, выклікае эратычныя трызьненьні: «Вядзём прыстойна доўгія размовы, І кожны ходзіць па сваім баку... Ды толькі я прысьніла сон учора — Што пра мяжу забыў ты і прыйшоў, І я забыла і цябе сустрэла Абдымкамі, і нашых пацалункаў Было без ліку».

Натуральна, што пачуцьцё адзіноты, цемры выклікае ў яе і прагу сьмерці. Праўда, яна не ўпэўненая ў гэтым: «Я часта хачу памерці, а зрэдку хачу сьпяваць». Але яна з асалодаю, характэрнаю для слабых істотаў, вяртаецца да гэтых думак зноў і зноў: «Кроў зьмяшаецца ў ваньне З попелам цыгарэты» — так уяўляе яна прыгожую сьмерць.

А хто ж вінаваты ў праблемах слабой кабеты? Толькі не яна, інакш яна не была б жанчынаю: «Там, на небе, Я за ўсё спытаю зь Цябе, Божа», і яна падрабязна пералічвае, за што зьбіраецца зь Яго спытаць.

Кволая лірычная гераіня Л. Сом ідзе па гэтым жыцьці, не спадзеючыся калі-небудзь і куды-кольвек дайсьці: «І дарога зь Вільні на Полацак — Вось адзінае, што не скрадзена... Нам не трапіць ніколі ў Полацак, Нам ніколі не ўбачыць Вільню». І чаму толькі нас, чытачоў, так прываблівае гэты шлях?

*ЛіМ, 20 чэрвеня 1997 года.*

## «Пад стрэхамі прашчураў»

***Аляксандр ЛАКОТКА. Пад стрэхамі прашчураў. — Мн. : Полымя, 1995.***

Аляксандр Лакотка — адзін з самых дасьведчаных сьпецыялістаў па беларускай народнай архітэктуры, які пэўны час працаваў у Музеі народнай архітэктуры і побыту, выпусьціў кнігу, дзе дае рэтрасьпектыўную карціну драўлянага будаўніцтва на Беларусі пачынаючы ад старажытных часоў да нашых дзён.

Аб’ём дасьледаваньня, а гэта каля 400 старонак са шматлікімі фотаздымкамі і схемамі, не дазваляе аўтару падрабязна спыняцца на нейкіх канкрэтных галінах драўлянага дойлідства. Што можна распавесьці, напрыклад, пра «шляхецкае гняздо» — так называецца адзін з разьдзелаў дасьледаваньня на 25 старонках? І таму аўтар літаральна тэлеграфным стылем са шматлікімі «і да т. п. і г. д.» паказвае агульную карціну ўладкаваньня жыцьця беларуса, тым не менш выдаючы масу цікавага абагульненага матэрыялу.

Кніга зьяўляецца неацэнным дапаможнікам для музейшчыкаў, якія займаюцца рэстаўрацыяй сядзібных комплексаў, а ў звычайнага чытача, які жыў ці бываў у беларускай вёсцы, фотаздымкі прычолкаў, падрубаў, пералазаў, азяродаў, брамаў і студняў выклікаюць настальгічныя і сентыментальныя ўспаміны.

Аўтар мае добрую ўласьцівасьць ушляхетніваць, здавалася б, зусім бытавы і някідкі, на першы погляд, матэрыял, які ўспрымаецца як сапраўдны скарб матэрыяльнай культуры беларусаў. А ў мяне адны толькі назвы гэтых філёнгаў, трамаў, шалёвак, штандараў, сьветачаў і мастоў выклікаюць ціхае задавальненьне.

Карыстаючыся выпадкам, хачу дапоўніць працу А. Лакоткі цікавым матэрыялам, пра які ні ў водным дасьледаваньні па беларускай народнай архітэктуры чытаць не даводзілася. Ён захоўваецца ў музеі М. Багдановіча. У лісьце сасланага на той час у Саратаў Вацлава Ластоўскага да Адама Багдановіча ад 16 чэрвеня 1934 года ідзе размова пра «жалезныя хаты» на Беларусі. В. Ластоўскі: «Я сьцьвярджаю, што той са старажытных пісьменьнікаў, які распавядаў сваім землякам, сучасьнікам сваім пра вісячыя сады на поўначы і пра жалезныя пабудовы, быў правы. Кожны з нас, убачыўшы падобныя пабудовы і падобныя сады, будучы на ягоным месцы, унёс бы ў сваё апісаньне падобную цікавостку. Пра старажытнасьць жалезных пабудоў дакументальна вядома, што ў XV ст., як і цяпер, адно з прадмесьцяў Вільні насіла назву “Жалезная хатка”. Я не думаю, што віленская жалезная хатка была першай прарадзіцельніцай падобных хатак на ўсёй прасторы краю. Наадварот, мне здаецца, што гэты будаўнічы матэрыял мог быць вядомы чалавеку раней ужываньня жалеза для вырабу зь яго прыладаў. Гэтая старажытнасьць адносная, як і ўсё пад месяцам...»

Да гэтага ліста В. Ластоўскім быў прыкладзены фотаздымак такой «жалезнай хаты», на адвароце якога напісана: «Від хаты з балотнай руды. Сяло Тарасаўка Веткаўскага раёна. 8 чэрвеня 1929 г. Фота М. Жэлахоўцава. У гэтай мясцовасьці такія пабудовы не рэдкасьць. Ёсьць вёскі, дзе напалову жалезныя пабудовы».

І яшчэ дапіска: «Просьба вярнуць». Па нейкай прычыне Адам Багдановіч гэты здымак гаспадару не вярнуў, дзякую-

чы чаму ён і захаваўся. Так што поле дзейнасьці для дасьледчыкаў беларускай народнай архітэктуры яшчэ цікавае і вялікае.

*ЛіМ, 27 чэрвеня 1997 года.*

## «Архіўная кніга»

***Архіўная кніга / аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. — Нью-Ёрк, 1997.***

З сумнага працэсу эміграцыі беларускай сьвядомай інтэлігенцыі за мяжу, бо зараз тут, у Беларусі, дзе ідзе змаганьне за нацыю, як ніколі патрэбны кожны чалавек, ёсьць і прыемныя выключэньні. Вось зьехаў некалькі гадоў таму ў Амерыку малады і мала каму вядомы тады асьпірант Лявон Юрэвіч. Але не разгубіўся, адразу выплыў у славянскім адзьдзеле Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі і зь неўтаймаванай заўзятасьцю, з году ў год выдае салідныя тамы твораў беларускіх пісьменьнікаў у эміграцыі са сваімі прадмовамі і каментарыямі. Нагадаю, што гэта творы У. Дудзіцкага (1994), М. Целеша (1995), Ю. Віцьбіча (1996). І вось — «Архіўная кніга».

Можна казаць пра пэўныя метадычныя недахопы ў гэтых выданьнях, але яны марнеюць у параўнаньні з навізною і аб'ёмам літаратурнага матэрыялу, зьмешчанага ў іх. У «Архіўнай кнізе» Л. Юрэвіч падае разгорнутыя жыцьцяпісы беларускіх пісьменьнікаў, якія па волі лёсу апынуліся ў эміграцыі: У. Дудзіцкага, Х. Ільяшэвіча, У. Клішэвіча, У. Сядуры-Глыбіннага, М. Вярбы, а таксама іхнія творы, знойдзеныя ў беларускіх архівах і перыёдыках у эміграцыі. Падсумоўвае кожны разьдзел грунтоўная бібліяграфія твораў пісьменьніка. Асобна падаюцца ў кнізе лісты Ю. Віцьбіча, у пэўным сэнсе бацькі літаратурнага аб'яднаньня на эміграцыі «Шыпшына», які шмат для каго зь беларускіх пісьменьні-

каў за мяжою выступаў як мудры і разважлівы крытык і дарадца.

Матэрыялы да біяграфіі пісьменьнікаў, а таксама шчодра разьмешчаныя лісты, успаміны даюць уяўленьне пра жыцьцё беларускіх літаратараў як пра найцікавейшы жыцьцёвы працэс, дзе зьмяшалася ўсё — і трагедыя асабістага лёсу, і няпэўнасьць ва ўласнай будучыні, і боль за Беларусь, і творчыя планы, і звычайныя пісьменьніцкія амбіцыі.

Чытаючы кнігу, адчуваеш подых праўдзівага літаратурнага жыцьця, якое імкнуліся арганізаваць беларускія пісьменьнікі за мяжою. Вось Ю. Віцьбіч піша ў Канаду А. Змагару: «Увогуле, у нас тут, у Амерыцы, апошнім часам паміж беларускімі літаратарамі наладзілася сяброўская еднасьць».

Нераўназначныя таленты пісьменьнікаў, творы якіх зьмешчаны ў «Архіўнай кнізе». Бясспрэчна таленавіты У. Дудзіцкі, які пісаў: «Сьціскаюць хвалі пеністыя мора Маіх чаўноў скрыпучую тугу, А я кладу паволі на ваду Драбніцы ўцех і смоль тугую гора...», суседзіць зь менш таленавітым, але шчырым працаўніком у беларускім асьветніцтве Х. Ільяшэвічам.

Адкрыцьцём для мяне была лірыка мала знанай у нас В. Таполі, якая магла б вырасьці ў таленавітую паэтку, калі б не зьехала ў падсавецкую Беларусь. Шчыра гучаць словы малітвы М. Вярбы, які ад усіх эмігрантаў прасіў: «Божа Ўсемагутны Уладар наш! Ты вывеў народ Твой Ізраіля зь Зямлі Егіпецкай. Мы просім Цябе: выведзі Ты і наш шматпакутны народ зь ярма камунізму». Цікавыя і каштоўныя згадкі зь лістоў Ю. Віцьбіча пра літаратурнае жыцьцё ў Беларусі ў 30-х гадах, ягоныя ўспаміны пра «Узвышша» і ТАВІЗ (Таварыства аматараў выпіць і закусіць).

Ацэньваючы працу Л. Юрэвіча, можна казаць пра ўнікальнасьць «Архіўнай кнігі» для беларускага літаратура- і архівазнаўства, бо нічога падобнага ў Беларусі яшчэ не робіцца.

*ЛіМ, 4 ліпеня 1997 года.*

## «Каханьне пад акупацыяй»

***Славамір АДАМОВІЧ. Каханьне пад акупацыяй : вершы. — Менск, 1996***

Не памылюся, калі скажу, што С. Адамовіч сёньня адзін з самых папулярных беларускіх паэтаў. Вось і гэты зборнічак паэзіі, які літаральна мільгануў перад вачыма, прыйшлося прасіць у аўтара, бо не дакупіцца. О, парадоксы беларускага літаратурнага жыцьця! Паэт, сьведамы беларус і нацыяналіст, стаўся вядомым дзякуючы вершу, напісанаму... па-расейску. Але ў гэтым і заключаецца сакрэт С. Адамовіча, які прывёў яго ўрэшце да... папулярнасьці. Бо асноўнае, што характэрна для вершаў гэтага зборніка, як, мабыць, і для ўсёй паэзіі апошніх гадоў С. Адамовіча, у чым ён сам, урэшце, і прызнаецца, гэта — «маленькі сьцёб».

Няма, пэўна, такой тэмы ў чалавечым жыцьці, дзе б паэт не «сьцебануўся». Жаданьне шакіраваць, паралізаваць чытача, уразіць тэмаю верша, абурыць, урэшце, паводзінамі лірычнага героя — любімыя сродкі С. Адамовіча ў паэзіі. Ён піша «антымаральныя» вершы, «наязджаючы», напрыклад, на бясспрэчны інстытут каталіцкага касьцёла, цэлібат, ці на іншы, ужо грамадскі інстытут, на сям’ю, ці з гонарам заяўляе: «Я палюбіў цябе, дзяўчо, маніякальна... табе трынаццаць... а мне ўжо трыццаць тры». Часам ён з асалодаю смакуе антыэстэтычныя нюансы ці сам сьвядома праграмуе іх. Цяжка з гэтага зрабіць сапраўдную паэзію, і С. Адамовіч, хіба што, не здолеў пераканаць мяне ў адваротным. Вось, апяваючы ў «Одзе» жаночыя вусікі, ён піша: «Пад рымскім носам чорны вус блішчыць у сонечным сьвятле», як быццам бы гэта не кабета, а які-небудзь кірасір. Вось такім чынам, правяраючы ў вершах сябе: «Адмоўна сьведчыць Васэрман. Я ажываю», паэт адначасова правярае і чытача, ягоную здольнасьць успрымаць паэтычны «сьцёб», і не больш таго.

Можна казаць пра больш ці менш удалыя практыкаваньні ў «сьцёбе» С. Адамовіча, бо, паўтаруся, няма такіх тэм, якія

былі б забароненыя для паэта. Можна паціснуць плячыма, чытаючы чарговую варыяцыю на тэму арганісткі, можна сьмяяцца, уяўляючы кадэбэшніка і паэта, які горача пераконвае каханку: «Пакуль ён стаіць за дзьвярыма, Мы будзем спружынай рыпець...», можна проста пасьміхнуцца, чытаючы «пагрозы» паэта: «Калі ты здрадзіш мне аднойчы, Ад гэтай здрады атрымаўшы Так многа-многа асалоды... Я ўспомню, дзе ляжаць набоі».

І пра сур'ёзныя, нават трагічныя рэчы метадычнага зьнішчэньня беларускай культуры, дзяржавы, незалежнасьці — а каго зараз зь беларускай інтэлігенцыі яны не хвалююць? — якое адбываецца на нашых вачах, паэт таксама піша са «сьцёбам». Ён ведае, хто ў гэтым вінаваты, як, урэшце, ведаем і ўсе мы, але людзям «зь цьвёрдым каркам і чэрствым сэрцам», як напісана пра такіх у Бібліі, любы гумар недаспадобы.

Сярод «сьцебанутай» паэтычнай руды ёсьць у гэтым зборнічку і золата паэзіі. «І я стаю, чакаю каханую, Боты мае юхтавыя прыемна рыпяць» — з задавальненьнем чытаю я. «Я прыйшоў. Ты рабі, што трэба: Расцалуй, альбо прагані, Альбо выплаві зь мяне срэбра На сваім залатым агні» — і гэта добра. Найлепшы твор у зборнічку, як мне падаецца, — паэма «Алжыр»: «Мы не баімся арыштанцкай робы, Мы за Радзіму робім гэты крок» — піша С. Адамовіч. Пагодзімся, нават калі гэты крок зроблены ў форме паэтычнага «сьцёбу».

*ЛіМ, 11 ліпеня 1997 года.*

## Незалежна і заможна...

***Валеры ШАБЛЮК. Сельскія паселішчы верхняга Панямоньня XIV–XVIII стст. — Мн. : Беларуская навука, 1996.***

Вясною гэтага года п'яная кампанія на машыне зьбіла гісторыка і археолага Валерыя Шаблюка, і яго не стала. Лёс быў несправядлівы да яго, поўнага творчых сіл, сьціплага

працаўніка на беларускай ніве. Але вось гэтая кніжка — вынік шматгадовых археалагічных і гістарычных дасьледаваньняў В. Шаблюка — яшчэ пасьпела зьявіцца пры ягоным жыцьці.

Я люблю чытаць кніжкі па беларускім сярэднявеччы. Можа быць, таму, што было яно ўдалым для беларусаў, якія мелі сваю дзяржаву, былі незалежнымі і, як вынік, жылі арганізавана і заможна. Вось і В. Шаблюк, у прыклад звычайнай гаспадаркі баярына — чалавека служылага стану, які ў іерархічнай грамадскай сістэме позьняга сярэднявечча знаходзіўся паміж сялянствам і шляхтай, пералічвае ягоную нерухомую маёмасьць: хата, клець, стайня, два хлявы, лазьня, павець, пякарня, гумно, клуня і асець. У сярэдняй гаспадарцы селяніна ў XVI стагодзьдзі было: 2–4 валы, 2 каровы, 1–2 кані, 10 сьвіней, 12 авечак, цяляты, куры, гусі, качкі. Адным словам, можна было жыць.

Апісваючы быт сельскіх паселішчаў у сярэднявеччы, В. Шаблюк прыводзіць нямала цікавых зьвестак. Так, «у паселішчах Дзярэчынскага маёнтка ў сярэдзіне XVIII стагодзьдзя кожны селянін павінен быў пасадзіць вакол сваёй сядзібы вербы» ў эстэтычных і супрацьпажарных мэтах. А хаты на Валожыншчыне ў сярэднявеччы называлі пякарнямі. Аказваецца, што найбольш распаўсюджаным у XVII стагодзьдзі было круглае аконнае шкло, там, дзе яно было. Дыяметр яго быў 10–12 сантыметраў, і мацавалася яно ў алавяных рамах. Ужо здавён нашыя продкі разводзілі рыбу ў сажалках, і найбольш папулярным быў усё той самы карп.

У ранейшых беларусаў быў разьвіты гонар за сваю дзяржаву, адным з найбольш распаўсюджаных матываў выяваў на кафлях быў герб Вялікага Княства Літоўскага — «Пагоня».

З археалагічных знаходак на сярэднявеччы амаль заўсёды найбольш цікавыя — гэта кафля, якая зьяўляецца сапраўдным мастацкім дасягненьнем беларусаў. Бясконцая колькасьць расьлінных узораў, геральдычных, рэлігійных сюжэтаў складае сапраўдную галіну беларускага старажыт-

нага мастацтва. Але сярод знаходак В. Шаблюка прыцягваюць увагу і гаршчочкі ўмяшчальнасьцю на 150–200 міліграмаў (цікава, для чаго яны выкарыстоўваліся); і гаршкі пад кветкі з адтулінамі пасярэдзіне (ужо тады беларусы ўпрыгожвалі сядзібы хатнімі кветкамі); і гліняныя скарбонкі. А вось пілі нашыя продкі з кілішкаў зь цёмна-сіняга і зялёна-бураватага шкла. Адпаведным, дзіўным для нас колерам выглядалі і налітыя ў іх трункі.

Любілі ранейшыя беларусы ласавацца і дзічынай. Як высьветліў В. Шаблюк, найчасьцей на іхні стол трапляў дзік, а найрадзей — зубр.

Ацэньваючы гандаль беларусаў са сьветам, В. Шаблюк пагаджаецца з У. Пічэтам, які яшчэ ў 1928 годзе напісаў, што «да канца XV стагодзьдзя заходні напрамак замежнага гандлю ўсяго Вялікага Княства Літоўскага становіцца пануючым». Мабыць, таму тады так добра і жылі, з праекцыяй на сёньня раблю выснову ўжо я.

*ЛіМ, 18 ліпеня 1997 года.*

## А гэта ж — Выбранае

***Максім БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы. — Мн. : Беларускі кнігазбор, 1996.***

Сустрэў мяне не так даўно адзін з аматараў паэзіі М. Багдановіча, задаволена паказаў новы аднатомнік ягоных выбраных твораў, а потым выказаў наступныя заўвагі. Занадта падобны ён па сваёй структуры ўкладаньня на папярэдні акадэмічны трохтомнік. І тое, што было дарэчы ў акадэмічным выданьні, не надта пасуе да больш папулярнага аднатомніка.

Чаму аказаліся раскіданымі па розных месцах вершы зь міфалагічнымі сюжэтамі, напісаныя прыкладна ў адзін час? Чаму, напрыклад, верш «Зьмяіны цар» падаецца на с. 48, а

другі верш з такой самай назваю, які разьвівае адную і тую тэму і быў выдрукаваны раней за першы, зьмешчаны толькі на с. 127? Чаму так тэматычна неахайна падаюцца вершы, выдрукаваныя ў адзін год, калі творы зь міфалагічным сюжэтам перабіваюцца творамі з сацыяльнай тэматыкай? Чаму пераклады паэта ёсьць аж у трох розных месцах Выбранага, наколькі зручна з-за гэтага шукаць іх і карыстацца імі?

Таму, мабыць, адказаў я, што ў Выбраным ёсьць «сьвятая карова», гэта «Вянок», зьмест якога ў вялікай ступені ўклаў нават не паэт, а В. Ластоўскі, аднак тут ён падаецца як апошняе непарушнае слова М. Багдановіча. Вось таму, дапаўняю, у розных месцах Выбранага апынуліся і вершы з цыкла «Места», і адзін зь лепшых вершаў з гэтага цыкла «Касьцёл сьв. Анны ў Вільні». Апроч таго, хранaлагічны прынцып разьмяшчэньня твораў, без уліку тэматычнай еднасьці вершаў, прыводзіць да адчуваньня, падобнага на язду на возе па выбітым бруку — дыр-дыр-дыр.

«А як вось ты, дасьледчык творчасьці М. Багдановіча, ставішся да рускамоўных вершаў паэта?» — спытаўся ў мяне гэты знаёмы. Я адказаў, што гэта не толькі мая думка, пра гэта казалі і іншыя літаратуразнаўцы ў розныя часы, што рускамоўныя вершы М. Багдановіча значна слабейшыя за беларускія. Яны ўяўляюць цікавасьць адно толькі для дасьледчыкаў, і іх увогуле не варта было зьмяшчаць у Выбраных творах, так, як даўно ўжо не зьмяшчаюць у Выбраным польскамоўныя вершы Я. Купалы і рускамоўныя Я. Коласа. Трэба было тады распачынальнікам «беларускага кнігазбору» даваць творы і Я. Чачота ў арыгінале — польскія папольску, а беларускія па-беларуску, ці, урэшце, перакладаць рускамоўныя вершы М. Багдановіча на беларускую мову.

«А чаму ж тады яны тут зьявіліся?» — зьдзівіўся мой знаёмы. Ды, мабыць, таму, адказаў я, чаму ў Выбраным М. Багдановіча зьявіліся зусім недарэчныя тут артыкулы «Поэзия гениального ученого» пра Ламаносава і «Одинокий» пра Лермантава, хаця амаль уся астатняя публіцыстыка і літаратуразнаўчыя працы, пададзеныя ў Выбраным, пасьлядоўна

закранаюць беларускую тэматыку. Бо некаторыя беларускія працаўнікі працягваюць савецкую завядзёнку, здаецца, што гэта ў іх ужо ў крыві — паказваюць сваю надзвычайную талерантнасьць, калі толькі не згодніцтва перад усім расейскім, нават калі гэта супярэчыць усялякай логіцы. А можа, гэта на іх так паўплываў сёньняшні палітычны момант?

Мы, беларусы, заўсёды баяліся некага пакрыўдзіць, не дай Бог чхнуць не ў той бок, і лепей пагаджаліся быць пакрыўджанымі самі. А народ даўно ўжо жорстка і проста сказаў, што «на пакрыўджаных ваду возяць»...

*ЛіМ, 25 ліпеня 1997 года.*

## «Вятрыска з радзімай краіны»

***Янка ЗОЛАК. Вятрыска з радзімай краіны : збор выбраных твораў. — Мн. : БелАДІ, 1996.***

Як адзінокія птушкі, вяртаюцца на Беларусь пасьля выгнаньня сваімі кнігамі паэты-эмігранты. Вось і творчасьць яшчэ аднаго зь іх, Антона Даніловіча, паэтычны псеўданім якога — Янка Золак, стала даступнай беларускаму чытачу. Падчас вайны ён працаваў настаўнікам у школе, журналістам у слуцкай газеце, афіцэрам-асьветнікам у Беларускай Краёвай Абароне, дзеля чаго і вымушаны быў пакінуць Беларусь, як ён кажа ў інтэрв’ю з укладальнікам гэтай кніжкі Л. Пранчаком, «з палітычных меркаваньняў».

Іншага шляху ў беларускіх патрыётаў на той час не было. Тыя з творчай інтэлігенцыі, якія апынуліся пад акупацыяй і выехалі, пасьля паверылі абяцанкам і вярнуліся ў падсавецкую Беларусь, — паэты Л. Случанін, Т. Лебяда, Т. Таполя — прамым ходам ехалі ў бальшавіцкія канцлагеры.

На чужыне Я. Золак шмат пісаў, уваходзіў у літаратурнае аб’яднаньне беларускіх пісьменьнікаў «Шыпшына», друкаваўся ў эміграцыйных выданьнях, сам надрукаваў два тамы

ўласных твораў і «доўгі час марыў, каб вершы дайшлі да Радзімы». Ягоныя вершы ўрэшце дайшлі. Яны выразна падзяляюцца на дзьве часткі, як, да слова, і жыцьцё самога аўтара: вершы, напісаныя на Беларусі падчас вайны — і на эміграцыі.

Я. Золак, хіба што, як ніхто зь беларускіх паэтаў, якія пад акупацыяй працавалі на незалежную Беларусь, быў паэтам антыбальшавіцкага адраджэньня Бацькаўшчыны. Беларусь перадусім! — асноўная ідэя і эстэтычны матыў ягонай тагачаснай творчасьці. «Буду змагацца зь вятрамі, Біцца на сьмерць, да крыві» — дэкларуе паэт. Ён быў так апантаны Беларусьсю, што нават вершы пра каханьне, якія гэтаксама займаюць значнае месца ў ягонай творчасьці, выглядаюць другараднымі і арнаментальнымі на тле ягоных грамадзянскіх і патрыятычных твораў.

На выгнаньні ж акцэнты ягонай творчасьці паступова зьмяняюцца. Матывы барацьбы становяцца больш прыглушанымі, набываюць эпічны пачатак, — гэта, да прыкладу, вершы, прысьвечаныя слуцкім паўстанцам, 25 сакавіка. Затое больш моцна выяўляюцца матывы лірычнай любові да Бацькаўшчыны і праблемы асабістага шчасьця. Павышаецца і паэтычнае майстэрства Я. Золака: «Прозалаць, золата, пурпур Бляскам халоднай расы Вецер пад ногі мне шпурнуў: — На, паспрабуй сабяры!», — экспрэсіўна піша паэт у 1952 годзе.

Я. Золак хоць і жыве ўжо больш чым паўстагодзьдзя за межамі Беларусі, але ўсё ж такі жыве нашымі праблемамі. У 80 гадоў ён піша: «У грудзях — пачуцьцяў бура, У галаве — ад думак ветругі: Звар'яцела Беларусь і, здуру, На сябе надзела ланцугі».

«Усё маё жыцьцё ў маіх вершах», — кажа паэт. А ўсе ягоныя вершы, хай яны пераважна някідкія і даволі простыя, як жыцьцё простага чалавека, належаць Беларусі.

*ЛіМ, 1 жніўня 1997 года.*

## «Беларускае студэнцтва на чужыне»

***Барыс РАГУЛЯ. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) ; Нью-Ёрк, 1996.***

Калі пачынаеш аналізаваць сёньняшнюю сітуацыю ў беларускім грамадстве і спрабуеш даць адказ на пытаньне: чаму здарылася тое, што здарылася? — дык прыходзіш да абгрунтаванай высновы, што інакш і не магло быць, бо нельга з гразі вылепіць кулю.

Так, інакш і не магло быць. Занадта старанна прапалваліся беларускія грады. Вось тыповая перадваенная сітуацыя. Барыс Рагуля, студэнт-медык Віленскага ўніверсітэта, мабілізаваны ў польскае войска падчас сусьветнай вайны, уцякае зь нямецкага палону і вяртаецца ў родную Любчу. Прыходзяць Саветы. У Любчы адчыняюць рускую школу. Ён пытаецца ў дырэктара: чаму? У адказ: «А вы что, националист?» А празь месяц — арышт, менская «амерыканка» і сьмяротны прысуд. Было яму тады 20 гадоў. Такой меркаю Саветы ацэньвалі любоў да беларушчыны.

Б. Рагулю пашанцавала, расстраляць яго не пасьпелі, пачалася вайна, пасьля якой ён апынуўся ў эміграцыі, сярод сотняў тысяч беларусаў, якія ўдосталь накаштаваліся камуністычнага хлеба і не жадалі вяртацца ў падсавецкую Беларусь. Моладзь хацела вучыцца. Хлопцы ды дзяўчаты меркавалі, што іхнія веды ўрэшце прыдадуцца Бацькаўшчыне. Ініцыятыўны Б. Рагуля дамаўляецца ў нямецкім унівэрсітэце г. Марбарга аб прыёме беларускіх студэнтаў, і неўзабаве там пачынаюць вучыцца каля 30 сяброў... Тут закладаецца адна зь першых беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне.

Неўзабаве цяжкія эканамічныя ўмовы прымушаюць студэнтаў шукаць месца вучобы па-за межамі Нямеччыны. Дзякуючы таму ж нястомнаму Б. Рагулю такое месца знаходзіцца ў Бельгіі, у каталіцкім унівэрсітэце ў г. Лювэне. Дэмакратычныя парадкі ўніверсітэта дазвалялі вучыцца ў ім людзям розных хрысьціянскіх канфесій, і хутка амаль уся беларус-

кая грамада з Марбарга, а таксама беларуская моладзь зь іншых краін сьвету перабраліся ў Лювэн.

Як сьведчыць аўтар кніжкі, беларускім студэнтам удалося наладзіць актыўнае грамадскае жыцьцё. З дапамогаю кампазітара М. Равенскага, запрошанага імі на сталае жыцьцё ў Лювэн, быў створаны беларускі хор, які прапагандаваў беларускую культуру па ўсёй Еўропе, абуджаў у беларускіх эмігрантаў цікавасьць да ўласнага нацыянальнага жыцьця. Дастаткова сказаць, што з лювэнскай студэнцкай грамады выйшлі такія вядомыя беларускія дзеячы на эміграцыі, як Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік, Павел Урбан, Вітаўт Рамук ды іншыя.

На жаль, ва ўспамінах не знайшла асьвятленьня адна з малавядомых гераічных старонак беларускай эміграцыі. Гэта засылка беларускіх разьведчыцкіх груп у савецкую Беларусь у 50-я гады. А між тым адзін з лювэнскіх студэнтаў, Цімох Вострыкаў, патрапіў у такую групу і быў дэсантаваны ў Налібоцкую пушчу, а потым на 15 гадоў патрапіў у ГУЛАГ.

Большасьць са студэнтаў-беларусаў на чужыне на працягу жыцьця не адышлі ад беларускай справы і як маглі стараліся працаваць дзеля незалежнасьці Бацькаўшчыны. Іхняе жыцьцё не было марным. Расьце новая беларуская моладзь, якой трэба будаваць свой лёс, маючы дастойныя прыклады з ранейшых беларускіх пакаленьняў.

*ЛіМ, 15 жніўня 1997 года.*

## Аддай асалоду Богу

***Ларыса РАМАНАВА. Аддай асалоду Богу. — Мн. : Мастацкая літаратура, 1997. — (Першая кніга паэта).***

Разважаючы над асаблівасьцямі сёньняшняй беларускай жаночай паэзіі, прыходзіш да высновы, што паэткі значна болей за паэтаў схільныя адыходзіць ад рэальнага сьвету.

Хіба ніводная зь іх ужо не можа напісаць так, як у свой час напісала Цётка: «Бомба — трах! Сяргей у шматы». І тут ёсьць пэўная небясьпека. Размытасьць думкі, яе, так бы мовіць, непрадуманасьць хаваецца за вэлюмам прыгожых слоў, якія падаюцца паэзіяй, але адрозьніваюцца ад яе гэтаксама, як лубок ад карціны. Радкамі Л. Раманавай: «О, гэты дождж! О, гэта слота! Калі размыты ўсе абрысы лесу...» — можна акрэсьліць крэда сучаснай беларускай жаночай паэзіі.

Такія практычныя і рацыянальныя ў жыцьці, у паэзіі жанчыны раптам губляюцца, ніякавеюць, становяцца далікатнымі і легкадумнымі, і Л. Раманава тут не выключэньне. Паэтка спрабуе разважыць хрысьціянскімі катэгорыямі, але яна не рупіцца пра іх дакладнасьць: «Будзеш спаць, як не спаў і анёлак» — піша яна, не задумваючыся, а ці сьпіць анёлак увогуле. Свой верш яна можа параўнаць з Богам, які схаваўся «па-за белай сьцяной аблокаў». Гэтая, на першы погляд, асацыятыўная недакладнасьць, аказваецца, мае сваю логіку, якая вынікае са спрэчкі паэткі ў вершы з Богам і д'яблам: «Больш за ўсё чалавечае слова значыць, Бо ўсё існае — толькі тут». І нават назва зборніка не пераконвае нас, бо зь лёгкасьцю паэтка мяняе «бязгрэшнага анёла» на «гаспадара пекла».

Але і зямны сьвет не прыцягвае яе ўвагі: «І цягнецца жыцьцё зямное, Як нейкі жарт, як штось дурное...». «Ах!.. Няўтульна на сьвеце і горка!» — усклікае яна ў іншым вершы. І больш таго, яна не любіць гэты зямны сьвет і назірае ў сьне, як «будзе рушыцца неба... захлынецца ў полымі сьвет». А што, як не сонныя ўявы, перадае самыя патаемныя жаданьні чалавека?

Рэальнасьць, якая ўвасабляецца нават усяго толькі ў слове, не задавальняе яе: «Ані на воднай мове не магу сказаць тое Слова, якое хачу... Душа акамянелай птушкай падае ў вір». І вось там, у «віры» мараў, крозаў і містыкі, паэтка знаходзіць сябе і сваіх герояў. Там яе сьвет, там яе другое сапраўднае жыцьцё. Таму і русалка-тапеліца, якая, «калі падплывае да берага, Сьпявае так сьветла і жаласна», ці не са-

мая любімая яе гераіня. «Я сьню твой сон, — уяўляе паэтка і бачыць той вырай, куды імкнецца яе... душа. — Сады аж сьвецяцца налівам сьпелым, арэхі на гальлі, І тыя ж пекныя суніцы на зямлі, і пчолкі ў старых вульлях» — вось яе сапраўдны сьвет сну.

Паэтку няўмольна цягне туды, там яна пачуваецца лепей за ўсё, і гэты ўяўны сьвет дапамагае ёй пераадольваць праблемы рэальнага жыцьця: «Я жыву цяпер у тонкім шоўкавым сьне. Дзіўна так неяк ведаць: хутка не будзе мяне». У гэтым сьвеце «цені кладуцца далей за месяц», там «усё зразумела і проста... У садзе растуць камяні і матылі не любяць сьвятла». Ён насычаны нейкім дзіўным наркатычным водарам, які пераўтварае звычайнае дрэва, і яно «цень скідае з самога сябе, і цень гэты — адзіны мой госьць».

«Які гэта дзіўны горад!» — зьдзіўляецца паэтка, разглядаючы свой сьвет мараў і фантазій, а разам зь ёй зьдзіўляемся і мы.

*ЛіМ, 22 жніўня 1997 года.*

## «Гульні, забавы, ігрышчы»

***Гульні, забавы, ігрышчы / склад. А. Лозка. — Мн. : Беларуская навука, 1996. — (Беларуская народная творчасьць).***

Упершыню найбольш поўны збор беларускіх гульняў пад адной вокладкай сабраў фальклярыст А. Лозка. Купляючы чарговыя тамы серыі «Беларуская народная творчасьць», я заўсёды з прымхлівасьцю паглядаю на іх. Што гэта — цагліны ў помнік нашай славы ці ў капец над памерлай нацыяй? А цагліны гэтыя важкія, на падвалінах зь якіх любая нацыя з задавальненьнем будавала б уласны культурны космас. Любая, ды толькі пакуль што не беларуская.

Вось і ў гэтым томе сабрана 602 разнастайныя беларускія гульні. Я гартаю яго і думаю, што цалкам нармальна ў на-

шае нацыянальнае паўсядзённае жыцьцё ўпісаліся б гульні, зьвязаныя з каляндарнымі сьвятамі, сямейна-абрадавыя гульні падчас вясельляў і хрэсьбінаў. Разьвівалі б спрыт, увагу і цікаўнасьць дзіцячыя гульні, такія, як «Костачкі» ці «Каменьчыкі», якія паходзяць ад старажытных часоў і маюць за сабой не адну тысячу гадоў.

Асаблівую ўвагу прыцягнулі «гульні з інвентаром», кажучы па-простаму — з прыладамі. Бо менавіта з падобных гульняў павырасталі ўсе сучасныя футболы і хакеі, а кожная паважаючая сябе нацыя культывуе, да ўсяго, і адметныя нацыянальныя гульні такога кшталту. Ці не загульваліся мы ў дзяцінстве да цемры ў пікара, распрацаваная і ўнармаваная сістэма якога магла б даць цудоўны від нацыянальнага спорту? А тыя ж крэглі і рухі, апісаныя ў кніжцы, не саступаюць расейскім гарадкам. Чытаючы пра мячык, які называецца яшчэ елкай і палянтам, можаш уявіць, што гэта не менш цікава за бейсбол і ў агульных рысах адпавядае яму. А катаньне кола было нечым сярэднім паміж рэгбі і амерыканскім футболам.

Кожны можа падумаць: а ці можна з гэтага штосьці зрабіць? Але не будзем забывацца на тое, што, напрыклад, усімі любімы футбол, па сваёй сутнасьці, гульня абсалютна простая і заключаецца, нагадваю, у тым, што дваццаць чалавек ганяюць мячык туды-сюды. Ды справа ў спрыце, захапленьні, заўзятасьці, майстэрстве. Гульні дапамагаюць чалавеку жыць.

Але вернемся да нацыянальных гульняў. Кідаюць жа немцы пустыя бочкі з-пад піва, а шатландцы — цяжкія камяні, і паназіраць за гэтым зьбіраюцца поўныя стадыёны. Зараз вось расейцы прыдумалі рускі бой. Чым горшыя беларусы? Мабыць, горшыя, бо не цэнім і не любім свайго і, як тыя даверлівыя і наіўныя абарыгены, за бліскучае люстэрка і за пляшку рому гатовыя прадаць усё што заўгодна.

Зь сілавых, відовішчных гульняў у кнізе кінуліся ў вочы дужаньне на крыж, а таксама перацяжкі, якія нагадваюць японскую барацьбу сумо.

Нехта можа засумнявацца: а ці так ужо абавязкова цягнуць у нашае тэхнакратычнае камп’ютарнае стагодзьдзе розныя старажытныя беларускія забаўкі? Трэба, трэба, калі хочам заставацца беларусамі. На пачатку стагодзьдзя любімы вучань Рамакрышны Вівеканда абвяшчаў амаль што паўмільярднаму індыйскаму народу: «Зрабіцеся самымі заходнікамі з заходнікаў у ідэях роўнасьці і волі, у сваёй працаздольнасьці і дзелавітасьці, і ў той самы час індусамі да мозгу касьцей у сваёй рэлігійнай культуры і сьветаўспрыманьні». Беларусаў у дзясяткі разоў меней, таму, мяркую, гэтыя словы яшчэ ў большай ступені датычацца і нас.

*ЛіМ, 29 жніўня 1998 года.*

## Кніга, якая ёсьць

***Уладзімер ПАДГОЛ. Куля для прэзідэнта. — Мн., 1997.***

Даводзілася мне чытаць кнігі ў розным выглядзе. І старажытныя фаліянты, пераплеценыя ў скуру, і маленькія кнігі памерам з пазногаць, кнігі, надрукаваныя на добрай глянцавай паперы і на таннай газетнай. Але прагрэс імкліва ідзе наперад, і вось ужо ходзіць па руках кніга У. Падгола ў выглядзе камп’ютарнай дыскеты, у якую аўтар мае мажлівасьць час ад часу ўносіць праўкі, якія яму даспадобы. Ёсьць некалькі такіх дыскетаў — вось вам і пачатковы наклад.

Кніга, трэба адзначыць, грунтоўна адрэцэнзавана. Сярод рэцэнзентаў і В. Быкаў, і Р. Барадулін, і А. Марачкін. Рэцэнзенты не толькі прафесійныя пісьменьнікі, але і мастакі, і медыкі, і фізікі. Такое шырокае кола рэцэнзентаў дазваляе жанр твора, які можна акрэсьліць як фантасмагорыя, ці антыўтопія, дзеяньне ў якой сугучна палітычнаму жыццю нашага часу. Таму, мяркую, рэцэнзентаў у гэтага твора будзе столькі, колькі і чытачоў, бо ўсе мы бачым, што робіцца на нашых вачах і, чытаючы кнігу У. Падгола, нават незалежна

ад сваёй волі, будзем пагаджацца з аўтарам ці не, будзем горка сьмяяцца ці сумна ківаць галавой: так, так, гэта з намі, гэта ў нас.

Пэўны час, як і пэўны лад жыцьця, патрабуе пэўнага жанру. Што ж там фантасмагарычнага можна сёньня напісаць пра тую Польшчу ці Летуву, ці пра палякаў і літоўцаў? Ды нічога. А пра нас? Кепская казка, благі сон... Па беларускай мове топчуцца бліскучымі туфлямі расейскія палкоўнікі, працягваюць тлуміць ачмурэламу пасьля Саветаў народу галаву, і таму прароцтвы аўтара, калі справа пойдзе так і далей, не падаюцца зусім нерэальнымі: «Изь белорусского языка оставить только слово Батька. Из русского изъять слова ОРТ, НТВ, вместо них ввести слова БТ, БТР»...

Разнастайная моўна-стылёвая структура твора. Вымысел мяжуецца з праўдай, стыль сухога дакумента ці газетнага паведамленьня імкліва пераходзіць у рыфмаваную прозу, беларуская мова зьмяняецца на расейскую, ангельскую, трасянку, а лірычны аповед — на жорсткі сьцёб. На адной старонцы твора апавядаецца пра шчырае, лірычнае каханьне Князя да ягонай жонкі, а на другой даецца апісаньне герба саюза дзвюх дзяржаў, у якім «крепость союза символизирует колючая проволока, изящно обвивающая венки из колосьев».

Згадаем, што «1984» Оруэла ўзьнік як рэакцыя на камуна-фашысцкія дыктатуры падчас 40-х гадоў, «Выспа Крым» Аксёнава — на таталітарны брэжнеўскі саюз 70-х. А вось ці стане «Куля для прэзідэнта» дастойным помнікам нашай эпохі, нашага беларускага жыцьця, пакажа час. А пакуль што пачатак існаваньня твора, першыя ўрыўкі зь якога надрукаваныя ў віцебскай газеце «Выбар» і былі канфіскаваныя ў рэдактара Б. Хамайды АМАПам, паказвае, што гэтае жыцьцё будзе бурлівым і цікавым.

*ЛіМ, 5 верасьня 1997 года.*

## Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну

***Таццяна ПРОЦЬКА. Жыцьцё мітрапаліта Мельхісэдэка. — Мн. : Тэхналогія, 1996.***

У жыцьцях і лёсах асобных людзей вельмі часта адбіваецца гісторыя ўсяго народа, краіны. Жыцьцё мітрапаліта Мельхісэдэка — яшчэ адно пацьвярджэньне гэтаму. Айцец Мельхісэдэк, у сьвецкім жыцьці Міхаіл Паеўскі, нарадзіўся ў сям'і беларускага праваслаўнага сьвятара, царкоўнага гісторыка, краязнаўцы Льва Паеўскага. Па тагачаснай сямейнай традыцыі ён паступіў у семінарыю, а затым, як здольны вучань, і ў праваслаўную акадэмію, падчас вучобы ў якой прыняў манаскі пострыг.

Пачатак ягонага паслушаньня — у Магілёве, гэта і пачатак ягонай імклівай сьвятарскай кар'еры. У 28 гадоў ён — ігумен брацкага Богаяўленскага манастыра ў Магілёве, у 29 гадоў — пераведзены ў Бялыніцкі манастыр для годнага супрацьстаяньня ксяндзу-казнадзею, які рупіўся тут пра адраджэньне каталіцкай парафіі. У 30 гадоў ён архімандрыт, а яшчэ праз шэсьць гадоў епіскап Таўрыцкі. У 39 гадоў Мельхісэдэк — епіскап Ладажскі, вікарый Пецярбургскі. І толькі бальшавіцкі пераварот спыніў ягонае ўзыходжаньне ў РПЦ.

У 1918 годзе ён вяртаецца ў Беларусь напачатку ў чыне епіскапа Слуцкага, вікарыя Менскага, але неўзабаве становіцца Менскім епіскапам. Сямейнае выхаваньне ў духу «тутэйшасьці», павага да гісторыі Беларусі, асабістая абазнанасьць і ўсьведамленьне сябе беларусам (у анкеце ГПУ за 1927 год епіскап Мельхісэдэк у графе «нацыянальнасьць» уласнаручна напісаў: беларус) прывялі епіскапа разам зь іншымі патрыятычна настроенымі сьвятарамі-беларусамі да думкі пра ўтварэньне Беларускай аўтакефальнай царквы.

У чэрвені 1922 года зьяўляецца адозва, падпісаная епіскапам, у якой ён абвяшчае: «Захоўваючы еднасьць у духу веры і любові з цэрквамі Расейскай і Украінскай, пакідаючы

ў недатыкальнасьці дагматы і строга трымаючыся кананічнага богаслужбовага парадку, Праваслаўная царква ў Беларусі, якраз таму, што яна беларуская, жадае з гэтай верыісьці ўласным шляхам».

У выніку 10 ліпеня 1922 года была абвешчана аўтаномія Беларускай царквы, а епіскап Мельхісэдэк аб'яўлены мітрапалітам. Царква пачала актыўна працаваць дзеля духоўных і нацыянальных патрэб народа.

Камуністам таксама была непатрэбная Беларуская царква, пра што зноў-такі ў Маскву пісаў сакратар Багуцкі: «Асабліва заўзятае правядзеньне беларусізацыі царквы можа мець адмоўныя вынікі... Мы лічым, што са сьвятарамі-вялікарусамі і наогул з уплывам вялікарускім нам лягчэй будзе змагацца і хутчэй можна будзе трымаць іх на паводзе, чым беларускіх нацыянальных папоў». Мітрапаліт і сам выступае па-беларуску. Менавіта таму ў 1924 годзе па сфабрыкаванай справе яго назаўсёды высылаюць зь Беларусі ў Расію, дзе ён, па чутках, атручаны ГПУ, памірае падчас службы ў 1931 годзе.

Але Беларуская аўтакефальная царква, якая мела больш за 400 прыходаў, праіснавала да 1937 года, не ідучы на згоду зь «сергіянцамі», што і стала прычынай поўнага зьнішчэньня яе кліру ў 1937 годзе.

Тым не менш ідэя духоўнага нацыянальнага служэньня свайму народу застаецца ці не адзінай персьпектыўнай ідэяй для сучаснай праваслаўнай царквы.

*ЛіМ, 12 верасьня 1997 года.*

## Духоўная літаратура

***Св. Францішка з Саль. Філатэя. — Гродна, 1995; Антонія Барэльлі. Фацімская вестка. — Мн., 1997; Св. Тэрэза ад Дзіцяткі Езуса. Дзеі душы. — Гродна, 1997; Езус сярод нас : малітоўнік для дзяцей. — Мн., 1997.***

У маёй хатняй бібліятэцы адна паліца сьпецыяльна адведзеная духоўнай, рэлігійнай літаратуры па-беларуску. Ёсьць тут выданьні праваслаўныя, каталіцкія абодвух абрадаў і пратэстанцкія. З асаблівай увагаю назіраю за гэтымі выданьнямі, бо па ўзьдзеяньні на маральнае, духоўнае станаўленьне чалавека з рэлігійнай літаратурай не можа параўнацца нішто. Чаму так важная духоўная літаратура па-беларуску? Ды хаця б таму, што чалавек, які чытае Новы Запавет, ці штотыдзень карыстаецца беларускім малітоўнікам, ці сьпявае беларускую рэлігійную песьню, ніколі не будзе пагарджаць і брыдзіцца гэтай мовай, бо пры яе дапамозе ён зьвяртаецца да Бога і размаўляе зь Ім. Аўра сьвятасьці міжволі кладзецца і на мову.

З задавальненьнем я аглядаю, як шчыльна застаўленая гэтая паліца. Па гэтых кніжках можна беспамылкова вызначыць і стаўленьне да беларускага духоўнага слова розных хрысьціянскіх канфесій. Так, пратэстанцкія выданьні па-беларуску не вызначаюцца пэўнай пасьлядоўнасьцю і хутчэй за ўсё залежаць ад ініцыятывы асобных прасьвітараў ці вернікаў гэтых цэркваў. Параўнальна няшмат і праваслаўных выданьняў, якія амаль усе выходзяць з асяродка брацтва Трох віленскіх мучанікаў і беластоцкіх праваслаўных беларусаў. На жаль, не атрымала свайго працягу выданьне асобных частак Бібліі ў беларускім перакладзе, якое распачала праваслаўная царква яшчэ ў 1991 годзе. А вось грунтоўны пераклад Новага Запавету і псалмоў, выкананы на высокім узроўні В. Сёмухам (Менск, 1995), зьявіўся з благаславеньня Архіепіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Мікалая.

Грэка-каталікі адразу пачалі адраджэньне сваёй царквы як царквы, апранутай у беларускую нацыянальную вопратку. Таму і выдавецкая актыўнасьць іх, нягледзячы на адносную нешматлікасьць вернікаў, вялікая. Бадай усё, што выдаецца ўніятамі, выходзіць па-беларуску. Як адзін зь цікавых іхніх праектаў, можна назваць выданьне пачатку Старога Запавету — Кнігі Роду (Быцьця) у перакладзе Уладыслава Чарняўскага (Менск, 1997).

А бясспрэчную перавагу па колькасьці беларускіх выданьняў трымае рыма-каталіцкі касьцёл, універсалізм і інтэлектуальны ўзровень мясцовай эліты якога дазволіў вельмі хутка вызначыцца з асноўнай моваю выданьняў на карысьць беларускай. Некалькі выдавецкіх асяродкаў (толькі тры зь іх у Менску) штогод выпрадукоўваюць дзясяткі тысяч асобнікаў малітоўнікаў, катэхізмаў, сьпеўнікаў, часопісаў і календароў. Асобна адзначаю пераклады класічнай каталіцкай еўрапейскай літаратуры, сярод якіх і вышэйпраанатаваныя выданьні «Філатэі» і «Дзеяў душы».

Тым большай павагі заслугоўвае выдавецкая дзейнасьць касьцёла на Беларусі ў параўнаньні з адносінамі да беларускай кнігі афіцыйных уладаў, цынічная палітыка якіх прывяла да катастрафічнага зьмяншэньня выданьня беларускіх кніжак у дзяржаўных выдавецтвах, у той час як яшчэ вялікі Вальтэр адзначаў, што па адносінах дзяржавы да кнігі можна меркаваць пра разумовыя здольнасьці яе кіраўнікоў.

*ЛіМ, 19 верасьня 1997 года.*

## «Гарт»

***Гарт: з успамінаў пра Саюз беларускіх патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945–1947 гг). — Мн. : Наша Ніва, 1997. — (Архіў найноўшай гісторыі).***

Ужо даводзілася пісаць пра тое, што сваю гісторыю ў гэтым стагодзьдзі мы будзем вымяраць не савецкімі пяцігодкамі і ўчынкамі кіраўнікоў, а ахвярнасьцю людзей у самыя жорсткія часы на карысьць Беларусі. Кніга ўспамінаў пра беларускую пасьляваенную глыбоцкую і пастаўскую моладзь — добры ўклад у гэтую праўдзівую гісторыю Беларусі.

Выхаваныя ў духу беларускага патрыятызму ў беларускіх школках, паадкрываных у вайну старэйшай беларускай інтэлігенцыяй, яны адчулі натуральную патрэбу супрацьву русі-

фікацыі, якая праводзілася ў Беларусі ў пасьляваенны час. Рускія выкладчыкі ў Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльнях адкрыта пагарджалі беларускай мовай, не жадалі яе вучыць, зьніжалі за адказы на ёй адзнакі. У выніку паўстала і падпольная беларуская арганізацыя, якая ставіла за мэту прапагандаваць незалежнасьць, нацыянальную сімволіку, бараніць беларускую мову.

Як піша ва ўспамінах кіраўнік Глыбоцкай арганізацыі Васіль Медзялец, «сэнс нашага згуртаваньня мы бачылі ў заўсёдным адчуваньні свайго абавязку думаць пра Беларусь, дзейнічаць на карысьць Беларусі, беларускай справы». Арганізацыю хутка выкрылі, і больш за сорак яе ўдзельнікаў, яшчэ фактычна дзеці, атрымалі ад 10 да 25 гадоў зьняволеньня.

Літасьці не было нікому. Так, 16-гадовая Ліна Бароўка з Глыбокага атрымала 10 гадоў зьняволеньня і была даведзеная да такога стану, што амаль увесь свой тэрмін адбыла ў інваліднай брыгадзе. Леў Бялевіч будаваў МАЗ, а Людміла Краснадубская, арыштаваная цяжарнаю, нарадзіла ў турэмнай бальніцы, была адпраўлена ў лагерную калонію маці і дзіцяці, якая месьцілася ў Хальчы пад Гомелем, і ад недаяданьня страціла там свайго першынца.

Не ўсе яны вярнуліся з лагера. Як піша Антон Фурс: «Мы не мелі маладосьці — яна была бессаромна расьпята на калючым дроце. Але мы не шкадуем ні аб чым».

Пры чытаньні гэтай кнігі ў мяне ўвесь час узьнікалі параўнаньні. Вось зараз, пасьля кароткай адлігі Беларускага адраджэньня пачатку 90-х, дзеці гэтай адлігі спрабуюць супраціўляцца татальнай русіфікацыі, якая абрынулася на нашыя галовы. Тыя пастаўскія і глыбоцкія юнакі і юначкі пад «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сьцягам прымалі прысягу на вернасьць Беларусі, а сёньняшніх стаўбцоўскіх хлопцаў абвінавачваюць у тым, што яны вывешвалі ў горадзе нацыянальныя сьцягі і пісалі на сьценах «Жыве Беларусь!». Тым было па 16–18 гадоў, і гэтым — Аляксею Шыдлоўскаму — 18, а Вадзіму Лабковічу — 16. Тых катавалі пры

допытах, выбівалі паказаньні, і тут зьбіваюць у жодзінскім СІЗА. А. Шыдлоўскага за тое, што абвясьціў галадоўку, так, што ён трапляе ў турэмную бальніцу. Справу тых вёў сам Берыя, і справа гэтых таксама вядзецца па тэлефоне зь Менска. Сваякоў тых прымушалі даваць паказаньні, а за адмову жорстка каралі. І жонку А. Шыдлоўскага вось ужо чацьвёрты раз запрашаюць у КДБ «на размову», выціскаюць паказаньні супраць мужа, пагражаюць таксама пасадзіць, а маці В. Лабковіча за тое, што адмовілася даваць паказаньні супраць сына, пракурор Стоўбцаў адмаўляе ў спатканьні зь ім.

У 1947 годзе глыбоцкіх і пастаўскіх пасадзілі за Беларусь. Мінула паўвека — і ў нашыя дні стаўбцоўскіх і менскіх таксама саджаюць за Беларусь. Так што «Гарт» мае добрую персьпектыву працягу.

*ЛіМ, 26 верасьня 1997 года.*

## Гісторыя злачынства

***Светлана АЛЕКСИЕВИЧ. Чернобыльская молитва. — М. : Острожье, 1997.***

Беручы ў рукі гэтую кніжку, я, шчыра прызнацца, ставіўся да яе з пэўным недаверам. Што новага, асабліва гомельцам і магілёўцам, можна сказаць пра Чарнобыль? У кожнага з нас ён свой. Але, як і кожная ўсенародная трагедыя, ці то вайна, ці то якая іншая катастрофа, чарнобыльская трагедыя неабдымная. Да ўсяго, яна яшчэ бясконца расьцягнутая ў часе. І параўнаць яе можна хіба што са шматгадовым выгнаньнем габрэяў, якое назаўсёды ўвайшло ў гісторыю і кроў габрэйскага народа. Цяпер беларусы і Чарнобыль, мабыць, таксама зьвязаны навечна.

Вось і ў гэтай кніжцы пра, вобразна кажучы, уласны зубны боль я знайшоў шмат чаго цікавага і кранальнага. Для

творчай манеры С. Алексіевіч прысутнае жаданьне знаходзіць і паказваць бясконцыя варыянты самага-самага, таго, што, як магнітам, прыцягвае людзей — каханьне і сьмерць, з чаго, па-сутнасьці, і складаецца жыцьцё чалавека.

Жыцьцё людзей, якія наўпрост дакрануліся да Чарнобыля ці жывуць у ягоным полі прыцягненьня, кардынальна зьмянілася, бо гэта жыцьцё людзей, якія дакрануліся да сьмерці, разумеюць яны тое ці не. Асабістыя ўражаньні ў гэтых споведзях, сабраных аўтаркай, мяжуюць з грунтоўнымі абагульненьнямі. Так, былы дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі В. Несьцярэнка называе гісторыю Чарнобыля «гісторыяй злачынства». Аварыя здарылася ў грамадстве, дзе «працавала кадэбэ, таемны вышук. Глушыліся “заходнія галасы”. Тысячы табу, партыйных і вайсковых таямніц». У грамадстве, якое прывучылі сьлепа падпарадкоўвацца, бязьмежна верыць свайму кіраўніцтву. «Калі яшчэ раз рване, адбудзецца тое ж самае, — прагназуе ён, — мы ўсё яшчэ сталінская краіна...»

Байцы партыі гналі людзей на першамайскія дэманстрацыі і самі часам кідаліся на амбразуры. «Калі я злачынца, дык чаму я забіваў уласнае дзіця?» — апраўдваецца адзін зь першых сакратароў, які стаяў на першамайскай дэманстрацыі разам з дачкою. Ведаў, а стаяў. Монстры кіравалі даверлівым народам. «Я верыў. Інжынер з 20-гадовым стажам, добра знаёмы з законамі фізікі. Я ж ведаў, што з гэтых мясьцін трэба сысьці ўсяму жывому. Хоць бы часова. Але мы добрасумленна праводзілі замеры і глядзелі тэлевізар». Што ўжо казаць пра простых людзей? «Вясковых людзей болей за ўсіх шкада, яны нявінна пацярпелі, як дзеці», — заўважае адна са спавядантак.

Няма сэнсу пераказваць споведзі гэтых простых людзей, бо яны — як незагойныя раны, і аўтарка па-майстэрску перадала іх. І ў кожнай такой балючай кроплі адбіўся цэлы сусьвет, які варта перажыць кожнаму асабіста. Мы звыкліся з Чарнобылем, так, як звыкаюцца з памерлым, які доўга

ляжыць у хаце. І добра, што зьяўляюцца такія кнігі, якія заўсёды нагадваюць нам і ўсяму сьвету: не сьпіце, будзьце людзьмі.

Шкада, што кніга ўбачыла сьвет па-за межамі Беларусі. Але, пэўна, ёсьць на гэта свае прычыны. І ці не пра гэтыя прычыны будзе напісана наступная кніга пісьменьніцы?

*ЛіМ, 3 кастрычніка 1997 года.*

## «Вялікдзень»

***Ірына БАГДАНОВІЧ. Вялікдзень : вершы. — Мн. : БКГ, 1993.***

Цікава часам пагартаць не стары яшчэ зборнік вершаў, на які чамусьці, калі ён выйшаў, так і не зьявілася рэцэнзія. І зборнік, адразу прызнаюся, добры, і паэтка вартая, а вось ніхто так і не напісаў. Таму я з задавальненьнем выпраўляю гэты хіб у нашым літаратурным працэсе. Бо кожны тады можа падумаць: а нашто пісаць і выдавацца, калі нават на добрыя зборнікі і — ніякай рэакцыі?

Я гартаю яго ўжо каторы раз — і ў мяне ўзьнікае ні з чым не параўнальнае пачуцьцё асалоды і эстэтычнага задавальненьня ад паэтычнага сьвету, створанага аўтаркай, пра што б яна ні пісала.

Прыемная літаратурнасьць вершаў І. Багдановіч, душу якой кранае аўтограф Эпімаха-Шыпілы, «дробных літарак прыгожы ланцужок», якая «пазнае па крыптанімах і псэўданімах Блізкіх і даўно знаёмых мне людзей», якая, урэшце, чытала Біблію і можа нязмушана выкарыстаць біблейскі вобраз: «Я сьню, што я прыйшла Марыяй-Магдаленай і не знайшла Цябе ў труне, Расьпяты Край».

Прыемная любоў паэткі да Вільні. А хто са сьведамых беларусаў не любіць Вільню, «гэты дзівосны, старадаўні го-

рад, горад старых пажоўклых балонак», гэтыя «муры здаўна ўлюбёнай Вільні, Малюнак, сэрцу дарагі», дзе «ў дворыку старым, дзе выгляд запусьценьня і забыцьця царуе, Стаім і мы»?

Прыемная і асабістая шчырасьць І. Багдановіч, якая просіць Усявышняга: «Госпадзе, душу маю крані Ласкаю сьвітальнага пагляду, Над сабой Тваю прымаю ўладу, І, слабую, Ты мяне ў прынадах І спакусах дня абарані». Яна добра ведае свае слабасьці, але гэта ж, зноў, прыемныя слабасьці жанчыны: «Я ізноў мітусьлівая пані, Паддаюся прынадам, спакусам, Гэты вэрхал жыцьцёвы заманіць, Зачаруе мядовым прымусам, Ад яго адлучыцца нязмога». І натуральна, што ў такой жанчыны жаданы мужчына — гэта «князю мой сьветлы», ці «рыцар самотны», ці «вершнік з забароненага герба».

І хаця ў асабістым жыцьці яна, як сама прызнаецца, з тых, што «не ўмее паляваць, Я з тых, каго заўжды палююць», але грамадзянскі яе розум востры і дакладны. Мусіш, хоць і не надта прыемна, пагаджацца з паэткай, што «фарысэі мелі толькі адзін і нядрэнна аплочаны клопат: Навучалі аб Краі, што гэта задворак Расеі», і таксама хочацца разам зь ёй верыць, што Край усё ж «прадмесьце Эўропы».

Жаноцкая няўпэўненасьць, урэшце, аказалася відушчаю. І тады, калі ўсе сьпявалі гімны разумнаму беларускаму народу, які раптоўна ўскочыў у цягнік незалежнасьці, паэтка ціха, з жалем заўважала: «О, якою жабрачкай глядзішся, Айчына мая!»

У характары жанчыны — вагацца і сумнявацца. Гэтыя сумневы не замутняюць чыстай плыні вершаў І. Багдановіч, краса якіх — у празрыстасьці і жаноцкасьці.

*ЛіМ, 10 кастрычніка 1997 года.*

## Авантурнік Сімпліцысімус

***Ганс Якаб Крыстофэль фон ГРЫМЕЛЬСГАЎЗЕН. Апісаньне жыцьця аднаго дзіўнага шалапута... — Мн. : Мастацкая літаратура, 1997.***

Калі літаратурная праца ў Беларусі зараз — справа няўдзячная, бо ў цане толькі прыдворныя пісьменьнікі, ды і тых не надта каб лашчылі, то што ўжо тады казаць пра перакладчыкаў. Яны, на погляд некаторых «аматараў» беларушчыны, што дарваліся да дзяржаўнага стырна, увогуле займаюцца варожай дзейнасьцю. Не каб прывучаць беларусаў да думкі, што без «великого и могучего» нам нікуды, як гэта робяць, напрыклад, тыя зь беларускіх пісьменьнікаў, што працуюць у наваствораным часопісе «Всемирная литература», дык гэтыя яшчэ і перакладаюць на беларускую творы сусьветнай літаратуры.

Вось да такіх «дзівакоў» адносіцца і перакладчык Васіль Сёмуха, які ўласным прыкладам паказвае, *што* трэба рабіць у сёньняшняе бясчасьсе: працаваць, не сядзець склаўшы рукі, каб, калі загляне сонца і ў нашае аконца, найбольшы і найтрывалейшы быў той падмурак, на якім узьнімаецца будынак беларушчыны.

В. Сёмуха перастварыў па-беларуску вядомы нямецкі сярэдневяковы раман Г. Грымельсгаўзена. Я недарма ўжыў гэтае слова — перастварыў, таму што пераклад В. Сёмухі — нешта большае за звычайны літаратурны пераказ. Перакладчык літаральна пераапрануў складаны па структуры і моўнай матэрыі барокавы твор у беларускую вопратку. Можа, таму даўнія падзеі трыццацігадовай вайны ў Нямеччыне, як і лёс галоўнага героя твора Сімпліцысімуса, падаюцца нам прынамсі не чужымі.

Вёску прастадушнага хлопчыка Сімпліцыя паліць банда жаўнераў-валацугаў, сам ён трапляе на пэўны час на выхаваньне да пустэльніка, які закладае ў ім хрысьціянскія даб-

радзействы, а потым жыцьцё выносіць яго ў вялікі сьвет, дзе, па канонах тагачаснага еўрапейскага барокавага рамана, надзвычай хутка мяняецца жыцьцёвая сітуацыя. Лёс перакідвае Сімпліцыя з аднаго варожага стану ў другі, то даючы яму нечаканае багацьце, то імгненна адбіраючы яго. Сімпліцый мяняе прафесіі, знаёмых, сяброў і ворагаў, жонак і каханак, аказваецца то ў цёплай Францыі, то ў дрымучай Расіі.

Усе гэтыя прыгоды, тым не менш, не прыносяць шчасьця герою рамана, і ён, паспытаўшы ў гэтым сьвеце ўсяго, чаго можна, вырашыў адысьці ад ягоных вабаў у пустэльню дзеля спазнаньня самога сябе. І сапраўдным прысудам штодзённай мітусьні гэтага сьвету, які і сёньня гэтаксама не выпускае душу чалавека са сваіх абдымкаў, гучыць разьвітаньне Сімпліцыя са сьветам, пачатак якога не ўтрымліваюся не працытаваць: «Бывай, сьвеце! бо нельга на цябе ні спадзявацца, ні абаперціся; у доме тваім ужо зьнікла мінулае, з рук сплывае цяперашняе, а будучае не прыходзіць ніколі, самае трывалае валіцца, самае моцнае рассыпаецца пылам, і самае вечнае канчаецца, і ты — мёртвы сярод мёртвых, і за ўсе стагодзьдзі не дасі нам ані хвіліны жыцьця. Бывай, сьвеце! бо ты бярэш нас у палон і не вызваляеш; ты вяжаш нас і не разьвязваеш, ты засмучаеш і не суцяшаеш, ты рабуеш і не аддаеш нарабаванага; ...І няма ў цябе радасьці без маркоты, міру безь нязгоды, любові без злосьці, спакою без страху, паўнаты безь нястачы, гонару без заганы, маёмасьці безь нячыстага сумленьня, стану безь незадаволенасьці і дружбы без фальшу».

*ЛіМ, 17 кастрычніка 1997 года.*

## «Гісторыя эканамічнай думкі»

***Андры ДЭНІ. Гісторыя эканамічнай думкі. — Мн. : Тэхналогія ; Беларускі Фонд Сораса, 1966. — (Адкрытае грамадства).***

У серыі «Адкрытае грамадства», якая выходзіла за сродкі Фонду Сораса, пасьпелі ўбачыць сьвет самыя разнастайныя кнігі з эканамічнай, гістарычнай, палітычнай еўрапейскай думкі. Выглядалі яны трохі дзіўнавата ў кантэксьце дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі і, мабыць, зьявіліся адной з прычынаў закрыцьця фонду. Дэмакратыя ў Беларусі за папярэднія гады пасьпела трывала зьнітавацца зь беларушчынай. І таму цяпер, калі церпіць дэмакратыя, разам зь ёй церпіць і беларушчына.

Вось і пра гэтую беларускую кніжную серыю мы гаворым, прынамсі зараз, у мінулым часе. Але ўжо сёньня можна сказаць, што навізна тэмаў, якія ахапіла вышэйзгаданая серыя, а ў сувязі з гэтым і нетрадыцыйныя пошукі перакладчыкаў, пакінулі прыкметны сьлед у беларускай культуры, у разьвіцьці сучаснай беларускай мовы, паказалі яе практычна неабмежаваныя магчымасьці.

Слухаючы часам развагі тутэйшых і наезджых культуртрэгераў пра неразьвітасьць беларускай мовы, міжволі пачынаеш думаць пра беднасьць іхніх мазгавых зьвілінаў. Бо ж лагічна вынікае, што мова, якая па сваёй структуры, граматычных, лексічных, сінтаксічных магчымасьцях сярод еўрапейскай палітры моў нічым у горшы бок не вылучаецца, не можа быць асабліва кепскай ці асабліва беднай. Пра гэта яшчэ сто гадоў таму сказаў для ранейшых асталопаў Ф. Багушэвіч: «Мова нашая ёсьць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая».

Размова можаісьці толькі пра незапатрабаванасьць беларускай мовы, пра яе сьвядомае заціраньне і прыніжэньне.

Вось я разгортваю наўгад «Гісторыю эканамічнай думкі» і чытаю: «Калі P/R залежыць ад I/R, дык норма прыбыткаў P/K (K — сукупны капітал) у сваю чаргу таксама залежыць ад роўню інвестыцыяў. Сапраўды, калі дапусьціць, што R/K (стасунак прадукта і капіталу) — гэта нейкая зададзеная велічыня, дык P/K, якое адпавядае (P/R)x(R/K), зьмяняецца так, як і P/R. А залежнасьць, якую ўжо даўно спраўдзілі шматлікія эканамісты, супрацьлеглая: ровень інвестыцыяў залежыць ад нормы прыбыткаў». І яшчэ раз пераконваюся, што пісаць па-беларуску можна пра ўсё.

Зь цікавасьцю я даведаўся з кнігі, што Т. Мор, бацька ўтапічнага сацыялізму, быў канцлерам ангелійскага каралеўства і падчас спрэчкі Генры VIII з Папам асудзіў караля за адыход ад каталіцтва, адмовіўся ад канцлерства, быў кінуты ў турму і пакараны сьмерцю. А Т. Кампанэла, камуніст сярэднявечча, напачатку быў законьнікам, потым замысьліў адзьдзяліць Калабрыю ад Іспаніі, каб пабудаваць там камуністычнае грамадства, за што 27 гадоў адсядзеў у вязьніцы, дзе і напісаў свае асноўныя філасофска-палітычныя і літаратурныя творы.

Кніга гэтая нават для непрафесіянала дае ўяўленьне пра эканоміку як пра навуку, якую трэба шанаваць, старацца авалодаць ёю, абыходзіцца зь ёю асьцярожна і ўдумліва, а не імкнуцца згвалтаваць яе. Бо за насміханьне валадароў над яе законамі мусіць расплачвацца сваім дабрабытам увесь народ.

*ЛіМ, 24 кастрычніка 1997 года.*

## Цікавая кніжка

«У беларускім батальёне не ўладаючыя беларускай мовай у падафіцэры не праізводзяцца».

*З цыркуляра беларускага батальёна ў літоўскім войску*

У Беластоку ў 1995 годзе пабачыла сьвет надзвычай цікавае гістарычнае дасьледаваньне вядомага беларускага гісторыка, які жыве ў Польшчы, Алега Латышонка «Białoruskie formacje wojskowe». Цэлая змагарная эпоха даўжынёю ў сем гадоў з 1917 па 1923 год ахоплена ім, калі беларусы са зброяй у руках адчайна прабіваліся да незалежнасьці.

Савецкія гісторыкі старанна імкнуліся сфальсіфікаваць нашую праўдзівую гісторыю, і ў тыя гады, паводле іх, па беларускіх лясах гойсалі адно бандыты. У той час як Алег Латышонак падрабязна распавядае пра беларускі вайсковы рух у 1917-м годзе, Цэнтральную Вайсковую раду, якая прычынілася да ўтварэньня БНР, вызваленьне Менска ад бальшавікоў у лютым 1918 года беларускімі атрадамі, пра беларускія палкі ў Менску і Горадні, беларускія вайсковыя адзінкі ў літоўскім войску, пра Беларускую Вайсковую Камісію, пра змаганьне беларускага войска С. Булак-Балаховіча, а таксама пра збройны супраціў 1-й Слуцкай брыгады стральцоў і пра беларускую «партызанку» ў 1-й пал. 20-х гадоў.

Савецкім гісторыкам было што хаваць. Аказваецца, тысячы і дзясяткі тысячаў беларусаў змагаліся супраць расейскага панаваньня, савецкай улады і камуністаў, жадаючы быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Формы гэтага змаганьня былі разнастайныя, але, на жаль, не было моцнай палітычнай арганізацыі, якая б здолела аб’яднаць збройны незалежніцкі рух у адзінае цэлае, не было матэрыяльнай і фінансавай падтрымкі еўрапейскіх дзяржаў.

З гэтага дасьледаваньня я зь цікавасьцю даведаўся пра Койданаўскую незалежную рэспубліку, якая ўтварылася ў ліста-

падзе 1920 года і праіснавала чатыры дні. Я даведаўся, што ўпершыню бел-чырвона-белая адзнака ў вайскоўцаў-беларусаў была зацьверджана 11 сьнежня 1917 года і што зараз я жыву ў той частцы Менска, якая ў лютым 1918 года кантралявалася польскай камендатураю, я працую на тэрыторыі, якая была пад кантролем беларускіх вайсковых атрадаў.

Я з замілаваньнем гляджу на фотаздымак беларускіх вайскоўцаў, што на вокладцы кніжкі. Сьветлымі поглядамі пазіраюць яны на нас. На цэшках праглядаюцца замглёныя ад часу «Пагоні». Беражліва распрастаны, ляжыць на каленях наш сьцяг.

Пасьля прачытаньня дасьледаваньня ў мяне склалася перакананьне, што нашы продкі спрабавалі зрабіць немагчымае ў выключна неспрыяльных для Беларусі ўмовах. Падаецца, што іхнія нашчадкі значна больш рахманыя і баязьлівыя.

Сёньняшняе ж «беларускае войска», якое стаіць на нашых землях, па духу — якое хочаш, толькі не беларускае.

Чым толькі ў школе і ў ВНУ нам не забівалі галовы. Вось жа, пачытаўшы такое дасьледаваньне, пачынаеш разумець — гэта наша праўдзівая гісторыя.

*ЛіМ, 25 кастрычніка 1996 года.*

**Зьмест**

Іншадумства ў літаратуры. *П. Сьцепаненка* ........................................ *5*

*Алесь Бяляцкі. Біяграфія* ........................................ *11*

Пра беларускую «турэмную» літаратуру
*(Творчасьць Уладзіміра Някляева*
*і Аляксандра Фядуты)* ........................................ *13*

«Подзьвіг» Хвядоса Шынклера ........................................ *39*

«Сьветлы Смутак па вечнай Радзіме»
*(Нататкі пра зборнік Сержука Сыса «Стрэмка»)* ........................................ *71*

Трагедыя Толіка Сыса ........................................ *103*

«Я — сын Купалы!..»
*(Анатоль Сыс)* ........................................ *113*

Прарок свабоды і незалежнасьці
*(Анатоль Сыс)* ........................................ *117*

Сардэчная мова нябёсаў
*(Анатоль Сыс)* ........................................ *123*

Гісторыя аднаго фотаздымка ........................................ *143*

Тыпалагічны аналіз беларускай літаратуры
XIX–XX стагодзьдзяў ........ *149*

У мольнасьці прыгаства
*(Творчасьць Янкі Юхнаўца)* ........ *159*

Адкрыцьцё прыхаванага сэнсу
*(Творчасьць Янкі Юхнаўца)* ........ *171*

Антон Луцкевіч — літаратурны крытык
*(Антон Луцкевіч)* ........ *177*

«Як я памру...»
*(Францішак Аляхновіч)* ........ *205*

Паэт каханьня і сьмерці
*(Максім Багдановіч)* ........ *229*

Некаторыя стэрэатыпы
ва ўяўленьні асобы Максіма Багдановіча ........ *259*

Купала і рэвалюцыя ........ *271*

Ці энцыклапедыя?
*(Рэцэнзія на энцыклапедычны даведнік «Янка Купала»)* ........ *299*

Летні краявід з засьнежанай магілай
*(Андрэй Зязюля)* ........ *309*

Адзін з пачынальнікаў
*(Алесь Ружанцоў)* ........ *317*

Божы лернік
*(Карусь Каганец)* ........ *321*

Да гісторыі адной палемікі
*(З гісторыі беларусізацыі)* ........ *329*

Зьнітаванасьць
*(Назіраньні за паэзіяй «чыстай красы» ў беларускай літаратуры XX стагодзьдзя)* ........ *345*

Калонкі ў газеце «Літаратура і мастацтва», надрукаваныя ў 1996–1997 гадах

Як я пачаў размаўляць ........ *357*

«Я — непрыкметны шэры чалавек»? ........ *359*

Нашыя бацькі ........ *360*

Нашыя дзеці ........ *362*

Добрая вестка ........ *364*

Нашыя класікі ........ *365*

Прыйдзі, праўдзівая вясна... ........ *367*

Знаёмыя вершы ........ *369*

«Здубавецьце» ........ *371*

Нашая песьня ........ *372*

Беларускія шахцёры ........ *374*

Дзьве душы ........ *376*

Нашыя задачы ........ *378*

Сумныя сны ........ *380*

Сьнежань ........ *381*

«На Каляды»
*(Эдуард АКУЛІН. На Каляды : містэрыя ў 4-х актах)* ........ *383*

«Адкуль наш род»
*(Уладзімір АРЛОЎ. Адкуль наш род)* ........ *384*

«У бязьмежную даль»
*(У бязьмежную даль : кніга пра Максіма Багдановіча)* ........ *386*

Беларускі гістарычны сшытак
*(Białoruskie Zeszyty Historyczne)* ........ **388**

«Яшчэ адна вясна»
*(Натальля АРСЕНЬНЕВА.
Яшчэ адна вясна: выбраныя вершы)* ........ **389**

«Уладары Вялікага княства»
*(Вітаўт ЧАРОПКА. Уладары Вялікага княства)* ........ **391**

«Еўропа з 1815 года да нашых дзён»
*(Жан-Батыст ДЗЮРАСЭЛЬ.
Еўропа з 1815 года да нашых дзён)* ........ **393**

«Літаратура народаў сьвету»
*(Літаратура народаў сьвету :
хрэстаматыя-дапаможнік
для 10-га класа сярэдніх школ Беларусі)* ........ **394**

Супраціў
*(Юрка ВІЦЬБІЧ. Антыбальшавіцкія паўстаньні
і партызанская барацьба на Беларусі)* ........ **396**

Арыштаваны ў высылцы
*(Уладзімір МІХНЮК. Арыштаваць у высылцы:
дакументальны нарыс пра Алеся Дудара)* ........ **398**

«Якаб і Катарына»
*(Ленэ МАЕР-СКУМАНЦ. Якаб і Катарына:
гісторыя для чытаньня, гуляньня й думаньня)* ........ **400**

«Стодзівы»
*(Анатоль ДЭБІШ. Стодзівы : вершы)* ........ **401**

«Праўдзівая гісторыя краіны хлудаў»
*(Алег МІНКІН. Праўдзівая гісторыя краіны хлудаў :
аповесьць)* ........ **403**

З жыцьця Максіма
*(Архіўныя матэрыялы :
да жыцьця і творчасьці Максіма Багдановіча)* ........ **404**

Прасьпект.
*(Нямецкая прапаганда на Беларусі. 1941—1944)* ............. **406**

«Толькі не гавары маёй маме»
*(Адам ГЛЁБУС. Толькі не гавары маёй маме : зборнік інтымнае прозы)* ............. **408**

Слоўнік.
*(Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко)* ............. **409**

Гімназія ў Брэсьце
*(Михаил МОНТВИЛОВ. Русская гимназия в Бресте на Буге. 1919–1939 гг.)* ............. **411**

Шыпшына і ружа
*(Людміла РУБЛЕЎСКАЯ. Застаюся ; Віктар ШНІП. Выкраданьне Эўропы)* ............. **413**

Сюжэты посьцілак і ручнікоў
*(Міхаіл КАЦАР. Беларускі арнамент. Ткацтва, вышыўка)* ............. **414**

Мая зямля
*(Мая зямля. Жывапіс беларускіх мастакоў : альбом)* ............. **416**

Мае ўспаміны
*(Юліяна ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКАЯ. Мае ўспаміны)* ............. **418**

«Круглы год»
*(Круглы год : хоку беларускіх паэтаў)* ............. **419**

«Адзінокая зорка»
*(Лера СОМ. Адзінокая зорка)* ............. **421**

«Пад стрэхамі прашчураў»
*(Аляксандр ЛАКОТКА. Пад стрэхамі прашчураў)* ............. **423**

«Архіўная кніга»
*(Архіўная кніга / аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч)* ............. **425**

«Каханьне пад акупацыяй»
*(Славамір АДАМОВІЧ.*
*Каханьне пад акупацыяй : вершы)* ................................................ ***427***

Незалежна і заможна...
*(Валеры ШАБЛЮК. Сельскія паселішчы*
*верхняга Панямоньня XIV–XVIII стст.)* ................................ ***428***

А гэта ж — Выбранае
*(Максім БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы)* ............................ ***430***

«Вятрыска з радзімай краіны»
*(Янка ЗОЛАК. Вятрыска з радзімай краіны :*
*збор выбраных твораў)* ........................................................................ ***432***

«Беларускае студэнцтва на чужыне»
*(Барыс РАГУЛЯ.*
*Беларускае студэнцтва на чужыне)* .......................................... ***434***

Аддай асалоду Богу
*(Ларыса РАМАНАВА. Аддай асалоду Богу)* ............................. ***435***

«Гульні, забавы, ігрышчы»
*(Гульні, забавы, ігрышчы / склад. А. Лозка)* .................. ***437***

Кніга, якая ёсьць
*(Уладзімер ПАДГОЛ. Куля для прэзідэнта)* .......................... ***439***

Пакутнік за веру і Бацькаўшчыну
*(Тацьцяна ПРОЦЬКА.*
*Жыцьцё мітрапаліта Мельхісэдэка)* ........................................... ***441***

Духоўная літаратура
*(Св. Францішка з Саль. Філатэя;*
*Антонія Барэльлі. Фацімская вестка;*
*Св. Тэрэза ад Дзіцяткі Езуса. Дзеі душы;*
*Езус сярод нас: малітоўнік для дзяцей)* .................................. ***442***

«Гарт»
*(Гарт: з успамінаў*
*пра Саюз беларускіх патрыётаў)* ................................................ ***444***

Гісторыя злачынства
*(Светлана АЛЕКСИЕВИЧ. Чернобыльская молитва)* ... ***446***

«Вялікдзень»
*(Ірына БАГДАНОВІЧ. Вялікдзень : вершы)* ... ***448***

Авантурнік Сімпліцысімус
*(Ганс Якаб Крыстофэль фон ГРЫМЕЛЬСГАЎЗЕН. Апісаньне жыцьця аднаго дзіўнага шалапута)* ... ***450***

«Гісторыя эканамічнай думкі»
*(Андры ДЭНІ. Гісторыя эканамічнай думкі)* ... ***452***

Цікавая кніжка
*(Алег ЛАТЫШОНАК. «Białoruskie formacje wojskowe»)* ... ***454***

